Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы Глеба Отчыка:
на 1-й стар.: «Пара туманоў», 2016 г.;
на 4-й стар.: «Новыя гарызонты», 2018 г.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18-2, 220012, г. Мінск.

Адрас рэдакцыі:
220025 г. Мінск-25, а/с 91
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 200-80-91.

Здадзена ў набор 22.08.2018 г. Падпісана да друку 25.09.2018 г.
Фармат 70x108 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 700 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для дзяцей, старэйшых за 16 гадоў.



№5 (96)
/верасень-кастрычнік/ 2018

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Сяргей Дубавец



...жыццё ў эміграцыі – далёкае,

калі не браць яго блізка да сэрца...

# Д’ябал запрэжаны ў плуг

***Містычны трылер з жыцця пражскіх големаў***

*– Я бясконцая, – сказала лесвіца.*

*Яна хавала свае каменныя прыступкі ад начных ліхтароў на стромым схіле, які аддзяляў Фаліманку ад Легеровай. Дзве амаль неадрозныя ў цемры постаці спрабавалі падняцца па лесвіцы ўгару. Але яе шурпатыя прыступкі, нібы на эскалатары, марудна рухаліся ўніз. І калі постаці рабілі крок, яны заставаліся на тым самым месцы.*

*– Ім трэба паскорыць рух, тады яны пачнуць падымацца, – гулка прамовіў мост, які звысака пазіраў на падарожнікаў.*

*– Няўжо ты думаеш, што яна не паскорыць свой рух разам з імі, – усміхнуўся куст вінаградніка, які даўно перарос свой век іператварыўся ў корч. – Яна ж бясконцая...*

*– Яна проста як трэнажорка! – зарагатаў мост.*

*– Ніякая ты не бясконцая, – азваўся асфальт, якім лесвіца завяршалася ўверсе. – Удаеш з сябе невядома што.*

*Бясконцая, бясконцая! Каб адчуць бясконцасць, ім якраз і трэба спыніцца. Гэта значыць, скончыцца. Каб аж невыносна стала ад страты ўсіх сэнсаў. Тады некаторыя гатовыя жывымі лезці ў зямлю.*

*– Нават праз асфальт? – падвысіла голас лесвіца, якую спакваля адпускала крыўда за «невядома што».*

*Падарожнікі зрабілі яшчэ адзін крок, быццам не разумеючы марнасці свайго ўзыходжання. У іхнім руху неверагодная маруднасць спалучалася з такой самай упартасцю.*

*– Бясконцы толькі госпад наш Бог, – прапяяў тэнарам залаты крыж на тэракотавай бажніцы злева. – Але гэта пастулат і толькі ўсяго. Дзеці заўсёды пытаюцца: хто нарадзіў Бога, адкуль ён узяўся? І што ты ім адкажаш? Расповед пра бясконцасць іх не задавальняе.*

*– А хто яго, дарэчы, нарадзіў? – спытаўся абронены кімсьці бясколерны гузік, што тырчаў з пяску. – Адказы кшталту «вечнасць» і «быў заўсёды», а таксама «не ведаю» і «гэта не карэктнае пытанне» не прапаноўваць.*

*– Найлепшы адказ, які я чуў: мяне тады яшчэ не было. Кропка, – сказаў Музей чэшскай паліцыі. – З такім алібі не паспрачаецца ні малы, ні дарослы.*

*– Але гэта закамуфляванае «я не ведаю», – настойваў гузік.*

*Тым часам постаці працягвалі перастаўляць ногі на верхнія прыступкі, якія рабіліся ніжнімі. Магчыма, яны ведалі, хто нарадзіў Бога? Бо для іх бясконцаю была іхняя далёкая краіна. Там таксама спрачаліся пра тое, калі яна з'явілася, але таямніцы нараджэння не было. Толькі ж спадарожнікі ў размову не ўступалі.*

*– Я вам распавяду, як было насамрэч, – сказаў Месяц, які ўбачыў спадарожнікаў, вызірнуўшы з-за хмары. – Бога ніхто не нараджаў, яго прыдумалі. Спачатку было слова, а ў слова быў аўтар. Імя ягонае згубілася ў гісторыі. І Біблія спачатку была проста звычайнай казкай. А ў казках на тое, што нешта там без канца і без краю ніхто не звяртае ўвагі, прымаюць як дадзенасць. Іншая рэч, калі Біблія сталаператварацца ў рэлігію, калі ў Бога сказалі верыць, тады і ўзнікла гэтая праблема – каб паверыць у бясконцасць, трэба яе ўявіць. А яна проста чалавечымі мазгамі не ўяўляецца. І тады Богу ў помач з'явіўся Хрыстос. Калі б Хрыстос не памёр, немагчыма было б цалкам зразумець і прыняць Бога. Сакрум рэлігіі трымаецца на гэтай вось напалову ўяўнай і напалову зразумелай (а на другую палову няўяўнай і незразумелай) бясконцасці. Але не забывайце пра казку, – яшчэ паспеў сказаць Месяц перад тым, як яго зноў затуліла хмара.*

*– Месяц атэіст! – сказала лесвіца.*

*– Атэіст гучыць як ананіст, – рагатнуў мост.*

*– Ён не атэіст, – сказаў крыж на бажніцы. – Вялікая аблуда змушаць кагосьці да веры, бо вера ёсць у базавай камплектацыі чалавека. Як нага ці страўнік ці спачуванне, напрыклад. Калі веры няма, значыць, ты хворы. Таму з веры нельга рабіць дыскусіі. І ў рэлігіі самае важнае зусім не вера (яна і так ёсць), а рытуал, паралельная рэальнасць.*

*– Цалкам згодны, – ізноў вынырнуў з-за хмары Месяц. – Святары даказваюць бясконцасць то рамкамі чалавечага розуму, то параўноўваюць яе, то бок, Бога з геаметрычнай простай лініяй, што не мае канца. Тым самым вяртаюць нас да таго, каб мы ўспрымалі Біблію як казку, але пры гэтым грашаць, бо тады Бог з рабочага інструмента ператвараецца ў іхніх руках ва ўмоўнасць.*

*– Але што сказаць, адкуль ён узяўся, хто яго прыдумаў? – настойваў гузік.*

*– Казкі бываюць аўтарскія і народныя, – сказаў Месяц. – Калі аўтарства невядомае, значыць, Бога прыдумаў народ. Звычайны фальклор.*

*– Дай ім падняцца, – загадаў лесвіцы асфальт. – Хай ідуць куды ім трэба.*

*Лесвіца сапраўды паслухмяна спынілася, і дзве постаці пачалі павольнае ўзыходжанне.*

*Яны былі ледзь бачныя ў цемрыве ночы. Нават, можна сказаць, зусім нябачныя, і невядома з чаго можна было здагадацца, што яны ёсць і што нешта там адбываецца.*

*Між тым, навокал іх чым далей, тым болей усё рагатала, шыкала і кпіла з іх, кожная жаба, кожны парастак, кожная расколіна ў бетоне. Але яны гэтага не чулі. Ні падчас узыходжання, ні калі выйшлі нарэшце ўверсе на дол.*

*Шум, рогат і кпіны, якія з усіх бакоў абрынуліся на падарожнікаў, паступова сціхалі, бо новыя экстэр'еры, у якіх ім даводзілася ісці, не бачылі іхняга канфузу на лесвіцы і не маглі пра яго ведаць.*

*На бязлюднай начной вуліцы іх сустракалі грамады велічных будынкаў, якія рабілі выгляд, што паснулі разам са сваімі насельнікамі. Але насамрэч яны не спалі і ўсё, што маглі сабе дазволіць, – разглядаць нашых падарожнікаў і разважаць пра іх.*

*«Што звязвае паміжсобку гэтых мужчынаў, старэйшага і маладзейшага? – думаў першы дом на іхнім шляху. – Яны так настойліва крочаць наперад, і разам з тым адчуваецца, што не ведаюць, куды ідуць. У іх няма мэты, і адзінае, што пра іх можна сказаць, – што яны амаль аднолькавыя і што яны разам».*

*Дзіўная рэч. Яшчэ напраўду можна было разгледзець, што гэтыя двое – мужчыны і што яны рознага ўзросту, але з кожным іхнім крокам гэтыя адметнасці расплываліся і рабіліся ўсё менш выразнымі. Тым часам постаці іхнія павялічваліся ў памеры.*

*«Магчыма, іх звязвае любоў, а магчыма, нянавісць, – разважала вакно, у якім адбіліся іхнія цені. – Хоць у кожнай любові ёсць кропелька нянавісці і наадварот».*

*Як і ў кожнай асалодзе ёсць кропелька болю і таксама наадварот.*

*«Выглядае, што яны вяртаюцца пасля нейкай важнай агульнай справы», – заўважыў сабе дарожны знак.*

*«Ці толькі збіраюцца нешта замуціць разам», – звягнуў начны трамвай.*

*«Яны занадта спакойныя, каб нешта задумляць, і занадта мэтанакіраваныя для тых, хто ўсё завершыў, – далучыў свой голас лёгкі павеў ветру. – Яны не ў пачатку і не ў канцы, яны даўно робяць тое, што робяць. Але цяпер з імі нарэшце адбылося неверагоднае – яны паразумеліся!»*

*«Яны паразумеліся», – сам сабе ўсміхнуўся самотны сабака, які прабягаў міма.*

*«Яны паразумеліся? – у шмат галасоў недаверліва пракрычала зграя варон у небе. – Як жа! Як жа! Як жа! Як жа! (4 разы)».*

*Насамрэч ніколі не скажаш, ці ёсць паразуменне паміж людзмі, толькі таму, што яны ідуць разам. Адзіны выпадак, калі можна дапусціць, што яно ёсць – калі абое плачуць. Але нашыя постаці не плакалі.*

*«У мяне адчуванне, што яны ідуць у розныя бакі», – падумаў самалёт, які пралятаў над горадам, ідучы на пасадку.*

*«Хутчэй яны ідуць у адным кірунку рознымі бакамі», – заўважыў сабе самалёт, які набіраў вышыню.*

*Сапраўды, адна постаць цяпер ішла перад другою задам наперад.*

*Паступова яны спусціліся ў гарадскую каменную лагчыну.*

*На вузкай вулачцы, асветленай з двух бакоў агнямі кабарэ, ад падарожнікаў літаральна адскочылі два зазывалы-мурыны. Рэч у тым, што ў часе*

*руху, вандроўнікі павялічыліся ў памерах, і калі праходзілі міма зазывалаў, стала бачна, што яны ўжо маюць па два росты звычайнага чалавека. Апроч таго, яны пачалі лёгка свяціцца ад зыркіх агнёў рэкламы.*

*Ачомаўшыся, першы загаварыў Бабаджайд:*

*– Ты бачыў? Ты бачыў гэтых... цыркачоў?*

*– Думаеш, яны так зарабляюць? – адгукнуўся Ўзома. – Яны такія страшныя! Хто да іх захоча наблізіцца? Бог іх пакараў.*

*– Яны самі хочуць зрабіць выклік Богу.*

*– Бог іх абавязкова пакарае за гэта, – вельмі сур'ёзна сказаў Узома.*

*Пачаў накрапваць дождж, і зазывалы раскрылі парасоны. Грыбаты Ўзома глядзеў у спіну постацям вырачанымі вачыма. Было відаць, што ён напалоханы не жартам. Бабаджайд стараўся не выдаваць свайго страху.*

*– Прапускаеце кліентаў, – выскачыла з кабарэ белавалосая распарадчыца Сільвія і, угледзеўшыся ў дзве гліняныя спіны, якія аддаляліся па вуліцы, пачала мяняцца з твару...*

*Бабаджайд і Ўзома гучна зарагаталі.*

*– Яны занадта высокія, каб быць нашымі, – сказаў Бабаджайд, – кліентамі.*

*Але дзве постаці працягвалі свой рух па спусцелай Празе, з вуліц і плошчаў якой дождж прагнаў заўсёднікаў начнога жыцця. На Мелантрыхавай яны рабіліся шэрымі. На Ліловай іх абрысы фарбаваліся ў ліловы колер, пры тым яны ставалі ўсё больш неакрэсленымі праз залеву і тое, што памер постацяў увесь час павялічваўся, а таму больш недалужнымі рабіліся іхнія рухі. Відавочна, калі б ім уздумалася ўзабрацца на Злату вулічку, каб самім афарбавацца ў золата, у іх не хапіла б ні сілаў, ні спрыту. Не дзіва, што ў апошні момант яны павярнулі направа.*

*Тут, нягледзячы на дождж, яшчэ віравала жыццё. Адплывалі ў сваё падарожжа і прыплывалі да пірсу джаз-боты, гучала шмат рознай жывой музыкі. На адным з караблікаў, які вяртаўся з праменаду, на палубе стаяў, абапершыся аб парэнчы, Дубавец. Ён курыў і адначасова паказваў Патапенку старую Прагу. Раптам ён угледзеўся ў абрысы будынка, але не падаў выгляду, што здзіўлены:*

*– Глядзі, бачыш галаграмы на беразе?*

*– Бачу... Афігець! – шчыра сказаў Патапенка, які за дзве гадзіны іхняга шпацыру з нязменным уздымам паўтарыў гэтае слова можа соты раз, настолькі быў уражаны горадам.*

*– Іх постаці дасягаюць увышыню трэцяга паверху. Акурат такім зрабіў свайго голема Бецалель. Але тое, што ты бачыш, – фальшыўка, камерцыйны праект, бо праўдзівых големаў не можа быць два.*

*– Чаму? – здзівіўся Патапенка.*

*– Бецалелю два былі непатрэбныя, а сакрэт ведаў толькі ён. І пасля паўстанне голема супраць улады стваральніка... А ўяўляеш, калі б іх было шмат? Яны б знішчылі ўсіх пражан і ўсю Прагу заадно.*

*Дубавец пільней угледзеўся ў дзве згорбленыя спіны, што аддаляліся ў бок Флорэнца, канчаткова знікаючы ў ночы, дажджы і сваіх павялічаных памерах, і шматзначна сказаў:*

*– Бэцалель стварыў голема ў бяззорную ноч.*

*– Гэта ты да чаго? – не зразумеў Патапенка. – Што можа быць і не фальшыўка?*

*Дубавец задуменна змаўчаў.*

## 01. На тэрасе

– Жанчыны і могілкі – усё, што па-сапраўднаму прыцягвала мяне ў гэтым жыцці, – сказаў Есіп, пазіраючы кудысьці ўдалеч, па-над старымі каронамі Альшанскіх кладоў. – Без гэтага няма ні жыцця, ні смерці.

«Колькі пафасу! – падумаў Імбрык. – Так заўсёды бывае, калі кажуць пра ўсё і ні пра што».

Яны стаялі на тэрасе вялізнага серабрыстага будынка, штаб-кватэры амерыканскага Радыё Салярыс у Празе. Было цёпла і ўтульна, як толькі й можа быць, калі ты апынаешся на Захадзе. Прынамсі, так гэта адчуваў Імбрык, ён любіў паездкі ў Літву ці Польшчу і яшчэ далей ад Беларусі, але сюды патрапіў упершыню і цяпер ніяк не мог разабрацца ў сваіх зблытаных пачуццях.

Есіп патушыў цыгарэту ў перапоўненай попельцы-самасхоўцы і працягваў:

– Два мільёны магілаў, цэлы акіян хвалюецца пад ветрам, і помнікі, нібы постаці, вынырваюць з бездані то там, то там. – Раптам ён паказаў пальцам улева і ўніз, дзе за варотамі ў агароджы сярод чорных надгробкаў вылучаўся светла-шэры абеліск. – Вунь Кафка, гэта абавязковая праграма, недасведчаныя прыносяць яму кветкі. Адразу відаць, што ён выйшаў за рамкі сваёй нацыі, бо тут габрэйскія могілкі і замест кветак прынята класці каменьчыкі. Дзіўна, што служка, які выдае на ўваходзе кіпы, не тлумачыць гэта наведнікам. – Есіп кіўнуў за далягляд. – А там, за габрэйскімі могілкамі, пачынаюцца іншыя. Там ляжаць расейскія белагвардзейцы, генералы, зорка Міланскай оперы Забэйда-Суміцкі і цэлых два беларускія прэзідэнты. Праўда, на эміграцыі.

Паўз іх па тэрасе раз-пораз праходзілі самага рознага кшталту людзі, супрацоўнікі, з якімі Імбрыку яшчэ толькі трэба будзе пазнаёміцца і пасябраваць. Яны знікалі за дзвярыма буфета, а ён ніяк не мог скласці ў адзін пазл Есіпавы словы, гэтую тэрасу і тое, з чым прыехаў сюды на працу з Менску. Унутраная нязручнасць адчувалася ад таго, што гэта мусіў быць пазл ягонага ўласнага жыцця.

Лагодны ветрык раз-пораз шамацеў шатамі дрэваў, і помнікі на могілках, сапраўды, то з’яўляліся, то знікалі, нібы вынырнуўшы на імгненне з хваляў.

– Радыё Салярыс – прыгожая назва, праўда? – усміхнуўся Есіп. – Наша станцыя па сутнасці нічым не адрозніваецца ад той, якую калісьці апісаў Лем. Калідоры-калідоры, штучнае святло, цалкам закрытая ад пабочных прастора і гэты разумны акіян магілаў навокал, з якога час ад часу паказваюцца відзежы нашага патаемнага. А таксама нашыя развагі, аналітыка. Магчыма, і нашы навіны таксама.

Як могуць паказвацца «відзежы аналітыкі і навінаў», Есіп і сам сабе ўяўляў цьмяна. Хоць пры патрэбе гатовы быў зараз жа расказаць пра адноснасць усяго на свеце, а яшчэ прасцей – пра фэйкі, што ўжо дакладна паходзілі не з рэальнасці. Але кодэкс Радыё Салярыс не дапускаў фэйкаў і патрабаваў жорстка рэагаваць на іх. Зрэшты, Імбрык пра гэта і не пытаўся.

«Эпічна, нічога не скажаш, – думаў ён тым часам. – Але і дзіўна чуць пра ўсё гэта. Нейкія няправільныя словы гаворацца тым знакамітым тэмбрам, які з дзяцінства праз радыё заўсёды казаў толькі тое, што трэба, што ад яго чакалі, за што яго любілі і нават багамілі Імбрыкавы бацькі. – А тут... жанчыны і могілкі... І пра прэзідэнтаў БНР – неяк негрунтоўна,

мімаходзь, амаль непаважліва – “цэлых два”, яшчэ й з агаворкай – “праўда, на эміграцыі”».

Змейка дыму ад Есіпавай цыгарэты паляцела за далягляд. Міма спешна прайшоў дырэктар іхняе службы, кінуўшы на хаду: «Энджэй, джэнтльмены». Гучна засмяялася арабская кампанія за дальнім сталом.

Есіп заўсёды маляваўся Імбрыку чалавекам-легендай. Тут складаліся ў адно і агульная любоў да Амерыкі, і тое, што радыё гаварыла па-беларуску. Гэта быў вобраз інтэлектуала, рамантыка, беларускага адраджэнца, а пры тым змагара з дыктатурай. І калі маладому журналісту выпала прапанова прыехаць у Прагу, калі дырэктар знаёміў яго з Есіпам, аддаючы таму пад апеку, у Імбрыка было адчуванне, што ён цісне руку герою. А тут... нейкія жанчыны і могілкі.

– Могілкі й ёсць разумны акіян, пасярод якога стаіць наша касмічная станцыя, – працягваў Есіп. – Калі хопіць фантазіі, ты не аднойчы ўхопіш тут вобразы тваіх нязбытных мрояў. А яшчэ тут да цябе будуць прыходзіць тыя, пра каго ты не расказваеш нікому, але хто не дае спакою твайму сумленню. Усё як у Лема, нічога больш.

«Блін!»

Бацькі гадавалі Імбрыка сапраўдным патрыётам Беларусі. Дома гаварылі толькі па-беларуску, як і ўсё атачэнне іхніх сяброў, а значыць, і іхніх дзяцей. Патрыётам Імбрык і вырас. Спачатку крыху муляла імя і школьныя дражнілкі, але пасля ён стаў ганарыцца тым, што ён не Вася і не Пеця, а менавіта Імбрык. Бо важная не форма імені, яна ўсяго толькі форма, а змест, напаўненне.

Далёкія сваякі не прынялі імя Імбрык і называлі яго Андрушам.

У маленстве яны пыталіся ў яго: «Андруша, кім ты хочаш стаць?» – «Вялікім», – адказваў чатырохгадовы Імбрык. – «Кім вялікім?»

Кім вялікім, не мела значэння, бо гэта быў выбар жыцця, а не прафесіі. «Проста вялікім», – адказваў ён.

Пасля, калі Імбрык вырас і пачаў моцна перажываць за родную краіну, ён думаў ужо не толькі пра сябе, а пра тое, што Беларусі патрэбныя вялікія людзі, сапраўдныя зоркі, прычым каб такімі іх прызнавалі не толькі ў Беларусі, а ва ўсім свеце. І з’явіцца яны мусілі не ў гісторыі, а сярод жывых.

Імбрык схамянуўся, калі пабачыў, што Есіп глядзіць яму проста ў вочы, і зразумеў, што ён чытае ягоныя думкі.

– Тут гульня словаў, – сказаў Есіп. – Памятаеш, Караткевіч мусіў удакладняць: «Вялікі не ў сэнсе “великий”, а ў сэнсе “большой”». І ўся рэч у тым, што меў на ўвазе твой маленькі Андруша: ці ён хоча стаць «большим», значыць, дарослым, высокім, разумным, ці ўсё ж такі «великим».

– На жаль, вызначэнне мовы таго даўняга дыялогу – беларуская ці расейская – тут не дапаможа. Гэта была звычайная трасянка, – уздыхнуў Імбрык.

Ужо стаўшы дарослым, у роздумах сам сабе ён не мог даць рады. Вялікі хтосьці (касманаўт, пісьменнік, архітэктар) на ягоную мару выглядаў драбнавата. Яму хацелася быць проста вялікім. Як Вітаўт. Вялікі Імбрык. Але ён не наважваўся нікому раскрыць гэтую таямніцу.

– Расейцам проста, – працягваў Есіп, – «великий», значыць, велічны, геніяльны, значны. Праўда, гэта максімальная адзнака, і калі, скажам, пісьменнік ці твор не дацягвае да максімуму, кажуць: «большой писатель», «крупное произведение». Першы ў нас усё адно будзе «вялікім»,

а са словам «буйны» ўвогуле праблема, бо можна выпадкова паставіць націск не туды, куды трэба, і атрымаецца шалёны.

«Гэта ён так жартуе...» – падтрымліваў Імбрык у сабе агеньчык чагосьці, што магло ці мусіла вырасці ў адмоўнае стаўленне да старэйшага калегі. Мусіла ці не мусіла, – пакуль было незразумела.

– Проста вялікімі бываюць багі і тыя, каго багомяць, – разважаў Есіп. – Што да Вітаўта, дык ён не проста вялікі, а вялікі князь, хоць мы і можам глытаць апошняе слова, цешачы свой гіпертрафаваны патрыятызм. Проста вялікі, напрыклад, Сталін, якога такім прызнае большасць расейцаў. Але ён жа і вялікі забойца, нянавісць да якога нічым не меншая, чым любоў да вялікага пераможцы. Для адных бог, для другіх д'ябал. Перастане быць богам, перастане быць вялікім. Як здарылася з Гітлерам. Проста д'ябла ніхто не назаве проста вялікім.

«Гіпертрафаваны патрыятызм», – вылавіў Імбрык з Есіпавых развагаў. Пачынала намацвацца пэўная база для голай напачатку, нічым асабліва не падмацаванай няпрыязі да мэтра. Лёгкі цень гэтай няпрыязі, адразу нават не зразумела было, чаго гэта цень, толькі цень, цяпер набываў цьмяныя абрысы.

Есіп закурыў чарговую цыгарэту. Помнікі працягвалі вынырваць у лістоце кладоў. Міма ізноў спешна прайшоў дырэктар іхняе службы: «Прасякайцеся, джэнтльмены». Наблізіўся і павітаўся з імі калега з татарскай службы. «Я навучу цябе курыць у самалёце, – смеючыся, сказаў ён Есіпу. – Зачыняешся ў туалеце, робіш спуск і адначасова зацяжку над унітазам. Ш-ш-шух! – выдыхаеш проста ў гарлавіну і вакуум уцягвае ўвесь дым. І так кожны раз: спуск – зацяжка, спуск – зацяжка...»

– Ягоны дом у Сыктыўкары, доўга ляцець, – сказаў Есіп, калі татарын перайшоў да іншай кампаніі.

Імбрык ненавідзеў імя «Андруша». Асабліва пасля таго, як у Іменніку Дубаўца прачытаў наступнае:

«АНДРЭЙ – чалавек лёгкі. Ён лёгка працуе з паперамі, лёгка піша вершы, лёгка кіруе фірмай і дачыняецца з партнёрамі. Ён лёгка выбудоўвае сваю лінію паводзінаў, якая часта аказваецца даволі заблытанай, і тады разабрацца ў ёй Андрэю цяжка».

Ні за што на свеце Імбрыку не хацелася з гэтым пагаджацца, бо з такой характарыстыкай стаць вялікім было немагчыма. Хіба што вялікім акторам, лёсам якога будуць апекавацца вялікія рэжысёры. Зрэшты, і не ягонае гэта імя – Андруша.

– А табе якія жанчыны больш падабаюцца? – Есіп тым часам павярнуўся тварам да тэрасы і аглядаў яе. – Натуральна, пасля беларусак. Ты яшчэ не вырашыў? – Ён мімалётна зіркаў у бок дзвюх маладых жанчын, якія за столікам млявымі рухамі даядалі свае пірожныя з кавай. – Тады запомні, самыя прыгожыя на свеце жанчыны – косаўскія албанкі. Прычым цёмную завуць Албана, гэта значыць, белая, а светлую – Гардана. Па ідэі, павінна значыць – чорная. Але не так важнае імя, важны змест, напаўненне.

«Угу».

Есіп нібы падглядаў за рэакцыяй Імбрыка, а той адчуў сябе канчаткова разгубленым. На тле разгубленасці ягоны ўнутраны пратэст нарастаў. Як бы разгаралася тое «нешта», тая аблачына няпрыязі налівалася свінцовым колерам. Дзякуючы Есіпу, карціна свету мянялася са звыклай і прадказальнай на нейкую абсурдысцкую і як бы не зусім «нашу». Дакладней,

зусім не нашу. Касаўскія албанкі паставілі Імбрыка ў тупік. Але й гэта быў не канец.

– Я бачыў гэтых дам на нудысцкім пляжы, – распавядаў Есіп. – Людзей з Радыё часам можна сустрэць на Льготцы. Гэта такое лясное возера, кіламетраў сорак ад Прагі. Мне яно не моцна падабаецца. Часам дырэктар бярэ мяне з сабою за кампанію паплаваць. Я далёка не заплываю, а ён як пайшоў, так і пайшоў, на гадзіну і болей. Мне шмат не трэба, швэндаюся сабе, куру, разглядаюся, пакуль ён не вернецца. Нуднавата, адным словам. Дый які з мяне нудыст... А яны нічога сабе.

«Чаму я павінен пра гэта слухаць і ведаць? – з усіх сілаў стараўся Імбрык не паказваць знешне свайго абурэння. – І хіба павінен казаць такія рэчы змагар, асветнік, хрысціянін урэшце? Хіба для таго, каб высветліць, ці свой чалавек жанчына, яе трэба абавязкова пабачыць голай?»

Імбрык думаў пра Насту, з якой яны разам скончалі падпольны ліцэй у Менску і якая цяпер працягвала вучобу ў пражскім Карлавым універсітэце. Наста была яму сяброўкай, яны маглі гадзінамі гаварыць пра ўсё на свеце і не надакучвалі адно аднаму. Але каб хоць уявіць яе голай – такога Імбрыку ў галаву не прыходзіла. Якая розніца, што ў яе якое, галоўнае, што яна свая.

Яны адкрыта хадзілі з Настаю за руку, але гэтаксама адкрыта паказвалі, што паміж імі яшчэ нічога не было. Нават без «яшчэ», проста нічога. Як нічога такога не было і ў Імбрыкавых планах. Занадта вялікае жыццё адкрывалася перад ім наперадзе, занадта шмат трэба было зрабіць, каб пра такое думаць. Навокал так шмат гаварылі пра гендэрную роўнасць, пра ўціск гомасэксуалістаў, пра аднаполыя шлюбы, і Імбрык у гэтых тэмах трымаўся празаходняй лініі. Якім чынам гэта ўсё адгукаецца ў душы, ён яшчэ не ведаў. Гэта яшчэ трэба будзе некалі перажыць, адчуць, адшукаць у сабе. Але яўна не цяпер.

«Распуста канчаткова загубіць нашу справу, – думаў Імбрык, пры тым стараючыся не сустракацца вачыма з Есіпам. – Так ужо здарылася з дзядзькам Глёбусам, які піша пра сэкс і пры тым ходзіць на мітынгі пратэсту. Ну што гэта такое? Гэта ж на шкоду дэмакратычнаму руху, бо дыскрэдытуе... Шматлікія захопленыя чытачы Глёбуса яўна ж не за беларускую справу яго цэняць. А за эротыку. Яны прыйшлі на мітынг, пабачылі там мэтра, ага, трэба пачытаць “Толькі не гавары маёй маме”, чытаюць і трапляюць у зусім іншую сферу захапленняў. Нашто ім цяпер тыя мітынгі... “Жыве Беларусь!” Калі ў галаве круціцца “У мяне бліжэй да заду”... І можа стацца, што і Есіп, які выдае сябе за беларускага адраджэнца і змагара з рэжымам, насамрэч шкодны тыпус. Хоць, безумоўна, і адраджэнец».

Неяк вельмі блізка да сэрца круціліся думкі Імбрыка. Неяк надта асабіста ён успрымаў усё гэта, быццам толькі ад яго залежаў поспех нацыянальнага адраджэння. І трэба было хутчэй нешта вырашаць, каб не заблытацца канчаткова. Першая думка: пазбягаць Есіпа. Але як на тое паглядзяць дырэктар і іншыя ў рэдакцыі? Выпадковая думка пра тое, што а можа і яны такія самыя, была адразу адкінутая як выпадковая. Трэба, наадварот, выконваць усё, як задумаў дырэктар, быць побач з прызначаным апекуном, каб усё ж дакапацца да сутнасці і, калі ўсё акажацца настолькі непапраўным, абраць зручны момант і... можа быць нават... абясшкодзіць.

Імбрык вырашыў падыгрываць Есіпу і старацца, наколькі магчыма, захоўваць той самы прыязны тон, каб да апошняга моманту не выдаць

сваіх сапраўдных адносінаў. Гэта сур’ёзны крок, таму ў гэтым месцы аўтар перадае асадку самому Імбрыку:

«Не трэба думаць, што Імбрык быў кончаным тупаком ці занадта наіўным маладзёнам. Ён перфектна ведаў некалькі моваў, добра разбіраўся ў кампутарах і сацыяльных сетках, быў надзвычай камунікатыўным і сяброўскім, асабліва з начальствам. Старэйшыя маглі ў савецкіх традыцыях лічыць яго кар’ерыстам, ці авантурыстам, ці нават аферыстам, але знакі часу памяняліся і сёння без гэтага проста не станеш ні вялікім, ні ўплывовым у справе таго ж нацыянальнага адраджэння і барацьбы з дыктатурай. Імбрыка нямала раздражняла, што навокал у рэдакцыі спрэс былі людзі, старэйшыя за 50 гадоў, хоць ён усім сэрцам паважаў іх яшчэ з самага маленства. Ён разумеў, што яны стаміліся рабіць нацыянальную справу гэтак паспяхова, як яны яе рабілі раней, таму ставіць трэба на маладых, такіх, як Імбрык, якія змогуць нешта данесці да аўдыторыі 18-ці, не, нават 12-цігадовых, чаго пярэстаркі, натуральна, зрабіць не змогуць».

Добра напісаў, дзякуй!

Зашамацелі кароны над Альшанскімі кладамі, прычым магло падацца, што гэта перамаўляюцца помнікі. Міма хуткай хадою прайшоў іхні дырэктар: «Джэнтльмены, пара абедаць. Збіраемся ўнізе». Выйшлі на тэрасу людзі з рускай рэдакцыі разам з амерыканскім начальствам – курыць.

– Аднойчы ў нас праходзіў стаж адзін малады журналіст з Менску, звалі яго Франак, Францішак, – распавядаў Есіп. – Добры хлопец, шустры. Але вось у нататцы пра нейкую паездку кудысьці Лукашэнкі ён назваў яго мімаходзь «немаладым прэзідэнтам». Мы, вядома, усе не любім Лукашэнку, але ўзрост ніякім чынам не тычыўся самой паездкі і сутнаснага боку інфармацыі. І слова «немалады» выглядала ў той нататцы нечаканым наездам з боку самога журналіста. Такі сабе падсрачнік без прычыны. Бо прызнаныя ў свеце прэзідэнты рэдка не бываюць немаладымі. Той жа Рэйган, побач з якім Лукашэнка якраз малады прэзідэнт. Гэта ўсе ведаюць і гэта ў кантэксце нашага часу. Таму наезд атрымаўся шпаноўскі, ён касаваў паважлівае стаўленне да самой інфармацыі. Ну, як калі б ён напісаў «вусаты» ці «таўстажопы». А што было сур’ёзна? Што журналіст парушыў правілы нашага Радыё і самой журналістыкі. Але й гэта не самае страшнае. Што журналіст выявіў свае комплексы – герантафобію. Зрэшты, бог і з гэтым. Самае істотнае трэцяе. Паводле шкалы ўсяго і ўся ёсць тры тлумачэнні ўсяго, што звязана з чалавекам: важнае, няважнае і не вельмі важнае. Апошняе самае падманлівае. Гэта я пра «немаладога прэзідэнта». Не вельмі важнае зрабіла няважным усё астатняе.

– Ну, гэта цяпер распаўсюджаны комплекс маладых казыраць сваёй маладосцю, – няшчыра падыграў Есіпу Імбрык. – А можа і заўжды так было. Вы лепш скажыце, дзе ўзяць вялікіх беларусаў?

Есіп ізноў угледзеўся ў затэрасную далеч і сказаў:

– Вялікія беларусы вырастуць з вялікіх справаў, якія, на першы погляд, не такія ўжо вялікія. Шмат залежыць ад надвор’я ў антрапасферы, у калектыўным несвядомым. Якая тэмпература, вільготнасць, які ціск, якія вятры, ападкі. І тады важнае ўчора робіцца неістотным сёння, і БНФ, які меў масавую падтрымку ў народзе, скукожваецца да невялічкай секты. Калектыўнае несвядомае стварае або не стварае вялікіх, яны зоркі на ягоным небе.

Есіп павярнуўся да дзвярэй, запрашаючы Імбрыка ісці з сабою, і яны скіраваліся ў нутро станцыі, праз шумны буфет прабраліся да ліфта.

– А хіба гэта не рэжым давёў да такога стану? – пытаўся Імбрык. – І Пазняк, які ўцёк за мяжу? І лідэры Фронту, якія пагразлі ў грантах і цяпер страцілі ўсякую падтрымку?

Яны ўвайшлі ў ліфт. Разам з імі ўвайшлі косаўскія албанкі, якія вялі сваю размову. Усе суцішылі галасы.

– Не, – сказаў Есіп, які глядзеў не на Імбрыка, а на жанчын. – Гэта аблуда мінулых эпох – што нейкі лідэр ці нейкая ўлада можа паўплываць на калектыўнае несвядомае. Адсюль, дарэчы, марнасць усіх палітычных прагнозаў, якія заўсёды варажба – патрапіш ці не патрапіш. І немагчымасць адназначна растлумачыць, чаму адбылася якая-небудзь рэвалюцыя. Усе тлумачэнні гісторыі заўсёды супярэчаць адно другому. Версіяў шмат, але гэта таксама версіі варажбы. На гэтым трымаецца наша аналітыка – як ты расставіш факты, то так, то гэтак. Тое самае ўсялякія «буджэнні народнага духу» – абудзіць можна, толькі ніколі невядома, да чаго гэта прывядзе. Трэба проста глядзець на надвор'е і яго ўлічваць – браць парасон, калі ідзе дождж і надзяваць чаравікі, каб не застудзіць ногі. Можна, вядома, разагнаць хмары ці выклікаць завею, калі ў цябе ёсць на тое рэсурс. Але гэта немагчыма рабіць пастаянна і, што галоўнае, з гэтага нічога не злепіш, ніякай палітыкі. Мы проста не ведаем прыроды гэтага ўсяго і бясконца наракаем на гідраметцэнтр, які зноў памыліўся з прагнозам.

– Дык што, нічога не трэба рабіць? – іранічна ўсміхнуўся Імбрык. – Сядзець і чакаць пагоды? А пратэсты? А шэсці, мітынгі? – яны выйшлі з ліфту і скіраваліся ў сталоўку.

Імбрык не пераставаў здзіўляцца, наколькі калідоры Радыё сапраўды нагадваюць станцыю, згубленую недзе ў космасе ці ў кнігах касмічных фантастаў, чытаць якія ён не любіў.

– Бачыш, якія яны нешматлікія, мітынгі і шэсці. Значыць, яны сёння не важныя. Дакладней, не вельмі важныя. У часы бяззорнасці лідэры нацыі ператвараюцца або ў псіхапатаў, або ў бажаволкаў. На жаль. Першага мы ўжо маем шмат гадоў і другіх багата. Помніш юродзівага ў «Барысе Гадунове»? «Месяц едет, котенок плачет...». Хто там у нас з лідэраў забіў у дзяцінстве кацяня? Не помніш?

– Мяне тады яшчэ не было. Я пазней з'явіўся.

– Зрэшты, той прызнаўся публічна, – заўважыў Есіп і працягваў. – Трэба рыхтавацца да кожнага надвор'я. Чым мы і займаемся па жыцці ў асяродку сваёй сям'і, свайго дому, тое ж трэба рабіць у грамадстве. Адзінае, што спрацоўвае ў пазітыўны бок – гэта пашырэнне тэрыторыі свабоды ў антрапасферы. Не канструкцыі, структуры і ўсякія членствы, а пэўныя мікрасферы свабоды ў агульным моры, якое працягвае жыць у псіхалогіі рабства. Такое заўсёды спрацоўвае. Рана ці позна. Пачытай сёння ў нас на сайце. Адкрылі тайм-кафэ ў Асіповічах. У Асіповічах! Там, дзе людзі дагэтуль мысляць катэгорыямі самых нізкіх стандартаў жыцця і калгаснага прыгону. Яны і блізка не могуць уявіць сабе, што такое можа быць. Тайм-кафэ! Кавярня, дзе не п'юць-жаруць і равуць караоке, а толькі папіваюць каву ў лёгкім стыльным інтэр'еры і нягучна перагаворваюцца пра ўсё на свеце. Адзін зазірнуў, спалохаўся і ўцёк, другі раз прыйшоў з сябрам, пасядзелі, спадабалася, з'явіліся заўсёднікі. Стыль абавязвае да адпаведных манераў і таго, як ты апрануты. Такая сабе малюпасенькая несавецкая і чалавечная кропка свабоды пасярод татальнага мора ўсё яшчэ саўка. Вакол мат-перамат, п'янь, карупцыя, гыр-гыр. А тут кропачка, дзе ўсяго гэтага

быць не можа. І ў яе з’яўляецца аўра. Яна ператвараецца ў самотную зорку пасярод суцэльнага сутоння. А дзе адна зорка, там і дзве, і тры... І аўра іх распаўзаецца, патроху адбіраючы месца ў сутоння. Спачатку здзіўляліся: што такое ў нас можа быць? Не можа, натуральна, але ёсць. Пасля сталі прывыкаць, што такое ў нас ёсць. Ёсць, але яно пакуль нікому не важнае. А тут бац, змянілася надвор’е ў антрапасферы. І няважнае стала важным. Свабода, якая сёння «ды каму яна патрэбная, твая свабода», раптам стала патрэбная ўсім. Тое самае з беларушчынай. Спачатку з’яўляецца мода на вышыванкі. Яна не самая важная, але яна ёсць. І калі змяняецца надвор’е, беларушчына раптам становіцца важнай для ўсіх.

## 02. У сталоўцы

На Радыё Салярыс гаварылі заўсёды й паўсюль, не толькі ў мікрафон. Гаварылі многа, маштабна, заўзята, пераважна пра палітыку, але і пра ўсё на свеце таксама. Гаварылі на тэрасе, ідучы, на працоўным месцы і, само сабой, у сталоўцы. А паколькі новых уражанняў на касмічнай станцыі бывае няшмат, часта гаварылі пра тое, пра што ўжо было гаворана, і так, як было гаворана. Лагічныя довады, ракурсы, паказкі прамаўляліся, забываліся і прамаўляліся зноў, прычым калі мінулы раз суразмоўца А. нешта даводзіў суразмоўцу Б., дык у новай сітуацыі тымі самымі аргументамі суразмоўца Б. тое самае даводзіў суразмоўцу А. І гэта было натуральна, як самое жыццё, у якім усё цыклічнае, усё паўтараецца і, па вялікім рахунку, ад гэтага не становіцца больш зразумелым.

Вялізную ў белых танах сталоўку на першым паверсе Радыё Салярыс называлі рэстаранам. Ці таму, што гэта была пражская традыцыя – падвышаць статус харчовае ўстановы, ці таму, што тут працавалі афіцыянткі. Дзве дзяўчыны і цяпер мітусіліся між сталамі, беручы замовы і разносячы стравы кліентам. Хоць, па вялікім рахунку, у гэтым не было патрэбы – кожную страву наведнік мог накласці або наліць сабе і сам.

Шэф-поварам у сталоўцы быў афганец і для карэнных насельнікаў тутэйшых шыротаў гатаваў нясмачна. Чорная ялавічына, незразумелыя спецыі, якімі так лёгка было сапсаваць кураціну, усялякія задубянелыя гарохі... Аднойчы расейская служба запатрабавала іншага рэстаратара. Аднак, заявіла дырэкцыя, трэба выбіраць паміж смачнай кухняй і танным меню. Іранцы, а іх было больш за ўсіх, прагаласавалі за таннасць, пагатоў і кухня ім смакавала.

– Мы тут жывем толькі ўспамінамі, – сказаў Навумчык. Людзі з беларускай службы Радыё ўжо сабраліся за адным сталом. Праўда, дырэктара не было. Тым часам Навумчык працягваў: – Моладзь катэгарычная да нас, «дыназаўраў». У прынцыпе, гэта правільна, мы самі такія былі. Вось я толькі прачытаў у фэйсбуку: «І які плён вашых масавых акцый?» Гэта пра 1990-я гады. А плён такі: незалежнасць краіны, па-першае. Па-другое, калі на шэсце выйшла 50 тысяч, мы сарвалі аншлюс! Ельцыну не патрэбная была другая Чачня, а Захад пабачыў, што далёка не ўсе беларусы згодныя аб’ядначца з Рашай. У 1999 годзе я спыніў членства ў Сойме БНФ і да наступных акцыяў не меў ніякага дачынення, таму пра іх памаўчу.

Імбрыка, які апынуўся ў асяродку зорак свайго маленства, не пакідала вострае адчуванне, што з яго пакепліваюць. Ды так тонка, ветліва і крыху іранічна, што ён перажываў ад гэтага эйфарыю нефармальнага дачынен-

ня з сапраўднымі акторамі. Усіх гэтых людзей ён імгненна пазнаваў па галасах, але гаварылі яны зусім не тое, што, як ён сабе ўяўляў, гэтымі галасамі мусіла прамаўляцца.

– Як мне нясмачна, – паўтараў Абламейка, кладучы ў рот чарговы кавалак валакністага чорнага мяса і жуючы з непадробнай крывой грымасай. Знакаміты сваёй пераборлівасцю, Абламейка быў схільны да крытыкі і абструкцыі непазбежных абставінаў.

Важная рыса аб'ядноўвала ўсіх гэтых людзей за сталом, – усе яны былі зоркамі першай велічыні ў розных сферах жыцця па-за Радыё. І калі б заўтра Салярыс закрылі, яны проста перасталі б быць журналістамі, а засталіся б: Навумчык – палітыкам, Абламейка – гісторыкам, а Шупа – перакладчыкам замежнай літаратуры, які ведае 80 моваў.

Навумчыка, як і Абламейку, і Шупу, а калі шчыра, дык і Есіпа, звалі Сяргеямі. Калісьці дырэктар беларускай службы Радыё Салярыс нават выказаў дапушчэнне, што Сяргей – самае беларускае імя. Маўляў, у вайну, калі немцы бралі ў аблогу беларускі партызанскі атрад, яны мусілі б крычаць: «Сяргей, здавайся!» Паводле той самай аналогіі, як усе немцы для нас з дзяцінства былі Фрыцамі, а ўсе расейцы Іванамі.

Усе Сяргеі нечым падобныя. У Імenніку Дубаўца гэтае падабенства тлумачыцца наступным чынам:

«СЯРГЕЙ – змагаецца з дэманамі ўнутры самога сябе. І апантаны, і экзарцысты ў адной асобе. Што зробіш, Сяргей больш за іншых адкрыты для спакусаў. Ён на кожным кроку спакушаецца, пры тым робіць гэта цалкам усвядомлена, але востра перажывае сваю грахоўнасць, у чым, уласна, і заключаецца ягоны "экзарцызм" (гэта ён сам так лічыць). Супярэчнасць закладзеная ў самім імені з дзвюх частак, якія па-сутнасці абазначаюць працэс і дзеянне, скіраваныя ў супрацьлеглыя бакі».

Не сказаць, каб усё тут моцна не падабалася Імбрыку, было весела, ён чуў шмат яму невядомага і карыснага, згадвалі начальства. Але ўсе гэтыя людзі былі зусім не такія, якімі ён іх завочна ведаў і рыхтаваўся тут пабачыць. І трэба было не настройваць сябе супраць іх за гэткую інакшасць, а думаць, як уліцца ў іхні калектыў.

«Такі лад жыцця робіць іх такімі, а не іншымі», – думаў ён. А лад жыцця яму падабаўся.

– Нічога, – ухвальна паглядзеў на яго крыху маладзейшы за астатніх Прыдуманы, быццам прачытаў ягоныя думкі. – Усё наладзіцца.

– Я 20 гадоў у эміграцыі, – казаў Навумчык, – гэта вымушаная эміграцыя, вы-му-ша-ная. Бо на радзіме мяне зараз жа арыштуюць ці, можа быць, нават заб'юць.

– Як мне нясмачна, – паўтарыў Абламейка.

«Але ж і сапраўды кумедзь, – думаў сабе Імбрык. – Дзіўнае пачуццё выклікае змагар, які асцерагаецца пераследу, арышту, смерці. Хіба ты не ведаў, куды і на што ідзеш, які абіраеш шлях? На вайне як на вайне. Можа, пра гэта проста не варта казаць – што цябе арыштуюць і заб'юць, а прыдумаць нейкую іншую "адмазку"? Напрыклад, што тут ад цябе сёння болей карысці, чым на радзіме, бо на радзіме сітуацыя яшчэ не даспела для твайго з'яўлення і ты даспельваеш яе адсюль? (Ён адчуў, што падбірае аргументы ўжо зусім не для Навумчыка, а для сябе самога.) Бо пра арышт і смерць гучыць для змагара не вельмі пераканаўча. Зрэшты, і эміграцыя – гэта ж таксама свайго роду подзвіг, па-свойму змагарны чын, бо напэўна

ж не лёгка трываць дваццаць гадоў удалечыні ад Радзімы і пры гэтым захоўваць вернасць ёй... Выглядае, што гэта той выбар, які зрабіў і я».

Усе задумаліся, быццам і на гэты раз пачулі ягоныя развагі. Як так адбываецца? Можа быць, усе гэтыя людзі за столькі гадоў разам на гэтай закрытай касмічнай тэрыторыі навучыліся чытаць думкі адно аднога? Бо калі паўтараюцца словы, значыць, паўтараюцца і думкі. Думкі перастаюць быць таямніцай ад таго, што яны не прамоўленыя, бо і так усё зразумела, кожны адказ, кожная рэфлексія. Усё ж паўтараецца! І калі новы чалавек трапляе ў гэтае кола, дзе закрытасці думак як такой папросту няма і не можа быць, ён стаіць перад імі, нічым не абаронены, бо тут такой абароны не існуе...

Есіп нахіліўся да Імбрыка і прашаптаў яму на вуха:

– Зараз афіцыянтка прынясе табе замову. Чэшкі таксама бываюць прывабныя. Асабліва ўсмешлівыя. Я адкрыю табе іхнюю таямніцу. Паводле прафесіі яны цырульніцы, скончылі хабзу недзе ў правінцыі. А працаваць уладкаваліся сюды. І ў профілі ў фэйсбуку пішуць месца працы – амерыканскае Радыё Салярыс. Можна што заўгодна сабе падумаць, праўда? Уяўляеш, як сакурсніцы здзіўляюцца, падабайкаюць і зайздросцяць ім...

Імбрык замовіў сабе запечаную ў фользе курапатку, і цяпер ягоныя думкі пераключыліся на гэтае маленькае цельца на вялікай талерцы, якое невядома было як есці. Дакладней, вядома, і ён ува ўсю арудаваў пальцамі, але нешта моцна замінала яму і нічога не атрымлівалася. Ён такога ніколі не еў. Быццам як звычайная кура, але ў пяць разоў меншая, і ўсё ў яе такое маленькае, што... Імгненна прапаў апетыт. Імбрык выцер пальцы і зрабіў выгляд, што не спяшаецца са страваю, узяў у рукі гладкую шклянку халоднага таматнага соку.

– А так прасцей, у эміграцыі, – сказаў Есіп. – Наша жыццё шчаслівае, калі яно далёкае. Мы жывем тут, а ўсімі думкамі жывем там, на Радзіме, удалечыні. Гэта як далёкі гром, перастук колаў далёкага цягніка, пранiклівае фартэпіяна за сцяной, брэх далёкага сабакі, святло далёкае зоркі... Тое, што моцна прыцягвае, кранае душу, натхняе... Калі мая дачка чытае ўголас Гарэцкага, мы разам пачынаем плакаць, бо ўсё робіцца невыносна блізкім. Блізкае цяжка перажываць. «Нічога не змянілася за сто гадоў для нас і нашых жаданняў», – кажа дачка. І гэта праўда. Далёкі Гарэцкі ўспрымаецца ледзьве не як шчасце. Як суперзорка, рэальна вялікі пісьменнік. Разумееш? – паглядзеў ён раптам на Імбрыка і казаў далей, – а блізкі, калі пачынаеш яго чытаць, ён блізкі, як аглушальны грукат цягніка, быццам ён едзе вось тут, проста ў цябе па галаве, ці як блізкі заціяты брэх ваўкадава, што кідаецца на цябе і хоча расправіцца з табой. Блізкая зорка асляпляе і спапяляе... А жыццё ў эміграцыі – далёкае, калі не браць яго блізка да сэрца.

– Як мне нясмачна...

– Тут у Чэхіі, – працягваў Есіп, – я аднойчы апынуўся ў лесе. Мы заехалі кудысьці ў грыбы. За дарогай я не сачыў, бо без толку, усё адно не запомню. Заехалі і заехалі. Ведаеце, як страшна бывае, калі на цябе з брэхам кідаецца вялікі сабака. Рэальна страшна. А тут мы прыехалі, выйшлі з машыны, і якраз побач на самотнай сядзібе каля лесу забрахаў сабака. Міралюбна забрахаў, не злосна і не страшна, бо за плотам. Мы разышліся ў грыбы, страцілі адно аднога з віду. І пакуль я мітусліва бегаў ад баравічка да баравічка, а лес тут не такі, як у нас, а бураломны і

бугрысты, ногі паломіш, раптам зразумеў, што я застаўся зусім адзін. У невядомай краіне, у невядома якім баку, у невядомым лесе. І не брэша сабака, мой адзіны арыенцір. Зрабілася вусцішна. Я паспрабаваў гукнуць сваіх таварышаў. Цішыня. Напэўна, зайшоў я невядома куды і занадта далёка. Моцна крычаць не выпадала. Па-першае, сорамна вось так дарослаbму дзядзьку згубіцца, па-другое, у чужым лесе адчуваеш сябе, як у чужым доме... Што рабіць? Сонца няма, бакі свету ніяк не зафіксаваныя. Тэлефон не ловіць сетку. Ну і дожджык яшчэ пайшоў да ўсяго. І хутка збіраецца цямнець. Літаральна куды б я ні рушыў, шанцаў патрапіць да машыны адзін з тысячы, усё астатняе – у нікуды. Таму я стаяў на месцы. І мяне ахапіла паніка. Я абрабіўся горш, чым калі б на мяне наскочыў сваімі зубішчамі той ваўкадаў. Ну, рэальна страшная невядомасць. Чэшская глухамань – я зразумеў, што і такое бывае. Дождж, холадна, а я нібы на самым краі прорвы, якой не відаць, каб у яе не ступіць...

Есіп зрабіў эфектную паўзу, каб усе пераажылі гэты момант.

– Працягвалася тое не надта каб доўга. Хвілінаў дзесяць. Але мутарна так і невыносна, што проста лягай ды памры... І тут бац! – забрахаў той далёкі сабака. Гэта было выратаванне. Я кінуўся на брэх і даволі хутка выйшаў да машыны. Так я навучыўся цаніць далёкае.

– Лёгкія-лёгкія нашы далёкія, цяжкія-цяжкія блізкія нашыя, – спрабаваў упісацца ў гутарку Імбрык. Ён такі асіліў няшчасную курапатку, хоць непрыемны прысмак застаўся, прычым не ў роце, а дзесьці ў мазгах.

– Як мне нясмачна...

Усе абеднікі завяршылі трапезу, і грамада паводле завядзёнкі рушыла да ліфта, каб падняцца ў верхні буфет і там перайсці да кавы з дэсертам, ну і даказаць недаказанае.

– Што такое нясмачна... Нясмачна бывае па-рознаму, – уздыхнуў Прыдуманы. – Слухайце, як было і што я запомніў на ўсё жыццё. Гэта было ў паўднёвым В'етнаме пад горадам Фантх'етам. Мы з жонкай жылі на беразе мора ў мясцовасці Кога. Ну і час ад часу дзеля разнастайнасці ездзілі на другі бок Фантх'ета ў рэсортную вёску Муйнэ, дзе была цэлая вуліца крамаў і рэстаранаў. І вось у адным рэстаране я спакусіўся замовіць сабе чарапахавы суп. Такая легендарная на маё ўяўленне страва. Праўда, і дарагушчая, зараза. Але гэта ж раз у жыцці! І пакуль мне гатавалі той суп, раптам узгадалася, што ў маленстве я меў сваю чарапашку. Смярдзючку такую, шмат за ёй трэба было прыбіраць. Але запомнілася не столькі гэта, колькі дзіцячая эмоцыя шкадавання, амаль спачування. Проста сэрца сціскалася, гледзячы на яе, ад гэткай прыроднай несправядлівасці. Ну чаму яна створаная такой нязграбнай. Ні павярнуцца толкам, ні пабегчы. Перавернеш на спіну, а яна так мучаецца, каб перакуліцца назад. І гэта ж не ад хваробы ці калецтва, яна такой задуманая. А найбольшае шкадаванне выклікалі гэтыя пярэднія лапкі, загнутыя ў розныя бакі. Яна соўгае імі, хоча рухацца, а нічога не адбываецца і ўсе яе памкненні дарэмныя... Я сядзеў у тым рэстаране, і такая маркота мяне ахапіла, што замовіў гэты чортаў чарапахавы суп. А тут яшчэ жонка іранічна так на мяне паглядзела: «Ты сапраўды будзеш есці Тарцілу?» Эх... Ну вось, нясе афіцыянт маю замову. Ледзьве не пад фанфары, бо ўвесь рэстаран пазірае на нас, на мяне. Вялікая глыбокая міска, поўная ўсяго на свеце. Апошняя надзея – што чарапахавы там толькі булён. Калі афіцыянт паставіў перада мной суп, мне хацелася праваліцца пад зямлю. Вядома, там плавалі нейкія

авакады і розныя травы і іншая раслінная прыгажосць. А з усяго гэтага вытыркалася тая крывая лапка...

– Вы не сталі есці? – збаяўся не пачуць працягу Імбрык. Насамрэч ён краў у Прыдуманага эфектную паўзу. Сам таго не хочучы.

– Цераз не магу я раз ці два сербануў кісла-салёнай вадзічкі з краю і адсунуў місу, – працягваў Прыдуманы. – Ну не змог. Дагэтуль не падбяру слова гэтаму пачуццю. Увесь рэстаран глядзеў на мяне са здзіўленнем. Афіцыянты таксама. Але здзіўленне афіцыянтаў было радасным. Я вачыма паказаў, што міску можна забіраць. І калі пазней ішоў у прыбіральню, акурат міма кухні, бачыў, як тры афіцыянты, нібы груганы, наляцелі на маю Тарцілу, разрываючы яе на кавалкі. Так я зразумеў, што чарапахавы суп сапраўды смачны, калі на яго гэтак зацята кідаюцца. Толькі для мяне ён выйшаў канфузам. І тая крывая лапка ўсё яшчэ стаіць у мяне ўваччу.

– Сумная гісторыя, – уздыхнуў Данчык, які далучыўся да іх ужо на тэрасе. Ён рэдка калі расказваў свае гісторыі і ўвогуле гаварыў мала. Легендарны Данчык рэдка пісаў артыкулы і рэдка калі браў у рукі гітару. Чаму? Імбрыка гэта востра цікавіла, і ён пастанавіў неяк разгаварыць вядомага спевака і куміра свайго дзяцінства.

Грамада з каваю і піражнымі расселася на тэрасе.

– А вы ведаеце, што шмат дзе ў свеце чарапахавы суп забаронены? – спытаў Навумчык. – Не ў В’етнаме, канечне. Там можна ўсё. Проста чарапаха – рэліктавы від, на мяжы знікнення, яна сапраўды не паспявае за прагрэсам. Адстае. І есці яе – гэта як адшукаць жывога дыназаўра, забіць яго і зварыць з ягоных вушэй суп. – Навумчык на Радыё Салярыс быў галоўным аматарам вэнджаных свіных вушэй, якія яму пры нагодзе прывозілі з Літвы. Але пра гэта Імбрыку яшчэ трэба будзе даведацца пазней.

– Я чытаў, што шмат чарапах развялося ў нас у Чарнобыльскай зоне, – сказаў Імбрык. – Адзін фатограф распавядаў, што ў закінутай вёсцы пачуў грохат посуду з абрынутай хаты. Зайшоў, а там чарапаха вылазіць з рандэлі...

– Бачыш, не ўсё так проста, – рэзюмаваў Шупа. – Чарапаха сама імкнецца стаць супам.

Сяргеі пачалі наперабой расказваць пра свае самыя смачныя супы ў розных месцах Еўропы. І тут на тэрасу ўвайшлі «салярныя» дзяўчаты – Ціхановіч, Радкевіч і Ганна Соўсь. Такія ж светлыя, як іх галасы ў радыё, што Імбрык чуў з пялёнак. Ды яны ўсе яму як мамы. Здаецца, зараз пачнецца шчасце.

«Што такое шчасце?»

## 03. На тэрасе (2)

– Што такое шчасце, ведаеш толькі калі яго адчуваеш, – сказаў Есіп пасля таго, як Сяргеі разам з «салярнымі» дзяўчатамі і Прыдуманым разабраліся з дэсертам і чарапахамі і адправіліся працаваць.

Толькі Данчык ад’яднаўся ад усіх за далёкім столікам з бутэлечкай Кока-колы. Імбрык, натуральна, застаўся з Есіпам.

– Жанчыны і могілкі – вось і ўсё, што цікавіла мяне ў гэтым жыцці, – сказаў Есіп, расцягваючы словы і абводзячы панарамным позіркам непраглядныя шаты дрэваў. – Інтрыгуе заўжды супрацьлеглы бераг.

Імбрыка раздражняла гэтая Есіпава манера гаварэння з самім сабой у ягонай прысутнасці. Напэўна, так робяць, каб паказаць суразмоўцу, што ён тут як бы і лішні? Усё ж такі астатнія супрацоўнікі Радыё рабілі на Імбрыка шмат лепшае ўражанне, чым гэты патасны самазакаханы старпёр. Яны, вядома, таксама старпёры, апроч хіба што Прыдуманага, але яны пазітыўныя, адкрытыя і не ўдаюць з сябе невядома што. Імбрык пачынаў ужо адчуваць сябе адным з іх, прынамсі, хацеў гэтага. Але і жаданне замяніць іх маладымі кадрамі нікуды не падзелася.

«Божа мой! – думаў Імбрык. – Гэта проста неверагодна! Я толькі прыляцеў з Менску і вось стаю ў гэтым месцы, святым для маіх бацькоў і з гэтым чалавекам, не менш святым для іх. І як бы для мяне. А слухаю нейкія азбучныя канструкцыі, якія яму й самому, відаць, даўно абрыдлі. Дырэктар прыставіў яго да мяне, каб ён праінструктаваў... Хутчэй бы скончыўся гэты “інструктаж”».

Тэраса на даху амерыканскага Радыё Салярыс была памерам з тэнісны корт. Яна рэдка калі заставалася зусім бязлюднай, часцей наадварот, поўнілася галасамі і чамусьці заўсёды без меры адкрытым смехам, які крыху насцярожваў, бо мовы, на якіх смяяліся, былі незразумелыя.

«Бацькі таемна слухаюць Радыё Салярыс – самы першы ўспамін майго маленства, – згадваў Імбрык. – Прыймач трашчыць, шуміць, накладаюцца нейкія музыкі, самыя дзіўныя мовы і галасы, поўная абракадабра. І праз гэта ўсё прабіваецца голас гэтага чалавека, якому цяпер мяне даручылі для адаптацыі ў Празе. А я ўжо амаль не магу яго трываць, прагну хутчэй пазбавіцца ад яго, проста згубіць са свайго далягляду назаўжды. Але засталося нядоўга».

Пад сляпучым летнім сонцам тэраса была падобная на пляж: вялізныя чырвоныя парасоны, прахаладжальныя напоі і марозіва на століках, разняволеная лагодная публіка з усяго свету, апранутая хто ўва што амаль па-пляжнаму. Тут яны ўсе кураць, ядуць, п’юць каву і вядуць гутаркі на трыццаці трох мовах.

– А Гарэцкі – вялікі? – спытаўся Імбрык. – Вы казалі, што разам з дачкою чытаеце Гарэцкага і ён ад гэтага робіцца блізкім і страшным, а калі далёкі, дык успрымаецца як вялікі.

– Гарэцкі не меншы за Кафку, – усміхнуўся Есіп. – Яны, дарэчы, былі завочна знаёмыя. Прынамсі, такую выснову зрабіў Дубавец, які даследаваў перапіску еўрапейскіх пісьменнікаў пра Гарэцкага. Вось паслухай, гэта не доўга. – Ён разгарнуў нататнік, у якім старонкі былі шчыльна спісаныя ад рукі. Зрабіў паўзу і пачаў чытаць. – Гэта цытаты з лістоў. Кафка звяртаецца да Рэмарка:

«Дарагі Эрых,

Вы напісалі выдатны раман “На заходнім фронце без перамен”. Я ў захапленні. І найперш я захоплены тым, што і па-нямецку магчымы твор такога кшталту, якім раней здзівіў нас усіх Максім Гарэцкі. Разумею, што Ваша кніга натхнёная яго раманам “На імперыялістычнай вайне”. Я зусім не ведаю, што там адбываецца ў таямнічай краіне пад назвай Беларусь, але шчыра рады, што і наша літаратура можа вырабляць такія штукі ў жанры ваеннай прозы».

Двое супрацоўнікаў грузінскай службы Радыё ўважліва пазіралі на Есіпа і Імбрыка, магчыма, да іхняга слыху даляцелі знаёмая імёны класікаў. Спешнай хадою міма прайшоў дырэктар: «Рыхтуйцеся, джэнтльмены».

Адна з касаўскіх албанак вярнулася з буфету за столік да сяброўкі з дзвюма порцыямі марозіва.

– А вось Канчэўскі піша ўжо самому Гарэцкаму, – працягваў Есіп:

«Увесь час працы над маім “Адвечным шляхам” мяне не пакідала ўражанне, што Абдзіраловіч – гэта я сам. Пытаюся Вашага дазволу выкарыстаць гэтае імя як мой псэўдонім, пры тым адчуваю, што такое рашэнне ўжо прыняў сам лёс».

«Адвечным шляхам» – культавая кніжка ў бацькоў Імбрыка. Яму самому яна падалася нуднаватай і не зусім карыснай, бо там больш ставілася пытанняў, чым давалася адказаў. Ну і агульны настрой – песімістычны, амаль безнадзейны што да будучыні Беларусі і беларусаў, да якіх ніколі не стануць па-сапраўднаму прыязнымі ні Захад, ні Усход. Тым не менш, Імбрык ведаў пра гэты твор, як і пра астатнія кнігі, пра якія згадвае Есіп. На нейкі час яму станавілася цікава.

– Яшчэ адзін пражанін, Гашак, піша Кафку, – чытаў Есіп:

«Агульнавядома, Франц, што камунізм прыдумалі габрэі. А літаратуру XX стагоддзя – Гарэцкі. Мяне шчыра ўразілі ягоныя “Дзве душы”, фантастычны раман, у якім відаць і твае людзі-кузуркі, і гэты пякельны “Уліс” Джойса, пра які ўсе цяпер гавораць. Я, між іншым, бываў у Беларусі і магу пагадзіцца з думкай, што літаратуру прыдумалі там. Калі не, з чаго б там акапацца старажытнаму Герадоту? Ну і Біблію яны надрукавалі па-свойму раней за ангельцаў. Быў у Гутэнберга такі прыяцель, як жа яго звалі? Як корачка на хлебе. Ну, хай будзе Корачка – вельмі па-нашаму гучыць. І надрукавалі яны беларускую Біблію ў нашай Празе. У іх нейкая паталагічная цяга ўсё на свеце хапаць, засвойваць і ўсяму ўсіх вучыць».

Тут да Імбрыка дайшло: «Дык гэта ж пра нас, пра беларусаў – як пра вялікіх! – уразіўся ён. – Трэ будзе абавязкова гэта ўсё адшукаць ці перапісаць у Есіпа. Вось бы я такое расказаў сваім ліцэйскім, гонару было б! І ніякіх комплексаў! Ніякіх табе сціплых, талерантных, памяркоўных...»

– Далей з ліста сучаснікаў. Харэўскі піша Антаняну:

«Дружа мой, мілы хачык. Сёння наш рэдактар назваў славуты раман Максіма Гарэцкага “Віленскія камунары” “Віленскімі кулінарамі”. Але ты не крыўдуй на яго. Там сапраўды так шмат кулінарыі, іншы раз здаецца, што галоўны герой нічога не робіць, толькі есць, прычым – смачна. Я не кажу пра фуагра і міндалі ўсякія (ты ж ведаеш, я сам кухар), але і вараныя пацукі, аказваецца, у нейкі час прыдаюцца. Неверагодна. Твой С.»

Харэўскага Імбрык ведаў. Хто ў Менску не ведае Харэўскага! Харэўскі не аднойчы прыходзіў да ягоных бацькоў. Яго заўсёды цікава было слухаць. Але цяпер Імбрыка адназначна турбавала іншае. Гарэцкі. Ён паўставаў з гэтых лістоў як рэальна вялікі, проста як вялікі Вітаўт... Хоць, з іншага боку, вялікі Гарэцкі, на вычуванне Імбрыка, гучала не зусім забойна і брэндава. Можа быць, ад нязвыкласці. Ці ад таго, што прозвішча надта звычайнае? Ды нічога яно і не звычайнае, чыста беларускае, не зблытаеш. Не тое, што Быкаў ці Арлоў, якіх Імбрык таксама бясспрэчна паважаў з маленства.

– Гэта не ўсё, – сказаў Есіп, ухвальна назіраючы, якая актыўная работа адбываецца ў галаве Імбрыка. Спрабуе, відаць, прымераць Гарэцкага на ролю вялікага. На тое і разлічана, падумаў ён, і працягваў. – Пачынаецца цяжкая артылерыя. Камю піша Сартру пра тое, чаму ён выходзіць з кампартыі:

«Пасля прачытання апошняй кнігі Францішка Аляхновіча (“У кіпцю-

рох ГПУ" адначасова выйшла на сямі еўрапейскіх мовах, першая ў свеце кніга пра ГУЛАГ. – Есіп) не бачу для сябе ніякай магчымасці заставацца ў вашай камуністычнай кампаніі. Гэтае рашэнне спялілася даўно. Цяперашняя навіна пра арышт Гарэцкага стала апошняй кропляй».

– Што, проста так Камю Сартру пра Гарэцкага і піша? – чарговы раз быў уражаны Імбрык.

– Яны тады пасварыліся на ўсё жыццё, – сказаў Есіп. – Але вось з ліста Буніна Джойсу. Слухай:

«Вашы "Партрэт мастака ў маладыя гады" і "Дублінцы" мне нагадалі мяне самога. Гэта неперадавальна. Так шмат ад Гарэцкага! Стыль! Дзівосная лёгкасць пяра і – карціны. Я нават задумаўся, каб наследаваць – як Гарэцкі ўмее ствараць візуальныя вобразы пісьмом. Увесь час шукаю выхад на гэта. А "Уліс", даруйце, не ўразіў. Пасля табуяванай (але я дастаў) "Камароўскае хронікі". Праўда, не буду нападаць на вас, бо пісьменніку важна быць у цэнтры ўвагі, але гэта спрацуе пазней. Гэта вельмі цяжка, але нашчадкі знойдуць "Камароўскую хроніку", верагодна, пасля "Уліса" і акажацца, што "Уліс", прабачце...»

– Обана! – ускрыкнуў Імбрык. – Не можа быць! Бунін пра «Уліса» і Гарэцкага. Прабачце...

– Далей болей, – чытаючы, захоўваў роўны тон Есіп. – Акутагава піша Борхесу:

«Добра вы абышліся з бібліятэкай, гэткім чынам акрэсліўшы межы таленту, пра якія мне даводзілася пісаць. Хіба што ў Гарэцкага я гэтых межаў не заўважыў».

– Ну і зусім троху засталося... Рэмарк – Прусту:

«Я заўсёды паслядоўна вызнаваў стылістыку "светлага лесу" і цяпер з цікавасцю назіраю, як іншыя пісьменнікі пераходзяць у "лес дрымучы", быццам зусім не дбаючы пра камфорт чытача. Прымаю гэта як знакі нашага часу, як дадзенасць. Напэўна, жаданне такога пераходу нарадзілася з "Дон Кіхота", прызнанага найлепшай кнігай усіх часоў і народаў, хоць чытаць яго ў арыгінале зусім немагчыма. Затое ўсе ведаюць, пра што ён. У найноўшым часе, я мяркую, "дрымучы лес" адрадзіў Гарэцкі ў сваіх "Дзвюх душах". Кажуць, яны таксама нечытэльныя ў арыгінале, аднак калізія вядомая кожнаму школьніку. Напэўна, гэта нейкая зусім іншая літаратурная ліга, далучыцца да якой я, бадай, ужо не змагу».

– І апошняе, – Есіп падняў вочы, каб пераканацца, што Імбрык увесь ператварыўся ў слых. – Зноў сучаснікі. Бахарэвіч напісаў у каментах Шупу:

«Гарэцкі ў "Дзвюх душах" раскрыў сваю асабістую рэальную гісторыю, гэта бясспрэчна. Гэта ён быў тым падмененым у немаўленстве шляхцюком. А Кафка, Гашак, Джойс, Бунін і іншыя напісалі з гэтага свае творы. (Пройдзе яшчэ паўсотні гадоў, і на "Дзвюх душах" вырасце цэлы свой Балівуд:)) Ну канечне, засланыя палітрукі з усёй іхняй вузкалобасцю, злосцю і некаленапрыклонствам перад Захадам будуць нам зацята даказваць, што Джойсы-Буніны-Кафкі Гарэцкага не чыталі. Але чаму яны ўсе растуць з яго, як з гогалеўскага шыняля? Загадка прасторы і часу! Будзьма са сваім».

Есіп стараўся вытрымаць эфектую паўзу як найдалей, але Імбрык гэтым разам яму не падыграў.

– Толькі ж гэта містыфікацыя, не? Гэта ўсё сам Дубавец і прыдумаў? – сказаў ён, страчваючы надзею.

– Акадэмік Радзім Гарэцкі, пляменнік пісьменніка, таксама зрабіў такое дапушчэнне, – лектарскім тонам сказаў Есіп. – На нейкай канферэнцыі ці ўрачыстасці з нагоды дзядзькі ён з гонарам і радасцю цытаваў тэкст Дубаўца. Пасля нехта адвёў яго ў бок і акуратна намякнуў на легкавернасць, ну ці як гэта намякаюць акадэмікам, не ведаю. Ясна, што акадэмік Радзім зараз жа ўскіпеў не на жарт, як той вулкан, і выбухнуў артыкулам у апазіцыйнай газеце: ды як жа так, ды дзе ж сорам, ды дзядзька быў самы-прысамы рэаліст-прарэаліст! Хоць, дарэчы, у апошнім сцверджанні снарад другі раз патрапіў у тую самую варонку. Максім Гарэцкі быў унікальным містыфікатарам. Згадаць тую ж кніжку «Адвечным шляхам», якую ён напісаў прычэпам пасля «Дзвюх душ» і якая загадкавым чынам прыпісваецца сёння Ігнату Канчэўскаму, дый шмат чаго яшчэ.

– Але...

– Але далей самае цікавае, – уваходзіў Есіп у азарт. – Успомні, з якім захапленнем цытаваў акадэмік Радзім тыя лісты пісьменнікаў, імёны якіх ва ўсіх на слыху. Ягонага сярмяжнага дзядзьку, якога дагэтуль ён сам, акадэмік, у глыбіні душы залічаў да выдатных, але ўсё ж беларускіх пісьменнікаў, то бок сваіх, працягні руку – памацаеш, ясна, што да сусветных высотаў яны не дацягваюць, бо проста не могуць дацягваць, як і ўсе мы тут, акадэмікі, як і ўся наша Беларусь з яе мовай і культурай... Дык вось, гэткага ягонага дзядзьку абмяркоўваюць пісьменнікі першае велічыні! Проста шок! Пра нашага Гарэцкага кажуць Рэмаркі з Джойсамі, ды так пераканаўча кажуць і з такой павагай... Ушчыкніце мяне, ці я сплю?.. У момант цытавання акадэмік Радзім быў самым шчаслівым чалавекам на свеце, нібы споўніліся тры ягоныя самыя запаветныя жаданні.

– Тры жаданні?.. Цікава, – пачынаў астываць Імбрык, ягоная цікавасць да тэмы згасала. – Але ж Дубавец пашырае невуцтва, а вы лічыце яго ледзьве не асветнікам.

– Невуцтва ў іншым, – сказаў Есіп. – Калі б акадэмік Радзім у той самы шчаслівы момант цытаваў Дубаўца як Дубаўца, як ягонае эсэ ці як верш, была б проста музыка і не трэба было б пасля махаць кулакамі ў апазіцыйнай газеце. А ён яго прачытаў, зразумеў і цытаваў як нейкую дысертацыю. І рабіў гэта таму, што ўнутрана не настроены на музыку – як нешта не менш сур’ёзнае і важкае, чым усе гэтыя скрыпучыя запыленыя дысертацыі, якім ён прывык безумоўна верыць. Бо калі ўдумацца, цытаты славутых пісьменнікаў – гэта вершы, а вершы апелююць да эмоцыяў, а не да фактаў. Так можна ўварвацца на “Сезоны” Вівальдзі, паслухаць “Лета” і абурыцца: дзе тут лета? Якое вам лета? Няхай аўтар адкажа... Нас, дарэчы, дырэктар запрасіў сёння ў Рудальфінум, акурат на “Сезоны”. Гэта начныя канцэрты.

Імбрык канчаткова заблытаўся. Праўду кажучы, яму бліжэй была пазіцыя акадэміка, чым Есіпа і Дубаўца. Адно крыху бянтэжыла, а гэта бянтэжыла яго часцяком, – ён адчуваў небяспеку выглядаць лохам. Не такім ужо дасведчаным ён быў у вершах і ў музыцы, надта яно ўсё падавалася яму няўчэпным, эфемерным і па выніку бескарысным. Зямное было бліжэй.

«З іншага боку, як тады быць з вялікімі, – думаў Імбрык. – Есіп жа слушна кажа пра “сярмяжнага дзядзьку”, які пры такіх адносінах да ўсяго свайго ніколі не будзе прызнаны вялікім. Пры ўсім сваім велічэзным на тое патэнцыяле і праве. І “сярмяжны дзядзька”, і хто заўгодна іншы з беларусаў для саміх беларусаў ніколі не будзе вялікім. Бо яго можна

памацаць рукой. Нізкая самаацэнка вінаватая – чалавечая, нацыянальная, культурная. І што з гэтым рабіць? Можа быць, шлях містыфікацыі, які абраў Дубавец, якраз нармальны, тое, што патрэбнае сёння, хоць у ранейшых пакаленняў і не прызнаецца за нармальнасць. Як той жа мой кар'ерызм, які яны асуджаюць, а я бачу ў ім усяго толькі незаменны і карысны інструмент».

– А наша ўяўленне пра саміх сябе і пра іншых? – працягваў Есіп. Чамусьці надта яму залежала на тым, каб адстаяць пазіцыю Дубаўца. – Таксама містыфікацыя! Колькі людзей, столькі меркаванняў і ніводнае не адназначна слушнае. Урэшце, і наша рэальнасць таксама. Адкуль гэтыя сцверджанні, што ўсё, што адбываецца, адбываецца ў маёй галаве? Адсюль. Не містыфікацыя – вось гэты жалезны стол на тэрасе, – Есіп некалькі разоў ударыў даланёй па стальніцы. – Бо ўсе гатовыя пагадзіцца, што гэта жалезны стол на тэрасе. Усё. Але гэта ўжо і не літаратура.

«Логіка, вядома, жалезная, не паспрачаешся, – разважаў Імбрык, у глыбіні душы адчуваючы, што і жаданне стаць вялікім нясе ў сабе нешта містычнае, як і сама веліч – вякамі наслоеная сума легендаў і паданняў».

## 04. Перад выхадам у горад

– Я не люблю пляжы, бо на іх трэба ляжаць, – казаў Есіп. – Але некаторыя вылежваюць там сваё жыццё. І яны больш паспяховыя за нас з табой, Імбрык. Яны ляжаць, а справа ідзе. Ці ты любіш валяцца на гэтым пяску?

– Не ведаю. Здаецца, не люблю, бо не валяюся.

Тэраса й сапраўды нагадвала пляж. У добрае надвор'е тут заўсёды было поўна народу, руху, гучныя размовы, крыкі, смех. Пры жаданні можна было нават уявіць сабе, што ўсе гэтыя людзі гуляюць у валейбол. Ну проста Хургада нейкая. І навокал – арабы, персы, прадстаўнікі паняволеных народаў Расеі. Саміх расейцаў хапала таксама. Адно што расейцы на Радыё Салярыс зусім не такія, як у Хургадзе, можна нават сказаць, адваротныя. Яны тут прыцішаныя, падкрэслена незаўважныя і папераджальныя.

Рознакаляровая шматаблічнасць людзей на тэрасе ўзмацняе пляжныя адчуванні, што праўда, людзі тут не купаюцца, а за столікамі ядуць, кураць, гамоняць, проста швэндаюцца і моўчкі назіраюць адны за аднымі. Дакладней, праслізгваюць позіркам адны па адных, бо занадта актыўнае і прыцэльнае назіранне можа быць расцэненае як намёк. Справа тонкая, бо не заўсёды можаш вызначыць, дзе тая мяжа. Праўда, на твой прыязны наўпроставы погляд табе рэдка адкажуць спалоханымі вачыма. Тут не толькі расейцы, тут усе папераджальныя і праязныя. Салярыс – амерыканскае радыё.

Адчуванне пляжу не знікае ад таго, што тэраса выходзіць не на мора, а на могілкі. Бясконцае варушэнне густых старых кронаў заварожвае, як бег вады, як агонь, як плынь аблокаў у небе.

Есіпу за пяцьдзясят і ён, стаўшы некалькі гадоў таму самотным, сярод тых, хто падглядае за іншымі, найбольш актыўны. Ён «у пошуку». Імбрыку за дваццаць і ён разумее, што мусіць паводзіцца так, як Есіп, для хутчэйшае адаптацыі, але ўсведамляе і тое, што ў будучыні гэта не ягоны ўзровень. Каб дасягнуць мэты і стаць вялікім, яму трэба рухацца далей, а гэта значыць, што яшчэ не раз трэба будзе «злізваць» паводзіны з іншых людзей на больш

высокіх прыступках ягонае пазітыўнае кар'еры. Што да Есіпа, дык Імбрыку ўжо не хочацца яго «злізваць», ён адчувае, што перарос ужо яго і ўсё часцей прыглядаецца не да Есіпа, а да дырэктара іхняе службы.

– Чалавеку заўжды цікавей выглядаць да сябе падобных сярод да сябе падобных, – разважае Есіп. – Калі не выглядае або завешвае фэйсбук коцікамі, лічы, што паставіў на сабе крыж. А трэба неяк красавацца самому і атрымліваць задавальненне ад красавання іншых, бо такімі стварыла нас прырода.

Імбрык ужо ведае, што ён жартуе. Дакладней, іранізуе. Прычым гэта іронія з яго, з Імбрыка.

У адрозненне ад сямейных калег-аднагодкаў, якія любяць разважаць і ахвотна абмяркоўваюць свае пенсіі і будучую старасць, Есіп бунтуецца супраць уласных гадоў і, маючы ўнукаў, раздражняецца, калі яго называюць дзедам. Вядома, ён імкнецца хаваць сваё раздражненне, але ўдаецца яму гэта дрэнна, калі ён кажа, напрыклад, што «дзед той, які з барадой сядзіць на пяньку і прамаўляе глупствы, а ў мяне ні барады, ні пянька, ні глупстваў».

– Акурат нядаўна мы ездзілі на поўдзень Чэхіі глядзець стары замак, – кажа Есіп. – Тут зрэдку бываюць такія калектыўныя выезды. А гэтым разам да нас далучыліся Гена Мацур і Слава Ракіцкі з Менску. Усе запяцьдзясятнікі, пярэстаркі, як ты кажаш. І зайшла гаворка пра ўзрост, пра тое, што сёння ў жыцці чалавека з'явіўся новы перыяд, якому пакуль няма назвы. З'ява ёсць, гэта ўсе прызнаюць, а найменне няма. Маленства, юнацтва, маладосць, сталасць, старасць. Гэты стэрэатыпны шэраг складаўся вякамі, таму шмат хто пачуваецца разгубленым – чаму ўсё гэтак змянілася менавіта на нашым пакаленні. «Мама, што рабіць?! Мне пяцьдзясят... А я такі самы твой хлопчык, якім быў заўсёды, здаецца, толькі ўчора школу скончыў, ўнівер... І ў нашым аддзеле ўсе такія ж – хуліганы і каб паржаць. А тут бац! Пяцьдзясят. Ма-ма!», – працытаваў Есіп нешта, мабыць, фэйсбучнае і працягваў. – Раней, яшчэ за нашымі бацькамі, старасць пачыналася дзесьці пасля 45-ці. А сёння яна рэальна пачынаецца хіба што пасля 70-ці. Ну вазьмі тых Ракіцкага з Мацурам, я іх ведаю трыццаць гадоў, і нішто ў іх не змянілася, такія самыя «хуліганы і каб паржаць». Дык вось. Невядома адкуль узніклі гэтыя дадатковыя 25 гадоў, якім традыцыйнай назвы няма. Ужо нібыта і не сталасць, бо колькі ж можна, але, паводле ўсіх прыкметаў, яшчэ і не старасць. Здаецца, Барыс Акунін назваў гэты час «дэсертам жыцця». Але гэта паэзія. Ёсць і яшчэ нейкія прыдумкі назвы як бы больш празаічныя. «Шматгадовікі», напрыклад. Ці «безузроставікі». Але наўрад ці яны прыжывуцца паміж сталасцю і старасцю. Не той алгарытм. Вось як цябе агукаюць на вуліцы ў Менску?

– Малады чалавек. Мужчына, – сказаў Імбрык.

– Мяне таксама. І, па вялікім рахунку, уся розніца паміж намі ў тым, што табе больш падабаецца «мужчына», а мяне цешыць «малады чалавек», быццам нічога і не змянілася, – сказаў Есіп. – Хоць гэта можа быць і вельмі вялікая розніца, – ён зрабіў паўзу. – Я ў пошуку. Што зробіш, гэта жыццё. А які табе дзед – у пошуку?.. Дзед – калі ўжо ўсё знайшоў і спыніўся. Устаў на прыкол. Прысеў на пянёк.

Сонца стаяла ў зеніце, абеднікі змянялі абеднікаў – кожны паводле свайго гарманаграму, АМ памянялася на РМ. Імбрык ужо зразумеў, што

«інструктаж» Есіпа не мае нічога агульнага з урокамі пажарнай бяспекі ці перадачаю навыкаў журналісцкага майстэрства. Час, які яны бавілі на тэрасе, быў насамрэч напоўнены не самым прыемным станам, чаканнем. Чаго? – Імбрыку было няўцямна, дый не так і важна. Ён разумеў, што мусіць прамінуць гэты дзень, і адразу ўсё стане па-іншаму. А «пакуль» непазбежна скончыцца. Магчыма, яны чакалі нейкага сігналу, які мусіць падаць ім дырэктар? Напрыклад, калі недзе ў аддзелах дааформяцца паперы пра залічэнне Імбрыка на працу ці нейкае начальства прыме нейкае рашэнне? А можа, крыху пабойваўся Імбрык, сігнал мусіць сыходзіць ад яго самога, калі ён да нечага саспее, нешта скажа і ўсе зразумеюць, што ён да чагосьці ўжо гатовы? І гэта прагучыць як пароль, з якім яго пусцяць на касмічную станцыю і прызнаюць за свайго астранаўты? У гэтым варыянце была поўная невядомасць, і таму ён крыху палохаў. Так бывае, калі звяртаешся па падказку да ўласнай інтуіцыі, а яна маўчыць. Адно было зразумела, што сігналу не мусіла быць ад Есіпа, які ўсяго толькі запаўняў час чакання сваімі неабавязковымі размовамі.

– А Кафка вялікі? – спытаўся Імбрык.

– Напісаў няшмат, па жыцці дзівачыў, кніжкі не тоўстыя і сам як жэрдка... – усміхнуўся Есіп. – Ну каму ён вялікі? Немцам? Аўстрыякам? Чэхам? Габрэям? І ў чым, скажы мне, ягоная веліч? Ён важкі аргумент для турбізнесу, напэўна ж прыносіць вялікія грошы. Паўсюль, дзе ты ні пойдзеш у Празе, абавязкова сустрэнеш ягоны твар у самых розных стылізацыях. Помнікі, музеі, нават скульптура Кафкі, які сікае ў розныя бакі, ёсць. Кафка лепш надаецца да Глёбусавай кваліфікацыі беларускіх паэтаў: Купала вялікі, а Багдановіч любімы. Лічы, што Кафка – гэта пражскі Багдановіч, любімы.

«Ну вось, колькі часу патрачана, каб разабрацца з вялікімі, адшукаць іх у сябе і ў сабе, а тут на табе, – расчаравана ўздыхнуў Імбрык. – Для таго, каб беларусы паўсталі як мадэрная нацыя, у іх павінны быць свае вялікія. А тут яшчэ нейкія любімыя аднекуль узяліся».

– Заўваж, – нібы суцяшаў яго Есіп, – калі б тады ў дзяцінстве ты на пытанне дарослых казаў «хачу быць любімым», усё было б па-іншаму. Праўда, ты б не зрабіў кар'еры. Любімыя кар'еры не робяць, толькі вялікія, і тое калі пашанцуе. Асабіста мне больш даспадобы любімыя. Яны не абавязкова толькі паэты. Яны яшчэ і гарадскія вар'яты, і проста ўсім вядомыя людзі, якія пасля становяцца сімваламі і знакамі, між якіх хочацца жыць. Любімы Кафка, які пісаў даволі змрочную прозу, зрабіў, тым не менш, так, што для многіх сваёй і любімай стала Прага – яе палюбілі праз яго. Мне гэта больш даспадобы, таму што любімымі не бываюць забойцы, дыктатары і д'яблы. Калі б я быў сацыёлагам, праводзіў бы рэйтынгі любімых, а не вялікіх, персанажаў гісторыі і культуры. Каго б тады расейцы паставілі на першае месца? Пушкіна, хутчэй за ўсё. Але не Сталіна.

– Я б паставіў Грабеншчыкова, – сказаў Імбрык.

– Але ж ты не расеец, – Есіп ізноў дастаў свой нататнік. Інструктаж дык інструктаж. – Любоў да Кафкі прыносіць немалыя рэальныя грошы, але трэба разумець, што яна эфемерная, як і ўсякая любоў, і трымаецца на мітах, якія часта не маюць нічога агульнага з праўдай фактаў. У Дубаўца ёсць эсэ, у якім ён тлумачыць самыя папулярныя аблуды наконт Кафкі. Слухай, яно кароткае.

– Ізноў містыфікацыя? – спытаўся Імбрык, але схамянуўся, успомніў,

што ўсё ўвогуле містыфікацыя, апрача гэтага жалезнага стала на тэрасе. Есіп тым часам чытаў:

– «Знакаміты пісьменнік Франц Кафка (1883-1924) быў габрэйскага паходжання (і нават цікавіўся перасяленнем у Палестыну), пісаў свае творы па-нямецку, аднак нарадзіўся, усё жыццё пражыў і пахаваны ў чэшскай Празе. (Цікава вызначаць, чый ён пісьменнік. Калі меркаваць паводле ягонай уключанасці ў бізнес, дык найбольш і ў першую чаргу ён належыць чэхам. Калі сыходзіць з мовы, гэта атрымліваецца нямецкая літаратура. Што мяркуюць на гэты конт габрэі, я, на жаль, не ведаю). Кафка памёр ад сухотаў і ў запавеце прасіў сябра Макса Брода спаліць ягоныя рукапісы». Адчуваеш, першы матыў жаласці да Кафкі, матыў, з якога вырастае любоў?

Дык вось. «Міт першы. Калі б Макс Брод выканаў запавет, пісьменніка Кафкі папросту не існавала б. Але гэта няпраўда. Кафка і пры жыцці друкаваў свае творы ў прэсе і асобнымі кнігамі, меў прыхільнікаў і быў вядомы ў пражскіх літаратурных колах. Брод мусіў спаліць толькі адзін недапісаны раман “Замак”. Але ён яго апублікаваў».

– Дарэчы, – падняў Есіп вочы ад нататніка, – варта было б папрасіць каментар да гэтай сітуацыі ў акадэміка Радзіма, ці слушна Брод зрабіў ці не. На маю думку, «Замак» адзін з найлепшых твораў Кафкі, класіка сусветнае літаратуры, яго вывучаюць на ўсіх філалогіях. Але як расцаніць учынак Брода? Як хлусню ў імя дабра ці нешта такое? І што б мы мелі, калі б Брод не парушыў запавету? Нічога. Як не маем і тых лістоў Акутагавы і Камю, дзе яны пішуць пра Гарэцкага. Думаю, тэма вартая яшчэ аднаго адлупу ў апазіцыйнай газеце, – горка пасміхнуўся Есіп. – Але слухай далей:

«Міт нумар два. Дзеля хваробы і ранняе смерці Кафку прынята любіць і шкадаваць, таму выснова: Кафка быў бедны. А што насамрэч? Паходзіў з сям'і багатага камерсанта, вучыўся ў прэстыжных школах, жыў усё жыццё ў самым цэнтры старой Прагі. Дазваляў сабе здымаць кватэру на Златай вулічцы – як рабочы кабінет пісьменніка (дзеля цішыні і спакою, не выносіў, калі недзе скрыпяць дзверы). Можна сабе ўявіць, колькі гэта каштавала ў такім месцы. Ездзіў па Еўропе, у тым ліку ў санаторыі і на спатканні са сваімі каханкамі. Урэшце, працаваў на добра аплатнай працы.

Міт нумар тры. Кафка не ведаў шчасця кахання. Ну, каб існавала такая шкала вымярэння гэтага самага кахання, думаю, мала хто б яму дараўнаў. Прынамсі, заняты ягоны розум быў гэтай справай на ўсе сто. Так, уласнай сям'і і дзяцей ён сапраўды не меў. Але чаму? Выключна з-за свайго характару. Іншы раз заручаўся, пасля перадумваў, ізноў перадумваў і гэтак далей. Словам, напрацягу жыцця меў некалькіх заручоных.

Чацвёрты міт. Кафка – хворы. Паводле асацыяцыі з Багдановічам, калі сухотнік, дык табе капцы. Ледзьве не ад нараджэння. Але як было насамрэч? Да апошніх двух гадоў свайго жыцця хворым Кафка не пачуваўся дакладна. Улетку быў заўсёднікам гарадскіх пляжаў, а круглы год ягоную высокую постаць можна было сустрэць на шпацырах дзе заўгодна па ўсё Празе. Шпацыры па горадзе не мусілі быць карацейшымі за дзве гадзіны.

І апошні міт, нумар пяць, зусім жаласлівы. Калі б не літаратура і напісаныя ім творы, свет ніколі б не даведаўся пра Кафку. Аказваецца, нават гэта няпраўда. Працуючы ў страхавой кампаніі, Кафка бясконца вёў справы пра траўматызм работнікаў. Прага тады моцна разбудоўвалася, і выпадковыя цагліны часцяком падалі работнікам на галаву. І таленавітаму страхоўшчыку

прайшла ў галаву ідэя жорсткай каскі для работнікаў (такія й цяпер носяць на будоўлях). Ідэю ўкаранілі ў жыццё, смяротнасць адразу знізілася, і ў 1912 годзе Кафка як вынаходнік быў уганараваны залатым медалём».

– Цікава, як Дубавец можа адначасова выступаць то стваральнікам мітаў, то іх разбуральнікам? Калі, вядома, усё цяпер прачытанае праўда, – заўважыў Імбрык.

– Вось менавіта, праўда, – зірнуў на яго скосу Есіп, – ёсць праўда, аб'ектыўны факт, гэты самы жалезны стол, металічны, каб ужо зусім аб'ектыўна, і ёсць праўдападабенства – галоўны апорны матэрыял усяго мастацтва, які прымушае захоплена перагортваць старонкі рамана і плакаць над імі. Крычаць «Брава!» на прэм'еры спектакля. Нервова жаваць папкорн у кіназале...

З дзвярэй у дзверы тэрасы міма іх спешным крокам прайшоў дырэктар: «Пара ў горад, джэнтльмены!» Яны згодна кіўнулі. І Есіп працягваў з ранейшым запалам:

– А ці стане нехта жаваць папкорн і плакаць над дысертацыяй па мінералогіі ці ад сузірання гэтага металічнага стала? Ясна ж, не. Бо ў аснове мастацтва ляжыць праўда, прадстаўленая аўтарам такім чынам, каб апеляваць у першую чаргу да эмоцыяў, а не да логікі. Такую праўду і называюць праўдападабенствам – і ацэньваюць твор па тым, наколькі гэтае падабенства ўдалае. А цяпер скажы мне, чым такая праўда адрозніваецца ад містыфікацыі?

Усё раптам ператварылася ў сапраўдны інструктаж ды яшчэ з пытаннямі напрыканцы, да якіх Імбрык гатовы не быў. Па шчырасці, ён асабліва глыбока і не ўнікаў у сэнс таго, пра што казаў Есіп. У такіх выпадках найлепшы спосаб зрабіць выгляд, што пытанне было рытарычнае і адказаць на яго сваім:

– І якія высновы робіць Дубавец са свайго выкрыцця мітаў?

Есіп зірнуў на Імбрыка, пасля ў нататнік і прачытаў:

«Але, ясная рэч, што перадусім Кафку памятаюць як пісьменніка, як аднаго з самых праўдзівых празаікаў у сусветнай літаратуры. Памятаюць і нясуць на яго магілу ў Празе каменьчыкі».

– Адзін з самых праўдзівых... Дзіўнавата гучыць, – сказаў Імбрык. – Здаецца, ні пра якога пісьменніка я такога не чуў.

– Угу. Асабліва калі ўлічыць, што пісаў ён не дысертацыі па мінералогіі. Сакрэт у тым, што падабенства праўды часта бывае для нас больш важным і нашмат больш магутна ўплывае на нас, чым тыя дурацкія дысертацыі ці той металічны стол, – сказаў Есіп, калі яны выходзілі з прапускнога пункту Радыё на вуліцу, дзе з лязгатам паварочвалі ў розныя бакі трамваі.

## 05. На вуліцы

Палюбіць Прагу праз Кафку можна, але з той самай прычыны яе можна і разлюбіць. Калі ты прыехаў сюды, напоўнены духам «Працэсу» ці «Замка», а з'язджаеш, спустошаны назольным чарганнем пляскай матэрыі брэндавага імя і такога самага твару. Міжволі захочацца зноў схавацца ў кнігу. А калі не захочацца – яшчэ горш.

– Напэўна, беларусы палюбляюць Прагу ўсё ж не праз Кафку, – сказаў Есіп і паказаў Імбрыку на шэры будынак за высокай каменнай агароджай, які яны праміналі. – Гэта элітная габрэйская багадзельня. Мне распавядалі,

што тут багатыя суродзічы Кафкі з усяго свету чакаюць перасялення за агароджу Альшанскіх кладоў. Іхнія ціхія і дзіўныя працэсіі час ад часу назірае з вокнаў усё наша Радыё. Не ведаю, ці гэта ўплывае на журналістыку. А гэта «Дон Джавані», – паказаў ён на высокі ружовы хвалісты будынак без кутоў і без ніводнай роўнай сцяны. – Табе падабаецца Дон Жуан? Юра Дракахруст ходзіць сюды парыцца на 12-м паверсе. Нешта містычнае, як па мне, ёсць у гэтай парылцы пад самым небам. Мяне запрашаў.

– А вы не пайшлі? – безудзельна спытаў Імбрык, разглядаючы пяцізоркавы гатэль.

– Не пайшоў. Не сабраўся. Нешта спыніла, – намацваў адказ Есіп. – Можа, страх вышыні. А можа, прыгадаў раптам «Пры зачыненых дзвярах» Сартра, помніш?

– У ліцэі вучылі, не помню.

– У п'есе гісторыя такая. У адным пакоі сядзяць людзі, памерлыя людзі, усё адбываецца на тым свеце. Сядзяць, ім камфортна, папіваюць розныя напоі, балбочуць на розныя тэмы, яны спакойныя, расслабленыя, добра ім разам.

– Як вам? – спытаўся Імбрык.

– Магчыма. Але пакуль яны абціраюць знаёмых і свае дачыненні, успамінаюць, хто каго пакрыўдзіў, дакопваюцца да нейкіх прычын, высвятляюць, хто ва ўсім вінаваты, яны пачынаюць разумець: як жа яны ўсе тут адно аднога ненавідзяць! І нянавісць гэтая назапашвалася доўгія гады, яшчэ там, пры жыцці. Ім робіцца страшна, і ад гэтага пачуцці абвастраюцца. А пры тым пакой, у якім яны сядзяць-размаўляюць, зачынены на ключ. Выйсці немагчыма. Аднаму адмоўлена ў візе, другі перакананы, што яго пры перасячэнні мяжы заб'юць, трэцяму проста падабаецца тут і не падабаецца там, адкуль яны прыйшлі, чацвертаму лянiва пра ўсё гэта думаць. Але ж тут яны ненавідзяць адно аднога, спадзеючыся, праўда, як разумныя людзі, што здолеюць памяняць сітуацыю, што нянавісць удасца перамяніць на любоў. Часам ім і здаецца, што яны любяць адно аднога, прынамсі, яны шчыра хочуць верыць у гэта... Але ў п'есе – той свет, дзе нічога ўжо перамяніць немагчыма. І тут да іх даходзіць, што яны – памерлыя і патрапілі ў пекла!.. Каб вось так сядзець у зачыненым пакоі і ненавідзець адно аднога. Уяўляеш? І наперадзе вечнасць.

«Нічога сабе паралелі ў яго са сваімі калегамі. Пекла! Зрэшты, калі ніякага асабістага руху не адбываецца, дык і сапраўды можна, відаць, дадумацца да такога параўнання. Ён яўна перасядзеў на станцыі свой час», – падумаў Імбрык, а ўголас сказаў:

– Нечакана! Яны стварылі сабе пекла самі?

– Менавіта. Сартр ім стварыў. Ён лічыць, што большага пекла, чым людзі ўчыняюць сабе самі, ніхто іншы ім не зробіць, – сказаў Есіп, робячы крок на зялёны сігнал святлафора. – Табе ў слове «Сартр» не гучыць слова «чорт»?

Імбрык, які ішоў следам, ці то не дачуў пытання, ці то не меў схільнасці шукаць алітэрацыі.

– А пры чым тут саўна Дракахруста на 12-м паверсе гатэля «Дон Джавані»? – спытаўся ён.

– Калі сон – гэта рэпетыцыя смерці, чаму б саўне не быць рэпетыцыяй пекла?..

– Але ж вы не пайшлі ў саўну. Што тут робіце вы?

Яны прабіраліся праз скрогат трамваяў, сіпатыя выхлапы карчаватых гарадскіх аўтобусаў, праз чалавечы натоўп і рушылі далей. Усё ніяк не сканчалася каменная агароджа Альшанскіх могілак, пачаліся шапікі з садавіной-гароднінай, да ўсяго дадавалася атмасфера кірмаша. Есіп спыніўся і, закурваючы, сказаў:

– Ужо амаль нічога. Аднойчы я схадзіў праверыць дзверы. Аказалася, яны адчыненыя. Геніяльны Сартр прадугледзеў і гэта. Дзверы адчыненыя, але тыя людзі, героі п'есы, яны павязаныя сваім пеклам і ніколі не выйдуць з пакоя, настолькі моцна яны злепленыя міжсобку сваёй нянавісцю.

– А вы можаце зліняць?

– Са страшнай сілай. Толькі пакажу табе Прагу, – сказаў Есіп, і яны рушылі далей па Вінаградскай.

– А праз што беларусы палюбляюць Прагу? – спытаўся Імбрык. – Вось вы, напрыклад. Вы яе любіце?

– Кажуць, прыгожы горад, – сказаў Есіп, – шмат старых будынкаў засталося... Мала хто пры гэтым думае, куды ж падзяваліся прыгожыя старыя будынкі ў Менску. Там крыху іншая канфігурацыя, але спрошчана кажучы, тая ж Прага. Была. Да вайны. А пасля вайны тыя будынкі не рамантавалі, а папросту знеслі. І вось была ў мяне такая тэорыя. На сялянскі розум, нішто старое каштоўнасці мець не можа, бо трухлее, гніе, шашаль точыць. Ну што за прыгажосць у старой паўразваленай хаце? Трэба яе знесці і паставіць новую, светлую, хіба не? Хто з гэтым не пагодзіцца. А пасля вайны хто засяліў Менск? Учорашнія сяляне. Яны ўсё старое знеслі і забудавалі новым. А ўжо іхнія гарадскія дзеці і ўнукі едуць у Прагу і захапляюцца старымі прыгожымі будынкамі. – Есіп так глыбока задумаўся, што аж спыніўся. Пасля махнуў рукой і рушыў далей. – Але гэта занадта спрошчаны адказ на тваё пытанне. Калі ўсё зваліць на сялянскі менталітэт. Сяляне маглі не цаніць старое, але прыгожае то яны цаніць мусілі, праўда? Куплялі маляваныя дываны ў Драздовіча і Кіш акурат пасля вайны, вешалі на сцяну. Песні спявалі прыгожыя. Вянкі сплялі. Пралі, ткалі, вышывалі. Убіраліся пры нагодзе па-святочнаму. Ліштвы рабілі разьбяныя... Таму адказ мусіць быць іншы. Улада ў Беларусі 200 гадоў не была сваёй. Пры тым гэта былі недастаткова адукаваныя і выхаваныя, дзікаватыя людзі. З барбарскай ментальнасцю. І старыя прыгожыя будынкі Менску былі для іх не толькі чужыя, яны абуджалі ў іх падлеткавую ярасную радасць руйнавання. А да ўсяго яны строга выконвалі ўказанні сваёй партыі. «Весь мір насілья мы разрушім до основанья, а затем...» – спявалася ў іхнім гімне, і галоўнае тут было «мір» і «разрушім», а не «насілья», бо яны самі «насільем» і былі.

– У вас цэлы ўнутраны дыспут адбыўся, – сказаў Імбрык, калі яны падышлі да разложыстага гмаху «Флоры». – Але пра сябе асабіста вы нічога і не сказалі.

– Давай пачнем з піва, – змяніў тон Есіп. – У Празе не прагнуць піва – гэта як абразіць саму Прагу. Некаторыя адмыслова прыязджаюць сюды з Менску, каб зрабіць піўны трып, а не глядзець на прыгожыя будынкі. Найлепшае піва ў Люцэрне. Прынамсі, так кажа Слава Ракіцкі. Але мы туды дойдзем не хутка, не дацерпім. Таму пачнем проста з любой першай установы, дзе ёсць «Пльзень». Вось, глядзі – «Restaurace na křižovatce».

Яны перайшлі вуліцу за гмахам «Флоры» і паселі пад парасонамі першай кавярні, што мясцілася на рагу. Паважнага веку чэх-афіцыянт радасна

вітаў іх на ўваходзе: «Were are you from?» – «Мы з Беларусі». – «А, знаю. Мінск, красівые девушкі!»

– Не здзіўляйся, у старэйшых чэхаў гэта першая асацыяцыя, – размясціўся на лаўцы Есіп і пачаў: – з Менскам... у мяне ў дзяцінстве былі вельмі блізкія дачыненні. Я ведаў усе ягоныя пахі кожнай парою, усе адценні, водбліскі, таямніцы. Ведаў, што робіцца ў дварах, у пад'ездах, на паддашках і ў бамбасховішчах. Мы жылі на Круглай. І я быў з тых хлопчыкаў, якія рэдка сядзяць дома, бо ўвесь час недзе «лазяць». Найперш, «дзе не трэба», вядома ж. Асабліва мне падабалася ўдыхаць Менск праз фортку – смог і свежасць утваралі дзіўную сумесь, ад якой цяжка было адарвацца, нібы таксікаману. І я чуў унутраную музыку Менску, якая зразумелым чынам была і мая музыка, бо гучала і ўва мне. Як гэта назваць? Вобраз, эфір, атмасфэра... Атмасфэрнасць. Дурацкае слова. Ок, няхай будзе вобраз, недакладна, але ладна. Вобраз дзяцінства. Пасля аказалася, што ён універсальны. Што ты можаш сустрэць і адчуць яго, зліцца з ім у самых нечаканых гарадах. Гэта як з чалавечай годнасцю – яна для ўсіх аднолькавая, але гадуецца толькі на пэўнай нацыянальнай глебе. Нядаўна я бачыў фільм, называецца «Мандарыны». Там стары эстонец гаворыць маладому чачэнцу: «Гэта я табе кажу, слова эстонца! – Гэта ты кажаш мне, чачэнцу? Гэта ж мы вядомыя тым, што памрэм, але слова не парушым. – Ды якая розніца, эстонец, чачэнец...» Такі там быў дыялог. То бок, калі казаць пра цвёрдасць слова, яна для ўсіх аднолькавая, і для эстонца, і для чачэнца, але ўзнікае яна не зніадкуль, а менавіта з іхняй эстонскасці і чачэнскасці... Добрае піва, замовім яшчэ па адным?

Імбрык кіўнуў, ягоны позірк блукаў па наваколлі і цяжка было зразумець, ці ён пераварвае пачутае, ці разважае пра нешта сваё. Есіп зрабіў замову і працягваў:

– Тое самае з вобразам дзяцінства. Ён нараджаецца ў тваім горадзе і ў тваёй душы, суіснуе адначасова і там, і там. Камусьці такая суладнасць даецца на ўсё жыццё, а хтосьці, такі, як я, пачынаю заўважаць, што ў горадзе Менску майго вобразу дзяцінства ўжо даўно няма. Нават цяжка з нейкіх урыўкаў водсветаў, пахаў, адценняў, музыкі скласці хоць бы фрагмент. Рэстаўраваць немагчыма, бо ў Менску яго папросту не стала. Ні на Круглай, ні ў дварах, ні ў пад'ездах, ні на ўзбярэжжы ракі. Я шмат дзе шукаў, але не знайшоў. Ён застаўся толькі ў маёй душы, разумееш? Чаму менчукі так любяць хаця б на дзень з'ездзіць у Вільню? Без усялякай мэты. Таму што ён там ёсць, і вобраз дзяцінства, які жыве ў душы, сустракаецца з вобразам, які жыве ў горадзе. Ад гэтага проста экстаз можна атрымаць. Аднойчы я нават у Лондане набрыў на менскі праспект майго дзяцінства. Ды што ў Лондане. Нават у Вашынгтоне выйшаў на такі самы праспект з тралейбусамі. А ў Менску гэтага ўсяго ўжо няма. Ёсць, натуральна, і дамы, і праспект, і тралейбусы, але духу майго дзяцінства няма. Што праўда, і Круглая ўжо не круглая, і ў дварах пабудавалі высоткі... Цяпер ты разумееш, што мяне жывіць у Празе. Аднак аднаго вобразу дзяцінства, як бы ён ні спрыяў твайму існаванню, для эміграцыі недастаткова. Я пра сябе кажу.

Яны памаўчалі, акурат прынеслі другое піва. Імбрыку захацелася змяніць тэму, і яго пацягнула на паказкі. Есіп з задавальненнем слухаў хіты сезону з Бацькаўшчыны. Паказкі былі пра сэнс жыцця. Асабліва Есіп смяяўся з першай.

«У цягніку ў адным купэ едуць святар і бізнесовец. Бізнесовец адкрыў ноўтбук, засяродзіўся, пачаў працаваць з дакументамі. Святар паглядзеў на яго, падумаў і кажа: – А ці не прагуляцца нам, сын мой, да вагона-рэстарана, паглядзець, што ў меню. – Не, бацюшка, я не галодны, – адказвае ўвесь заглыблены ў працу бізнесовец. Святар ідзе ў рэстаран адзін. Праз гадзіну вяртаецца расслаблены, задаволены, усміхаецца, у руцэ бутэлька каньяку: – А ці не пакаштаваць нам, сын мой, гэтага пяцізоркавага напою? – Не, бацюшка, прабачце, я не п'ю, – адказвае бізнесовец, ён увесь у працы, яўна падганяе дэдлайн. Святар налівае сабе шклянку і са смакам выпівае. Выцірае вусны, выходзіць у калідор. Мінае пятнаццаць хвілінаў, і святар заходзіць назад: – Праз адно купэ ад нас, сын мой, дзве маладыя міранкі едуць. Можа, зазірнем да іх на госці, пагаворым пра высокае? – Не, бацюшка, я жанаты, і з дакументамі працаваць трэба, – кажа бізнесовец і зноў заглыбляецца ў ноўтбук. Святар бярэ са стала адпітую бутэльку каньяку, выходзіць. Вяртаецца ўжо пад раніцу, задаволены, як марцовы кот. Зморены бізнесовец, які ўвесь гэты час працаваў з дакументамі, падымае на яго вочы: – Скажыце, святы айцец, як жа так? Я вось не п'ю, не куру, трымаю маральнае аблічча. Працую як вол. Няўжо я няправільна жыву? – Правільна, сын мой, – уздыхае святар. – "Но зря"».

Адсмяяўшыся, Імбрык, каб не губляць спрыяльнае ўвагі, адразу перайшоў да наступнай показкі:

«Памірае чалавек, трапляе да Бога і кажа: – Маю, Божа, толькі адно пытанне. Я пражыў доўгае жыццё ды так і не зразумеў, у чым быў ягоны сэнс? – Табе напраўду трэба гэта ведаць? – пытаецца Бог. – Вельмі трэба. – Добра, сын мой, я раскажу... Помніш, у 1973 годзе ты ехаў у цягніку Адлер-Рыга? – Э-э... ну... – І ў купэ ты пазнаёміўся са спадарожнікамі. – Напэўна... – І вы разам пайшлі ў вагон-рэстаран. – Так... – І за суседнім столікам сядзела жанчына. – Цалкам можа быць. – І яна папрасіла цябе перадаць соль. – Ну... – І ты перадаў ёй соль. – Перадаў. – Ну дык і вось!»

Імбрык зноў гучна рагатаў – так, як, ён чуў, рагочуць на тэрасе Радыё, а Есіп толькі ўсміхнуўся і пасля, наадварот, зрабіўся сур'ёзным. Што прымусіла Імбрыка пасур'ёзнець таксама.

– Насамрэч, гэта мой жыццёвы план, – сказаў ён, – каб «не зря» і каб усё не звялося да ідыёцкага «перадаць соль».

Есіп маўчаў, разглядаючы салонку ў сваіх руках, пасля сказаў:

– Гэта не ідыёцкае... Я так думаю. Гэта вельмі глыбокая прыпавесць. Бо ў гэтым і ёсць сэнс, сутнасць, соль жыцця – перадаць энергію. І ўсё, што мы робім сэнсоўнае, гэта калі мы перадаем соль. Тут цябе ўводзіць у зман тое, што ў сітуацыі з героем показкі ўсё выглядае знешне мімалётна, у нейкім даўно забытым эпізодзе, але гэта ні на што не ўплывае. Сэнс застаецца сэнсам. Згадай банальнасць пра пасадзіць дрэва, нарадзіць дзіця, збудаваць дом... Гэта ўсё перадача энергіі. Ты гэта робіш, і ток бяжыць па гэтым чалавечым варушэнні далей...

Болей піва ім не хацелася, Есіп заплаціў, і яны пайшлі па Вінаградскай далей, у бок Вацлаўскай плошчы.

– Ты жывеш заўсёды для таго, з кім ты жывеш, каму перадаеш энергію і хто перадае энергію табе, – працягваў разважаць Есіп. – У гэтым сэнс жыцця. Калі ты адзін, у тваім жыцці няма сэнсу. Пакуль ты толькі пачынаеш, толькі выйшаў на дарогу і перад табой шырокі свет, ты не заўважаеш гэтага. А я ўжо ведаю іншую сітуацыю, калі ты пражыў нямала гадоў, і

раптам той, хто жыве з табой побач, для каго ты жыў, знікае. Ты застаешся адзін, як электрод, які працуе, але без пары робіць гэта ў пустату.

– А калі змагаешся за адраджэнне... Не, не так. Русіфікацыя – гэта ж таксама перадача энергіі? – спытаўся Імбрык.

– Не, гэта наадварот – як забойства, як выключыць ток. У такім выпадку мы перастаем быць народам і як народ ужо не перадаем энергію, страчваем сэнс існавання. Мы ўжо не даем свету людзей, надзеленых чалавечай годнасцю, як тыя эстонец і чачэнец. Ясна, што мы супраціўляемся, не хочам стаць дрэвам, якое не прыносіць плода, не хочам, каб нас, як дровы, кідалі ў топку...

– А вы заўважылі, што вуліца ўвесь час ідзе ўніз? – спытаўся Імбрык.

– Ага, – усміхнуўся Есіп, – і я па гэтай вуліцы кожны дзень шмат гадоў хаджу на працу і з працы. Сорак хвілінаў. Цяпер і ты так будзеш рабіць, калі захочаш. У Празе няма вуліц, якія б ішлі не ўверх ці ўніз. Гэта ўзгорысты горад.

Есіпу не хацелася чарговы раз раздражняцца з наіўнай бесцырымоннасці Імбрыка. Можа, гэта піва так падзейнічала, а можа і хуткая змена жыццёвых абставінаў схіляла не рабіць рэзкіх крокаў. Пакуль. У такіх выпадках звычайна Есіп мяняў тэму.

– Пра топку... «Бьётся в тесной печурке Лазо», – нечакана заспяваў ён. – Была такая хохма ў маім школьным юнацтве. Злыя дзеці з савецкіх герояў смяяліся, што тут скажаш. Лазо ў паравознай топцы спалілі японцы. Ты за каго, за луну ці за сонца?

– За сонца, якая яшчэ «луна»? – Імбрык адчуў, што пачаўся пінг-понг і з азартам адбіў мячык.

Есіп лупіў у адказ:

– Значыць, за праклятага японца. Лазо быў бесарабскі бальшавік. Што ён рабіў у тых японцаў, ніхто не ведае, але вуліца яго ў Менску ёсць.

– А калі за «луну»? – адбіў мячык заінтрыгаваны Імбрык.

– За савецкую страну. Калі ўдумацца, ідэалагічная бомба. Чаму гэта савецкай стране не сонца свеціць, а месяц? Але такі прынцып прапаганды – закладай адваротны сэнс, і лепшы эфект будуць мець рыфмы.

Імбрык тым часам знайшоў Лазо ў сваім айфоне:

– Пішуць, што з ім разам спалілі яшчэ двух чалавек, але што ён і адзін рэальна не ўлез бы ў паравозную топку. Нічога не зразумела. Словам, поўная фігня.

«Патыхае ўсё гэта нейкім савецкім касмапалітызмам, – думаў Імбрык. – Чыстая энергія. Народу патрэбная ярка афарбаваная нацыянальная асвета, народ трэба настройваць супраць антыбеларускага рэжыму, дамагацца рэальнай беларусізацыі і незалежнасці Беларусі. Якая можа быць чыстая энергія. Чыстая ад чаго? Відавочна, Есіп скурвіўся ў Празе. Стаў думаць пра ўсякую несінецыцу і пустату. Да таго ж састарэў. А мы, моладзь, мы жывем сучаснасцю і робім у тых формах, якія зразумелыя моладзі, а не гэтым пярэстаркам. На цябе, наша моладзь, надзея, – пісаў Купала! Ай».

Раздражнёны Імбрык, тым не менш, захоўваў вызначаную лінію паводзінаў. Ён ведаў, што яны ідуць на кватэру да Есіпа, пасля на нейкі мост і яшчэ нейкі канцэрт. А паколькі рашэнне на ліквідацыю было прынятае, трэба было толькі чакаць зручнага моманту, каб дапамагчы Есіпу зрабіць так, каб яго больш не было ні ў беларускім адраджэнні, ні на беларускім радыё, ні ў Імбрыкавым жыцці. Мэта падавалася Імбрыку настолькі

важнай і высакароднай, што нават злуючыся на Есіпа, ён не страчваў пазітыўнага настрою.

– А якія былі тры чароўныя жаданні акадэміка Радзіма? – атакаваў ён з нечаканага боку.

– Не ведаю, – сказаў Есіп. – Ды гэта не так і важна. Калі ён чытаў цытаты славутых пісьменнікаў і шчыра ў іх верыў, у гэты момант ён адчуваў, што збываюцца нашмат большыя жаданні, чым ён мог сабе загадаць і пра што звычайна просяць залатую рыбку.

– Цікава... Можаш загадаць самае-самае, а збываецца яшчэ больш самае... – сказаў Імбрык. – А што б вы папрасілі?

– Тры чароўныя жаданні? – Есіп задумаўся. – Быць вялікім дакладна не хачу. Хаця...

Яны праходзілі міма пляцу Ежэго з Падэбрад, і Імбрык утаропіўся ў дзіўную стэлу тутэйшага сабора з велічэзным гадзіннікам – такой архітэктуры яму яшчэ бачыць не даводзілася. «На сервант падобны», – адзначыў сабе Імбрык.

– На гадзіннік, – запярэчыў Есіп. – Гэта і ёсць сабор-гадзіннік... Такім чынам, тры чароўныя жаданні... Першае, напэўна, гэта час. Хачу жыць у добрай форме столькі, колькі захачу.

– Як гэта? А пасля што? Ці пасля не прадугледжваецца? Я шмат разоў і шмат ад каго чуў, што людзям у старасці часта надакучвае жыць. Але, кажуць, «жывым у зямлю не палезеш», – бліснуў Імбрык веданнем прыказак. Ён ішоў перад Есіпам задам-наперад і захоплена размахваў рукамі.

– Калі надакучыць, скажу, што проста болей не хачу. Вось так стану на месцы, – Есіп спыніўся, – і прамоўлю: «Стоп-машына! Болей жыць не хачу!»

– А калі такія словы вырвуцца выпадкова? Бывае ж такое. Да прыкладу, у запале? Ці ў цытаце?

– Думаю, там разбяруцца, – адказаў Есіп. – Гэта ж не выпадковасць, а сур'ёзнае рашэнне.

– Але ж універсальненька, – Імбрыку яўна спадабалася такая формула. Вось яно, сапраўднае чароўнае жаданне! Сам ён, бадай, замовіў бы сабе гадоў трыста ці пяцьсот. Але што як праўда надакучыць? З адкрытым канцом, безумоўна, лепей. Усё ж яны нармальна мудруюць на касмічнай станцыі. – А далей, напэўна, грошы? Мільён, мільярд, картка з неабмежаванай сумай?

– Гэта б мяне моцна абцяжарыла, – зноў паглыбіўся ў сябе Есіп. – Думай пасля, дзе захоўваць, як легалізаваць і каб валюта пасавала. Як не згубіць тую картку ці каб не скралі... Давай проста – каб заўсёды былі! Тэхнічны бок – не мая справа. Гэта ж чароўнае жаданне. Вось хачу нешта купіць, і бац, у мяне ёсць такая сума.

– Ух ты! І сто мільярдаў?

– І тысяча більярдаў, – перадражніў Есіп. – Глупства прысвячаць сваё жыццё грашам, будзеш, як Кашчэй, над златам чахнуць. Марната. Я не люблю і не павінен думаць пра грошы. А для гэтага яны заўсёды павінны быць.

– Па-мойму, з такім наборам, як вы замовілі, трэцяга жадання і быць не можа. Часу і сродкаў – неабмежавана, рабі што хочаш.

– А Бацькаўшчына? – сказаў, пад'ялдыкнуўшы маладога патрыёта, Есіп. – Трэцяе жаданне такое. Каб беларускі народ вярнуўся да беларускай мовы, загаварыў.

– Стаў такім, як літоўцы, напрыклад?

– Як любая нацыя ў свеце, у якой ёсць свая мова, – удакладніў Есіп. – І далей, якія б знешнія праблемы ні ўзніклі, яны цяжка ці лёгка вырашацца.

– Але калі ёсць неабмежаваныя час і сродкі, беларусаў можна элементарна купіць. Не? Рацыянальна падумаўшы. Тады б вы захавалі трэцяе жаданне.

– Кшталту выкупіць з рабства? Неяк несправядліва гэта ў дачыненні да беларусаў. Выкупляеш ты таго ж раба. Ён ад гэтага не становіцца свабодным. А калі сам усвядоміць сваю суб’ектнасць – ужо больш ніколі не будзе рабом.

Вінаградская вуліца па-ранейшаму настойліва вяла іх уніз. Калі не проста ісці, а думаць пра гэта, дык аж дух захоплівае. Бо канца не відаць. Можна нават дадумацца да таго, што ляціш у прорву...

Раптам Есіп звярнуў налева, на Італьскую, азірнуўся і спыніўся. «Глядзі», – ён паказаў Імбрыку на сцяну каля першага пад’езду першага дома. Справа ад уваходу было простым алоўкам па шурпатым тынку дробненька і блякла напісана: «Здесь жил и творил Константин Чарухин из Санкт-Петербурга».

– Гэта замест памятнай шыльды? – разважаў Імбрык. – Цікава, я такога ніколі не бачыў. Але тут жа сапраўды шмат хто бывае. Можа, так заведзена? Але даты не паставіў.

– Даты паміж дажджамі, учорашнім і заўтрашнім, – сказаў Есіп. – Надпіс зроблены, хутчэй за ўсё, з адчаю перад прагназаваным нябытам. Але прынамсі нешта мы ведаем.

– Ну і што? – адмахнуўся Імбрык. – Мала хто што напіша на сцяне. Можа, проста папрыкалваўся нехта.

– Ага, нехта... Калі б прыкалваўся, напісаў бы «з Піцера», а тут «из Санкт-Петербурга». Усё павінна быць вельмі сур’ёзна, амаль акадэмічна. Між іншым, не нехта, а люстэрка беларускай эвалюцыі, як сказана ў пасляслоўі да ягонай кнігі.

– Беларускай? – здзівіўся Імбрык. – А чаму з Санкт-Пецярбурга? Дык гэта рэальны чалавек, пісьменнік? Нічога не ведаю пра такога. І колькі праіснуе такая слава?

– Можа, дзень, а можа, і тыдзень, – сказаў Есіп. – Хоць якраз з гледзішча славы розніцы няма: ці просты аловак, ці бронзавая шыльда. Шыльда вісіць толькі трошкі даўжэй. Але ўсё адно не вечна.

– Адкуль вы яго ведаеце?

– Чытаю кніжкі.

– І што, ёсць там вялікія?

– Як заўсёды, – кінуў у бок Есіп, – то паэтаў шмат, а з празаікамі цяжкавата, то наадварот.

Яны рушылі, цяпер ужо ў гару, па Італьскай, а насустрач ім з намнесці Міру даляталі гукі адзінокай тубы. Вялізная жалезіна выдзімала тонкую і знаёмую мелодыю. Неба наперадзе перакрыла чорная готыка сабора святой Людмілы. Стаў накрапваць дождж, быццам нехта зверху заплакаў.

– Гэта любімая песня Сталіна «Суліко», – сказаў Есіп. – Ты не можаш яе ведаць. «Доўга я брадзіў срэдзі скал, я магілку мілай іскаў. Но её найці нелегко. Гдзе же ты мая Суліко...»

– Сапраўды, жанчыны і могілкі...

## 06. У кватэры

Есіп жыў у доме на Ландынскай, 33. Тут было шмат службовых кватэраў, якія для сваіх работнікаў здымала Радыё. Жыллё Есіпа з доўгай і вузкай тэрасай мясцілася на самым апошнім паверсе, і з вокнаў адкрываўся раскошны від чырвоных дахаў пражскага раёна Вінаграды. Сюды Есіп і прывёў Імбрыка перад тым, як паказаць яму самае важнае, што ён меўся паказаць яму ў Празе.

«Дэсерт жыцця, дэсерт жыцця, – працягваў уядаць сябе ў думках Імбрык, нервова аглядаючы насычаны колерамі і геаметрычнымі формамі краявід. – Добра ўладкаваўся, дэсертнік. Во якое слова! Дэ-сер-тнік. Толькі гучыць неяк па-кандытарску саладжава».

– Таксама па-свойму акіян, – сказаў ён уголас.

– Гэта скалы, чырвоныя ад крыві, – паправіў яго Есіп. – Тут тэрыторыя драпежных ястрабаў вайны і тлустых галубоў міру. Ястрабы нападаюць на галубоў, адшчыкваюць ім галовы і выдзёўбваюць вантробы. А паколькі гэта адбываецца тут на кожным кроку ці ўзмаху крыла, дык дахі сцякаюць галубінай крывёю. У адрозненне ад Альшанаў, у гэтага акіяна няма інтэлекту і «купальшчыкаў», якія б вынырвалі з хваляў. Тут жывуць самыя звычайныя людзі, у якіх тое купанне наперадзе. Будзеш каву? Зараз зраблю. Але без дэсерту. Я не люблю піражкі, не ем іх, таму ў мне іх і не бывае.

Імбрык піражкі любіў, як любіў усё ўвогуле салодкае, нават цукеркі. Напэўна, калісьці ў маладосці і Есіп не адмовіўся б ад дэсерту. Ізноў усё станавілася з ног на галаву. У каго дэсерт жыцця, той дэсерту не прымае, а прымае той, каму да гэтага дэсерту яшчэ далёка. Нейкі збой у натуральным працэсе змены пакаленняў праз гэты новы неназваны перыяд паміж сталасцю і старасцю. «Як бы не выйшла так, што гэта пярэстаркі пачнуць скідаць нас з карабля гісторыі, а не мы іх», – асцярожна падумаў Імбрык.

Недзе ў самым нізе паміж шатамі дрэваў віравала жыццё: відаць былі вулічныя мінакі, дзеці, кулямётнай чаргой адбіваліся ад бруку колцы чыёйсьці гружанай валізкі, цэнтар Прагі жыў шумам машын, чалавечымі галасамі, крыкамі птушак... – зусім не так, як на тэрасе Радыё Салярыс, адкуль звонку даляталі хіба што пошум хваляў разумнага акіяна, а то і ўвогуле – цішыня.

– Пару гадоў таму я страціў стрыечнага брата Воўку, – падслухаўшы Імбрыкавы думкі, Есіп пачаў распавядаць сваё. – Бацька Воўкі, спраўны і энергічны трэнер-спартовец, мой дзядзька Валодзя, заўсёды хацеў, каб і сын займаўся акадэмічным веславаннем. Але сын вырас паспяховым праграмістам і бізнесоўцам, заможным, дарэчы, чалавекам. Ён меў некалькі кватэраў, машыны з гаражамі, нейкія свае базы. Гэта мазырская гісторыя. А яшчэ ён з дзяцінства пісаў вершы. Такая лірычная душа, тонкая. Але маці ягоная, цётка Зіна, чамусьці прымала Воўкаў талент паэта ў штыхі і, пакуль была жывая, паліла ягоныя вершы, як толькі іх знаходзіла, – Есіп зрабіў паўзу, задумаўся. – Ведаеш, я маю некалькі такіх гісторыяў, калі маткі знішчаюць вершы сваіх дзяцей. Прычым зацята знішчаюць, як быццам з рэўнасці. Чаму?.. Гэта, вядома ж, асобная гісторыя, трэба будзе некалі яе абдумаць, чым кіруюцца тыя маткі, – ён ізноў памаўчаў і працягваў. – Цэлыя Воўкавы паэмы ляцелі ў печку. Прычым заўсёды ў адсутнасць аўтара. Ён крыўдаваў, крыўдаваў, але ўрэшце яна дамаглася свайго, вершы пісаць ён перастаў. Гэта была першая траўма. Не задалося Воўку і з асабістым жыццём. Ён ажаніўся

з самай прыгожай дзяўчынай у Мазыры, а тая, доўга не думаючы, папрасіла, каб ён фундаваў ёй паездку ў Лондан, дзе хутка знайшла працу мадэлі ў модным бізнесе, з'явіліся заляцанты, сапраўдныя лонданскія мільянеры, і куды ўжо ёй было вяртацца ў той Мазыр да таго Воўкі. Другая траўма. Але Воўка не здаваўся, ажаніўся з простай дзяўчынай, сіратою. Але ж і яна аказалася зусім не простай і аблаташыла Воўку, ну не да ніткі, але парадкам, здрадзіла, адным словам. І тады Воўка запіў. А мы з ім раўналеткі. Я не раз прыязджаў да яго і бачыў, як уся п'янота з раёну збіраецца ў яго на кватэры, і як яны гуртом ідуць за ім у краму па гарэлку, і як пры маім з'яўленні растваряюцца ў паветры, і як пакутуе ягоная тонкая паэтычная душа. Тады дзядзька Валодзя (а ён жыве ў Менску) прыехаў у Мазыр, разагнаў кавалькаду і паставіў Воўку ўмовы. Найперш каб перастаў піць. І Воўка перастаў. Яны разам спарадкавалі кватэру і самога Воўку. Дзядзька Валодзя правёў сына па ўсіх медычных аглядах. Нармальны, нібыта здаровы. Але напрыканцы таго паходу ён прывёў яго ў рытуальную краму. Уяві сабе, два спраўныя мужчыны спартовага выгляду, прыблізна аднаго веку на вока, у добрым гуморы выбіраюць труну. З жартамі, з пад'ялдыкамі. Здзіўленая прадавачка пытаецца ў Воўкі: «А вы каму труну выбіраеце?» – А Воўка са сваёй адкрытай усмешкай адказвае ёй: «Мне». – Сам высокі прыгажун, радасны такі, забаўляе яго сама сітуацыя. Як табе такі сучасны варыянт «змены пакаленняў»?

– То бок, усё наадварот? Але ж гэта ненатуральна, – стараўся зразумець Імбрык. – Дэсерт жыцця перамагае маладосць? Яны абодва і выглядалі на адзін узрост? «Маладыя чалавекі»? Яўны збой логікі. І чым усё скончылася?

– Маеш рацыю. Збой логікі праз гэты новы неназваны перыяд, – сказаў Есіп. – А скончылася ўсё таксама паводле гэтае логікі ці гэтага збою. Дзядзька з'ехаў, Воўка зноў пачаў піць і неўзабаве дапіўся да смерці. Не спалохала яго тая труна.

Прыйшла Наста, Есіп адчыніў ёй дзверы. Яе добра ведалі на Радыё і калі-нікалі запрашалі на падпрацоўку. Наста далучылася да кампаніі з кавай на тэрасе і таксама закурыла.

– Касцёл царквы адвентыстаў, – прачытаў Імбрык надпіс па-чэшску вялікімі залатымі літарамі над будынкам праз вуліцу. – Дзіўна. Для беларуса, мабыць, кагнітыўны дысананс, разрыў шаблону. У нас калі касцёл дык каталіцкі, калі царква дык праваслаўная. А пры чым тут Чэхія ды яшчэ й адвентысты...

Пасля расповеду пра Воўку і збой логікі ў змене пакаленняў настрою ў Імбрыка не было зусім. Ён адчуваў, як свет думак і пачуццяў, з якога ён прыехаў сюды з Менску, пакідае яго, сядае, як вось гэтае невыразнае бляклае сонца заходзіць за небакрай чырвоных пражскіх дахаў і неўзабаве ўсё навокал агорне цемра. Тым часам нічога, ніякі іншы новы свет не прыходзіць наўзамен. Усярэдзіне ўтвараецца гадкая, непрыемная, яшчэ й пагрозлівая пустэча. Ясна, што прыйдзе і новы свет, і запоўніць гэтую мярзотную пустэчу, так будзе. Але цяпер Імбрык нават не прадчуваў таго новага, як прадчуваў яшчэ раніцай на тэрасе, як прадчуваюць шчасце. Кажуць, што гэтае прадчуванне ўласна шчасцем і ёсць. І вось цяпер яго не было ані каліва.

Яны зайшлі ў пакой, палову якога займаў масіўны антыкварны сервант і такі самы аграмадны стол. Есіп нешта шукаў у сваім ноўтбуку і неўзабаве сказаў:

– Мы яшчэ амаль не гаварылі пра музыку. Давайце, я пастаўлю вам Starless.

«Інструктаж-такі працягваецца... Музыка і радыё – вядома, звязаныя рэчы, усё нібыта лагічна. Але можа быць і па-іншаму. Напрыклад, прывёў слухаць музыку, каб паказаць мне, што я нічога ў ёй не разумею, – бурчэў сабе ў думках Імбрык. – Ці – ах, ты хацеў быць вялікім, дык слухай цяпер гэты гробаны Starless і пачынай развітвацца са сваёй дурацкай ідэяй-фікс».

– Сэнс можа хавацца зусім не там, дзе ты яго шукаеш, – заўважыў раздражненне Імбрыка Есіп. – Я абраў Starless, каб пагаварыць пра высокае, а зараз зірнуў на само слова і ўбачыў, што яго можна расшыфраваць як прадказанне канца. Глядзіце: St – гэта святы, ARL – Аляксандар Рыгоравіч Лукашэнка, ess – можна чытаць як «былы». Былы святы – гэта здараецца, калі німб надзець у пару свайго біялагічнага жыцця.

Імбрык ёрзаў на крэсле. Наста наліла сабе крыху віна і таксама ёрзала, але чамусьці не побач з Імбрыкам, а побач з Есіпам на канапе. Зусім нядаўна Насце споўнілася дваццаць пяць, пра што яна ўсім і паведаміла. Есіп сказаў: «А я думаў 69», і яны абое зарагаталі. Гэта яшчэ больш абурыла Імбрыка, бо для Насты, на ягонае перакананне, гэта быў не жарт, а абраза. Але ён ізноў не падаў выгляду.

– Шчыра кажучы, я не люблю King Crimson, – казаў Есіп. – Гэта не тая музыка, якую б я слухаў штодня. Ад самага пачатку я не любіў джаз-рок. Любіў джаз і рок, але джаз-рок для мяне не нешта цэлае, а дзве чужыя адна для адной палавінкі. Але бывае так, што нешта ў цэлым не любіш, але нейкая дэталь табе падабаецца, і на тле агульнага нялюбага падабаецца шмат мацней, чым бы проста падабалася. Ёсць адна песня ў Крымсанаў... Яна моцна выбіваецца з ёрзання дзвюх палавінак, яна цэльная і сапраўды вялікая, – пры гэтым слове ён ужо традыцыйна кінуў выразны позірк на Імбрыка. – Для мяне ў ёй сыходзяцца разам дзве магутныя беларускія ракі – любоў і каханне. Як вы ведаеце, каханне – гэта любоў з сэксам. І Starless – гэта не песня пра сэкс, а само ўвасабленне акту. Многія намагаліся ўвасобіць гэта ў музыцы, а ўдалося King Crimson.

«Неадчэпная для яго тэма, – працягваў бурчэць сам у сабе Імбрык. – Яна з'ела яго ўсяго з вантробамі і як змагара, і як адраджэнца, і інтэлектуала. Он севодне очэнь очэнь сэксуальна азабочан. Спадзяюся, мяне ён гэтаму навучаць не будзе. Гідка! І што такі старык Казладоеў можа сказаць моладзі, вось хоць бы гэтай маладзенькай Насце? Увогуле якую беларушчыну, які змагарны дух ён можа данесці да людзей з такім гнілым кантэкстам? Правільна, гніль. І таму трэба, каб яго не было. І трэба думаць, як гэта зрабіць. Каб ён сам сышоў, знік, растварыўся ў паветры».

– Пачатак 1970-х – унікальны час у гісторыі року, – распавядаў тым часам Есіп. – Я яшчэ быў школьнікам, але ўжо слухаў гэтую музыку, мы даставалі запісы ў фарцоўшчыкаў, бо афіцыйна тыя вінілы былі не тое, што забароненыя, але не распаўсюджваліся і не віталіся. Дык вось, у пачатку 1970-х усе найважнейшыя гурты, незалежна ад таго, наколькі яны былі розныя і якую вызнавалі стылістыку, напісалі кампазіцыі працягласцю 12 хвілін. Такая песня займала палову вінілу. Deep Purple напісалі Child In Time, Led Zeppelin – «Лесвіцу ў неба», Uriah Heep – July Morning. King Crimson напісалі «Старлес». Я папрасіў Шупу, каб пераклаў тэкст з ангельскай. Не столькі словы каб пераклаў, а менавіта сэнсы. Вось што атрымалася. – Есіп дастаў нататнік:

Захад сонца сляпучы дзень
Золатам скрозь мае вочы
Але вочы глядзяць мне ў душу
І бачаць толькі
Бяззорна-біблійную чорнасць

Ледзяное сіне-срэбнае неба
Блякне й шарэе
Шэрай надзеяй, якая ох як прагне быць
Бяззорна-біблійнай чорнасцю

Спагада старога сябра
Жорсткая крывая ўсмешка
Усмешка што значыць пустэчу
Для мяне
Бяззорна-біблійную чорнасць

– Бліскуча, праўда? Гэта той выпадак, калі трэба прачытаць некалькі разоў, і тады прыходзіць пранікненне ў сутнасць, – працягваў захоплены Есіп. – Тут столькі тэмаў і сюжэтаў! Дый сам той час у гісторыі музыкі пакінуў безліч пытанняў, як такое магло быць? Сабраліся тры гітарысты без адмысловай адукацыі, без ведання тэорыі і нот, адно хіба з натрэніраванымі навыкамі ігры. Ну літаральна як у нас у парку на лаўцы. Сабраліся, нешта трэнькаюць. Напісалі за паўгадзіны песню, і ўсё. Цяпер маеш. Гэтую песню граюць сімфанічныя аркестры. Пінк Флойд, гэтых валасацікаў, за якіх нас ганялі ў школе, выконвае прафесійны аркестр мандалін, і настаўнік музыкі, сам гітарыст, які найбольш нас і ганяў, выконвае сола! Валасацікі сталі вялікімі, – зноў выразна паглядзеў Есіп на Імбрыка.

– Ваш настаўнік музыкі яшчэ жывы? – зрабіў Імбрык круглыя вочы. Але Есіп пакінуў ягонае пытанне без адказу.

– Па-мойму, Імбрык нічога не разумее ў музыцы, – з паблажлівым выглядам сказала Наста. – Я, прызнацца, таксама. Прынамсі, мы слухаем зусім іншыя песні.

– А што, без гэтага зусім нельга стаць вялікім? – з выклікам спытаўся Імбрык.

– Па-мойму, калі гавораць пра вялікіх, ну не пра дыктатараў усякіх, там рознае стаўленне, у першую чаргу маюць на ўвазе якраз музыкаў, – сказала Наста. – Можа быць, табе трэба вучыцца граць на барабане? – яна відавочна хацела яго падчапіць.

– Не ведаю, музыка прыгожая, а словы... – падшукваў як назваць Імбрык, – беліберда нейкая, па-мойму.

– Ну давай паспрабуем прачытаць гэта так, як бы яно было напісанае прозай, – угледзеўся Есіп у нататнік. – Вось што атрымліваецца. Яркае сонца сядае, але вочы глядзяць не на яго, а ў адваротны бок, у цемру душы. І неба, дзе толькі што было сонца, таксама ператвараецца ў цемру. Значыць, і ззаду, і спераду ў цябе – біблійная чорнасць, цемра егіпецкая, якую можна памацаць рукамі, сцяна. Бязвыйснасць, бяззорнасць, тупік. Што застаецца? Можа быць, нешта збоку? Натуральна, усмешка старога сябра, спагада мусіць быць выйсцем. Трэба зірнуць, што там у цябе збоку. Але ніфіга, усмешка чамусьці жорсткая і крывая. Збоку таксама – глухая чорная сцяна.

– Адным словам, поўная задніца, – сказаў Імбрык. І не вытрываў. – Не падабаецца мне гэта ўсё.

– Можа задніца, а можа й пярэдніца, – перадражніў Есіп. – Няўдзячная справа разбіраць жывы куст паэзіі, нібыта гэта нейкая электрашвабра. Але памарыць разам з аўтарам – чаму б і не? Хоць словы заўсёды значаць непараўнальна мала побач з музыкай. Мізэрна мала. Ніякая літаратура табе нічога ні пра што не раскажа, калі яна не музыка. Я разумею, што біблійная чорнасць – гэта для цябе пра нейкае хентайскае порна. Але насамрэч нявыкруткі, якія нараджаюцца ў дачыненнях са старым сябрам ці нават з самім сабой, – яны зусім не такія, як з іншымі. Вось што трэба зразумець. Яны заўсёды ўтрыраваныя да ўпору, напроч незразумелыя, невытлумачальныя, і ты адчуваеш сябе перад імі абсалютна бездапаможным, нават калі ты самы вялікі і ўсемагутны фараон. Бог паказвае табе сваю сілу. А што яму застаецца рабіць, калі ты ў яго не верыш, хоць гэта яшчэ сяк-так, вер не вер, але калі ты парушаеш ягоныя планы...

«Як у яго гэта спалучаецца: сэкс і Бог? Што б тут сказаў Севярынец?» – згадаў Пашу Імбрык, і яму ні з таго ні з сяго стала весела. Імбрык заўсёды лічыў, што Паша моцна перабірае з клерыкалізмам і суе Бога куды трэба і куды не трэба.

Есіп тым часам ізноў чытаў з нататніка:

«І сказаў Гасподзь Майсею: працягні руку тваю да неба, і будзе цемра на зямлі Егіпецкай, асязальная цемра. Майсей працягнуў руку сваю да неба, і была густая цемра па ўсёй зямлі Егіпецкай тры дні; не бачылі адзін аднаго, і ніхто не ўставаў з месца свайго тры дні...»

– Разумееш, гэтая цемра ідзе з самога пекла, яна не проста сцяна, яна напоўненая дэманамі, – тлумачыў Есіп, – тое, што чакае нераскаяныя сэрцы ў вечным зняволенні змроку.

– Сартр! – усклікнуў радасна Імбрык. – І Юра Дракахруст, які парыцца на 12-м паверсе.

– «Сыход», – паправіў яго Есіп. – Гэта стары сюжэт. Сартр толькі мадэрнізаваў яго па-свойму, наблізіў да разумення сённяшняга чалавека. Але гэта бясконцая гаворка, і нам пара перайсці да музыкі. Словы могуць нічога не значыць. Вакаліст выдае процьму быццам бы неабавязковых сентэнцыяў, бо перад тым, як зблізіцца, мы заўсёды гаворым усякую лухту, хіба не праўда? І самі не надаем значэння словам. Як калі б ты гаварыў з любімым сабакам. Здаецца, ён усё разумее, але гэта размова крыві з крывёю.

Есіп ужо прыабняў Насту, і Імбрык з агідай прыгадаў раптам сцэну з «Апошняга танга ў Парыжы». Герой Марлона Брандо, такі самы пярэстарак, як Есіп, просіць маладую дзяўчыну абстрыгчы сабе пазногаць і засунуць палец яму ў зад. Стала зусім ніякавата. Есіп тым часам працягваў распаляцца:

– Пасля пачынаюцца фрыкцыі. Чуеце? Яны трошкі манатонныя, але гэта той выпадак, калі манатоннасць моцна жаданая. Як рытуал. Рытуал – гэта выхад у іншую прастору, у паралельнае жыццё. Ты як бы раздвойваешся паміж сабою ў звычайным жыцці і сабою ў рытуале. Цяжка чалавеку разгледзець свае грахі, бо сам сябе не бачыш, затое ў іншым сходу можаш налічыць, у чым яму каяцца. А ты прыходзіш на споведзь і не ведаеш, што сказаць, здаецца, ніякіх грахоў і няма. «Няма мне ў чым каяцца, святы айцец», – кажаш ты на споведзі. І што табе адказвае святар? Слушна. А

ты хадзі на службы, удзельнічай у рытуалах, раздвойвайся, каб убачыць сябе як іншага, збоку. І тады табе адразу знойдзецца пра што расказаць святару. Збоку заўжды відней. Тое самае манатонныя фрыкцыі. І заўсёды ёсць прадчуванне адкрыцця, эйфарыі, раскрываюцца ўсе ісціны разам. Раптам ты пачынаеш разумець музыку з той сілай, як бы ты пачаў разумець мову раслінаў і жывёлаў. Што адбываецца? Адбываецца ініцыяцыя. Ты паміраеш ранейшы і нараджаешся новы. У гэтым вялікі сэнс рэлігіі, і ўсё, што нас у ёй можа карабаціць, – гэта ханжаства і карупцыя, бо рэлігія сама па сабе – гэта і ёсць сэкс. Совокупленіе. З Богам духоўна, фізічна – з цёцяй, якая раскрыла табе п.

– Брава! – крыкнула Наста.

– Дзякуй, – адно вока ў Есіпа стала мокрым. – Толькі не слухай тэксты Кінг Крымсан, – звярнуўся ён да Імбрыка, – мы заўсёды лапочам абы што. Музыка, а не тэксты, расказвае пра тое, што адбываецца. – Ён крыху памаўчаў і працягваў. – Цікава, што ў першым кліпе на гэтую песню, які трапіў мне на вочы, а гэта быў афіцыйны кліп, камера паказвала могілкі. Ты чуў увасабленне акту, вострыя выкіды раскаленай лавы, а бачыў мяккую панараму старых кладоў: замшэлыя пліты, паўразбураныя каменныя фігуркі анёлаў, у аднаго замест крылка тырчала арматурына, фамільныя склепы... Кліп, што праўда, знік з ютуба, колькі я яго пасля ні шукаў. Але жанчыны і могілкі – усё, чым варта захапляцца ў гэтым жыцці.

«Што ён вярзе, – не стрымваўся ў думках Імбрык, – у Кадырава ў інстаграме ўжо два мільёны падпісчыкаў, а мы тут боўтаемся, як гаўно ў палонцы пра сэксы-шмэксы, пра жанчын і могілкі і ледзьве можам набраць 50 тысяч. Трэба нешта рабіць з гэтымі ўсімі.., каб не заміналі працаваць з аўдыторыяй вірусна, на апярэджанне».

Імбрык схаваў твар у далоні. Было яму пагана і горка, а цяпер стала яшчэ горш. Трэба проста пераадолець самога сябе, узяць сябе ў рукі і зрабіць тое, што пастанавіў зрабіць, можа быць нават зараз, пайсці на кухню, узяць доўгі нож... Не, гэта, вядома, не метад... Гэта не мусіць быць сваімі рукамі. Заляпаешся, да канца дзён не адмыешся. І якое тады табе адраджэнне. Трэба, каб ён сам.

Тым часам Есіп выходзіў з лазенкі, бо нейкая жамярына патрапіла яму ў вока, а Наста кінулася дапамагчы прамыць зрэнку. І цяпер расчырванелы мэтр, вярнуўшыся на сваё месца, быццам працягваў дыскусію з падапечным:

– Ведаеш, я не стану Кадыравым, нават калі б захацеў. Я бачу сэксуальную подшыўку, як сказаў бы калега Дракахруст, гэтай сітуацыі. І калі я й супрацьстаю Расеі, як Кадыраў, дык з пазіцыяў эпохі Адраджэння, гуманізму і найвышэйшасці чалавечага жыцця, а не асабістае ўлады ці джыхаду. Як ні круці, а гэта супрацьлеглае разуменне любові, кахання і сэксу. Асабістае ўлады нашым людзям хапіла і хапае па самае не магу, а ад джыхаду дык і ўвогуле беражы Гасподзь.

«Што страшнага ў дыктатуры і джыхадзе, калі гэта свае дыктатура і джыхад, скіраваныя на адраджэнне і незалежнасць? І што наўзамен ім – сядзець, склаўшы рукі, і жуваць возгры. А тым часам чытаюць Кадырава, а не цябе! Два мільёны, – Імбрык рэагаваў у думках. – Як ён дастаў мяне сваімі сэксамі! Ён проста знішчае ўсіх нас! Нашто мне гэта ўсё слухаць? Я харошы вернік».

– Вернік... – прычапілася Наста да слова. – Першы савецкі тэлевізійны плэйбой, які прыходзіць у галаву.

Есіп ізноў запарыў усім кавы і паглыбіўся ў развагі пра маладых, якія заўсёды імкнуцца «скінуць папярэднікаў з карабля гісторыі»:

– У гісторыі колькі заўгодна прыкладаў гэтага. А вось каб наадварот – нечага афарыстычнага сходу і не прыгадаю. Ну, каб старэйшыя скідалі маладых. Знайдзі мне такі прыклад. І каб ён быў гэткі ж пераканаўчы, як гісторыя майстра Хірама, што кіраваў будоўляй сабора цара Саламона ў Ерусаліме. Хірама забілі, і што? Храм ягоны ў выніку так і не быў дабудаваны. А ведаеш, хто яго забіў? Ягоныя ж падначаленыя, моладзь, чаляднікі. Скінулі, што называецца, з карабля гісторыі. Знайшлося трое вырадкаў, якія хацелі гвалтам дамагчыся ад майстра таемнага слова, каб самім стаць майстрамі, хоць на тое яшчэ не мелі падставаў. Не дараслі. Страшны ўзрост. Ты ўжо не вучань, ты ўмееш абчэсваць дзікі камень. Ты чаляднік. Але каб быць майстрам, трэба ўмець мысліць усім будынкам, трымаць яго ў галаве. Гэта як пісьменнік трымае ў галаве ўсю кнігу, якую піша, ці як рэдактар сайта трымае ў галаве ўвесь сайт. Галовы, натуральна, рознае ўмяшчальнасці бываюць. Але факт, што ты гэтага яшчэ не можаш. Толькі спяшаешся... Я добра памятаю гэты стан, бо сам быў такім.

Імбрык прайшоўся па пакоі, узяў з серванта Іменнік Дубаўца і, разгарнуўшы яго, прапанаваў:

– Давайце лепш чытаць гэта.

## 07. За чытаннем

– Штука даволі суб’ектыўная, – сказаў Есіп, падліваючы Насце віна, – таму чытай цяпер сам.

Імбрык інакш сабе гэтага і не ўяўляў, бо меў цікавасць да гэтай кніжкі. У Менску яму часам траплялі на вока цытаты з Іменніка або нехта спасылаўся на яго, але цалкам кніжку ён не трымаў у руках ніколі. Пагаворвалі, што гэта забароненая літаратура, у кагосьці нават адабралі Іменнік на мяжы. А дзе яшчэ можна было знайсці ўсё забароненае і антысавецкае, як не ў супрацоўнікаў Радыё Салярыс у Празе?

Імбрык зручней сеў на сваім крэсле і пачаў чытаць:

«Вядома, як карабель назавеш – так ён і паплыве. Са свайго ўласнага досведу я складаю гэты Іменнік. Ацэнкі, само сабой, нельга лічыць універсальнымі. Яны пра тых, каго я ведаю асабіста, а значыць, магу абагульняць характарыстыкі. Бывае, праўда, што з пэўным іменем я ведаю толькі цябе і абагульніць адметнасці не магу. Да прыкладу, ведаў я аднаго Севярына... Тут нешта сказаць пра імя можна толькі з нагоды другога Севярына».

– І я ведаю аднаго Севярына, – перабіў Есіп.

– Я таксама, – сказала Наста. – Мабыць, той самы.

– Ну і што, што ён адзін? – запаліўся раптам Есіп. Імбрык ужо заўважыў, што Есіп ставіцца да Дубаўца неяк падкрэслена, увесь час яго цытуе, але так, нібы раўнуе, спрачаецца з ім адначасова. – Можа быць, ён задае трэнд. І наступныя Севярыны будуць у ягоным рэчышчы. Наш Севярын доўгі час быў «вечным піянерам», які аднойчы а 12-й PM раптам ператварыўся ў такога сабе Бовіна з тэлевізара юнацтва. Севярын шмат думае, аналізуе і выходзіць у яго ўсё лепш і лепш. Ён па-ранейшаму падае надзею на сваю прыўкрасную будучыню. Вось галоўная рыса Севярына – падаваць надзею.

– Трапна, – сказала Наста, – хоць я і не ведала ніякага Бовіна.

Імбрык працягваў чытаць:

«АЛЕГ. Алег ходзіць побач са сценамі турмы і сам робіцца светлым ад іх».

– Прыгожа, у стылі глёбусятніка, – сказаў Есіп. – Але ніколі не называйце дзяцей Алегамі, бо дастанецца пасля іхнім дочкам. Найбольшы беларускі паэт усіх часоў і народаў Алег Мінкін моцна пацярпеў праз гэта, меў дзвюх дачок і кожная з іх – Алегаўна. Бедныя дзеўкі...

– Толькі праславіліся не імем па бацьку, – заўважыла Наста. – Пра Міхаліну пісалі ўсе літоўскія газеты. Маўляў, добра зарабляе ў Парыжы. Мы яшчэ ў ліцэі пра гэта чыталі на партале ДЭЛЬФІ.

«АЛЕСЬ. У Алесю жыве прага цараваньня – ад цёзкі Македонскага. Седзячы на пасадзе, Алесь пачуваецца гаспадаром не крэсла, а душ. Пры тым ён увесь час рызыкуе «згубіцца ў лесе», куды яго адправіў Кастусь Цвірка. Алесь, як слімак сваю хатку, нясе на сабе гэты свой дрымучы лес, у якім так проста страціць арыенціры».

– І нават тое, што наш шэф Алесь, не разбурае дакладнасці гэтага назірання? – здзіўлена і крыху роспачна спытаўся Імбрык. Але не пачуў адказу.

«Ведае, усё ж, куды прыехаў і як трэба сябе паводзіць», – падумаў Есіп, але змаўчаў.

«АНТОН. Антон гатовы легчы на касу».

– Гэта з Гарэцкага. Хаця... Згадваю ўсіх сваіх Антонаў... – Есіп зрабіў паўзу і задумаўся. – Ну не Андрэі яны дакладна. Андрэй на касу не ляжа ніколі. У мяне пляменнік Антон. Ціхі, сімпатычны, правільны, без падвоху. На якой халеры бацькі аддалі яго ў Менску ў суворaўскую вучэльню? Але ж аддалі. Дык праз нейкі час хлапцу зламалі там абедзве нагі. І вось не паверу, каб сярод тых аднакурснікаў быў хоць адзін Антон. Антоны не ломяць. Іх ломяць, яны самі сябе ломяць. Але не яны кагосьці.

«АРКАДЗЬ. Вясёлы гаварун Аркадзь жыве нялёгкае жыццё, бо шмат працуе».

– Я ведаю толькі Аркадзя Куляшова, – сказала Наста. – Ну як ведаю, вершы і біяграфію ведаю, бо вывучалі. Але не думаю, каб ён быў вясёлым гаваруном.

– Шыфраваўся, можа, часы ж былі такія, што асабліва не павесялішся і не пагаворыш, – уздыхнуў Імбрык.

«БАРЫС. Можна сказаць так: уважлівы да дэталяў, а можна і так: чапляецца да дробязяў. Таму, на першы погляд, падаецца занудам. Але пры больш уважлівым вывучэнні мы бачым натуру тонкую і ранімую, бывае – крыўдлівую ці пакрыўджаную. Нішто не застаецца па-за ўвагай Барыса».

– Тут у кропку, – сказаў Есіп. – У мяне на першым месцы Барысы Сачанкі, адразу трое, дзядзька і двое пляменнікаў. Дзядзька быў удвая старэйшы за мяне, але хіба што адзіны такі са свайго пакалення, каго я мог лічыць сябрам, як роўнага з роўным. Мы жылі ў адным доме ў Менску на Пуліхава, і часам ён запрашаў мяне «на каньячок». Сядзелі, гаварылі пра ўсё на свеце. Пра пісьменнікаў, пра гісторыю, пра кнігі. У яго было ці не ўсё з забароненага на той час беларускага. Скончыў ён, на жаль, нядобра. Ужо Лукашэнка стаў... А Сачанка быў дырэктарам Беларускай Энцыклапедыі. І Лукашэнка паслаў да яго такога Кучынскага, каб прамацаў, відаць, і высветліў – пакідаць Барыса на пасадзе ці замяніць, свой ці не свой. Яны дзве гадзіны гаварылі пры зачыненых дзвярах, пасля Кучынскі сышоў. А яшчэ

пасля знайшлі Сачанку – ён ляжаў на падлозе нерухомы. Сказалі, нібыта сэрца не вытрымала. Толькі хто паверыць? Асабліва з тых, хто ведаў гэтага ва ўсіх сэнсах мужчыну-мацака... Шкада. А пляменнікі ягоныя вучыліся са мной на адным курсе. Адразу два Барысы Сачанкі. Яны ўсе з адной вёскі. Першы прабіўся дзядзька Барыс, ну і пляменнікаў назвалі Барысамі.

«ВАЛОДЗЯ. "Валодзя гаўно салодзя,аладкі мачае, жабак угашчае» – у гэтай трапнай народнай прыказцы ўвесь Валодзя – чалавек сардэчны і геданіст".

– Ну, не толькі гэта. Вунь Глёбус пра ўсіх гадасці піша, – сказала Наста. – Нават пра мяне, хоць ніколі ў вочы не бачыў.

– Дык гэта ён піша як Адам, а як насамрэч – Валодзя Адамчык – чалавек сардэчны і геданіст. Усё правільна, – чарговы раз заступіўся за Дубаўца Есіп.

– Я яго ведаю, – заўважыў Імбрык, яму хацелася нечым зачапіць Насту ў адказ. – Не думаю, што гэта ён пра цябе напісаў. Многія самі хочуць, каб ён пра іх гадасць напісаў. Абазналася.

«ВАЛЯНЦІН. Самае бездакорнае імя, чамусьці ніколі мне не падабалася. Можа быць, таму, што першымі Валянцінамі ў маім жыцці былі жанчыны, і таму гэтае як бы жаночае імя мужчынам не пасавала. Выхавацельку ў дзіцячым садку на Карламарла ў Менску звалі Валянціна Іванаўна Крышталь. І потым была процьма іншых Валь. Валянцін не схільны думаць пра свой лёс і не верыць у Бога. Затое верыць у іншых і, як квактуха-выхавацелька, апякуецца імі».

– Дубавец занадта суб'ектыўны. Але пра Акудовіча тут дакладна, – сказала Наста.

– Акудовіч можа быць вялікім беларусам? – спытаўся Імбрык. – Вялікі Акудовіч гучыць.

– Філосафаў, як і музыкаў, ахватней за іншых называюць вялікімі, – сказаў Есіп. – Можа быць таму, што яны найменш небяспечныя? Чаго, зрэшты, не скажаш пра Акудовіча. Яго моцна не любіць Навумчык. Кажа, што на ідэйнай глебе. Штосьці дзесьці калісьці Акудовіч сказаў не тое ці не так. Але ў прынцыпе, калі яго няма, дык можа. Хоць ад нас тут нічога і не залежыць. Я б хутчэй разважаў, ці можа быць вялікім Навумчык. Вялікі Навумчык таксама гучыць.

«ВІТАЛЬ. Мяккі, але ўчэпісты і амбітны Віталь любіць дакранацца да агню».

– Вам не здаецца, што Віталь па сэнсе моцна падобны да Барыса? Таксама, можна сказаць, уважлівы да дэталяў, а можа: прыдзіраецца да дробязяў, – актыўна ўдзельнічала ў абмеркаванні Наста.

– З першых, хто прыходзіць на розум пасля Барыса Сачанкі, Віталь Тарас. – згадаў Есіп. – Ну так, абодва рэдактары. Камусьці прыдзірлівыя, а камусьці прынцыповыя ў прафесіі.

«ВІЦЯ. Самае цьмянае імя. Адзін піша данос, другі ад прыроды на такое не здатны. Адзін па жыцці неахайны, другі – піжон. Ён адначасова і фізік, і лірык. Даводзіцца прызнаць: сам Віця нічога нам пра Віцю не скажа. Хаця... Чыста па адчуваннях... У Віці – нейкая "мардатая" сутнасць. Г. зн. мяккая і крыху расплывістая, як пасля парылкі ці выпіўкі. Віця не бывае крышталёвым або графітавым. Віцю ўсё ж такі можна "ўзяць". Віця падобны да парашутыста ў першым скачку. Ён, вядома, пераможца, але ж і штаны поўныя».

– Дакладна, – сказаў Есіп. – Але, ведаеце, гартаў неяк статыстыку цяперашніх дзіцячых імёнаў. Віці няма! Віцямі не называюць зусім. Пераможцы непапулярныя. Ніхто не хоча быць вялікім.

– Апроч мяне? – усміхнуўся Імбрык.

– Чытай далей, – сказаў Есіп.

«ВЯЧАСЛАЎ. Скрайняя незадаволенасць Вячаслава заўсёды мяжуе са стрэсам. Вячаслаў – змагар, які без бою апусціў рукі перад недасканаласцю свету і сеў з учарнелым тварам на халодны валун мудрасці. Галоўная рыса Вячаслава – абсалютная нецярпімасць да ўсяго, што яго раздражняе і ўводзіць у шал. Гэтак на мяжы страты свядомасці змагаюцца са сваімі монстрамі празаік Адамчык, паэт Дашкевіч, музыка Корань, фальклярыст Калацэй, тэатразнаўца Ракіцкі, палітык Сіўчык...»

– Тут вельмі трапна, – пракаментаваў Імбрык.

– Нехта грукае ў вакно, – раптам сказала Наста.

– Можа, мы загучна ўключылі «Старлес»? – выказаў здагадку Імбрык.

– Пайду пагляджу, хоць тут фактычна дах дому, – сцепануў плячыма Есіп. – Што там за Карлсан прыляцеў?..

Грукалі нібыта з боку спальнага пакоя, але тэраса была адна на ўсю кватэру.

– Гэта птушка, крумкач, – сказаў Есіп, вызірнуўшы на тэрасу, – вярнуўся. Ён часам прылятае. Тут многа птушак жыве, асабліва драпежнікі, ястрабы нябесныя віюць гнёзды на дахах. Але гэта крумкач, мой прыяцель.

– А што ён сказаў?

– Never more, натуральна, – бліснуў эрудыцыяй Імбрык.

Наста перасела на далейшы ад вакна канец канапы. Яна яўна асцерагалася гэтых грукаў з тэрасы.

«ІГАР – чалавек даступны, але не адкрыты. Ніколі не ведаеш, што сабе думае гэты лёгкі ў дачыненнях Ігар.

ЗМІЦЕР упарта йдзе да свае мэты. Аднак, пачынаючы справу, заўсёды думае не пра поспех, а пра правал...»

– Бартосік! – пазнаў Імбрык.

Нехта ізноў пагрукаў у вакно, але іншымі, чалавечымі грукамі.

– Хто там? – крыкнуў Есіп.

– Гэта я, – пачулася з тэрасы. – Бартосік. Слухай, у цябе ёсць дзе пераначаваць? Нас няшмат, мы з жонкай і чацвёра дзяцей.

– Оп! – сказаў Есіп.

Бартосік тым часам уваліўся ў пакой:

– Едзем з Венецыі. Юця выйграла конкурс і выступала на фестывалі. Ну і мы ўжо за ёй, прычэпам.

– Хадзем, – пацягнуў яго Есіп у дзверы на лесвіцу. – Здаецца, тут ёсць пустая кватэра. Я патэлефаную дырэктару.

«ЛЁНЯ, – працягваў чытанне Імбрык. – Лёня любіць сябраваць. І з Лёнем усе хочуць сябраваць. Але ў сваіх адносінах з іншымі ён раптам адкрывае такія непераадольныя прорвы, што сябры тыя асыпаюцца з яго шалухой. Чаму? Ды таму, што Лёня – чалавек забыўлівы.

МІХАСЬ. Харошы чалавек, але то там не задалося, то тут. Бывае і думаеш – о, задалося, а прыглядзішся – ну не так, па-іншаму магло быць. Ізноў як бы і не задалося».

Есіп вярнуўся ўжо без Бартосіка і хутчэй заняў сваё месца. Імбрык працягваў чытаць:

«ПЯТРУСЬ. Пятрусь абжываецца ў кожнай справе і пакідае ўражанне “таго, хто прыйшоў”. Аднак рана ці позна вонкавыя (так здаецца) абставіны бяруць над Петрусём верх, і ён без бойкі сыходзіць у цень. Бо ўсе яго доблесці, якія прымярэсціліся яму і нам учора, сёння падаюцца ілюзіяй – і яму, і нам. Нематэрыяльныя каштоўнасці ў асобе Петруся не маюць шанцаў».

– Пятрусь Броўка піша лоўка, піша лоўка і даўно, але ўсе яго алоўкі... – пачала было Наста, але яе з дакорам абарваў Імбрык:

– Дарэмна ты так. Хрэстаматыйны верш Броўкі «Пахне чабор» нядаўна выкінулі са школьнай праграмы.

– Кажуць, што Броўка не ўмеў чытаць свае вершы, ён іх крычаў, – згадаў Есіп. – І што ніколі не пакідаў справы, за якую ўзяўся. Нават такой вялікай, як Беларуская Энцыклапедыя, дзе забілі Сачанку. А стварыў тое выдавецтва Броўка. І няхай паэт ён быў не геніяльны, але нацыянальная энцыклапедыя – штука на парадак больш крутая, прынамсі, чым каска Кафкі.

«ТОЛІК нясе ў сабе глыбокі раскол. Ён страсна жадае быць салдатам якой-небудзь арміі, а толькі наблізіцца да ваенкамату, як усю натуру ягоную працінае анарха-індывідуалізм. Так і ходзіць Толік каля зборнага пункту і так ніколі ў яго не патрапіць. Прапары, якім надакучвае ўвесь час адчыняць дзверы пры ягоным набліжэнні, кідаюцца нарэшце, каб узяць рэкрута сілком, але тут анархічны настрой Толіка дасягае апагею, і непазбежны скандал».

– Зноў грукаюць у вакно! – ускочыла Наста.

– Есіп, гэта я, Дзёня. Ну калі ты даробіш трэцюю частку?

– Гэта Раманюк, – шэптам сказаў Есіп. – Дэманы мае не пакідаюць мяне на захадзе сонца. Я рэдактар ягоных кніг, – і крыкнуў: Пачакай яшчэ тыдзень. – Ізноў шэптам, – ён робіць вялікія мастацкія альбомы пра Беларусь, абавязкова са сваім тэкстам, а там працы...

– Вялікія ў сэнсе «большие»? – спытаўся Імбрык.

– Не думаю, што я браўся б за іх, калі б яны былі толькі «большие», – адказаў Есіп і дадаў, – яны вялікія ў сваёй амбіцыі вынесці беларускае на ўвесь свет і ў найлепшай падачы. Акурат тое, чаго ты хочаш. Толькі ты ж не хочаш стаць альбомам.

«ЮРАСЬ, як правіла, чалавек мажны ці даўгавязы. У яго фізічнае цела нібы не зусім сваё. Ён альбо надта высокі і проста не паспявае супадаць з рухам гэтых даўжэразных ног, альбо зашырокі. Істотай сваёй Юрась ужо тры разы ўвайшоў у гэтыя дзверы і збегаў назад. А вось толькі цяпер у дзвярах паказалася цела. Ён гэта адчувае, і яму ад гэтага некамфортна. Адсюль – шмат дробных лішніх рухаў».

Калі Імбрык дачытваў Іменнік, Есіп з Настай ізноў выйшлі з лазенкі. Зноў нешта патрапіла ў вока мэтру.

## 08. На мосце

– Нам пара, – аб’явіў Есіп.

Ад Ландынскай да Старамескага пляцу зусім недалёка, 15-20 хвілінаў хады. Прычым ідзеш увесь час уніз, у лагчыну, да ракі. І ўвесь час – праз усю раскошу нескачальнага натоўпу, паўз помнік святому Вацлаву, якога тут называюць проста канём. «Сустрэнемся ля каня». Акурат ля кане Есіп

і Імбрык развіталіся з Настай і рушылі ўніз, натоўп наўкола працягваў гусцець. У гэтым усеагульным вечаровым шумавінні размаўляць было немагчыма, толькі крычаць. І Есіп крыкнуў:

– Давай пагаворым як вернік з вернікам.

«Ён звар'яцеў».

– Ты ведаеш, што зрабіў святы Пракоп? – Есіп прачытаў думку Імбрыка ў ягоных вачах, але не звярнуў на гэта ўвагу. – Пракоп вырашыў дылему Бога.

– Што такое дылема Бога? – крычаў у адказ Імбрык.

– Паміж Богам і Д'яблам. Мы ідзем да святога Пракопа на Карлаў мост, там ты ўсё пабачыш на свае вочы. Ты гатовы?

«Вядома, я падыграю яму, – думаў Імбрык. – Можа быць, апошні раз. Не сказаць, каб мяне моцна цікавілі прыкметнасці Прагі – колькі такога яшчэ будзе за ўсё жыццё і ў розных гарадах. Усяго не запомніш. Ды і навошта запамінаць усё? Ну пойдзем на твой Карлаў мост паглядзець на твае цацкі».

– А вось і «Люцэрна», дзе найлепшая ў Празе «Пльзень», помніш, я казаў табе пра яе? – крычаў Есіп, паказваючы на вялізны шэры гмах. – Але сёння ў нас часу на яе не будзе.

Яны выплывалі з гэтага віравання на Вацлаўскім намнесці, іх проста выносіла магутнай людской плынню па галоўнай турыстычнай сцяжыне кудысьці ў вузкі праход паміж будынкамі, дзе дзве плыні – туды і назад – суіснавалі разам. На нейкі момант яны нават згубілі адзін аднаго, але неўзабаве і знайшліся каля полай скульптуры Дон Жуана пры моцартаўскім тэатры. Так было паміж імі дамоўлена – калі згубіцца, ісці на імя Моцарт.

«Я ўжо поўны рашучасці знішчыць яго! Але трэба, каб ён зрабіў гэта сам», – ятрыўся Імбрык, якога дадаткова ўводзіў у шаленства гэты ва ўсіх сэнсах нязручны паход і літаральна кожны, хто трапляўся ім на шляху. Асабліва гэтыя вымазаныя залатой фарбай дзядзькі ў цыліндрах, якія па-ідыёцку пасвісталі кожнаму мінаку.

Імбрык не ведаў, што Есіп ужо мае квіток на самалёт у адзін бок і заўтра адляціць на радзіму, у Менск. Не ведаў ён і таго, што цяпер тут у Празе ён зойме Есіпава месца, стане сапраўдным астранаўтам і арганаўтам. Але Імбрык гэтага не ведаў, таму ўсе жыццёвыя стрэлкі для яго сышліся на задачы «абясшкодзіць» Есіпа. Што зробіш, калі гэтая ідэя стала для яго на гэтым этапе самай галоўнай у жыцці.

З іншага боку, а калі б ведаў? Магчыма, было б яшчэ горш. Есіп вяртаецца ў Беларусь, а якраз там яго такога Імбрык бачыць і не хацеў. Там, вядома, хапае сваіх шкоднікаў у справе змагання і адраджэння, але ўсе да іх ужо прызвычаіліся як да вар'ятаў. А гэтага слухалі ў радыё, ён меў аўтарытэт, яму першаму дадуць мікрафон на мітынгу. І што ён раскажа? Пра жанчын і могілкі? Пра тое, што рэлігія – тое самае, што сэкс? Пра сваіх касаўскіх албанак?

Магчыма, калі б Імбрык ведаў, што Есіп вяртаецца ў Менск, жаданне знішчыць радыёгероя ягонага дзяцінства і колішняга куміра ўзрасло б у шмат разоў. Прычым зрабіць гэта, па ідэі, трэба было як мага хутчэй, да ад'езду.

– Я чытаў нешта пра мост самагубцаў у Празе, – крыкнуў Імбрык Есіпу проста ў вуха.

– Гэта Нусельскі мост, – адгукнуўся Есіп. – Калі хочаш, мы сходзім на

яго пасля, а пакуль ідзем на Карлаў. – Есіп лёгка счытваў думкі Імбрыка з ягонае мімікі, той яшчэ не навучыўся як след маскавацца. – Ты хочаш, каб я скочыў з Нусельскага мосту? Але зразумей, што без тваёй дапамогі ў мяне не атрымаецца. Бо мост цяпер абстаўлены загародкамі, якія сам не пералезеш. І адзін на іх не забярэшся, бо яны загнутыя на гэты бок. Мы сходзім туды, але спачатку я пакажу табе Пракопа.

«Ён адцягвае свой канец, – шыпела нешта ў Імбрыка ўнутры. – Няхай. Гэтаксама рабіў бы і мой бацька. Яны прасралі нашу беларускую справу, і цяпер каяцца ім не выпадае. Яны выдатна разумеюць гэта і, як коні, што загналі самі сябе, гатовыя на ўсё. Ну пагавары...»

Есіп памаўчаў хвіліну, аддыхаўся і прамовіў (яны акурат апынуліся ў закутку, дзе было адносна ціха):

– Калі ж казаць, як ёсць насамрэч, запомні мае словы. Беларускую справу ніхто не прасраў. Яна проста маленькая пакуль. І яна расце, пашыраецца, нягледзячы на памылкі лідэраў і той каласальны супраціў ёй, які ідзе і знутры, і звонку. Але яна не спыняе росту. Варта пачакаць, пацярпець.

«Пачакаць-пацярпець, – разважаць над словамі Есіпа Імбрыку ўжо не было як. – Цярпілы і пачакуны ўрэшце ніколі не дачэкваюцца нічога. Свабоду не чакаюць, яе бяруць».

Яны прабраліся праз усё новыя і новыя неверагодныя натоўпы на Старамескім намнесці. Есіп кожны раз браў у рэкламнікаў працягнутыя яму афішкі, нязменна кажучы па-чэшску «Děkuji». Праз некалькі крокаў рэкламка выкідалася ў сметніцу.

– Нашто вы гэта робіце? – спытаўся Імбрык.

– Браць афішкі мяне навучыла дачка, – адказаў Есіп. – Каб не пашыраць прастору роспачы і адчаю. Людзі, якія раздаюць іх, спадзяюцца, што ты іх возьмеш. Нашто гасіць іхні маленькі спадзеў на тое, што іх дзеянні хоць камусьці патрэбныя?

«Па-мойму, яны проста лузеры», – падумаў Імбрык. Ён заўсёды адкрыта і паслядоўна казаў, што не любіць лузераў. А хто лузер, вызначаў ён сам. І што яму да спадзеваў нейкіх там лузераў. Сам сябе ён лічыў надзвычай паспяховым, і гэтае запрашэнне на працу ў Прагу было лішнім таму пацверджаннем. Такім у Менску зайздросцілі.

Есіп паказаў Імбрыку друкарню Скарыны насупраць Арлоя (раней Есіпу яе паказаў Абламейка, яны нават зайшлі аднойчы на другі паверх у шыкоўную рэстарацыю, там цяпер ядуць) і пасля выйшлі нарэшце на Карлаў мост.

– Я не буду мучыць тваіх жаданняў, мы ідзем да Пракопа, – казаў Есіп. – Пракоп вырашыў запрэгчы д'ябла ў плуг. Кафка пра гэта пісаў адной са сваіх шматлікіх жанчын Мінце Айснэр.

Есіп дастаў з кішэні нататнік і адкрыў на закладцы. За-за ветру і шуму людскога ракі зноў даводзілася крычаць:

«У душы кожнага з нас жыве кусучы, які не дае спаць па начох, д'ябал, і гэта не дрэнна й не добра, бо гэта і ёсць жыццё; калі б д'ябла не было, і жыцця б не было. Тое, што Вы ў сабе праклінаеце, і ёсць Ваша жыццё. Гэты д'ябал – той матэрыял (і па сутнасці сваёй прыўкрасны), які Вам дастаўся і з якога Вы павінны нешта стварыць. Тое, што Вы працавалі ў вёсцы, гэта, на маю думку, не была адгаворка. Вы проста гналі свайго д'ябла, як жывёлу, якая кармілася да таго часу толькі на вуліцах Цепліца, на лепшую пашу. На Карлавым мосце ў Празе пад статуяй святога ёсць

рэльеф, які выяўляе Вашу гісторыю. Святы тут арэ поле, а ў ягоны плуг запрэжаны д'ябал. Д'ябал усё яшчэ ятрыцца (што азначае пераходны стан; пакуль не задаволены сам д'ябал, гэта не поўная перамога), ён скаліць зубы, азіраецца спадылба са злосцю на свайго гаспадара і сутаргава падціскае хвост, але ў ярмо ж ён ужо запрэжаны. Вы, Мінцэ, вядома, не святая і не павінны ёю быць, гэта зусім непатрэбна, і было б крыўдна й журботна, калі б усе Вашы д'яблы павінны былі цягнуць плуг, але для большай часткі з іх гэта было б карысна, і гэта стала б добрай і вялікай справай, здзейсненай Вамі. Я кажу гэта не проста таму, што мне так здаецца, – Вы самі ў глыбіні душы імкнецеся да гэтага».

– А слова «кафка» вам не нагадвае слова «чорт»? – нудзіўся Імбрык. Нудзіўся і закіпаў адначасова. Не на той мост яны прыйшлі.

– З савецкага юнацтва я памятаю іншую барадатую алітэрацыю: «Мы рождены, чтоб Кафку сделать былью», – адказаў Есіп і раптам змяніў тон на лектарскі, хоць працягваў пры тым крычаць. – Кафка на прыкладзе Пракопа дае формулу жыццёвай гармоніі. Чалавек застаецца жывёлай, што ні кажы, у ім суіснуюць і боскае, і д'яблава. І мудрасць Пракопа была ў тым, каб жывёльную энергію д'ябла скіраваць у стваральнае рэчышча Бога.

– Глядзіце, каб нас не пагналі адсюль. Вы не маеце ліцэнзіі экскурсавода, а выглядаеце як запраўскі лектар, – крычаў Імбрык у адказ. – Напэўна, у Празе, як і паўсюль, вадзіць экскурсіі без ліцэнзіі забаронена. – Яны ўжо былі прыблізна на сярэдзіне Влтавы. – Цікава, як у вас слова Бог спалучаецца з усялякімі сэксуальнымі прэферэнцыямі? – задаў Імбрык сваё патаемнае пытанне, карыстаючыся тым, што ў шуме натоўпу на мосце Есіп можа яго й не пачуць. Але Есіп пачуў.

– Аднойчы мая цяжарная жонка, – пачаў ён крычаць свой адказ, – пайшла ў царкву, каб паставіць свечкі за памерлых, памаліцца. Яна была шчырая верніца, хустку навязала. А жывот ужо тырчаў вялікі. Дзеці ў двары з яе смяяліся – дзяўчынка мячык праглынула. Яна зусім малой выглядала з гэтым жыватом. Дык вось, памалілася, свечкі паставіла, выйшла і недзе там у скверыку прысела адпачыць. А тут ідуць бабкі са службы. І адна падыходзіць і зло так на яе крычыць: прастытутка! Ну калі з жыватом, дык ясна, трахалася ж. Такая логіка. «Прастытутка!» І другая падыходзіць. А жонка такая ж, як і яны, у хустцы, у доўгай спадніцы, толькі з мячыкам-жыватом. «Прастытутка!» Толькі што стаялі-маліліся разам...

Вакол пазіравалі і малявалі шаржы, прымяралі залатыя завушніцы, слухалі звар'яцелую джазістку з оперным голасам, кідалі манеткі міму, падпявалі гітарысту і рабілі бясконцыя сэлфі. Сэлфі з Прагай, з Карлавым мостам, сэлфі з Влтавай, сэлфі з натоўпам...

– Так бывае, калі Бог і Д'ябал існуюць асобна, – рэзюмаваў сваю гісторыю Есіп, – і кожны з іх робіць сваю справу на роўных. Але ж нябеснае і зямное ў адной асобе не могуць адштурхоўвацца, бо тады наступае разлад, які праходзіць па тваім целе і па тваёй душы. Вось калі набожная малельніца можа ў цяжарнай убачыць прастытутку.

– А чаму Дубавец не апісвае жаночыя імёны? – раптам спытаўся Імбрык.

– Іменнікі гартаюць, калі выбіраюць імя дзіцяці, – адказаў Есіп. – Мужчынскае імя характарызуе чалавека – таго, якім стане мужчына. А жаночае імя жанчыну не характарызуе, яно расказвае пра яе лёс. Таму калі выбіраюць імя хлопчыку, хочуць, каб ён стаў такім, як Вася ці Пеця. А калі выбіраюць імя дзяўчынцы, хочуць, каб у яе жыццё склалася, як у

Тані ці Лены. Выбіраюць паспяховы, напоўнены, шчаслівы лёс. Пры гэтым не так важна, якой вырасце дзяўчынка, з якім характарам і якое будзе імя. Мужчыны – толькі фігуранты жыцця, якое ствараюць жанчыны.

На месцы скульптурнай кампазіцыі з Пракопам і д'яблам, запрэжаным у плуг, яны пабачылі абвестку: «Пракоп на рэстаўрацыі»...

Імбрык прачытаў на твары Есіпа расчараванне, блізкае да роспачы. Першы раз за дзень гэты твар мэтра быў такі насцеж адкрыты чужому воку. «Во дагуляўся» – падумаў Імбрык.

– Я ведаю, чаму яны яго забралі! – крычаў Есіп. – Мадэль чалавечай гармоніі – гэта ж мадэль шчасця, праўда? А людзі хочуць толькі прадчуваць шчасце ці ўспамінаць шчаслівыя імгненні, але не жыць імі. Яны баяцца. Шчасце – гэта насамрэч вельмі шмат. Для многіх яно зусім няўздымнае. Таго, хто жыве ў шчасці, наш выкладчык эканомікі Юшкевіч калісьці назваў ідыётам. «Толькі ідыёт бывае шчаслівым!» Вось чаму шчасце заўсёды, заўсёды на рэстаўрацыі, – здаецца, ён крыху ўзяў сябе ў рукі. – Ідзем паміраць? – гэта было сказана раптам і амаль з насмешкай, што непрыемна кальнула Імбрыка. – Але гэта фантазіі, не больш. Проста мы чамусьці не карыстаемся гэтым.

– Так, ідзем. Я, вядома, не збіраюся, – паспяшаўся Імбрык рацыянальна прапісаць працэдуру.

Зноў праз натоўп яны прамінулі мост і скіраваліся налева, да Рудальфінуму, пражскай філармоніі, дзе іх мусіў сустрэць дырэктар іхняе службы са сваёй жонкай Светай. Гэтая сямейная пара любіла гасцей, доўгія гутаркі пра ўсё на свеце і любіла такія запрашэнні, неістотна, ці да сябе дадому, ці куды-небудзь.

– Вы любіце Вівальдзі? – спыталася Света ў Імбрыка.

– Вівальдзі? – шкляным вокам зірнуў на яе Імбрык. Паўза. – Канечне, – Імбрык расплыўся ва ўсмешцы.

«Кар'ерыст, – падумаў сабе Есіп, – што ён можа любіць?»

У вялікай зале – адначасова раскошнай і лапідарнай – было няўтульнае ўсё. Кандовыя крэслы, сцены, абіўка якіх дыхала старызнай, людзі ў адзенні «на выхад», набытым яшчэ ў часы далёкае маладосці, і тое, што яны сабраліся слухаць, – напэўна ж, сотні разоў чутага імі Вівальдзі. Прынамсі, так гэта ўсё ўспрымаў Імбрык. Ён хадзіў на канцэрты часта, але гэта былі выступы ягоных сяброў ці гуртоў, якімі захапляліся ягоныя сябры. У такой вось рэтраграднай стылістыцы тэатра, які згубіўся ў невядомых часах, Імбрык апынуўся ці не ўпершыню.

Гралі «Сезоны». Пачалі з «Восені». Нешта такое Імбрык чуў яшчэ, калі дома была радыёкропка. І ён старанна падглядаў за дырэктарам, які напружана глядзеў на сцэну. Было такое адчуванне, што ўсе слухаюць, а пры тым чагосьці чакаюць. Сыгралі «Зіму», пасля «Вясну». Імбрык не паспеў заўважыць, у які момант дырэктар раптам расслабіўся тварам і цяпер пазіраў на сцэну спакойна, нават лагодна, хоць матыў чакання параненйшаму прысутнічаў на ягоным твары. Імбрык паспрабаваў таксама зрабіць лагодны твар. Але было позна.

Знешні акадэмізм самой залы, ансамбля і музыкі аказаўся падманлівым. Бо раптам тут пачалася такая кругаверць, што ўсіх быццам падкінула, падхапіла хваляю і панесла ў невядомым накірунку. А-а-а – закрычаў Імбрык. А-а-а – закрычаў Есіп... Хто ж ведаў, што іх адправяць проста ў космас. Але галоўнае чакала наперадзе. А наперадзе было – «Лета». Самы

страшны ў сваёй неверагоднасці, немагчымасці, нерэальнасці твор. Як бы ўсё памірала, пагружалася ва ўсеагульную дэпрэсію, і раптам, як свежы вецер заляцеў, гэтыя скрыпкі. Дэпрэсія, канечне, таксама не адступае. Кожнаму сваё. І скрыпкі кажуць: не хочаш – не трэба. Тут зусім апускаеш галаву. І раптам нешта ажывае ў крыві. Інтанацыі яшчэ пахавальныя, але ты ўжо прадчуваеш, што неўзабаве настане новая рэальнасць. Ну яшчэ трошачкі. Паехалі... Першы Ніягарскі вадаспад. Ну, не спяшайся. Яшчэ крыху пасумуем. Зацягнем момант. Мы ж верым, што нас чакае штосьці абсалютнае. Пацярпі... Альты ззаду ўвесь час нагадваюць, што гэта толькі прэлюдыя. А, вось! Пагналі. Палілося! Кас-ка-ад! Так не бывае! Ні за што на свеце... Адно за адным! Усе святыя заспявалі! І – музыка, якая музыка, як усхваляванае дыханне! Каскадамі... Ну чаму мы не так жывем?..

– Вось ён, д'ябал, запрэжаны ў плуг, – узбуджана казаў Есіп, калі яны выйшлі з канцэрту, развіталіся з дырэктарам і Светай і скіраваліся ў адваротны шлях. – Вяршыне ўсяго і ўся.

– А па-мойму, той жа «Старлес», толькі ў профіль, – скептычна сказаў Імбрык. – І як гэта вы ў «Леце» не разгледзелі фрыкцыяў? Па-мойму, усё так відавочна.

«Глядзі ты, запомніў, пачуў, распазнаў...», – адзначыў сабе Есіп.

«Нейкі дохлы квартэт на сцэне, а сапраўды, вытвараюць нешта нерэальнае, – думаў Імбрык. – Ні табе року, ні рэпу, і напісана ўсё чорт ведае калі, але такая... Усё ж разумею гэта і я, і адчуваю. Не толькі пярэстаркі».

– А ўяўляеш, які табе пярэстарак Вівальдзі? – пасміхнуўся Есіп. –Відаць, справа ўсё ж не ў гэтым.

Яны зноў прабіраліся праз натоўп на Старамескай плошчы міма помніка Яну Гусу, пасля – праз натоўп на Вацлаўскай. У самым пачатку яе Есіп паказаў направа:

– Тут звычайна прастытуткі ловяць кліентаў. Раптам табе спатрэбіцца. Будзеш ведаць. Але дарага, халера. Яны самі высокага класу і «здаюць» сябе разам з даражэзным гатэлем. – І, не мяняючы інтанацыі, – Наста мае рацыю, найбольш эпітэт «вялікі» асацыюецца з кампазітарамі. Бах. Самы вялікі, так мяркуецца. Але мала хто ведае, што Баха на 100 гадоў пасля смерці папросту забылі. Словам, сам Бах так і не адчуў, што ён вялікі.

## 09. У палёце

– Чайкоўскі адназначна вялікі кампазітар, – сказаў Імбрык.

– Гэта школьны стэрэатып, – адмахнуўся Есіп. – Прычым расейскі. Дзеці вырастаюць і пасля даведваюцца, што ён быў ці не быў гомасэксуалістам, а гэта ў расейскім кантэксце значыць, што веліч яго патрэсканая і падазроная, што лепш пра яго не згадваць. Так там павялося спрадвеку. Дый у нас цяпер таксама. Калі нехта сказаў, што чалавек гей, людзі будуць асцерагацца называць яго вялікім артыстам. Аднойчы, я тады быў рэдактарам газеты ў Менску, і да нас на працу прыйшоў Славамір. Ён меўся як журналіст расследаваць самыя вострыя справы. І акурат адбылося забойства славутага тэатральнага артыста. Страшнае забойства, шаснаццаць нажавых. І было дзіўна, што вакол усяго гэтага стаяла поўная цішыня ў прэсе, толькі ў кулуарах шушукаліся – маўляў, гэта геі забілі свайго з рэўнасці. Ну а мне што? Гей ці не гей, а з культуры выпаў адзін з яе магутных рухавікоў. Дый па-чалавечы было шкада

выдатнага артыста. Ну і скіраваў я карэспандэнта Славаміра з усім яго рашучым імпэтам на раскрыццё гэтай справы. Натуральна, ён пайшоў да следчага, а той яму сказаў тое, пра што шушукаліся ў кулуарах: не лезь ты ў гэта ва ўсё, гэта разборкі геяў, цёмная справа. Яна не першая такая, і мы яе спусцім на тармазах. Літаральна так і сказаў. І ўсё гэта карэспандэнт Славамір распавёў мне. Маўляў, расследаваць без сэнсу. Чуткі чуткамі, а да фактаў цябе ніхто не дапусціць, бо тыя, хто мусіць расследаваць факты, высвятляць абставіны, шукаць забойцу, самі гэтага рабіць не будуць. Гейскія разборкі... Чаму такая пазіцыя можа быць? Таму што яна цалкам падтрыманая ў грамадстве. І любы табе скажа тое самае: нечага туды лезці, гэта гейскія разборкі.

– Ну так, – пагадзіўся Імбрык. – Грамадства не даспела да таго, каб успрымаць геяў за роўных. Гэта рэальнасць, яе не пераскочыш. Дык і што вы адказалі карэспандэнту Славаміру?

Яны ішлі нейкімі бакавымі цёмнымі вуліцамі, дзе амаль не сустракалася людзей. Гэта ўвогуле характэрна для турыстычнай Прагі, калі зусім побач з шумнай людской ракой на асветленых пляцах хаваюцца зусім неасветленыя і бязлюдныя вулічкі і завулкі.

– Я адказаў яму тое, што скажу зараз табе, – уздыхнуў Есіп. – Натуральна, забойства славутага артыста прыцягвае ўсеагульную ўвагу. Як жа так?! Што здарылася?! Хто забойца?! Але грамадства дазваляе сабе жыць далей без адказаў на гэтыя пытанні. Яно дазваляе сабе здавольвацца няведаннем, цемраю, пустатой... Ты пакуль што не славуты артыст. Але ты таксама жывеш адзін. Ты ніколі не рабіў акцэнту на сваёй сэксуальнай арыентацыі. Не рабіў камінг-аўту, але і за жанчынамі не ўвіхаўся, не жартаваў на адпаведныя тэмы. Разумееш?

– Але я не гей, – запярэчыў Імбрык.

– Вельмі добра, – адказаў Есіп. – Асабліва ў Беларусі. Але заўтра цябе знаходзяць у тваёй кватэры забітым, шаснаццаць нажавых. Следчы сходу пазнае «почырк» і робіць выснову: гэта разборкі геяў. Справа спускаецца на тармазах. Грамадства прымае гэта як належнае, і нават карэспандэнт Славамір не шнырыць вакол, бо ты яшчэ не славуты артыст.

– Чакайце, але так жа можна забіць амаль кожнага, напрыклад, і канцы ў ваду?

– Гэта я і сказаў тады Славаміру, – Есіп пачаў патроху збочваць управа, вулічкі змяняліся, але нязменна вялі ўгару. – Сабака закапаны не там, дзе яго шукаюць. У нашай сітуацыі можна выходзіць на гей-прайды, якія разганяе міліцыя пад ухвальнымі позіркамі натоўпу. Але гэта нічога не мяняе, калі не сказаць – пагаршае. Забойства мусіць быць расследаванае не як забойства гея, а як забойства чалавека. На тое ёсць усе законы. І калі гэтага не робіць следчы, гэта мусіць рабіць журналіст. Ёсць незалежная прэса, ёсць таленавітыя карэспандэнты, ёсць рэспандэнты навокал, хай сабе і ананімныя. Усё, што трэба, дакапацца да ісціны, а не ўспрымаць трагедыю як шабаш ведзьмаў пад непераадольным містычным покрывам нейкіх «нам не зразумелых» істотаў. Д'ябла трэба запрэгчы ў плуг. У нашым выпадку журналіст павінен прымусіць закон працаваць. Толькі тады можна разбурыць гэтую аблуду пра інакшасць геяў. Перад законам нічым яны не інакшыя, такія ж грамадзяне, як і ўсе астатнія.

– Цікава, – Імбрыку хацелася збіць гэты жарсны маналог Есіпа, абвергнуць яго, выкрыць, паказаць, што ён не мае рацыі, нават хлусіць у сваіх

прыгожых казуістычных канструкцыях. – А што рабіць тады з вашым сэксізмам?

– Я не ведаю, што гэта такое, – пасміхнуўся Есіп. – Сэксізм-фэмінізм для мяне мала што значаць. Гэта нейкае абвастрэнне ці што? Ёсць роўныя правы палоў, якія гарантуюцца законамі, калі б тыя працавалі. А ў астатнім, як па мне, дастаткова катэгарычнага імператыву: не рабі іншаму таго, чаго не хацеў бы каб рабілі табе. Ёсць асаблівасці фізіялогіі, але яны проста прымаюцца да ведама. Як і ў сітуацыі з геямі, рабіць з жанчын нейкіх «інакшых» людзей – гэта барбарства і злачынства. Няма ніякіх інакшых, апроч індывіда, які сапраўды кожны – інакшы.

«Ліберальна-касмапалітычныя абстракцыі», – вынес вердыкт Імбрык. Ён ужо не адчуваў ранейшага яраснага раздражнення на Есіпа, бо сілы і думкі канцэнтраваліся на ўчынку, да якога яны набліжаліся.

– Ці далёка нам яшчэ? – спытаўся Імбрык.

– Зусім блізка, – крыху запыхаўся Есіп. – Сцямнела, але ты ўсё адно зможаш пабачыць і ацаніць гэты дзівосны аб'ект – Нусельскі мост. Колькі ні хаджу па ім, ён не перастае заварожваць.

Гэты мост не праз раку, не праз чыгунку. Гэты мост праз неба. Пад ім, куды ні глянь, – разложыстыя паркі і цэлыя кварталы старых шматпавярховых дамоў, між якімі ходзяць трамваі. Але гэта ўсё так далёка ўнізе! Відовішча такое, нібы ты глядзіш з самалёта, які набірае вышыню. Адначасова і страшнавата, і прыцягальна, быццам выходзіш у іншую рэальнасць. Мост настолькі магутны, што ў ягоным нутры праходзіць метро. І ты нават не чуеш, як толькі што проста пад нагамі прагрымеў цягнік.

– Некалі я вырашыў заняцца бегам, – распавядаў Есіп, пакуль яны ўзбіраліся па Сакольскай вуліцы, – і бегаць вырашыў менавіта па гэтым мосце. Каб перамагчы свой страх. Але мост заўсёды перамагаў мяне. Страшна высокі, страшна доўгі і страшна магутны. Мабыць, усім гэтым страхоццем ён ад самай сваёй пабудовы і прыцягваў самагубцаў. Пражскі Нусельскі мост.

«Сёння прыйдзецца табе перамагчы мост», – думаў Імбрык. Нейкая панурая ярасць абуджалася ў ім.

– Ходзячы праз гэты мост, – працягваў расповед Есіп, – я часцяком рэканструяваў сабе ў галаве, як тое адбывалася з самагубцамі. Нейкая дзяўчынка пакідала дома запіску: «Мама, нішто больш не трымае мяне ў гэтым жыцці...». Мама вярталася з працы. Божа, які жах! Мама тэлефануе ў паліцыю – так і так, і паліцыя з мігалкамі ляціць да Нусельскага мосту. У паліцыянтаў таксама не слабы выкід адрэналіну. Вось яны выскокваюць з машыны, а Ленка ці Бажэнка ўжо стаіць з таго боку парэнчаў, уся светлая такая, і глядзіць у вочы свайму нябеснаму прынцу. І не паспяваюць яны тузануцца са сваім планам перахопу (дарма складалі, ці што), а яна ўжо ступіла наперад... Ляцець ёй доўга, бо надта высака. Можна шлягер Карэла Гота паслухаць за гэты час. Прынамсі, палову. Вось толькі ім, паліцыі, што рабіць, што казаць маме? І ляціць яна зусім бясшумна, бо ёй ужо хораша, яна нават усміхаецца анёльскай усмешкай. Як Карэл Гот. А праблема яшчэ і ў тым, што ўнізе парк, мамашы, куча дзетак неразумных трохгадовых на трохкалёсных роварыках, клапатлівая бабуля адводзіць унучка ад фантана. Так і бачу стоп-кадар. Усе замёрлі, і толькі яна ляціць, ляціць... Усе ў эйфарыі, і яна, і мамашы ў эйфарыі, і дзеткі, і бабулька. І раптам эйфарыя на эйфарыю плясь! Колькі тут было такіх сюжэтаў?

Думаю, шмат. Чаму мэрыя і паставіла замест парэнчаў гэтыя металёвыя заслоны-сеткі, загнутыя ўсярэдзіну. І Ленка з Бажэнкай перасталі рабіць глупствы, прынамсі ў гэтым месцы. Але назва засталася, і турысты абавязкова хочуць пабачыць «мост самагубцаў».

Узышоўшы на мост, Есіп углядаўся ў далёкія магутныя муры Вышаградскага замку. Ён успомніў, як Галя Навумчык, калі стала дыпламаваным гідам і павяла калегаў на экскурсію ў Вышаград, распавядала пра лазню княгіні Лібушы. Есіп заўважыў, што і Імбрык узіраецца ў тыя замкавыя сцены, і сказаў:

– Табе трэба схадзіць туды. Не цяпер, калі-небудзь. Там могілкі, на якіх пахаваныя ўсе вялікія чэхі. У адным месцы. Там іх пантэон. І там таксама ёсць руіны лазні, дзе мылася першая чэшская княгіня Лібуша. Лазня стаяла на высокай гары па-над Влтавай. І ў той лазні, натуральна, учыняліся оргіі, наганялі маладых «жарабцоў». Такая сабе порнаказка ў стылі нямецкіх фільмаў 1970-х гадоў. У лазні быў зроблены каменны жолаб, па якім «адпрацаваны матэрыял» скідаўся ў раку... І чаму чэхі заўсёды адно аднога выкідаюць з вышыні?

– Тут і праўда страшнавата, – сказаў Імбрык. – Мы быццам на хмары стаім. Як такое будуюць?

– А цябе чаго плюшчыць вышыня? У 12+ нічога не страшна, – пад'ялдыкнуў Есіп.

– Страх падганяе яшчэ больш. Вам трэба скочыць з гэтага масту. Справа вырашаная. Але як гэта зрабіць? – ён замітусіўся, ад чаго Есіпу захацелася быць як найбольш няспешным:

– У ідэале мы павінны гэта рабіць задам-наперад, як у «Сінім караблі» Дубаўца. Тады адкрываецца трэцяе вока.

– А нашто нам трэцяе вока? Каб бачыць наперад? Я й так ведаю, што ў мяне наперадзе выдатная, бліскучая будучыня, а вы – дрэва, якое не прыносіць плода, толькі замінае... – пагаслым голасам прамовіў непрыемныя словы Імбрык.

– Давай папраўдзе, – уключыў Есіп у сабе педагога, які ў ім ніколі не начаваў. – Ты выдатны функцыянер, непераўзыдзены кар'ерыст, абалдзенны аферыст. Інакш бы мы, напэўна, не сустрэліся, бо ўсе любяць чытаць пра аферыстаў. Але журналіст і рэдактар ты ніякі. Прабач. Таму мы, як ні круці, усё ж розныя расліны. І няма чаго папаі раўняцца да маракуі меркамі пакаленняў.

– Добра, – бачна было, што Імбрык абмяк. – Але задуманае трэба завершыць.

– Вось тут цалкам згодны. Задуманае трэба заўсёды завяршаць. Нават калі цалкам не згодны са зместам, форму трэба давесці да канца. У гэтым, магчыма, мая рэдактарская драма.

– Ну скажыце ўжо – трагедыя.

– Не, не атрымаецца. Я ніяк не персанаж для трагедыі, – Есіп зноў паглядзеў на Вышаградскія муры. – Ведаеш, кім бы я хацеў стаць па жыцці? Сам доўга думаў пра гэта. І пасля 50-ці задаваў сабе гэтае пытанне, якое малым задаюць у пяць. Адказ знайшоўся зусім нядаўна. Я хацеў бы стаць паспяховым порнаакторам. Напрыклад, у фільме пра княгіню Лібушу. Зрэшты, быць непаспяховым у мяне б не атрымалася. Натуральна, і радзіме мог бы дапамагчы.

– А што вас спыняе, там, наколькі ведаю, узросты не маюць значэння,

ідзі ў сваю катэгорыю. Бліжэй да жанчын і могілак, – абыякава сказаў Імбрык.

– Бяда ў тым, што я ўжо на сваім месцы, – Есіп зірнуў на Вышаград, як апошні раз, павярнуўся да Імбрыка і сказаў. – Ты і праўда харошы вернік. Але глядзі. Устаўшы табе нават на плечы, чаго пасля піва я не зраблю адназначна, я сам не ўскараскаюся на гэты антысамагубчы брыль. І лесвіцы ў нас няма. Давай мысліць рацыянальна. Я табе дапамагу на яго залезці і тады ўжо ты падцягнеш мяне.

– Ну давайце так, – у Імбрыка неяк зусім не было настрою.

Ён абшчаперыў Есіпа і што было моцы падцягнуўся да брыля, закінуў нагу і сяк-так быў ужо там, выцягнуў рукі ўніз. Есіп з усяе моцы ўхапіўся за іх і з дапамогай Імбрыка ўскараскаўся туды сама. Але трымацца дваім там не было як і за што. І дзве постаці сучаснага беларускага адраджэння адразу саслізнулі ўніз.

– Прага – гэта масты і палёт. Горад, дзе вечна кагосьці выкідаюць з вакна, – крычаў на ляту Есіп. – У чэхаў нават тэрмін гэтаму ёсць – дэфенестрацыя.

– І тады выкінутыя становяцца зоркамі? У сэнсе, яны становяцца вялікімі? – крычаў у адказ Імбрык.

– Неабавязкова, але ў нашым з табой выпадку можаш лічыць, што стаў вялікім!

– Кім? – не дачуў Імбрык.

Яны павольна ляцелі ў гэтым бясконцым зніжэнні, хацелася нагаварыцца. Унізе зусім сцямнела, грымелі трамваі, мамашы акрыквалі сваіх дзетак і чамусьці думалася, што тут любіў перад смерцю шпацыраваць Васіль Быкаў.

– Не, – крыкнуў Есіп. – Быкаў любіў хадзіць у Гаўлічкавы сады. Гэта не тут, але гэта тая самая лінія. Там прыўкрасныя вінаграднікі, асабліва зімой.

– Вы, як Навумчык пра Быкава, спяшаецеся зафіксаваць праўду факта, – крычаў Імбрык.

– І гэта правільна. Адно што Навумчык не скокне з Нусельскага моста, – адказваў Есіп.

– Ну й дарэмна, яму як архівісту трэба размінацца ад сядзячае працы.

– У яго для гэтага ёсць сабачка Шэйла, яна як глазураваны сырок, і яе абавязкова трэба выводзіць на прагулку, таму Навумчыку ёсць з кім размінацца...

Калі Імбрык ачомаўся і падняўся над целам Есіпа, ён адчуваў задавальненне ад таго, што задуманае здзейснілася. Праўда, пры гэтым чамусьці хацелася плакаць. Проста рыдаць ад непапраўнасці. Хоць была ў гэтым і хаатычная радасць – свет стаў інакшым з ягонае, Імбрыкавае волі. Гэта так моцна спакушае. «Хай будзе воля твая». Ён не мог зразумець, ці ягоны плач ад гэтае вялікае перамены, ці ад таго, як на спектаклі Купалаўскага, калі ён плакаў ад таго, што акторы выходзілі на біс. І плакалі ўсе.

Нерухомы Есіп глядзеў у неба. Дакладна, як тады, раніцай, на тэрасе Радыё ён глядзеў у разумны акіян Альшанаў. Толькі цяпер ён сказаў не пра жанчын і могілкі. Ён сказаў: «Парожнія рэкорды бываюць толькі ў кнізе рэкордаў Гінэса, – і пасля паўзы дадаў: – Мы ляжым, а на небе няма зорак, Імбрык».

«Здаецца, ён сціх», – падумаў Імбрык. Прыслухаўся. І пачуў, ці мо падалося, як рытмічна нарастаюць нейкія надта знаёмыя гукі. Дзе ж ён гэта чуў? Гэтыя, блін, фрыкцыі? Гэта Вівальдзі ці Крымсаны ці, можа быць, нешта іншае? Ясна было, што гэта яно, але што? Каторае? Яно ўжо не дасягала апагею, каскадаў з вадаспадамі. І тут Імбрык усё зразумеў. Яно ўжо і не дасягне, бо аддаляецца, адыходзіць, сціхае. Разам з гэтым Есіпам яно ўсё адыходзіць, робіцца не гучней, а наадварот – цішэй, цішэй, цішэй. І было так моцна, як ніколі ў жыцці, шкада, што яно знікае, што наступае ноч, са скрыгатаннем пражскіх трамваяў, але і нават гэтае скрыгатанне, якое хай бы нарастала, яно незваротна аддаляецца, заціхае. Нішто не хацела нарастаць.

Стала зусім ціха. Тут ніколі не бывае ціха, тут круглыя суткі ўсё грыміць, скрыгоча, енчыць на ўвесь свет. А зараз нібы туманам заклала вушы. Гэта канец?

Рэаліст Імбрык адчуваў, што пасля апошняга палёту... пасля апошняга палёту... пасля апошняга па-лё-ту... пасля апо-шняга... «Гэта канец» – прашаптаў ён.

Фі-ні-шшш.

– Божа, як банальна, – Есіп устаў з зямлі, рэзкім рухам абтрос калашыны. – Што б вы 12+ рабілі без нас, пярэстаркаў? Ну нічога не могуць зрабіць. Я як рэдактар раз'ятраны. Якая бездапаможнасць! Якія загалоўкі! Абракадабра. Ну вазьмі, чуеш, сам скажы сабе, пра што ты пішаш. Проста сфармулюй. Пра што? Не пішы, толькі падумай, пра што ты хочаш напісаць. Скажы мне яснай думкай. Гэта і будзе за-га-ло-вак. І ўсё! Далей проста не замінай, увесь матэрыял сам складзецца ў цябе ў прыгажосць.

– Гэта містыфікацыя... – прашаптаў Імбрык.

– Да-а-а! – крыкнуў Есіп па-руску. – Гэта пласты атмасферы, і трэба хоць трохі ўмець у іх рухацца. – І спакайней дадаў: – Я ж не сказаў стоп-машына і што хачу памерці, праўда? І што ты хочаш памерці, не сказаў. А мог!

Заварожаны Імбрык думаў з хуткасцю касавага апарата:

– І што, у нас цяпер куча грошай?

– У нас няма матэрыяльных праблем.

– І беларускі народ вернецца да мовы?

– Нідзе не дзенецца. Пабоўтаецца яшчэ трохі, але іншага выйсця ў яго няма.

– Здорава! – сказаў Імбрык. – А чаму вы такі злы, не радуецеся?

Есіп паглядзеў на яго вострым вокам, адвярнуўся, закурыў і сказаў:

– Ведаеш, тое, што ўсё добра, я ведаў і раней. Усё ішло паводле плану. Найлепшым чынам для мяне, для цябе, для ўсіх. Я ў гэтым ніколькі не сумняваўся і мы ўсе рабілі сваю работу... Але тут раптам усё збілася. Аказалася, што Пракоп на рэстаўрацыі. Гэта значыць, што д'ябал не запрэжаны ў плуг, д'ябал гуляе недзе сам па сабе без ашыйніка. Пакуль ты там бавіўся з Настай, я тэлефанаваў Абламейку. Ён сказаў, што арыгінальны Пракоп цяпер знаходзіцца ў нейкім спецыяльным сховішчы скульптур. І што ён больш ніколі не вернецца на сваё месца, на Карлаў мост. Ні-ко-лі!

Эмоцыі перапоўнілі Імбрыка. Гэты палёт, гэты Есіп зноў і гэты Пракоп. І ён узарваўся:

– Што значыць «пакуль я бавіўся з Настай», гэта вы з ёй бавіліся,

вы яе трахалі, пакуль я чытаў вашага гробанага Дубаўца. Што значыць увесь гэты, блін, Пракоп? Чаму я павінен пра гэта думаць? – ад стрэсу Імбрык заплакаў.

– Пракоп, – аддыхаўшыся, сказаў Есіп, – ці, дакладней, прапажа Пракопа, калі табе гэта цікава, для мяне самы важны аргумент, што я сваю місію, наколькі мог, выканаў. Тут у Празе я больш ні на што паўплываць не змагу. Я ўвесь час думаў пра Пракопа. Ты, хрысціянін, мусіш ведаць словы Папы: кожны хрысціянін і ёсць Хрыстос. Дык я сам для сябе і быў Пракоп. Але больш Пракопа, якім яго бачыў Кафка на Карлавым мосце, няма. І не будзе ніколі. Я вяртаюся ў Беларусь.

«Вось табе маеш, – падумаў Імбрык, і нешта новае нараджалася ў яго ў душы, – ён вяртаецца, я застаюся». І цяжка было адразу сказаць, чаго ў гэтым болей – нейкай глыбокай таемнай радасці або злосці... Імбрык пачынаў разумець, што злосці няма. Няма больш ні раздражнення, ні ярасці, ні рашучасці знішчыць Есіпа. Апошнія яскі гэтых пачуццяў згасалі перад наступам той самай асцярожнай, але вельмі глыбокай радасці жыцця.

Яны моўчкі пляліся з прыступкі на прыступку па лесвіцы, што вяла наверх, назад да Нусельскага моста. Гаварыць не хацелася, бо столькі трэба было ўсяго перадумаць у сябе ў галаве. Здавалася, усё толькі пачынаецца, у Імбрыка, у Есіпа, ва ўсіх навокал. І лесвіца, гэтая каменная лесвіца ў неба, што ніяк не сканчалася, быццам іх супакойвала: не спяшайцеся, я дам вам час усё перадумаць, усвядоміць і асэнсаваць. Я бясконцая.

Людміла Рублеўская



...мы ўсе сваякі –

па каменні...

# “Яны”

***Вершы пра фобіі і маніі***

*...Яны ляжалі на выгаралай траве ці стаялі, прыхінутыя да скалы. Руны і лацінскія словы на іх спляталіся ў лабірынты, якімі блукаюць толькі прывіды, археолагі і паэты. Тыя, што пры ўваходзе ў аблеплены гаргуллямі сабор, альбо ў самім саборы, да бляску нашараваныя тысячамі падэшваў... Так трэба. Так правільна. Як сатруцца імёны, сатруцца грахі... Я гладзіла прахалодныя каменныя целы і спрабавала разгадаць знакі: вось нешта падобнае да нажніцаў... Вось лупіцца марская пачвара... Вось выгінае голле дрэва, ці не Ігдрасіль... Тут, на востраве пасярод халоднага мора, за старым мурам з сарака чатырма вежамі, пасярод скал, камянёў і ружаў, чаго баяліся людзі, што ляжаць пад гэтымі надмагіллямі? Яны шапталі мне пра гэта хвалямі, лісцем, дажджом і жвірам... Яны шапталі мне – “Не бойся... Не бойся...”*

### ЧАЛАВЕК, ЯКІ БАЯЎСЯ СПАЦЬ ЛЕЖАЧЫ

Ён баяўся спаць лежачы, верыў – душа адляціць.
Ён грувасціў падушкі, хапаўся за вострыя думкі.
Сэрца грукала ў рытме чужых баявых калясніц,
І ніколі дзіця да яго не працягвала рукі.
Ён ні разу з жанчынай на ложа граху не прылёг.
Раптам ляжа з якою – а тая акажацца Смерцю.
Фундаваў кляштары – каб яго дапільноўваў Пан Бог.
Замаўляў гараскопы і ездзіў у чорнай карэце.
Як чалец магістрату, законы хацеў працягнуць:
Хто прыляжа на траўку – сцябаць бізунамі ляніўца.
Ды аднойчы не змог, нават седзячы ў крэсле, заснуць.
І ўсвядоміў: сусвет нейкім спосабам перакуліўся.
І ніколі не стаць вертыкальна да гэтай муты,
Што завецца быццём і падманвае, быццам кабета.
На магіле яго паляжаць так карысна тады,
Як ацёкі ў нагах.
Заўтра ж пройдуць.
Такая прыкмета.

### ЧАЛАВЕК, ЯКІ КІДАЎ КАМЯНІ Ў МОРА

Ён каменне шпурляў у мора.
Кожны дзень. Хоць адзін. Бо верыў,
Што з глыжоў патанулых творыць
Для сябе пачвару-Хімеру,
Што аднойчы выпаўзе з хваляў
Паслухмяная ўсім загадам.
Мур магутны, як трэскі зваліць,
Як траву, патопча прысады.
Ён на ёй заявіцца ў горад,
І адразу станецца князем.
Нескароных – загнаць у мора,
Ці ў рабы, у блазны, у вязні.
Ён імперыю зладзіць лёгка –
Што супроць хімеры – адвага?
І вачэй не падыме лёкай
На свайго ўладара ад жаху.
І не ўспомніць, што той учора
На замову латаў адзенне.
А пакуль ён ходзіць да мора
І шпурляе ў яго каменне.
Ну а мора не дапаможа
Гадаваць анёла ці звера.
Ён аднойчы не ўзняўся з ложка.
І прыйшла да яго Хімера.
З надмагілля глядзіць уночы,
Распрасцёрла цяжкія крылы.

Ёсць прыкмета: Фартуны хочаш –
Кінь камень на тую магілу.

### ЧАЛАВЕК, ЯКІ БАЯЎСЯ СТАЦЬ ДРЭВАМ

Ён баяўся стаць дрэвам.
Бо чуў, як растуць карані,
Як у венах бяжыць не чырвоная кроў, а крыніца.
І ён плакаў празрыстай смалою
І яблыкі сніў,
І галіны, і птушак, што ў іх пажадалі гняздзіцца.
Ён баяўся стаць дрэвам.
І дрэвы зацята ссякаў.
Ён паліў іх у грубцы,
А попел ссыпаўся на ўзлеску.
Ён з камення свой дом збудаваў.
Еў з металу і шкла.
Нават ложак і стол
змайстраваў без адзінае трэскі.
А з драўніны рабіў абухі для сякераў – няхай
Служыць дрэва забойству падобных.
Ён марыў пра горад
Без травы і лістоты.
Баяўся патрапіць у рай,
Каб не ўбачыць, як голле
да Бога выпроствае вораг.
Ды аднойчы прысніў,
як сякера ўзмахнула ля ног –
Не, не ног, а камля...
Ён прачнуўся – хутчэй да люстэрка.
І адразу ўсвядоміў, якое ён дрэва. Ён – глог!
Вось лісток у валоссі,
А з вены прабілася кветка.
Ён умеў нішчыць дрэвы...
Вядома, з магілы яго
Вырас глог... І квітнеў,
Быццам белая ўпала залева.
Ён жа помніў,
як многа майстрачыў сякераў штогод.
Каб жа толькі ён ведаў,
Як добра, як слаўна –
быць дрэвам.

### ЧАЛАВЕК, ЯКІ БАЯЎСЯ ЗАМКОЎ

Калі ён нарадзіўся на свет, пракрычала сава.
"Ну і злодзей з'явіўся!" –

прысуд аб'явілі суседкі.
Будзе бачыць уночы,
Замкі, нібы вішні, зрываць.
Не ўтрымаюць такога
ні ямы, ні турмы, ні клеткі.
Ну а хлопчык рос ціхі,
любіў незабудкі і глог.
За матуляй хадзіў,
малітоўнік трымаўшы пачціва.
Ноччу спаў, і чужога не браў,
і аж млосна было
Ад абразлівых плётак
пра тое савінае дзіва.
Ён не злодзей!
Яму не патрэбны зямныя дары.
І таму ўсе замкі пазбіваў ён
у матчыным доме.
Парасчынены куфры і шафы –
прыходзь і бяры.
Ну а сам гаспадар
Можа спаць у куце на саломе.
Ён маліўся і шчодра адорваў усіх жабракоў.
І за клямкі дзвярныя не браўся,
пакуль не адчыняць.
І ўсё больш забываў
пра савой сапсаваную кроў.
Ды аднойчы пабачыў у храме чужую жанчыну.
Пераспелай ажынай блішчэлі каралі яе.
Ён уцяміць не мог,
як патрапіў іх зняць непрыкметна.
А пасля ён ляжаў і праз цемру начную глядзеў,
Ноч празрыстай была для яго да мядзянай манеты.
І, вядома, ізноў загукала насмешна сава.
І апошні замок
аказаўся не самым трывалым.
Ён лічыўся святым –
каля храма належыць хаваць.
Так ён там і ляжыць.
І сціскае ў далонях каралі.
На пліце мармуровай ад літараў толькі луска.
Бо ляжыць пры парозе, і ўсё пасціралі абуткам.
Тут укленчваюць часта,
як трэба што-небудзь шукаць.
Як памолішся шчыра –
прапажа і знойдзецца хутка.

## ЧАЛАВЕК, ЯКІ НІКОЛІ НЕ СПЫНЯЎСЯ

Як вавёрка па вечным дрэве,
Як вада ў млынаровым коле
Ён накручваў свае імгненні,
Не спыняючыся ніколі.
Бо ў дзяцінстве яго спалохаў
Злы жабрак па скончэнні месы:
“Ты памрэш, як пабачыш тое,
Што бяжыць і стаіць на месцы”.
Рамяство надзейнае – мытар.
Тут не ведаць нагам спакою.
Разбягаўся люд паспаліты
Перад ім, як перад чумою.
У суме скураной манеты
Падпявалі імклівым крокам.
Ён хадзіў, як ходзяць планеты,
Хвалі, яшчаркі і аблокі.
З вёскі ў вёску, з горада ў горад
Ён блукаў, як ходзяць праклёны.
Ды аднойчы пабачыў мора
І свой бег паламаў штодзённы.
Ён стаяў і глядзеў на хвалі.
Дні каналі ў халоднай пене.
А як ногі ўжо не трымалі,
У пясок ён лёг, нібы зерне.
Ну а мора ўсё бегла, бегла,
І на тым жа месцы стаяла.
І вятры пахавалі цела,
І манеты з ім пахавала.
Як ля мора, падобны воску,
Дзіўны белы каменьчык звабіць –
Кінь яго, бо мытара костка
Назаўжды спакою пазбавіць.

## ЧАЛАВЕК, ЯКІ ЧАКАЎ НАЧНУЮ КАРАЛЕВУ

Лічыўся ён знаўцам атрутаў у гэтым мястэчку.
Хоць лекаў ягоных жадалі, бы яблыка – Ева.
У доме сваім не паліў аніколі ён свечкі,
Баяўся не ўбачыць прыходу Начной Каралевы.
Ён з радасцю з рук яе б выпіў любую атруту.
Хоць мог распазнаць, і ад кожнай прыдумаў бы лекі.
Ён дзеля яе адцярпеў бы любую пакуту.
Ён лекарам быў. А яна не была чалавекам.
Штомесяц груган прылятаў на яго падваконне
І зносіў на лапе бутэльку з чарговай замовай.
І лекар у цемры ляжаў, уяўляючы: сёння

Яго каралева яго ўспамінае хоць словам.
А потым, вядома, яго асудзілі. Як мага.
Забойцу бязвінных, які ад святла адвярнуўся.
А ён у вязніцы ўяўляў цёмных веек узмахі,
Блакітныя вочы і плаўныя ўладныя рухі.
А потым па вуснах крывавая бегла залева.
І ў цемры сплаўляліся мроі, і крыкі, і стогны.
Ды ўсё, што пачулі на следстве, – “Мая каралева...
Жыві, Бона Сфорца... Мая неўміручая Бона”...
“І косткі той Боны згнілі ўжо”, – яму гаварылі.
“Каму пасылаў з груганом ты праклятае зелле?”
А ён паўтараў – пацалункі яшчэ не астылі
Начнога спаткання з рэгінай, начнога вяселля.
Яго надмагілле хавае не косткі, а попел.
У камні выбоіна, быццам адбітак кароны.
Сюды не з’яўляйся. Бо жахі начныя нагоніць
Раўнівая Бона, яго несмяротная Бона.

## *ЛЮДЗІ, ЯКІЯ БАЯЦЦА КАМЯНЁЎ*

...Проста каменне...
А ты паспрабуй, прасачы,
Як заплялiся расколінаў чорныя вены!
Ёсць па кудзелі сваяцтва, а ёсць – па мячы...
Ёсць – па каменні.
Мы ўсе сваякі – па каменні.
Глянь – за табою растуць надмагіллі, як лес,
Корнем адзіным спароджаны ў нетрах стагоддзя.
За чарапахай дарэмна бяжыць Ахілес,
Бо загразае ў тутэйшым маўклівым балоце.
На надмагіллі так зручна раскласці абед.
Што – камяні? Прамаўчаць, іх натура такая.
Там, дзе слімак пакідае свой прывідны след,
І для цябе ўжо рунічны камень вырастае.
Хтосьці, магчыма, над ім рассцілае абрус,
Чаркі рыхтуе, блазнуе, пільнуе імгненне.
Па надмагіллях ступае мая Беларусь.
Па Беларусі ступае мая Беларусь.
Пераплятаюцца чорныя вены каменя.

*10.07.2018–05.08.2018*
*Готланд*



Алесь Бычкоўскі



...інтэрнэт усё яшчэ існуе для людзей,
ці людзі ўжо сталі дадаткам да інтэрнэта?..

# Край ваўкалакаў

***Фэйсбучны раман***

Выпаў самотны настрой, быццам снег,
Адно Месяц у небе радуе...

*Экзістэнцыя па-бярэзінску.*

***

“...Даўней на Беларусі акрамя простых людзей жылі ваўкалакі, істоты злыя і сквапныя, багацце ім даваў чорт, а з простых людцаў жылле яны цягнулі ўжо самі. Удзень яны сноўдалі ў абліччы чалавека, а вось уначы... уначы наставала жуда і паніка – тыя істоты гублялі чалавечае аблічча і рабіліся ненажэрнымі звярамі, што бегаюць па лясах, харчуюцца жывёламі ды начнымі вандроўнікамі.

А яшчэ ў беларускіх казках часам сустракаецца негатыўны персанаж у вобразе млынара. Даўней лічылася, хто мае млын, той багаты чалавек. А хто багаты, той, зразумела, сквапны і злы, з пеклам на кароткай назе. У

старадаўніх беларусаў багацце чамусьці асацыявалася з продажам душы д’яблу. І вось вельмі даўно жыў дужа ўжо злы млынар-чарадзей. Днём ён ці то спаў, ці то аглядаў гаспадарку, а ўначы абарочваўся ваўком, і дзе яго насіла нячыстая сіла пасля, пра тое паспалітым людзям было невядома, паданне маўчыць.

Як водзіцца ў казках, у злога пана млынара дачка была, прыгажуня з прыгажуняў, нібыта подых анёла выглядам, дзяўчына-казка, дзяўчына-верш, натхненне паэту, адным словам. І працаваў на багацея парабак, звычайны сялянскі хлопец, выглядам мо як Пакацігарошак, але не асілак, проста малады хлопец, рамантычна-ўзнёслы, як амаль уся моладзь. Не мог малады рамантык абмінуць увагай прыгажуню. А дзяўчына: што яна бачыла за кароткае жыццё, акрамя млына і злога бацькі? Затрымцела пад дыхніцай, успыхнулі пачуцці. І панеслася...

Толькі тата засяпшаецца праз ноч у лес па неадкладных справах, дачуля бяжыць на любошчы з парабкам. Справа маладая, добрая і прыемная, нават карысная, але ж шыла ў мяху не ўтоіш. Рана ці позна даведаецца татуля пра начныя амуры маладых, тады гамон, хавайся ў бульбу (хоць на той момант бульбы беларусы яшчэ не ведалі, як і назвы Беларусь). Трэба заўважыць – у бацькі меўся план парадніцца з суседнімі багацеямі, і дачка тут вельмі да месца. Стаў хлопец чухаць патыліцу, што ж рабіць? У падобных сітуацыях, дарэчы, хлопцам уласціва чухаць патыліцы, а дзяўчынам – знаходзіць выйсце. Пасля кароткай нарады дачка прапанавала скрасці ў злыдня-таткі чарадзейскае зелле, перакінуцца ваўкамі і бегчы стрымгалоў, на колькі хопіць здароўя, хоць на край свету. Сказана – зроблена. Пакуль млынар удзень адпачываў, хітры план быў выкананы.

У абліччы ваўкоў беглі закаханыя ўцекачы доўга. Нават не адзін дзень, яшчэ мо і ноч. Паданне сведчыць – спыніліся на стромкім беразе магутнай ракі. І тут цікавая акалічнасць: згодна з міфалогіяй, ваўкалакі не могуць пераскочыць цераз бягучую ваду. Спыніліся яны, перакінуліся назад у людзей і ўбачылі велічную пракаветную прыгажосць тутэйшых мясцін. Бяроз расло вакол незлічона. “Як тут беразна!” – у захапленні прамовіла дзяўчына. Тут яны засталіся жыць, ладзіць гаспадарку, неўзабаве збудавалі хату, а пасля ўжо і дзеці з’явіліся. А цягам часу з таго вогласу “беразна!” і пайшла назва мястэчка Беразіно.

Прынамсі, гісторыя з ваўкалакамі даволі слушная для свайго часу. Справа ў тым, што князь Усяслаў Чарадзей (нашчадак Рурыка), які ў адзінаццатым стагоддзі валадарыў у Полацкім княстве, у склад якога ўваходзіла тэрыторыя згаданага мястэчка, згодна са старажытнымі паданнямі таксама быў ваўкалакам і, як сведчаць летапісныя крыніцы і легенды, начамі гойсаў па лясах і абшарах княства. Праўда, злым у адрозненне ад многіх пярэваратняў не лічыўся, будаваў школы, развіваў рамёствы, мацаваў княства, а злым быў толькі ў адносінах да ворагаў. Тым і запомніўся. І хто ведае, мо ў тую эпоху на стромкім беразе ракі Бярэзіны побач з бярозамі і пасяліўся першы чалавек?”

Мне даспадобы легенды пра Бярэзіншчыну. Я тут нарадзіўся. Трэба адзначыць, у пэўным сэнсе тутэйшыя легенды – часцінка мяне, а я часам часцінка іх. Наш край спарадзіў шмат паданняў.

***

Рака Бярэзіна (ну, ці Беразіна, каму як падабаецца) была для нас, малых,

не менш таямнічай, чым графскі маёнтак побач. Нам не хапала месца на гарадскім пляжы, дзе збіраліся дарослыя. Сярод малых лічылася асаблівым шыкам перабрацца на пясчаную выспачку, "астравок", які вытыркаўся з вады непадалёк ад берага.

– А мне бабуля жахлівую гісторыю расказвала, – прашаптаў Жэнька. – Аднойчы тут цыганку ўтапілі. Даўно, да рэвалюцыі яшчэ. Графскі аканом кахаў цыганку, сустракаўся тут з ёй непадалёк. А ворагі аканома звязалі цыганку і ўтапілі ў рацэ. Праўда, перад тым цыганка паспела крыкнуць "праклінаю гэтае мястэчка!" (маецца на ўвазе Беразіно). Вось... А пасля ўтопленае цела пачало зацягваць рачным пяском, і пакрысе за дзясяткі гадоў тутака ўтварыўся "астравок".

Мы спалохана маўчалі. Гарачы пясок быў моцна распалены летнім сонцам, хоць яйкі пячы. І кожны ўявіў, што недзе знізу пад пяском ляжыць чалавечы шкілет...

– Цьфу! – дала аўтарытэтны каментар мая бабка, калі я дома пераказаў пачутае. – Не гуляй з тымі дзецьмі, яны дурныя, гуляй з нармальнымі, а то сабіроння нарасказваюць, шчэ прысніцца.

А сама ўпотай перажагнулася...

***

У дзяцінстве маёнтак Патоцкіх падаваўся нам, малым, таямнічым замкам са страшных казак ці прыгодніцкіх стужак. Усе малыя той пары добра ведалі, што граф недзе прыхаваў там скарб ад Чырвонай арміі (!), і былі перакананыя, што той скарб можна знайсці, варта толькі пашукаць. Вырашылі падацца ў скарбашукальнікі і мы з Сержуком.

Сяржук, аматар індзейцаў, вышэйшы за іншых і дужэйшы, а значыць, яму першаму лезці на падваконне графскага дома (што можна патрапіць праз дзвярны праём, неяк не падумалі, цікавей было лезці ў вакно). Сказана – зроблена. Пабраўшы лукі і стрэлы, мы падаліся да закінутага, нікому не патрэбнага палаца, які адзінока стаяў на стромкім беразе Бярэзіны.

Да слова сказаць, маёнтак даўно ўжо зрабіўся прытулкам для закаханай моладзі і аматараў выпіць. Што толькі там ні тварылася! Некалі велічны і ўтульны палац даўно ўжо выкарыстоўвалі ў якасці прыбіральні ўсялякія боўдзілы. У тым і разынка гісторыі.

Сяржук першым падбег, падскочыў, учапіўся ў падваконне і стаў падцягвацца, каб трапіць унутр, у таямнічы для нас сусвет. Як раптам з крыкам і лаянкай саскочыў назад. Рука была ўпэцкана ў лайно, якое Сяржук па падваконні і размазаў.

На тым цяга да скарбашукальніцтва ў малых скончылася.

– Папераду папараць-кветку трэ было знайсці, – павучальна заўважыў мой бацька...

***

У дзяцінстве мы гулялі ў вайну, бегалі з палкамі, як з аўтаматамі. Затым тымі ж палкамі гуляліся ў пікара. Пасля – у д'Артаньяна і мушкецёраў, палкі станавіліся шпагамі.

Аднойчы прыбег Запруль. Увогуле хлопчыка звалі Ігарок, але мы звалі Запруль.

– Там у двары "капейка"! – і мы пабеглі глядзець на дзіва.

Так. "ВАЗ" знакавай мадэлі. Гаспадар пакінуў і дзверы не зачыніў.

Мы па ёй поўзалі, коўзаліся, куёўдзіліся, гулялі ў “шафёра”.

Праз нейкі час прыйшлі зацікаўленыя старэйшыя. Камусьці раптоўна спатрэбіўся дыванок з сядзення, каму – само сядзенне, каму глянуўся замок запальвання. Хтосьці выкруціў свечкі. Магнітолу выцягнулі адразу, яшчэ перад дыванком. Нехта з задавальненнем паскручваў люстэркі і пярэднія фары. Камусьці засвярбела адкруціць панэль і павыдзіраць нейкія клапыжкі. Праз тры дні раніцай не ўбачылі задніх колаў.

А мы што? Мы з дзіцячай радасцю выявілі шмат каляровых дроцікаў. З тых дроцікаў плялі цацачныя кольцы, кошыкі – фантазія ў малых багатая, а каляровыя дроцікі, як вядома, найвялікшая каштоўнасць у свеце.

Ну, а праз тыдзень з’явіўся гаспадар. І мы доўга вучыліся размаітым багаццям роднае мовы. Зусім не купалаўскім радком бэсціў нас мужык. А затым сеў і заплакаў. Мы адразу зніякавелі, неяк па-дзіцячы скрушна было глядзець на чалавека.

– Дзядзя, на, лупі гэтых свалачэй! – і Запруль падаў гаспадару палку-аўтамат.

Мужык з усхліпам ухапіў прапанаваную палку і, па-першае, пагнаўся за ім, Ігарком.

Мы глядзелі ўслед і разумелі, што неўпрыкмет зрабіліся дарослымі, пасталелі...

***

Вёска Ж. пачынаецца з могілак. Калі сюды ехаць з боку райцэнтра, могілкі будуць справа ў лесе каля самага заезду ў сяло.

У савецкія часы могілкі былі сацыякультурным месцам для тамтэйшых жыхароў. Бабуля ўлетку часцяком наведвалася ў вёску Ж. да сясцёр. Калісьці бабуля жыла тут, але, пабраўшыся з дзедам, які, дарэчы, родам з Украіны, яны пераехалі ў горад, а бабуліна радня ўся засталася тут.

Збіраючыся ў госці да сясцёр, бабуля заўсёды брала з сабою і мяне, таму я міжволі рабіўся сведкам іх гутарак.

Перамалоўшы ўсе плёткі і чуткі, перамыўшы косці ўсім навакольным насельнікам, старыя кабеты набліжаліся да галоўнай забавы. Казалі адна адной:

– А пайшлі, Марыечка (або Сонечка), на кладбішча сходзім, паглядзім, мо каго яшчэ пахавалі.

І крочылі на могілкі быццам на нейкае сходзішча ў сельскі клуб. Разглядалі надпісы на помніках, фотаздымкі сваякоў, радні, суседзяў, і гутарка вярталася ў звыклае рэчышча. Толькі цяпер ужо перамолваліся косці нябожчыкаў. Я ізноў рабіўся міжвольным сведкам прыжыццёвых спраў і здзяйсненняў насельнікаў тутэйшага некропаля.

– Ён жа быў такі п’яніца. Бывае, нажлукціцца зімою, а жонка на саначках дамоў вязе.

– ...А вунь той абакраў палову калгаса.

– ...А таму жонка качаргу на спіне паламала.

– А во пакутніца ляжыць, столькі дзяцей панараджала. Што ні год, то ўдод.

Уся размова ў такой бясконцай плыні. Экскурсія доўжылася гадзіны дзве, і, што ні паход у вёску, паўтаралася.

Бабуля са сваімі сёстрамі і дзедам даўно памерлі і самі ляжаць на тых самых могілках. Наведваючы іх, я міжволі прыгадваю дзяцінства.

***

Мая бабка сцвярджала: калі жанчына лаянецца мацюком, пад ёй на сем метраў правальваецца глеба. Трэба разумець: правальваецца недзе ў глыбіні, у нябачных сакральных нетрах. Тое сімвалізавала штосьці фальклорна-паганскае ў бабчынай веры. На што матуля дадавала ў адказ: “Твая бабця, Сашок, ужо два разы працяла наскрозь зямны шар”. Праўда, прычын мацюкацца ў бабулі мелася дастаткова.

Аднойчы прачытаў артыкул, здаецца ў “Аргументах”, на тэму “Аб чым шкадуюць ветэраны?” Бабка не ваявала, але праз вайну прайшла. Пра што яна шкадавала?

– Я шкадую толькі аб адным: калі нас вярталі з Германіі, на мяжы паадбіралі ўсю зброю. А так узяла б свой любімы пісталет, пайшла б да выканкама і пасекла ўсё начальства, а твайго бацьку першым!

– Бацька ж ніколі не быў вялікім начальнікам, а толькі прарабам на будоўлі!

– Усе яны ў адной вадзе купаныя! – Бабуля не любіла, калі хтосьці казаў упоперак.

У бабкі было ўласнае стаўленне да кіраўніцтва. Усяму віной быў агарод. Але тут неабходна прадмова.

Пасля службы авіямеханікам мой дзед паспяхова скончыў мастацкую акадэмію ці то ў Маскве, ці то ў Ленінградзе, пасля якой усё жыццё працаваў мастаком. У пяцідзясятыя-шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя людзі, прынамсі як і сёння, зараблялі на хлеб надзённы кожны хто як мог. Мой дзядуля налаўчыўся рабіць копіі рускіх класікаў і паспяхова збываў іх тутэйшай гарадской эліце. Старшыні райкамаў, дырэктары прадпрыемстваў і ўстаноў, безліч іх намеснікаў – усе былі кліентамі дзеда, аматарамі жывапісу. Мець дома Шышкіна “Жыта” або Пярова “Паляўнічых на прывале” – справа гонару. Дзядуля сябраваў з усімі. Дзядуля таксама будаваў хату. Хацінка месцілася на ўскраіне гарадскога пасёлка, таму па душэўнай шчырасці адказныя асобы адламалі сябру аж сямнаццаць сотак прысядзібнай зямлі, хаця на той час ва ўмовах горада можна было мець не больш пятнаццаці. О, які шыкоўны сад там атрымаўся ў далейшым!.. Але ж мы нявечныя на гэтым свеце. У саракапяцігадовым узросце дзед памёр. З гадамі змяніліся адказныя асобы, а ўскраіна гарадскога пасёлка неўзабаве зрабілася цэнтрам горада. І тыя “лішнія” соткі сталі бяльмом у воку архітэктара. Дарэчы, бяльмом зрабіўся ўвесь участак. Але ж ён быў прыгожым, дзед мастачыў не толькі алеем на палатне. Люба-дорага было глядзець на калекцыю агромністых квятністых пладаносных яблынь, груш, вішань, сліў, пра ягады ўжо маўчу, бо няма слоў. І ўсё тое – у цэнтры!

І ездзілі да бабкі савецкія наменклатурныя багацеі, прапаноўвалі абмен на трохпакаёўку ў Мінску, і збіраліся праз той вялікі агарод пракласці дарогу, і суседзям ён замінаў, і прасілі згоды, каб падзяліць той кавалак на часткі і раздаць іншым. Бабка ж ні ў якую – дзедава памяць. Дый сад той лічыўся сямейным багаццем. У год, калі грымнуў Чарнобыль, бульба там парасла памерамі ледзь не з качан капусты, але мы пра Чарнобыль не ведалі, бульбачку ж елі і прадавалі. Бабуля не магла нарадавацца той зямліцы.

А калі ж які нахаба (“начальнік” у бабкавых вачах) гарэзліва патрабаваў адпіліць частку ўчастка, богабаязная старэча магла перахрысціць такім мацюком, хоць запісвай следам – жывая дысертацыя па фальклорным

мовазнаўстве, калі ёсць такая навука. Дасведчаныя брыдкасловы ў асобах суседскіх дзядоў парою заслухваліся, а “начальства” сціпла чырванела і сунулася прэч да наступнага разу.

Трэба заўважыць, тую вайну бабка выйграла – агарод ніхто так і не крануў.

***

Бабка практыкавала камерцыйную магію, і з гэтых заняткаў можна было зняць камедыю. Аднойчы жанчына з бабчынай радні папрасіла “палячыць ваду”, бо нешта дужа ёй балела і хварэла яна. Бабка назначыла тэрмін, калі можна прыязджаць па “лекі” і... забылася. Недзе праз месяц у нашым завулку спынілася “Лада”. Бабка ў вакно – зірк і схамянулася.

– Гэта ж сын сваячніцы прыбыў па вадзіцу, што мне рабіць? – ухапілася старая за галаву.

Разважала бабуля нядоўга. Роўна столькі, колькі мужчыну хапіла, каб прайсці дзесяць метраў па двары і пастукаць у вакно.

З юнацкім спрытам выхапіўшы адкульсьці літровы збан, бабка набрала ў яго халоднай, амаль ледзяной вады з вадаправоднага крана на кухні. І пакуль закрывала пластмасавай накрыўкай ёмістасць, завітаў пасланнік.

– Вось яна, вадзіца, – без ценю сумнення заверыла бабуля. – Бяры, даражэнькі. Я яе тры дні зашэптвала, вакол ножак стала насіла, нагаворы накладала і трымала пад падлогай, каб не награвалася і не псавалася. Бач, якая халодненькая, ажно збан запацеў!

Мужчына сціпла падзякваў, забраў лекі і з’ехаў.

Праз месяц бабулю напаткала на вуліцы тая самая хворая сваячніца.

– Ой, Марыечка, дзякуй! Не паверыш, так дапамагла твая вадзіца, як рукой зняло! Ну, прыязджай у госці восенню, калі будзем кабана біць.

У пазначаны час бабка скіравалася на запрашэнне і прывезла шмат вясковых пачастункаў: каўбух, сальцісон, паляндвіцу, сцягно, ладны скіцер сала.

– Вучыцеся, дзеткі. Вось так трэба жыць, – сказала яна.

***

У бабкі меўся любімы занятак – збірацца паміраць. Яна гэтым займалася з зайздроснай упартасцю гадоў дваццаць, а то і болей. Сяброўкай па захапленні была суседка. Бывала, збяруцца разам і давай адна адной хваліцца, што купілі апрануць на той свет. А ад тых апранах трашчыць далёка не маленькіх памераў шафа. Горы сукенак, спадніц, хустачак, невядома яшчэ якой трасцы. Бабка з суседкай нават па вялікіх святах тое не апраналі, што мелася ў смяротным гардэробе. Быццам пазабаковае жыццё чакалася бурным і разнастайным. А цвіком праграмы былі залатыя завушніцы, якія прымерваліся перад люстэркам у апошнюю чаргу. І смех, і грэх...

Бабуля сваёй смерці так і не дачакалася. Яе збіла машына ў той момант, калі старая крочыла ў бальніцу па новыя акуляры. Удар “МАЗа” стаўся настолькі жудасным, што аж разбіўся пярэдні правы ліхтар.

Следчы па гэтай справе даказаў, што кіроўца парушыў правілы руху і завысіў хуткасць амаль на трыццаць кіламетраў за гадзіну, але суд вынес вінаватаму дзіўны прысуд – тры гады пазбаўлення волі ўмоўна без лішэння правоў на кіраванне.

Насмешка лёсу. Ведала б бабка...

***

Малілася бабка так: кладзе крыж і прыгаворвае: “Войменцай...” і далей звыклае “Сына і Святога Духа”. Я пытаўся, хто такі “Войменцай”, або што гэта значыць?

– Малы ты ўсё ведаць! – гарэзліва бурчэла старая. – Як вырасцеш, тады растлумачу.

Увогуле, бабчыны адказы залежалі ад настрою, які мяняўся стабільна праз гадзіну.

Расказаць значэнне малітвы “У імя Айца...” бабка не магла не толькі з-за таго, што лічыла тэму размовы вельмі сур’ёзнай, хутчэй за ўсё проста не ведала тлумачэнняў. Затое бабуля любіла мне ў дзяцінстве расказваць казкі.

– Жылі-былі дзед з бабай. Знайшоў аднойчы дзед бобінку. Пакруціў яе ў далоні ды пасадзіў у зямлю пасля нядоўгіх разваг. Бабка паліла вадой, і пачала бобінка расці-ўзыходзіць. Расла бобінка, расла. Цэлае лета расла. Вымахала вялізнае кустоўе, цырубалле ў неба ўпінаецца. Струкі тырчаць з усіх бакоў, бобу нарасло, як таго ліха. Села баба, нашыла дзеду некалькі вялікіх торб, нібыта мяхоў. Узяў дзед лескі, прыставіў іх да цырубалля ды пакараскаўся ўвышыню, увесь абвешаны торбамі. Збірае сабе боб, пхне струкі ў торбу. А пачаў жа стары дурань не зверху збіраць, а знізу. Каб зверху, яно дармо, паступова спусціўся б уніз і гора б не было. Дык не, пачаў знізу, і ўсё цяжэй і цяжэй яму з поўнымі торбамі караскацца па лесках. Ды і цырубаллю цяжэй і цяжэй трымаць дзеда з ураджаем. Пачало ўсё паволі хіліцца долу. І раптоўна зламалася кустоўе, дзед і паляцеў уніз з-пад аблокаў разам са сваімі торбамі і лескамі. Карацей, забіўся.

Тут казка заканчвалася.

– А што было далей? – пытаў я ў бабулі.

– Што было, што было... Пагаравала баба, паплакала. Потым наварыла чыгун бобу, напарыла, нажавала, наплявала дзеду ў гудло, дзед і ажыў!

***

Праглядаючы старыя фотаздымкі ва ўласных архівах, я выпадкова натрапіў на фота бабулі. На зваротным баку быў малапісьменны надпіс кшталту “на доўгую памяць дарагому ўнуку” і дата “1981 год”. Я неспадзявана задумаўся, бо з тае пары мінулі дзесяцігоддзі. Прыгадаўся той момант, калі бабка падпісвала для мяне гэты фотаздымак.

Доўгімі зімнімі вечарамі, калі я заставаўся разам з бабкай, мы гадзінамі сядзелі ля расчыненай печы і ўглядаліся ў агонь. Спачатку мы над полымем пяклі сала, а потым разглядалі бабчын фотаальбом. Бабка распавядала пра мінулае, суправаджаючы паказам адпаведных здымкаў. Яна расказвала пра маленства, пра свайго бацьку, які трапіў у Першую сусветную ў нямецкі палон, пра калектывізацыю, калі ў іх сям’і гвалтам забіралі кароў, свіней, коз, птушак, пра тое, як яе браты раз’ехаліся хто куды – у Сібір, у Амерыку, недзе за край свету, як пачалася Вялікая Айчынная і іх, маладых дзяўчат, пагналі працаваць у Германію, як працавала ў баўэра, трапіла ў Бухенвальд, потым на ваенны завод недзе ў Зальфельдзе, як вызвалялі танкісты саюзнікаў, як пазнаёміліся з дзедам і, вярнуўшыся на радзіму, пабудавалі трысценак. Шмат чаго прыгадвала бабуля.

Я зрэдчас задаваў пытанні і глядзеў на агонь. Нічога нельга дадаць ці адабраць ад тых дзіцячых успамінаў. Адметная рыса не забудзецца ніко-

лі – бабка расказвала, раз-пораз шпурляла ў печ фотаздымкі і плакала, бясконца плакала...

***

У юнацтве я марыў набыць Біблію. Вельмі карцела. У савецкі час яна была ў спісе забароненай літаратуры, і, калі ты не кантрабандыст, не царкоўны служка, не акадэмік-атэіст, не спадзявайся нават здалёк пабачыць гэтую ўнікальную, простую і разам з тым самую загадкавую кнігу на Зямлі.

Пад разгар перабудовы Біблія нечакана стала камерцыйна выгаднай. Раптоўна хрысціянства зрабілася модным, былыя атэісты знянацку памянялі светапогляды, пабралі свечкі, надзелі крыжы і рынуліся ў царкву. Біблію пачалі выдаваць, прадаваць, раздаваць бясплатна на шматлікіх шоу заходніх місіянераў-прапаведнікаў. Зрэшты, “шоу” кепскае слова. Многія з простага люду насамрэч каяліся ў грахах і з чыстым сэрцам, ад душы прымалі хрысціянства.

У нашым маленькім горадзе тады яшчэ існавала кнігарня. Трэба заўважыць, яна на дзіва была багатай на рэдкія падпісныя выданні, на яе паліцах сапраўды мелася Літаратура...

Аднойчы я ўбачыў там Біблію. Гэта было багатае выданне: залатое цісненне, важкі том, больш за тысячу старонак. Кошт суадносны – сто рублёў. Буйная сума на той час. Грошы ў мяне знайшліся, і я без залішніх ваганняў набыў фаліянт, які паступіў сюды ў адзіным асобніку.

Знаёмыя і блізкія закацілі сварку. Па іх агульным разуменні я пусціў сродкі на вецер. Але я быў шчаслівы, і праз дзень-два шум заціх.

Сутнасць гісторыі ў тым, што недзе праз тры дні пасля набыцця Бібліі я знайшоў на дарозе згубленую кімсьці сторублёвую купюру. Родныя і сябры атрымалі шок. Я таксама.

Вось тады я сцяміў важную рэч: шукаючы Ісціну – знойдзеш. За грошы можна купіць шмат, але не ўсё: добрыя адносіны, але не сяброўства, сэкс – але не каханне, лекі і трансплантанты – але не здароўе, месца на могілках – але не на нябёсах. А Слова Божае ўвогуле даецца бясплатна, за так.

Цяпер гэтая Біблія як сапраўдны Божы дар знаходзіцца на маёй кніжнай паліцы на пачэсным месцы. Гледзячы на яе, я веру: цуду заўжды ёсць месца ў нашым жыцці. А хіба не так?

***

Айцец Васіль заўсёды быў адкрытым і шчырым.

Ягоныя думкі, выказаныя ўслых, вымушалі задумвацца. Словы святара вылучаліся трапнасцю. Аднойчы айцец Васіль вельмі абураўся (справа была за савецкім часам):

– Не, вы толькі падумайце, вы толькі падумайце. Матэрыялісты не паслядоўныя, і гэта пацвярджае мова, нашая з вамі мова. Вось паслухайце самі. Што прынята казаць на хаўтурах сённяшнімі кіраўнікамі? “Кастлявая рука смерці выдрала з нашых радоў нястомнага дзеяча, натхнёнага барацьбіта за мір, будаўніка светлай будучыні...” Напрыканцы абавязковае “спі спакойна, дарагі таварыш”. Якое “спі спакойна”? Смеху варта. Я маўчу пра добравядомае, яны мо ТАМ гарачыя патэльні ліжуць, якое “спакойна”? Не, справа ў іншым. Толькі адушаўлёны прадмет можа быць спакойным. Тым больш спаць спакойна. З пункту гледжання дыялектычнага матэрыялізму нябожчык не можа быць адушаўлёным прадметам. Не? Яны

ж, атэісты, вераць, што пасля смерці нічога няма. Таму вельмі няслушна і няправільна казаць “спі спакойна”. Трэ мовіць – разлагайся спакойна, шаноўны таварыш... Правільна? Разумею – цынічна, затое цвяроза, і, галоўнае, – раскрые вочы перад іх д’ябальскім атэістычным вучэннем. Пра слова “таварыш” і гамонкі няма, яно адпавядае толькі жывой чалавечай душы. А раз атэісты не вераць у існаванне душы, значыць трэ казаць – спі спакойна, дарагі труп! Цьфу, не так. Разлагайся, труп! Ось...

Айцец Васіль быў філосафам.

***

У вёсцы К. хаўтуры. Айцец Анатоль збіраецца адпець нябожчыка. Запрасілі ж, трэба ехаць. Назаўтра дзеліцца ўражаннямі:

– Завітваю ў хату. Нябожчык у дамавіне ляжыць у адным пакоі, некалькі “трупаў” ляжаць у другім. Паўсюдна смуродлівы пах гарэлкі. Калі мужчыны неслі труну на могілкі, я вельмі баяўся, каб яны самі ў яміну не пакуляліся. У дамавіне налічыў аж шэсць пляшак гарэлкі. Пытаюся: “Навошта? На тым свеце гарэлка ўжо не патрэбная. А на гэтым – самі заўтра захочаце апахмяліцца, пабяжыце выкопваць!” Мне ў адказ: “Мрэц вельмі любіў выпіць пры жыцці, таму і паклалі, хай прыгубіць, пакаштуе ТАМ...” У мяне мурашкі па спіне. Калі засыпалі дол, і я, так бы мовіць, запячатаў магілу да Другога Прышэсця Збавіцеля, прысутныя прыняліся проста на месцы памінаць памерлага сваяка. Неўзабаве заспявалі, хтосьці кінуўся ў вёску па бубен...

Квітней, беларуская вёска, весяліся!

– Народ Божы спіўся! Прапіў краіну, дзяржаву, сям’ю, маёмасць, усё! Чарка не вядзе ў Царства Нябеснае, а ў вечнае вузілішча! Нараджаемся ў п’янцы, хрысцімся ў п’янцы, дзяцей зачынаем у п’янцы, паміраем у п’янцы. На могілках разам з крыжам ставім чарку, мы гэтым апаганьваем крыж! Трэба ставіць бутэльку замест крыжа!!! – Голас айца Анатоля скаланаў царкву падчас нядзельнай пропаведзі пасля таго выпадку.

***

...Мы пакінулі машыну на ўзлеску і рушылі па размоклай з-за дажджоў, разбітай дарозе. Праз дзясятак крокаў я пачаў ціха шкадаваць, што мы прыехалі сюды на звычайнай легкавушцы, а не на джыпе. Ліўні за месяц сапсавалі ўвесь сезон археалагічных раскопак і наш настрой у дадатак. Зрэшты, усё кампенсавалася пачуццём навізны і таямніцы, непазбежнай у гістарычных доследах.

Нас было трое.

Хлопцы з экспедыцыі ўзрадаваліся нашаму візіту. Ужо амаль месяц сярод лесу каля вёскі Харчычы быў разбіты лагер, а раскопкамі за прамінулы тэрмін займаліся ў лепшым выпадку дні тры-чатыры. Перашкаджала непагадзь. Але археолагам усё ж пашчасціла высветліць, што месца ўнікальнае ў сваім родзе, адно з нешматлікіх на Беларусі. Пахаванні тут датаваныя 11-15 стагоддзямі. Іх колькасць выклікае думку аб існаванні ў старажытнасці на месцы Харчычаў горада. Па характары форм курганоў і магільнікаў можна прасачыць пераход ад паганства да хрысціянства. З’ява рэдкая. Убачыўшы гасцей з райцэнтра, прыбылых пазнаёміцца з працай археолагаў, даследчыкі з радасцю згадзіліся наладзіць экскурсію.

Даволі доўга нас вадзілі па месцах раскопак. У нейкі момант мы

спыніліся на крайчыку маладога лесу, дзе пару-тройку дзесяцігоддзяў таму існавала калгаснае поле.

– Вы не ўяўляеце, на чым вы стаіце, – прамовіў наш экскурсавод Аляксандр Плавінскі (калі не памыляюся, прафесар БДУ).

Ён уважліва і загадкава паглядзеў на купіны каля нашых ног. Мы, дылетанты, нічога не цямілі. Мох, дрэвы, сухое галлё, што ў іх загадкавага?

– Вы толькі зірніце сюды, – вучоны хуткімі рухамі саскрэб мохавыя наросты і падняў з зямлі каменны крыж метры паўтара ў вышыню. – Прыблізна трынаццатае стагоддзе.

Мы вохкнулі.

Груба абчасаны, старажытны, ён нёс знак змрочнай мінуўшчыны і сведчыў аб часах забытых, людзях, чые думкі і здзяйсненні даўно зышлі ў невараць, расталі ў вечнасці.

Я асцярожна дакранулася кончыкамі пальцаў да высечанага ў цэнтры крыжа салярнага сімвала. Страсянула, быццам ад удару токам. На імгненне падалося, што сустрэўся з тым, хто кранаўся крыжа апошні раз сямсот гадоў таму ў развітанні з пахаваным тут блізкім, родным або сябрам. Я быццам пачуў, як сапе майстар, што чэша халодны камень. Раптоўны парыў ветру прынёс пах дыму, гукі далёкага конскага іржання і лязгату жалеза... Наплылі думкі аб кароткачасовасці і мітуслівасці нашага зямнога жыцця.

Вось як надараецца: невядомы майстра, паставіўшы крыж, наўрад ці разумеў, што праз сотні гадоў хтосьці падумае пра яго. Міне яшчэ соцень з сем год, нас не застанецца на зямлі, будуць мір і вайна, жыццё і смерць, радасць і злосць, каханне і нянавісць. Шмат вачэй пабачыць гэтае каменнае тварэнне, мноства рук дакранецца да яго. Усіх іх рана ці позна не стане. А крыж застанецца ўсё тым жа нязменным сведкам канулай назаўсёды эпохі. Сведкам чыіхсьці ўчынкаў, думак, мараў і надзей, апошняга ўздыху. Назаўсёды нямы сведка чыёйсьці веры ў вечнасць.

***

Мая бабуля не верыла, што касманаўты лundefinedталі на Месяц. Старым увогуле даравальна падобнае. Усё ж людзям, што глынулі ліха ў мінулым стагоддзі, зусім не да навукі. Упэўненая ва ўласнай праваце, бабуля пыталася, як гэта касманаўты “не пакуляліся ўніз”. Хоць ты смейся... Але ж. Традыцыі працягваюцца, штосьці падобнае давялося чуць і ад маладых.

Аднойчы еду з сябрамі “на заробкі”. Дарога доўгая, бавім час гутаркай. Штосьці пачалі пра зоркі і планеты. Хлопцы ведалі пра маё колішняе захапленне астраноміяй. Неяк кранулiся пытання, колькі важыць Зямля.

– Прыкладна, шэсць, памножыць на дзесяць, у дваццаць першай ступені тон, — зараз жа адказваю я літаральна на аўтамаце.

– А можа кілаграмаў? – з паблажлівай усмешкай перапытвае калега.

– Не, тон. Калі кілаграмаў, то ступень дваццаць чацвёртая, — тлумачу я.

Скептыцызм нарастае сярод прысутных.

– І дзе ж бралі вагі, каб узважыць Зямлю? Цалкам планету?

– Існуюць навуковыя тэхналогіі, — працягваю я тлумачэнні.

– Якія такія тэхналогіі? – абураюцца ўжо два галасы. – Сашок, ты не вер таму, што пішуць у розных кніжках. Далёка не ўсяму трэба давяраць!

Я разгублена лыпаю вачыма. Ці хлопцы мо ў школе не вучыліся? Пра масу Зямлі напісана ў школьных падручніках.

– Мы ў той дзень прагулялі, – з рогатам кажуць хлопцы.

Далей я маўчаў. “Калегі” сакаталі пра сваё. Я глядзеў у іх патыліцы і разважаў, – мо яно і правільна – нічога не ведаць? А навошта звычайным небаракам тое трэба – ведаць, што без вагі Зямлі нельга разлічыць першую касмічную хуткасць, без ведання якой нельга запусціць касмічны карабель? Але ж караблі лётаюць, ракеты штотыдзень падымаюцца ў неба, значыць, вага Зямлі правільна вылічана навукоўцамі. А яны сядзяць сабе, нібыта блазны, шчаслівыя ў сваім невуцтве. Дарэчы, невуцтва ім не замінае зарабляць на хлеб надзённы. І за тое дзякаваць Богу. Мо яно і насамрэч сапраўднае шчасце – нічога не ведаць, не цікавіцца тэхнічнымі дасягненнямі? Але я так не магу. Я ведаю не толькі вагу Зямлі, але і схему распаду ізатопаў урана. Таму мне сумна. Біблейскі цар Саламон меў рацыю: “Пры многасці мудрасці множыцца й скруха”.

***

Добра мець шмат прафесій. Напрыклад, у мяне іх мноства – ад качагара да журналіста. Часцяком для душы мы займаемся адной справай, а вось для падтрымкі штаноў ды на хлеб надзённы – зусім іншай. Падобнае практыкуецца ва ўсім свеце. Праўда, парадокс гэты часам спараджае смешныя сітуацыі. Аднойчы ўлетку я працаваў у брыгадзе па бурэнні свідравін пад ваду. Мы калясілі па ўсёй краіне, сутыкаліся з вельмі рознымі людзьмі: багатымі і не вельмі, шчодрымі і сквапнымі, смешнымі і сумнымі. Мы рабілі людзям карысную справу: на дачных паселішчах у многіх з водазабеспячэннем праблемы.

Нашу каманду бурыльшчыкаў складалі таксама вельмі розныя людзі: былы дырэктар школы, вядомы настаўнік; “брыгадзір” – чалавек з дзвюма вышэйшымі адукацыямі, выкладчык англійскай мовы і магістр тэалогіі; іншыя работнічкі, таксама спецыялісты ў сваіх напрамках. Ну і я, з дыпломам факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, з вопытам газетнай працы і парай выдадзеных кніжак.

Значыць, працуюць аднойчы мае “калегі” ўвесь дзень, нібыта рабы на егіпецкіх пірамідах, цяжка, свідруюць уручную, дзедаўскім спосабам. Надвор’е не зразумець: то цяплынь, то дождж, вочы і твар засцілаюцца салёным потам і вадой. Глеба трапіла непраходная, метраў з дванаццаць гліны, і канца ёй не відно. Свідруюць таты Карлы, таварыш Стаханаў пазайздросціць. Пот ручаём з усіх бакоў, у глотках перасохла, асмяглі даўно, робы камуфляжныя ў брудзе, брудныя твары, чырвоныя вочы, хруст пяску на зубах, чорныя рукі з бруднымі пазногцямі і мазалямі.

Раптам з хаты на ганак выкатваецца заказчык – тамтэйшы гаспадар – гэткі калабок у два цэнтнеры вагой. Трымае дзіцё за ручку, доўга разглядае крытычным поглядам змарнелых, змласнелых, змучаных хлопцаў і ў задуменнасці прамаўляе:

– Глядзі, сынок, не будзеш вучыцца, будзеш як гэтыя дзядзькі...

***

– Кожны мужчына павінен мець у машыне адзін альбомчык гурта “Immortal”, – шчыра сцвярджаў мой сябар Міша па мянушцы Немец – вялікі аматар металёвай музыкі. Мы сядзелі ў ягоным “панцэрвагене” – “Масквічы”, знакамітай, амаль знакавай для сваёй эпохі мадэлі чатырыста дванаццаць, пацягвалі густое цёмнае піва і слухалі названы гурт. Пад гукі няпростай для ўспрымання музыкі я міжволі задумаўся: а што ўвогуле павінен мець мужчына? Якія рысы характарызуюць мужнасць?

– Як гэта – мужчына, і не п’е? – па-дзіцячы дзівіўся адзін вясковы небарака, заўсёднік наркалагічнага дыспансера, работнік вядомай у раёне гаспадаркі.

– Мужчына ў першую чаргу павінен быць паслухмяным Богу, – павучальна казаў пастар царквы “Новае жыццё” Дзмітрый Сарыогла.

А вось мой школьны настаўнік фізікі Уладзімір Міхайлавіч Жукоўскі запэўніваў, што сапраўдны мужчына павінен у жыцці перш-наперш ведаць фізіку і разбірацца ў яе тонкіх прыродных праявах.

А я лічу, што мужчына павінен быць творцам.

Ну што зробіш, колькі людзей, столькі і меркаванняў. У тон былому настаўніку хочацца сказаць: дзядуля Эйнштэйн меў рацыю – усё адносна.

***

Пасля школы я два гады бадзяўся ў пошуках шчасця. Чамусьці вырашыўшы, што шчасце – у занятках журналістыкай, я падаўся ў рэдакцыю тутэйшай раёнкі, каб смела папрасіць накіраванне вучыцца завочна на журфаку Белдзяржуніверсітэта.

Лёс прывёў мяне ў аддзел сельскай гаспадаркі, і перад вачыма паўстала сюррэалістычная карціна: брудная столь, гнілая ваконная рама, сцены не бачылі новых шпалераў з часоў увядзення будынка ў эксплуатацыю, на стале станкавым кулямётам стаіць электрычная пішучая машынка эпохі цара Гароха, на якой штосьці намагаецца друкаваць перадпенсійнага выгляду жанчына з папяросай у зубах. Выслухаўшы мае псеўдапатрыятычныя інсінуацыі, маўляў, “газета – маці, а рэдактар – бацька”, жанчына крытычна заўважыла:

– Малады чалавек, мэтавае накіраванне на вучобу мы вам не дадзім. Вас жа пасля давядзецца на работу браць, а ў краіне зараз беспрацоўе, сваіх гультаёў прорва. Нядаўна вось памёр стары рэдактар. Праўда, на яго месца ўжо кагосьці сасваталі ў райвыканкаме. Ну, калі яшчэ хто памрэ, тады і вы будзеце працаваць!

***

Фэйсбук паглынае не толькі час у чалавека, але і нешта трошкі большае і значнае: фэйсбук паглынае самога чалавека.

І гэта агульная ўласцівасць усіх сацсетак.

Вось перад сконам пра што ты ўспомніш і будзеш бедаваць?

Ну наўрад ці хто залямантуе, ой, я так мала прасядзеў у фэйсбуку!..

І ўсё ж як ні круці, мы зніталіся з віртуальным светам. Ці то ён стаў часткай нашай існасці, ці то мы неўпрыкмет зрабіліся часткай фэйсбуку, але зразумела, што ён пераплёўся з нашымі жыццямі і мы ў ім усёй грамадой утварылі адно вялікае калектыўнае “я”.

Прыкмета татальнай віртуалізацыі Беларусі – наяўнасць акаўнта ў “World of tanks”. Народ гуляецца... Гульцы за немцаў бяруць рэванш за 45-ты год. Гульцы за рускіх “помсцяць” за дзядоў. Гульня пераўтвараецца ў рэлігійны культ. Сямейныя мужчыны вар’яцеюць.

– Мой муж герой, – хваліцца адна няшчасная. – Удзельнічаў у адной вайне, затым у другой, затым стаміўся, выключыў кампутар і выправіўся спаць.

– Ба-бах! – скалынаецца выбухам паветра. Следам кулямётнае стракатанне, і зноўку “бабах!”. Узмоцнены дзесяціватнымі калонкамі гук будзіць

мяне а шостай раніцы. На ўсю кватэру чуваць баявыя дзеянні. Брат у складзе танкавай дывізіі вядзе ваенную аперацыю недзе пад Сталінградам. О, так... У інтэрнэтныя танкі гуляюцца і маладзёны-школьнікі-сямікласнікі, і мужыкі па пяцьдзясят пяць гадоў. Мой братка гуляўся цягам гадоў двухтрох, а пасля яго запрасілі працаваць у тую фірму. Калі ў мяне пытаюцца, дзе і чым займаецца Сяржук, адказваю: працуе на танкавым заводзе. Дык жа і не хлушу! Фірма вырабляе віртуальныя танкі.

***

У мяне ёсць меншы сябар Ілля, называе мяне татам. Прынцыпова я не супраць. Як і ўсе дзеці, Ілля аматар пагуляцца ў паўтаралкі.

– Пайду зараз у краму, – кажу я.

– Пайду зараз у краму, – паўтарае малы.

– Спампаваў цікавае кіно, – кажу я.

– Спампаваў цікавае кіно, – зноў паўтарае ён.

– Гурок...

– Гурок.

– Несіметрычны дымецілгідразін, – кажу я.

Паўза. Цішыня.

– Тата, ты здурнеў?..

***

Мяне ванітуе ад папсовых памыяў.

Аднойчы ўключылі малому Іллюху тэлевізар раніцай, бо там ішлі мульцікі, якія любіў хлопчык. Трэба заўважыць, што перад мульцікамі круцілі кліпы, так бы мовіць, “зорак эстрады”. Звычайна паказвалі разбэшчана-распусных дзевак, якія “спяваюць ротам”. Пакуль з дынамікаў лілася малазразумелая каламуць, спявачкі круцілі азадкамі, загалялі клубы, вытыркалі з экранаў сіліконавыя цыцкі, цмокалі ботаксным і вуснамі і трэслі пергідролявымі кудламі. І гэта перад дзіцячымі мульцікамі! Але той раніцай у кліпе вылузнуўся кволы шыбздзік-худабдзей у калготках, які голасам пеўніка вяшчаў “мама, я гей”. Які сорам, ды на айчынным дзяржаўным тэлеканале. Ганьба!

З тае пары Ілюшку ўключалі мульцікі на смартфоне.

***

Наяўнасць смартфона сёння амаль як душэўны стан, для многіх гэта ўжо дадатковая частка цела. Толькі прачнуўся раніцай, і адразу, не ўстаючы з ложка: навіны, надвор’е, курсы валют, падабайкі... Вось пытаннечка: інтэрнэт усё яшчэ існуе для людзей, ці людзі ўжо сталі дадаткам да інтэрнэта?

***

Пасля абеду сяджу з Іллём дома, бо ягонай маці спатрэбілася бегчы на працу ў выходны дзень. Мы з малым цудоўна бавім час.

– Ну як вы там? – цікавіцца Волька, маці Іллі, па тэлефоне.

– Гуляем у турму: пасадзілі ката за краты ў скрынку. Ілюха ахоўвае, а я нашу перадачы.

– Як? А так можна?

– Перадачы не заўсёды даходзяць, ахова канфіскоўвае.

***

Ілля гуляе ў пясочніцы.

– Я будую Храм Хрыстоса-Васкрэса, тата. Вось тут трэба пакланіцца.

З цікавасцю назіраю, як малы жагнаецца і кланяецца перад невялікім пясочным збудаваннем. Вось так увасабляецца дзіцячая вера.

***

“А чаму Бог стварыў і мужчын, і жанчын? А чаму людзі не нараджаюцца ўжо дарослымі?” Пытанні малых часам уводзяць у глыбокую медытацыю.

– Хадзі сюды, начынка для чабурэка, – заве Іллюха коціка.

***

Малы любіць казкі. Вяду Іллюху раніцай у садок і маляўніча распісваю захапляльныя сцэны з зомбіхорара “28 дзён”.

– І калі грузавік урэзаўся ў натоўп зомбі, крывавая каша брызнула ва ўсе бакі. Ногі адляталі ўправа, галовы – улева, а па зямлі валакліся вантробы.

Малы ў захапленні патрабуе працягу гісторыі. Патрабуе на ўсю вуліцу. Мінакі слухаюць урыўкі і шарахаюцца ў бакі. Дзіця шчаслiва рагоча. Ну, а што рабіць, калі хлопчык зусім не аматар “Курачкі Рабы” і “Чырвонага Капялюшыка”?

З тае пары хлопчык ужо значна падрос, даўно вучыцца ў школе, жахі не ўзгадвае, захапляецца веласпортам. Вучыцца цудоўна.

Так, успомнілася...

Проста чалавек, які вырас яшчэ пры Саюзе, неяк з вялікімі сумненнямі ўспрымае інфармацыю пра размаітыя псіхалагічныя траўмы, якіх зараз так поўна ўсюды.

***

Узяў у раённай бібліятэцы наўздагад тры кніжкі з нядаўніх паступленняў. Адкрыў наўздагад кожную, і ў кожнай сустрэў мацюкі. Да чаго мы прыйшлі? Да чаго імкнулася літаратура? Кажуць пра найноўшы накірунак: расейскі пострэалізм. Гэта тое самае, што і сацрэалізм, толькі з трэшам, парнаграфіяй і мацюканнем.

Шмат сучасных мастацкіх кніжак дужа жорсткіх, яны выхоўваюць у людзей нянавісць, разбіваюць веру, адбіраюць надзею.

А з іншага боку, мастацкія кніжкі – адлюстраванне жыцця. Нават фантастыка не болей чым адбітак душэўнага стану аўтара. Калі ўнутры безнадзейная твань і хворая кроў – яно выплюхнецца і на старонкі. Але ж не толькі ў кніжках, і ў кіно, і ў музыцы, і ў мастацтве.

***

У Беразіно ёсць жанчына пажылога ўзросту. Яна прыходзіць у бібліятэку і набірае за раз па дзесяць-пятнаццаць кніг. Выключна фантастыка і фэнтэзі... Так што ўзрост ні пры чым. (Бібліятэкарка знаёмая расказала.)

***

Бывае, памрэ чалавек, пакіне пасля сябе бібліятэку. Тады радня не дае рады, што рабіць з тымі кніжкамі. Выкідваць шкада, нясуць у бібліятэку: хто з дзясятак тамоў, а хто і чатыры-пяць соцен. А далей што?.. У

бібліятэцы ж свае крытэрыі. Ну на халеру Колас-Хэмінгуэй-Генры здаўся чытачам-аматарам-паглынальнікам прадукцыі кшталту “зона – дом родной”, “спецназ на Луне” ці “городской роман”? А ўласныя фонды згаданай класікай укамплектаваныя. Да ўсяго ж шмат бібліятэк на раёне скасавалі, гэтак сама трэба некуды кніжкі дзяваць. І хоць з закрытых бібліятэк, як кажуць, вязуць кніжкі на сховішча ў Менск, то ў літаратуры, што прыносяць людзі, лёс у асноўным адзін – папоўніць макулатуру. І тут намалёўваюцца выпадкова-загадкавым чынам рознага гатунку кніжнікі-фанаты, вось як напрыклад я. У выніку добрая палова кніжак маёй хатняй бібліятэкі мае “макулатурнае” паходжанне. Рэмарк, Бёль, Караткевіч, Гарэцкі, нават Галдзянкоў ёсць і процьма іншых.

І праблем з вольным часам няма, бо ў маладосці шмат чытаць замінялі шкодныя звычкі і каханне...

– Добра, што забіраеце тое-сёе, – па сакрэце дзеліцца знаёмая бібліятэкарка. – А то здадуць на макулатуру, і грошай якраз хопіць купіць пару венікаў...

***

Самае смешнае, што ў дзяржаўных кнігарнях маладыя прадавачкі ні аўтараў не ведаюць, ні кніжак. У “Цэнтральнай“ кнігарні ў Менску неяк пытаўся “Гісторыю беларускай літаратуры XX стагоддзя”, 4 том. Ой, мама... гукалі ледзь не загадчыцу ці дырэктара, каб знайсці. Затым нейкі малады хлопец раптам успомніў “гэта вунь тая тоўстая ў нас недзе далёка ляжала, зараз адшукаем”... Да іхняга гонару ўсё ж знайшлі і вельмі здзівіліся, што ў іх ёсць (!) такая кніжка ў продажы.

***

Пайшоў у краму – згубіў дваццаць тысяч рублёў.

Пайшоў у бібліятэку – на прыступках знайшоў сто тысяч рублёў.

Мараль: у бібліятэку хадзіць карысней.

***

Барыс Флоравіч М. у рэдакцыі газеты быў літаральна незамяняльным чалавекам. Пра яго працаздольнасць хадзілі легенды. “Дзед Барыс” сваім часам займаў пасады адказнага сакратара, рэдактара, намесніка рэдактара, загадчыка аддзела пісьмаў, а друкаваўся амаль на ўсёй прасторы былога Саюза: і ў газетах Прыбалтыкі, і ў выданнях Расійскай Федэрацыі, і нават у Казахстане. Прытым у роднай раёнцы ягоных матэрыялаў было напісана месяцы на два наперад. “Вы можаце мяне і не друкаваць, абы ганарар заплацілі”, – жартаваў Барыс Флоравіч. Аднойчы Барыс Флоравіч напісаў верш і паслаў яго ці то ў “Зорку”, ці то ў “Піянер Беларусі”. Паслаў і забыўся. І вось надарыўся адказ. Шчаслівы Барыс Флоравіч раскрывае канверт, чытае ліст і крыху слупянее ад нечаканасці. Уявіце сітуацыю: прафесійны журналіст са стажам у некалькі дзесяцігоддзяў, член партыі, вядомы грамадскі дзеяч, удзельнік і актывіст розных грамадскіх арганізацый і рухаў, вядомейшы ў раёне чалавек чытае ў свой адрас тэкст прыблізна такога кшталту: “Дорогой Боря! Мы искренне верим, что когда ты вырастешь, станешь настоящим поэтом”! Заканчваецца ўсё шчырымі пажаданнямі добра вучыцца і быць паслухмяным хлопчыкам...

***

Бывае, гартаеш газету, а там артыкулы на тэму: “Знайшоў шчасце ў працы” ці “Знайшоў жыццёвае прызначэнне”, і змест далей пра механізатараў, даярак, трактарыстаў, часам пра ўрачоў і настаўнікаў. А хай бы так напісалі пра дэпутатаў, членаў урада, дыпламатаў ці супрацоўнікаў вядомага Камітэта. Чытаеш назву “Знайшоў шчасце ў працы”, а там – гоп! – які спікер парламента, ці старшыня аблвыканкама, ці афіцэр дзяржбяспекі. Не, калегі з раёнкі мянуюць гэта тролінгам і просяць не здзеквацца...

Каб падняць наклад, газетнае начальства выправіла сваіх супрацоўнікаў блындарыцца па кватэрах і прапаноўваць падпіску.

Падслухаў размову двух, так бы мовіць, чытачоў-падпісчыкаў, працаўнікоў вытворчасці.

– У “Лясной газеце” папера крэпкая, мацней за туалетную, а вось у “Савецкай Беларусі” рвецца...

– Не кажы ты. А з “Бярэзінскай панарамы” добра самакруткі круціць. Трэба выпісаць.

А ў газетах тым часам спрачаюцца, чый матэрыял лепей?

***

Часам у рэдакцыі раёнак пішуць тэксты кшталту: я два тыдні ляжаў у лякарні і ў сувязі з тым выказваю глыбокую падзяку ўрачу (імя) за прафесійнасць, чулыя адносіны і самаадданую працу... Нават плоцяць грошы (падзякі платныя, амаль як рэклама). І дзякуюць чалавеку выключна за тое, што ён проста выконвае сваю работу... Вось з той нагоды чаму ніхто ні разу не даслаў тэкст кшталту: я два тыдні прасядзеў на сутках у пастарунку, выказваю глыбокую падзяку міліцыянту (імя) за чулыя адносіны, прафесіяналізм, глыбокае веданне справы...

***

А мне шанцуе на размаітых знаёмых з усходнім паходжаннем. Неяк, працуючы ўжо ў газеце, браў інтэрв’ю ў майстра карэйскіх адзінаборстваў школы Хонг-За-Куэн. Звалі яго Андрэй Уладзіміравіч. Цікавы быў хлопец. Далібог, неардынарны. Але ж пасля, у сярэдзіне 90-х, недзе ў іх там пачалася вайна. Прыехаў тата і забраў Андрэя Уладзіміравіча дамоў, ваяваць. Пасля даведаўся ўжо, што Андрэя Уладзіміравіча насамрэч завуць Азір Алікбекавіч.

***

Мімікрыя.

Днём Сяргей Ільіч узначальвае завод, Іван Аляксандравіч – аддзел ідэалогіі. Абодва ўхваляюць існуючы парадак, трубяць пра поспехі, падтрымліваюць і галасуюць. Ноччу ж, пад нікамі Чорны Анёл і Прафесар абодва бэсцяць і палітыку, і ідэалогію, і “поспехі”.

Проста ў Сяргея Ільіча і Івана Аляксандравіча ёсць сем’і і дзеці, якіх трэба апранаць і карміць, для якіх – усё лепшае. А дзе тое лепшае ўзяць, калі не на крутой пасадзе? Таму пярэваратні – наш нацыянальны каларыт, ваўкалак – гэта не проста міфалогія, гэта спосаб выжывання.

Фірма з народнай назвай “Там, дзе трэба” адзначыла сотыя ўгодкі, там даўно ўсё пра ўсіх ведаюць, нават калі і не ведаюць, то здагадваюцца, бо і там адбор відавочна ідзе з тых жа шыхтоў, з улікам нацыянальных асаблівасцей... Удзень – яны падтрымліваюць, а ноччу ж...

Край ваўкалакаў. Мімікрыя – гэта ўсё ж часам від мутацыі.

*(Заканчэнне будзе).*

Мікола Гіль



...Уваскрэсне ж яна з Пагоняй
І бел-чырвона-белым над ёй,
Зло "Магутны Божа" прагоніць
Беларускай усёй грамадой...

# ...Павісла ў хаце цішыня

* * *

Не студзень – позні кастрычнік:
Туман, імжака, панурасць,
Цяплынь – аж просіцца клічнік!
Ласка прыроды ці дурасць?

Лісічкі ў студзеньскім лесе
Збірае праныра-дачнік, –
Бязлюдных вёсак нашэсце,
Хатаў старых новы ўласнік!

Іронія – недарэчы?
Бадай, бо ж – створыцца свята,
Калі грыбным духам з печы
Прапахне старая хата.

І быццам яна прачнецца,
Маснічынай ціха рыпне,
І з памяці штось гукнецца, –
І хата ў журбе панікне;

Захоча жывой стаць зноўку –
Дзяцей каб – як з Божай ласкі,
І гоман у ёй і звонку
Каб родны быў, свойскі, наскі...

Як шмат такіх хат гаруе
Ў квітнеючай Беларусі!
Іх плачу ўжо й Бог не чуе,
Тым болей – той, што нам хлусіць...

*5.01.2018 г.*

* * *

І я быў калісь маладым —
Бурліла кроў, луналі мары...
І ўсцешна мне, жыцця ахвяры:
І я быў калісь маладым!
І слёз няма ў мяне на твары,
Хоць вочы выядае дым:
І я быў калісь маладым –
Бурліла кроў, луналі мары!

*10.01.2018 г.*

* * *

Аднойчы ў сонным душным лесе
Абрынуў дзяцел цішыню.
“Чаргу” яго я ўпершыню
Пачуў у сонным душным лесе.
Не зглух у часу куламесе
Той дзятлаў “стрэл” — ажно прысню.
Аднойчы ў сонным душным лесе
Абрынуў дзяцел цішыню...

*11.01.2018 г.*

* * *

Сонца села. Апаў вечар.
Спакваля гусцее змрок.
Пасвяжэла. Сціхнуў вецер –
Нат не ўскалыхне лісток.

Глухнуць гукі. Зоркі-свечкі
Запаліў на небе Бог...
Невідочна, бы праз сеці,
У ноч вечар перацёк.

*12.03.2018 г.*

* * *

Гусі ўратавалі Рым, –
Так легенда кажа нам:
Яны гаганнем сваім
Разбудзілі рымлянаў.

Ну, а хто разбудзіць нас,
Цёмных і глуханямых?
І сам Бог не дасць адказ,
Калі вораг ў нас саміх!

* * *

Дзед мой сеяў жыта
Ўсю жытку, да смерці,
Каб зрэбную світку
Меў і сам, і дзеці.

Бацька ж – толькі мальцам
Браў сявеньку ў рукі.
"Сенам на асфальце"
Выраслі унукі....

*13.01.2018 г.*

* * *

Ах, сябры, як далёка яно,
Студэнцкае крэўнае брацтва!
Ды ўсё ж – з намі, хоць многіх даўно
Ні пачуць і ні дагукацца.
І жывым ужо бачыцца дно,
Адно памяць кажа: трымацца!
Вашы верныя вочы, сябры,
Позняй ноччу мне – бы ліхтары...

*14.01.2018 г.*

* * *

Добрае слова кажыце
Родным, блізкім, суседзям.
Ӯсім – пры стрэчы, ў бяседзе –
Добрае слова кажыце.
Сёння, тут, а не недзе,
Юным, старым і дзецям
Добрае слова кажыце, –
Нават благім суседзям.

*15.03.2018 г.*

* * *

Расцвіла у мяне ў садзе ружа –
Боскай дасканаласці краса.
Чыстая, як летняя раса,
Расцвіла у мяне ў садзе ружа.
Не чапай: уджаліць, бы аса, –
Колкія шыпы – яе акружжа.
Расцвіла у мяне ў садзе ружа –
Непарушная сама краса!

*16.01.2018 г.*

* * *

Ужо нікуды не паеду,
Ужо нікуды не пайду
Ні да і ні пасля абеду, –
Хіба адно зраблю: сыйду...

Ах, мой браток! І як не ўспомніць
Тваю тугу, тваю нуду,
І радасць, калі хтось пазвоніць
І вымавіць: “Дык я зайду”...

*17.01.2018 г.*

* * *

З пагорка ногі самі неслі
Мяне да роднай Слабады.
О, колькі раз мне вочы песціў
Той краявід... І праз гады
Ішоў да родных я аселіц,
Дзяцінства дзе майго сляды!
Цяпер жа еду я туды
Адно схадзіць каб на клады...

* * *

Ва ўсіх у нас у маладосці – вечнасць,
І Божа ж мой, як мы марнуем час!
Не бачым, слепакі, мы ўсю нікчэмнасць
Тых забавак, што спакушаюць нас.

І ані думкі нат пра хуткацечнасць
Гадоў і пра мізэрны іх запас...
Спахопімся ж зазвычай мы запозна, –
Калі паўстане чорны цень пагрозна.

*18.01.2018 г.*

* * *

Верабейка, што ты скачаш
Бесклапотна – чык-чырык?
Сказаць хочаш, што не плачаш,
Што маркоціцца не звык?

Дык я ж знаю: твая жытка,
Як гавораць, не дай Бог!
Цёнгле ў пошуку спажытку
Збіваешся з крылцаў-ног.

А каб выгадаваць дзетак,
З вераб'іхай дзень у дзень
Завіхаешся ты гэтак,
Што мільгаеш, нібы цень.

А ў дадатак – страх нязбытны,
Празяваеш – быць бядзе:
Кошка зловіць – вораг спрытны,
Ці хтось грудкай пападзе!

Знай жа, шэры верабейка,
Што нялёгка жыць і мне.
Наша доля – самасейка
У забранай старане...

*19.01.2018 г.*

* * *

Гляджу старыя фотаздымкі –
Тужліва-светла на душы.
У вечаровае цішы
Гляджу старыя фотаздымкі.

Боль смутку ціха прыглушыў:
Не ажывіць былой карцінкі...
Гляджу старыя фотаздымкі
Са светлай скрухай у душы.

* * *

Далёкаю парой юначай
Я повен светлых募 мараў быў, –
Па Ёй мо толькі і тужыў
Далёкаю парой юначай.
У мройве часу ўсё, чым жыў,
Ды ўсё ж сягоння я не плачу:
Далёкаю парой юначай
Я повен светлых мараў быў!

*20.01.2018 г.*

* * *

Трыялет – дзівосны вершык,
Мудры й просты ўадначас.
Формаю чаруе нас
Трыялет – дзівосны вершык.
Найскупы радкоў запас
Выяўляе змест дарэшты:
Трыялет – забаўны вершык,
Мудры й просты ўадначас.

*21.01.2018 г.*

* * *

Калісьці быў я закаханы
У аднакласніцу сваю.
Было, да ночы прастаю
Ля яе хаты, закаханы...
І часам лёгкі сум, ціхмяны
І сёння я ў душы злаўлю.
Калісьці быў я закаханы
У аднакласніцу сваю...

* * *

Блага чалавеку без сяброў,,
І самотна, нібы дрэву ў полі, –
Бы ні радасці ў яго, ні болю –
Блага чалавеку без сяброў.

Не ўскіпае – сцюдзянее кроў,
Пасылае сэрцу перабоі, –
Блага чалавеку без сяброў,
І самотна, нібы дрэву ў полі.

*22.01.2018 г.*

* * *

Я маму зваў заўсёды толькі мамай,
Бо “маці” ўсё-такі чужое слова,
Прынамсі, не сардэчнага улову, –
Я маму зваў заўсёды толькі мамай.
І сёння, як калісь, мне адмыслова
Гучыць яно – ўжо болем несціханым.....
Я маму зваў заўсёды толькі мамай,
Бо “маці” ўсё-такі чужое слова.

*23.01.2018 г.*

* * *

Б’ецца ў шыбіну матылёк,
Абяссілены да знямогі,
Ды не знаць яму перамогі, –
Б’ецца ў шыбіну матылёк.
Мо і ў нас матыльковы клёк,
Што не вырвемся ўсё з аблогі?
Б’ецца ў шыбіну матылёк,
Абяссілены да знямогі.

* * *

Сярод зімы бывае дзіўны час,
Калі знянацку патыхне вясною,
І нас агорне светлаю журбою, –
Сярод зімы бывае гэткі час.
Па чым журба і што яе віною?
Па маладосці, што ўцякла ад нас?..
Сярод зімы бывае дзіўны час,
Калі знянацку патыхне вясною.

*24.01.2018 г.*

* * *

Герб на франтоне Дома ўрада
І сцяг над дахам – знакі бяды,

Пракляцця чорнага і здрады, –
Што край мардуюць наш праз гады.

Герб той самы (падсапсаваны),
Намаляваны Сталінам сцяг,
Гімн, бяздарна скампанаваны, –
СССР надзейны працяг!

З гэткай троіцай лёс краіны
Горка-пакутлівы нездарма:
Беларусь пад крылом бусліным, –
А ці ёсць яна? Мо ўжо няма?

Уваскрэсне ж яна з Пагоняй
І бел-чырвона-белым над ёй,
Зло “Магутны Божа” прагоніць
Беларускай усёй грамадой.

*28.01.2018 г.*

* * *

Калі каторы хлус, дык ён
Заўжды яшчэ і несумленны, –
Біблейскі Янус – тып нязменны:
Ён двухаблічны ёсць здавён.
Закон прыроды неадменны,
На тое ён і ёсць закон:
Калі каторы хлус, дык ён
Заўжды яшчэ і несумленны.

* * *

Высокі хам гадуе хамаў
І з падначаленых сваіх.
Глядзь, па краіне плоймы іх, –
Вышэйшых і ніжэйшых хамаў.
Народ ёсць быдла – мерка ўсіх
Начальнікаў і іхніх намаў.
Высокі хам гадуе хамаў
І з падначаленых сваіх.

*30.01.2018 г.*

* * *

Было майстэрствам – скласці стог,
Дый завяршыць яго прыгожа, –

Не кожны ў вёсцы гэта мог,
Тут адзін спрыт не дапаможа.

Няма майстроў, няма стагоў,
Асеннія лугі – пустыня,
І восеньскі адлёт буслоў
З лугоў тых – сумная карціна...

* * *

Не ўмеем мы цаніць дабро
І яго творца – чалавека.
Куды даўжэй мы помнім зло –
Яно бы стрэмка пад павека.

Спахопімся, каб пазваніць,
Бо стала штось трывожна неяк, –
Ад весткі сэрца забаліць:
Няма... Няма ўжо чалавека!..

*1.02.2018 г.*

* * *

Дзеці, унукі, праўнукі –
Мой ланцужок у прышласць;
Бацькі, дзяды і прадзеды –
Мой ланцужок у прошласць.
З прошласцю я паяднаны
Памяццю, духам і мовай;
З прышласцю ж рвуцца-парваны
Тры тыя ж самыя звёны –
Памяць, і дух наш, і мова...

*2.02.2018 г.*

* * *

Павісла ў хаце цішыня, –
Гадзіннік стаў, заснула муха,
Ну гэтак ціха, як у вуху, –
Такая ў хаце цішыня.
І раптам грымнуў аплявухай
Пярун, і зглухнуў спакваля...
І зноў у хаце цішыня:
Чутно, як цікае гадзіннік,
Як зумкае жалобна муха.

*6.02.2018 г.*



Леанід Левановіч



...дажыць да стогадовага рубяжа, даказаць, што беларусы жыццялюбныя і жыццястойкія...

# Белая, белая яблыня

***Апавяданне***

## I

Сярод начы раптам пачулася мелодыя, якая разбудзіла Агату, але спрасоння не магла яна даўмецца, што гэта за музыка. А потым пачуўся выразны піск, які метадычна паўтараўся. Цяпер яна ўсё зразумела: мабільнік патрабуе зарадкі. "От дурная баба. Чаму я ўвечары не паставіла яго на падзарадку? І Ганну пабудзіла",– паўшчувала сябе Агата.

– Ляжыце, мама. Я падключу тэлефон, – хрыплаватым голасам мовіла нявестка.

– А колькі цяпер часу?

– Без пяці тры.

– А мне падалося, што ранне скора. Лаю сябе, што не падключыла мабільнік учора. Што гэта мы рабілі ўвечары? Нешта я не ўспомню...

– Мы кіно глядзелі. “Снягі Кіліманджара”.

– А, во-во. Цяпер успомніла. Але ўсё – маўчым. Табе ж ехаць трэба. Адпачываем.

– Добра. Спім, – пазяхнула нявестка. – Паездка недалёкая. Уранні паеду, к вечару вярнуся.

Ганна неўзабаве заснула: чуваць было яе роўнае, глыбокае дыханне. Агата ляжала з расплюшчанымі вачыма: узгадвала ўчарашні фільм, які моцна ўразіў яе – асабліва паляванне ў Афрыцы. Дзіва што! Як не здзівіцца, калі бачыш сотні бегемотаў, насарогаў, велізарныя статкі антылопаў. А на фоне ўсёй гэтай жыўнасці – мужны прыгожы паляўнічы, ягоная сяброўка-прыгажуня. Яны абое многа п’юць і кураць. Паляўнічы атрымаў раненне, прыкуты да ложка, прыгадвае эпізоды свайго бурнага жыцця.

Агата ўсёй душою разумела яго, бо сама чатыры гады адлежала на ложку. І, каб не клопаты нявесткі Ганны, была б ужо на тым свеце. Канечне, яе жыццё не такое бурлівае, але і ў ім было багата розных падзей, яна шмат чаго пабачыла і перажыла за доўгі век – ішоў Агаце дзевяноста пяты год. Моцна перажывала яна за лёс героя, калі той ваяваў у Іспаніі. У баі паранілі яго сяброўку. “Санітара сюды!” – закрычаў ён. Агата гатова была ўсхапіцца з ложка і ратаваць параненую. Колькі чырвонаармейцаў выратавала мужная санітарка Агата! Адзін з іх, маладзенькі лейтэнант, стаў яе мужам.

Яна разумела і вялікае жаданне героя фільма стаць пісьменнікам, бо іншым разам думала: каб апісаць сваё жыццё, атрымалася б вялікая кніга.

## II

У той год вясна прыйшла рана. Фронт усю зіму стаяў на беразе невялікай, але паўнаводнай рачулкі Проня. Савецкія войскі рыхтаваліся да наступу. Цішыні не было, штодня то ў адным баку, то ў другім бухалі мінамёты, чуліся аўтаматныя чэргі, стрэлы снайпераў, быццам праціўнікі нагадвалі пра сябе: мы тут, нікуды не падзеліся, чакаем цеплыні, каб рушыць у наступ. Параненыя, дый забітыя, былі штодня, санітарам працы хапала. Аднойчы яна цягнула на плашч-палатцы маладога русявага лейтэнанта, непадалёку грымнуў выбух, адчула рэзкі боль у левым плячы, у вачах пацямнела, закружылася галава і яна страціла прытомнасць.

Ачуняла Агата ў шпіталі. Знаёмы доктар лагодна пазіраў на яе:

– Ну што, Галіна, будзем жыць, – на фронце яе звалі Галяй. – Стала быць, пашкуматала цябе трохі. Але асколак мы дасталі. Тваё шчасце, а каб ніжэй на колькі сантыметраў, то выратаваць мы б ужо не змаглі. А так, стала быць, яшчэ павоюем. Да Берліна дойдзем! – усміхаўся ў рудаватыя вусы доктар.

Выраз “стала быць” ён ужываў часта, калегі дый пацыенты цішком называлі яго “Доктар стала быць”.

Потым Агату адправілі ў тылавы шпіталь, ажно ў Падмаскоўе. Тут яна і сустрэла лейтэнанта, якому выратавала жыццё. Плячо загойвалася, малады арганізм хацеў жыць. Папраўляўся і лейтэнант Дзяніс, загойвалася ампутаваная вышэй калена нага, шкандыбаў па калідоры на мыліцах. Вясна набірала сілу. У двары шпіталя зацвілі яблыні, яны стаялі белыя, акурат аблітыя малаком. Усё часцей Агата і Дзяніс сядзелі пад яблыняй, увечары цалаваліся, і пацалункі былі ўсё гарачэйшыя... Нейк Агата спыталася ў Дзяніса:

– Скажы чэсна. Ты вельмі здзівішся, калі ў нас народзіцца рыжае хлапчанё? Маленькі Рудзік. Чаму пытаюся? Мой дзед быў габрэем з Наваградка. Меў рыжыя кучары. Яго паважалі. Быў выдатным дантыстам. Ну, зубным доктарам.

– Ну й што? Чым рыжэй, тым даражэй, – весела мовіў Дзяніс. – Ці сынок, ці рудаватая дачушка. Буду моцна любіць. Так што не трывожся, мая мілая Агатка. І тваё імя мне падабаецца. Чаму ты згадзілася, каб цябе звалі Галяй?

– А гэта доктар “стала быць”. Што гэта за імя? Чтобы не было ў раненых вопросов, будь Галей. Отличное имя. А то тебе приказ, а ты: ага-ага. А надо: Так точно!.. Праўду кажучы, я хутка прывыкла. Мяне ў школе дражнілі: Агатка-рагатка... Але на вуліцы нашай дзве жанчыны, ужо сталага веку, мелі гэткае імя. Так што я надта не бедавала.

– Давай дамовімся так: калі мы ўдваіх, буду зваць цябе Агаткай.

– Згодна! – Агата-Галя абняла, пацалавала каханага.

Аднойчы Дзяніс задумліва, з прыхаваным хваляваннем прамовіў:

– Мілая мая Агатка. Добра нам сядзець пад яблыняй, абдымацца, мілавацца. А ў жыцці ўсё складаней. Мяне часам мучаюць сумненні. Разумееш, нага загойваецца, але ж яна не адрасце... І заўсёды буду хадзіць з кульбаю. Дык вось, душа пачынае смылець... Ты здаровая, а я – калека, інвалід. За плугам не пайду, нават з касою будзе цяжка. Не вальсанем ніколі. дый польку не паскачам...

– Ты ж настаўнік. Педвучылішча маеш за плячыма. Універсітэт скончыш. А я – медінстытут. Сям’ю пракормім. Я таксама параненая. Невядома якой будзе мая рука. Добра, што мы жывыя. – Агата горача пацалавала каханага, нібы паставіла канчатковую кропку ў размове.

Маладым закаханым хацелася быць поруч, будаваць сямейнае гняздо, але ваенны лёс разлучыў іх: Дзяніса камісавалі, накіравалі дамоў, у вызваленую Магілёўшчыну, маладога настаўніка чакала вясковая школа і дзеці падросткі. А шпіталю былі патрэбны медсёстры і санітаркі. Старшы сяржант Агата Карповіч засталася служыць.

О, як чакала франтавая санітарка Дзянісавых трохкутнікаў! І як радавалася, калі трохкутнік, без аніводнай маркі, часам пакамечаны, з фіялетавым штэмпелем, прылятаў да яе! Яна чытала ўдзень, перачытвала ноччу на дзяжурстве. Калі выпадала ціхае дзяжурства, яна пісала доўгія лісты. Рукою вадзіла радасць: яна жывая, здаровая, у яе ёсць каханы, але ў глыбіні душы жыла неадчэпная трывога: а што будзе заўтра? У любы час куля ці асколак снарада абарвуць яе маладое жыццё. І чым бліжэй была перамога, тым мацней хацелася жыць. Яна адчувала нязведаную раней прагу жыцця, І нязведаны раней страх гэтае жыццё страціць. Таму кожны дзень на перадавой здаваўся годам.

Неяк ужо ў Нямеччыны іхні полк штурмаваў вышыню, было шмат забітых і параненых. Санітарка Агата паўзла на перадавую, каб выратаваць каго. І тут яе засёк варожы снайпер, кулі дзынкалі каля яе, з усіх сілаў яна ўціскалася ў сырую чужую зямлю. Азіралася па баках – хоць бы які кусцік або камень, каб схавацца за яго. Адчувала, як страх скаваў цела, праўду кажуць: у страха вочы па яблыку, угледзела наперадзе чырвонаармейца, падпаўзла бліжэй, пацягнула за нагу, баец не зварухнуўся, ягоныя заледзянелыя рукі сутаргава сціскалі аўтамат. Далей стагнаў паранены, Агата ўзваліла яго на плашч-палатку і пацягнула да сваіх.

Назаўтра прыляцеў трохкутнік ад каханага. О, колькі было радасці: я жывая, Дзяніс помніць, чакае вяртання... Трэба дажыць да перамогі! А Дзяніс пісаў коратка: работы па макаўку, працуе ў дзве змены, выкладае матэматыку, фізіку, нават нямецкую мову. Найбольш сябруе з матэматыкай – прыдаліся і веды з артылерыйскіх курсаў. З фізікай было цяжэй, з нямецкай і зусім кепска. Ведаў катастрафічна не хапала, разумеў, трэба вучыцца далей. Амаль у кожным лісце пра вучобу пісала Агата: улетку едзь у Мінск, паступай ва ўніверсітэт, скончыцца вайна, буду спрабаваць паступіць у медыцынскі, пераканалася, лячыць людзей – гэта маё...

## III

Каханне вытрымала разлуку: пасля вайны маладыя закаханыя сустрэліся ў Мінску, дзе абое сталі студэнтамі. Калі Дзяніс скончыў трэці курс, Агата – другі, вырашылі пабрацца. Спачатку жылі паасобку – кожны ў сваім інтэрнаце. У Дзянісавым часта ладзіліся танцы ў вестыбюлі. Дзяніс ставіў кульбу ў куток і тупаў, пяшчотна прыціскаючы да сябе каханую. Ён быў вышэйшы амаль на галаву за партнёрку, пара выглядала прывабна і самавіта. Спрабавалі танчыць і вальс, адно кружыцца не маглі.

Калі Агата зацяжарыла, Дзянісу, як лепшаму студэнту, партгрупоргу – у партыю ён уступіў яшчэ на фронце, – далі пакойчык у інтэрнаце на чацвёртым паверсе, у бакавым крыле. Тут у катухах жылі сямейныя студэнты і аспіранты – каб плач немаўлят не будзіў усіх жыхароў.

І хоць маладыя разумелі, што дзіця падчас вучобы непажаданае, прырода ўзяла сваё – студэнтка медыцынскага інстытута нарадзіла Юрасіка, сінявокага, русявага мацака – важыла хлапчанё чатыры кілі з гакам. Роды былі цяжкія – давялося рабіць кесарава сячэнне. Жыццё яшчэ болей ускладнілася, але загартаваныя вайною бацькі-студэнты мужна пераносілі ўсе нягоды. Здаралася, што пасля бяссоннай ночы Агата засынала на лекцыях, суседкі штурхалі пад бок – баяліся, каб не захрапла. Але экзамены ды залікі Агата і Дзяніс паспяхова здавалі.

Часцяком увечары, калі засынаў малы, Дзяніс сядаў на прыступках у калідоры, падаслаўшы газету, і задуменна курыў. Агата ўшчувала яго за курэнне, але кінуць паліць Дзяніс не мог – уцягнуўся смаліць самакруткі з махоркі на фронце. Набываў самыя танныя папяросы: “Север”, “Красная звезда” – на пачку матацыкл з трыма байцамі ў касках і з аўтаматамі, – папяросы нагадвалі яму баявое юнацтва. На святы купляў пачак “Беламорканала”– гэта быў шык, зацягнуцца моцным духмяным тытунём. Іншым разам выходзіла Агата, сядала побач, і яны цішком цалаваліся. Не нацешыліся ў свой час – вайна забрала юнацтва, а потым пасляваенныя бядоты, нішчымніца, неўладкаванасць не дазволілі пражыць як след і мядовы месяц. І вяселле было дужа сціплае – сяброўскае застолле ў ленінскім пакоі інтэрната. Нават гарэлкі не было – пілі госці пладоваягаднае віно ды ліманад. І бутэлька шампанскага на ўсіх.

Студэнцкую практыку Дзяніс праходзіў на заводзе, які асвойваў выпуск першых электронна-вылічальных машын, пасля вучобы яго запрасілі ў канструктарскае бюро завода. Малады кардыёлаг Агата выдатна зарэкамендавала сябе ў адной з мінскіх бальніц, яе запрасілі на сталую працу. Жыццё наладжвалася. Атрымалі двухпакаёўку ў доме каля плошчы Перамогі. Дзяніс мог нават пехатою дайсці да свайго завода.

# IV

Пад раніцу Агата забылася ў кароткім сне. Прахапілася, калі ў пакоі было відно, ложак нявесткі быў акуратна засланы, а сама яна гаспадарыла на кухні – гатавала ежу на цэлы дзень. На тумбачцы каля Агацінага ложка стаялі дзве шклянкі вады. Ганна прапанавала спаць у адным пакоі, каб у любы момант быць пад рукою, падаць лекі, шклянку вады.

“От, пашанцавала мне на нявестку. Не кожная дачка гэтак даглядае старую матку, – з цеплынёй падумала Агата. – Трэба ўставаць, каб выправіць яе ў дарогу”.

Агата пазяхнула, пацягнулася ўсім старэчым, усохлым целам і пачала свой ранішні рытуал.

Перш-наперш склала перад грудзьмі далоні і доўга цёрла іх адна аб адну. Гэтая працэдура мела назоў – зарадзіць акумулятар. Потым доўга рабіла масаж вакол вачэй, пад брывамі, цёрла пераноссе. Суседзі дзіву даваліся, што яна і цяпер не носіць акуляры. Затым яна падымала ўгору ногі – то адну, то другую, затым прымушала сябе дастаць рукамі пальцы ног, не зважаючы на боль у параненай ключыцы, называлася гэтая працэдура – акругліць пазванок. І акругліць трэ было некалькі разоў. Затым Агата выпівала кароткімі глыткамі шклянку чыстай вады-халадзёнкі. Рабіла перадышку, потым адным духам піла ваду мядовую – у шклянцы размешвала чайную лыжачку мёду. Агата вычытала ў Сеціве, што гэта вельмі карысна, Ганна падтрымала і заўсёды рыхтавала ваду з мёдам. Калі старая прачыналася раней, то рыхтавала вадзяную працэдуру сабе і нявестцы.

Яны абедзве любілі мёд. Пацыент, якому Агата вылечыла сэрца, пераехаў на сталае жыццё ў вёску, завёў пчол, узяў маладую жонку і жыве прыпяваючы, хоць яму семдзесят з гакам. Мёд Агаце ён дастаўляе двойчы: трохлітровік светла-бурштынавага з вясновага разнатраўя і напрыканцы лета два трохлітровікі цёмнага ляснога. Цёмны мядок, надзвычай духмяны, які ўвабраў у сябе ўвесь водар лесу, гаркаваты пах верасу, асабліва любіла Агата. За яго старалася болей заплаціць, але пчаляр не згаджаўся, вяртаў грошы назад.

– Даражэнькая Агата Станіслаўна, вы вярнулі мяне да жыцця. Я радуюся кожнаму дню, – адказваў удзячны пацыент.

Тым часам Ганна паклікала на сняданак. Елі рысавую кашу з мёдам, пілі каву з малаком.

– Ганулька, не забудзь узяць пенсійнае пасведчанне. Удвая танней білет.

– Добра, мама, вазьму, – квола ўсміхнулася нявестка – яна не пераставала дзівіцца светлай памяці, якой валодала свякруха. – Прыеду – пазваню, як там што.

Садовае таварыства “Атам” знаходзілася недалёка ад Мінска. Некалі яны ездзілі туды разам. А як быў жывы Дзяніс – на сваёй машыне, стырно яе надзейна трымала Агата. Параненая нага, ды яшчэ дальтанізм не дазволілі Дзянісу пайсці на курсы вадзіцеляў. Правы атрымала жонка, вадзіла яна машыну акуратна, абганяць адважвалася адно трактары. Спярша ў іх былі “Жыгулі”-пікап, так званая чацвёрка. Агата палюбіла гэтую практычную, надзейную машыну: можна адкласці сядзенне – гэта рабіў Дзяніс, і грузі што хочаш. Набыць машыну дапамог прафкам канструктарскага бюро, Дзяніс ужо быў адным з вядучых спецыялістаў, кандыдатам навук. Думаў пра доктарскую дысертацыю.

Як радавалася Агата, калі яе вучонага мужа запрасілі ў Акадэмію навук, у Інстытут парашковай металургіі. Яна адчувала сябе шчаслівай, калі сядзела на абароне доктарскай дысертацыі. Яна мала чаго разумела, цішком азіралася па баках, бачыла, што слухаюць Дзяніса ўважліва. А ён, высокі, мажны, басавітым голасам упэўнена даказваў тэзісы дысертацыі. Затым выступалі апаненты, задавалі пытанні. Агату здзівіла, што ў зале было шмат моладзі. Сядзелі тут сімпатычныя маладыя жанчыны. У душы Агаты нават варухнулася трывожная думка: а раптам нейкая з іх прыліпне да самавітага доктара навук, закруціцца службовы раман? Як закруціцца, так і раскруціцца, суцешыла сябе Агата. Муж любіць яе, любіць Юрасіка, памагае рабіць урокі, ходзяць у басейн плаваць, у яе, кардыёлага Агаты, моцная, дружная сям'я...

І ўсё ж яе прадчуванні збыліся...

## V

Неяк вясновым прыгожым днём Агата вярталася з працы. Яна заўсёды хадзіла ў сваю бальніцу пехатою. Толькі моцны дождж або завея ці калючы мароз прымушалі ехаць аўтобусам. А ў той дзень яна нават маршрут змяніла, заманулася прайсці па цэнтральнай вуліцы. Тут было людна, дружна цвілі каштаны, іхнія кветкі-свечы нібы выпраменьвалі святло, дапамагалі вясноваму сонцу асвятляць навакольле. Агата крочыла нетаропка. Яна ўжо хацела звярнуць у завулак, каб зайсці ў краму, як раптам убачыла высокага мужчыну і цёмнавалосую жанчыну ў шэрым світары, яны выйшлі з кавярні, жанчына ўзяла мужчыну пад руку, прыхінулася мацней. Агата спынілася, быццам спатыкнулася на роўным месцы, ногі налілся свінцом: наперадзе, злёгку накульгваючы, ішоў Дзяніс. А хто ж гэтая варона? Так яна адразу ахрысціла цёмнавалосую жанчыну ў шэрым світары. Варона, драпежная варона, якая рвецца ў яе жыццё. Што рабіць? Дагнаць і ўчапіцца ў чорныя кудзеры спакусніцы? Або падыйсці ды ўзяць мужа пад руку з другога боку... Але ж Дзянісу будзе няёмка, мо ў іх проста сяброўскія адносіны. Ну, зайшлі выпіць па кубачку кавы, надвор'е шэпча: пабудзь, мілая, са мной... Не, ты не маеш права ліпнуць да майго мужа...

Сэрца тахкала, як не выскоквала. Не, Агата не прыбавіла крок, не кінулася наўздагон закаханай – няўжо закаханай, пары? Не, пабачым, што будзе далей. У галаве ліхаманкава круціліся думкі: як паводзіў сябе Дзяніс апошнім часам? Затрымліваўся на працы, але гэта было і раней. Яна тэлефанавала ў лабараторыю, якой загадваў Дзяніс – ён быў на месцы, потым прыязджаў дамоў на таксі. Абдымаў жонку, цалаваў у шчаку, усё, як звычайна. Затым вячэралі, гаварылі пра справы. Неяк Дзяніс распавёў пра нараду, на якой выступаў віцэ-прэм'ер, куратар навукі, прамысловасці. Крытыкаваў навукоўцаў, што слаба ўкараняюцца іхнія распрацоўкі. Дзяніс таксама выступіў, сказаў, што дырэктары заводаў не адважваюцца ўкараняць ідэі вучоных, бо вынік бывае не адразу, а бывае і нулявы эфект...

– Нулявы эфект у навуцы – гэта таксама плюс, – апавядаў Дзяніс далей.

– Як гэта так? – здзівіўся віцэ-прэм'ер.

– Праўда, тата, як гэта можа быць? – дзівіўся сын, які таксама слухаў бацьку.

– Гэта значыць, што шлях, ці метад, ці пошук – называй, як хочаш;

галоўнае – гэтым шляхам ісці няварта. Пошук не апраўдаўся. Трэба ісці іншым шляхам. І ў гэтым плюс.

Падбадзёраны ўвагай сына, – Агата прыбірала посуд, слухала на паўвуха, – Дзяніс расказаў пра дэфектаскоп. Юрась засыпаў бацьку пытаннямі, прыслухалася і Агата. І вось што яна зразумела. Гэты прыбор вельмі патрэбны заводу, які выпрабляе падшыпнікі. Металічныя шарыкі загартоўваюць пры высокай тэмпературы, некаторыя трэскаюцца ўнутры, такі шарык хутка рассыплецца, матор сапсуецца, на завод паляціць скарга, трэшчыну тую простым вокам не заўважыш, металічны шарык не раскусіш. Патрэбен прыбор, які б дазваляў зазірнуць унутр падшыпніка. Вось над гэтым і шчыруе лабараторыя, заводскія інжынеры. Таму ён і сядзіць вечарамі на працы. І гэта была чыстая праўда.

Неўзабаве атрымалі трохпакаёвую кватэру ў блочным доме на вуліцы Якуба Коласа, набылі сякую-такую мэблю.

Вось тут і нарадзілася ў Агаты, так бы мовіць, хобі: збіраць кнігі, чытаць іх. Дзяніс набываў спецыяльную літаратуру, а гаспадыня – мастацкую, асабліва беларускую. Агата прыахвоціла да чытання і Юрася. У бальніцы стварылі таварыства кнігалюбаў, і ўзначаліла яго Агата. Таму яна магла і падпіску аформіць на збор твораў папулярнага аўтара, і кніжкі набываць дэфіцытныя...

Успаміны перапыніў тэлефонны званок. У трубцы пачуўся голас нявесткі. Яна спыталася, ці паснедала Агата другі раз, на лецішчы непрыемнае здарэнне – злодзеі зрэзалі замок хляўчука, укралі бензапілу, маленькую сякерку, вартаўнік паехаў у горад – купляць новы замок, вернецца Ганна апошнім аўтобусам. Паведамленне непрыемна ўразіла старую. Увесь свой доўгі век яна імкнулася жыць чэсна, ніколі не брала хабару ў бальніцы, хіба што каробку цукерак, каб не пакрыўдзіць удзячнага пацыента.

Агата сядзела каля шырокага акна, пазірала на старую яблыню з агаленым крывым ствалом, але крона была белая ад квецені – сад застаўся ад гаспадара, дом якога знеслі, асірацелыя яблыні ўсё роўна квітнеюць амаль штогод. Прырода не ведае стомы, усё расце, квітнее, буяе, абы толькі сонца і дождж. Здзічэлы, знямелы сад – у ім не спявала ніводная птушка, – амаль штогод прыносіў людзям свае плады. Агата адчула сухасць у роце, цяжка ўзнялася з крэсла, абапіраючыся на кульбу, пасунулася на кухню – другі раз яшчэ не снедала. Дастала з халадзільніка сподак, на якім акуратна былі ўкладзены скрылікі сыру, на другім скрылікі варанай доктарскай каўбасы – прадукт па яе зубах, у маленькай каструльцы стаяла грэцкая каша, якую раніцай згатавала нявестка. Есці не хацелася, але паставіла на пліту чайнік – згатуе кавы з цыкорыем. Звычайна падчас абеду Агата з нявесткай выпівалі па келіху віна, часцей белага – ад яго не баліць галава, як ад чырвонага.

Хоць да абеду было яшчэ далёка, Агата наліла келіх віна, каб трохі падвесяліцца – здарэнне на лецішчы сапсавала настрой. Віно трохі сагрэла душу, захацелася задрамаць... Зноў пасунулася да акна, каб зірнуць на белую яблыню.

Прыгадала, як ездзіла ў лабараторыю, пазнаёмілася з суперніцай, яна аказалася аспіранткай, Дзяніс быў яе навуковым кіраўніком, вось і разгарэўся раман...

– Пакінь майго мужыка ў спакоі. Інакш я табе вочы павыдзіраю, – рашуча сказала Агата.

– З вашым мужам у нас дзелавыя стасункі. Ён мой навуковы кіраўнік...

– Хай кіруе ў лабараторыі. А чаго вы па рэстаранах шастаеце? Там кіруеш ты?

– У рэстараны мы не хадзілі. Адзін раз у кавярні былі... У мяне свая сям'я. Дачка расце.

Агата слухала, глядзела ў прыгожыя, дзёрзкія блакітныя вочы суперніцы і так хацелася ёй учапіцца ў густыя, чорныя, як воранава крыло, валасы, падрапаць гладкі смуглявы твар. А ў глыбіні душы білася думка: "От жа даў Бог гэтай шэльме і прыгажосць, і розум. Не дзіва, што Дзяніс не ўстаяў перад гэткай спакусай..."

Праз год суперніца абараніла дысертацыю, і яе запрасілі на выкладчыцкую работу ў Гомельскі ўніверсітэт. Агата канчаткова супакоілася. Жыццё пакацілася далей. Юрка скончыў фізмат. Абараніў дысертацыю, ажаніўся, працаваў разам з бацькам.

На кухні сціша ігарала радыё, раптам пачулася песня, прыемны жаночы голас разліўся па кватэры: "Белая, белая яблыня зоркай стаіць у вачах, светлаю, чыстай красою прывабная, спаць не дае па начах..." Песня адгучала, хто спяваў, чыя музыка, словы – не аб'явілі. Агата любіла болей слухаць радыё, чым глядзець тэлевізар: можна вязаць шкарпэткі ці яшчэ нешта рабіць і слухаць. Радыё дае магчымасць самому ўяўляць, пра што гавораць. А тэлебачанне само ўсё малюе, расквечвае, толькі не зводзь з экрана вачэй. З кухні данеслася новая мелодыя. Спяваў мужчынскі голас па-руску, прозвішча спевака аб'явілі. Больш за тое – малавядомага спевака назвалі легендай сучаснай эстрады.

Гэта нават раззлавала Агату: калі мы навучымся паважаць сваё і не гнуцца ў паклонах перад чужакамі? Чаму не сказаць людзям – хто так хораша спявае пра белую яблыню?

Агата зноў угледзелася на белую яблыню: насамрэч, якая прыгажосць! І ўсё ж яблыня з пладамі, чырванабокімі, бы гілі-снегіры, крамянымі, болей радавала вока. І ўвогуле, вясну Агата не любіла, яе вочы і душа цешыліся асабліва бабіным летам. Як хораша дыхалася светлым, яшчэ цёплым, бадзёрым і задуменна ціхім адвячоркам, калі пешкі вярталася з работы! Яна мусіла заходзіць у транспарт толькі ў непагадзь. І хадзіла пасля шасцідзесяці гадоў, і пасля сямідзесяці. У паліклініцы, куды яна перайшла на працу, яе паважалі, ды як не паважаць, не цаніць гэтакі кадр: мае вялікі вопыт, светлы розум, выдатную памяць. Яна ніколі не брала лісткоў непрацаздольнасці, ніколі не спазнялася, на яе ніколі не было скаргаў. Галоўны ўрач прасіў яе працаваць і пасля сямідзесяціпяцігоддзя. Але тут надарылася бяда. І адбылося гэта ранняю вясною.

У той ранак Агата, як звычайна, крочыла на на работу, трохі спяшалася, бо час падганяў – хвілінаў на дзесяць выйшла з дому пазней. Ноччу ішоў дождж, а пад раніцу выскачыў марозік, ходнікі ператварыліся ў суцэльны каўзель. Ступала Агата асцярожна і ўсё ж грымнулася з усяго росту – не паспела прысесці, хацела падняцца, але рэзкі боль унізе спіны пекануў агнём, адчула моцны боль у баку. Прамільгнуў успамін, як чулася пасля ранення. Прахожыя выклікалі "хуткую". Аказалася, што пашкодзіла ніз пазванка, зламала шыйку бядра. Малады хірург з кругалай цёмнай бародкай пасля аперацыі сумна прамовіў:

– Справа сур'ёзная, Агата Станіславаўна. Мы зрабілі, ўсё, што ў нашых сілах. На вялікі, жаль... Як вам сказаць? – хірург быццам баяўся вынесці страшны прысуд: яе чакае нерухомасць. – Баюся, што вы не зможаце

хадзіць. А можа здарыцца цуд, пакрысе расходзіцеся. Канечне, узрост... Але ўсё можа быць...

І пацягнуліся шэраю чарадой даўжэзныя дні ляжання. Ганна ўжо была аформіла візу, збіралася ляцець у Амерыку, у Чыкага, да сына Юркі. Той угаворваў і бацькоў перабірацца да яго, сын Максім, урач-стаматолаг, з жонкаю жыў з ім. Юрась набыў палову трохпавярховага катэджа. Бацькам-эмігрантам могуць даць сацыяльную кватэру, у якой яны змогуць жыць да канца сваіх дзён. Здарэнне з Агатай перакрэсліла ўсе планы: ехаць за акіян не выпадала. Ад скрушных думак ратавала чытанне, балазе, бібліятэку яна з Дзянісам сабрала немалую. Заінтрыгавала “Дзікае паляванне караля Стаха” Уладзіміра Караткевіча, ды так зацікавіў таленавіты аўтар, што прачытала ўсе восем ягоных тамоў. Але ад чытання лежачы пачалі балець вочы. Давялося рабіць перадышкі...

Пасля Караткевіча Агата пачала цікавіцца гісторыяй Беларусі. Кніжкі Міколы Ермаловіча пра старажытную Літву адкрылі ёй вочы, яна і думаць не думала, як і большасць беларусаў, што наш край мае гэткую слаўную, багатую Гісторыю, што Беларусь – краіна замкаў, што Статут Вялікага Княства Літоўскага – першы Звод законаў у Еўропе, а Францішак Скарына – першадрукар усходніх славян.

Вельмі перажываў за яе здароўе Дзяніс, хоць сам ужо быў хворы: нябачны бязлітасны вусач з’ядаў лёгкія заўзятага курца. Дзянісу зрабілі аперацыю, прызначылі сеансы хіміятэрапіі, але выратаваць не змаглі, выдатны вучоны, прафесар згарэў, нібы свечка. На нявестку Ганну зваліліся цэлыя рэзгіны клопатаў. Юрка прыляцеў на пахаванне бацькі са спазненнем: пілоты нямецкай авіякампаніі “Люфтганза” распачалі забастоўку, у Франкфурце на Майне праседзеў палову сутак.

Пасля смерці мужа ў Агаты знікла жаданне жыць: навошта пакутаваць, нявестку мучыць, хай едзе да мужа, а ёй, Агаце, пара вяртацца дамоў, дзе яе чакае Дзяніс. Але яна разумела, што Амерыка не дужа чакае нявестку, – пераканалася, калі з Ганнай злётала ў Чыкага. Маладая жонка ўнука Максіма, высокая, цыбатая, здавалася, што ейныя ногі растуць ад самых вушэй, неяк дужа холадна паставілася да свякрухі. Дык яны ж прыехалі на месяц, а калі тут жыць пастаянна, бачыць надзьмуты твар унукавай жонкі, гэта будзе нялюдскае жыццё. Будзеш сядзець у кватэры, як у клетцы. Да суседзяў не пойдзеш, бо мовы не ведаеш, ля хаты не пасядзіш... На іхняй кароткай вуліцы нават ходнікаў няма: асфальт і зялёныя газоны навокал. І звыклых платоў няма – акуратна падрэзаныя кусты, драйвэй – пляцоўка для аўто, дэк – ганак з тыльнага боку дома, шэд – невялікі акуратны хляўчук для інструментаў. Гэтыя словы Агата засвоіла хутка, а вось нешта гаварыць не артымлівалася. Нават сэнк’ю вэры мач – фраза, якая спрэс гучыць у Амерыцы – нагадвала беларускую фразу; Сенька, бяры мяч!

Агата неяк сказала пра гэта, калі сям’я вячэрала, дык усе дружна смяяліся, а ёй было не да смеху. У школе, інстытуце вучыла нямецкую, памятала шмат слоў, а вось ангельская не паддавалася, цяжка было чытаць: бо напісана адно, а чытаецца іначай, няма беларускага правіла: як чуецца, так і пішацца.

Юра лістоў не пісаў, тэлефанаваў, але ўсё радзей. Аднойчы прызнаўся: у яго ёсць жанчына, яны працуюць у адной фірме, жывуць грамадзянскім шлюбам, яна чакае дзіця... Агата зразумела, што дарога ў Амерыку Ганне адрэзана, у душы лічыла сябе вінаватай: каб не хвароба, яны б жылі ўсе

разам у Амерыцы. Як магла супакойвала нявестку, лаяла сына. ”Божанька, забяры мяне... Хачу развязаць рукі нявестцы. Можа, яна знойдзе чалавека, будзе дажываць не адна...”

– Ганулька, я хачу памерці... Ёсць жа эфтаназія. У некаторых краінах дазволена. Ну, калі чалавек, асабліва стары ўжо, невылечна хворы... Навошта яму пакутаваць. Сямейнікаў мучыць... Куды гэта напісаць?

– Мама, ганіце прэч такія думкі. Давайце зноў масажыста закажам... У вас моцнае сэрца. Усё нутро здаровае.

Агата пагадзілася. Пачаў прыходзіць малады, танклявы, вузкатвары. густабровы масажыст. Спачатку ён асцярожна гладзіў ногі, потым пачаў расціраць, потым зноў далікатна гладзіў, потым націскаў мацней і мацней. Агата цярпела, хоць часам было балюча, хацелася крычаць. У хлопца былі доўгія, моцныя пальцы, здавалася, што ўся яго сіла і моц знаходзяцца ў гэтых нястомных, цёплых, гнуткіх пальцах. Пасля дзесяці сеансаў масажу Агата пачала варочацца ў ложку, нават трохі прыўздымацца.

У Агаты зарадзілася жаданне падняцца з абрыдлага ложка. Жаданне мацнела, прабівалася на свет божы, як трава праз асфальт. І ўранні, і ўдзень, і ўвечары сама рабіла масаж ног, памалу паварочвалася на бок, расцірала паясніцу, у яе прарэзаўся апетыт. Усё часцей згадвала словы хірурга: можа здарыцца цуд і вы станеце на ногі. Агата паставіла сабе першую задачу: сесці ў крэсла. І праз паўгода штодзённых высілкаў яна змагла гэта зрабіць. О, колькі было радасці! Яна калясіла па кватэры нястомна, і не магла нацешыцца. А як соладка спалася ў крэсле!

Ганна радавалася не меней за свякруху. Першая перамога натхніла на далейшыя высілкі. І цуд адбыўся; праз тры месяцы Агата пачала хадзіць на мыліцах. З дапамогаю клапатлівай нявесткі выбіралася на вуліцу. У двары, пад здзічэлымі, асірацелымі яблынямі быў стол, за якім па вечарах пенсіянеры рэзаліся ў даміно – забівалі казла. Як прыемна было пасядзець пад яблыняй, асабліва вясною, пад квітнеючым дрэвам. Папраўдзе, болей радавалі вока налітыя бурштынавым сокам антонаўскія яблыкі. Агата брала з сабою маленькі нож-складанчык, рэзала яблык на лусты і ласавалася. Яблыкі яна любіла з маленства.

А праз нейкі час Агата пачала хадзіць з адной кульбаю. Яна магла самастойна спусціцца з трэцяга паверха – ліфта ў “хрушчоўскіх” пяціпавярховіках не было, – пасядзець каля пад’езда, у яе паявіліся сяброўкі, яна запрашала іх у кватэру, частавала гарбатаю. Яе таксама запрашалі ў госці, Агата ніколі не адмаўлялася: за доўгія гады нерухомасці выспела вялікая, неспатольная прага жыць паўнавартасным жыццём. Пенсію з узростам ёй павялічылі, Юра перадаваў даволі часта даляры, мела пенсію нявестка, ды яшчэ і працавала ў Акадэміі навук спецыялістам па робатах. Матэрыяльна дзве пенсіянеркі былі забяспечаныя. Але сэрца Агаты балела за лёс нявесткі. Даволі маладая жанчына, адукаваная, сімпатычная, чаму б не выйсці замуж – свякруха ўжо не звязвае рукі, як раней. Аднойчы Агата завяла з нявесткай гутарку пра замужжа.

– Не, мама, позна ўжо думаць пра замужжа. Цягнік мой пайшоў. І рэйкі разабралі...

– Ну, рэйкі можна пакласці зноў... Як гэта завуцца гэтыя плашчакі? На якія рэйкі кладуць.

– Шпаламі яны завуцца. Не думайце пра гэта, мама. Мне добра з вамі. Можа, сёлета Максім прыляціць. Будзе нам радасць...

У Агаты мільганула іншая думка: а раптам вернецца Юра. Неяк гаварылі па скайпу, сын прызнаўся, што надакучыла яму Амерыка, з маладой жонкай адносіны складаныя, дачка – лянівая таўстуха, не хоча вучыцца, любіць хадзіць у кіно і нястомна жаваць папкорн.

## VI

Думкі перапыніў мабільнік – пачула голас нявесткі:

– Мама, вы не забыліся паабедаць?

– Не... Грэю суп, катлеты. А як там ты? Не капай зямлю. Не патрэбны нам тыя градкі. Усё можна купіць.

– Ды не. Градка гатовая. Сявок цыбулі рассажу. Хай расце... Я скора прыеду...

"От пашанцавала мне на нявестку. Не кожная дачка гэтак клапоціцца пра матку родную", – падумала Агата. Яна чытала кніжку-планшэт. Ганна і тут паклапацілася: напампавала дзясяткі два розных кніжак, устанавіла даволі буйны шрыфт, льга чытаць без акуляраў, праўда, гартаць старонкі даводзілася часцей. Дык вось, зацікавіла "Роза Мира" Данііла Андрэева. думкі аўтара пра будучыню.

Яна не ўсё разумела, не магла ўявіць "золотую симфонию параллельно струящихся времен", але многія думкі аўтара яна прымала, асабліва словы, што нельга дапускаць усёдазволенасць, асабліва ў сэксуальных адносінах, а некаторыя патрабавалі дазволіць любіцца хто з кім хоча і дзе хоча. Калі гэткае дазволіць, то чалавецтва вырадзіцца вельмі хутка, *царства праведных* не наступіць, не прагучыць і залатая сімфонія...

Апошнія гады старая Агата хацела жыць, каб не пакінуць нявестку адну, спадзявалася, што вернецца Юрка, бо афіцыйна шлюб з Ганнай не скасаваны. А яшчэ нарадзілася цікавасць: што будзе далей? Куды ідзе чалавецтва, "куда несет нас рок событий" – як некалі трывожыўся паэт. Усё гэта разам узятае, ды плюс таемнае жаданне – дажыць да стогадовага рубяжа, даказаць, што беларусы жыццялюбныя і жыццястойкія, – трымала Агату на белым свеце.

На кухні сцішана іграла радыё, раптам пачулася песня: "Белая, белая яблыня зоркай стаіць у вачах..." Прозвішча спявачкі, як і аўтара слоў і музыкі, не назвалі, але Агата пазнала голас Валянціны Альшанскай. За гады ляжання наслухалася канцэртаў па заяўках, яе здзіўляла, а потым злавала: як рэдка людзі прасілі выканаць беларускую песню. Хацелі пачуць "по диким степям Забайкалья...", песню пра Шчорса, "над Кронштатом туман..." Гэта ж так адвучылі беларусаў ад свайго, роднага. Назаўсёды ёй урэзаўся ў памяць сімпозіум кардыёлагаў у Кіеве, дакладней, банкет, на якім гаспадары прапанавалі, каб прадстаўнікі ўсіх саюзных рэспублік праспявалі песню на сваёй мове. Загучалі песні на ўсіх мовах, апрача... беларускай. Агата і яе каляжанка, загадчыца аддзялення, не маглі ўспомніць ніводнай песні. Тады на выручку прыйшоў сівагаловы прафесар, абняў іх: "Цячэ вада ў ярок, цячэ вада ў ярок..." – "Цэ ж ваша і наша пісня".

Застолле дружна падхапіла вясёлую мелодыю. Агата з каляжанкаю зрабілі высновы, і калі пасля нарады ў Маскве спявалі песні, і гаспадары папрасілі праспяваць "...а я лягу прылягу", Агата не разгубілася: "Песня называецца "Вы шуміце, бярозы..." – і зацягнула звонкім чыстым голасам. Здзівілася, што песню ведалі, дружна спявалі масквічы.

Неяк яна прачытала артыкул, у якім гаварылася, што беларускія навукоўцы не могуць сфармуляваць нацыянальную ідэю. Яна ведала амеры-

канскую мару: у багатай Амерыцы кожны можа стаць багатым, і многія насамрэч багацелі. А пра што трэба марыць беларусам? Якой павінна быць Беларусь? Савецкай, сацыялістычнай? А мо лепей – самастойнай, самабытнай. Разумнай? Колькі ў нас прыгожых, разумных людзей! Вунь яе нявестка – спецыяліст па робататэхніцы. Мы захавалі савецкі гімн, трохі памяняўшы тэкст. Не ўсё было блага ў савецкай Беларусі, амаль усе калегі смуткуюць па СССР. А Дзяніс плакаў, калі тры “белавежскія зубры” вынеслі канчатковы прысуд вялікай краіне. Перажывала і камуністка, колішні член партбюро паліклінікі Агата Станіславаўна.

З цягам часу яна пачала разумець, што распад СССР прынёс незалежнасць Беларусі, аб чым марылі, за што аддалі жыццё тысячы лепшых сыноў беларускай Зямлі. Значыць, у нацыянальнай ідэі на першым месцы павінна быць незалежнасць, самастойнасць. А калі так: Беларусь Самастойная, Самабытная, Разумная. Значыць, можна захаваць звыклую для старэйшага пакалення абрэвіятуру? Нехта можа сказаць: дык што, назад у таталітарную дзяржаву? Не, наперад у цывілізаваную, дэмакратычную, у якой будзе месца камуністам і нефармалам, праваслаўным і каталікам, іудзеям і мусульманам. Вялікі Кітай паказвае прыклад сацыялістычнага развіцця, якім кіруе мудры генсек.

Аднойчы ўвечары Агата сказала пра свае ідэі Ганне. Тая доўга маўчала, уздыхнула:

– Ой, мама, не ведаю, што і казаць. Самастойнасць, ну, незалежнасць... Самабытнасць... Беларусь разумная. Гэта – добра. Гэта я вітаю. А вось БССР нешта мне не падабаецца. Было ў СССР і БССР не толькі добрае, але і шмат благога. Рэпрэсіі... Калі забівалі людзей за любоў да Беларусі, Разбуралі храмы... Вы ведаеце нашу гісторыю лепей за мяне. Тапталі ўсё наша, роднае. Школы беларускія пазачынялі... І ўсё гэта рабілася пад камуністычнымі лозунгамі...

– А ў Кітаі была культурная рэвалюцыя. Тысячы людзей загінулі, а партрэты Мао вісяць у кабінетах. Помнікі стаяць...

– Аргумент моцны. Не ведаю, што і запярэчыць, – усміхнулася Ганна. – Здаюся...

Цяпер доўга маўчала старая Агата.

– Вось што, Ганулька, давай пра гэта... Ну, пра мае ідэі нікому гаварыць не будзем. Каб людзі не смяяліся...

– Не, мама, гэта не смешна. Гэта вельмі сур’ёзна. Калі б спытаць у Акадэміі, хто за БССР, а хто супраць, у вас знайшлося б шмат прыхільнікаў. Асабліва сярод навукоўцаў сталага веку...

На гэтым тады іхні дыспут скончыўся. Агаце карцела сказаць, што неўзабаве – стагоддзе Кастрычніка, мо нарэшце будзе дадзена аб’ектыўная ацэнка гэтай падзеі: ці то была вялікая рэвалюцыя, ці дзяржаўны пераварот. У адным яна была перакананая – Кастрычнік перайначыў увесь свет...

Старая Агата пазірала на квітнеючую яблыню, і ёй хацелася праспяваць гімн не чырвонаму, а беламу колеру. Па-першае, белы халат – сімвал яе прафесіі, якой яна аддала больш як паўсотню гадоў. Па-другое, яна любіла сіні колер, які ўладарыць на свеце: сіняе бяскрайняе неба, сінія моры, акіяны, азёры, рэкі, сіні васілёк у жыце... Але ж сіні колер – складнік белага, як і чырвоны, аранжавы, жоўты, зялёны, блакітны, сіні, фіялетавы – менавіта ў такім парадку ззяюць колеры вясёлкі. Промні сонца расшчапляюць белы колер кропляў дажджу на сем складнікаў.

## VII

Раптам азваўся кампутар: прасілі адказаць па скайпе. І вось на экране твар Юры. Гуку спачатку не было чуваць, але потым прарэзаўся і голас:

– Мама, прывітанне! Як жыццё-быццё? Як здароўе?

– Ну, нічога, сынок. Дзякаваць Богу, на сваіх нагах. Соваюся з кульбаю па кватэры і радуюся. Ну, а як табе жывецца?

Агата ўглядался ў сынаў твар і не магла не заўважыць мяшкі пад вачыма, азызласць, рэзкія глыбокія зморшчыны, якія падковаю ішлі ад носа. “Пастарэў мой сынок. Мусіць, нялёгка жывецца ў Амерыцы”.

– Апошнім часам нешта ўсё думаю пра цябе, пра Ганну. Яна дома?

– Ды не. Паехала на лецішча. К вечару вернецца. Ты не адказаў... Як здароўе? Нешта сумны ты. Мо здарылася што?

– Нічога асаблівага не здарылася. А наконт здароўя... Горш, чым было, але лепей, чым будзе... Ведаеш, мама, цягне мяне дамоў. Хачу прыехаць назусім. Памерці хочацца дома...

– Што хочаш прыехаць, гэта вельмі добра. А пра смерць і слухаць не хачу! Малады мужык. Перавалiў за семдзесят. Ну й што? А мне ўвосень будзе дзевяноста пяць! Вайну прайшла, раненні, хваробы ўсялякія... А жыць я не стамілася!

– Я цешуся, мама, ты – вялікі жыццялюб... Дай Божа табе здароўя, імпэту і надалей. Хачу з табой параіцца. Як ты думаеш, прыме мяне, блуднага мужа, Ганна? Ці даруе?..

– Думаю, што прыме. Яна клапоціцца пра мяне, як дачка родная. А можа і лепей. Калі б цябе не кахала, дык бы мяне даўно на той свет справодзіла... Сама б замуж выскачыла... Прыязджай, сынок. Будзем жыць разам. Амерыка без цябе абыдзецца. Ты аддаў ёй лепшыя гады жыцця. Пенсію ж маеш?

Юрка распавёў пра пенсію, якую будуць прысылаць у Мінск, пра Максіма і яго сям'ю, пра дачку-амерыканку, аматарку баевікоў і папкорна, лянівую таўстуху...

– Так што, мама, напрыканцы лета, мабыць, прылячу назаўсёды. Будзем жыць разам!

Агата не верыла сваім вушам. Калі развіталіся, ёй заманулася пайсці ў скокі, яе душа спявала, усохлыя вусны шапталі: “Дзякуй Табе, Божухна, за такую навіну”. Яна пазірала на белую яблыню, ёй здавалася, што над квітнеючым дрэвам раз-пораз успыхвае вясёлка.

Вочы старой жанчыны былі поўныя слёз.

Гэта былі слёзы радасці.

*2016*

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць
шаноўнага **Леаніда Кірэевіча ЛЕВАНОВІЧА**
з васьмідзесяцігоддзем і зычаць яму моцнага здароўя,
плёну ў працы, бадзёрасці, аптымізму
і – перасягнуць стогадовы рубеж!

Сяргей Чыгрын



...мы ў вершах шчаслівымі
хочам застацца...

# У вечнасці гэтай прыходзіцца жыць...

## *АПАЛІНЭР*

Маці французскага паэта Гіёма Апалінэра (1880-1918) паходзіла з беларускага роду Кастравіцкіх. Радавы маёнтак Кастравіцкіх, Дарожкавічы знаходзіўся пад Навагрудкам, ён быў канфіскаваны за іх удзел у паўстанні 1863–1864 гадоў. Дзед Апалінэра эміграваў у Італію, дзе прайшло дзяцінства паэта.
У апошнія гады жыцця паэт жыў у Парыжы.

Апалінэр збіраецца дамоў –
Да сваіх ліцвінак і ліцвінаў,
Да адной з найпрыгажэйшых моў,
Да краіны продкаў, да адзінай.

Пікасо пакліча і Русо, –
На Літве яны шчэ не гасцілі.
Будзе на радзіме сніцца сон,
Што дзяды Гіёма не даснілі.

Чамадан сабраў Апалінэр, –
Падарункі родным Кастравіцкім.
Ён ад маці павязе цяпер
Прывітанні і сябрам, і блізкім.

Да яго прыедзе Пікасо,
І Русо магчыма завітае...
Будзе аб радзіме сніцца сон,
І ліцвінка-мама маладая...

## КВЕТКІ КАМІЛЫ

Дачка класіка беларускай літаратуры Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча Каміла Марцінкевіч прымала ўдзел у паўстанні 1863 года. Яе арыштавалі ў Мінску. У жніўні 1863 году з вакна сваёй камеры дзяўчына кінула кветкі пад ногі паўстанцу Яну Жмачынскаму, якога вялі на смяротнае пакаранне. Адказам уладаў стала высылка 25-гадовай Камілы Марцінкевіч па этапе пад паліцэйскі нагляд у горад Салікамск. На Беларусь яна вярнулася праз 20 гадоў.

Кветкі, як птушкі, ляцяць да паўстанцаў,
Кветкі за смеласць, кветкі за мужнасць.
Кветкі, каб ў памяці нашай застацца,
Не наракаць на нядужасць.
Не наракаць, што мы кволыя людзі,
Не наракаць, што нас лёгка зняволіць.
Подзвіг Камілы хай прыкладам будзе,
Што мы нігды не пазбавімся волі.
Кветкі Камілы – то праўда сугуччаў,
Рве ланцугі яна мужна і краты.
Кветкі бы полымем самым пякучым,
Ўсіх пеканулі к*а*таў.
К*а*ты баяцца кветак ад мужных, –
Ім гільяціны сняцца...
Кветкі Камілы для смелых і дужых,
Кветкі, каб ў памяці нашай застацца.

## ЭНРЫКЕТА

У 47-гадовым узросце стары кавалер-навуковец, славуты ліцвін з Наваградчыны, нацыянальны герой Чылі Ігнат Дамейка пазнаёміўся ў сакавіку 1850 года з прыгожай 16-гадовай чылійкай Энрыкетай Сотамаёр Гусман і 7 ліпеня 1850 пабраўся з ёй шлюбам, пражыўшы разам яшчэ дваццаць гадоў.

За што пакахала ты нашага дзядзьку ліцвіна,
Якім ганарыцца і сёння мая Беларусь?

О, ты далёкая за акіянам вялікім дзяўчына,
Тая, што зведала долі шчаслівай пару.

О, ты прыгожая, наша чылійка-ліцвінка,
Побач з Ігнатам ты стала яшчэ прыгажэй.
Бо пра Айчыну сваю ён казаў безупынку,
Бо пра Радзіму казаў, што была даражэй.

З ім ты шукала на мапе вялікай Літву,
Дзе зацвітаюць і бэз, і пахучая мята...
О, Энрыкета, я ў думках да Чылі плыву,
Каб абвязаць ручніком і цябе, і Ігната.

Сумна без вас я тут на радзіме жыву,
Ваша стагоддзе кліча мяне ў падарожжа...
О, Энрыкета, я ў думках да Чылі плыву,
Дзе ты Ігната Дамейку цалуеш прыгожа.

## *АДАМ І МАРЫЛЯ*

Летам 1818 года Адам Міцкевіч прыехаў разам з Тамашом Занам у Туганавічы на Наваградчыну, дзе і распачалося ўзаемнае, няспраўджанае і няшчаснае каханне Адама да Марылі Верашчакі. Паводле легенды Адам Міцкевіч пасадзіў для Марылі бярозу. Людзі кажуць, што і ў сонечныя дні лісце бярозы было вільготным ад тугі яе гаспадыні па каханаму.

Пані Марыля, дзе ж твой Адаме?
Той, хто кахаў цябе светлым каханнем,
Той, хто пяяў табе там у растанні...
Пані Марыля, ну дзе твой Адаме?

Плача бяроза тваімі слязамі,
Бо у цябе не хапала больш слёз.
Пані Марыля, ну што ж ты сказала,
Чым ты не спраўдзіла светлы ваш лёс?

Ў сэрцы Адама – туга па адзінай
Самай прыгожай і самай каханай,
Больш не прыедзе паэт на Радзіму,
І не загоіцца ростанню рана.

Плача бяроза пад сонечным небам –
Нават бярозе тужліва адной.
Сёння Адаму нічога не трэба, –
Стала Марыля навекі чужой.

Дзе ж твой Адаме, пані Марыля?
Чаму прамяняў ён Літву на Парыж?..

Ты не адкажаш нам, пані Марыля.
Толькі заплачаш і прамаўчыш...

### *КАРЦІНА ЭМІЛЯ ДЭРУА "РЫЖАЯ ЖАБРАЧКА" (1843 Г.)*

У першай палове 19 стагоддзя людзі часта бачылі на Елісейскіх палях у Парыжы рыжую жабрачку, якая зарабляла на жыццё прастытуцыяй і выкананнем песень. Яе прыгажосць натхняла мастакоў Дэруа, Банвіля і Бадлера.

Ведалі Банвіль і Дэруа
Рыжую спявачку-парыжанку,
Дзе натхненне у яе вачах –
Як матулі соннай калыханка.
Галасок спакуслівы і тонкі,
Запрашаў за франкі у бардэль.
Марыла жабрачка пра пярсцёнкі,
І кружыла мара нібы хмель.
І спяшылі мастакі убачыць
Рыжую спявачку на Палях...
Бо яна натхняла іх, няйначай,
Чаравала хлопцаў на вачах.
Спакушала мілая жабрачка
Мастакоў вялікіх і Парыж...
І чаго ты, сумная спявачка,
На жыццё пакрыўджана глядзіш?
Дзе цяпер, скажы, твае путаны?
І куды падзеўся кожнай след?..
Пра Парыж спакусліва-жаданы
Дэруа нагадвае партрэт.

### *КАЛЮЧЫ ДРОТ*

*Памяці ахвяраў сталінскіх рэпрэсій*

Ляжыць ён на звалцы, стары, паржавелы,
Нікому цяпер не патрэбны, гнілы.
А быў ён балючым, калючым і смелым –
Ахоўваў старых, маладых і малых.
І кожны глядзеў на яго, і свабоду
Ён бачыў за дротам ў сырых лагерах.
А потым выходзіў з калючага дроту
І ў сэрцы насіў ён і здзекі, і страх.
Выходзіў часова у шахты з тайгою,
З кіркою ў руках і з сякерай ў руках.
А дрот яму быў той папружкай тугою,
Якая сціскала жыццё на вачах.

А сёння ляжыць гэты дрот успамінаў,
Яго абыходзяць малы і стары...
За тых, хто загінуў, і хто не загінуў –
Згніе на двары гэты дрот без пары.
Ляжыць ён на звалцы, даўно паржавелы,
А памяць ніколі не будзе ржавець...
Народ мой пакутны, ды мужны і смелы,
Ён вечны, як неба і сонца, і смерць.

### ВЯРБА

Чаго ж ты стаіш не прычэсана нават,
Худыя галіны палошчаш ў вадзе.
Табе усе песні, і гонар, і слава,
А ты пра нас мабыць не шэпчаш нідзе.
Вятры цябе лашчаць, дажджы цябе мыюць,
І сонца праменнямі грэе цябе.
Галіны твае мне здаюцца нямыя,
Як рукі павіслі ў самотнай журбе.
Гляджу на цябе – адзінокую, кволую,
За што ж цябе любяць паэты, скажы?..
Ды мне ты нагадваеш вечнасць нявольную,
Дзе ў вечнасці гэтай прыходзіцца жыць.

### СОН

Бусел збірае суніцы –
Ягады дзюбай зрывае,
Роўненька, каб не змыліцца,
Ў белы збанок складае.
Ў неба блакітнае потым
Збан падымае высока...
Бусел здаваўся мне гордым –
Бачна было здалёку...

### ВЕРШЫ

*Паэтам і чытачам*

Вас мала хто сёння, паверце, чытае,
І зборнікі-хаткі у шафах пыляцца.
Мы вечныя ісціны там не шукаем,
Мы ў вершах шчаслівымі хочам застацца.
У кожным радку мы душу адкрываем,
Бо вершы, як лёсы людзей і зямлі.
Мы верым, чакаем, жывем і кахаем, –
Усё што мы маем і што зберaглі.
О, вершы –ратункі, о, вершы-адкрыцці,
Мы хочам з тугой назаўсёды расстацца.
Бо там нашы лёсы, бо там нашы жыцці...
Ды ўсе яны разам у шафах пыляцца.

## ДОЖДЖ У СНЕЖНІ

Лье дождж халодны на людзей,
І мокнуць пад дажджом машыны.
А ён ідзе, ідзе, ідзе,
Як сваякі на імяніны.
Дождж закаханых намачыў –
Прамоклі вусны і калені...
Ты хоць бы, дожджык, адпачыў,
Ты ўжо зімовы – не асенні...
А дождж не слухае мяне –
Змывае хутка мае мары...
Ён сумна плача у вакне,
Нібыта скрыпка Страдывары.

*2017, снежань*

## НА БЕРАЗЕ МОЎЧАДЗІ

*Валерыю Міхайлавічу Петрыкевічу –*
*грамадскаму актывісту з Дзятлава*

На беразе Моўчадзі прыгадваем з вамі Дамейку,
І вашага бацьку таксама прыгадваем мы.
Ад успамінаў нам радасць маленькаю жменькай
Сыпне ад траўня да самай халоднай зімы.
Слаўны Міхалыч – наш беларускі вандроўнік,
Кожную сцежку прайшоў пехатой па зямлі.
Потам прапахлі заплечнік яго і ватоўкі,
Што ў падарожжах надзейныя побач былі.
Моўчадзі хвалі спяшаюцца, як на спатканне,
Іх не стрымаць, не абняць, нікуды не вярнуць.
Хвалі здымаюць дзённае ў нас хваляванне,
Хвалі, як мы, і пяюць, і бягуць, і жывуць.
Мудры Міхалыч з шырокай, як Моўчадзь, душою,
Ён для сяброў даражэй на зямлі і радней.
Зычыць ён нам і Радзіме заўсёды спакою,
Сілы свае аддае ён для добрых людзей.
Моўчадзь бяжыць, даганяючы хвалю за хваляй,
Моўчадзь вяртацца ніколі не будзе назад...
Моўчадзь надзеі, як сонца на хвалях трымае,
Як спелыя яблыкі трымае Міхалыча сад.

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць
шаноўнага **Сяргея Мікалаевіча ЧЫГРЫНА,**
нястомнага краязнаўцу, даследчыка літаратуры,
з шасцідзесяцігоддзем і зычаць яму
моцнага здароўя, душэўнае трываласці і, вядома ж, –
новых выдатных твораў і даследаванняў!

Юры Несцярэнка



...усё гэта адбывалася значна пазней
за прастору і час нашага святога "Пакуль"...

# Шляхам ад Вялікай ночы да Вялікага дня

***Апавяданні***

## Пакуль яны былі як сёстры

*...усё выглядала так, нібы пастаўлена выпадкова ці на пакуль што.*

Ян Скрыган, апавяданне "Біяграфія".

Як бы ні называлася гэтая мясцовасць на працягу сваёй доўгай гісторыі – ці мяжа дрыгавічскіх і крывічоўскіх уладанняў, ці ўласнасць Друцкага княства, ці мястэчка ў складзе Цяцерынскай воласці, якое, да таго ж, належала ў розныя часы да Аршанскага павета ці Мсціслаўскага ваяводства, потым нейкі час існавала ў якасці павета Магілёўскай губерні, а з сярэдзіны 1920-х гадоў стала Бялыніцкім раёнам, – зямля гэтая заўсёды магла б гана-

рыцца выдатнай калекцыяй назваў вёсак і вёсачак, якія ў адпаведнасці са сваім тапанімічным прызначэннем адсылалі “за”.

Заполле, напрыклад, сапраўды знаходзілася за палямі ад цэнтральнага мястэчка. Заазер’е ўказвала на тое, што людзі пасяліліся за азёрамі – вялікімі Кармаsucceeded ўскім і Заазерскім, ды яшчэ шмат за якімі меншымі па памерах. Забалаццяў спакон вякоў было два: адно натуральна хавалася сярод вялікіх балотаў на захадзе ад мястэчка, другое пазначала гісторыю свайго існавання сярод багны на ўсходзе. Адно Зарэчча было па дарозе на поўдзень, а другое – літаральна за некалькі соцень метраў да мяжы з суседнім раёнам, у паўночным кірунку на Віцебшчыну, – у назве сваёй пазначыўшы, што яно “за рэчкай” ад Цяцерына, які калісьці мог пахваліцца і ўласным замкам, і фальваркам, у залежнасць ад якога ў даўнія часы трапляла і мястэчка Бялынічы.

З усяго набору падобных, калі не сказаць – стандартных назваў з прыстаўкай “за” ў нас не было толькі Загор’я і Залесся. Але ж смела можна сцвярджаць, што першую назву часткова кампенсавала Краснагор’е, а другую цалкам – Заліп’е (калі ўжо камусьці чаго не хапала – кшталту адлюстравання ў тапаніміцы тэмы лясных масіваў, то ў розных канцах бялыніцкай зямлі месціліся Падбор’е, Прыбар, Бор, Барок, а ў дадатак да ўсяго яшчэ і Пушча).

Трэба заўважыць, былі ў нас і нестандартныя назвы, якія ўказвалі ў кірунку “за”: гэта Замачулле і Запакулле. З этымалогіяй назвы “Замачулле” было ўсё больш-менш зразумела: слова “мачулле” калісьці пазначала мачала, якое рабілі замачыўшы абдзёртую ліпавую кару. У скрайнім выпадку – у мясцовым варыянце назва магла паходзіць ад чаго-небудзь яшчэ, што “замочвалі”.

Аднак з ідэнтыфікацыяй апошняй назвы трэба было б не спяшацца – як сказаў калісьці Ян Скрыган, – варта было б пытанне адкласці “на пакуль што”.

Мы, маладыя жыхары райцэнтра, з гэтай вёскі не шмат каго ведалі. Быў фермер Юра, наш равеснік, з якім калісьці разам вучыліся, а ў пазнейшыя часы толькі бачыліся на якіх-небудзь сустрэчах аднакласнікаў раз гадоў на пяць. А вось, былі ж яшчэ дзве дзяўчынкі, з якімі мы пазнаёміліся і пасябравалі перад самым нашым прызывам у войска. Яны былі гады на два маладзейшыя, толькі скончылі школу, і напэўна мы былі для іх нейкімі легендарнымі асобамі, пра якіх школьніцы раёна распавядалі адна адной на вушка неверагодныя чуткі. Гэтыя дзве сяброўкі прыязджалі на нашы “провады ў войска” менавіта з Запакулля. Зараз яны ўяўляюцца нейкімі сёстрамі міласэрнасці, сапраўднымі добрымі феямі, што з’явіліся напярэдадні вялікіх пераменаў і ў нашым асабістым жыцці, і ў жыцці краіны, дзе мы калісьці жылі.

Першага забралі Косціка. Той патрапіў у Арзамас-16 – закрыты горад, які не пазначаўся на савецкіх картах, “не існаваў” у статыстычных справаздачах і геаграфічных даведніках, з’яўляўся навуковай базай №1 па распрацоўцы ядзернай зброі.

Зразумела (і дзякуй Богу) Косцік ядзерную зброю не распрацоўваў. Ён стаяў “на тумбачцы”, хадзіў у нарады па кухні, ахоўваў склады, дзе знаходзілася штосьці пад умоўнай назвай “інвентар”, а пра акадэміка Сахарава магчыма і не чуў. Хоць той адбываў сваю дысідэнцкую ссылку недзе побач – хадзіў па тых жа вуліцах і жыў у суседніх дамах. Акадэміка, пасля сямі год утрымання, выпусцілі адразу пасля дэмабілізацыі Косціка.

Потым, як было прынята казаць у падлеткавым асяроддзі, ужываючы дапрызыўны жаргон, “забрылі” Грэся. Ён апынуўся ў Падмаскоўі, у горадзе з назвай Даўгапрудны – у адным з незлічоных батальёнаў аховы, якія напаўнялі сталіцу СССР з любой нагоды: ці то гэта чарговы вайсковы парад у гонар бясконцых савецкіх юбілеяў, ці то прыезд чарговага лідара адной са шматлікіх брацкіх кампартый, ці то яшчэ што-небудзь кшталту спартовых турніраў з удзелам краін сацыялістычнага лагера.

На якую з падзей у маштабах свету паўплывала дэмабілізацыя Грэся, нам засталося невядомым. Відавочна толькі, што перабудова, галоснасць і паскарэнне расквітнелі, як толькі ён выйшаў за вароты сваёй часці.

А я начапіў пагоны апошнім. Яны былі сіняга нябеснага колеру. Адпаведна, і служба з аднаго боку была звязаная з нябёсамі, а з іншага – моцна прывязана да зямлі. Наша рота абслугоўвала аэрадромную тэхніку. Тэхніка гэтая вельмі прыдалася на тушэнні рэактара ў нікому да тае пары невядомым гарадку Чарнобыль. Вось такая быль – якраз верталёты з нашага аэрадрома выконвалі там усю чорную працу.

А пакуль мы яшчэ не раз’ехаліся выконваць свой вайсковы абавязак, то апошні раз сустрэліся ўсе разам, і хлопцы, і дзяўчаты, на канцэрце групы, дзе я спяваў і граў на гітары. Група так і называлася “Апошні шанец”. Нібыта сапраўды даючы нам адзіную магчымасць насалодзіцца нашым ціхамірным юнацтвам. Апошні раз пацвердзіць, што ўсё гэта сапраўды адбываецца з намі, што вось яно, ёсць – наша юнацкае сяброўства. І пакуль мы былі разам, яно і працягвалася – гэта наша “пакуль”.

У кожнага з нас жыццё складалася па-рознаму, ды па іншаму і быць не магло. Спачатку тыя дзяўчаты яшчэ час ад часу пісалі нам усім траім, а потым, відаць, надышоў момант, калі ім стала ўжо не да нас. Мы ж, адзін за адным (не прайшло і два гады), пасыпаліся “на дзембель”, як выстраленыя гільзы з аўтаматнага магазіна, і тут жа разляцеліся хто куды. Вельмі рэдка сустракаліся паасобку і ніколі разам. Таксама як ніколі не бачылі мы больш нашых сяброўак па давайсковым юнацтве.

Касцік, скончыўшы лясны тэхнікум, атрымаў месца спецыяліста ў мясцовым лясгасе. Аднойчы, каля свайго дома, у цалкам бяскрыўднай сітуацыі, утварылася нейкая слоўная перапалка з зэкам, што нецвярозы ішоў міма. Зэк выхапіў нож і параніў Касціка. Рана была несмяротная. Але смяротным апынуўся зварот у лякарню. Ці то лекі не тыя далі, ці то дазіроўку перабольшылі – аднак Касцік зраніцы не прачнуўся...

Так сталася, што падчас руху пахавальнай працэсіі я першым нёс вянок з жалобнымі стужкамі напару з малазнаёмым мне сваяком Касціка. Грэсь на пахаванні не прысутнічаў, хутчэй за ўсё не ведаў пра трагічны выпадак.

Справа ў тым, што ў той час Грэсь быў заняты сур’ёзнымі справамі – ён “гастраляваў” па ўсім Савецкім Саюзе, пазней ахапіўшы і постсавецкую прастору. Мы перасякаліся раз гады на два, калі ён вяртаўся з чарговай “экспедыцыі”, дзе рупліва вывучаў таямніцы жаночай душы. Здаецца, афіцыйна за ім лічылася восем дзяцей, хаця ў яго сямейнай хроніцы можна было і заблытацца. Вядома толькі, што адно з вяселляў было ў Тамбове – прыязджаў з цяжарнай нявестай адтуль. Недзе вандраваў па Грузіі, засвяціўся ў Растове, нейкі час правёў у Сібіры. Але кожны раз вяртаўся ў Беларусь жывы і здаровы, чаго заўсёды шчыра жадаў шматлікім сваім сябрам і сяброўкам, узнімаючы чарговы тост пры сустрэчы.

А я ўсё жыццё шукаў свой “Апошні шанец”, усё даганяў той цягнік (па словах з нашай уласнай песні), у якім мой музычны гурт з’ехаў у... ці то Зачассе, ці то ў Зашчасце, і нечакана для самога сябе я апынаўся то ў высокім Занябессі, то ў занадтым Андэрграўндзе, то правальваўся ў Залюстрэчча, то Гіперрэальнасць заціскала ў куток.

Але ўсё гэта адбывалася значна пазней за прастору і час нашага святога “Пакуль”. Недзе там, у няпростым і непрадказальным ужо “Запакуллі”.

## Машына часу

Я працую ў 1982 годзе. Кожны вечар па чацвяргах, пятніцах і суботах, вось ужо амаль год, я выпраўляюся ў падарожжа ў мінулае. У кожнага свая праца: хто адпраўляецца на вялікую глыбіню – ці то пад ваду, ці то пад зямлю; хто ўзмывае ў вышыню на рознай адлегласці ад той жа зямлі; у кагосьці задача нерухома стаяць на месцы, а хтосьці наадварот – павінен бесперапынна рухацца, пакуль не атрымае загад спыніцца.

А ў мяне вось такая праца (адчуваю сябе кімсьці кшталту сапраўднага сталкера) – вяртаюся сам і дапамагаю вярнуцца іншым на больш як трыццаць год назад. Не скажу, што гэты занятак вельмі мяне захоплівае, але часам уражванні вельмі нечаканыя.

У якасці машыны часу выкарыстоўваю “Opel-Omega” 1986 года выпуску – блізкага да часу кожнадзённага канцавога прыпынку ў службовай вандроўцы. Калі б працаваў спідометр, ён бы паказаў адлегласць у прасторы – каля трыццаці кіламетраў да суседняга мястэчка. Там рэстарацыя пад назвай “Алмаз”. У ёй, на спецыяльна абсталяванай эстрадзе, – працоўнае месца творчага калектыва “Аўтастрада”. Усе яго ўдзельнікі лічацца на дзяржаўнай службе. Я займаю пасаду, якая ў дакументах пазначана як «артист-гитарист ведомственного вокально-инструментального ансамбля “Автострада” ООО “АБВГД-ЁКЛМН “Автопарк №1”».

Месца нашага знаходжання ў часе выбараў кіраўнік ансамбля Сеня. Яму гэта было няцяжка зрабіць, бо сам ён камфортна жыве менавіта ў 1982 годзе. Усе яго думкі, паводзіны, адносіны непарыўна звязаныя з апошнім кавалкам “перыяда застоя” і з заканчэннем сярэдняй школы. Ён настальгуе па гэтых часах неверагодна. “Савецкі Саюз” – для Сені сапраўдны культ. Любая рэч “адтуль” для яго мае сакральнае значэнне. Сеня з захапленнем начытваецца інтэрнэт-артыкулаў і нататкаў з жоўтай прэсы, дзе ідэалагічныя тролі абагаўляюць існаваўшую некалі “краіну саветаў” і хітра робяць выгляд, што артадаксальная постсавецкая прастора імкнецца аднавіць імперыю “ў тым самым выглядзе”.

Гэтая інфармацыя настолькі супадае з Сеневай настальгіяй (якая крыху палохае сваімі маштабамі), што ён катастрафічна не заўважае брутальных маніпуляцый замежных, нават не айчынных, ідэолагаў з яго ўласнай свядомасцю. Так! Сеню можна лічыць самай сапраўднай ахвярай той няпростай з’явы, якая называецца “масавы гіпноз”. Нягледзячы на тое, што наш кіраўнік нарадзіўся за часам “развітога сацыялізму”, скончыў савецкую школу, служыў у савецкім войску, вучыўся ў савецкай сярэднеспецыяльнай навучальнай установе – ён разважае слоганамі, штампамі, клішэ, якія прыдумляюць тыя, хто нарадзіўся пазней за “эпоху Савецкага Саюза”. Адпаведна, гэтыя людзі могуць ведаць пра савецкае жыццё толькі са словаў менавіта тых, хто ў імперыі нарадзіўся, – вось тут і заключа-

ецца парадокс, – са словаў тых, каго яны зараз замбуюць. Вось такое замкнёнае кола...

Сеня лічыць, што мы вельмі прасунуты ансамбль. Таму што імкнемся іграць эстрадны рэпертуар не толькі 1982 года, а ідзем на крок уперад – іграем розныя хіты ў манеры 1983-га. Час ад часу сягаем і далей. Мы ж за культурны прагрэс – бывае так, што спрабуем нават пайсці на смелы эксперымент у аранжыроўках узору 1984!

Сама па сабе наша рэпертуарная палітыка цалкам супадае з палітыкай установы. У “Алмазе” усё зроблена ў пампезным стылі канца 70-х, пачатку 80-х – такі своеасаблівы банкетны зал псеўдакрамлёўскага мініпалаца: паміж калонамі, стылізаванымі ці то пад “старажытную Грэцыю”, ці то пад “сталінскі ампір”, стаяць два дзясяткі столікаў з доўгімі абрусамі, фатэлі з накінутымі на іх прасторнымі балдахінамі і “падпярэзанымі” аграмаднымі бантамі на спінках. Такія ж выкрутасістыя, з “рюшечкамі”, фіранкі на вокнах – усё ў светла-ружовых колерах. Афіцыянткі непераўзыдзена хамяць выпадковым кліентам (якіх яны імгненна вылічаюць) і выдыгаюць перад мясцовымі “аўтарытэтамі”. Такіх стылёвых і яркіх персанажаў я сапраўды не бачыў з савецкіх часоў – а ў гэтым і была яскравая сутнасць савецкай сферы абслугі.

Увогуле культурна-забаўляльны комплекс, да якога мы адносімся, выдатны. Ён таксама называецца “Алмаз”. Акрамя рэстарацыі, тут ёсць гатэль, сауна, салярый, боўлінг, начная дыскатэка. Летам мы іграем на адкрытай пляцоўцы перад публікай, якая займае вольныя лаўкі і пляскае ў ладкі, калі мы зацягваем “Позади крутой поворот, позади обманчивый лёд...” ці “Летящей походкой ты вышла из мая и скрылась из глаз в пелене-е-е января...”. Здараюцца і танцы – перад сцэнай з’яўляюцца сапраўдныя “танцоры дыска” і паказваюць высокі клас валодання сваім арганізмам, у якім знаходзіцца да некалькі літраў танных спіртных напояў.

Сёння чацвер, я спяшаюся з іншага горада дадому і не ведаю, а якой гадзіне трэба ехаць на працу. Тэлефаную басісту, майму земляку, які ўладкаваўся ў “Алмаз” крыху пазней за мяне і з маёй жа дапамогай. Мы разам ездзім за трыццаць кіламетраў на поўнач і больш як на трыццаць гадоў назад, у мінулае. Басіст называе нашу працу “уікенды з іншай эпохі”.

У пэўнай ступені мы не надта ідэальна падыходзім для “савецкага” калектыву: жывём далёка, паводзім сябе незалежна, іграем сходу – не трэба два разы тлумачыць, слухаем рок-музыку ўзору 2010-х гадоў, да таго ж яшчэ з іншым гуртом граем блюз.

Нарэшце дазваньваюся і пытаю ў калегі, як мы працуем на гэтым тыдні? Ён крыху здзіўляецца: “А табе што, ніхто не тэлефанаваў?” “Не, ніхто не тэлефанаваў”. “Нам не працягнулі кантракт”. Я замаўкаю на некалькі секундаў. Атрымліваецца паўза, цягам якой ўважліва прыслухоўваюся да сябе – што я адчуваю зараз? Можа, я ад нечаканасці расстроіўся? Ці разнерваваўся? Напэўна ж павінна быць нейкае раздражненне ад недарэчнасці сітуацыі? Я заўсёды прыслухоўваюся да першых эмоцыяў – яны як адмысловы набор дакладных прыстасаванняў, заўсёды фіксуюць найбольш правільную рэакцыю. “О, дзякуй Богу!” – нарэшце вырываецца ў мяне, ці дакладней будзе сказаць – з мяне! “Я таксама ўспрыняў гэта з палёгкай”, – адказвае мне басіст.

Мы звольнены ў лепшых традыцыях саўка. За больш як трыццаць гадоў

у гэтых краях нічога не змянілася. Звычкі засталіся тыя самыя – ставіцца да супрацоўнікаў як да бяспраўных, бязмоўных, безаблічных “будаўнікоў сацыялізму”. “Сацыялізму”, які тут ніхто ніколі не пабудуе, і “будаўнікоў”, якіх можна губляць і не падлічваць.

Праз радкі, якія цяпер пішуцца, паволі пачынае прамалёўвацца аркуш з пячаткай і подпісам – ці то загад, ці то нейкі пратакол. Я ўглядаюся ў гэты дакумент і ніяк не магу разабраць, якая дата там стаіць – 1982? Ці 1952? Ці 1932? І надпіс – “ООО... АБВГД... ЁКЛМН...” – загадкавым чынам размываецца перад вачыма. Як у сне. У нейкім каламутным вар’яцкім сне...

## Шляхам ад Вялікай ночы да Вялікага дня

***I***

Дзіцячы віск, гамана, грукат маленькіх ног па падлозе. Хоць ножак гэтых усяго дзве пары, але, калі яны збіраюцца разам, то шуму ў доме робяць не меней, чым уся група дзіцячага садка. Аднак сёння такі дзень, калі ў садок ісці не трэба – мяркуючы па тым, што дзеці даўно ўжо павыскоквалі са сваіх ложкаў. Інакш іх было б не дабудзіцца.

Час прачынацца і тату, хоць лёг ён глыбокай ноччу, меўшы святы намер даведацца пра нюансы царкоўнага свята пад гучнай назвай “Вялікдзень”. Сам таго не заўважыў, як, спрабуючы разабрацца з ключавымі пытаннямі кшталту хроснага ходу, пераблытаў не толькі парадак дзеянняў, але і час сутак. Гэта не дзіўна, таму што святары ўсіх магчымых канфесій і канфедэрацый, як на абшарах інтэрнэта, так і на прасторах свету, таксама не вызначыліся дакладна – што ж гэта Вялікая ноч, ці Вялікі дзень?

...Ніяк не расплюшчваюцца вочы, а з глыбіняў памяці ўсплывае, на першы погляд, супярэчлівая інфармацыя з апошняга кампутарнага “даследвання” з мэтай вызначыць паходжанне назвы свята. Дзякуй Богу, яна хаця б падзяляецца на тэмы – “начную” і “дзённую”: “Velika noč” па-славенску, “Veľká noc” па славацку, “Velikonoce” па-чэшску, “Wielkanoc” па-польску. І далей: “Велигден” па-македонску, “Великден” па-балгарску, “Великодень” па-ўкраінску, “Вялікдзень” па-беларуску. Да славянскіх моваў далучаецца латышскае “Lieldienas” (што даслоўна можна перакласці як “найвышэйшы дзень”) і “Velykos” па-літоўску – што іначай як “Вялікдзень” ці “Пасха” і не перакладаецца.

Дзеці, інтуітыўна адчуўшы энергію свята, б’юць усе рэкорды па стварэнні шуму. “Хрыстос уваскрос!” кажа мама дзяцей, заўважыўшы прыкметы абуджэння таты. Апошні ў гэты момант сам сабе нагадвае цацку з нядаўна набытага для дзяцей “Кіндэр-сюрпрыза” – чалавечую фігурку, у якой замест галавы кампутарны манітор (паваротам маленькага перключальніка “на патыліцы” можна “абнуляць”, гэта значыць заціраць надпісы на экране, а потым, адлучыўшы ад галавы-манітора цела чалавечка, ягонай жа нагой можна зноў напісаць ці намаляваць што-небудзь).

“Uskrs” – узнікае на тым маніторы пераклад назвы свята на харвацкую. “Ускрс” дублюецца пераклад па-сербску. “Vaskrs” пасля “абнулення” з’яўляецца варыянт перакладу на баснійскую. Нарэшце расплюшчваюцца татавы вочы, а за імі разліпаюцца і вусны: “Сапраўды ўваскрос!”.

Падчас прыгатавання ўсё яшчэ святочнага сняданку тата нават узгадвае алгарытм начнога вылічэння ў сістэмее каардынатаў самога свята. У прынцыпе, гэта дастаткова проста: “...the most important and oldest festival

of the Christian Church, celebrating the resurrection of Jesus Christ and held (in the Western Church) between March 21 and April 25, on the first Sunday after the first full moon following the northern spring equinox...”

Карацей, чакаем першую нядзелю пасля першай поўні, якая наступае за днём вясенняга раўнадзенства.

***II***

...Мы зачаравана паглядаем на тую самую поўню. Гарыць агонь, госці, што прыйшлі да нас – мама, тата і дарослы сын, – вярталіся з ракі і прынеслі свежай рыбы. Тата і сын – заядлыя рыбакі, а мама пад іхнім кантролем выдатна гатуе юшку. Тут жа, на вогнішчы, юшка зараз і падыходзіць. Патрэскваюць дровы ў агні, мы насалоджваемся водарамі – і ад вогнішча, і ад рондаля, і ўвогуле ад сярэдзіны вясны. Поўня стараецца зачараваць па максімуму, агонь грэе і таксама зачароўвае. “У радасці ўсе мы язычнікі, і толькі ў бядзе – хрысціяне...” – ад перапаўняючых душу эмоцый узгадваюцца такія пранікнёныя радкі беларуса Украінкі.

Раптам недзе за суседскімі платамі, нібыта насуперак нашым ідылічным язычніцкім адчуванням, узрывае цішыню звар’яцелы індустрыяльны роў аўтамабільнага рухавіка. Быццам бы рухавік гэты вырашыў не пагадзіцца з высокай паэзіяй магілёўскага паэта, цудоўнымі водарамі юшкі і вясновымі пачуццямі.

Праз хвілінаў пятнаццаць-дваццаць становіцца зразумела – вялікая машына сур’ёзна загразла ў вясновай слаце. Я нават узлажу на стары пень і зазіраю паверх платоў. Каля нашай старажытнай цаглянай вежы – былой панскай маслабойкі, а цяпер царквы пяцідзясятнікаў – мне бачыцца верх доўгага і высокага рэфрыжэратара, які самотна ўздрыгвае, спрабуючы вырвацца са слотнага палону, але не прасоўваецца наперад нават і на паўметра. “Здаецца, сусед Сярога заграз на сваёй фуры... Цэнтр мястэчка, зразумела, цалкам заасфальтаваны. А вось, крыху ніжэй, у бок Друці, як раз паміж маслабойкай і Сярогавым домам – увесну і ўвосень – сапраўднае балота...”

Юшку мы ядзім пад акампанемент завыванняў рухавіка суседавай карміліцы. Нічога, прызвычаіліся, толькі што размаўляем крыху гучней. Сярога не здаецца гадзіны з паўтары, калі не болей. Мы неаднаразова ўжо парываліся пайсці дапамагчы. Але фура – не легкавушка, там не тое што пяць чалавек, а дваццаць пяць нічым не дапамогуць.

Ужо збіраем посуд, калі раптам рухавік замаўкае. У неверагоднай цішыні, што нечакана стомленна звальваецца на нас, зноў выглядвае поўня. Першая поўня пасля дня вясенняга раўнадзенства...

***III***

У першую нядзелю пасля першай поўні апынаюся ў Польшчы. Польшча апынаецца ў глыбокай атмасферы праваслаўнай Пасхі, нягледзячы на сваю глабальную каталіцкую арыентаванасць. Гасцінныя гаспадары кватэры ў Беластоку, дзе я спыніўся, з вечара, перад самым святам, з’язджаюць на вёску, каб у стане невытлумачальнай радасці далучыцца да сваякоў, якія жывуць на памежжы з Беларуссю, – у пэўнай меры прадстаўляючы этнічную спецыфіку так званых “крэсаў усходніх”.

Ключавую місію ў развіцці далейшых падзей бярэ на сябе менавіта

ключ. Гэты звычайны ключ ад кватэры трэба пакінуць у офісе мясцовай радыёстанцыі. Там працуюць тыя самыя мае сябры, гасцінныя гаспадары, а радыёстанцыя працуе круглыя суткі. Вельмі зручна, калі трэба штосьці перадаць у любы час любога дня – пад'ехаў, націснуў кнопку дамафона і пакінуў ахоўніку ўсё, што патрэбна.

Ключавой фігурай на пэўным этапе далейшых прыгодаў становіцца асоба, якая да ключа, якраз, ніякага дачынення не мае – сталага ўзросту таксіст, які згодна з папярэдняй замовай, ранкам падвозіць з кватэры да радыёстанцыі, каб далей завезці да вакзала.

І вось, – у выдатным настроі і бадзёры ад ранішняй свежасці – палец правай рукі бярэ на сябе адказнасць у палове на шостую націснуць на “званочак” дамафона радыёстанцыі. У адказ цішыня. Палец больш уважліва абмацвае кнопачку і націскае яшчэ раз. Пасля дастаткова працяглага – і безвынiковага – шматразовага націскання ў справу ўмешваецца таксіст. Ён прапануе заехаць у двор будынка і ўпэўнівае, што там ёсць другія дзверы з дамафонам. У спробу наладзіць дыялог з насельнікамі радыёстанцыі ўключаюцца пальцы абедзвюх рук, якія цiснуць, гладзяць, варушаць кнопку званка, грукаю ў дзверы сцятымі ў кулакі, але ж з аднолькавым вынікам – цішыня ў адказ, – і нарэшце становяцца вільготнымі ад халоднага поту.

Таксіст з адлегласці дзясятка метраў просіць тэрмінова падысці да машыны. Ход яго думкі геніяльны – ён у сваім аўтапрымачы знайшоў хвалю радыёстанцыі, што нараджаецца якраз за дзвярыма, у якія мы ляпаем. І становіцца ўсё зразумела – на гэтай хвалі ідзе прамая трансляцыя з царквы, з “усёночнай”. Адпаведна, уся рэдакцыя там і знаходзіцца.

Даводзіцца ў такую рань тэлефанаваць знаёмаму гукарэжысёру (таксама супрацоўніку гэтай радыёстанцыі), тлумачыць сітуацыю і пытацца ў яго, што рабіць? Рэжысёр без ваганняў дыктуе службовы код дамафона.

Чараўніцтва спалучэння лічбаў без цяжкасці анулюе непрыступнасць уваходу, адзначыўшы такім чынам супадзенне патаемных сэнсаў ключавой місіі з адметнымі знакамі ключавых асобаў. Унутры, на другім паверсе зноў замкнёныя дзверы, але там ёсць вельмі гучны званок. Заспаная маладая ахоўніца доўга не можа зразумець, адкуль у памяшканні ўзяўся чужы мужчына, ды яшчэ замежнік. Даводзіцца прасіць яе паверыць на слова, што такое бывае, і абяцаць усё распавесці дэталёва як-небудзь іншым разам. Ключ перададзены, апошні пункт вандроўкі – вакзал! Хутка буду дома!

Па развітанні з таксістам і пасля прабежкі да касаў вакзала прыходзіць разуменне, што прыгоды не тое што не скончыліся, а хутчэй толькі пачынаюцца. Нягледзячы на тое, што даведка напярэдадні выдала пэўную інфармацыю наконт раскладу транспартнага руху, у гэтую святочную раніцу рэальная сітуацыя моцна адрозніваецца ад атрыманых загадзя дадзеных. Ніякага транспарту да Гародні няма. Ніхто з супрацоўнікаў вакзала не бярэ на сябе адказнасць удакладніць не тое што час адпраўлення, а ўвогуле верагоднасць з'яўлення якога-небудзь аўтобуса з-за мяжы. У гэтым адлюстроўваецца ўся спецыфіка ўсходняй памежнай зоны. Іншымі словамі, мяжа з Беларуссю гэта – не жартачкі...

## *IV*

Нейкім цудоўным чынам выпадкова знаходзіцца маленькі прыгарадны аўтобус, які гадзіну трасецца і, падскокваючы, коціцца ў бок мяжы без намеру

яе перасякаць, ды ў дадатак імкнецца спыніцца каля кожнага слупа. Кіламетраў за дзесяць да памежнага пераходу і мытні кіроўца звяртае ўвагу сталага ўзросту вясковых кабет, што сядзяць недалёка ад яго на сваіх пасажырскіх месцах, на тое, што тут пачынаецца вялізная калона фур, якія стаяць у чарзе на пераход. Пакуль мы ледзь паўзём уздоўж гэтай чаргі, час нібыта замірае, а чарга падаецца бясконцай. Кіроўца нашага аўтобуса распавядае ці то сам сабе, ці то сваім пасажыркам, што людзі, якія прыехалі на гэтых вялікіх машынах з усіх куткоў Еўропы, па некалькі сутак, а то і тыднямі, жывуць у сваіх фурах, тут жа сілкуюцца, тут жа мыюцца, тут жа начуюць. Выхаваныя польскія кабеты шматзначна маўчаць – яны і так усё гэта выдатна ведаюць.

Нарэшце, аўтобус спыняецца проста насупраць памежнага пераходу. Цяпер выйсце адно – падыходзіць да легкавых машын з гарадзенскімі нумарамі і прасіць кіроўцаў, каб давезлі да абласнога цэнтра на тым баку. Так тут прынята – кожны дзень у такі спосаб пераязджаюць мяжу сотні людзей. Таму мясцовыя ўладальнікі аўто ставяцца да гэтага нармальна, атрымліваючы ад выпадковых пасажыраў свой законны даляр.

Мне трэба прайсці паміж дзвюма фурамі. Адна ўжо амаль тыцнулася носам у памежны шлагбаум – яе абыходжу ззаду. А другая рыхтуецца заехаць на мытню адразу за першай. Як толькі апынаюся паміж гіганцкімі машынамі, раптам гучыць моцны сігнал з другой фуры. Ад нечаканасці я паварочваюся і гляджу на нумар – ён расейскі. Клаксон працягвае сігналіць. Узнімаю галаву, падсвядома адзначаю, што кіроўца-расеец як дзве кроплі вады, падобны на майго суседа Сярогу, таго самага, што напярэдадні свята зграз у слаце недалёка ад майго дома. Адварочваючыся і робячы крок наперад, бакавым зрокам заўважаю, што брат-блізнюк Сярогі па вар'яцку махае рукамі. "Што яму не падабаецца?" – думаю па інерцыі, а другая думка ўжо павольна наплывае на папярэднюю: "Гэта і ёсць Сярога..."

Наабдымаўшыся і накрычаўшыся паміж аглушальнага памежнага тлуму, са слязьмі на вачах, мы ўладкоўваемся ў Сярогавай кабіне. Ён не можа стрымаць эмоцый і набірае нумар нашага агульнага знаёмага, свайго аднакласніка, і крычыць у слухаўку: "Руслан! Ты ведаеш, каго я сустрэў на мытні?! Міхалыча! Гэта неверагодна! Адстаяў дзесяць кіламетраў чаргі, гляджу – ідзець перад самай мытняй!.."

Пакуль мы заязджаем на тэрыторыю дагляду і афармлення дакументаў, Сярога распавядае, што па кантракце зараз працуе на расейскую фірму, што гэты рэйс у яго з Берліна на Маскву. Але ж вось ён вельмі спяшаўся патрапіць на мытню менавіта зраніцы, каб пастарацца хутка прайсці дагляд і да вечара праехаць яшчэ амаль шэсцьсот кіламетраў – паспець павіншаваць сваю сям'ю менавіта ў дзень свята, пераначаваць, а потым рушыць далей. Я ў захапленні ад яго аповедаў, яны мне зараз падаюцца нейкімі цудоўнымі казкамі – напэўна, у святле казачнасці нашай сустрэчы. Яшчэ паўгадзіны таму мной валодала туга ад недакладнасці папярэдніх падзей і непрадказальнасці шляху, што наперадзе. А цяпер я – у радаснай упэўненасці цвёрда ведаю, як, на чым і з кім я патраплю дадому.

Нам шанцуе – мы праходзім дагляд гадзіны за дзве, замест магчымых трох-чатырох, а то і пяці-шасці. І вось ужо, шчаслівыя, нясемся па родных абшарах, спыняемся перакусіць у прыдарожнай кавярні, рушым далей і насалоджваемся магчымасцямі зямляцкіх стасункаў, распавядаючы пра ўсё, што заўгодна і ўспамінаючы самыя розныя падзеі: школьныя пры-

годы з удзелам і настаўнікаў, і вучняў; армейскія будні – Сярога служыў у пажарным падраздзяленні аўтамабільных войскаў, а я на аэрадроме ва ўзводзе сувязі; розныя цікавыя выпадкі на паляваннях ды рыбалках у роднай мясцовасці; дарэчы, успамінаем, як Сярогава фура на мінулым тыдні загразла ў слаце перад уласным домам і вырваць яе зранку здолеў толькі магутны бульдозер. Карацей – нас "панесла", і мы не можам нагаварыцца. Так бывае с людзьмі, якія вяртаюцца на Радзіму.

***V***

На прыстойнай хуткасці мінулі мяжу з Мінскай вобласцю – Сярога спяшаецца аб'ехаць Мінск па кальцавой, пакуль не сцямнела. Пад'язжаем да Ракава, і раптам мой сябра кажа: "Тут згарэла мая фура, на якой я аднойчы ехаў з Германіі..." Я гляджу на яго, не разумеючы – "згарэла" ў прамым ці ў пераносным сэнсе? І Сярога распавядае чарговую неверагодную гісторыю са свайго жыцця.

Ён працаваў у адным з буйнейшых сталічных транспартных прадпрыемстваў, якое займалася міжнароднымі перавозкамі. У пэўны момант вырашыў звольніцца – не надта ішлі справы, здараліся затрымкі зарплаты ды ўмяшаліся розныя іншыя акалічнасці. Шэф паставіўся з паразуменнем да сітуацыі, а ў дадатак яшчэ і нібыта жартам спытаўся, маўляў, калі раптам будзе "аўрал" – выручыш на рэйс-другі? Сярога, адкрытая душа, упэўніў – заўсёды і з радасцю! Шэф загадаў тэрмінова разлічыць, хутка, без затрымак аддалі дакументы. Па шчырасці, Сярога і не чакаў, што ўсё атрымаецца так ладна.

Часу прайшло няшмат, і напярэдадні Дня аўтамабіліста шэф патэлефанаваў. Патлумачыў, што "гарыць" рэйс на Германію. Там чакаюць – загрузяць без затрымак і адразу назад, на мяжы ўсё прыхвачана, аплата па найвышэйшым тарыфе. Сярога не мог адмовіцца ад такой прапановы.

Рэйс сапраўды атрымаўся арганізаваны – машыну вельмі хутка загрузілі дзіцячымі артапедычнымі матрацамі, на мяжы чакалі, дарога была добрая, транспартны рух нармальны. Вяртаўся Сярога і так у добрым настроі, а тут яшчэ дзяўчаты-дыспетчаркі пачалі тэлефанаваць, ды некалькі разоў запар, з прафесійным святам павіншавалі, пажартавалі, уважліва паставіліся – маўляў, дзе знаходзішся, ці ўсё добра? Не рэйс, а нейкае замілаванне, інакш не скажаш. Праз кароткі час пасля дзяўчат і шэф пазваніў, таксама павіншаваў, спытаўся, дзе зараз машына праязджае. Сярога выдаў шэфу каардынаты, павіншаваў у адказ, сказаў, што хутка будзе.

Літаральна праз пяць хвілін недзе ў раёне рухавіка пачуўся пляскач і рухавік успыхнуў полымем ды моцна задыміў. Сярога ўдарыў па тармазах. Спрактыкаванымі рухамі, якія былі адпрацаваныя яшчэ ў войску, і ў адпаведнасці з тэхнікай бяспекі Сярога выхапіў дакументы, куртку з тэлефонам ды партманэ і выскачыў з салона. Агонь вельмі хутка ахапіў кабіну, а праз секунды перакінуўся на брызент прычэпа. Там таксама нешта бухнула пару разоў і цягам хвіліны ўсю фуру ўжо лізалі вялізныя языкі гарачага полымя. Высушаныя матрасы з какосавай стружкі аказаліся ідэальным палівам – машына згарэла лічы што імгненна. Тут Сярога, па ходзе свайго аповеда пра гэты "пажарны" выпадак, весела пракаментаваў: маўляў, нічога страшнага, "не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло" – шэф атрымаў страхоўку і ў хуткім часе набыў новенькую фуру.

Але ж на момант здарэння ўсё адбывалася, як у дурным сне. На адлегласці спыняліся машыны, якія ехалі па трасе. Пажарныя прыехалі хутка, аднак тушылі толькі ўжо рэшткі машыны. Міліцыя, хуткая – усе прысутнічалі, як належыць. Я спачатку не звярнуў увагу, што Сярога ў сваім аповедзе ў пераліку прыехаўшых указаў: па-першае – свайго шэфа, а па-другое... прадстаўніка страхавой кампаніі, які тут жа зафіксаваў і падлічыў страты.

Я пытаюся, маўляў, ці не думаў Сярога пра занадта дзіўны збег абставінаў: зволенага кіроўцу вяртаюць на адзін рэйс (афіцыйна ён ужо не працуе ў арганізацыі, за яго ніхто адказнасці не нясе); калісьці кіроўца праходзіў службу ў пажарным падраздзяленні – чалавек падрыхтаваны да экстрэмальнага здарэння; груз застрахаваны на выпадак пажару; машына тым больш не можа пайсці ў рэйс без страхоўкі; дзяўчаты-дыспетчаркі праверылі, дзе прыкладна знаходзіўся кіроўца; Ракаў – на адлегласці кіламетраў пяцідзесяці ад Мінска – не блізка, але ж і не так далёка; з дапамогай мабільнага тэлефона ці падобнай прылады можна на адлегласці зрабіць замыканне, якое ў пэўных выпадках становіцца прычынай пажару; шэф з'явіўся адразу ж па здарэнні; разам з ім адначасова з'явіўся агент страхавой кампаніі?

Сярога гучна смяецца: "Што ты! Гэта выключаецца! Мы з шэфам у добрых адносінах! Ён ведаеш, як за нас, за кіроўцаў? Гарой!.."

***VI***

Застаецца апошні кавалак, апошнія сто пяцьдзясят кіламетраў па магілёўскай трасе. Сярога выглядае жудасна – нібыта пачарнелы, не проста стомлены, а хутчэй змучаны. Я стараюся бесперапынна гаварыць – успамінаю нейкія байкі, распавядаю немаведама што. Але ж у самога пачынаюць заплюшчвацца вочы. Сярога, нягледзячы на свой стан, хуткасць не змяншае – нясецца як шалёны. Траса ў гэты час на рамонце – бесперапынна даводзіцца выязджаць на сустрэчную – так нам загадваюць стракатыя яркія стужкі, якія агароджваюць участкі рамонта. Дух захоплівае, як Сярога размінаецца з іншымі машынамі – пралятае "ў прыцірку", але газ не скідвае. Удвая цяжэй рухацца ў цемры, якая нас ужо цалкам накрыла – слепяць фары сустрэчных машын, уласныя фары ўвесь час вырываюць з цямрэчы нейкія дарожныя сюрпрызы – то знак аб'езда, то тэхніку на абочыне. Я ўражаны, як мой сябра спяшаецца да сваіх родных – да сына, да жонкі. Увесь час ён мне крычыць: "Паспеем! Не можам не паспець!"

У пэўны момант мы разумеем, што цёплая кабіна нам на карысць не ідзе –адчыняем абодва вакны па баках. Да гэтага і так даводзілася крычаць, а тут мы пачынаем гарлапаніць дзікімі галасамі. У вокны ўрываюцца знешні грукат і рыканне ўласнага рухавіка. Сустрэчныя машыны з завываннем праносяцца міма. У кабіну залятаюць пырскі і ад машын, і ад дажджу. Але іх усё роўна не хапае, каб вярнуць нам патрэбную энергію. Мы пачынаем ва ўсю глотку співаць песні – збіраем усё, што можам успомніць. З боку, напэўна, гэта выглядае жахліва – нібыта два берсеркі ўваходзяць у належны для іх стан – мы проста не адчуваем ні холаду, ні вільгаці. Мы крычым і ва ўсё горла співаем, нібыта перапілі спіртнога. Той, хто выпадкова мог апынуцца на абочыне ў той момант, пэўна спалохаўся б ад прывіду ў выглядзе вялізнай фуры з адчыненымі вокнамі, уключаным у кабіне святлом – адкуль далятаюць вар'яцкія крыкі і песні, нібыта нейкая вакханалія, дзікае вяселле праляцела і знікла ў цямрэчы.

Сярога распранаецца да пояса. Справа і крыху ззаду ад яго знаходзіцца ўпакоўка з дзясяткам двухлітровых бутэлек з мінеральнай вадой. Ён пачынае даставаць іх, спрытным рухам, не кідаючы стырно, адкаркоўвае адну за адной і лье ваду сабе на галаву. У кабіне свішча вецер, вада залівае сядзенне кіроўцы, падлогу, мы гарланім песні і рагочам, як вар’яты. Мы стараемся рэзка рухацца, пляскаем сябе па каленях, па плячах, па шчоках – толькі б не заснуць!

Апошнія кіламетры – самыя цяжкія, самыя бясконцыя, самыя нясцерпныя. Кожны дарожны знак, які інфармуе пра набліжэнне канцавой часткі вандроўкі – пазначэнне раёна, надпіс з назвай мястэчка, указальнік кірунку руху – мы сустракаем крыкамі, якія паказваюць вар’яцкія прылівы нашай неўтаймаванай радасці.

Асэнсаванне, што ўсё скончылася, прыходзіць, калі Сярога спыняецца на скрыжаванні, што недалёка ад майго дома. Мы яшчэ па інерцыі працягваем крычаць і рагатаць: “Прыехалі! Выбачай! Пад вокны ўжо не буду падвозіць цябе!” “Шчасліва! Убачымся яшчэ!” “Заходзь, калі што!” “У якой краіне сустракаемся наступным разам?”

Я выкочваюся з кабіны і апынаюся на цэнтральнай вуліцы мястэчка. Сярогава фура рыкае на развітанне і знікае за паваротам. Ліхтары асвятляюць самотныя тратуары – на вуліцы ніводнага чалавека. Цішыня нечакана накрывае і агаломшвае – яна ніяк не стасуецца, ніяк не вяжацца з тым, што толькі што адбывалася – з тым вар’яцтвам, у якім мы знаходзіліся дваццаць, трыццаць хвілінаў таму. Ды ўвогуле не верыцца, што ўвесь гэты дзень, які нейкім чынам расцягнуўся на краіны і гарады, на мінулае і будучыню, нарэшце падыходзіць да свайго фіналу. Застаецца толькі рушыць у бок дому – пагойдваючыся, крыху няўпэўнена, нібыта сапраўды пасля моцнай п’янкі.

Праз некалькі хвілінаў ужо грымлю ключамі каля сваіх дзвярэй.

***VII***

Грукацяць маленькія ножкі па падлозе. Радасныя крыкі: “Тата прачнуўся! Тата прачнуўся!” Тата сядзіць на канапе і матляе галавой, нібыта скідваючы рэшткі сну – сну, які няхай нікому і ніколі не прысніцца. Нешта такое – пра ахвярапрынашэнні, пра старажытны Егіпет і пра дзверы, вымазаныя кроўю ягняці, пра “Песах”, што азначае “прахаджэнне міма” – гэта, нібыта, прахаджэнне міма тых самых дзвярэй. Пра страшных істотаў, якія адны дзверы абмінаюць, а ў другія заходзяць. Пра Усяленскі сабор і пра тое, як Песах стаў у рускіх Пасхай, у французаў *Pâques*, у галандцаў *Pasen*, у датчан і нарвежцаў *Påske,* у шведаў *Påsk*, у італьянцаў і карсіканцаў *Pasqua*, у партугальцаў *Páscoa*, у іспанцаў *Pascua*, у каталонцаў *Pasqua*, у жыхароў Уэльса *Pasg*, а ірландцы і тут зарыгінальнічалі – у іх царкоўнае свята пачало называцца *Cásca*. У ангельцаў замацавалася назва *Easter*, а ў немцаў *Ostern* – нібыта адсылаючы кудысьці на ўсход тых, хто вельмі зацікавіўся.

А ўсход між тым ужо даўно адбыўся, і сонца паднялося дастаткова высока. Добра адпачывалася, доўга спалася. Пасля Вялікай ночы і Вялікага дня, якія так цікава гучаць на розных мовах...

Зрэшты, пра гэта ўжо аднойчы нехта пісаў. Нават зафіксаваўшы гісторыю пэўных зыходаў. І галоўнае – занатаваўшы пэўную гісторыю жыцця.

Пятро Жаўняровіч



...Поўніцца канцэптамі тугі
Позні дыскурс восеньскай прыроды...

# Перадзімоўе

## *МАЯ МАРА*

У лёгенькай сукенцы напрасткі
Бяжыць у пырсках лужын мая мара.
Ад радасці вятрыска шапаткі
Рассоўвае над ёй імкліва хмары.
У сонечнай вясёлцы зіхацяць
Праніклівыя ў спадзяванні вочы.
Здаецца, могуць навылёт праняць,
Калі са сцежкі перад ёй не збочыш.
Не трэба аксаміту ёй на баль,
Каб вартай быць буйных аўтарытэтаў, –
Ёй даспадобы просценькі паркаль,
І мірны дзень для дасягнення мэты.
Яна зусім не пнецца напаказ
Павыстаўляць усе свае аздобы.
Найлепшая з усіх зямных акрас –
Спагадлівая ўвага да асобы.

Не будзе лезці напралом яна,
Не будзе ўпарта аббіваць парогі,
А лепш прысядзе ў хаце ля акна
Падрахаваць свае шляхі-дарогі.
Не стане слоў абразлівых казаць
У з'едлівым запале слоўнай бітвы,
А ўкленчыць ціхенька ля абраза,
Прашэпча за любоў да ўсіх малітву.
Не хоча быць якім-небудзь чальцом,
Каб потым сорамна было за ўчынак.
І ўрэшце расквітнее казяльцом
На месцы майго вечнага спачыну.

## *НЯЎЖО?*

*Наследаванне позняму Пімену Панчанку*

Белы кілім спавівае абшар без прагалаў,
Лапы ялін апускаюцца долу на снег...
Цішу ж зямлі разразае бязладдзе кагалаў,
Воклічы, выгукі, крыкі, пранізлівы смех.
Вёска дрыжыць не ад сцюжы, нясцерпнай і рэзкай,
І не ад боязі дзікіх пушчанскіх звяроў,
А скаланаецца ў жаху ад гуду і трэску
Рэдкіх наведнікаў – новых сваіх жыхароў.
Дзедавы хаты зрабіліся месцам забавы
Для – у другім пакаленні – такіх гараджан:
«Продкі» лядоўню наб'юць, каб ім смачна «пахаваць»,
Потым смартфон – і з'ядаюць вачыма экран.
Добра яшчэ, што бацькі не адвыклі ад вёскі:
Праца іх рук заўважаецца сёння і тут.
Ну, а дзяцей не цікавяць ні грады, ні лёскі,
Толькі навушнікі, гаджэты, шмоцце, тату.
Вёска звыкае да новых музычных павеваў,
Слухае рэп і прыгнаную модай папсу.
Памяць жа хат захавала купальскія спевы
І калядоўшчыкаў жарты, і хораў красу.
Божа магутны, няўжо надыходзяць часіны
Страты ментальнасці роду, і з бліскам «мабіл»
Пройдуць унукі без жалю, пад смешкі і кпіны,
Ля не дагледжаных імі бацькоўскіх магіл?

## *ЛЁС*

Лёс – гэта компас, азімут веры,
Лёс – і кірунак Боскіх намераў,

Лёс – спадарожнік бітай дарогі,
Лёс – гэта ўдары без засцярогі,
Лёс – і цянёты дробязных сварак,
Лёс – прыцягненне ў шлюбныя пары,
Лёс – крывадушнасць з'едлівых плётак,
Лёс – гэта звівы жарсных залётаў,
Лёс – узгадоўваць радасных дзетак,
Лёс – ураджайны родны палетак,
Лёс – і ратунак падчас галечы,
Лёс – бяда-гора на твае плечы.
Лёс таямнічы, зорны, зайздросны,
Лёс драматычны, жорсткі, нязносны.
Лёс спачувае, песціць і лечыць,
Лёс адымае, горбіць, калечыць
Аж пакуль Морта, трэцяя парка,
Нітку разрэжа ў прадзіве шпарка.
...Жыцце зямное – лёсу законы
Ад нараджэння і аж да скону.

### *ЛАЙКІ*

Стаю на галаве... на барабане!
Я ўпарта крочу босым па паркане!
Я за стырном у нецвярозым стане
І не баюся, што мяне забаняць!
Мой кот-мурлыка ў сальта на батуце!
А мой сабачка слёзы лье ў пакуце.
А мой прусак імчыцца па маршруце!
Ну й гадаванцы – плюс у абсалюце!
Мы ўтрох ляцім імгненна з самаката!
Мы танчым у трусах, ды з аўтаматам!
Наш хор з барменаў – перуна раскаты!
«Якія малайцы!» – бы чуем мы віваты.
І за гадзіну – аж пяць тысяч лайкаў,
Ці праўда там, ці фэйк, ці проста байка.
Ці знаўца ты, ці двоечнік-нязнайка –
Купайся суткі ў зоркавасці райскай!

### *БАЛАДА ЦІШЫНІ*

Цішыня ад стварэння ўжо мела адметны характар,
То таемна знікала ад ранку да цёмных часін,
То ў мастацкім музеі бязгучна плыла ля карцін,
То ў тэатры самотна сядзела ў фае да антракту.
Памяркоўны свой нораў не пнулася выставіць вонкі,
І гаротна хавала слязу ля жалобы здаля,
Нібы котка, ступала, як бачыла ў сне немаўля,
З разуменнем сыходзіла, чуючы смех надта звонкі.

«Не хачу наракаць», – паўтарала раз-пораз ціхутка,
Калі гром уначы шматаваў у палоне зарніц,
Ці марозныя гукі пужалі з платоў і разных аканіц,
Або пушча змушала злякнуцца ў жахлівасці хутка.
Найстрашнейшым было пазбягаць рукатворнага груку,
Калі рваліся бомбы і чуцен быў голас сірэн.
І сціскалася сэрца пры выглядзе жудасных сцэн,
Калі енкі параненых горка ляцелі па бруку.
На працягу быцця цішыня спадзявалася ўпарта,
Што насельнікі свету здабудуць разумны адказ
На сляпы недавер, на згрызоты народаў і рас,
Усвядомяць, нарэшце, чаго перш за ўсё яны варты.
Але марны спадзеў... Па-ранейшаму сваркі і звадкі,
Скаланаецца цвердзь і аброшаны травы ад слёз,
І паўсюль адны скаргі на жорсткі, бязлітасны лёс,
І не ўбачыш канца ўсталяванаму кімсьці парадку.
І тады цішыня схамянулася ў гордым трымценні
Ды пакінула людства, забраўшы з сабою спакой
І надзею палёгкі бязрадаснай долі людской...
А сама мільгане на зямлі ледзь заўважаным ценем.

## *БАЛАДА ЧОРНАЙ ТУГІ*

Вечаровая пустэльня гулкіх вуліц...
Нетаропкі крок на мроіўнай мяжы...
Раптам чорная туга душу атуліць,
Сціснe так, што немагчыма жыць.
І, здаецца, страціш пункт сваёй апоры
І ляціш у прорву зменлівых падзей,
Дзе пануюць беды, страх, пакуты, гора,
Дзе ў адно зліліся твары ўсіх людзей.
Ненажэрная пачвара прагнай пашчай
Шкуматае повязь між змарнелых душ,
Паасобку неадчэпна песціць-лашчыць,
Каб увесці ў стан, падобны да клікуш.
Потым, высмактаўшы душы даастатку,
Зноўку кідае назад іх, у юдоль,
Вы, маўляў, да віртуальнага парадку
Мной прывучаны: вас не кранае боль.
Кроў і здзекі, звадкі, плоцевыя жарсці
Прорвай выплюхнуты ў адзічэлы свет
Разам з душамі, без разумення шчасця,
Без імкнення іх – пакінуць добры след.
...Вечаровая пустэльня вуліц гулкіх
І нябачных зданяў злая валтузня.
У самоце, у тузе і без прытулку –
Чорных душ паўсюль бязладная гайня.

## КАХАННЕ-2018

Я чакаю цябе не ў цяністым бары,
Не на лузе квяцістым, не ў нашым двары,
Не ля зыркіх вітрын і ажыўленых крам –
Я чакаю цябе ў Instagram.
Я пішу да цябе, дасылаю свой ліст,
Як прасунуты юзер, як сам «прышпіліст»,
Без чыіхсьці падказак, без лішніх прынук –
Я пішу да цябе на Facebook.
Я сачу, калі з'явіцца новы твой пост
І тады без ваганняў, імгненна, наўпрост,
Не шукаючы слоў, не выводзячы літар,
Стаўлю лайк свой у Twitter.
Паўстаюць перад мною дзясяткі дылем,
Вырашаць мне даводзіцца сотні праблем,
Бо цябе не знайсці між прагледжаных груп,
Я заходжу тады на YouTube.
Кантактую з табой штогадзіны, штодня.
З мяне дзівіцца ўся без вынятку радня,
Ды я веру, што наш віртуальны прасцяг
Будзе мець і рэальны працяг.
І такі ўсюдыісны цяпер інтэрнэт
Дапаможа стварыць заручальны кантэнт.
УКантакце ці Viber або Telegram
Звяжуць ніткі агульных праграм.
У жыцці ціхамірным між райскіх палян
Пацалую цябе, абаўю я твой стан,
Буду слухаць твой голас, піць тайну вачэй
Пры святле і ў цямноцці начэй.

## ТВАЯ ЛАГОДА

Як сонечны промень між цемрадзі хмар,
Спадзеў на здзяйсненне вялікасных мар –
Твая лагода.
Як клопатны дотык уважлівых рук,
Замовы ціхуткай загойлівы гук –
Твая лагода.
Як компас надзейны сярод мітусні,
Святы абярэг ад згрызот і хлусні –
Твая лагода.
Як ласка цяпельца ў сцюдзёнай глушы,
Крыніца натхнення замлелай душы –
Твая лагода.
Як роднай краіны бязмежны прасцяг,
Узняты ў нябёсы прываблівы сцяг –
Твая лагода.

Як жарсных абдымкаў шчымлівы запал,
Дзяваты ў пачуццях спакуслівы вал –
Твая лагода.
Як боскай любові жывое крыло,
Самой Вастрабрамскай Матулі святло –
Твая лагода.
Як сцень засцярогі ад вечных пакут,
Надзея на праўду, сумленне, свой кут –
Твая лагода.
Год ад году?
Назаўсёды?
Згода!

### ПЫТАННІ ВЕСНЯМУ СОНЦУ

Весняе сонца, чаму не спяшаешся ты
Вэлюмам з кветак ахутаць сады і даліны?
Так надакучыла ім пад усхліпы слаты
Слухаць аскепкаў зімы патаемныя кпіны.
Весняе сонца, каго ж улагоджваеш ты
Цёплымі ўсмешкамі пад зіхаценне вясёлкі?
Сэрцы не ў стане адолець той лёд нематы,
Тоўшча якога не крышыцца праменем колкім.
Весняе сонца, куды заблукала ўжо ты,
Цешачы ўласныя мары пра бераг шчаслівы?
Край васільковы калее ў ціcках мерзлаты,
Сніць ён буслоў клекатанне і летнія злівы.
Весняе сонца, чаму, і каго, і куды
Зводзіш у нетры зямлі пад свае перагуды?
Дай разняволенне ўсім ад зімовай нуды,
Руш у атаку на замкі яе і спаруды.

* * *

Плачуць у скрусе прывабныя ружы
Кроплямі чыстай сцюдзёнай расы,
Быццам адчулі, што хутка закружыць
Віхар з пялёсткаў чароўнай красы.
Жнівеньскі ранак ахутаў туманам
Іх лакаваныя сонцам лісты,
Пруткія сцёблы ў адзенні падманным
Просяць ратунку праз белі пласты.
Дзідам-калючкам наўрад ці адолець
Восені подых. Няроўны двубой.
Як жа змагчы спаконвечную долю?
Як жа змірыцца з нясцерпнай журбой?

Пасмы сівыя, нячулыя дужа,
Прагнуць спыніць у маўчанні часы.
Плачуць у скрусе прывабныя ружы
Кроплямі чыстай сцюдзёнай расы.

## ПЕРАДЗІМОЎЕ

Скінуўшы апошні ліст руды,
Дуб самотны стыне на марозе.
Шэранню кранутыя груды
Нібы стыль аўталагічнай прозы.
Нудная нямая далячынь
Пасівела ад густых аблокаў.
Скрыпне дзесь паўмёртвую латынь
Журавель у вёсцы за пратокай.
Быццам сімулякры, з камінoў
Візэрункі дымныя ўзлятаюць.
Лапікі нязвезеных ільноў
Пашматала скрозь трава густая.
Поўніцца канцэптамі тугі
Позні дыскурс восеньскай прыроды.
Выстылыя, у паўсне, лугі
Бачаць гурбы як узнагароды.
Заўтра, мабыць, вояў спакваля
Пашыхтуе белая ўладарка.
Зменіць хутка свой кантэнт зямля –
Перадасць зіме ўсю гаспадарку.

Міхась Зізюк



...смерць і радзіны
не выбіраюць гадзіны...

# За Крывою Грываю

***Апавяданне***

Цёплая, ледзь улоўная смуга калыхалася паміж соснаў. Ласкавыя сонечныя промні нябачным веерам рассеяліся па зялёным імшаніку, па жоўтым пясочку на пагорку, ціхі вятрыска, гуляючы, злёгку пагойдваў вершаліны дрэваў. Пахла нагрэтаю за дзень ігліцаю, грыбамі, мляваю ліпеньскаю спякотаю, водарам спелых суніц – усім тым, чым можа вабіць родны лес-кармілец. Такая мілота цяпер у лесе, так хораша: цішыня, заедзі і блізка не відаць, прыемны водар сасонніку... Каб яшчэ не гэтая каза!..

Стары агледзеўся. Перад ім чарнела нара, ці то лісіная, ці то барсучыная. Трэба перайсці гэты пясчаны пагорачак, можа там, на пяску, будуць якія сляды. Ужо больш за гадзіну топчацца па лесе, а толку няма. Шкада жывёліны, калі згіне. Прывык да яе.

Ён паспеў зрабіць некалькі крокаў, нага правалілася, ён не ўтрымаў раўнавагу і ўпаў. Боль засланіў сабою сонечны свет.

Сямёнавіч варухнуўся, паспрабаваў устаць, памагаючы сабе рукой. І ў той жа момант боль зноў працяў правую нагу. Ён адкінуўся на спіну, заплюшчыў вочы, аддыхаўся. З нагою нешта сур'ёзнае, мабыць, пералом. Ён, здаецца, нават чуў, як пры падзенні нешта хрупнула. А гэта дрэнна. Вельмі дрэнна. І як ён не заўважыў тую праклятую яміну, як мог аступіцца, як мог так няўдала ўпасці на невялікай пясчанай выспачцы?

Сямёнавіч сціснуў зубы і, трываючы боль, сеў. Асцярожна задраў калашыну. Нага да калена пачала распухаць, балюча нават дакрануцца. Зразумела адно: ісці ён не зможа. Да вёскі каля чатырох кіламетраў – тры па лесе і з кіламетр па пыльнай дарозе, гэта няшмат, але як іх пераадолець? Усё праз Маньку. І куды яе чорт панёс? Цяпер, во, рабі, што хочаш: і казу не знайшоў, і сам у бяду трапіў. Хто б мог падумаць? Сціснула штосьці ў грудзіне, сэрца адразу ж хуценька затахкала. І ўзгадалася нябожчыца-жонка, вочы самі па сабе набрынялі слязьмі. Апошнім часам, пасля таго, як яе пахаваў, так яно заўсёды: ледзьве што якое – на слязу прабівае. Што гэта: ці ўзрост, ці ён такі слабы зрабіўся? Як-ніяк семдзясят чатыры набегла. І здароўе не тое, што раней. Сапраўды, з гадамі ўсё адчуваеш па-іншаму. Нездарма кажуць у народзе: раней і цукар быў саладзейшы, і баба маладзейшая.

Сямёнавіч ужо другі год жыў адзін. Валя, жоначка яго любая, з ёю пражылі разам роўна сорак пяць гадочкаў, памерла ад анкалогіі. Напакуталася, гаротніца. І што дзеці ні рабілі, як сам ні стараўся, усё марна. У дактароў адзін адказ – позна звярнуліся. Хто яго ведае, мо і так. А ён не мог паверыць ніяк. І цяпер не верыцца, што яе няма. Пойдзе кудысьці на якую хвіліну, а ўсё здаецца, што яна ў хаце чакае. Толькі, на жаль, назад нічога не вернеш. Не тое каб ужо ўсё ў іх было гладзенька ды роўненька, усяго хапала, але ж сорак пяць гадоў разам. І тут пераплялося, наслаілася столькі, што ніхто не адкажа, дзе каханне, а дзе павага і згода. А пазнаёміліся яны даволі проста. На той час ён паспеў адслужыць, скончыць філалагічны факультэт, сюды прыехаў настаўнічаць. У роднай вёсцы, што знаходзілася за трыццаць кіламетраў ад малавядомага яму Залесся, была толькі пачатковая школа, таму і напрасіўся сюды – хацеў, каб бліжэй да радзімы. У той дзень, калі малады настаўнік упершыню пераступіў парог школы, яна была ціхай сарамлівай дзесяцікласніцай. Што яму спадабалася ў ёй? Здаецца, звычайная, такая, як і ўсе. Ён праводзіў першы ўрок у дзясятым класе, сустрэўся з ёю позіркам, – і як токам ударыла: маё. Толькі ў іх нічога не было, сустракаліся позіркамі. Ён не дазваляў сабе анічога, хіба што пагаварыць з ёю калі на школьным калідоры ці пераглянуцца. Бо калі дазволіш што большае – такая пойдзе пагудка, што сам будзеш здзіўляцца. Вёска ёсць вёска, усё навідавоку. Хоць цягнула, вельмі цягнула. Тым больш, ён ведаў: Валя яго кахае. Пры сустрэчы з ім чырванела, апускала вочы. І толькі на выпускным вечары падышоў да яе. Тады ж адбыліся першыя салодкія пацалункі, першыя прызнанні. Валя паехала паступаць у педагагічны, ён абяцаў чакаць. За настаўніцкімі, а пасля і дырэктарскімі клопатамі – на трэцім годзе яго прызначылі дырэктарам – чатыры гады праляцелі хутка. Яны пабраліся, сталі абжывацца, хату пабудавалі, пайшлі

дзеці. Вось тады быў момант калі шлюб іхні захістаўся. Сямёнавіч трапіў у вобласць на курсы. Здалі нейкія іспыты, хтосьці прапанаваў схадзіць у рэстаран. Пашкрэблі па кішэнях і пайшлі. Калі добра падпілі, кінуліся ў скокі, ён трапіў у абдоймы вабнай яшчэ і незамужняй дырэктаркі з суседняга раёна. Кроў ударыла ў галаву, затлуміла, жарсць завалодала целам. З той дырэктаркай яны пайшлі раней за ўсіх, у гасцінічным пакоі аддаліся любошчам. Назаўтра яму сорамна было падняць вочы, здавалася, усе навокал ведаюць, за спіною пасміхваюцца: глядзіце, маўляў, гэта той самы, што ўчора качаўся ў ложку з каханкай. Хоць, насамрэч, ніхто і не ведаў нічога. Затое была сяброўка, з якою дырэктарка падзялілася сваім здабыткам на любоўным фронце. А настаўніцкі калектыў цесны, там шыла ў мяшку не схаваеш. Недзе тыдні праз два Валя прыйшла са школы заплаканая. Сэрца здрыганулася: ведае. Ён не памыліўся. Валя спачатку не хацела з ім гаварыць, пасля сказала, што ім трэба развесціся. Дзеці-падлеткі не маглі дапетрыць, што зрабілася з бацькамі. Ён жа пра развод нават і не думаў: каханне яшчэ жыло ў ім, ён не ўяўляў сабе іншай жанчыны. Прасіў прабачэння, тлумачыў нешта і неяк вымаліў дараванне. З часам усё ўляглося, прытапталася.

Тады ён многа думаў, перажываў, і з перажытага вынес: беражы тое, што маеш. Няма нічога даражэйшага на свеце за сям'ю, дзяцей, радню, блізкіх сяброў, за той куточак, у якім нарадзіўся, вырас і жывеш – усё тое, што завецца радзімаю. Калі выходзіш на вуліцу і тваё сэрца цешыць старая таполя, што серабрыста-шапатлівай кронай узнеслася высока ў неба, калі ты радуешся вераб'ям, што цвыркаюць пад страхою твайго хлеўчука, лёгенька, з нейкай замілаванасцю дубцом падганяеш дахаты сваю карову, усміхаешся новаму дню, які пырскае ў вочы яркім ранішнім сонцам, ганарышся поспехамі сваіх дзяцей – ці можа быць штосьці даражэй за гэта? Праўда, разуменне прыходзіць не адразу, а з пражытымі гадамі, калі пачынаеш некага і нешта губляць у жыцці, калі пачынаеш усведамляць яго хуткаплыннасць, немагчымасць змяніць тое, што ўжо зроблена.

Яны з Валяю жылі, настаўнічалі, выпускалі сваіх вучняў у самастойную дарогу, выгадавалі сына і дачку, далі ім адукацыю. І ўсё іхняе жыццё прайшло ў гэтай вёсцы. Потым вёска стала драбнець, памяншацца на вачах. Школу зрабілі васьмігодкай, а пасля яго выхаду на пенсію і ўвогуле зачынілі. Аптымізацыя. І слова якое падабралі – ці ж пахне тут аптымізмам?

Стары варухнуўся. Вось так і жыццё праляцела – як успаміны, што пранесліся і сышлі ў нябыт. Але цяпер адно вярэдзіла: як жа выбрацца з лесу? Пашкадаваў, што не паслухаў дзяцей, не займеў мабільны тэлефон. Яны не раз прапаноўвалі, а ён адмаўляўся: навошта, каму ён будзе тэлефанаваць? Ёсць хатні тэлефон, з сынам, дачкою ды ўнукамі заўсёды маеш сувязь. Вось так, цяпер хоць зубамі зямлю грызі. Бо ніхто яго тут і шукаць не будзе. У вёсцы жылых двароў мо з сорак набярэцца, у асноўным з такімі ж, як ён, перастаркамі. Ён нікому не сказаў, што пайшоў Маньку шукаць. Каза тая яму не надта патрэбная была, але Валя перад смерцю прасіла не збываць Маньку – любіла надта яе, патурала ёй ва ўсім. Дый яму сякі-такі клопат, весялей, бо з жыўнасці ў двары толькі стары кот ды куры. Маньку ён заўсёды навязваў на выгане, што пад Крывою Грываю. А сёння як прадчуваў, што нешта здарыцца, некалькі разоў успамінаў

пра казу. Не тое каб ужо яму прыстрэнчыла, але ж не стрываў, пайшоў раней часу. Прыйшоўшы, спыніўся агаломшаны: толькі кол ды абарваная вяроўка. Стаў прыглядацца. Здаецца, нехта спужаў жывёліну, бо відаць, як насілася, кругом стаптала траву. А след вёў у лес. І чаго яе панесла ў той лес на скрут галавы, чаму не ў вёску? Хто яе так упудзіў? Няйначай, бадзячыя сабакі, бачыў іх некалькі разоў каля вёскі, нават на яго гыркалі.

І зноў яму стала вусцішна, зноў вярнулася шкадаванне да жонкі, да яе заўчаснага сыходу. Можа, не рабіць нічога, застацца вось тут ды сканаць? Што яму тое жыццё без яе? Калі сапраўды ёсць той свет, то сустрэнуцца недзе там, зноў будуць разам. Не надта верыў Сямёнавіч ва ўсе гэтыя царкоўныя казанні і законы, але нешта падсказвала яму, што ёсць на свеце вышэйшая сіла. Ёсць тое, што стаіць над людзьмі, кіруе імі, габлюе іхнія лёсы, штурхае ў жыццёвае вогненнае пекла, змушае на розныя ўчынкі. Ці ж не заслужыў ён сваім, хай не бязгрэшным, але ж сумленным жыццём, сустрэчу *там* з Валянцінай? Надоечы сон сасніў. Быццам ён знаходзіцца на тым свеце, у пекле. Стаіць каля вялікай ямы з вогнішчам, адтуль патыхае страшэннай гарачынёю. Ён працуе там, падкідвае лапатаю вугаль у яму, кідае, кідае, бо спыніцца не можа. А з другога боку да той жудаснай яміны падыходзяць людзі, і роўненька, адзін за адным, звальваюцца ў яе. Ён разумее, што трэба спыніцца, нельга ж людзей жыўцом паліць. Ад гэтага ўсведамлення прыходзіць моц, якае надае яму адчуванне палёту. Ён адрываецца ад зямлі, некуды ляціць. Ляціць, як птушка, вольны і хуткі. Ён ляціць, а пад ім, на зямлі, могілкі: бясконцае мора крыжоў, помнікаў, надмагілляў. Нічога жывога, уся зямля – суцэльныя могілкі. Яму робіцца страшна, ён хоча вырвацца з апраметнай, крычыць і прачынаецца. Што азначаў той сон? Прарочыў страшную бяду для чалавецтва? Бо цяпер зноў кругом бясконцыя войны, зноў брат ідзе на брата. І канца гэтаму няма. Можа, сон пусты, як многія сны. Але цалкам мажліва і тое, што прыйшоў час яму пайсці за Валяю. Як кажуць, смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны. Адно дрэнна: калі знойдуць яго тут? Нядобра ляжаць непахаваным, у лесе, як падліцы якой. Дый дзецям непакой, бяда. А што сказала б Валя? І гэтая думка скаланула Сямёнавіча. Валя б напэўна падкінула яму ў плечы: як гэта здацца? Не, трэба неяк ісці, паўзці, грэбціся, але выбірацца. Так, пакуль жывы, нельга здавацца. Ён падпоўз да гонкай, як страла, сасны, абапёрся аб яе і падняўся. Аніводнай жывой душы, ціша.

У гэты лес хадзіла ўся вёска. Грыбоў хапала, а калі спусціцца ніжэй, да малапрыкметнай сярод дрэваў рачулкі, перайсці яе, то абавязкова патрапіш на ягаднік. Некалі Валя з дзецьмі па два вядры чарніц прыносіла. Адразу за вёскаю куцаю лапінаю ляжаў невялікі выган: у недалёкім мінулым туды вяскоўцы выпускалі сваіх каровак, а пасля гналі іх на пашу. За выганам пачынаўся падлесак з гліністаю канаваю. Падлесак называлі Крывою Грываю. Хто і чаму так назваў тое ўрочышча, невядома, але калі хто з вяскоўцаў збіраўся ў лес, то казаў, што ідзе за Крывую Грыву.

Сямёнавіч аблізнуў засмяглыя вусны, сеў. Можа, дасць рады гэтым некалькім кіламетрам, не па балоце ж выбірацца. Па імшаніку, паігліцы не так яно і страшна. Спроба не хвароба, можа й дабярэцца. І ён папоўз. Першыя метры даліся цяжка: замінала зламаная нага. Як ні круціўся, што ні рабіў, а рух прыносіў новую хвалю болю. Неяк падладжваючыся, ста-

раючыся менш вярэдзіць балючую нагу, ён поўз. Праўда, хутка зразумеў, што не так яно ўсё і проста, як думалася. Гэта не маладыя гады, цяпер праз некалькі хвілін прыходзіць дыхавіца, знясільвае, часта даводзіцца адпачываць. Спачатку ён спрабаваў лічыць хоць прыкладна, колькі ж агораў, але на другой сотні збіўся. Зноў думкі-ўспаміны палезлі ў галаву. Калісьці вось так поўзаў толькі ў дзяцінстве – гулялі ў немцаў-партызанаў. За вёскаю цягнулася паўзасыпаная лінія акопаў часоў апошняй вайны. Там яны, дзеці, выкапалі зямлянкі, звалілі некалькі вербаў, накрылі і прысыпалі зямлёю, арганізавалі свой штаб і пасля школы бегалі гуляць. Старэйшы брат браў яго з сабою, чым Мішка вельмі ганарыўся перад равеснікамі. Дзяліліся на "сваіх" і "немцаў". Драўляныя аўтаматы, чырвоныя акцябрацкія зорачкі ў "партызанаў" і намаляваныя на руках крыжы ў "немцаў". "Немцы", калі бралі "партызанаў" у палон, дапытвалі і катавалі. Не тое каб ужо сур'ёзна, але палоннаму перападала: пяклі крапівою, на запясці круцілі так, што было вельмі балюча – крапіўніцай называлася гэта. І ты павінен трываць, інакш які з цябе партызан. Старэйшы брат Анатоль добры быў, ён ніколі не мучыў палонных.

Сямёнавіч зрабіў перадых, перакаціўся на спіну. Эх, Анатоль. Дванаццаць гадоў, як яго няма. Сямёнавіч успомніў апошні фотаздымак, дзе яны ўсе разам – усе чатыры браты. Гэта было на яго пяцідзесяцігоддзі. Анатоль старэйшы на тры гады. Менавіта да яго і ў дзяцінстве, і ў сталым узросце Мішка найбольш цягнуўся. Гэтая Анатолева дабрыня – усім хацеў дапамагчы. Хто б ні звяртаўся – нікому не адмаўляў. Жонка на яго і сварылася, і дзецьмі папікала, а ён рабіў па-свойму. Рана пайшоў з жыцця, рана яго добрае сэрца перастала працаваць. Але што казаць. Няма ўжо нікога з братоў, адзін ён, Міхаіл Сямёнавіч, застаўся. Эх, браткі мае, браткі, як жа не хапае вас. Якія ж шчаслівыя яны тады стаялі на ганку. Здавалася, яшчэ дужыя мужчыны, столькі добрага яшчэ наперадзе, столькі паспеюць зрабіць, яшчэ ого-го якую сілу маюць у руках. Пайшлі браты, адзін за адным пайшлі, самы старэйшы, Іван, нават раней за маці. Няўжо і за ім бязносая прыйшла?

Сямёнавіч поўз і поўз, нібы ў тумане. Усё, зноў патрэбна перадышка. Ён ляжаў на спіне, заплюшчыўшы вочы, і думаў, ці паспее выбрацца з лесу да цямна. Мабыць, не. Нічога, накірунак ён ведае. Дрэнна адно: піць вельмі хочацца, у роце нават сліны не засталося. Збоку нешта зашархала. Гэта было так нечакана, што ў яго аж прыпынілася дыханне, а пасля хацелася закрычаць ад радасці. Сямёнавіч асцярожна расплюшчыў вочы і ледзь не ўскрыкнуў. Манька! Каб жа цябе пранцы з'елі! Ён хадзіў па лесе, шукаў яе, гукаў, нагу зламаў, а яна сама з'явілася, знайшла яго і стаіць вось тут, побач з ім. І дзе ж яна гэтулькі часу тулялася? Ніколі не думаў, што так узрадуецца самай звычайнай казе. Манька, Манька, любая мая, жывая душа знайшлася. Тая, як прачытаўшы яго думкі, мэкнула. Манька, нягодніца. Ён паманіў казу да сябе. Яна падышла, тыцнулася ў далоні і запытальна, бы з дакорам, глянула на яго: ты чаго тут разлёгся, пайшлі дахаты. Пасля нахіліла галаву, пацерлася аб плячо і зноў мэкнула. Ён пачухаў Маньцы за вухам, яго позірк спыніўся на туга натапыраных сасках. Час даіць, мо гэтага каза і просіць. Тут ён схамянуўся. Вось жа стары дурань. Памірае ад смагі, а малако пад носам. Куды падаіць толькі?

Ага, ў яго ж ёсць старая пляскатая кепка, малако не павінна працячы. Ціха, Манька, ціха, стой. Сяк-так прыладкаваўшыся, Сямёнавіч пацiху стаў даіць. Манька паслухмяна стаяла.

Напіўшыся смачнага, як ніколі, сырадою, ён павесялеў. Ёсць жывая душа побач, разам усё ж лягчэй, нічога, не прападзе. І ён папоўз далей. Сонца тым часам села за верхавіны, пасвяжэла, ад зямлі цягнула насычаным грыбным пахам. Розныя грыбы трапляліся ледзь не на кожным метры, ён даўно не звяртаў на іх увагі. У асноўным то былі сыраежкі, мухаморы ды польскія грыбы, хоць некалькі разоў тыцкаўся ў лісічкі і белыя грыбы. Адчуванне часу згубілася. Колькі паўзе: гадзіну, дзве, тры? Манька недзе знікла, ці то яна ззаду, ці сапраўды збегла. Некалі Валя ўзяла яе акурат пасля сустрэчы з выпускнікамі. Будрэвічаў Паўлік выбіўся ў людзі – заняў нейкую кіруючую пасаду ў Мінску. Ён і арганізаваў сустрэчу свайго класа ў вёсцы на дваццаціпяцігоддзе. Сабраліся амаль што ўсе васямнаццаць чалавек. Сямёнавічу з Валяю Паўлік загадзя паведаміў, паклікаў: як-ніяк ён дырэктар школы, а яна класнай у іх была. Паўлікаў бацька паставіў у двары сталы, нацягнуў тэнт, а ўжо астатняе Паўлік сам зрабіў. Добрая сустрэча атрымалася. Адно толькі кальнула Сямёнавіча: усе былыя вучні, як адзін, нават тыя, хто жыў цяпер у суседніх вёсках, гаварылі па-руску ці на трасянцы. Ён жа некалі пачынаў тут менавіта з урокаў беларускай мовы і літаратуры, вучыў усіх любіць і шанаваць родную мову, сам не цураецца яе, а яны, як з’ехалі, так нібыта хто іх падмяніў – пра ўсё забыліся. Так яно цяпер паўсюль. Сын жыве ў Мінску, а дачка ў Гомелі. І яго дзеці не сталіся, на жаль, выключэннем, таксама перайшлі на рускую. Як ні пераконваў іх, што ні казаў, нічога не дабіўся. Дачка даводзіла: усе так, маўляў, робяць, так зручней, дзецям складана будзе вучыцца. Тады, на сустрэчы, ён не стаў нічога казаць сваім былым вучням. Толькі калі пайшоў, здалося, што сядзеў з чужымі людзьмі, якія проста прыехалі сюды на адзін вечар на гулянку.

Сілы пакідалі яго. Сямёнавіч змог яшчэ прыўзняцца, сесці і прытуліцца да бярэзінкі. Вечаровы змрок паволі садзіўся на лес. Сямёнавіч прыгледзеўся: здаецца, ускраек лесу блізка. Тут жа столькі ходжана-пераходжана. Калі не памыляецца, тая разгалістая сасна, што вялізнай рагаткай вытыркаецца сярод суседак, расце якраз на ўзлеску. Можа, удасца выбрацца на дарогу. А там хоць дагукаецца да каго, ці як. Усё ж бліжэй да людзей. У гэты момант у спіну ззаду тыцнулася нешта мяккае і цёплае. Зноў Манька, вось жа нягодніца! Сямёнавіч злавіў казу за поўсць, пагладзіў. Разумніца, не кінула яго аднаго. Хоць з-за яе ён патрапіў у бяду, але яна ж прападзе без яго. Трэба паўзці далей.

Не адчуваючы ўжо ні рук, ні ног, ён упарта грэбся, паволі рухаючыся да выратавальнай дарогі. Сапучы, як кавальскі мех, ён зірнуў наперад. Што гэта? Здаецца, хтосьці стаіць. Сямёнавіч напружыў зрок, уваччу адразу замітусіліся мушкі. Падобна на тое, што жанчына. Нешта знаёмае, ніяк не можна зразумець, хто гэта. Каго ж яна яму нагадвае? Галоўнае, што кліча яго да сябе – рукою махае. Трэба падпаўзці да яе. Яшчэ некалькі метраў, яшчэ трохі. А жанчына стаіць, чакае. Божухна, дык гэта ж Валя! Яна кліча яго. Вось дык неспадзяванка. Трэба рухацца. Не спыняцца, яна ж чакае. Трэба паўзці, ён павінен. Ён павінен.

Анатоль Івашчанка



...Гэта не мы малітвамі вашымі.
Гэта не мы ў вашых шыхтах.
Гэта не нас вы не заўважылі
ў ліку аб'ектаў вашых атак...

# Мары дона Хуана

### *САШБАШ*

Гэта калі бракуе паветра.
Гэта калі ў горле камяк.
Гэта калі на пяць кіламетраў
ў б*а*ку
і ў цэлым – таксама галяк.

Гэта калі прыкручаны ножкі
ложкаў.
Калі голас захрас.
Гэта калі нібыта ў апошні
раз уваходзім у спальню штораз.

Страчаны сэнсы й рамс*ы* паблытаны.
Ноч. У сутонні тоне адказ.

Гэта не мы – суткамі й літрамі.
*Not with your prayers.*
*Not “Two of us”.*

Гэта не мы малітвамі вашымі.
Гэта не мы ў вашых шыхтах.
Гэта не нас вы не заўважылі
ў ліку аб’ектаў вашых атак...

Чэрвень чарнее новымі стратамі.
Скончыўся джаз, вось жа, не ваш.
Патасны пат упартае партыі.
Паліць у цёмную бездань
СашБаш.

## *АБВЕСТКА*

*Мы пьем чай в старых квартирах,*
*ждем лета в старых квартирах...*

**Віктар Цой**

Прадаецца кватэра. Утульная. Хрушч. У цэнтры.
Два пакоі. Асобныя. Вокны выходзяць у парк.
Капрамонт, шклопакеты, санвузел сумесны. Цэннік
звышгуманны. І поруч – пошта, садок і ламбард.

Хто тут жыў? Ён, яна, двое дзетак, кудлаты сабака...
(Пачыналі удвох, ну а скончылі, вось, упяцёх).
Ён быў муляр удзень, пэцкаў рукі, а ўвечары – вершы пісаў, небарака.
Мог да ночы. Яна ж працавала ў садку, што насупраць. Такое жыццё.

Ёй былі даспадобы даўгія сюжэтныя вершыкі.
Ён любіў паспяваць Башлачова ды Цоя на кухні ціхутка.
Перад сном ёй пачытваў “Лаўца...” і “Забіць перасмешніка”.
Зрэдку – штосьці сваё, ды яна вырубалася хутка.

Што яшчэ распавесці... Цікавяць прычыны продажу?
Ну, якія. Знайшла яна іншага. Кажуць, – сантэхніка,
покуль першы быў на заробках (ці ў Пензе, ці тое ў Варонежы).
Прыязджае – сюрпрыз. Ушасцёх у хрушчоўцы цесненька.

Прадаецца кватэра. Хрушчоўка. Ў цэнтры. Утульная.
Капрамонт, шклопакеты. Карочэ, хутчэй званіце.
Дзе той муляр-паэт цікавіць цяперака туліцца?
Ўзяў сабаку кудлатага. Кажуць, з’ехалі ў Піцер.

*Задар, жнівень 2018*

* * *

Паспець зваліць ад бытавухі,
пакуль не зжэрла нас ушчэнт.
Паслаць дэдлайны і цэйтноты,
забіць на дэбет і працэнт.
Ў багажнік спальнікі й намёты
закінуць. У салон – сям’ю
(глядзі, Кутузаў, не паблытай).
Па плешку газу, і туды,
дзе з неба знічкі й жалуды,
дзе вышывае неба руны
на чорнай роўнядзі вады...
Дзе каля вогнішча начоўкі,
дзе ветах, зорнае вясло,
дзе сняцца усю ноч паклёўкі,
калі нат клёву не было.
Дзе будзе *згадваца як шчасце*
той на паўкілі шчупачок.
Дзе... Зрэшты, досыць. Выбачайце.
Пайду спакоўваць рэчмяшок.

## *PAUSE*

Суботні ранак.
Раптам –
та-дам –
званок у дзверы.
На расслабоне
іду адчыняць
(сам у халаце, жонка ў шорціках).
Гляджу ў вочка:
стаіць дзяўчо.
Вочы ў падлогу.
“Прабачце, можа,
ў вас якіясь прадукты ёсцека?”
“Зараз, – кажу, – пачакай, зірну...”
І перад носам дзвярыма – плясь
(нейк, камандор, машынальна, ну).
Крочу на кухню.
Жонка хвалюецца
“Хто там?”
“Ды-ы, гэта... дзяўчо...”
(жонка хвалюецца два)
“Чо?..”
Хутка выходзіць і хутка вяртаецца.
(Дзверы таксама на гэтым баку)

“Памперсаў просіць,
маці яе нарадзіла нядаўна, кажа”.
Дастае макарону, нейкія крупы, кашы...
Пакуем усё па пакетах.
Моўчкі. Аператыўна ды зладжана.
Выходзім на лесвіцу.
Яна стаіць. Тая ж пастава...
Дзякуе і сыходзіць.
Тытры, уласна.
Жыццё працягваецца
(хтосьці з *pause* націснуў на *play*):
пошук аўто ды кавамашыны,
запіс старэйшай да артадонта...
Словам, дэдлайны,
рэжым цэйтноту,
які не стрымаць, не спыніць,
тлум, мітусня, трывожнае шчасце.
Толькі дзяўчо ўсё у тамбуры
ў вочку –
ці уваччу –
стаіць...

### ***МАРЫ [ДОНА] ХУАНА***

калі прыхільнасці не адсякаюцца
калі галава на плячох не трымаецца
калі гамон пакрысе набліжаецца
ды пані фартуна ўсё не ўсміхаецца

калі не знаходзіцца слова да раніцы
калі дзеяслоўная рыфма... здараецца
калі у танальнасці не патрапляецца
ды штосьці гештальты не закрываюцца

калі час да горла прыставіў лязо
калі не здзьмуваецца пыл з абразоў

калі засталіся сябры на “гражданцы”
калі камандзіры – мудзілы й засранцы
калі паміж рамаў глухая сцяна
каханню хана
ды лайна дахрана

калі мары дона
(ну, мары хуана)
пазбавілі веры ў светлае дно
і хочацца выйсці ў вакно
(пагуляць)

памятай, братка, адно:
*гэта*
*не наша*
*вайна*

можаш не верыць
можаш злавацца
можаш схавацца нібы паца-ваца
можаш сысці у сваю палестыну
скурчыцца скурвіцца згнісці састыгнуць...
ці – Талянову параду згадаць
простыя словы услых паўтараць
*(ічы, ні, сан, шы, го)*
*let's go:*
*гэта не наша вайна*
*гэта не наша віна*
*гэта не наша мана*
*гэтанянашаняна...*

як? палягчэла?
якое нам дзела?
цела пацела
цела балела
цела сядзела стаяла старэла
цела ляцела
цела ля цела
шалік – пятля
зацягнутая спакваля
*voilà*

## ЛЮБОЎ ДА ГАЛУБОЎ

я кармлю праз акно галубоў
дробна пашаткаваным батонам
я кармлю не таму што любоў
больш няма пакрышыць на каго

у мяне ёсць дзве коткі і рыбкі
трое дзетак у рэшце рэшт жонка
мне стае цеплыні і пяшчоты
каб хацелася зранку ўставаць

хтосьці скажа што чэл я някепскі
што старанна выконваю справу
можа хтосьці нат вершык пахваліць
(я ахвотна паверу усім)

на халеру ж мне лішнія рухі
адчыняць запацелыя шыбы
рэзаць хлеб і крышыць яго птушкам
што загадзяць суседскі карніз?

далібог я не маю адказу
але перш як паснедаць самому
перш як рыб улагодзіць і котак
(а пра жонку лепш прамаўчым)

дастаю дошку ножык і бохан
рытуальна пагрукваю бляхай
і сустрэўшыся позіркам з птахам
прамаўляю: *здароўкі, чувак!*

* * *

Ні краіны, ні хросту
не хачу абіраць.
На Васільеўскі востраў
я прыйду паміраць.
Твой фасад цёмна-сіні
уначы не знайду,
паміж выцвілых ліній
на асфальт упаду.

І душа ад пагоста
будзе ў цемру імкнуць,
праляцеўшы над мостам
ў петраградскім дымку.
Красавіцкая зліва,
на павеках сняжок,
я пачую: “Шчасліва,
ў добры шлях, сябручок”.

І пабачу два лёсы
дзесьці там за ракой,
да айчыны бялёсай
прыхінуты шчакой:
– быццам дзеўчыны-сёстры
з непражытых тых год
выбягаюць на востраў,
каб правесці яго.

*Іосіф Бродскі, 1962*



Марыя Бадзей



...Шукаем
Смалу на язык,
Стралу ў вушы,
Зямлю,
Скуль вяртання няма...

# Лоўля вятроў

* * *

Валасы – саломы псалмы, жніва ўжо час,
Стрыжка памяці, што расце скрозь скроні чарніцай.
Канец лета, дзе месяц вятроў грае яблычны джаз,
І да поўні ў вадзе дапаўзае гадзюкай крыніца,

І кусае цябе за нагу – не хадзі басанож,
Басадуш ды па дне залатым гаркаводнага краю,
А ты чэшаш укус і лезеш па яблык у дождж,
Дзе аблокі над садам шчабечуць «не раю, не раю, не раю».

* * *

Жнівень з нажніцамі,
Жнівень з сярпом,
Жнівень са скіпетрам.

Спевы чырвані «мі-до-здароў»,
Нагрэтыя сэрцы з залатым семем пад скураю
Ў кашы даспяваюць.

Рогат груш і аса на плячы,
Сліў няпростыя словы, і рэкі
Круцяць слёзы ў вірах і адпяваюць соль.

О псалмы лета!
Суцэльны дзень
Перарваны крохкімі «спаць».

Думкі мёду,
Яблычны боль,
Харэі арэхаў.

* * *

Бралі рэшата і разносілі
Каханне, як прыстрэк:

На топкія балоты,
На ніцыя лозы,
На быстрыя рэкі,
На цёмныя лясы,
За крутыя горы,
За глыбокія Дунаі,
Гублялі на вакзалах,
Везлі за мяжу,
Скормлівалі галубам,
Даставалі па начах –

Маўляў, ідзі, дзе сонца не грэе, дзе вецер не вее,
Пеўні не пяюць, ваўкі не выюць,
Чорны вол па гарэ ходзя,
Наймічка з парубкам перакачваюцца,
І гарачы камень табе ў зубы.

Разнеслі і пішам,
Адправілі, свішчам,
Верхам на вятрах
Па мастах па калінавых
Блукаем, гукаем, галёкаем,
Шукаем
Смалу на язык,
Стралу ў вушы,
Зямлю,
Скуль вяртання няма.

* * *

Жанчыны павязваюць хусткі ў лес, як у храм.
Іх рукі пахнуць ажынамі.
Мужчыны рахуюць:
Дванаццаць грахоў за забойства змяі,
З кіём паляванне як шлях у бязгрэшша,
Але ці трэба такі лёс
Грышкам-пабеданосцам на раварах?

Вужы па вежы шкляной не далезуць у царства,
Але зямлі дзеці змеі,
Але зямлі дзеці людзі,
Цалуйма й хадзем!

У імхі схіляцца штогрыб,
Укленчыць над модламі ягад,
Узірацца ў сляды на пяску –
Хто тут быў да мяне?
Услухацца ў рэха,
Баяцца людзей больш за ваўкоў.

Рэха – рух вершалінаў,
Дрэвы спяваюць харалы.

Жанчыны павязваюць хусткі ў лес, як у храм.

## ДЫПТЫХ

### *I.*

верасень – вера
сее сны па пожнях па нівах
каштаны пад вокны выплёўваюць свае сэрцы
манету кінуў летась у кішэню
вяртанне
той самы вір
воды з-пад крана п’ем кроў Нямігі не спім.

### *II.*

кашаль попельных ружаў у небе музыка
мы заслужылі мой горадзе музыку мы залажалі
струны ад жалю рвуцца трубы равуць вар’яцеюць
шыя без дотыкаў лімфавузлы набухаюць
шыя твая няроўная горадзе на табе шалік
пахнеш дажджом горад вады горад сонца
лісце п’е сонца золата й медзь
развяртанне
каштан маё сэрца
з кішэні шпурляю ў вакно.

* * *

Хто есць цвілы хлеб – перуноў не баіцца.

У кожным арэху па маланцы,
У кожным рэху па ліхаманцы,
Слівы, залевай зламаныя,
Рабінавай роспаччу
Ночы на мяжы.

Вецце маланак раве,
Дрэвы ў шыбы рвуцца.

Вятры выціраюць твары ў люстэрках.
Гістэрыя назваў,
Вязьмо імёнаў,
Словаспады ў вострыя травы,
Марнатраўныя сны
Да сваіх вешчуноў вяртаюцца.

Хата ля лесу, і сабака брэша на дзверы.

* * *

Ружа вятроў жартуе і пахне фугаю,
Скрыпкі восеньскіх студняў,
Брагі журба.
Яблыкаў у траве разгубленасць
Слухаю.
Дзён малацьба.

Рызы на цвік, рыззё – цвіркунам, і каб зорныя слівы,
Зрэнкі чорнага перцу, часнок, калыханкі заранак.
Дождж пасталеў і пайшоў, і мы пойдзем на ловы,
Ловы вятроў
У галлі паламаных маланак.



пераклады

Арцюр Рэмбо



...“Свабода! Высь! Любоў!
Цудоўныя відзежы!”...

# Вечнасць

### *АДЧУВАННЕ*

У сініх прыцемках пакрочу напрасткі...
Хай колюць каласы праз летняе адзенне,
Хай росная трава халодзіць ступакі,
А свежы ветрык мне кудлаціць летуценні.

Ні думкі ў галаве і слоў шукаць дарма,
Ды сэрца любіць свет і ўсім на свеце сябар.
Шчаслівы, як цыган, пакрочу, бо сама
Прырода ў ноч вядзе, як прыгажуня ў табар.

*Пераклад з французскай Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

## АФЕЛІЯ

### *I*

Над чорнаю вадой, як белая лілея,
Афелія плыве між затанулых зор,
Дзявочая фата між зорамі бялее...
А паляўнічы рог трывожыць сонны бор.

Ужо за векам век самотнай белай зданню
Плыве Афелія за чорнаю ракой,
Ужо за векам век у ветры, як паданне,
Недаспяваны спеў – салодкаю тугой.

Камечаць ёй фату гарлачыкі-малечы,
А вецер да грудзей хінецца, як дзіцё.
Ёй ніцая вярба пяшчотна гладзіць плечы,
На задуменны лоб схіляецца трысцё.

Сцяблінку зварухне, шукаючы сцяжыны,
І чуецца ўвушшу той водарасці ўздых,
То па-над вольхамі трывожны крык птушыны,
То з небасхілу хор сузор'яў залатых.

### *II*

Бялейшая за снег, ты звар'яцелай зоркай
Ледзь загарэўшыся, загінула ў віры, –
Ці не таму, дзяўчо, што аб свабодзе горкай
З табой шапталіся нарвежскія вятры?

Што ў доўгіх кудзерах шалела завіруха
І ў сэрцы загучаў нечалавечы спеў –
Так, нібы сэнс жыцця адкрыў табе на вуха
Ў трымценні прыцемкаў і трапятанні дрэў?

Што ў грудзі крохкія наводліў білі моры
І ўсё, што мела ты, размылі неўспадзеў,
А ў тым красавіку твой ненаглядны хворы –
Твой кавалер, нямы, ля ног тваіх сядзеў?

Свабода! Высь! Любоў! Цудоўныя відзежы!
Ты, як вясновы снег, растала ў іх агні,
Згубіўшы мову ў тым бязлітасным бязмежжы
І вочы сінія ў вар'яцкай вышыні!

### *III*

Ды прысягне паэт, што вечна маладою,
Збіраючы букет у хвалях, бы ў траве,

Лілеяй белаю над чорнаю вадою
Між затанулых зор Афелія плыве.

### ПАД МУЗЫКУ. ВАКЗАЛЬНЫ ПЛЯЦ У ШАРЛЕВІЛІ

Дзе вылізана ўсё і выхаваны ўсе,
Дзе дрэвы з кветкамі служыць забрылі ў скверык, –
Мясцовы буржуа ў паложаны чацверак
Дурноту на паказ насельніцтву нясе.

На флейтах мірны вальс аркестр ваенны ўрэзаў.
(Вайсковы дырыжор – стабільнасці гарант).
Бліжэй да музыкі пільнуе ўдачу франт.
Натарыус кішэнь пільнуе ад гарэзаў.

Ранцье ўхмыляюцца, калі трамбон – не ў тон.
Чыноўныя сланы вядуць сланіх законных
Ды кампаньёнак іх, што крочаць наўздагон,
Як паганятыя сланоў, але ў фальбонах.

Адкрыў паседжанне пенсіянерскі клуб:
Хто перцам гандляваў, цяпер – крутыя перцы.
Палітыкам усіх краін дадуць адлуп,
Бо мудрасць чэрпаюць у срэбнай табакерцы.

Прагнуўшы лавачку фламандскім жыватом,
Гандлёвец люльку ўзяў ды інгалюе гланды,
Нібыта з коміна дыміць вялікі дом:
“Ай, файны тытунец – замежны, з кантрабанды!”

Рагочуць жабракі, сарваўшы лёгкі куш,
А парачка салаг, жаўнеры-навабранцы,
Наслухаўшыся флейт, нанюхаўшыся руж,
З малым гуляюцца й міргаюць гувернантцы.

І я ўжо тут як тут: схаваўся, галубок,
Сачкую, як студэнт заняткі, пад каштанам –
Высочваю дзяўчат, і кожная ў мой бок
Хіхікае й глядзіць з намёкам несхаваным.

А я на іх гляджу – і трызню насамрэч,
Дзе вочы не дайшлі, фантазія даскажа:
Іх шыі белыя і выгін тонкіх плеч,
І спіна, і карсаж, а ў выразе карсажа...

Здымаю туфлікі й даходжу да панчох,
І да ўсяго, што ёсць (уява – мой наркотык).

Дзяўчаткі цешацца з агню ў маіх вачох,
Я ж вуснамі лаўлю няісных вуснаў дотык.

### ПЕРШАЕ СПАТКАННЕ: КАМЕДЫЯ Ў ТРОХ ПАЦАЛУНКАХ

Яна была ў фрывольным строі,
А за акном гарэзнік-вяз
Цягнуўся ў ветраным настроі
Сваім лісцём – да нас, да нас.

Яна ў фатэлі грэла ногі,
Бо трохі мерзла ў негліжэ й
Дрыжэла, потым да падлогі
Спускала іх – ніжэй, ніжэй.

І я глядзеў на гэта дзіва:
Прамень, як мятлік, неўспадзеў
Ва ўсмешцы бліснуў ды імкліва
На кветку смочкі ёй зляцеў.

А я спярша цалую лытку,
Ды чую смех, а ў смеху гнеў,
Нібы крышталь, парваўшы нітку,
Паўсюль каралямі звінеў.

Схавала пад кашуляй ножкі,
І з выклікам: “І што далей?”,
Бы кажучы падумаць трошкі,
А потым цалаваць смялей.

Я нахіліўся ды нялоўка
Крануўся вуснамі вачэй.
Яна, адкінуўшы галоўку:
“Так значна лепш... цяпер хутчэй...

Скажыце мне... хутчэй скажы мне...”
Цалую грудзі – а грудзях
Шалее смех усё нястрымней,
Мне абяцаючы працяг.

Яна была ў фрывольным строі,
А за акном гарэзнік-вяз
Цягнуўся ў ветраным настроі
Сваім лісцём – да нас, да нас.

## ЗАЧАРАВАНЫЯ

Завея хвошча проста ў вока,
А ля акенца хлебапёка –
Азадкаў пяць:

Малыя ўсталі на калені, –
Як хлеб пячэцца ў сутарэнні,
Яны глядзяць.

Глядзяць на рукі ў шэрым цесце,
Што ў печку хлеб кладуць урэшце,
Каб не астыў.

А печка муркае, жывая,
І з ёю пекар напявае
Стары матыў.

Малеча слухае ў галечы,
Як б'ецца сэрца добрай печы,
Бо ўжо з яе

Пахучаю і цёплай здобай,
Як велікоднаю аздобай, –
Хлеб паўстае.

Бо ў тым каменным дымным склепе
Скарынкі затрашчалі – лепей
За цвыркуноў,

І спеў надзеі гэткі звонкі,
Што сэрца проста рвецца вонкі
З іх лахманоў.

Ім больш не чорна ў свеце белым,
Пяці анёлам заінелым,
Бо ў тым і рэч,

Што, покуль прыліпаюць носам
Да мёрзлых кратаў, – райскім лёсам
Здаецца печ.

Як на апошні свой прытулак,
Глядзяць у вочы богу булак, –
І ўсё грамчэй

Дрыжыць малітва, каб пачулі,
Як люты вецер ім кашулі
Ірве з плячэй.

## *РАМАН*

### *I*

Хто быў разважлівы ў сямнаццаць год? Не ты!
Такія вечары, што хлопцу не да шклянак:
Наведнікі ў кафэ шумяць да хрыпаты,
А ты – пад ліпамі, аматар прагулянак.

Бо ліпы ў чэрвені цвітуць, як райскі сон!
І ты наяве спіш, а над табой пачціва
Мяшаюцца ў аркестр, што грае ва ўнісон,
Салодкі пах віна і горкі водар піва.

### *II*

Ты бачыш, як дрыжыць высока між лісця
Яскрава-сіняя, у бліскаўках, ануча,
Нібыта зорачкі прышпільвала дзіця,
Такія белыя, што аж вачам балюча.

Згубіўшы галаву, брыдзеш у летні змрок
І трызніш давідна, сямнаццацігадовы.
Ноч – як шампанскае, а чэрвень – як звярок,
Што пацалункамі сарвацца з губ гатовы.

### *III*

Як выспу Рабінзон, ты адкрываў раман,
Ды раптам у жыцці, пра што чытаў запоем:
Пад ліхтаром – *яна*, спавітая ў туман,
І цень ад каўняра бацькоўскага – канвоем.

Глядзіць, як топчаш брук нясмелым цельпуком,
І ўжо сыходзячы, зірне ў паўпавароце, –
Бы ўсмешкаю здалёк падцвельвае цішком...
І арыі твае ўміраюць проста ў роце.

### *IV*

Ты закаханы ўшчэнт. Да жніўня – як маньяк.
Ты закаханы так, што кожны сябар кіне!
Ты пішаш пра любоў санеты – кепскі знак.
Ды неяк вечарам – адказ тваёй багіні!

Тым вечарам ты сам шуміш да хрыпаты,
Заходзіш у кафэ на кухаль або шклянку...
Хто быў разважлівы ў сямнаццаць год? Не ты,
Калі пад ліпамі хадзіў на прагулянку!

### У “ЗЯЛЁНЫМ КАБАРЭ”, ПЯЦЬ ГАДЗІН ВЕЧАРА

Я восем дзён ірваў аб камяні абутак,
Ды шчасце ёсць: сяджу ў “Зялёным кабарэ”,
Як госць Шарлеруа, што раз на восем сутак
Тарцінкі з шынкаю нармальна пажарэ.

Гляджу на жывапіс іх кічавых шпалераў
І ногі працягнуў пад іх зялёны стол,
Як раптам кельнерка, пагібель кавалераў,
З такімі штучкамі (няслабы слабы пол!

Такую не спужаць ні жарцікам, ні буськай),
Прыносіць мне паднос, застаўлены закускай,
Тарцінкі з шынкаю ды маслам – на стале,

І піва пада*е* мне паўвядра, не меней...
А ў пене залатой купаецца праменне,
Ці хмель купаецца – у сонечным святле.

*Кастрычнік 1870-га*

### МАЯ ЦЫГАНШЧЫНА (ФАНТАЗІЯ)

Я кулакі хаваў у рваныя кішэні,
Да дзірак зацягаў штаны і палітон
І толькі ў Музы меў прытулак і прытон,
Дзе зубы з’еў – а-ёй! – на жарсці й спакушэнні!

Малое Пальчанё, я рыфмы-камяні
Раскідваў. Начаваў ва ўсякае надвор’е
Ў карчме “Вялікая Мядзведзіца”. Сузор’і
Мне шорхалі, як шоўк красунь, у вышыні.

Я зноў пачую іх у верасні ды ўспомню,
Як хмельнае расы б’е ў галаву віно мне,
І, п’яны вечарам, прысяду на зямлю:

Перабіраючы, пакуль узыдзе ветах,
Не струны гучных лір, а гумкі на штыблетах,
Рукамі збітыя калені абхаплю.

### СОН У ЛАГЧЫНЕ

Бы ямінка між траў – лагчына ў зеляніне,
Дзе срэбная рака штурмуе камяні,
А сонца гордае з-за горнае вяршыні
Ўстае – і ззяе ўсё ў раз’юшаным агні.

Салдацік малады прылёг на дно лагчынкі,
На травяны кілім, з лістотай пад шчакой
Раскінуў ногі й спіць, а ўверсе аблачынкі,
І на бялюткі твар святло цячэ ракой.

У кветках ступакі, а ўсмешка – выраз болю,
Бы хворае дзіця ўсміхнулася... Даволі,
Прырода, захіні ад ветру яго сны.

Ён спіць. Ды водараў салодкіх не ўдыхае.
Рука за галавой, на жываце другая.
Дзве ямінкі ў грудзях чырвоныя відны.

## *ГРУГАНЫ*

Калі ў снягах зямля сырая,
Нямеюць вёскі і лугі
І звон змаўкае ад тугі, –
На свет, што голым паміраe,
Господзь, хай зрынуцца яны,
Вялікасныя груганы!

Журбою ўзброеныя здані,
Ад гнёздаў гнаныя зімой,
То ўроссып, то адной гурмой, –
Там, дзе крыжы на скрыжаванні
І ў кожнай яміне – труна,
Хай кружыць роспач пругана!

Хай не змаўкае па-над тымі,
Што той зімой сышлі, калі
Палеглі ў нашыя палі,
Схаваныя ў агні і дыме, –
Каб за ганебнаю вайной
Не зніκнуць памяці зямной!

Наверсе дуба, як на мачце,
Анёльскі чорны хор... маўчы!
Хай салавейчыкі ўначы
І травень скажуць ім “прабачце” –
*Ім*, пахаваным у траве,
Хто жыў для Заўтра... й не жыве.

### ГАЛОСНЫЯ

“А” – чорны, белы – “Е”, чырвоны – “І”, зялёны –
“У”, сіні – “О”, ваш сэнс адкрыю паслядоўна.
“А” – чорных мух гарсэт: пякельная князёўна,
Сядаючы на труп, гудзе свае праклёны;

“Е” – велічных шатроў бялюткая бавоўна,
Вяршыні снежных гор, узнёслыя калоны;
“І” – пурпур каралёў і вуснаў смех шалёны –
Каханне? крыўда? гнеў? – прыўкрасных усё роўна;

“У” – хвалі боскія смарагдавай стыхіі,
Лагода на лугах – і ў зморшчынах, якія
Алхіміку ўначы спярэсцілі чало;

“О” – найвышэйшы горн, яшчэ нячутны долу,
Вымоўнасць цішыні, даступная Анёлу,
Амега – і гарыць Вачэй Яе святло!

### П’ЯНЫ КАРАБЕЛЬ

Калі я вырваўся, бо не ўтрымалі лейцаў,
Загінуўшы ад ран, мае вартаўнікі:
Каналі на слупах пад стрэламі індзейцаў, –
Мяне панесла ўніз, за плыняю ракі.

Пшаніца з Фландрыі й брытанская бавоўна
Не хвалявалі больш, да д’ябла лішні груз!
Увесь мой экіпаж забіты – і цудоўна.
Я плыў у акіян і забываў прымус.

У дзікім плёскаце прыліваў мяне мчала...
Мой розум да вясны заснуў, як немаўля.
Я плыў!.. Паўастравы зрываліся з прычалу,
Не ў змозе вытрымаць свабоды карабля.

Шторм абудзіў мяне – і, лёгкі, нібы корак,
Я танчыў з хвалямі, вазніцамі ахвяр.
Я дзесяць плыў начэй навобмацак, без зорак,
Берагавым агням не паглядзеўшы ў твар.

Салодкая на смак, як дзецям кіслы яблык,
Сціраючы сляды ванітаў і віна,
Зялёная вада так вымыла караблік,
Што больш ні якара не меў я, ні стырна.

Мяне кармілі з рук гекзаметрамі хвалі,
Я піў зяленіва і зорны сырадой,
Я цытаваў прыбой, з якога выплывалі
Тапельцы сумныя, што мрояць пад вадой, –

Дзе сатанее сінь і згуба проста поруч,
Дзе новы дзень святлом сцішае прагны вір,
Дзе пенаю рудой кахання бродзіць горыч –
Мацней за алкаголь, грамчэй ад вашых лір!

Я ўбачыў небасхіл з маланкамі ў глыбінях,
Віхуры, плыні, смерч і рыфы ў бурунах,
Світанак, што ляцеў на крылах галубіных,
І тое, што жывым не мроілася ў снах!

Я ўбачыў, як трымціць спалоханае сонца,
Згушчаючы ваду ў цёмна-ліловы жах, –
І мора ўсё хутчэй круціла хвалі ў гонцы,
Як старажытны мім, стаяла на вушах!

Мне снілася, як я цалую мора ў вочы;
Я сніў, як чорны змрок бялюткім снегам спеў;
Я сніў магутны рух на дне зялёнай ночы,
Лятучых фосфараў блакітна-жоўты спеў!

Чакаў, пакуль валы гістэрыя накрые,
І біўся дзень пры дні ў іх дзікай чарадзе.
Хто ведаў, што пазней да ног святой Марыі
Пыхлівы акіян пакорна прыпадзе?

Я абадраў барты аб дзіўныя Фларыды:
Там у вачах пантэр палае ноч без сну;
Вясёлкі ззяюць так, што слепнуць краявіды,
І кожная – аброць марскому табуну!

Я паўз балоты плыў, дзе ў велізарнай вершы
Смярдзіць Левіяфан, па вушы ў трыснягу,
Дзе ў абсалютны штыль вада гніе, памершы.
Я вадаспад любы вам апісаць магу,

Спакой ледавікоў і мора ў лютым гневе,
Затокі цьмяныя і вусцішную мель,
Дзе змеі гідкія на пакручастым дрэве
Вісяць, пажэртыя клапамі наўсуцэль.

Я дзецям паказаць хацеў бы, як дарады
Зіхцелі золатам, на хвалях пеючы,

Як чулыя вятры давалі мне парады,
Як пена квецені свяцілася ўначы.

Пакутны акіян то трызніў ад гайданкі,
То ціха жаліўся, мяняючы настрой, –
І ліплі да бартоў саргасы, як каханкі,
Я ж кленчыў і драмаў кабетаю старой...

Амаль што востраў, я цягнуў базар птушыны,
Іх бойкі і памёт, іх сумятню і тлум;
І ракам да мяне праз лееры і ліны
Тапелец запаўзаў – і клаўся спаць у трум.

Праз лабірынты бухт знаходзіў я фарватэр,
Вышэй за птушак быў закінуты ў эфір...
Ганзейскі карабель і браняносны катэр
Мой корпус, п'яны ў гразь, не возьмуць на буксір!

Дыміўся ў туманоў ліловай апранасе,
Дзіравіў, як сцяну, ружовы небакрай
І пачастункі нёс паэтам на Парнасе –
Блакіту смаркачы і сонечны лішай.

Ганяў марскіх канькоў і электрычных скатаў,
Шалёнай дошкаю даваў нырца згары,
А ліпень малаціў дубінай, як сто катаў,
Ультрамарын нябёс збіваючы ў віры!

Я, што сінечу ткаў, мінаючы патопы,
Мальстрэма стрэмны юр і Бегемота гон, –
Я раптам затужыў па берагах Еўропы,
Па гаванях старых, дзе не прыму я скон!

Я ўбачыў зорныя архіпелагі. Выспаў –
Без ліку. Караблю – адкрыты небасхіл.
Ці ў гэтай вышыні ты выспаўся і выспеў,
Залатакрылы ўздым Непераможных Сіл?

Я выплакаўся ўшчэнт! Я трызню штосвітання.
Мне месяц шле праклён. Мне сонца не відно.
Мне высмактала кроў атрутнае каханне.
Няхай трашчыць мой кіль! Няхай пайду на дно!

Калі Еўропа ўсё ж – хай будзе вечаровы
Зацішак травеньскі і ўбачаны здалёк
Хлапчук над ручаём, і першы папяровы
Караблік затрымціць, як лёгкі матылёк...

Бо не магу глядзець, як ванітуюць хвалі,
Як грузяцца купцы ад носа да кармы!
То гордыя сцягі высакароднай швалі,
То вусцішны пагляд плывучае турмы!

### *ПЕСНЯ З НАЙВЫШЭЙШАЙ ВЕЖЫ*

Пяшчоты юнацтва
Прайшлі назаўжды.
Я ў святах лайдацтва
Збаёдаў гады.
Ах, радасць былая,
Як сэрца палае!

Кажу сабе “досыць”,
Бо мне ўсё ясней:
Хто радасці просіць,
Раней ці пазней
Святкуе паразу.
Ратуйся адразу.

Хто мучыўся многа,
Той шмат зразумеў:
Мінае трывога
І роспач, і гнеў.
Ад прагі пакутнай
Кроў стала атрутнай.

Чмяліным вяселлем
Буяў росны луг...
Цяпер – пустазеллем
Ды воінствам мух.
А колькі ілюзій
Цвіло на тым лузе.

Надзеі, пяшчоты...
Душа – Нотр-Дам
Бясконцай самоты,
Ці знойдуцца там
Малітвы старыя
Для Светлай Марыі?

Пяшчоты юнацтва
Прайшлі назаўжды.
Я ў святах лайдацтва
Збаёдаў гады.
Ах, радасць былая,
Як сэрца палае!

## *ВЕЧНАСЦЬ*

Вечнасць кожнай хвіляй
З намі. Ну, а з кім?
Сонечнаю хваляй
У святле марскім.

Сэрца, вартавы твой
Тахкае: хутчэй!
Дні згараюць бітвай
У нішто начэй.

Чалавечы выбар
На зямлі й пакінь:
Там не знойдзеш, сябар,
Волі і вышынь.

Надта ж выбар вузкі:
Жыць – плаці далей.
Нашы абавязкі –
Ў іх агонь алей.

Як за сонцам следам
Ноч ідзе, адчуй:
Веды служаць бедам,
Бог надзей – адчай.

Вечнасць кожнай хвіляй
З намі. Ну, а з кім?
Сонечнаю хваляй
У святле марскім.

*Травень 1872*



Габрыэля Пузыня



...шкада бывае даведацца пра годнага чалавека тады, калі яго ўжо няма сярод нас...

# Заклад на талерку вустрыцаў

***Апавяданні***

**З літаратурнай спадчыны графіні Габрыэлі Пузыні**

*Некалькі слоў ад перакладчыцы*

*Пераклад з польскай мовы і прадмова Ірыны БАГДАНОВІЧ.*

Творчасць выдатнай пісьменніцы нашага краю Габрыэлі з Гюнтэраў Пузыні (1815 – 1869) даўно ўжо прыцягвае маю ўвагу як перакладчыцы і даследчыцы літаратуры. Па-першае, яна бачыцца мне найбольш верагоднай аўтаркай цудоўнай беларускай ананімнай паэмы “Мачаха”; а па-другое, яна сама была выдатнай польскамоўнай пісьменніцай, чыя актыўная творчая праца выпала на 1840-1860-я гады. Пачаўшы з паэзіі, выдаўшы некалькі паэтычных кніг, якія прынеслі ёй заслужанае прызнанне чытачоў, яна выявіла сябе таксама як выбітны празаік, мемуарыст і драматург. У адным са сваіх вершаў Габрыэля Пузыня сама сябе назвала “сціплым спеваком хатняга зацішку” *(“ja skromny śpiewak domowej zaciszy”),* аднак у XIX стагоддзі яе імя можна смела паставіць побач з імёнамі Яна Чачота, Тамаша Зана, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча,

Уладзіслава Сыракомлі, з якімі яе звязвалі творчыя ды сяброўскія стасункі, аб чым захаваліся сведчанні ў вершах-прысвячэннях і мемуарных крыніцах.

Напрыклад, "вясковы лірнік" Уладзіслаў Сыракомля ў вершы "Званы для глухіх" узнёсла назваў Габрыэлю Пузыню "*святаркай*" нашага краю ("*благаслаўлёнай зямлі Палямона*"), і гэта, можна сказаць, найвышэйшая ступень прызнання, а не выпадковыя "красныя слоўцы". Яе першы зборнік вершаў пад назвай "*W Imię Boże" ("У Імя Божае")* убачыў свет у Вільні ў 1843 г. Яго складалі вершы рэлігійнай тэматыкі, якія нагадвалі "кантычку" – малітоўны спеўнік для хатняга набажэнства, як часам цёпла называлі яго паміж сабой землякі-сучаснікі, чытачы і чытачкі яе паэзіі. Літаратурнае жыццё сярэдзіны XIX ст. у нашым краі немагчыма было ўявіць без *Аўтаркі ў Імя Божае,* так яна сама ў далейшым падпісвала свае кнігі. З-пад яе пяра выходзілі новыя вершы, апавяданні, п'есы і, урэшце, – найважнейшыя для нашай гісторыі і культуры ўспаміны "*W Wilnie i dworach litewskich" ("У Вільні і літоўскіх дварах"*), першая частка якіх была апрацавана і выдадзена польскімі даследчыкамі Адамам Чарткоўскім і Генрыкам Масціцкім у 1928 г., але цалкам твор, на жаль, не захаваўся[1].

Такім чынам, у 1850-1860-я гады Габрыэля з Гюнтэраў Пузыня, *Аўтарка ў Імя Божае,* была прызнанай на ўсім беларуска-"літвінскім" абшары пісьменніцай, любімай і шанаванай за глыбокі мясцовы патрыятызм, за чуласць і спагаду да бліжняга, прычым не толькі арыстакрата са свайго асяроддзя, але перадусім да людзей убогіх, церпячых, да тых жа сялянаў, віленскіх рамеснікаў, дваровых людзей, якім яна заўжды спагадала, прыглядалася да іх быту, дапамагала ў розных патрэбах. Яна ж, патомная і па бацьку Адаму Гюнтэру, і па маці Аляксандры з Тызенгаўзаў графіня-арыстакратка, заўважала ў прадстаўніках простага *люду* чалавечнасць, прыстойнасць, пачцівасць, здольнасць рабіць годныя ўчынкі. Яна напісала аб гэтым у цыкле сваіх апавядальных мініяцюраў "Слоўцы люду" ды ў іншых апавядаданнях[2].

Графіня Габрыэля не цуралася ўжываць у сваіх творах словы мясцовай беларускай гаворкі (смаргонска-віленскага рэгіёна), якой, напэўна, паслугоўвалася і ў паўсядзённым побытавым жыцці, асабліва на вёсцы, у бацькавых Дабраўлянах. Аднак пісала яна, што на той час зразумела, на літаратурнай польскай мове, а будучы адукаванай і свецкай жанчынай, ужывала таксама часам для каларыту лацінскія ды іншамоўныя слоўцы і выразы, у дыялогах жа яе персанажаў з вышэйшага свету часта гучыць і мова французская, даволі распаўсюджаная на той час у салонах. Гаворачы ў цэлым пра Габрыэлю Пузыню, трэба адзначыць, што гэта была ў поўным сэнсе слова графіня-філантропка, графіня-асветніца, графіня – патрыётка беларускай ("літвінскай") зямлі, якая яе нарадзіла і ўзгадавала. Яна, як жыццядайная пладаносная галінка, нібыта ўвабрала ў сябе ўсю моц і водар спрадвечных тутэйшых каранёў: этнаграфічных, ландшафтна-прасторавых, гістарычных ды духоўных.

Многія тагачасныя пісьменнікі нашай зямлі – і яна сама, і кумір усіх тутэйшых "краёўцаў" Адам Міцкевіч – па збегу акалічнасцяў не пісалі па-беларуску, але думкі і інтэнцыі, карціны і вобразы іх твораў, акропленыя нёманскаю вадою, былі прасякнуты мясцовым, "літвінска"-беларускім духам. Габрыэля нарадзілася ў Вільні, а дзяцінства і юнацтва правяла пераважна ў Дабраўлянах – велічным бацькоўскім палацы ў колішнім Свянцянскім павеце, што стане гасцінным месцам сустрэч з многімі прадстаўнікамі тагачаснай мясцовай інтэлігенцыі, мастакамі, пісьменнікамі, музыкамі (цяпер вёска Дабраўляны знаходзіцца ў Смаргонскім

[1] Пераклад гэтай часткі ўспамінаў на беларускую мову намі зроблены і рыхтуецца да друку.

[2] Гл. публікацыі апавяданняў Габрыэлі Пузыні ў нашым перакладзе ў часопісах "Маладосць", 2011, № 3 і "Наша вера", 2011, № 3.

раёне, але ад палаца цяпер засталося толькі месца, дзе ён знаходзіўся, ды капітальны мураваны масток праз роў). Пазней, у 1851 г., Габрыэля, узяўшы шлюб з Тадэвушам Пузынем, пераязджае ў ягоны маёнтак Гарадзілава (на той час Ашмянскага павета), які становіцца з таго часу і яе сталай рэзідэнцыяй. Менавіта там была напісана пераважная большасць яе твораў 1850-1860-х гг., у тым ліку і апавяданні, прадстаўленыя ў гэтай «дзеяслоўскай» публікацыі.

Мастацкі свет апавяданняў графіні Габрыэлі дазваляе адчуць водар тагачаснага жыцця ў нашым краі, гістарычныя рэаліі і сам дух таго часу. Таленавітая паэтка, *Аўтарка ў Імя Божае* і ў прозе валодае бліскучым навелістычным майстэрствам: яе сюжэты, у многім аўтабіяграфічныя, узятыя з паўсядзённага жыцця, нязменна займальныя і прывабліваюць не толькі шчырай праўдзівасцю, багаццем і дакладнасцю дэталяў, але і прыўзнятасцю над бытам, акцэнтацыяй высокіх духоўных ідэалаў. Да таго ж, яе апавяданні літаральна іскрацца жывымі дыялогамі, дасціпным і тонкім гумарам, а героі настолькі ярка выпісаны ў сваіх абліччах і ўчынках, што, нягледзячы на адлегласць часу, яны ўспрымаюцца як знаёмыя, з якімі толькі што развіталіся. А праз усю апавядальную канву праступаюць абрысы спрадвечных хрысціянскіх каштоўнасцяў, паводле якіх існаваў свет нашых продкаў у тым зацішлівым, але таксама велічным часе сярэдзіны XIX ст., калі аціхлыя званы аднаго паўстання ўжо будзілі званы наступнага.

Чым глыбей і больш я перачытваю і перакладаю творы Габрыэлі Пузыні на сучасную беларускую мову, тым больш актуальнымі і дакладнымі здаюцца мне словы Уладзіслава Сыракомлі, сказаныя пра яе ў прысвечаным ёй вершы "Званы для глухіх":

<...>
Ў благаслаўлёнай зямлі Палямона,
Ў шэрагах рыцараў слова і песні,
Вітай нам, святарка, вітай натхнёна,
Бог твае спевы ўратуе ад плесні,
А Беларусь[1] табе сэрцам аддзячыць:
І глухі пачуе, сляпы пабачыць.

І тым больш я пераконваюся ў правамоцнасці сваёй версіі, выказанай упершыню ўжо больш за дзесяць гадоў назад у шэрагу публікацый, што менавіта Габрыэля, а не хтосьці іншы, можа найперш быць той рэальнай аўтаркай цудоўнай беларускай ананімнай паэмы "Мачаха" (1850), якая схавалася за псеўданімам "Адэля з Устроні".

Пераклад чатырох апавяданняў Габрыэлі Пузыні "Заклад на талерку вустрыцаў", "Пан Дыянізый", "Ранак і вечар", "Адна з даўніх постацей Вільні" зроблены паводле выдання: Puzynina G. Małe a prawdziwe opowiadania. – Wilno, 1857.

**Ірына БАГДАНОВІЧ**

## РАНАК І ВЕЧАР

"Тады больш будзе важыць пагарда багаццямі, чым усе скарбы зямных багацеяў"...
"Там убогая хата будзе больш услаўлена, чым вялікапышны палац".

**Тамаш Кепмійскі, кніга 1, раздз. XXIV**

На працягу ўсёй зімы ў горадзе В... толькі і гаварылі, што пра багацці шамбеляна Ф. Умее жыць – хвалілі адны. Прывёз найвыдатнейшае срэбра з Парыжа. Кухару плаціць дзесяць дукатаў у месяц. А якія труфелі! Мэбля ад Гамса з Пецярбурга, дываны ангельскія і г.д., і г.д.

---

[1] У арыгінале *Літва*. Пераклад наш – *І.Б.*

Аднойчы раніцай наэлектрызаванае такімі пахваламі шматлюдная грамада, што прыбыла з вёскі, выбралася ў агледзіны гэтых цудаў. На чале дамаў была адна паважная харунжава Х. Папярэджаны пра тое шамбелян зрабіў усё для іх прыёму, але сам пажадаў застацца нябачным, паколькі асабіста ні з кім не быў знаёмы.

Швейцар чакаў каля брамы, негр сустрэў унізе; далей, нібы лесвіца Якуба, стаялі слугі ў аксамітных фраках, выстраіўшыся па абодва бакі спадзістых прыступак, пакрытых персідскім дываном. Здалося наведвальнікам, што яны ўваходзяць у царскія пакоі. Салон за салонам блішчыць ад бронзы, а колькі ў сталовай таго срэбра! Сталы ўгінаюцца ад безлічы кубкаў, талерак і кандэлябраў, выстаўленых нібы напаказ: – “Глядзіце, колькі ў мяне ўсяго!” – Мэбля, абабітая аксамітам (такога ж самага колеру, як і шторы на дзвярах і вокнах), стаіць у велізарным салоне, нібы толькі што прынесеная з крамы. Не бачна там ніякіх закуткоў, што заахвочвалі б да размовы, і ніякага неспадзяванага беспарадку, які сведчыў бы красамоўна, што за хвіліну перад гэтым тут бавіліся. Што ж здзіўляцца! Тут нежанаты гаспадар, а толькі рука кабеты, прывычнай да дробных і ўнутраных цяжкасцяў, здольная надаць салону характар і фізіяномію, а ў мёрвую мэблю ўдыхнуць жыццё, якое ёсць у ёй самой. Тут жа відаць толькі руку, якая, заплаціўшы за выбар чужога густу, не стала тлуміць сябе тым, каб расставіць сваю маёмасць. Кожны і кожная з наведвальнікаў выбірае сабе фаварытны мэблік, хтосьці дастае аловак і на адваротным баку запрашальнага білета накідвае ўзор этажэркі, якую даручыць зрабіць хатняму цесляру. Дзве паненкі сядаюць на патройны эс[1], пакідаючы трэцяе месца для нябачнай асобы, якая *нібыта* з імі размаўляе. Пані Клара заглядаецца на кошык для кветак і ўжо прыдумала зручны і танны спосаб зрабіць такі ж самы дома.

Кожны ў думках ужо часткова разабраў апартамент, але нікому не захацелася застацца ў ім жыць, нейкім холадам адтуль вее... Ідуць далей, у самую глыбіню дома, але нідзе ніякіх слядоў працы, заняткаў, нідзе хоць бы чарнільніцы для выгляду. А дзе ж канцылярыя пана шамбеляна? Аніводнай кніжкі ва ўсім доме! Ці пан шамбелян ніколі не чытае?.. Ах, вось і кніжка ў куточку на пустым століку. Аб чым жа яна? Панна Альбіна паглядзела на вокладку, не вельмі захапляльную:

– А, фі! *Трактат аб людскіх хваробах.*

– І ён гэта чытае! – усклікнула з агідай панна Вікторыя.

– Можа, ён на ўсё гэта ўжо хварэў? – дадала са спачуваннем Юльця.

– Я не дзіўлюся, што ўсё тут такое мёртвае і без жыцця, – заўважыла пані харунжава.

Спыніліся перад велічным балдахінам на ўзвышэнні ў некалькі прыступак.

– А гэта што? Можа, трон? І для каго?

– Ах, гэта ж, мабыць, ложак? – усклікнула пані харунжава, звяртаючы ўвагу на сімвал гэтага месца – пару старых пантофляў.

– Гэта ложак яснавяльможнага пана шамбеляна, – сказаў пампезны чычэроне[2] таго палаца.

– А хто ж спіць на жалезным ложку, які мы бачылі ў бакавым пакоі? – пытаецца пан Т.

– А і там мой пан яшчэ і трэці мае ложак у пакоі, дзе апранаецца, але здараецца, што спіць на матрацы, паклаўшы яго проста на зямлю.

– А навошта гэта ўсё? – здзіўлена спытала пані харунжава. – Я не думаю, каб спакойны пан шамбелян меў падставы мяняць спальні, як тыраны, баючыся нейкага начнога нападу?

– У пана шамбеляна бяссонніца, – сур’ёзна адказаў чычэроне, – і пераменай месца ён спрабуе перахітрыць сон.

– А, зразумела, гэта значыць, бяссонніца – тыран шамбеляна? Шчыра шкада

яго, што не можа знайсці ні пад балдахінам, ні на пуху тое, што кожны бедачына мае на бруку пад зорным небам, а часам на марозе.

Агляд апартаментаў доўжыўся больш за гадзіну, хтосьці згадаў, што набліжаецца час абеду. Пані харунжава была запрошана да маршалкаў М., а паколькі яна забыла дома свой гадзіннік, то зірнула на той, што быў у пакоі, а хутчэй на некалькі гадзіннікаў, пастаўленых шэрагам на адным бюро. Найпрыгажэйшы з іх, бронзавы, парыжскай работы, уяўляў сабой *Час, пераадолены геніем*. Але дарэмна было пытацца, якая гадзіна часу, стрэлкі яго стаялі непарушна. Чычэроне запэўніў, што ад моманту, як яго распакавалі, то бок каля года назад, гэты гадзіннік не быў заведзены. Ягоныя таварышы стаялі такія ж бязгучныя, як быццам сімвалы таго памяшкання.

– Ложкі без сну, а гадзіннікі без руху, – сказала пані харунжава. – Хадзем адсюль, з гэтай святыні стагнацыі. – Яна першай паклікала да выхаду, і ўсе паспяшаліся за ёй, нават не азіраючыся назад, бо перасыць была ў вачах, а голад у душы.

***

У той самы дзень сонца ўжо хілілася на захад, калі пані харунжава ў адкрытым вазку заехала па сваіх ранішніх таварышак, прапануючы ім шпацыр за горад. Яна не сказала, у які бок, але здавалася, што немагчыма ехаць кудысьці ў іншае месца, а не на Антокаль, які быў заўсёднай мэтай элеганцкіх шпацыраў. Але пры выездзе з брамы коні звярнулі ў супрацьлеглы бок – на Пагулянку.

– Вязеш нас, пані, да Закрэту? – спытала Альбіна з легкім адценнем дакору. (А вядома, што тая бязлюдная мясціна не падабаецца паненкам, бо там вельмі рэдка можна кагосьці сустрэць).

– Перапрашаю, – ласкавым голасам тлумачыла пані харунжава, – што вас вязу не туды, дзе вам было б весялей, але туды, дзе мне самой трэба быць. Але гэта будзе нядоўга і, – дадала са звыклай ёй гатоўнасцю дагаджаць іншым, – яшчэ можам пабываць на Антокалі.

Панны на тое абяцанне крыху палагаднелі, а вазок у канцы Троцкай вуліцы з’ехаў з бруку на мяккую зямлю. Якім жа мілым было гэтае адчуванне, нагадаўшае ім вёску і вясну, бо хоць яшчэ быў пачатак красавіка, ужо вакол зелянела рунь і абяцала блізкую вясну. Вазок павярнуў налева, пакідаючы справа Евангеліцкія могілкі і Пагулянскія заставы. Ехалі ўжо мяжою, дратуючы часам поле, але без усялякага сораму, бо гэта быў папар.

– Куды мы едзем? – пыталіся паненкі, неспакойна азіраючыся і ўглядаючыся ў бяскрайнюю прастору, дзе нічога не было, апрача дзе-нідзе дамка, напалову злепленага з гліны, напалову з дрэва, і вакол яго садзік яшчэ ў калысцы.

Фурман і лёкай спрачаліся наконт дарогі з частымі скрыжаваннямі. Нарэшце павозка спынілася перад варотамі і плотам, што агарожваў адзін з такіх злепленых дворыкаў, на ўваходзе ў які стаяла, запрашаючы і клікаючы: “Сюды, сюды!” – маленькая бабулька, бледная, у чорным ваўняным шлафрочку і белым, як снег, паркалёвым чэпчыку без ніякіх аздоб. У яе руцэ была панчошка, перапыняючы працу над якой, яна загаварыла радасна, але паважна і крыху праз нос, звяртаючыся да харунжавай, што павольна высядала з карэты: – “Ах, гэта мая ласкавая пані! Я была ўпэўнена, убачыўшы вазок, што гэта ніхто іншы, як мая дабрадзейка! Прашу, вельмі прашу – праходзьце, пакажу вам маю калонію”. – Зрабіўшы рэверанс паненкам, яна ішла па траве, саступаючы гасцям вузкую сцежку. Так ідучы, харунжава знаёміла сваіх маладых таварышак з гаспадыняй дворыка, паняй Маль... Перад домам на ганачку стаяла некалькі дзяцей рознага ўзросту, куртата, бедна, але чыста апранутых. Дзяўчынкі трымалі ў руках вырабы. Дамы ўвайшлі ўсярэдзіну дома.

У першым памяшканні была кухня, убраная глінянымі гаршчкамі і міскамі,

алавянымі і драўлянымі лыжкамі, расстаўленымі на паліцы. У другім пакоі стаялі кросны і калаўроты. Пані Маль... паказвала насоўкі свайго вырабу, а запас нітак у клубках абяцаў забяспечыць працу для будучых панчох. Стаяў там ложак з убогай, але чыстай пасцеллю, адгарожаны чвэрцю шырмы з некалі цудоўнай абіўкай; на сценах жа былі старыя, але прыгожыя гравюры.

За гэтым пакоем, досыць светлым і прасторным, быў трэці, доўгі і вузкі, запоўнены жанчынамі рознага ўзросту і знешнасці. Былі там маладыя, але схварэлыя, старыя, але бадзёрыя, была і гарбунка, была і сляпая, а ўсе яны былі занятыя нейкай працай і вясёлыя з выгляду. Заходзіла сонца і біла промнямі ў малыя шыбы аднаго акенца, але праца і чыстасць лепей за сонца асвятлялі той сціплы прытулак. І твар пані Маль... быў пагодны; яго асвятляў водбліск унутранага задавальнення, што ў ціхім і невядомым свету закутку яна выконвала найсвяцейшы абавязак чалавечнасці, горнучы да сябе ўбогіх і калек, удоваў і сіротаў, дзелячыся з імі сціплым кавалкам хлеба, якога, калі б яго не памнажала любоў, ледзьве хапіла б для яе самой.

– Вось гэта мае інваліды! – Сказала, паказваючы на жыхарак цеснага пакойчыка, гордая сваім убоствам гаспадыня, якую з гэтай хвіліны будзем называць адкрыта паняй Малевічавай. Бо, сапраўды, годна гэта – аб'яўляць прозвішча слаўнай асобы, заслугі якой мы ўжо раскрылі. Пачцівых людзей усе павінны ведаць, яны мусяць быць суцяшэннем для тых, хто страціў веру ў людзей, а таксама навукай і прыкладам для суайчыннікаў, якія, жывучы ў такой блізкасці да нядолі і нэндзы, не ведаюць пра іх альбо жывуць так, нібыта іх няма. Не такім было жыццё пані Малевічавай. Яна з маладосці прысвяціла сябе быць служкай і апякункай бедных. Яе ведае і памятае не адзін куточак нашага краю, бо дзе толькі была патрэба ў ахвотнай, цяжкай і бясплатнай дапамозе, усюды бачылі пані Малевічаву, заўсёды гатовую служыць бліжнім, яе не палохала колькасць патрабуючых, якіх не раз лічыла на тысячы... Ні ў чым таксама не мела нястачы ў сваім такім чынным і поўным заслуг жыцці – ані ў спачуванні прыстойных людзей, ані ў злой волі эгаістаў.

Маленькі свет, у якім жыла пані Малевічава, настолькі адрозніваўся ад таго, у якім жылі наведаўшыя яе ў гэты момант паненкі, што яны не разумелі, як мог ён так блізка з іх светам існаваць. Здзіўленым і расчуленым вокам глядзелі яны навокал – на ўбоства, такое мілае перад Богам, у той час, як пані харунжава, ужо добра абазнаная ва ўсім гэтым, размаўляла паціху з паняй Малевічавай – яна замаўляла ёй вырабы і спрыяла іх збыту.

Кіслае малако, пададзенае на ганку ў простым гладышы, перапыніла размову адных і роздум другіх. Антокаль вылецеў з галавы паненак, можа быць, нават не жадалі яны змяняць уражанняў і атмасферы, якая іх так узнёсла настроіла. Рыканне кароўкі, што пасвілася недалёка ад дома, і квактанне курэй, што дзяўблі акрушыны хлеба з падвячорка, дапаўнялі ідылію.

– Ці гэта ў цябе тая самая слаўная кароўка? – спытала з усмешкай пані харунжава ў пані Малевічавай, якая вязала сваю панчоху.

– А як жа, тая самая, – адказала яна і, звяртаючыся да паненак, дадала: – Ці дасцё веры, мае паненкі, што вунь тая чубатая курка, якая так бесклапотна дзяўбе хлеб каля вашых ножак, выседзела мне карову?

– І ў які ж гэта спосаб? – спыталі, смеючыся, паненкі.

– У самы найпрасцейшы ў свеце, як звычайная кура. Дала мне сакавіцкіх куранятак, а я іх, пад уласнай пухоўкай падгадаваўшы (і гэта коштам не адной бяссоннай ночы), занесла ў прэзент да пані графіні Л., якой якраз Бог даў унука. А тая анёльская пані з вялікай радасці, што стала бабуляй, так шчодра аддзячыла мне за маіх бедных куранятаў (яны пайшлі на булёнчык для хворай), што не толькі было за што купіць кароўку, але хапіла і на пашу для яе вясной. Будзе

ўжо пару гадкоў, як тое здарылася, кароўка расце, а хай Бог дае здароўе і па сто гадоў жыцця тром пакаленням, якія мяне ёю абдарылі.

– Дык твая курка, пані Малевічава, слаўнейшая за тую казачную з залатымі яйкамі? – сказала Вікторыя.

– А, напэўна ж, слаўнейшая, бо яна сапраўдная, а не казачная. А ці аднойчы свежыя яйкі маёй чубаткі далі хлеба для маёй грамадкі? Трэба толькі ведаць, куды і калі іх занесці.

– А воцат? – спытала харунжава.

– А, го! Пані памятае? – шапнула, смеючыся, старая. – І зараз стаіць бочачка эстрагону, але яшчэ слабы; як устоіцца, прыбуду да пані з бутэлечкай. Трэба вырабляць тое, што можна, каб усяго хапала.

Старая была невычэрпная ў сваіх апавяданнях, час ляцеў, неба ўжо сцямнела. Яна, аднак, не кідала сваёй работы і за ўсім уважліва сачыла.

– Паненкі глядзяць на садзік? Там яшчэ нічога няма, але будзе, – дадала з гордасцю. – Вунь на тых, ужо ўскапаных градках пасаджу картоплю на аплату найму доміка, па тым баку – лён на пражу для маёй гарбункі, буракі і капуста – гэта нашая на ўвесь год спіжарня, а рэпа і морква пойдуць на продаж, каб мая сляпая мела цёплую чуйку[3] на зіму.

---

Пані харунжава дала знак паннам. А калі, развітаўшыся з паняй Малевічавай, яны ўсаджваліся ў вазок, пачулі, як тая звярнулася да сваіх дзяўчынак:

– Ну, дзеці, кідайце панчохі ды памажыце мне на градках. Бог жа ва ўзнагароду за вашу працу дасць вам добры апетыт за вячэраю.

Спачатку ў вазку, які вяртаўся ў горад, трывала доўгае маўчанне, першай яго перарвала пані харунжава:

– Адкажыце мне, чаму нам так не хацелася адтуль выязджаць, тады як мы так ахвотна выносіліся з палаца шамбеляна?

– Ах, сапраўды, гэта ж сёння мы былі і ў шамбеляна, – усклікнула Альбіна. – Якая ж розніца паміж ранкам і вечарам! Які непадобны свет!

– Калі б тут жыў шамбелян, – весела сказала харунжава, – не было б дзе яму размясціць сваіх чатырох ложкаў, дык мусіў бы спыніцца на адным і, кажу вам, што заснуў бы адразу.

– Асабліва, – дадала Альбіна, – калі б яго пані Малевічава засадзіла за кудзелю. Дай Божа самых малых дамочкаў на свеце!

– Гэта толькі прадузятасць, – запярэчыла Вікторыя (якая мела слабасць да палацаў). – Адзін шамбелян не прадстаўляе ўсіх. У пані харунжавай таксама пекнае жытло, аднак жа на бяссонне яна не скардзіцца! І нікому ў яе доме не нудна!

– Гэта праўда, – сказала харунжава. – Але калі так яно ёсць, то, можа, уласна таму, што, папярэджваючы зло, па сон і па апетыт выязджаю часам за горад, як сёння.

*У Гарадзілаве, 1855 г.*

## ПАН ДЫЯНІЗЫЙ

*Ахвотнага даўцу Бог мілуе.*

– Куды вы, пані, спяшаецеся? Яшчэ тут ёсць каго наведаць! – усклікаў, бегучы за квестаркамі[4], іх таварыш, бачачы, што тыя выходзяць за браму і на вуліцу.

Яны спыніліся.

– Дык мы ж былі ўжо напаверсе, і ў дзядзінцы, і нават на паддашшы, – адказала старэйшая квестарка, не рухаючыся з месца.

– А ўнізе? Пані забыліся, што мы там яшчэ не былі.

– А хто ж там жыве? – спытала маладзейшая квестарка, яўна сястра першай, але незамужняя, таксама з тайстрай і торбачкай, павешанай на руку. – Можа, нічога нам там не дадуць, а хмары збіраюцца, да дому далёка, трапім у залеву.

– Значыць, зараз і залева! – весела сказаў другі таварыш, хударлявы і малады. – Ды што гэта за хмара? *З вялікай хмары малы дождж.* Неба ў гэтым падобнае да паняў... якраз таму, што пагражае, буры не будзе.

– Самы час для алегорый! – страчваючы цярпенне, усклікнуў пан Альфонс. Ідучы наперад і цягнучы за сабой пад прымусам усю квестарскую кампанію, ён ізноў увайшоў праз браму на дзядзінец, потым у сенцы і бесцырымонна пастукаў у сціплыя дзверцы. Яны адчыніліся.

У дзвярах паказалася пастрыжаная бялюткая галава, у кантрасце з якой былі хуткія быстрыя вочы і здаровы колер твару.

– Ах, гэта пан Альфонс! – усклікнуў стары, а, заўважыўшы ў тую хвіліну квестарак: – Прашу, прашу! – дадаў ветліва, крыху фамільярна, але пачціва, і, расчыніўшы дзверы шырэй, упусціў дамаў у сціплы пакой.

– Мы з вамі ў прадстаўніка былога Віленскага ўніверсітэта, – сказаў пан Альфонс, паважна паказваючы на гаспадара.

Пані М. зірнула раз, другі і гаворыць:

– Але мы добра знаёмыя, гэта ж пан Дыянізый, які быў ласкавы паказаць нам у мінулым годзе ва ўсіх дэталях *Аддзел Дабрачыннасці*?

– Так-так, гэта я самы, пані дабрадзейка, – усклікнуў узрадаваны гаспадар. Бо ўваходжу ў склад сяброў Дабрачыннасці.

– І дзейсных, – дадаў са значэннем пан Альфонс.

– *Je crois que nous gunons ici?*[5] – шапнуў дамам пан Густаў. На самой справе ўсё там, за выключэннем карцін на сцяне і асобных прадметаў дыхтоўнай мэблі, сведчыла пра беднасць, несеную з годнасцю. Дамы хацелі ўжо вяртацца, але пан Альфонс, які быў, як відаць, у добрым сяброўстве з гаспадаром, дбаў, каб той прадставіўся ў найлепшым святле. А паколькі дождж ліў як з вядра, панна Альбіна паглядзела на пана Густава і сказала:

– Ну, і хто выйграў?

Пані М. была ўстрывожаная, бо экіпажу не было відаць.

– Вы, мае дарагія, у аблозе! – усклікнуў стары са шчырай радасцю. Не асмеліўся б ніколі затрымліваць вас у сябе, але цяпер, калі мне і неба памагае, прашу садзіцца. Чым хата багата, тым будзе рада забавіць.

І пачаў адчыняць камоды і шафкі, а з шуфлядаў і скрыначак даставаць розныя ракавіны, каменне, петрыфікацыі і нават зуб мамната, і, што было яшчэ больш займальным, розныя памятныя рэчы па сваіх выдатных прафесарах былога ўніверсітэта. Былі гэта акрушыны даўняй славы, абломкі той вялікай для Вільні эпохі, якой і сам пан Дыянізый быў сведкам і сучаснікам стольніх вучоных, разумных, заслужаных людзей, ужо разабраных смерцю альбо чужымі Акадэміямі. Ён жа яшчэ заставаўся, адзіны са сваёй любоўю, пакланеннем і ўдзячнасцю тым часам, памятным не толькі ў Вільні, але і ва ўсёй Літве...

А ў гэты час пан Альфонс рабіў метэаралагічныя доследы, назіраючы праз акно за развіццём залевы, якая пачынала суцішвацца. А паколькі Вільня мае тую вялікую перавагу і выгоду перад іншымі гарадамі, што праз хвілін пяць пасля наймацнейшага дажджу ані следу не застаецца на бруку, на прапанову, пададзеную панам Густавам, квестарская каманда была ўжо гатовая да выхаду.

Гаспадар з жалем развітваўся са сваімі гасцямі, на тайстру дамам паклаў некалькі злотых ахвяры, а квестаркам і квестарам ахвяраваў па экземпляры брашуры над назвай *"Статут дому Дабрачыннасці"*. Калі наша кампанія, праведзеная і пажагнаная панам Дыянізыем, выходзіла з брамы, на рагу вуліцы паказалася карэта пані М., і гэта было вельмі дарэчы, бо час абеду даваў сябе адчуць вельмі моцна, а дом быў

далёка. Пані М. запрасіла сваіх таварышаў ехаць разам, што было прынята без пярэчання, таму што гадзіна абеду ў тракцірах даўно мінула, і для кавалераў, не маючых свайго гаспадарства ў горадзе, сённяшні абед быў вельмі праблематычным.

Едучы так учатырох, наколькі дазваляў брук, размаўлялі ўсе разам пра пана Дыянізыя.

– Які ж сардэчны гэты стары, – сказала першая панна Альбіна.

– О! Так і ёсць, пані сказала вялікую праўду, – усклікнуў пан Альфонс. – Сэрца гэтага чалавека – светач і крыніца, адкуль выплываюць усе яго ўчынкі.

– Я чула, што ён мае талент дапамагаць нават і багацейшым за сябе, – сказала пані М., – што заўсёды гатовы на паслугі іншым, і хоць заўсёды ён заняты, мае час на ўсё.

– Відаць, ён не эгаіст? – дадала запытальна Альбіна.

– Слушна, пані, гаворыш, – падхапіў пан Густаў. – Нішто так і столькі не забірае часу, як пастаянная думка аб сабе.

За абедам размаўлялі зноў пра пана Дыянізыя.

– Сорамна мне прызнацца, – сказала першая гаспадыня дому, – што хоць я з дзяцінства жыву ў Вільні, слухаю ўвесь час пра пана Дыянізыя, нават сустракаю яго часта на вуліцы як мясцовы тып, аднак жа не ведаю дакладна, ці літвін ён?

– Калі так, – азваўся пан Альфонс, – то я, прыбыўшы ў Вільню з-за Дзвіны, скажу пані, што пан Дыянізый насамрэч ёсць літвінам – найперш таму, што прозвішча яго канчаецца на *-віч*, і, нарэшце, што родам ён са Слонімскага павета.

– А я дадам, – далучыўся да размовы з усмешкай пан Густаў, – што пан Дыянізый служыў у войску, і гэта не за цяперашнім часам.

– Я аб гэтым ведала што-кольвек, – сказала пані М., – бо яго неаднойчы ў маёй прысутнасці называлі ўланам.

– Каб гэта зразумець, досыць раз на яго зірнуць, – заўважыў пан Густаў.

– І паслухаць, – дадаў з усмешкай пан Альфонс.

– Насамрэч, – працягвала пані М., – ёсць у ім бесцырымоннасць, але пры гэтым і галантнасць старога жаўнера ў стасунках з дамамі, а разам з тым і шыкоўнасць рухаў, якую толькі ў войску можна набыць.

– Ён жа яшчэ не вельмі стары? – спытаў пан Густаў, звяртаючыся да пана Альфонса.

– О-хо! Капа гадкоў з чубам! – адказаў пан Альфонс. – Бо ён жаўнер з 1812 года.

– Хто б мог падумаць? – здзівілася панна Альбіна.

– Бо ён яшчэ з тых людзей, што доўга ўмелі быць маладымі, – адказаў пан Альфонс, дасведчаны ў біяграфіі свайго прыяцеля. – Пан Дыянізый служыў у палку генерала Канопкі, потым удзельнічаў у баях пад Лейпцыгам і на Рэйне, дзе доўга жывіўся адной канінай, пехатою, але зважайце, спадарства, пехатою... прыйшоў назад у Вільню, дзе закончыў свае навукі, перапыненыя вайной. Пасля гэтага быў нейкі час школьным настаўнікам у Слуцку і зноў вярнуўся ў Вільню. Далучаны да ўніверсітэта як правадзейны член, штодня здабываў сабе новых сяброў, выкарыстоўваючы для агульнага дабра свае прыроджаныя станоўчыя якасці...

– Перапрашаю, што перапыняю, – азвалася пані М., – мне прыгадаўся эпізод, можа, невядомы нават і пану. Праз некалькі гадоў пасля скасавання ўніверсітэта ў Вільні было загадана вывозіць у сталіцу дзяржавы тыя славутыя кабінеты, калекцыі і бібліятэку, якімі слушна ганарылася наша Акадэмія. Што ж робіць пан Дыянізый, які на той час быў ужо без месца, замест таго, каб думаць аб сабе і над сабой плакаць? Ён збірае моладзь, што вучылася тады ў гімназіі, і ў часе канікул, у нядзелі і святы праводзіць іх па залах былога ўніверсітэта, тлумачыць і паказвае ўсё. Апавядае, чым быў раней Віленскі ўніверсітэт... А гэта з такім запалам, з такой расчуленасцю, што немагчыма было паверыць, каб тая моладзь,

слухаючы яго словы, гледзячы на такія шчырыя слёзы, не адчула ў сабе хоць частачкі таго запалу і жалю, каб хоць адзін сярод многіх не запомніў той хвіліны. Не абмяжоўваўся ён паказам таго, што было багаццем, болей дбаў аб тым, што складала добрасумленную славу і гонар універсітэта. Згадваў ён імёны тых славутых людзей, галасы якіх яшчэ не змоўклі (!) сярод цвілі паважных сцен. Ідучы па калідоры каля памяшканняў, ужо, на жаль, пустых, затрымліваўся перад дзвярыма, гаварыў ціха, нібы баяўся абудзіць заснулае там рэха, і распавядаў вучням: "*Тут было памяшканне Снядэцкага – Тут пакоі Малеўскага – Тут Фомберга...*"[6]. – Здавалася, што сын адведвае дом, у якім жылі некалі яго бацькі, і шануе ў ім усё, нават пыл, нацярушаны часам!

– Дзякую, пані, – сказаў пан Альфонс. Сапраўды, я не ведаў гэтых дэталяў, якія давяршаюць вобраз майго сябра. Ведаў я толькі, што яго называлі добраахвотным, нястомным і бескарыслівым чычэронам[7] горада Вільні, які дапамагаў усім, хто прыязджаў і каму было цікава даведацца, што ў Вільні варта пабачыць і дзе пабываць з пункту гледжання гісторыі і мастацтва. Пан Дыянізый не абмяжоўваецца тым, каб правесці і патлумачыць па парадку даты і назвы мясцовых паданняў, але робіць гэта з такой душой, з такім сэрцам, з такой расчуленасцю, што мёртвыя муры, халодныя валуны і нямыя карціны ажываюць і прамаўляюць праз яго пачцівыя вусны.

– Але ж які ён цікавы чалавек! – сказала Альбіна, – ведаеш што, – дадала, звяртаючыся да сястры, – калі б мы выбраліся як-небудзь пад кіраўніцтвам пана Дыянізія ў вандроўку па лёхах, дахах і касцёльных вежах, было б цудоўна! – Але, але, – спытала праз хвіліну, – які ж фундуш у пана Дыянізія? З чаго ён жыве?

– Гэта праблема, – адказаў пан Альфонс. – Гэта задача, адказ на якую можа даць толькі Евангелле: а*б размнажэнні хлеба ў пушчы*. Пан Дыянізый мае толькі 120 р.[ублёў] с.[рэбных] ад ураду гадавога сталага даходу, а ведаеце, мае дарагія, што ён робіць, каб яму хапала?

– Ходзіць на абед да прыяцеляў, – сказаў з ухмылкай пан Густаў. – Не бачу іншага спосабу.

– Не адгадаў, дружа! Пан Дыянізый раздае палову той сумы бяднейшым за сябе, нібы гэта найлепшы банк.

– Аднак, – запярэчыў ізноў пан Густаў, – літаральна гэта не можа павялічыць яго даходаў?

– Напэўна, што не, але за ўбогіх Бог плаціць. Дык вось пан Дыянізый вяртае сваю пазыку манетамі заўсёды моцнага здароўя, добрага настрою, свабоднай думкі і той нястомнай ахвоты служэння іншым, якая яму ўзаемна прыносіць любоў людзей. Хіба ж гэта не найвыдатнейшыя працэнты?

– Сапраўды! – згадзіліся абедзве сястры.

– Трэба яго бачыць, як я сам яго неаднойчы бачыў, – працягваў далей пан Альфонс. – Пачцівы Дыянізый лічыць міласціну абавязкам, неабходным падаткам з людзей для людзей, і пры гэтым зусім не хаваецца са сваёй дабрачыннасцю, аднак і не выхваляецца ёй. І такім чынам, калі ўжо аддасць усё да апошняга медзяка, – бо трэба ведаць, што ўбогія плывуць да яго з найвялікшай верай, што заўсёды нешта для іх знойдзецца, – калі ён гаворыць, што ўжо ані граша няма ў шуфлядзе, што ж робіць мой дабрадзей? Дае гэтаму кавалак цукру, гэтаму дробку гарбаты, гэтаму апошняе палена. А калі халодна ў пакоі, апранае плашч і так сядзіць у доме, спяваючы жаўнерскія песенькі і ўспамінаючы, як яму было на Рэйне, калі еў каніну як адзіны прысмак і не меў даху... А таму цяпер за дах Богу дзякуе!

– Дабрадзей! – прамовілі расчуленыя дамы.

– Але ж ён сапраўдны філосаф! – усклікнуў пан Густаў.

– Тым сапраўднейшы, што не друкуе філасофскіх трактатаў і кожнаму зразумелы, – сказала Альбіна.

– О не! – запярэчыла пані М. – Калі б ён быў зразумелы, меў бы больш паслядоўнікаў. Падобна, што, наадварот, большая частка жыхароў Вільні яго не разумее і зусім іначай тлумачыць філасофію слаўнага пана Дыянізыя!

– Ці спаткаў ён удзячныя сэрцы? – спытала панна Альбіна.

– Гэтага я не ведаю, – адказаў пан Альфонс. – Мне здаецца, што пачцівы Дыянізый не надае гэтаму асаблівага значэння, ён дае, ідучы заўсёды наперад, і добра робіць. Удзячнасць бывае дваякая, ёсць удзячнасць у словах, ёсць удзячнасць у дзеянні; і з той апошняй сустрэўся наш пачцівы пан Дыянізый. Што да яго кожны бедны прыходзіў з большым даверам, чым да багача, гэта лёгка зразумець. І аднойчы (было тое больш за дзесяць гадоў назад) прыйшоў да яго малады студэнт, прыгадаўшы, што яны знаёмыя. Пан Дыянізый бачыў у сваім жыцці столькі маладых твараў, што не мог адразу яго пазнаць. Малады чалавек назваўся. Ён быў са Слуцкага павета, быў некалі яго вучнем, адчуў у сабе вялікую прагу і пакліканне да жывапісу, жадаў ён трапіць у Пецярбург у Акадэмію *Прыгожых Мастацтваў*, але не меў ані грошай, ані пратэкцыі, дык, можа, яму былы яго прафесар дапаможа?!. Пан Дыянізый, на шчасце студэнта, быў у той дзень пры грашах, меў аж 11 рублёў, і, як другі Святы Марцін, які палову плашча аддаў беднаму, ён паловай сваёй сумы падзяліўся з былым вучнем. Паверыў у яго прыстойнасць і ў яго пакліканне па вачах і па голасе, у якіх не было фальшу; нават даў студэнту шэсць рублёў, пакінуўшы сабе толькі пяць. Да гэтага далучыў рэкамендацыйны ліст да аднаго са сваіх знаёмых і з добрымі пажаданнямі пусціў у свет маладога мастака. Што пані на гэта скажуць? Што дадзенае ад сэрца, мусіць мець у сабе дзіўную моц размнажацца... Той студэнт трапіў у Пецярбург з тымі шасцю рублямі. Як і калі? Невядома. – *Хацеў, значыць мог.* – Ліст дапамог таксама. У хуткім часе малады чалавек быў ужо ў Акадэміі, а паколькі талент меў сапраўдны і ахвоту не выдуманую, быў залічаны неўзабаве да вучняў скарбовых, цяпер ездзіць па Італіі за кошт ураду. Але памятае пра свайго дабрачынцу, прыслаў яму з Рыма абразок (пейзаж, намаляваны на паперы), у цэлым ладны. Вось гэта ёсць адзіная ўдзячнасць, якой прагне пачцівы чалавек, то бок: *добрага выніку сваёй міласціны для таго, каму ён дапамог.*

– Ці ведаеце, пані, якая ў пана Дыянізыя ёсць прымаўка? Прынамсі, які афарызм ён ужывае найчасцей? – пытаўся далей пан Альфонс.

– Я ведаю, – адказала пані М., – бо не раз чула, як ён паўтараў: *Bien vivre pour bien mourir*[8]. І слушна ўзяў гэта за прынцып, бо кожнай хвілінай свайго жыцця зарабляе на шчаслівую смерць.

***

Гэты кароценькі, беглы эскіз – цень чалавека, які дагэтуль жыве сярод нас, аб якім не ўсе ведаюць нават у Вільні, а з тых, хто з ім знаёмы, можа, не кожны яшчэ ацаніў, чаго ён варты... Хацелі мы пазнаёміць з ім блізкіх і далёкіх, пакуль ёсць час, пакуль у чытачоў, што даведаліся пра яго, будзе магчымасць скарыстацца з гэтага годнага знаёмства. Ведаю, што сціплаць жывога чалавека будзе абражаная прыўзняццем заслоны, якая хавае яго ад людзей, але ўлічваю агульную думку, згодную з маёй, паводле якой, відавочна, шкада бывае даведацца пра годнага чалавека тады, калі яго ўжо няма сярод нас. Беручы гэта пад увагу, можа, і шаноўны пан Дыянізый прабачыць мне маю сяброўскую здраду.

*28 сакавіка 1856 года*
*ў Гарадзілаве.*

# ЗАКЛАД НА ТАЛЕРКУ ВУСТРЫЦАЎ

*Насіў воўк авечку, панеслі і ваўка...*

За цараваннем Напалеона ў Парыжы нарадзілася мода на містыфікацыі і з пачаткам бягучага веку прышчапілася ў вышэйшым варшаўскім свеце. Не задавольваліся штохвілiннымі розыгрышамі або нявіннымі жартамі, як гэта дасюль практыкуюць у шматлікіх і дружных сем'ях; не такімі былі містыфікацыі таго часу! План іх быў звычайна добра прадуманы, драма разыгрывалася часта на працягу некалькіх тыдняў, а развязкай жарту, заўсёды занадта далёка пасунутага, быў найчасцей сапраўдны паядынак.

На чале падобных нібыта нявінных забаваў стаяла старастава В., якая ўсім здавалася прыгожай і разумнай, бо была з высокага роду і вельмі багатая. Вынятая з гэтых рамак, якімі лёс абрамляе сваіх улюбёнцаў, пані В. папросту была б агіднай і, што яшчэ горш, зласлівай істотай, але свет, уведзены ў зман яе становішчам, называў жартам тое, што было з'едлівым здзекам, а сам яе жарт быў да такой ступені завостраным, што працятыя вастрыём гэтай дзіды доўга-доўга не маглі загоіць нанесенай ім дзеля забавы раны... Але хто ж зважае на пераможаных пры новых трыумфах, пры новых і добраахвотных ахвярах?..

Адным з найшчырэйшых рыцараў той пані быў граф Вацлаў Ж. Ён за сваю любоў, за сваю адданасць і пакорлівасць быў заўсёды аб'ектам кпінаў і насмешак. Старастава В. любіла жартаваць не толькі з людской слабасці і смешнасці, але нават з цнотаў і годнасці, а паколькі граф Вацлаў, нягледзячы на свой розум і адукацыю, быў заўсёдным рабом уласнага сэрца, таму найчасцей за іншых трапляў у сеткі, спрытна расстаўленыя легкадумнай кабетай. То нейкая здань у белым штовечар блукала па садзе, завастраючы цікавасць і запальваючы ўяўленне маладога летуценніка, а таемна перададзены ліст паведмляў пра нешчаслівае становішча *той ахвяры забабонаў і кахання*! Пачцівы Ж. станавіўся на абарону пераследаванай, а калі ў выніку доўгіх стараннях, не раз коштам бяссоння, ліхіх прыгодаў і грошай, уладжваў вызваленне беднай гераіні, у момант выкрадання ў садзе пры месяцы цэлая кампанія са стараставай на чале, схаваная за дрэвамі, гучным смехам і ўказаннем на рэальнасць развейвала прыгожыя мары маладзёна, а тая цікавая гераіня аказвалася пераапранутым мужчынам.

Іншым разам пан Вацлаў, запрошаны на вечар да пані старастывы, знаходзіў у яе нейкага дужа арыгінальнага чужаземца, які аб'ездзіў увесь свет; пазнаёміўшыся з Вацлавам, той расказваў дзіўныя рэчы і так неміласэрна трызніў, што пан Ж., які добрасумленна вучыўся і быў глыбока адукаваны, не мог яго без абурэння слухаць. Пачынаюцца ўзаемныя прэтэнзіі, нарэшце, гарачы дыспут, да якога падбухторвае сама старастава, дадаючы агню то аднаму, то другому боку; а калі пан Вацлаў, закрануты за жывое, пачынае перабіраць меру, зноў гучны смех гаспадыні выкрывае ўсю праўду: той пан вандроўнік – несапраўдны, і ўвесь спектакль быў наўмысна разыграны. Бясхібным і беспамылковым вынікам падобных сцэн было прыніжэнне абаламучанага і падвышэнне вясёласці і трыумфу старастывы. Пазірала на ўсё гэта з абурэннем шаноўная свякроў той пані, ваяводзіна В., і неаднойчы звяртала ўвагу нявесткі на непрыстойнасць падобных жартаў, якія адбываюцца коштам знявагі іншых. Смяялася злаславая старастава з тых заўваг, пагарджаючы перасцярогамі свякрові, якую паміж сваімі называла *буркліўкай*.

– У чым я вінаватая? – гаварыла не раз у сваю абарону, – хто ж іх прымушае верыць? Чаму даюць сябе абдурыць? Няхай будуць больш асцярожнымі...

– Але, мая каханая, – адказвала матрона, – цяжка ж не верыць таму, што бачаць і чуюць у пачцівым доме, хіба ўжо быць да такой ступені падазронымі, што ні ўласнаму бацьку, ані ўласнай матцы не верыць?

– А як жа бавіцца? – усклікала зноў тая. – Што ж кепскага станецца тым панам, калі я з іх троху насмяюся? Жывуць яны, ядуць і п'юць, як і раней!

– Дык ты за нішто лічыш прыніжаную годнасць? Ці была б ты рада, каб з цябе падобным чынам хто пажартаваў?..

– Няхай спрабуюць! – пыхліва адказала старастава.

– Тваё становішча, – заўважыла свякроў, – і твой пол служаць табе шчытом; занадта спадзяешся, што ніхто не насмеліцца з цябе пажартаваць.

– Дык, насамрэч, – дазваляю, прашу! – усклікала штораз з большай самаўпэўненасцю нявестка.

– І не будзеш гневацца на нас, калі ў нас атрымаецца?

– Не, яшчэ і падзякую, але ведаю, што нічога ў вас з гэтага не будзе, гатовая пабіцца аб найвялікшы заклад, хоць бы ў тысячу дукатаў!

– Нашто ж так шмат, пані сыновая! Досыць будзе і талеркі вустрыцаў для кампаніі ўсіх тых, каго ты ўвяла ў зман у сваім жыцці.

– *C'est charmant*![9] А што мне дасцё, калі я выйграю?

– Не гавары гоп, пакуль не пераскочыш! – сказала з усмешкай свякроў.

– Скажу *гоп* і *tope la*[10]! – прамовіла старастава, падаючы ручку ваяводзіне. – Дамова заключана, толькі прашу не марудзіць, бо я паміраю ад цікавасці, як вы патрафіце без мяне штосьці прыдумаць!..

Старастава была такая ўпэўненая ў сваім розуме і такой нікчэмнай думкі была аб розуме свякрові *et compagnie*, што ніколькі не сумнявалася ў сваім выйгрышы. Аднак на працягу некалькіх тыдняў трымалася асцярожна, доўга прыглядалася да кожнага канверта перад тым, як адкрыць яго і дастаць ліст; адсылала з парога беднякоў, нават не даведваючыся пра іх патрэбы; не радавалася і не выказвала жалю ні з якой навіны; клалася і ўставала, увесь час баючыся, ці не загрукае штосьці, ці не выскачыць адкуль, каб яе напалохаць; усюды яна бачыла здраду, дзе яе не было. Так прайшлі лета і восень. Здавалася, што ваяводзіна забылася аб закладзе або сумняваецца ў выйгрышы. Старастава ўздыхнула з палёгкай. Такое жыццё пачынала яе мучыць, але яна ні разу не ўзгадала, што такім жыццём абдорвала ўсіх навакол сябе.

Пачатак зімы заўсёды бывае нудны ў горадзе – ці ў выніку прастудаў, ці з-за падрыхтоўкі да карнавальных забаваў; хоць горад будзе поўны людзей, усе сядзяць, як мармылі, у сваіх дамах, пасля 10 гадзін не бачна ўжо святла ў вокнах, а паколькі чаканне забаваў – яшчэ горшая нудота, чым іх суцэльная адсутнасць, паўсюль давала сябе адчуць тая туга па навінах, якой жыхары вёсак амаль ніколі не ведаюць. Падобным чынам маркоціліся і сумавалі ў гатэлі старастаны; цэлымі доўгімі вечарамі яны сядзелі ўдзвюх са свякроўю, але нудзілася толькі нявестка, бо матрона, заглыбленая думкамі ў мінулае і занятая сваім вязаннем, не звяртала ўвагі на нудоту і не сумавала па навінах.

– Але ж памерці можна з нуды ў гэтай абрыдлай Варшаве! – прамовіла, пазяхаючы, старастава, вырываючы нітку з сеткі. – Хай бы хоць хто-небудзь з'явіўся з нейкай навінай ці хоць бы чуткай... але глуха ўсё, як у гаршчку!

Зацокала ў браме, уехала нейкая павозка. Неўзабаве адчыніўся перадпакой, і ў салон увайшоў без папярэдняга паведамлення, але пані кіўнула, што прымае, знаёмы нам граф Вацлаў.

– А вітайце! Ах сядай, мілы госцю! Што за радасць бачыць людскі твар! – усклікала старастава, сыплючы пяшчотамі свайму адаратару, які, хоць тысячу разоў трапляў у пастку, за найменшым ласкавым слоўкам вяртаўся да Сірэны. Ведала сваю ўладу старастава і таму ёй злоўжывала, але гэтым разам на твары пана Вацлава малюецца нязвыклы выраз: замест позірку, што сведчыў пра гатоўнасць паспяшаць на паслугі да сваёй багіні, крыецца ў яго вачах нейкая таямніца і ўпэўненасць у сабе, якая інтрыгуе, а, можа, і гневае стараставу.

– Ты штосьці ведаеш і штосьці хаваеш, пане Вацлаве? – заўважыла яму тонам, у якім чуўся дакор. – Зараз жа кажы, пан, з чым прыйшоў?

– Прыйшоў засведчыць паням маё шанаванне.

– Гэта само сабой, але штосьці ведаеш і не хочаш гаварыць! Папярэджваю, што са мною дарэмныя таямніцы... я зараз сама ўсё адгадаю!

– Ну дык тым лепш, адгадвай, пані!

– Ты нязносны! Мне сумна, я хачу навінаў, а пан са мной дражніцца!

– То хлеб адданы, – прамовіла ваяводзіна.

– Вось чалавек, які мне адпомсціць! – усклікнула, смеючыся, старастава, і гэта быў такі смех, які пані Генліс[11] слушна называла *весялосцю белых зубкаў*. Зубкі старастава былі досыць вялікія і рэдкія, але, паколькі старанна дагледжаныя, былі белыя і, паколькі ёй належалі, лічыліся пекнымі.

– Не дражні яе болей, пане Вацлаве, – паважна сказала свякроў. – Калі маеш якую навіну, дык гавары хутчэй.

– Ахвотна б тое зрабіў, але пані мне не паверыць, накрычыць, насмяецца!

– О не, не! – запэўніла старастава, – я так занудзілася, што буду паблажлівая.

– Ну дык вось, – прамовіў пан Вацлаў, – іду я з аднаго дома, дзе мне расказалі пра дзіўнага чалавека, які з'явіўся ў Варшаве.

– Што, можа, які дзікун? Можа, велікан?

– Не-не, гэта чарнакніжнік.

– Што яшчэ зноў за байкі? – азвалася ваяводзіна.

– Але запэўніваю паняў, што так і ёсць, прынамсі так мне расказвалі! На публіцы ён яшчэ не з'яўляўся, але дае прыватныя аўдыенцыі, што вельмі абвострыла цікавасць нашых дам, яны ездзяць да яго пад найвялікшым сакрэтам, каб урад пра тое не даведаўся і не загадаў яму выехаць з горада.

– Гэта доказ, што ён ашуканец, – уставіла ваяводзіна, якая не любіла забабонаў.

Старастава слухала ўважліва і вельмі задумалася.

– Дзіўныя рэчы прадказвае і расказвае той чалавек, – далей апавядаў граф Вацлаў. – Мінулае і будучае ён бачыць як на далоні, а што прадказвае, а якія паказвае цуды! Ці чула пані пра нашу княгіню Y*?

– А як жа, і пра яе нібыта падарожжа ў Італію ў мінулым годзе?

– Менавіта так, і той чарнакніжнік расказаў ёй усё з такімі падрабязнасцямі, што бядачка выйшла ад яго бледная і ў такім жаху, нібы ўбачыла прывід уласнага мужа.

– *Mais c'est charmant*![12] – усклікнула ўзрадаваная старастава, запальваючыся па меры таго, як свякроў выступала супраць і не верыла. Праз хвіліну, змеркаваўшы, зрабіла выгляд, што і яна не верыць, перавяла размову ў іншы бок, і здавалася, што зусім пра чарнакніжніка забылася.

Калі пан Вацлаў развітваўся, старастава наўмысна ўпусціла насоўку, а падняўшаму яе Вацлаву шапнула: "Заўтра зранку а дзявятай перад малой лесвіцай".

Узрадаваны граф Вацлаў з'явіўся назаўтра ў прызначаны час і месца. Старастава чакала яго ў вабным дэзабільe[13], якое мелася прыхаваць яе занадта выпуклыя плечы.

– Ах! – усклікнула яна, убачыўшы яго, – хацела паразмаўляць з панам без маёй свякрові, іначай галасу было б і буркатні на цэлы тыдзень. Нарабіў мне пан бяды з гэтым чарнакніжнікам, цэлую ноч я не заплюшчыла вачэй. Мушу абавязкова яго пабачыць!

– Гэта немагчыма! Ён не выходзіць.

– Дык я да яго паеду, каб толькі ніхто аб тым не ведаў.

– Гэта яшчэ цяжэй, экіпаж пані ведаюць ва ўсім горадзе.

– Ну дык няхай пан мяне пехатою правядзе.

– І гэта немажліва, той чарнакніжнік жыве далёка, на прадмесці, а потым... яе зграбнасць, яе хада... пані раскрые сваё *інкогніта*.

– Нязносны, пан, ты са сваімі цяжкасцямі! Пакінь гэта мне, я здолею ўвесці ў зман, калі аб тым ідзецца.

Калі яна так гаварыла, яе чорныя вочы шпурлялі такі агонь, што, аслеплены тым бляскам, Вацлаў апусціў свае і сказаў:

– Сонца і за хмарамі свеціць!

– Дык паеду ноччу! Даверуся цалкам пану, – дадала з удзячнай усмешкай, падаючы яму белую, выпешчаную, хоць і не ідэальнай формы ручку. – Карэта без гербоў, слугі незнаёмыя, разумееш, пан?..

– Зраблю так, як пані хоча і кажа, – адказаў Вацлаў, – толькі не сёння, бо ўжо запозна! Мне трэба дамовіцца з чарнакніжнікам, а ён, як я казаў, жыве вельмі далёка.

Старастава выбегла ў суседні пакой, адкуль вярнулася з кашальком, поўным золата:

– Вазьмі, – сказала графу, – гэта для чарнакніжніка, колькі ён запатрабуе, і на найманне карэты.

Граф пацалаваў ручкі, узяў грошы і выбег з пакоя. Цэлы дзень старастава была ў гарачцы, якую хавала, дзякуючы сіле волі і майстэрству прыкідвацца. Свякроў заўважыла яе неспакой і задумлівасць і часта ўзнімала вочы на нявестку ў часе абеду і вязання, але хітрая старастава прытворнай весялосцю старалася зблытаць здагадкі старой кабеты.

Вечарам прыйшоў граф Вацлаў і, гаворачы пра нейтральныя рэчы, адмыслова ўжытымі выразамі даў зразумець, што ўжо ўсё гатова на заўтра.

Якая ж гэта была ноч для старастравы! Прагнула як найхутчэйшай размовы з чарнакніжнікам, аднак і баялася яе. Супакойвала яе толькі таямніца, якую закаханы граф Вацлаў абяцаў ёй зберагчы. А сама яна так здолее замаскіравацца, што яе і сам Вацлаў, напэўна, не пазнае. Ён павінен быў сам прыбыць па яе, але запіска, атрыманая раніцай, паведамляла, што той асцерагаецца сваёй прысутнасцю выдаць *інкогніто*, а таму прышле толькі карэту а пятай гадзіне.

За абедам старастава нічога не ела. Устаючы ад стала, пайшла да сябе, кажучы, што ёй нядобра, што ўвесь вечар праляжыць. Ваяводзіна ахвяравалася сядзець пры яе ложку, але старастава настойліва яе прасіла не рабіць сабе такога клопату і, вызваліўшыся ад пільнай варты, пачала спрытна пераапранацца.

А пятай гадзіне нанятыя рамізнік і лёкай стаялі ўжо каля брамы. Старастава спусцілася бакавой лесвіцай і села ў карэту ў маўчанні, бо фурман меў інструкцыю, дадзеную графам Вацлавам. Доўга-доўга старастава ехала знаёмымі вуліцамі, а потым карэта павярнула ўбок; усё ніжэйшыя ліхтары і ўсё горшы брук сведчылі, што гэта было прадмесце.

“Як жа далёка ён жыве!” – гаварыла яна сама сабе, валюхаючыся ў карэце і не зважаючы на яе ўбогасць у параўнанні з абшытымі аксамітам экіпажамі, якімі звычайна ездзіла.

Карэта павярнула раз, і два, і тры, уехала ў завулак, праз браму, на дзядзінец і стала перад нізкімі дзвярыма, лёкай адсунуў парцьеру, высядае, дрыжучы ад цікавасці, наша пані, лёгкай ножкай прабягаючы вышчарбаныя і брудныя прыступкі. Праводзяць яе праз цёмныя і без паху калідоры, аж нарэшце ўваходзіць у пакой, цалкам абабіты чорным сукном. Пад столлю гарыць лямпа і мігаючым полымем асвятляе навакол глобусы, чарапы і кнігі са срэбнымі спражкамі. Дрыжыкі прабягаюць у жылах нашай адважнай пані, доўга чакае ў самотнасці, аж нарэшце... уваходзіць сам чарнакніжнік у чорнай апанчы з доўгімі рукавамі, якія дастаюць да зямлі, у руцэ ён мае кій, а на галаве спічасты калпак, твару яго не бачна з-за вялікай сівой барады, голас у яго гучны, а тон урачысты.

– Чаго жадаеш? – пытаецца ён у прыбылай.

Яна падае яму рукі, а ён углядаецца з цікавасцю ў скрыжаваныя лініі яе далоні і аб’яўляе мінулае ў такіх далікатных адценнях, малюе яе характар з такой праўдай, што наша пані вырывае ў яго далонь і просіць паказаць ёй якія-небудзь цуды.

– Воля пані будзе зараз жа выканана, – гаворыць чарнакніжнік, стукаючы кіем у дзверы, якія павольна адчыняюцца... і... о цуд! Якое ж відовішча адкрываецца здзіўленым вачам старасты? Гэта было ні што іншае, як яе ўласны салон, ярка асветлены, а ў ім шматлікая кампанія на чале з ваяводзінай сядзіць за вялікім сталом, на якім стаіць – *талерка вустрыцаў*!

– Што гэта такое? Я ж была на прадмесці? Якім цудам я апынулася ва ўласным доме? Хто ж гэты чарнакніжнік?.. – крычыць спалоханая старастава.

– Гэта я, – адгукаецца з пакорлівым выглядам граф Вацлаў яшчэ ў касцюме чарнакніжніка, толькі з адкрытай галавой. – Пані зрабіла шпацыр за горад і была адвезена праз супрацьлеглую браму да ўласнага дома.

– Так табе і трэба! – сказала свякроў, падаючы нявестцы талерку з вустрыцамі. Больш не кажы, што розум нас можа ўсцерагчы ад памылкі. Не хацелі мы цябе прынізіць, але толькі правучыць.

Старастава засела за вустрыцы, як быццам нічога не здарылася.

– Я павінен здаць пані рахунак з дадзеных мне грошай, – сказаў Вацлаў, дастаючы кашалёк. – Вось уся сума, узяў з яе толькі 24 злотыя на рамізніка.

– А я канфіскую 10 дукатаў за вустрыцы, – дадала ваяводзіна.

*1856 г.*

## АДНА З ДАЎНІХ ПОСТАЦЕЙ ВІЛЬНІ

З кожным разам знікаюць паміж нас (можа, у выніку большай сур’ёзнасці думкі ўвогуле) тыя дасціпныя, вясёлыя людзі, якія, часта не ведаючы самі аб сваёй уладзе, становяцца душой кампаніі і нават эпохі, у якой жывуць. Такія людзі ззяюць нам толькі паасобку, а калі знікаюць, то ўжо тып, з імі згаслы, не вяртаецца, і не адраджаецца нават у іхніх уласных дзецях. Называем такіх людзей *арыгіналамі*. Я памятаю некалькі такіх асоб з часоў майго дзяцінства, а найарыгінальнейшым з іх, найдасціпнейшым быў граф Кароль С*. Тыя, хто ведаў яго змоладу, кажуць, што ён ніколі маладым не быў, гэта значыць, ніколі маладым не выглядаў – быў непрыгожым, флегматычным, чалавекам рассеяным, неахайным і заўсёды гаварыў у вочы тое, што лічыў праўдай, нават прыкрай. Не мог ён адразу падабацца, не маглі яго адразу зразумець і не ўсё яму прабачалі; з узростам характар яго стаў выбітнейшы, пачалі яго цаніць і любіць. Граф С* ажаніўся, а цноты, якімі ён засвяціўся ў жыцці прыватным і грамадскім, падвысілі цану яго досціпу, не даючы задумвацца над знешнімі недахопамі.

Не ведаем, пра што найперш расказваць, – ці пра дыстракцыі[14], ці пра досціпы графа. Яны так шчыльна злучаныя паміж сабою, што спазнаюцца разам.

Седзячы побач з кім-небудзь, узяць хустку або табакерку амаль з рук і пакласці ва ўласную кішэню ў пэўнасці, што гэта ягоная ўласнасць, – гэта быў выпадак настолькі штодзённы, што ўжо нікога не здзіўляў, а граф С*, перакананы не раз у сваім міжвольным крадзяжы, найшчырэй і найдасціпней перапрашаў сваю ахвяру і не заўважаў, як у гэтую ж хвіліну зноў паўтараў тое ж самае.

У адным доме, куды ён па дарозе з нагоды заехаў і трапіў на штодзённы абед, устаючы з-за стала, перапрашаў гаспадароў, *што ягоны кухар быў не на вышыні*. – Сапраўды, – казаў, – не разумею, што з ім сёння здарылася? – такі ўпэўнены быў у тую хвіліну, што ён у сябе дома.

У іншым доме, куды ўваходзіў з візітам і быў упэўнены, што першым яго

спаткае гаспадар, калі гаспадыня першая выйшла на яго спатканне, пацалаваў яе ў твар, а калі за ёю з дакорам выбег гаспадар, пацалаваў яго ў руку.

– Ты раззброіў мяне! – усклікнуў муж, смеючыся з дыстракцыі, – другая памылка выправіла першую.

А колькі разоў за сняданнем замест хлеба намазваў маслам уласную табакерку!..

Самы гучны прыступ дыстракцыі здарыўся з ім, калі яго прадстаўлялі цару Аляксандру. Было гэта ў доме яго ўласнай цёткі пані пісаравай Літоўскай М*. Тая годная пані, хварэючы таксама на сямейную забыўлівасць, у хвіліну, калі трэба было вымавіць прозвішча пляменніка, звярнулася да яго ў роспачы, кажучы: “Ах змілуйся, пане Каролю, як цябе завуць?” Уражаны мінай цёткі, граф С* таксама губляецца і адказвае: “Ах, цёцю, я забыўся!”

Дзівацтвы графа С* не былі хвілінныя, трывалі яны і цэлымі гадзінамі і нават цэлымі вечарамі. Аднойчы ўваходзіць ён да маіх бацькоў, яго прыязна прывіталі, ён сядае і размаўляе цэлы вечар і, як здавалася, без усялякай дыстракцыі. Было гэта ў Вільні, жылі мы на той час у гатэлі Мюлера; вокны салона выходзілі на прасторны дзядзінец і былі насупраць вокнаў іншага апартамента, найманага нашай цёткай, якая яшчэ не прыехала з вёскі. Раптам у вокнах таго пустога апартамента запалілася святло.

– Ах, гэта мая сястра прыехала! – узрадавана сказала мая маці, звонячы слугам, каб пайшлі тое праверыць.

– Якая сястра? Што ты кажаш? – усклікнуў граф. – Гэта ж святло ў доме пані W*!

– Але ж, даражэнькі, – кажа мой бацька, – пані W* жыве ў доме Тыш..., за некалькі сотняў крокаў ад нас, да таго ж нашы вокны не выходзяць на вуліцу, – хіба не ведаеш, дзе ты зараз?

– *Трытрум тратрум*! – усклікнуў граф С* з найспакайнейшай у свеце мінай. – Не атрымаецца містыфікацыя, не заўсёды я бываю дзіваком і ва ўсякім разе ведаю, дзе я зараз! А на доказ гэтага скажу, што я ў пані Мір...

Гучны смех нас усіх, здавалася, нібы абудзіў графа С* з летаргіі, ён азірнуўся вакол сябе і толькі тады да яго дайшло, што ён у нашым коле, што няма тут нікога старонняга, і не ўбачыў ён ніводнага твару са шматлікай сям'і пані Мір...

– Але даруйце, якая канфузія! – гаварыў, смеючыся разам з намі. – Учора быў у пані М..., здавалася мне, што я і сёння ў яе.

Неяк здарылася, што ў адно шматлюднае прадстаўніцтва ён увайшоў без фрака, толькі ў камізэльцы, а гэта з той прычыны, што звычайна меў на фраку ватоўку-сурдут, і калі яго з-за цёплага надвор'я не апрануў, то, па звычцы скідаць верхнюю вопратку, машынальна паступіў з фракам, як з сурдутам. Але так яго ўсе любілі, такой вядомай была яго далікатнасць і прыстойнасць, што за падобныя дзівацтвы ніхто ніколі яго не асуджаў. Былі гэта толькі тэмы для вясёлых апавяданняў, а граф С* сам першы неміласэрна з сябе жартаваў і найпакорліва перапрашаў.

Прыгаданая цётка графа С*, пані пісарава Літоўская, была роднай сястрой князя *“Пане Каханку”*, імправізатарскі талент якога так высока ацаніў аўтар Сапліцы[15]. Граф С* таксама валодаў дарам апавядаць розныя камічныя гісторыі, якія на самой справе ніколі не здараліся, але ў якіх нікога, апроч сябе, ён не высмейваў; жарты яго былі заўсёды захапляльныя і смешныя, а расказваў ён іх з такім абыякавым і сур'ёзным тварам, што ў шматлікім таварыстве, якое ён адзін здольны быў развесяліць, толькі ён адзін не смяяўся.

Якая ж была радасць, памятаю як сёння, калі да нас вечарам з'явіўся граф С*. З маім бацькам ён быў у вялікім сяброўстве, маці маю ведаў з маладых гадоў у Варшаве; быў ён у нас зусім як свой, а яго натхненне, узмоцненае жартамі майго бацькі і нашым дзіцячым смехам, буяла без перапынку і пераходзіла калі-нікалі за поўнач. Калі граф С* штосьці апавядаў, ён не мог доўга ўседзець на месцы,

ускокваў, не выпускаючы з рукі масіўнага, з тоўстай булавешкай, кія, і гаварыў, стоячы і ўглядваючыся па чарзе ў тых, хто яго слухаў і смяяўся. Калі заканчваў адну серыю, як быццам для таго, каб даць нам передышку, раптам паварочваўся, закідваў рукі назад і шпарка хадзіў па пакоі, праз хвіліну зноў вяртаўся, зноў гаварыў, а насамрэч зноў гафтаваў на тым самым фоне, але штораз багацейшымі фарбамі. У адным доме карысталіся з той ягонай рухавасці і дыстракцыі, каб найдаўжэй затрымаць і заахвоціць да апавяданняў, бо туды, дзе яго менш ведалі, звычайна прыходзіў ненадоўга, ва ўсякім разе так заяўляў пры ўваходзе, а паколькі адразу па гарбаце ён не выходзіў, баючыся замерзнуць, расстаўляліся яму, як сілкі, па ўсіх кутках салона напалову налітыя кубкі гарбаты, нібыта яго ўласныя, недапітыя, якія ён, ходзячы ў запале апавядання па пакоі, выпіваў, не здагадваючыся, што тая крыніца невычэрпная...

О! Так і стаіць перад маімі вачыма тая арыгінальная постаць, той пачцівы выраз бледнага твару, васпаватага, шырокага, на якім панаваў магутны нос, тая белая камізэлька старасвецкага пакрою, абсыпаная табакай, той голас, крыху насавы, аднак жа мілейшы за мноства звонкіх, але не такіх дасціпных і не так пачціва прамаўляючых. Знікла гэтая постаць з мноствам іншых, якія ўжо не вернуцца да нас, але пакуль яшчэ жывуць тыя, хто іх бачылі, то і гэтыя постаці будуць жыць, бо па-за іхнімі жартамі была праведнасць, сумленнасць, далікатнасць, былі цноты хатнія і грамадзянскія, была праўдзівая пабожнасць, былі заслугі перад краем, а памяць пра тыя вартасці робіць нават жартоўныя ўспаміны такімі дарагімі!

Граф С* не любіў ніякай інавацыі, ніякай моды. Кожная перамена была для яго нагодай для найдасціпнейшых імправізацый. Аднойчы вечарам з'яўляецца граф С* пасля таго, як на працягу некалькіх дзён яго не бачылі ў нашым доме і не сустракалі нідзе ў іншым месцы. Мае бацькі запытваюць, што парабляў ён у гэтыя дні? Той з гумарам адказвае, што быў хворы, і, не даючы часу запытаць, на што, як конь, торкнуты шпорай, пусціўся ў доўгую агністую сатыру супраць званых абедаў і моднай кухні, якая на тое прыдуманая, каб атручваць людзей смачным спосабам, дык вось жа менавіта адзін з тых афіцыйных абедаў і быў прычынай яго хваробы.

– Бо што скажаце на тое, – усклікаў ён, прыўстаючы з месца і махаючы рукамі, – ці дасцё веры, што я з'еў, сам таго не ведаючы? Бо так здрадліва ўсё было замаскавана, каб тым спрытней ашукаць нявіннага чалавека! – А ў запале апавядання кідае свой кій на крэсла і пачынае вылічваць на пальцах усё, што з'еў на тым няшчасным абедзе:

– Толькі паслухайце! Дык вось, цэлага вала, дванаццаць пар курапатак, шэсць зайцоў, дванаццаць індыкоў, тры капы яек...

– Але што за лухту ты нясеш! – перапыніла яго мая маці – Хто ж цябе прымушаў есці ўсё тое, што было прыгатавана на якіх 30 асобаў?..

– Хіба ж я ведаў, што я еў? – залямантаваў граф. – Пані дабрадзейка, бачу, падазраеш мяне ў перабольшванні, а значыць у хлусні. Кажу пані дабрадзейцы, што я ўсё гэта з'еў, нічога не падазраючы, у адным пашцэціку ды ва ўсялякіх модных і мудроных *фрыкасэ, кансамэ*, булёнах, экстрактах, *пюрэ*. Хто ж цяпер узгадае ўсе тыя вынаходніцтвы французаў-атруціцеляў! – і давай далей апісваць абед, з эрудыцыяй найдасведчанага географа пералічаць усе гарады, краіны, моры, затокі, выспы і мысы, з якіх былі дастаўлены прысмакі і прыправы для гэтага нешчаслівага абеда, – усе тыя перцы, соі і віны заморскія. – А разам з тым уявіце сабе смятанку з-пад Вільні... бедная літвінка! – дадаваў ён, са шкадаваннем паніжаючы тон. – Як яна сябе сярод тых чужаземцаў няўтульна адчувае, як дзічыцца, як баіцца, як не хоча адразу з імі злучыцца... аніяк ёй не паразумецца з тымі індыянінамі, што з'едліва з яе пакепліваюць, а ўсё тое адбываецца, перапрашаю, у нашым страўніку – праўдзівы хаос, вавілонская вежа... рэвалюцыя! І здзіўляцца, што

чалавек хворы?... Добра, што не памёр! – Кажучы гэта, ён закінуў рукі назад і зноў хадзіў, нібыта злосны і надзьмуты, але можна было бачыць лёгкую ўсмешку, што прабягала па ягоных вуснах, усмешку дабрадушнага задавальнення з весялосці, якую абудзіў навокал сваім апавяданнем. – А ведаеце, якія з гэтага наступствы? – загаварыў, упадаючы ў новы запал. – Калі хто выйдзе цэлым па тым пякельным выпрабаванні і ўпадабае есці ў такім рэжыме, то выпасецца не раўнуючы як *пэўнае* зверанятка, якое выкормліваем перад Божым Нараджэннем, вырасце яму магутнае бруха, з-за якога ён ужо каленяў сваіх не бачыць, і пытаецца ў гасцей, як выглядаюць ягоныя ногі?!.

Усё было для яго тэмай для размовы. Убачыўшы канфітуры, пададзеныя яму ў адным доме, ён спытаў, ці хатняга яны прыгатавання? Гаспадыня паспяшалася запэўніць, што хатняга, думаючы, што ён брыдзіцца куплёнымі. – Ці варта дома рабіць канфітуры? – усклікнуў пан С*, – мяне першая ж спроба навекі ад гэтага вылечыла, праўда, я быў на той час кавалерам і меў панну-аптэчкавую[16], немаладую ўжо панну, але што датычыцца *крамбамбулі*... – дадаў, шматзначна ўсміхаючыся, даючы зразумець, што, апроч функцыі ключніцы, тая мела спрыт і да кілішка. – Пераканала яна мяне, што трэба рабіць канфітуры і што найлепшыя будуць з вішань. Мой сад, толькі што пасаджаны, не мог даць іх многа. Мая панна-аптэчкавая як пачала скупляць вішні па ўсёй ваколіцы, так не знайшлося ва ўсім бровары такога вялікага катла, у якім можна было б іх згатаваць, мусілі рабіць новы; мая панна размясцілася з усім гэтым у кавярні, у вялізным каміне расклалі агонь, быццам у гуце, смажацца вішні, як пакутнікі ў пекле, аж тут даюць знак, што гарыць у коміне... вэрхал у доме! Хтосьці выступае з парадай, што трэба ўпусціць гусака ў комін, каб загасіць агонь; упускаюць гусака праз дах, але губляюць галаву і не выймаюць катла з канфітурамі... гусак падае ў канфітуры і верашчыць ад болю, бо трапляе ў вар, вылятае ў пакой... ды каб жа яго ў гэты час схапілі, але кожны агаломшаны, думае аб сабе і ўцякае, а гусак тым часам праз адчыненыя дзверы гардэробнай рушыць у салон... Уявіце сабе, толькі што я справіў новую мэблю і свежыя белыя фіранкі! Мой гусак з чырвонымі нагамі і мокрымі крылламі сядае з разгону, неміласэрна абтрасаючыся і пакідаючы паўсюдна сляды сваёй прысутнасці! Уся гэтая авантура жахліва мне каштавала! Выправіў чым найхутчэй маю панну Крамбамбулю – ўчыняльніцу ўсяе тае катастрофы і, навучаны прыкладам, даў зарок ніколі дома не рабіць канфітураў і ўсіх, хто мне верыць, адгаворваю.

Часткова ўся тая гісторыя мусіла быць праўдзівай, аднак, несумненна, напалову ён яе імправізаваў, паколькі, нягледзячы на нашы просьбы, не мог яе другі раз гэтак жа сама паўтарыць, нават амаль яе не памятаў.

Калі пан С* прыходзіў у чыйсьці дом, першыя словы, якія пачуў, альбо рэч, якую пабачыў, рабіліся для яго тэмай гаворкі. Так, пабачыўшы непрыбраны стол і неперамененую ваду ў графіне, гаварыў гаспадару:

– Ах, бачу, што ў вас таксама, як і ў мяне! Але я вас навучу, як тое зло выправіць. Мае слугі нічога з маіх загадаў не выконвалі, заўсёды смецце было пакінута ў перадпакоі, вокны паадчыняныя альбо не пазамыканыя, а на кожную маю заўвагу адказвалі: “Я забыўся”. – Бачачы, што няма рады, я клічу кухара і вучу яго, як мае паступіць. Аж у той самы вечар убягаюць да мяне абураныя лёкаі, скардзяцца на кухара, што не даў ім вячэры. Я прыкідваюся ўгневаным:

– Ды не можа гэтага быць, ды нечуваная гэта рэч! – І загадваю паклікаць да мяне кухара. – Як ты смееш, – кажу яму, – крыўдзіць маіх людзей? Ці праўда тое, што яны гавораць?

– Праўда, – адказвае кухар, – сёння вячэры ім не даў.

– А што, пан, ці чуеш сам? – крычаць з трыумфам лёкаі. А я зноў у кухара пытаюся: “Што значыць такое зухвальства?” – Ён жа на тое з самым абыякавым выглядам: “Што ж, пане, калі я забыўся”. – Маіх служак такі адказ вельмі злуе,

а я на тое: “Бачыце, ён усяго толькі *забыўся*! Гэта такая нявінная рэч, ці ж не можаце яму гэтага даравацъ? Ён жа адзін раз толькі забыўся, а я ўжо колькі гадоў ад вас тое чую, а ніколі не гневаюся...” – Паспушчалі насы мае панове, і, што пані дабрадзейка скажа, з таго часу ўсё рабілася ўпару.

Іншым разам, стаўшы сведкам затрымкі з абедам у гасцях, расказаў праўдзівае здарэнне, як яму ўдалося выправіць ці толькі пакараць уласнага кухара за нечуванае штодзённае марудства з абедам. Было гэта на вёсцы, паклікаў ён з раніцы свайго маруду і аб’явіў яму пад найвялікшым сакрэтам, што чакае на вячэру некалькі асобаў, але гэта такая таямніца, што, апрача іх дваіх, ніхто аб тым не ведае і не павінен ведаць. Вячэру кухар павінен быў сам-адзін прыгатаваць на дванаццаць асобаў і сам-адзін накрыць у вялікай палацавай зале наверсе амаль апоўначы. Кухар, улешчаны даверам, бярэцца загадзя гатаваць загадкавую вячэру, а калі наступіла ноч і ўсе ў палацы і флігелі паснулі, ён сам-адзін добрасумленна, як пан яму даручыў, бегае з кухні ў буфетную і сам-адзін накрывае на стол. Зала вялікая, цёмная, ён баязлівец, вялізныя люстэркі ад падлогі да столі адбіваюць яго постаць, падвойваючы адначасова і страх, рэха паўтарае кожны крок, кожны шолах, які можа выкрыць таямнічую хаду пана, а па кутах стаяць белыя статуі і здаюцца ў тую хвіліну прывідамі з таго свету. Бедны кухар, дрыжучы ад холаду і страху, не кідае аднак сваёй ролі, а калі ўжо далёка за поўнач закончыў ён сваю справу, уваходзіць сам пан С* і кажа яму: “А цяпер ідзі спаць, мой Якубе, нікога не будзе, хацеў толькі дагадзіць тваёй ахвоце марудзіць, здаецца, што меў ты на гэта досыць часу?..”

Ягонай улюбёнай тэмай быў дом, парадак у ім і хатнія справы.

– Ці ведаеш, – запытаўся ён аднойчы ў майго бацькі, – але хутчэй не ведаеш, колькі ў цябе ў доме слугаў; дарэмна загадваеш, каб табе падавалі рэестры ўсіх у ардынацыі. Заўсёды знойдзецца які-небудзь падкухарчык, падбуфетчык, падфурманчык або зноў жа фаварыт ахмістрыні, якія, заўважыўшы пана, як мышы перад катом, хаваюцца ў нару і ані мру-мру.. Але я цябе навучу, якім спосабам найлепш падлічыць дваровую семяністасць, бо і ў мяне гэтак было. Запрасі толькі медзвяжатніка і ты пабачыш, як усе збягуцца на дзядзінец як адна нага, а тады карыстайся мажлівасцю і запісвай, кажу табе, што спіс будзе поўны.

Граф С* быў таксама вынаходлівым і дасціпным, абараняючыся ў прыяцельскіх застоллях, калі яго хацелі змусіць да келіха. Шампанскае віно яму шкодзіла, называў яго папросту атрутай; а калі аднойчы, змушаны прыяцелямі, не мог адкруціцца ад некалькіх тостаў, бо мантрай іх было “кахаймася!”, – наўзаем узяў з іх слова, што выканаюць тое, аб чым ён будзе прасіць. Калі ўсе на тое згадзіліся, адразу па абедзе ўносяць у салон вялізнае блюда зразаў з цыбуляй, замоўленае графам С* у бліжэйшым тракціры, і ён сам найветлівейшым чынам запрашае, каб госці елі.

– Ці ж ты звар’яцеў? – лямантуюць усе. – Хто ж гэта пасля марозіва ды салодкага будзе есці зразы?.. – Але граф С* застаўся няўмольным: – Далі ж вы слова, мусіце есці! Я дзеля вашай прыязні піў, хоць мне гэта шкодзіць, вы дзеля маёй ешце, хоць і не галодныя.

Іншым разам у падобнай сітуацыі, перш чым выпіць за прапанаваны прыяцелямі тост, узяўшы з іх слова, што ўсё зробяць дзеля яго прыязні, загадаў прынесці з дому шкатулку, выняў з яе нейкі белы парашок, усыпаў яго ў віно і трактаваў ім усіх субяседнікаў, кажучы: “Піце, гэта мыш’як!” – Абураныя такой прапановай, тыя лямантавалі: – Ты што, хочаш нас атруціць?! – А ён на тое з абыякавым выглядам: – А хіба я вам не казаў, што віно для мяне – атрута, аднак вы прымушаеце мяне піць яго дзеля вашай прыязні?..

Расказваючы гэтую гісторыю, зусім не абавязкова праўдзівую, пан С* дадаваў: “Тым мыш’яком была нявінная магнезія!”

Нішто не вылучалася такой арыгінальнасцю, як накірунак, які ён даваў размове. У часе вялікага юбілею ў 1826 годзе, выходзячы неяк з катэдры па набажэнстве, спаткаўся ён з некалькімі маладымі людзьмі і запытаўся ў іх, з якога яны вяртаюцца касцёла? – З ніякага, – адказалі тыя з лёгкасцю,– хіба сёння нядзеля? – Але ж гэта юбілей! – Дык яно добра для такіх, як пан, – адказалі тыя зухавата, – а мы яшчэ маладыя, мы дачакаемся другога. – Маеце рацыю, – нібы згаджаючыся, адказаў граф С*. – Лепей пагаворым пра што іншае... – І, далучыўшыся да іх, ішоў далей і так гаварыў: “Паслухайце, што са мной сёння здарылася. Быў я раніцай у гарбара, мне патрэбныя былі падэшвы. Гарбар мне паказваў сваю майстэрню, усё гарышча было завалена цялячымі скурамі, а паколькі віселі яны пад страхою, я мусіў ісці напаўсхіліўшыся, так што ў мяне ажно паясніца забалела. Гарбар вельмі танна прадаў мне цялячыя скуры, але падэшваў не даў, сказаў, што з валовымі скурамі вельмі цяжка. Дык бачыце, якое мноства цялят гіне, перш чым каторае з іх дарасце да вала?.. – дадаў граф С*, пазіраючы скоса з усмешкай на панічоў, якія зрабілі выгляд, што не зразумелі алегорыі.

Пан С* не любіў цяпла ў пакоі, гэта шкодзіла яго здароўю. Уваходзіць ён аднойчы вечарам з візітам да пані шамбелянавай S., у якой заўсёды было вельмі горача. Набліжаецца да гаспадыні і рэкамендуецца, нібы ўпершыню яе бачыць: – Маю гонар..., – і так далей, і так далей... – Мяне завуць С*.

– Ха-ха-ха, – весела адгукаецца шамбелянава. – Выключная дыстракцыя, пане Каролю! Хіба ж мы не знаёмыя?

– Калі так, – адказаў граф С*, – дык тым лепей. Значыць, пані разумее, што, паколькі я ёсць С*, а не ананас і не кактус грандзі-флёрус, мне не выпадае заставацца ў гэтай трапічнай атмасферы, якую тут знаходжу. – Сказаўшы гэта, гжэчна пакланіўся і выйшаў.

Прыйшоў аднойчы ён да нас па абедзе. Мой бацька выгодна сядзеў на сафе і не ўстаў пры з’яўленні прыяцеля, з якім не рабіў цырымоній. Той прывітаўся з маёй маці, з намі, з усімі прысутнымі, а на майго бацьку не зважаў.

– Даўней, – азваўся мой бацька, робячы выгляд пакрыўджанага, – быў годны хвалы звычай, калі госць, пераступаючы чыйсьці парог, вітаўся найперш з гаспадаром дома.

– Даўней, – паўтарыў пан С*, не азіраючыся на майго бацьку, – быў звычай, што гаспадар выходзіў, каб спаткаць госця, аж у перадпакой.

А пасля гэтых узаемных папрокаў кінуліся абодва сябры на шыю адзін другому.

Мой бацька забыўся аднойчы сваю табакерку, бачыць, што ляжыць на стале табакерка пана С*, ён пакарыстаўся ёю і, дзеля жарту, схаваў у сваю кішэнь. Пан С* агледзеўся і, здагадваючыся ў чым справа, гаворыць:

– У Ліндэ[17] на старонцы 24, на літару “Z” гэта называецца “злодзей”.

– Бедны ж твой дыкцыянарый[18], – адказаў мой бацька, – калі на старонцы 24 – ужо літара “Z”...

– Але ж гэта ў 24 томе, – скеміўшы, выправіўся граф С*.

Адна маці выдавала сваю дачку замуж, але вагалася з апошнім блаславленнем, таму што прозвішча кавалера, хоць і старажытнае, і годнае, не было *мілагучным*. Даведаўшыся аб тым, граф С*, як сябра таго дома, выступіў са слушнай парадай, але, як заўсёды, у форме жарту:

– Хто там будзе зважаць, з якой літары пачынаецца прозвішча, – ці там з “X”, ці там з “Z”? Яно можа нешта значыць у каліграфіі, але павер мне, пані дабрадзейка, што для шчасця тваёй дачкі ніяк не спрычыніцца і ніяк не зашкодзіць! – Рассмяялася пераборлівая маці і, насамрэч, гэты жарт схіліў шалі на бок кавалера.

Нехта выхваляўся перад графам С* сваімі продкамі, падкрэсліваючы старажытнасць свайго роду. – Калі нам так рупіць давесці, – адказаў граф С*, – хто быў нашым пратапластам, чаму б не прызнаць такім найдалейшага, якога

ніхто ў нас не аспрэчыць і які апярэдзіў усіх ваяводаў ды кашталянаў пазнейшага часу?... Бо чым глыбей, тым дакладней наш пра...пра...прашчур у печы паліў і босы хадзіў, але, на жаль, ніхто яго за продка не лічыць...

***

Некалькі гэтых, мімаходзь занатаваных анекдотаў, выхапленых з забыцця, можа, заахвоцяць тых, хто бліжэй ведаў графа С*, павялічыць мой збор, але разам з тым некалькі гэтых эскізаў паслужаць стварэнню ўяўлення пра незвычайнага чалавека, які, нягледзячы на сваю дыстракцыю, зрабіў удалы выбар жонкі і ашчасліві ў яе, дзецям сваім, старанна выхаваным, пакінуў маёнтак у квітнеючым стане, быў добрым панам для вёскі і заслужыў сапраўдных сяброў. Дай, Божа, такіх дзівакоў і такіх арыгіналаў як найболей!

*1856 год*

---

[1] Выгнутая канапа ў выглядзе лацінскай літары “S” *(заўв. пер.)*.

[2] Праваднік, гід ( *іт.*).

[3] Чуйка (*czuja*) – доўгая, падшытая футрам сукня, шуба (*старапол.*).

[4] Квестар – збіральнік дабрачынных ахвяраванняў.

[5] Здаецца, мы дарэмна сюды прыйшлі? (*фр.*).

[6] Маюцца на ўвазе знакамітыя тагачасныя вучоныя, выкладчыкі Віленскага ўніверсітэта: Снядэцкі Ян (1756-1830) – астраном і матэматык, рэктар Віленскага ўніверсітэта ў 1806-1815 гг., альбо ягоны брат Снядэцкі Анджэй (1768-1838) – прафесар хіміі і медыцыны; Малеўскі Сымон (1759-1832) – прафесар філасофіі і права, рэктар Віленскага ўніверсітэта ў 1815-1822 гг.; Фомберг (Фонберг) Ігнацы – у 1822-1830 гг. – прафесар хіміі Віленскага ўніверсітэта.

[7] Правадніком, экскурсаводам (*іт.*).

[8] Прыгожа жыць, каб прыгожа памерці (*фр.*).

[9] Цудоўна! (*фр.*).

[10] Па руках! (*фр.*).

[11] Графіня Стэфанія Феліцыя дэ Генліс (1746-1830) – папулярная французская пісьменніца эпохі Асветніцтва, фаварытка каралеўскага двара. Творы яе ўплывалі на выхаванне густаў і нораваў моладзі розных еўрапейскіх краін, у тым ліку і на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, дзе шмат яе твораў было перакладзена на польскую мову *(заўв. пер.)*.

[12] Проста цудоўна! (*фр.*).

[13] Ранішняя хатняя сукенка (ад *фр.* – *déshabillé*).

[14] Dystrakcja – рассеянасць (*пол.*).

[15] Гаворка ідзе пра нясвіжскага князя Караля Станіслава Радзівіла па мянушцы *“Пане Каханку”* (1734–1790) – аднаго з персанажаў вядомага мемуарнага твора Генрыка Жавускага “Успаміны Сапліцы” (заўв. пер.).

[16] *Аптэчкай* у гаспадарскіх дамах тады называліся спецыяльныя памяшканні, дзе захоўваліся кухарскія зёлкі і карэнні, алкагольныя вырабы, хатнія лекі і розныя прысмакі (заўв. пер.).

[17] Маецца на ўвазе шматтомны “Słownik Języka Polskiego” – “Слоўнік польскай мовы”, складзены знакамітым польскім філолагам і лінгвістам Самуэлем Багумілам Ліндэ (1771-1847). У 1854–1860 гг. у Львове было выдадзена ў шасці тамах другое дапрацаванае і дапоўненае выданне гэтага “Слоўніка...”, якое, відавочна, мелі і якім карысталіся ў сям’і графа Адама Гюнтэра, бацькі Габрыэлі Пузыні (*заўв. пер.*).

[18] Dykcjonarz – слоўнік, лексікон, энцыклапедыя (*старапол.*).

Аксана Данільчык



…Скрыпка… мая ты скрыпка,
Вылі душу сваю да дна…

# Гісторыя аднаго сямейнага архіва

***Гутарка з Алінай Алексенка***

**Аксана Данільчык:** ***Мара кожнага даследчыка – знайсці нешта новае. Калі мы з Віктарам Жыбулем працавалі над Анталогіяй жаночай паэзіі міжваеннага перыяду «Бліскавіцы», якая выйшла ў мінулым годзе, то шукалі матэрыялы ў архівах, бібліятэках, кантактавалі з іншымі даследчыкамі, але, скажу шчыра, у мяне не ўзнікала думкі спытацца ў знаёмых і сяброў, ці маюць яны арыгінальныя дакументы. Мы, безумоўна, не думалі, што ўсё ўжо трапіла ў архіў, але, прынамсі, не рабілі спробы правесці нейкія «палявыя» пошукі. Таму калі да мяне звярнулася Ганна Янкута і распавяла пра сшытак Вашай бабулі, вершы, «Маладняк», то пэўныя сумненні ў мяне былі, але яны аказаліся дарэмнымі. У мяне ў такіх выпадках заўсёды ўзнікае адчуванне пазачасавасці нашага існавання, узаемасувязі мінулага і цяперашняга. Вашай сям'і пашанцавала: захаваць сведчанні жыцця блізкіх людзей – вялікая ўдача. Гэта цуд, што, не зважаючы на ўсе перыпетыі XX стагоддзя, калі мы***

***найчасцей у дачыненні да тагачасных дакументаў чуем слова «страчаны», яны зберагліся. Як высвятляецца, Вашая сям’я мае няпростую гісторыю, і гэтая гісторыя адлюстроўвае цікавыя і трагічныя моманты XX стагоддзя. Як адбылося адкрыццё сямейнага архіва?***

**Аліна Алексенка:** Так, калі я апынулася сам-насам з усім гэтым багаццем, то запыталася ў знаёмай, Ганны Янкуты, што гэта можа быць такое, і яна параіла мне звязацца з Вамі. У нас дома даўно стаіць стары зялёны драўляны куфар, і я ведала, што ў ім старыя газеты і часопісы, выкрайкі Burda і выразкі пра садаводства, а таксама працоўныя дакументы майго дзеда па маці (Самко Аляксандра Сцяпанавіча), які быў заснавальнікам кафедры «Тэхнічная эксплуатацыя аўтамабіляў» сучаснага БНТУ. На гэтай кафедры падоўжыла дынастыю выкладчыкаў і мая маці, Галіна Аляксандраўна Самко.



*Аліна АЛЕКСЕНКА.*

Мой шлях да гэтага куфара заняў амаль 30 гадоў, бо толькі прыкладна год таму мая цікавасць да сямейнай гісторыі набыла актыўны характар. Да таго часу я задавальнялася сямейнымі паданнямі, у якіх мне ўсё падавалася ў аднолькавай ступені фантастычным: “наш продак з прозвішчам Гайле прыйшоў на Беларусь разам з Напалеонам, але потым змяніў імя на Гайлевіч, а сам ён быў лiёнскі ткач”, “дзед дапамагаў партызанам, таму што ў яго быў каліграфічны почырк і ён мог падрабіць любыя дакументы”, “у маміных бацькоў на балконе жыў сапраўдны каршун, які жэр курыныя галовы і гадзіў на балкон Кандрата Крапівы”.

Памятаю таксама сур’ёзныя каментары ад майго дзядзькі, мамінага брата, які, на жаль, ужо сышоў ад нас і больш не зможа распавесці пра тое, што бабуля і дзед прыкладалі найвялікшыя намаганні, каб выхаваць у ваенны і пасляваенны час чатырох дзяцей, што бабуля адмовілася ад літаратурнай і даследчыцкай працы дзеля сям’і, а дзед зрабіў значны ўнёсак на карысць развіцця такой патрэбнай у тыя часы сельскай гаспадаркі.

**Аксана Данільчык:** ***Аліна, наколькі я разумею, Вы – чалавек, далёкі ад літаратуры. Чым Вы займаецеся?***

**Аліна Алексенка:** Так, па адукацыі і ўжо больш за восем год прафесійна я звязана з фінансамі, вывучала эканоміку і бухгалтарскі ўлік, маю кваліфікацыю аўдытара і працую ў якасці партнёркі і дырэктаркі ў адной бухгалтарскай фірме. Але я не магу цвёрда сказаць, што я чалавек, далёкі ад літаратуры. Чытаць люблю з дзяцінства: так сталася, што ў нас дома не было тэлевізара, але была паліца вышынёй да столі і поўная кніг. Здаецца, я была такім інтравертным дзіцём, якое жыве больш у свеце твораў, чым у рэчаіснасці. У школе і інстытуце я спрабавала пісаць вершы, трохі перакладаць з нямецкай мовы. Тады для мяне гэта было нешта накшталт псіхалагічнай самадапамогі, спроба выказаць пачуцці, якія інакш было цяжка сфармуляваць і якімі не было з кім падзяліцца. Апошнія пяць гадоў нічога мастацкага я не пісала. Магчыма, калісьці (ці нават у бліжэйшы час) я яшчэ паспрабую, толькі гэта была б ужо проза, а не вершы.

**Аксана Данільчык:** ***Што падштурхнула да «актыўнага» вывучэння сямейнай гісторыі? Звычайна мае месца нейкі ўнутраны ці знешні штуршок. Што стала для Вас такім «штуршком»?***

**Аліна Алексенка:** Думаю, што першым штуршком стаў праект, прысвечаны ўспамінам пра Чарнобыль, які зладзілі лектаркі з нямецкага фонду Боша. Гэта быў мой першы досвед працы з вуснай гісторыяй, які таксама адкрыў для мяне вялікія лакуны паміж маімі ўяўленнямі пра гэтае здарэнне, атрыманымі праз медыя і бліжэйшае асяроддзе, з яшчэ існуючай памяццю непасрэдных удзельнікаў падзеяў і сведкаў іх наступстваў...

Наступным крокам стаў двухтыднёвы семінар, які праходзіў восенню 2016 года ў Будапешце пад эгідай нямецкага ўніверсітэта Андрашы на тэму «Культура памяці аб злачынствах нацыянал-сацыялізму і камунізму ў краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы». У той час мне здавалася, што гісторыя існуе сама па сабе, як абстрактная з'ява ў падручніках, якая выклікае, канечне, цікаўнасць, але мяне асабіста не датычыцца (давер да падручнікаў, прынамсі, страціўся з тых часоў, калі першы падручнік па гісторыі з бел-чырвона-белым сцягам на вокладцы знік з паліц школьнай бібліятэкі). Але ўжо з'явілася цікавасць да гісторыі маёй сям'і: мая бабуля і дзед з боку бацькі, а таксама малады бацька пэўны час жылі ў Будапешце. Бацька прывёз адтуль свае першыя джынсы, бабуля – шмат прыемных успамінаў пра выдатную каву, але мяне пачало турбаваць пытанне: што дакладна мог там рабіць дзед на пасадзе ваеннага аташэ? У выніку я даведалася шмат інфармацыі пра гісторыю Вугоршчыны ў савецкія часы, і ў мяне склалася пэўная карцінка. Таксама мы даследвалі на прыкладах літаратуры, публічнага асяроддзя і вуснай гісторыі, як цяпер людзі ўспамінаюць пра гістарычныя падзеі. Тады ў мяне з'явілася шмат пытанняў і, калі так можна сказаць, пачаў фармавацца светапогляд. Калі я вярнулася, вырашыла працягваць даследванне сямейных таямніцаў – і патрапіла на сапраўдны скарб.

**Аксана Данільчык:** ***Які быў першы крок?***

**Аліна Алексенка:** Усё пачалося з маленькай драўлянай скрыначкі з фотаздымкамі і паштоўкамі маіх прадзеда і прабабкі па мацярынскай лініі. Прабабка, Адэліна, паходзіла з роду Камінскіх (пра якіх ніякіх дакументаў не засталося) і выйшла замуж за Франца Францавіча Гайлевіча[1], які дужа любіў паэзію, Лермантава, аднак доўга не мог ажаніцца, даслаў нявесце вялікую колькасць лістоў і паштовак. У іх нарадзіліся дзве дачкі. Прадзед працаваў бухгалтарам на чыгунцы і быў расстраляны ў 1937 годзе судом "двойка". На фотаздымках 1908-1910 гг., зробленых у знакамітага фатографа Бермана з вуліцы Захар'еўскай, яны выглядаюць вельмі паважнымі гараджанамі. У тэкстах некаторых паштовак можна знайсці адбіткі лёсу і іншых родзічаў, але гэта асобная гісторыя. Маюцца таксама больш зямныя і практычныя дакументы з боку дзеда, мужа Галіны Гайлевіч Аляксандра Самко, які разам з бацькамі прыехаў з Украіны: аб набыцці дома ў 1910 годзе, дакументы аб адукацыі, выпіскі з царкоўнай кнігі...

Яны разам, мая бабка Галіна Ядвіга Гайлевіч (Самко) і яе муж (Аляксандр Самко), такім чынам захавалі архіў дакументаў сваіх бацькоў, але таксама і ўласныя дакументы, якія перадалі маёй матулі.

Калі я ўпершыню свядома ўзяла іх у рукі, у мяне быў сапраўдны шок.

**Аксана Данільчык:** ***Што ўразіла найбольш?***

**Аліна Алексенка:** Першае, што мяне ўразіла (гэта лягчэй было зразумець без спецыяльных ведаў), былі заявы і скаргі майго дзеда, які ў 1950 годзе быў звольнены з пасады дацэнта і спрабаваў абараніць свае правы. Гэтыя

---

[1] Інфармацыю пра Гайлевіча Ф.Ф. можна знайсці і ў праекце "Адкрыты спіс": https://by.openlist.wiki/Гайлевіч_Франц_Францавіч_(1879) – заўвага А. Данільчык.

дакументы, напісаныя ад рукі ў шматлікіх экземплярах, захапілі мяне. Магчыма, гэта была нармальная звычка ў той час – шмат разоў перапісваць дакументы перад тым, як зрабіць машынапісныя копіі, але для мяне гэтая праца сталася матэрыяльным сведчаннем найвялікшага намагання адной асобы абараніць сябе перад бюракратычнай машынай рэжыму. Акуратны почырк. Мноства ліސткоў па ўліку кадраў, у якіх была старанна запоўненая графа "Становішча сям'і падчас акупацыі" (абавязковая для таго перыяду). Так, я ведала сямейнае паданне, што дзед дапамагаў партызанам, але тут я прачытала заявы ад канкрэтных людзей, напісаныя ад рукі, потым перадрукаваныя на машынцы, з расповедам пра тое, менавіта якім падпольшчыкам і якім чынам дапамагаў мой дзед.

Сярод дакументаў былі таксама сшыткі з вершамі, канспекты, і між іх – заява бабулі на ўступленне ў літаратурны гурток "Маладняк". Ці пазнаёмлюся я з маёй бабуляй як з аўтаркай вершаў і як мінімум аднаго невялікага апавядання? Як зразумець, ці яе гэта верш і тэксты, ці нейкія выпадковыя, чужыя? Ці можна разглядаць знойдзеныя дакументы не толькі ў кантэксце гісторыі адной сям'і, але, магчыма, і ў кантэксце гісторыі беларускай літаратуры, – вось тыя пытанні, што паўсталі перада мной. На мой погляд, важна, што яна зберагла такія дакументы, як, напрыклад, той жа сшытак па беларускай літаратуры, прысвечаны народнай творчасці, а таксама зборы этнаграфічных песняў, якія сведчаць пра яе цікаўнасць да самабытнай мовы. Ну і да таго ж яна выхавала і сваю дачку такім чынам, што маці і сёння выкладае ў БНТУ на беларускай мове, хоць гэта не заўсёды і не ўсім падабаецца.

**Аксана Данільчык:** ***Несумненна, прыцягвае ўвагу анкета на ўступленне ў «Маладняк», якая датуецца 1929 годам, аднак у канцы 1928 года «Маладняк» быў распушчаны. Магчыма, мы маем справу не з Усебеларускім аб'яднаннем «Маладняк», а са школьным гуртком… Давайце на падставе гэтых дакументаў паспрабуем каротка «расказаць» гісторыю Галіны Гайлевіч. Яна нарадзілася ў 1912 г. у Мінску…***

**Аліна Алексенка:** ...Так, калі казаць дакладна, то 18 чэрвеня 1912 года. Ад нараджэння ў яе было два імені – Галіна Ядвіга, калі прыйшоў час рабіць пашпарт, афіцыйна захавалася адно – Ядвіга. Але для сяброў і калегаў яна засталася Галінай. Цікава, што яе маладзейшая на чатыры гады сястра таксама мела два імені – Галіна Аліна (цётка Аля, як я яе ведала), так што адначасова існавалі дзве Галіны Гайлевіч. Пазней цётка Аля атрымала юрыдычную адукацыю і стала юрысткай.

У 1930-м мая бабуля скончыла дзевяцігадовую мінскую чыгуначную школу імя Чарвякова. Сярод яе дакументаў я знайшла нямецкі альбом Skizzenbuch, падпісаны "Альбом для малявання вучаніцы 6 "А" класа мінскай чыгуначнай школы", і сшытак па беларускай літаратуры вучаніцы 7 класа "Б" 1-й чыгуначнай школы.

**Аксана Данільчык:** ***У БДАМЛіМ, у фондзе Ядвігі Бяганскай, чый бацька таксама працаваў на чыгунцы (як, дарэчы, і бацька Яўгеніі Пфляўмбаўм) і якая таксама вучылася ў чыгуначнай школе (скончыла ў 1926 г.), ёсць фотаздымак літаратурнага школьнага гуртка, якім кіраваў настаўнік беларускай мовы і літаратуры Язэп Жгун… У анкеце 1929 года Вашая бабуля, дарэчы, паведамляе, што яе творы пакуль не друкаваліся. На адным са сшыткаў напісана загадкавае імя «Ольга Гранат». Гэта можа быць псеўданім Вашай бабулі, а можа, сшытак належаў яе сяброўцы…***

***Некаторыя вершы маюць дату і подпіс, то бок аўтарства Галіны Гайлевіч у гэтым выпадку не выклікае сумненняў, як, напрыклад, у вершы «Табе», датаваным 27 траўня 1930 г., Менск.***

**Аліна Алексенка:** Паводле напісанай асабіста ёю біяграфіі, з верасня 1930 года

па чэрвень 1931 года Галіна Гайлевіч працавала ў газеце «Калгаснік Беларусі» – сакратаркай і тэхнічнай супрацоўніцай у аддзеле лістоў і карэспандэнцыі. З 1931 па 1934 год вучылася ў Мінскім вышэйшым педагагічным інстытуце імя М. Горкага на літаратурным факультэце з газетна-выдавецкім ухілам.

**Аксана Данільчык:** ***У кнізе Леаніда Маракова "Валерый Маракоў: лёс, хроніка, кантэкст" (1999) апублікаваны калектыўны здымак выпускнікоў літфака (літаратурна-лінгвістычнага аддзялення) 1934 года. Сярод іх – Э. Агняцвет, З. Бірала, С. Левін, Ю. Лявонны, В. Маракоў, С. Мурзо, З. Піваварау, Г. Раманоўская, С. Шушкевіч, зразумела, Г. Гайлевіч (Самко) і іншыя. То бок, не абы-якая кампанія. У артыкуле, прысвечаным Валерыю Маракову, Э. Агняцвет згадвала пра своеасаблівы "брыгадны метад навучання", перанесены з вытворчасці ва ўніверсітэт: "За вучэбнымі сталамі былі асобныя брыгады: за нашым сталом — вельмі здольная пісьменніца Г. Раманоўская, якая пісала па-польску, перакладчыца Г. Гайлевіч, будучыя педагогі П. Рэвут, Н. Карабейка, Гурыновіч і адзіны мужчына С. Шушкевіч. Разам з Валерыем Мараковым, як помніцца, "засядалі" за адным сталом паэты Ю. Лявонны, З. Піваварау, крытыкі П. Хатулёў і С. Левін і педагог Р. Скаліна. Быў яшчэ адзін стол – паэты З. Бірала (Бульбянік), С. Мурзо, празаік Я. Казека і некалькі педагогаў"[1].***

**Аліна Алексенка:** Адна мая сваячка нагадала мне пра байку, якую нібыта любіла распавядаць Галіна Гайлевіч: студэнтамі яны паехалі некуды на сельскагаспадарчыя работы разам з будучай жонкай С. Шушкевіча Ганкай (Галенай) Раманоўскай. Яны працавалі цэлы дзень, а як вярнуліся ў месца начоўкі, Ганка Раманоўская была такая стомленая, што нават не мела сілы трымаць аловак і папрасіла Шушкевіча напісаць за яе ліст да яе бацькоў. Ён запісваў пад дыктоўку, але ў канцы дапісаў пару словаў ад сябе: "Мы хутка прыедзем, сустракайце мяне разам з маім жаніхом". Так іх і сустракалі.

Са студэнцкімі гадамі звязана і гісторыя пра цыбулю, якая магла мець вельмі драматычныя наступствы: калі Галіна Гайлевіч падчас нейкай сельскагаспадарчай практыкі пасадзіла цыбулю каранямі ўверх, то гэта разглядалася як шкодніцтва і магло стаць падставай да выключэння з інстытута. На яе намалявалі карыкатуру ў студэнцкай газеце. Паводле маміных словаў, бацька Галіны Гайлевіч нават хадзіў у Інстытут, каб дыпламатычна ўрэгуляваць сітуацыю.

Пасля заканчэння інстытута, з 1934 па 1936 год, Г. Гайлевіч працавала стыль-рэдактаркай у Беларускім дзяржаўным выдавецтве, з 1936 па 1937 – малодшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук БССР. З 1937 па 1940 вучылася ў аспірантуры пры Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага. Сярод іншых дакументаў захаваўся індывідуальны план аспіранткі Мінскага педагагічнага інстытута з 1 красавіка 1938 па 1 красавіка 1941 гг. Імя навуковага кіраўніка – В.В. Барысенка. Тэма дысертацыі – творчасць М. Багдановіча. Мовы – нямецкая, французская.

Маці распавядае, што Галіна Гайлевіч зрабіла пераклад аднаго твора з французскай мовы, які быў выдадзены. На жаль, невядома назва і аўтар, вядома толькі, што твор быў прысвечаны скрыпцы Паганіні[2].

---

[1] Агняцвет Э. ...Пад гэты боль нястрымны // Культура, 1998, №24 (27 чэрвеня – 3 ліпеня). – С. 10.

[2] Паколькі дакладна вядома аб перакладах Г. Гайлевіч з рускай мовы (Кароцi А. Гары Айзмэн: Амэрыканскі піонэр (Менск: БДВ, 1931); Баравы М., Іваноўскі М. Шукальнікі ўтылю (Менск: ДВБ, 1932); Бонч-Бруевіч У. Тры замахі на У. І. Леніна (Менск: ДВБ, 1932); то магчыма, усё ж такі маецца на ўвазе кніга А. Вінаградава «Асуджэнне Паганіні», якая выйшла на беларускай мове ў 1940 г., аднак перакладчык яе не пазначаны («Рэдактар перакладу В. Бурносаў. Літпраўка Нейфах. Тэхрэдактар І. Мілешка. Карэктар І. Сакалоўскі»). Тэарэтычна яе магла перакласці і Г. Гайлевіч.

Мяне асабліва зацікавіў рукапіс невялікага апавядання, напісаны на беларускай мове, якое называецца «Ілжэўдарнік» і падымае, між іншым, балючыя тэмы алкагалізму і сямейнага гвалту.

З пачатку вайны, якую давялося правесці пад акупацыяй, і да 1967 года Галіна Гайлевіч займалася выхаваннем чатырох дзяцей. Яе муж, з якім яна пазнаёмілася ў сярэдзіне 30-х гадоў, Самко Аляксандр Сцяпанавіч, працаваў выкладчыкам і загадчыкам кафедры Політэхнічнага інстытута. Пасля яго смерці яна ўладкавалася на працу старшым лабарантам кафедры энергетыкі Беларускага тэхналагічнага інстытута імя С. Кірава. Памерла ў 1987 годзе.

**Аксана Данільчык:** ***Інакш кажучы, да літаратурнай дзейнасці больш не вярнулася. Тым не менш, дакладна вядома, што сваіх аднакурснікаў Галіна Гайлевіч не забывала. У фондзе Станіслава Шушкевіча ў БДАМЛіМ захоўваецца копія ліста Вашай бабулі (машынапіс, без арыгінальнага подпісу) Галоўнаму рэдактару "Беларускай савецкай энцыклапедыі" імя Петруся Броўкі І. Шамякіну. Тэкст яго даволі цікавы:***

*"Паважаны Іван Пятровіч Шамякін!*

*У першым томе "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі" /1969/ і ў Першым томе "Літаратуры і мастацтва Беларусі" /1984/ паведамляецца, што Агняцвет Эдзі /Каган Эдзі Сямёнаўна/ скончыла Мінскі педагагічны інстытут у 1936 годзе. Я яе аднакурсніца і лічыла, што і аднагодка. Я скончыла Мінскі вышэйшы педагагічны інстытут у 1934 годзе, а паступіла ў яго ў канцы сакавіка 1931 года /вясенні набор/. Як відаць, у энцыклапедыях дапушчана прыкрая памылка. Трынаццацігадовых у інстытут не прыймалі. Я маю фота выпуска студэнтаў у 1934 годзе. На ім ёсць і выпускніца Эдзі Каган /Агняцвет/.*

*Самко /Гайлілевіч/ Галіна Францаўна, 12 кастрычніка 1986 г.»*[1]

***Станіслаў Шушкевіч у сваю чаргу напісаў артыкул (машынапіс таксама захоўваецца ў яго архіве) «Чаму заўчасна пастарэла Эдзі Агняцвет?», дзе сярод іншага абвінавачваў Э. Агняцвет у супрацоўніцтве з НКУС (у чым і бачыў асноўную прычыну «пастарэння» паэткі), але малаверагодна, што ў яго быў шанец на публікацыю. Пра тое, што С. Шушкевіч і Вашая бабуля патрымлівалі стасункі, сведчыць і фотаздымак з яго юбілейнай вечарыны з дарчым надпісам «Галіне Францаўне Самко на добры ўспамін. Станіслаў Шушкевіч. 22 лютага 1983. Дом літаратара. Вечар, прысвечаны 75-годдзю Станіслава Шушкевіча».***

***А што яшчэ прыцягнула Вашую ўвагу?***

**Аліна Алексенка:** Між іншага, машынапіс з рукапіснымі праўкамі на жоўтай паперы, такой старой, такой аўтэнтычнай, з імем Сяргей Астрэйка. Што сказала мне гэтае імя? Ад пачатку нічога. Я знайшла некаторую інфармацыю ў інтэрнэце, у беларускамоўнай Вікіпедыі, і адчула сапраўднае хваляванне. Што, калі гэты тэкст мае дачыненне да таго самага Астрэйкі?

**Аксана Данільчык:** ***Некаторыя даследчыкі лічылі, што рукапіс загінуў у гады вайны, але, на шчасце, не ўсе рукапісы згарэлі. Безумоўна, цікава, якім чынам гэты тэкст апынуўся сярод папераў Вашай бабулі, ці былі яны асабіста знаёмыя. Але, я думаю, больш падрабязна пра Сяргея Астрэйку і яго паэму «Бенгалія» распавядзе Віктар Жыбуль, які падрыхтаваў гэты ўрывак да друку*** *(чытайце ў наступным матэрыяле рубрыкі «Памяць» – рэд.)*. ***А я дзякую Вам за змястоўную гутарку, жадаю ўсім нам новых цікавых адкрыццяў у даследаванні ўласнай гісторыі і літаратуры і прапаную пазнаёміцца з вершамі Галіны Гайлевіч.***

---

[1] Машынапісная копія ліста Я. Самко да І. Шамякіна. – Фонд 4, вопіс 3, справа 439, с. 1. [пры перадруку была зроблена памылка ў прозвішчы – Гайлілевіч замест Гайлевіч – заўвага А. Данільчык].

**Галіна ГАЙЛЕВІЧ**

## *ВОСЕНЬСКІЯ РЫТМЫ КАХАННЯ*

***верш прысвячаю Ш. М.***



*Галіна ГАЙЛЕВІЧ.*

Эх ты восень, маўклівая восень,
Жоўталісьце дзівосна шуміць...
І кляновыя пальчыкі просяць
Дакрануцца суровай зямлі...
Ў гэтай восені ціха-журботнай,
Шмат крыніц і надзей пачуцьця,
Любы дружа! Павер, што сягоньня
Восень творыць ідыльлю жыцьця.
Эх, якая прыгожая жоўтасьць!
Пэрлы лісьцеў жалобна маўчаць,
Сёньня падаюць з дрэваў... а заўтра –
Будуць трупамі ў полі ляжаць...
Я падслухаю рытмы лісточкаў
І страфамі паэму саўю...
З залатымі лістамі вяночкі
Я на памяць табе падару.
Я сустрэла цябе з дзіўнай песьняй,
З вянком мар і цудоўных надзей, –
Ты мне здаўся адным з прыгажэйшых
З зіркам ясных і думных вачэй...
Ах, цябе я бязьмерна кахала,
Сёньня ж ты мне далёкі, чужы...
І само мне жыцьцё дыктавала
І прасілася сэрца – любі...
Ты жыцьцё пазнаваў неяк рана,
Ад калыскі жыць сэрцам пачаў,
Твае крыльлі каханне адняла,
Лёс другое табе абяцаў.
Ты гарэзьліва рваўся ў высі;
Адрузьлелыя крыльлі ўздымаў...
Ў цішыні ціха плакала лісьце,
Вецер песьню каханьня складаў...
Я ж на сьвет паглядаю жартліва
На душы разцьвітае вясна
Знаю я, чаму восень мне міла:
То аповесьць былога жыцьця!
Я ж цябе апрану ў кветкі мары,
І каханьне табе падару...
Восень, Восень!.. акорды гітары
Надрываюць дзявочу душу.
Ну дык грай-жа гітара крэшэндо!
У акордах каханьне нясі,
Хай твой блеск ад вачэй сьвятазарных
Дакранецца дзявочай душы!..

*11.11.1929 г., Менск*



*Галіна ГАЙЛЕВІЧ з мужам Аляксандрам і дзецьмі. 1950-я гг.*

## ОДА

***(прысьвячаю сваёй скрыпцы ў дзень яе паправы)***

Скрыпка... мая ты скрыпка,
Вылі душу сваю да дна...
Дай упіцца сталёвымі рытмамі,
Застазвонь, залатая струна!

* * *

Скрыпка... бірузовая скрыпка,
Песьняй сэрца на чвэрці ня рві,
Дай упіцца новымі рытмамі,
Каб у сэрцы півоні цвілі...

* * *

Скрыпка.. ты песьняю звонкай
Раскудлач мэлёдыйную ціш,
Каб ад гімнаў тваіх над старонкай
Грымкнуў бадзёры марш.

* * *

Скрыпка... мая ты скрыпка,
Вылі душу сваю да дна,

Дай упіцца сталёвымі рытмамі,
Застазвонь, залатая струна!..

*30.11.1929 г.*

## ЗІМОВЫ ВЕЧАР

Пацямнеў смуглявы вечар,
Зор на небе ня зьлічыць...
І з чупрынай белай вецер
Напяваючы, маўчыць...
А ў грудзях, грудзях палкіх
Кроў юнацкая бурліць
Эх, ты, вечар, вечар шпаркі,
Як цябе мне не любіць?!
Зоры зьвілі горад пенны,
Санкі рэжуць мяккі сьнег.
Серабрыцца мур каменны,
Бачу хуткі санак бег;
Дый бубенчык гулка-звонкі
Песьняй радаснай імжыць,
Сьнегавыя тчэ карункі,
І шуміць, шуміць, шуміць...
Сярод вуліц у ночнай сіні
Пад акорд стальных гудкоў
Чую, чую дзінь-дзівіні,
Чую шпарка, дзівінь-бой!
Зоры з зоркамі мігалі,
Сьмела шла пушынак раць,
Спевы ветру дагаралі...
І лажыўся горад спаць...
Я ж хачу запець з гудкамі
Беларусі новы гімн.
Кучаравіць бубянцамі,
Раскудлачыць, дзінь-дзівінь!

*01.02.1929 г., Менск*

## ТАБЕ

***(эцюд
верш прысвячаю /закрэслена/)***

Каханьне... Любы... навошта гэты словы?
Хіба бяз іх няведама таго,
Што абвіло цябе настроем новым,
Што будзіць хвалі сэрца тваяго?..
Ішлі гады, міналі за гадамі,
І занасілі шчасьце ў нябыцьцё...

Паўнілася прабегшае жыццё...
Ішлі гады... і раптам промень новы
Нібы знарок – зьнянацку мільгануў,
Схіліў ў адно далёкія галовы
І таямніцы жыцьця разгарнуў.
Жыцьцё!.. Жыцьцё!.. Магутнае, раднае!..
Жыцьцё, лятункі і новая вясна,
Кідайма ж думкі – суму перагною,
Няхай ідзе, спаткае нас яна!
Хай не на дзень, каханьне перакрэшча
Твае, мае жыцьцёвыя шляхі,
І будзе прагнуць сэрца радасьці і пешчаў,
І вочы будуць бачыць вобраз дарагі...
...Хай мільгаціць расквечанае сэрца,
У жыццёвым моры прагаю кіпіць...
Хай будзе жыцьце – радаснае скэрцо,
Бо трэба жыць, каханьнем трэба жыць.
А мо' хіба?.. Успамінаць нявартa,
Нявартa з жыцьцем біцца на нажы,
Любіць, кахаць з развагаю і жартам,
Ізноў кахаць без краю і мяжы!..

*27.05.1930 г., Менск*
*Подпіс: Г. Гайлевіч*

Рукапіс верша Галіны Гайлевіч "Табе".
27 траўня 1930 г.

## РАДАСЬЦЬ

Ну й чаму мне песьняй
Ня зьвінець ў трысьці,
Калі радасьць б'ецца,
Хоча расьцьвісьці...

На вачох смуглявых
Бачу шмат тугі...
Быццам шчасьця мала
У жыцьці маладым!!..

Вы адкіцьце сум ваш...
Раз толькі цьвісьці...
Хоць ня раз прыходзіць
Шчасьце ў жыцьці...

Лепш паклічце радасьць
Прыйдзе хай яна,
Мо' тады ня здрадзіць
Вашых дзён вясна!!..

*15.12.1932.*

*Вершы публікуюцца паводле рукапісу
з асабістага архіва
Галіны Аляксандраўны САМКО
з захаваннем правапісу арыгінала.
Падрыхтоўка да друку
Аксаны ДАНІЛЬЧЫК і Аліны АЛЕКСЕНКА.*

архівы

## Сяргей Астрэйка



...Набраклы подых неспагады
Каму удасца уламаць?
Дарма ўзгадоўвае прынаду
Заўзяты Ганьдзі Махатма...

# “Бенгалія”

***Паэма***

### Вяртанне “Бенгаліі”

Сяргей Астрэйка – таленавіты беларускі паэт, які ў 25 гадоў стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій. Ён нарадзіўся 9 ліпеня 1912 года ў вёсцы Каласоўшчына Слуцкага павета Мінскай губерні (цяпер Капыльскі раён Мінскай вобласці) у сялянскай сям'і. Вучыўся ў Капыльскай сямігодцы, дзе і пачаў пісаць вершы, якія змяшчаліся ў школьнай насценгазеце. Па парадзе вядомага пісьменніка Цішкі Гартнага з 1928 г. пачаў выступаць у рэспубліканскім друку. Адукацыю працягнуў у Менскім беларускім педагагічным тэхнікуме (1928-1930), адкуль быў выключаны за “нацыянал-дэмакратызм”. Працаваў літаратурным рэдактарам выданняў Беларускага навукова-даследчага інстытута прамысловасці, навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства Беларускай Акадэміі навук. 23 лютага 1933 г. С. Астрэйка быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і сасланы ў горад Ірбіт Свярдлоўскай вобласці, дзе быў вымушаны працаваць бухгалтарам на Ірбіцкім падшыпнікавым заводзе. У ссылцы

пераклаў раман “Яўгені Анегін” Аляксандра Пушкіна (рукапіс згубіўся). 14 жніўня 1937 г. паэт быў арыштаваны паўторна, а 13 верасня 1937 г. быў вынесены смяротны прысуд. На наступны дзень С. Астрэйку расстралялі. Рэабілітавалі яго пасмяротна ў 1956 г.

Пры жыцці паэта яго вершы друкаваліся ў газеце “Чырвоная змена”, часопісах “Полымя” і “Чырвоная Беларусь”. Але найбольш значны твор Сяргея Астрэйкі – паэма “Смарагды кроз” – была апублікавана толькі ў 1990 г. у гісторыка-літаратурным зборніку “Шляхам гадоў”. Апошнім часам паэзія С. Астрэйкі друкавалася ў анталогіі “Расстраляная літаратура” (Мінск, 2008), часопісе “Роднае слова” (2012, №7). На словы рэпрэсаванага паэта сучасны рок-гурт “Zanzibar” стварыў песню “Вятры”.


*Сяргей АСТРЭЙКА ў высылцы. Ірбіт, 1935 г. Фота з архіва Ірыны Багдановіч.*

Напісаў Сяргей Астрэйка і яшчэ адну паэму – “Бенгалія” – якую да сённяшняга дня можна было назваць адным з “фантомных” твораў беларускай літаратуры. Тэкст паэмы лічыўся страчаным, але ў свой час пра яго шмат гаварылі ў літаратурных колах. З успамінаў сучаснікаў ведаем, што паэма была прысвечана цяжкаму жыццю і вызваленчаму руху бенгальцаў супраць брытанскага каланіяльнага панавання ў Паўднёвай Азіі. Да падобнай тэмы звяртаўся, напрыклад, і Алесь Дудар, напісаўшы паэму “Шанхайскі шоўк” (1925), прысвечаную вызваленчай барацьбе ў Кітаі.

Лічылася, што да напісання “Бенгаліі” С. Астрэйку падштурхнуў прыезд у СССР вядомага індыйскага пісьменніка Рабіндраната Тагора ў верасні 1930 г. Гэтая падзея сапраўды актыўна асвятлялася ў тагачаснай савецкай прэсе, дый раней набыткі Р. Тагора былі вядомыя беларусам: яго творы перакладалі Іван Цвікевіч[1], Вацлаў Ластоўскі[2], Якуб Колас[3], Аркадзь Мардвілка[4]. Але, па словах літаратуразнаўца-эмігранта Уладзіміра Глыбіннага (Сядуры), ягоны сябар Сяргей Астрэйка зацікавіўся бенгальскай тэматыкай яшчэ раней, у студэнцкія гады (1928-1930), натхніўшыся вершам Язэпа Пушчы “Рабіндранату Тагору”, напісаным з нагоды чаканага прыезду выдатнага бенгальскага пісьменніка ў Менск у верасні 1926 г. (Але прыехаць Р. Тагор тады не змог.)[5]

“Ён [С. Астрэйка] пастараўся прачытаць усё даступнае з Тагора, гістарычнай літаратуры пра Індыю, – пісалі літаратуразнаўца Ірына Багдановіч і пляменніца С. Астрэйкі Алена Шарахоўская. – Паэту хацелася адчуць вялікі вызваленчы ўздым бенгальцаў у часы каланіяльнай залежнасці. Лёс Бенгаліі нагадаў яму лёс тагачаснай Заходняй Беларусі, дзе панаваў разгул Пілсудчыны”[6]. Ёсць інфармацыя, што ў тэкст паэмы “Бенгалія” ўвайшлі асобныя Астрэйкавы творы 1931 года, у якіх закранута заходнебеларуская тэматыка: верш “Далёка пяюць асначы” (пра паднявольную працу плытагонаў на Нёмане), а таксама фрагмент з паэмы “Смарагды кроз”, які фігураваў у ёй у якасці зноскі да дэпешы з горада Ліды (у ім С. Астрэйка па сутнасці прадказаў уз’яднанне Заходняй і Усходняй Беларусі пад савецкім сцягам)[7].

Захаваліся яскравыя сведчанні сучаснікаў, якім даводзілася чуць “Бенгалію” ў аўтарскім выкананні. Сяргей Грахоўскі ўспамінаў, як у 1932 г. у сталоўцы Дома пісьменнікаў Сяргей Астрэйка прачытаў паэму ў прысутнасці Янкі Купалы і

атрымаў высокую ацэнку апошняга[8]. А пахвала такога майстра, вядома ж, значыла вельмі шмат для маладога паэта.

Паэт-эмігрант Міхась Кавыль (успаміны ён апублікаваў пад сапраўдным імем і прозвішчам – Язэп Лешчанка) узгадваў пра чытанне паэмы С. Астрэйкам у іншых абставінах – на кватэры ў празаіка Лукаша Калюгі па вуліцы Берасцянскай, 4, куды былі запрошаныя сябры, пераважна студэнты і выпускнікі Менскага беларускага педагагічнага тэхнікума: крытык Уладзімір Сядура (Глыбінны), паэт Уладзімір Гуцька (Дудзіцкі), перакладчык і празаік Сяргей Русаковіч, літаратары Сяргей Гайка (Гайко) і Франц Гінтаўт, а таксама і сам Язэп Лешчанка. Сяргей Астрэйка заклікаў таварышаў да асцярожнасці, папярэдзіўшы, "каб гэта засталося між намі". Пасля чытання «нехта з прысутных зазначыў: "Дык гэта толькі трэба замяніць слова «Бэнгалія» на «Беларусь»..." На сваю бяду, Астрэйка не запярэчыў». Гэта дало падставу М. Кавылю назваць паэта "самым неаглядным" і пашкадаваць, што той паціху, без залішняга афішавання не прапіхнуў яе ў друк – «як Русаковіч свайго "Крумкача"[9]».

«Яму ж, калі не памыляюся, належыць і такая безагляднасьць, – працягваў далей М. Кавыль, – амаль усе, вышэй пералічаныя, насілі на штрыфелях значкі СВБ (Саюз ваяўнічых бязбожнікаў), а Сяргей пры спатканьні ці раз ткне пальцам у значок дый скажа: "Саюз вызваленьня Беларусі..." І засьмяецца. Пасьля гэтага шмат хто з нас схаваў свой значок пад штрыфель. Гэта была дурніна, нейкая гульня ў "дзекабрыстаў". А гульню гэтую "нядрэмлючае вока" сачыла ды рабіла "оргвывады"»[10].

У яшчэ адным мемуарным тэксце М. Кавыль зазначыў: "У пору б яе [паэму] выкарыстаць у антыангельскай прапагандзе, а яе падлабызнікі паэта ўзнялі на пастамент антыкамунізму, махлюючы падабенствам назоваў Бэнгалія і Беларусь, акупанты англічане – акупанты маскалі. Астрэйка не пярэчыў гэтаму і паплаціўся..."[11].

Цікава, што ў сваіх паэтычных творах М. Кавыль, наадварот, усяляк падтрымліваў версію пра антысавецкую скіраванасць паэмы, прыхаваную эзопавай мовай. Алюзіямі менавіта на такую трактоўку твора напоўнены яго верш "Бэнгалія" (25.III.1972), напісаны ў памяць пра С. Астрэйку:

Бэнгалія,
Бэнгалія...
Ты парвала ланцугі,
А сястры тваёй, Бэнгалія,
Сэрца сьцяў ланцуг тугі.

Бэнгалія,
Бэнгалія...
Не сьпяшы ў чырвоны "рай",
Дзе пакутуе, Бэнгалія,
Беларусь, твая сястра.

Бэнгалія,
Бэнгалія...
Ня румянь пажоўклы твар:
Няма розьніцы, Бэнгалія,
Душыць хан ці камісар[12].

Разглядаючы гэты верш у кантэксце патрыятычнай лірыкі беларускага замежжа, Аляксей Каўка зазначыў: "Твор узнаўляе матыў беларуска-бенгальскай салідарнасці, а перадусім асацыятыўную думку аб унутранай супраціўляльнасці краіны імперскаму дыктату [...]. Умоўна накладваючы трагічны лёс свайго пабрацiма па творчасці на пакутны гістарычны вопыт двух прасторава аддаленых і блізкіх па няволі народаў,

Кавыль ставіць і па-свойму вырашае універсальную праблему палітычнага і нацыянальна-духоўнага вызвалення прыгнечаных народаў. Засцерагае ўчарашнюю калонію, што абвясціла аб сваёй незалежнасці (утварэнне рэспублікі Бангладэш), ад прывіднасці, няўстойлівасці здабытай свабоды пры панаванні несвабоды на іншых абшарах планеты”[13].

У падобным ключы М. Кавыль напісаў пра свайго сябра і яго “Бенгалію” ў аўтабіяграфічнай паэме “Непакорныя” (1982), дзе ўсе рэальныя асобы выведзены пад зменаным прозвішчамі; Сяргей Астрэйка там фігуруе як Нарэйка, а сам аўтар – як Алесь Лучына:

Маўчы, ня пікні праўды слова
І ў снох ня кратай анты-тэму.
Ды напісаў Эзопа мовай
Нарэйка сьмелую паэму.
[...]

Алесь паэму ўважна слухаў:
Ёсьць дзесьці Ганга, Брамапутра...
Там вечны голад, нэндза, скруха.
А побач роскаш сьпіць у футрах...

Дзесь з батракоў у заміндара
Крывавы пот цячэ за рупі.
Дзесь стэкі дэньдзі валадарыць,
З бэнгальцаў дзесяць скураў лупяць.

Не аднаму Алесю, мусіць,
Прыйшло: Эзопава тут мова.
Гэта-ж аб долі Беларусі
Тая “бэнгальская” размова.

Гэта ня дэньдзі стэк крывавы
Лёг паміж Даккай і Калькутай –
Гэта наш край Масква з Варшавай
Расьцялі, кінулі ў пакуты[14].



*Вокладка кнігі “Шукальнікі ўтылю” М. Баравога і М. Іваноўскага ў перакладзе Г. Гайлевіч. 1932 г. Мастак Георгі Ізмайлаў.*

Такую трактоўку паэмы адстойвае і У. Глыбінны (Сядура), які распавядае пра некаторыя падрабязнасці нараджэння твора, пра Астрэйкаву захопленасць вершам “Рабіндранату Тагору” (1926) Язэпа Пушчы, дзе тэма беларуска-бенгальскай салідарнасці прагучала ўпершыню: “Паводле аналёгіі з паняволенай Бэнгаліяй, Беларусь тут [у вершы Я. Пушчы. – *В. Ж.*] сьведама выводзіцца ахвярай чужынскіх падбояў, а змагару за волю Бэнгаліі працягваецца братэрская рука салідарнага, але такога-ж нявольнага беларускага народу, імем якога гаварыў песьнятворац, аўтар вершу:

Хацелі народ мой чужынцы зьняславіць
І сэрца скрывавіць на раны.
Бэнгаліі гордасьць, Бэнгаліі слава!
О, гэні народаў забраных!

У песьні табе я стыхіяй малюся
І кленчу на дзікім кургане.
Кветкі крыві парасьлі ў Беларусі,
Паэта мой любы, каханы!”[15]

Ходзячы па калідорах Белпедтэхнікума, С. Астрэйка і У. Глыбінны любілі дуэтам дэкламаваць згаданы Пушчаў верш. «Зьбянтэжана шарахаліся ад гэтых словаў зьнялюбелыя нам актывістыя-камсамольцы. Але затое аганькамі цікавасьці запальваліся твары маладых хлапцоў, сьведамых свае апрычонасьці. Тады-ж Сяргей Астрэйка праняўся ідэяй стварыць вялікі паэтычны твор аб паняволенай Беларусі, Маскоўскай калёніі, пад выглядам паказу каляніяльнага рэжыму ў Брытанскай Бэнгаліі. Паэма і называлася "БЭНГАЛІЯ", пэўна-ж, не бяз уплыву таго Пушчавага вершу "Рабіндранату Тагору", якім мы гэтак захапляліся і якім гэтак пужалі тых янычараў»[16].

Версіі, згодна з якой Сяргей Астрэйка «... у паэме "Бэнгалія" паказаў Беларусь як савецкую калёнію», скарыстаўшы прыём мастацкага "пераапрананьня"[17], прытрымліваўся і літаратуразнавец Антон Адамовіч, які з тэкстам паэмы знаёмы не быў (у час яе стварэння знаходзіўся ў ссылцы), але падтрымліваў сувязі з тымі, хто яе чуў, – эмігрантамі У. Глыбінным, У. Дудзіцкім, М. Кавылём.

Яшчэ адзін з першых слухачоў "Бенгаліі" Франц Гінтаўт ва ўспамінах адзначыў паэму як найлепшае з напісанага С. Астрэйкам, дадаўшы, што ў свой час яна рыхтавалася да друку[18].

Прысвяціў Сяргею Астрэйку верш ("На папялішчы руж", 1937) і прысутны на аўтарскім чытанні "Бенгаліі" Уладзімір Дудзіцкі. У творы пра трагічны лёс маладога паэта прысутнічаюць алюзіі на абедзве паэмы С. Астрэйкі – нагадаем, што "Смарагды кроз" на той момант таксама не былі апублікаваны:

Зіхцяць "Смарагды кроз"
на сьцежках долі карнай.
І сум бэнгальскіх рос
над вуліцай Гарбарнай
п'е чару горкіх сьлёз
із поўсьці ночы хмарнай...[19]

І падобна, што менавіта С. Астрэйка з'яўляецца адным з адрасатаў верша "У добры час" Сяргея Дарожнага. Верш датаваны *17-1–31 г.* і прысвячаны *"поэтам-экзотыкам"*, якім аўтар жартаўліва раіць: "Едзьце, любыя, сабе паволі / Хоць у Індыю, хоць на Цэйлон"[20]. Аднаго з адрасатаў – Юлія Таўбіна – вылічыць нескладана: С. Дарожны выкарыстоўвае празрыстыя алюзіі на яго верш "Дужы вецер і маладзік з Гётэвае аповесці". Але прысвечаны верш не толькі Ю. Таўбіну, але яшчэ і нейкаму аматару дыялектызмаў, які мог бы напісаць, напрыклад, такое:

Конча сыдуцца дарогі клінам...
Кліча звабную шамок зіму...
Быць на почаку было калі нам
За талочаю узорных муз...[21]

Не выключана, што гэта спроба з'імітаваць паэтычны стыль Сяргея Астрэйкі, адметны сваім лексічным багаццем.

Творчасць паэта знайшла водгук і ў нашым часе: у Ірыны Багдановіч ёсць верш "Памяці Сяргея Астрэйкі" (1987)[22] – своеасаблівы рэквіем па бязвінна загубленым маладым паэце.

Словам, "Бенгалія" – вядомы ў свой час і таленавіты твор, які, нават не будучы апублікаваным, быў на слыху, займеў пэўнае кола прыхільнікаў і паспеў абрасці разнастайнымі інтэрпрэтацыямі, легендамі, чуткамі і літаратурнымі парафразамі. Хоць сам тэкст не захаваўся (ці, прынамсі, лічыцца, што не захаваўся), паэма згадвалася і працягвае згадвацца не толькі ва ўспамінах сучаснікаў, але і ў біяграфічных артыкулах пра С. Астрэйку, а таксама літаратуразнаўчых даследаваннях больш шырокага тэматычнага ахопу.



*Лукаш КАЛЮГА, Франц ГІНТАЎТ і Сяргей АСТРЭЙКА – студэнты Менскага белпедтэхнікума. 1929 г. Фота з архіва Ірыны Багдановіч.*

Пра сумны лёс асабістага архіва Сяргея Астрэйкі, у тым ліку і рукапісу “Бенгаліі”, распавядаецца ў артыкуле І. Багдановіч і А. Шарахоўскай: «Загінулі і рукапісы С. Астрэйкі, якія маці неўзабаве пасля першага арышту Сяргея забрала дадому, у Каласоўшчыну, як ён і прасіў, упэўнены, што адбылася недарэчнасць і што ён хутка вернецца. У 1936 годзе бацькі яго пераехалі ў Ленінград. У Каласоўшчыне ж засталася старэйшая сястра з мужам, застаўся там і поўны куфэрак Сяргеевых рукапісаў, дзе, безумоўна, былі і экземпляры “Бенгаліі”. У вайну сястра з мужам загінулі, а напалоханая малапісьменная сестрына свякроў спаліла ўсе рукапісы, не ўяўляючы, якую каштоўнасць яна знішчае. Сяргеева пляменніца [а гэта і была Алена Шарахоўская. – *В. Ж.*], тады маленькая дзяўчынка, і цяпер памятае, як гарэлі тыя паперы: “Іх было многа-многа... Пажоўклыя, спісаныя чарнілам, друкаваныя на машынцы...”»[23].

І вось – сенсацыя: частку “Бенгаліі” нечакана адшукала мінчанка Аліна Алексенка, разбіраючы архіў сваёй бабулі Галіны Гайлевіч (Ядвігі Самко), на пачатку 1930-х – маладой паэткі і перакладчыцы. Але якім чынам фрагмент “Бенгаліі” мог трапіць да яе?

Так, вядома ж, аднагодкі Сяргей Астрэйка і Галіна Гайлевіч маглі быць знаёмыя між сабой і мець шмат агульных сяброў у літаратурных колах. Але ці маюцца якія-небудзь канкрэтныя сведчанні іх знаёмства – увогуле, якія-небудзь дакументальна зафіксаваныя кропкі іх перасячэння? На шчасце, такая кропка знайшлася. І кропка гэтая вельмі адметная: яна з цікавага боку характарызуе і С. Астрэйку, і Г. Гайлевіч, і іх узаемаадносіны.

Пачнем з таго, што Сяргей Астрэйка быў чалавекам вельмі неабыякавым да стану беларускай літаратурнай мовы. Гэта яскрава бачна па шэрагу яго твораў пачатку 1930-х гг.: паэме “Смарагды кроз”, вершах “Пошчак з усхонаў”, “Далёка пяюць асначы”, “На расцяробе”, “Прошвы пэўнасці”, перакладзе “Песні пра буравесніка” Максіма Горкага. (І тут яшчэ раз міжволі пашкадуеш, што страціўся астрэйкаўскі пераклад “Яўгенія Анегіна” А. Пушкіна: ён яўна адрозніваўся б і ад хрэстаматыйнага куляшоўскага, і ад знойдзенага нядаўна дудароўскага.) Актыўнае ўжыванне дыялектызмаў стала неад’емным складнікам агульнай эстэтыкі яго твораў, адметнасцю, якая робіць яго паэтычны стыль пазнавальным. Памкненні С. Астрэйкі ўзбагаціць родную мову не абмежаваліся толькі літаратурна-мастацкай творчасцю. З моўнымі скарбамі была непасрэдна звязана і яго прафесійная дзейнасць: пасля навучання ў педтэхнікуме ён працаваў літрэдактарам выданняў Беларускага НДІ прамысловасці, а ў 1932-1933 гг. быў навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства Беларускай Акадэміі навук, чальцом Камісіі па складанні слоўнікаў.

Улетку 1932 г. Сяргей Астрэйка апублікаваў артыкул пад асуджальнай назвай “Нядбайліцы і бракаробы на моўным фронце”, у якім на прыкладзе некалькіх перакладных кніг уздымаў праблему непісьменнасці, “сапсутасьці беларускай мовы”, што мела месца тады ў кніжнай прадукцыі Беларускага дзяржаўнага выдавецтва і Дзяржаўнага навукова-тэхнічнага выдавецтва Беларусі. Аўтар

крытыкаваў неапраўданае ўжыванне русізмаў (кшталту *адрыцаньні, пасьледзтва, ушчэрб, староньнікі*) замест беларускіх адпаведнікаў (*адмаўленьне, вынік, урон, прыхільнікі*), не ўхваляў ужыванне няўдалых граматычных формаў, сінтаксічных ка́лек, якія часам скажалі сэнс арыгінальнага тэксту, набываючы небяспечную для таго часу ідэалагічную двухсэнсоўнасць кшталту "Усе гэтыя *безабразьзі* выцякаюць [...] з-за адсутнасьці *дбаласьці да клясавага ворага і шкодніка*" або "*Мы накіраваліся наперад – у паход за абразамі*" (вылучэнні С. Астрэйкі)[24]. І адпаведна, "моўныя бракаробы" такім чынам ператвараліся ў "агентаў клясавага ворага". Зазначаючы гэта, С. Астрэйка яўна перабольшваў – некаторыя яго выказванні, асабліва на сённяшні погляд, успрымаюцца як занадта ваяўнічыя. Але пісаўся артыкул у складаных умовах. Яшчэ ў пачатку 1930 года ў Беларускай Акадэміі навук прайшла дыскусія аб марксізме, мовазнаўстве і шляхах развіцця беларускай літаратурнай мовы. У рэзалюцыі гэтай дыскусіі, зацверджанай бюро ЦК КП(б) Б, паведамлялася, што прадстаўнікі варожай палітычнай плыні, так званыя нацыянал-дэмакраты, "робяць спробу замацаваць свае пазіцыі ў галіне мовы і мовазнаўства", змагаючыся супраць уключэння інтэрнацыяналізмаў і русізмаў у беларускую літаратурную мову. Барацьба за чысціню мовы прыраўноўвалася партыйнымі ідэолагамі да "барацьбы супраць пралетарскай рэвалюцыі"[25]. Падобныя фармулёўкі і ідэалагічныя штампы, уласцівыя савецкай публіцыстыцы 1930-х гг., выкарыстоўвае ў сваім артыкуле і С. Астрэйка, але накіроўвае зусім у іншы бок – супраць "вялікадзяржаўнага шавінізму", носьбітамі якога, паводле аўтара, з'яўляюцца прыхільнікі ўвядзення ў мову русізмаў. Публікацыя С. Астрэйкі сведчыць пра дэзарыентаванасць Інстытута мовазнаўства (у якім працаваў паэт) навязаным яму класавым падыходам да мовы, а таксама пра негатоўнасць прадстаўнікоў навукі і культуры хутка прыняць устаноўкі партыйнага кіраўніцтва. У гэтым сэнсе артыкул С. Астрэйкі можна ўспрымаць як яркі і смелы выступ у абарону чысціні беларускай мовы напярэдадні сумнавядомай русіфікатарскай рэформы правапісу 1933 г. Толькі маючы спасылкі на партыйных аўтарытэтаў такі артыкул мог быць апублікаваны. Дый права народаў СССР на нацыянальнае самасцвярджэнне, дэкляраванае спачатку Леніным і Сталіным, было тым, што пачало вабіць С. Астрэйку ў курсе савецкай палітыкі яшчэ да таго, як масавыя рэпрэсіі набылі шырокі размах. Можна сказаць, што артыкул "Нядбайліцы і бракаробы на моўным фронце" і паэтычныя творы С. Астрэйкі пачатку 1930-х гг., у тым ліку і "Бенгалія", маніфестуюць аўтарскае бачанне беларускай літаратурнай мовы з двух розных бакоў. Ілюструюць яны разам і адну з рысаў Астрэйкавага характару, трапна прыкмечаную яго сябрамі: "Быць можа, галоўным з яго этычных і эстэтычных прынцыпаў была высокая патрабавальнасць да сябе і да іншых. Ён быў скупы на пахвалы – не з душэўнай чэрствасці, а хутчэй ад патрабавальнасці майстра, які рады высока ацаніць тваю працу, але адначасова чакае ад цябе яшчэ большага. Мы не хвалілі адзін аднаго ў сваім коле – хутчэй, мы крытыкавалі работу таварыша, звяртаючы ўвагу на слабыя бакі і недахопы. Добрае ўхвалялася маўклівым прызнаннем, без гучных фразаў. Кепскае трапляла пад суровы разгром"[26], – успамінаў Сяргей Гайко, аднакурснік аўтара "Бенгаліі".

Адным з галоўных аб'ектаў строгай Астрэйкавай крытыкі ў артыкуле "Бракаробы і нядбайліцы..." стала кніга "Шукальнікі ўтылю" (Менск: Юндзетсектар БДВ, 1932) расійскіх аўтараў М. Баравога і М. Іваноўскага, адрасаваная піянерам і акцябратам. *«У кніжцы ані званьня беларускае мовы*, – горача абураўся С. Астрэйка, – *усюды з аўтэнтыку перанесены звароты, словы, для людзкога вока рупна расстаўлены "ў", пададзена беларуская транскрыпцыя і сям-там пералажана слова»*. Далей пададзены немалы шэраг такіх няўдалых прыкладаў з пазначэннем старонак у дужках: *«"трапка" (77), "топліва" (32), "хрупкая", "дастаўляе турботу" (21), "абуўны" (23); "забаўны выгляд", "чапец", "ласкут", "гнільца" (17); "падлічвае ва ўме" (4);*

*“няма і ў паміне” (5); “прошлы год” (68); “страхаваў попел” (70); “хрукае”, “шалуха”, “батва”, “уносіць дапайненьні” (79); “мажавілавы ягады” (80); “пабракушкі”, “чардак”, “яшчык”, “агнятрывалыя жалудкі” (растуць не на дубе – страйнікі), – “прыёмшчыкі прычапляліся да кожнага кавалку рызьзя на спросту” (49); “мусарныя косьці зрадні земляным” (30); “маюцца зьвесткі”, “нада мной сьмяюцца”, “прызываю рабят” і некалькі сотак іншых падобных да гэтых».* Кнігу “Шукальнікі ўтылю” няўрымслівы змагар з русізмамі ахарактарызаваў як “выпадак сапраўднага моўнага шкодніцтва”, “прыклад зьнеасабленьня беларускае мовы, ператварэньня яе ў гаворку”, які дае падставу казаць нават пра “выразнае *сьвядомае абмінаньне ўласьцівасьцяў беларускае мовы – адну з характэрных рысаў вялікадзяржаўнага шавінізму*”[27].

Хто ж быў перакладчыкам згаданай кнігі? Менавіта яна, ужо знаёмая нам Галіна Гайлевіч! Але ў артыкуле яе прозвішча ні разу не згадваецца: усе крытычныя стрэлы С. Астрэйкі атрымала стылістка Н. Уласевіч. Цікава, што ўвогуле з чатырох разгледжаных С. Астрэйкам кніг толькі ў адной з іх (“Аповесць аб стралку” І. Чыбісава) аб’ектам крытыкі стаў перакладчык-“бракароб” М. Горны. У астатніх трох (“Сустрэчны плян у калгасах” К. Шуваева і М. Іванова, 1931, пераклад [І.] Сівака; “Каравульная служба” М. Марчанкі, 1932, перакладчык не пазначаны; і ўжо згаданая “Шукальнікі ўтылю”) віна за шматлікія памылкі легла чамусьці менавіта толькі на стылістаў: Лоскага, Н. Курыловіч і Н. Уласевіч. Чым гэта можна патлумачыць? Наўрад ці асабістымі сімпатыямі і антыпатыямі С. Астрэйкі – падобны падыход выглядаў бы несумленна, дый аўтар артыкула мог атрымаць бы за гэта пакаранне. Хутчэй наадварот: С. Астрэйка падышоў да справы вельмі адказна і не паленаваўся высветліць, хто ж у кожным канкрэтным выпадку быў вінаваты ў псаванні мовы выдання. Бо магло быць і так, што неблагую мову аўтара ці перакладчыка бязлітасна і некампетэнтна правіў стыль-рэдактар. На гэта намякае і сам аўтар артыкула, паведамляючы пра заганную практыку некаторых выдавецтваў залічаць нават пашыраныя ў беларускай мове словы (кшталту *“газа”*, *“попел”*, *“шруба”*, *“варштат”*, *“выстарчальны”*) да “правінцыяналізмаў” і забараняць іх да ўжытку. (Дарэчы, і ў наш час здараюцца выпадкі, калі рэдактар, кіруючыся нейкім адным слоўнікам і ігнаруючы іншыя, робіць праўкі без узгаднення з аўтарам, падганяючы лексіку публікацыі пад “афіцыйна зацверджаную”.) Мы не ведаем, як адрэагавала на гэтую крытычную публікацыю Г. Гайлевіч. Усё, напэўна, залежыць ад таго, у якіх адносінах яна была з Н. Уласевіч і ці былі стылістычныя праўкі зроблены паводле або насуперак жадання перакладчыцы.

І вось у Галіны Гайлевіч нейкім чынам апынаецца іншы тэкст Сяргея Астрэйкі – дзе ён выступае ўжо не як строгі, патрабавальны і нават ваяўнічы крытык, а як таленавіты і арыгінальны паэт. У сувязі са згаданым артыкулам можна было б падумаць, што С. Астрэйка сам перадаў ёй машынапіс “Бенгаліі” як узор самабытнай і нерусіфікаванай беларускай мовы, прыклад добрага літаратурнага стылю. Аднак... заўвагі на палях 4-й старонцы машынапісу сведчаць пра іншае. Зроблены яны надта знаёмым почыркам, які трапляецца на палях многіх выданняў і дакументаў, што захоўваюцца, напрыклад, у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. І належыць гэты почырк белаппаўскаму крытыку і літаратуразнаўцу Лукашу Бэндэ, вядомаму не толькі сваімі разгромнымі артыкуламі[28], але і цягай да збірання рукапісаў самых розных аўтараў. Так у яго аселі і знакамітая “Беларуская хрэстаматыя” Браніслава Эпімаха-Шыпілы, і паэма “Жыды” Змітрака Бядулі, і п’еса “Памінкі” Максіма Гарэцкага, і падрыхтаваныя да друку, але не выдадзеныя вершаваныя зборнікі паэтаў 1920 – 1930-х гг.: “Дэпешы без адрасу” Уладзіміра Дубоўкі, “Як шум дажджу” Змітрака Астапенкі, “Лірыка. Эпас” Юлія Таўбіна, урэшце паэма “Смарагды кроз” самога Сяргея Астрэйкі[29]. Таму не дзіўна, што кавалак “Бенгаліі” таксама патрапіў да яго. Але якім чынам тады ён апынуўся ў Галіны Гайлевіч? Пазнаёміўшыся з біяграфіямі абодвух, бачым,

што Л. Бэндэ з 1931 да 1934 г. працаваў у Інстытуце мовазнаўства Беларускай Акадэміі навук – дзе і С. Астрэйка да арышту! Адначасова, у 1933-1934 гг., крытык меў пасаду і ў Дзяржаўным выдавецтве БССР – акурат там, дзе Г. Гайлевіч у 1934-1936 гг. працавала стыль-рэдактаркай! Так што, сыходзячы з працы, Л. Бэндэ мог нейкія паперы і пакінуць. І тады яго маладая каляжанка ўзяла з іх сабе тое, што яе найбольш зацікавіла, – паэму ўжо вядомага ёй Сяргея Астрэйкі, які на той час адбываў ссылку ў далёкім Ірбіце. Гэты машынапіс яна зберагала цягам усяго жыцця як дарагі скарб, разумеючы яго мастацкую каштоўнасць...

І вось перад намі – тэкст паэмы, трынаццаць з паловай машынапісных аркушаў з дробнымі аўтарскімі праўкамі (пераважна выпраўленнямі абдрукоўвак, але ў некалькіх выпадках заменены і цэлыя словы). Дакладней, як зазначыў ва ўступным слове сам С. Астрэйка, толькі “кавалак другое часткі твору” пад агульным загалоўкам “Надломаны крык Сузарыты”. Ужо сама наяўнасць такога ўступнага слова падказвае, што ўрывак рыхтаваўся да публікацыі ў нейкім перыядычным выданні. Найбольш праўдападобна, што гэта быў часопіс “Чырвоная Беларусь” або “Полымя” – у гэтых выданнях Сяргей Астрэйка надрукаваў у 1930 – 1932 гг. некалькі твораў. Але абставіны склаліся так, што ўбачыць свет не давялося нават урыўку. Усё адбылося амаль адначасова: 23 лютага 1933 г. Сяргей Астрэйка быў арыштаваны, у сакавіку часопіс “Чырвоная Беларусь” спыніў існаванне, а ў жніўні – дадамо – была праведзена тая самая рэформа беларускага правапісу, адметная сваім русіфікатарскім ухілам.

Калі меркаваць па захаваным фрагменце, паэма “Бенгалія”, як і папярэдняя – “Смарагды кроз”, магла ўяўляць з сябе *камбайн* (ад англ. *to combine* – камбінаваць, суладжваць, спалучаць, змешваць) – так вызначыў гэтую жанравую форму Уладзімір Дубоўка, які і ўвёў яе ў беларускую літаратуру. Камбайн – паэтычны твор буйнога аб’ёму са шматкампанентнай структурай. Яго форма прадугледжвае спалучэнне лірычнага, эпічнага і драматычнага пачаткаў, наяўнасць вершаваных каментароў у зносках, уставак аўтаномных тэкстаў розных жанраў (з самастойнымі сюжэтамі)[30], у тым ліку перакладаў твораў іншых аўтараў. Драматычная частка камбайна можа ўтрымліваць тыповыя для п’ес дыялогі, маналогі, аўтарскія рэмаркі, трымацца на канфлікце персанажаў-антаганістаў: узгадайма Дубоўкавых Лірыка і Матэматыка з паэмы “І пурпуровых ветразей узвівы”, Пасажыра і Кандуктара з “Штурмуйце будучыны аванпосты!”, Астрэйкавых Знябыціча і Прышлевіча з яго “Смарагдаў кроз”[31]. Трэба сказаць, што С. Астрэйка быў у гэтым сэнсе найбольш таленавітым і да таго ж смелым паслядоўнікам У. Дубоўкі. Ён не пабаяўся звярнуцца да жанру камбайна, ведаючы пра тое, што паэт, які яго вынайшаў, асуджаны як “нацдэм” і адбывае пакаранне. «Бліжэй за іншых быў яму Уладзімір Дубоўка, паэт яркага таленту і вялікай культуры, – успамінаў Сяргей Гайко. – Астрэйка ведаў не толькі раннія, але і новыя, тады яшчэ не надрукаваныя творы Дубоўкі, напрыклад, яго пераклады з Байрана і Пушкіна, яго паэму “Камбайн”»[32]. (Пад апошнім маецца на ўвазе паэма “Штурмуйце будучыны аванпосты!”, напісаная ў 1929 г., але не прапушчаная ў друк Галоўлітам. Упершыню апублікавана толькі ў 1965 г.)

Багацце дыялектызмаў у сукупнасці з ускладненай метафарыстыкай робіць паэму не заўсёды лёгкай для ўспрымання, асабліва калі ўлічваць, што гэта толькі “кавалак другое часткі”, а першай, якая многае патлумачыла б, мы не ведаем. Але пра агульны дух, настрой твора, а таксама яго ключавыя вобразы і матывы яна дае яскравае ўяўленне.

Такім чынам, падрыхтаваны С. Астрэйкам да друку ўрывак з “Бенгаліі” складаецца з пяці фрагментаў, аб’яднаных вобразам Сузарыты, які накіданы досыць пункцірна, дробнымі штрыхамі, але пры гэтым з’яўляецца скразным.

Першы фрагмент “Надломаны крык Сузарыты” адлюстроўвае змрочна-трывожную атмасферу начнога бенгальскага горада. Кабета з гладышамі вады,

знясіленая, падае на брук; потым яе зняважліва шпурляюць каланізатары-альбіёнцы, але яна з апошніх сіл плюе аднаму з іх у твар і зноў губляе прытомнасць. Гэтая кабета і ёсць Сузарыта. Аўтар называе яе таксама маці, маткай. Чыёй менавіта маці была Сузарыта – з тэксту няясна, але ў трэцім фрагменце “Ашчапак ночы” ёсць намёк на адну з тэматычных ліній паэмы – бенгальскіх жанчын, матак паўстанцаў (персанаж Кароту прамаўляе: *“Не адна сваю гардасьць шпурляла дрыготка ў бяздоньне. / Не адна / з камяніц / наважалася цела абдзерці – / Кроў сыноўскую ўзьняць, прыплясканую ’мклівасьцю коняй”*).

У цэнтры другога фрагмента “Азызлыя вылюдкі земнае галы” – вобраз нейкага паэта, які бачыць навокал прыгнёт і несправядлівасць, але пагарджае вострасацыяльнай тэматыкай (“кідае зьняважліва ў цень”) і пераўтварае свае бунтоўныя пачуцці ў “лірычныя песні”, пазбаўленыя надзённай актуальнасці. Гэтым самым ён аддаляецца ад праблем заняволенага народа і робіцца выразнікам інтарэсаў яго прыгнятальнікаў, якіх С. Астрэйка пагардліва называе “ашчапкамі людзкой гнілаты” і “азызлымі вылюдкамі земнае галы”. І таму, у адрозненне ад твораў адарванага ад мас паэта, адчайна-трывожны крык Сузарыты будзе пачуты. Гэтая жанчына – персаніфікаванае ўвасабленне няскоранага народнага духу бенгальцаў.

Мяркуючы па пазнацы на палях, Лукаш Бэндэ нават угледзеў у паэце канкрэтнага прататыпа, прычым не абы каго, а самога Уладзіміра Дубоўку – літаратурнага настаўніка С. Астрэйкі. На такую думку можа навесці і словазлучэнне *“склізота крыві”*, якое аўтар падкрэсліў хвалістай лініяй (так звычайна пазначаюць курсіў), магчыма, перафразуючы вядомы Дубоўкаў радок “Імжа, і склізота, і прыкрая золь”, з якога пачынаюцца яго верш з нізкі “Летуценні” (1922) і 1-я “мелодыя” з цыклу “Наля” (1925). Другое аўтарскае вылучэнне – у радку “Лірычных песень – *пранясу*” – можа выклікаць асацыяцыі з Дубоўкавым вершам “Не кажу – запявайце, цымбалы” (1925): “Ой, браточкі мае, таварышы, / ды чаму ж гэта ў радасці сум?.. / Нечакана возьмеш заваліўся, / столькі песень я ў сэрцы нясу”. Прамога ж цытавання У. Дубоўкі ў гэтым фрагменце “Бенгаліі” няма, таму гаворка можа ісці хіба што пра зборны вобраз, магчыма, навеяны літаратурнымі дыскусіямі пачатку 1930-х гг.

Трэці фрагмент “Ашчапак ночы” ўяўляе з сябе драматызаваны дыялог персанажаў з імёнамі Даржагон і Кароту. Хто яны такія – дакладна сказаць мы не можам, бо, на жаль, не ведаем усёй перадгісторыі адлюстраваных падзей. Але па асобных рэпліках можна меркаваць, што гэта людзі розных сацыяльных груп (ці, улічваючы бенгальскія рэаліі, – кастаў). Даржагон – чалавек заможны, прадстаўнік арыстакратыі, ён меў ва ўласнасці палац і гуту, прычым пераўжыў паўстанне сваіх падначаленых, што адбылося на хвалі агульнага неспакою *(“...апантанага лёкая подых / Каля гутаў плыве і дрыжыць мой палац у зьнямозе. / Рабаўніцкія рукі! Чужое уласнасьці прагнуць?..”*). Кароту належыць да яўна ніжэйшага саслоўя: у адным месцы ён намагаецца звярнуцца да Даржагона *“Трэба выпіць, пано...”* (“паночку”?), у іншым – не стрымліваецца і кідае таму папрокі як капіталісту-эксплуататару: *“Гэта ты, / Гэта ты, / Гэта-ж ты супакой іхны выпіў, / Не твая мо’ рука да шмаціны усё абакрала?”* Як можна зразумець, Кароту валачэ параненага Даржагона на карабель, каб удваіх з ім пакінуць занятую брытанскімі войскамі Бенгалію *(“Варта з палубы кінуць апошні Бэнгаліі позірк”*) і плыць туды, дзе “жыццё прастарнейшае гляне”. Такая трактоўка фрагмента паэмы мае гістарычнае тлумачэнне: у часы нацыянальна-вызваленчага руху многія дробнабуржуазныя індыйскія рэвалюцыянеры, ратуючыся ад праследу з боку каланіяльных уладаў, пакідалі радзіму і адплывалі ў эміграцыю. У фінале героі чуюць той самы “Сузарыты надломаны голас”, “узгадованы болем пакуты” – увасабленне свабоднага духу, які немагчыма знішчыць. Трэба звярнуць увагу, што “Ашчапак ночы” напісаны 5-стопным анапестам, а гэты вершаваны памер, па назіраннях даследчыкаў літаратуры, мае свой асаблівы семантычны арэол: ён звязаны з жанрам элегіі ці нават непасрэдна з тэмай смерці, у напісаных ім вершах

часта прысутнічае “жалобны, хаўтурны, могілкавы кампанент”[33]. Гэта аказваецца справядлівым і для твора С. Астрэйкі: у дыялогу ідзе гаворка пра развітанне з радзімай, пра чалавечыя ахвяры і смяротныя пакуты, дый сам Даржагон адчувае, што можа памерці. (Беручы пад увагу відавочныя эксперыменты беларускага паэта ў стварэнні высокага стылю, можна ўявіць, што ён мог бы стаць добрым перакладчыкам класічных трагедый.)

Чацвёрты фрагмент “Нелад” апісвае пакуты зняволеных, якія за ўдзел у вызваленчым руху трапілі ў астрог. Па іх зняможаных, “зругаваных” целах поўзаюць мурашкі, а дзесьці за плотам пранізліва завываюць шакалы. Сярод вязняў – Сузарыта, якая галосіць, просячы засекчы яе. І гэты крык будзіць супраціў у яе сябрах па няшчасці: “нехлямяжая пакора” пакрысе развейваецца і замест яе “дужэе ўпартасьць”.

Пяты фрагмент мае назву “Народжаны голас”. Магчыма, гэты голас – голас народа, “узьнёслы гоман занядбаных”, “помсты вястун” – тое, ува што эвалюцыянаваў “надломаны крык Сузарыты”. Цяпер, па меры развіцця тэмы нарастання народнага пратэсту, ён гучыць ужо як палымяны заклік паслядоўна і ўпарта дасягаць сваёй мэты ў здабыванні свабоды (*“Не адцінай сьлядоў ад мэты”*), “узрываць на-поверх” “падзей разгойданых карчы”, глядзець у будучыню з аптымізмам (*“Шпурні слатой з узьнёслых паляў / Усякай нэндзы наўздагон”*). Аўтар раіць дасягаць мэты рашуча, але асцярожна і хітра. Ён нават спрабуе палемізаваць з Махатмам Гандзі, чые негвалтоўныя метады грамадзянскага падпарадкавання падаюцца С. Астрэйку толькі “прынадай” для каланізатараў. Але, як мы цяпер ведаем, набыццё Індыяй незалежнасці ад брытанскага панавання адбылося шмат у чым дзякуючы М. Гандзі.

Падкрэслім, што сам Сяргей Астрэйка ніколі ў жыцці не быў у Бенгаліі і, натуральна, не быў сведкам гістарычных падзей, што там адбываліся. Таму ў паэме аўтарскія ўмоўнасці пераважаюць над канкрэтнымі дэталямі. Паэт засяроджаны найперш на перадачы настрояў, адчуванняў; яго твор мае вялікі эмацыйны складнік. Аўтар малюе хмурную, бязрадасную, напружаную атмасферу, выкарыстоўваючы элементы імажыніцкай і экспрэсіяніцкай паэтыкі. З дапамогай складаных метафар ён паказвае гукі, рухі, а таксама чалавечыя думкі, пачуцці і настроі ў “рэчыўным”, матэрыялізаваным выглядзе: *“Выбіванка трывогі заўсёды замосьціць / Праварыны згурашчаных, збэшчаных дум”*, *“Мітусьня у крыві сваё крыльле намочыць”*, *“Ператрухлелі думак парэнчы”*, *“У лагодным сьвятле убярэ кіпцюры неспагада”*, *“Нехлямяжа паўзьці будуць думы бяз рук і бяз ног”*, *“Жадункі скурчанай паставы / Варушаць пошчак храбусьні”* і інш.

І напэўна, няма нічога дзіўнага, што яшчэ сучаснікі ўспрымалі “Бенгаліі” як твор не толькі пра Бенгалію. Гэта паэма пра спрадвечную мару аб свабодзе, пра імкненне падняволеных народаў вызваліцца ад прыгнёту. На тое ён і талент, каб ствараць універсальныя мастацкія абагульненні, – і магчыма, кожны ўбачыў у паэме тое, што хацеў убачыць. Напісаная арыгінальным стылем, багатай і вобразнай мовай, яна нарэшце робіцца і набыткам беларускага прыгожага пісьменства, і істотна ўзбагачае творчую спадчыну Сяргея Астрэйкі, з якой на сённяшні дзень вядома нямнога: яшчэ адна паэма (“Смарагды кроз”), каля тузіна вершаў, адзін пераклад[34] і два артыкулы. Хоць “Бенгалія” дайшла да нас толькі ў фрагментах, але самі абставіны яе знаходкі прымушаюць задумацца: а раптам выпадкова, падчас разбору старога бабулінага ці дзядулевага куфра, вось так у каго-небудзь знойдзецца і іншая частка гэтай паэмы – там, дзе ніхто яшчэ і не дадумаўся б шукаць? Ці нават не абавязкова “Бенгалія”, а што-небудзь іншае, не менш значнае і прыкметнае? Патрэбна толькі болей уважлівасці і цікаўнасці – і да сваёй сямейнай гісторыі, і да спадчыны мінулага ўвогуле.

**Віктар ЖЫБУЛЬ**

[1] Беларускі сцяг (г. Каўнас). 1922. № 4. – С. 19; пад крыпт. І. Ц.
[2] Крывіч (г. Каўнас). 1923. № 2. – С. 6 – 8; пад крыпт. Л. А.
[3] Чырвоны сейбіт. 1926. № 5; Полымя. 1927. № 1.
[4] Маладняк. 1926. № 10; 1927, № 7-8; Чыровоны сейбіт. 1927. № 10-11 (пад крыпт. А. Л.), 15; Тагор Р. Садоўнік: Апавяданьне-імпрэсія. – Менск: ЦБ "Маладняка", 1927.
[5] Глыбінны У. Паэта з Божай ласкі: Успаміны й роздум пра Язэпа Пушчу (1902 – 1964). – Нью-Ёрк, 1979. С. 32 – 34, 123. Верш "Рабіндранату Тагору" ўвайшоў у кнігу Я. Пушчы "Дні вясны" (Менск, 1927).
[6] Багдановіч І. Шарахоўская А. Узнёслых гадоў наструнованы верш: Пра С. Астрэйку і яго паэму // Шляхам гадоў: Гіст.-літ. зб. – Мінск: Маст. літ., 1990. – С. 124.
[7] Тамсама.
[8] Грахоўскі С. Так і было: Артыкулы. Успаміны. Эсэ. – Мінск: Маст. літ., 1986. – С. 19.
[9] Маецца на ўвазе апавяданне С. Русаковіча "Крумкач" (часопіс "Узвышша", 1931, № 4), дзе, як пісаў М. Кавыль, аўтар "у замаскіраванай форме крытыкаваў маскалёў, якіх у народзе называлі крумкачамі".
[10] Кавыль М. Міжагнёўе: Выбр. творы. – Нью-Ёрк: БІНІМ. Друк. М. Прускага, 1990. С. XIII.
[11] Лешчанка Я. "Казённы дом і далёкая дарога": Успаміны // Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк). 1992. № 20. – С. 68 – 69.
[12] Кавыль М. Міжагнёўе... – С. 121.
[13] Каўка А. Краса калючая шыпшыны...: Патрыятычная лірыка беларускага літаратурнага замежжа // Вяртання маўклівая споведзь: Постаці творцаў беларускай гісторыі ў кантэксце часу. – Мінск: Выш. школа, 1994. – С. 295.
[14] Кавыль М. Міжагнёўе... – С. 255 – 256.
[15] Глыбінны У. Паэта з Божай ласкі... – С. 32 – 33.
[16] Тамсама. – С. 33 – 34.
[17] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры. – Менск: Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. – С. 736.
[18] Гінтаўт Ф. Па слядах дзвюх знічак // Гінтаўт Ф. З картатэкі памяці. – Гродна: ГрДУ, 2000. – С. 115.
[19] Дудзіцкі У. Выбраныя творы. – Мінск: Лімарыус, 2010. – С. 57.
[20] Дарожны С. Пракосы на памяць: Вершы. – Менск: ДВБ, 1932. – С. 50.
[21] Тамсама. – С. 51.
[22] Багдановіч І., Фрэскі: Вершы і паэмы. – Мінск: Маст. літ., 1989. С. 29 – 32; рукапіс захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ), ф. 55, воп. 1, адз. зах. 11, арк. 1 – 5).
[23] Багдановіч І., Шарахоўская А. Узнёслых гадоў наструнованы верш... С. 125 – 126.
[24] Астрэйка С. Нядбайліцы і бракаробы на моўным фронце // Кніга – масам. 1932. № 4-5. – С. 37.
[25] Гл. пра гэта: Запрудскі С. Кампанія за культуру мовы ў Беларусі ў 1930-я гг. // Roczniki Humanistyczne (Lublin). T. LIII, zesz. 7. Seria: Słowianoznawstwo. 2005. S. 113 – 136.
[26] Гайко С. Памяти Сергея Астрейки // БДАМЛМ. Ф. 55, воп. 1, адз. зах. 12, арк. 3 – 3 адв.
[27] Астрэйка С. Нядбайліцы і бракаробы... С. 40 – 41.
[28] Вульгарызатарская дзейнасць Л. Бэндэ, яго актыўная роля ў "антынацдэмаўскай" кампаніі ў беларускай літаратуры вядомыя. Гл., напр.: Багдановіч І. Э., Драздова З. У. Бэндэ Лукаш // Беларускія пісьменнікі: Біябібліягр. слоўнік: у 6 т. – Мінск: БелЭн, 1992. – Т. 1. С. 446 – 448; Васючэнка П. Таталітарызм: курс лекцыяў [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://old.belcollegium.org/tatalitarysm/lekcyja14.htm; Корбут В., Скалабан В. Исполнитель и жертва // Советская Белоруссия: СБ: Беларусь Сегодня. 2004, 13 марта. – С. 26.
[29] БДАМЛМ. Ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1254.
[30] Як мы ўжо згадвалі, "Бенгалія" ўтрымлівала ў сабе, напрыклад, верш "Далёка пяюць асначы" і невялікі фрагмент з паэмы "Смарагды кроз". Ды і "эскіз" "Дэпешы з прышласці", што ўваходзіць у "Смарагды кроз", С. Астрэйка публікаваў як самастойны твор (гл.: Чырвоная Беларусь. 1931. № 11-12).
[31] Увогуле, жанр драматычнай (ці часткова драматызаванай) паэмы ў 1-й трэці XX ст. плённа развіваўся: у беларускай літаратуры можна налічыць цэлы шэраг такіх твораў – ад "Адвечнай песні" і "Сну на кургане" Янкі Купалы да "Аркі над акіянам" Пятра Глебкі і "Таўрыды" Юлія Таўбіна.
[32] Гайко С. Памяти Сергея Астрейки... Арк. 4.
[33] Сошкин Е. Между могилой и тюрьмой: "Голубые глаза и горячая лобная кость..." на стыке поэтических кодов [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://www.ruthenia.ru/document/542513.html.
[34] Да "Песні пра буравесніка" М. Горкага тут можна было б дадаць і перакладзеную С. Астрэйкам папулярную кнігу для школьнікаў "Як дзеці навучыліся кіраваць аўтамабілем" А. Назарава, але ў каталогах беларускіх бібліятэк яна адсутнічае.

**Сяргей АСТРЭЙКА**

## НАДЛОМАНЫ КРЫК СУЗАРЫТЫ

*(з “Бэнгаліі”)*

Бэнгалія – краіна на поўдні Азіі, правінцыя Індыі.
Тут праз каторы час лютуе хціві ангельскі імпэрыялізм.
Прыдушаныя пары[1] ня-раз памыкаліся парваць ланцугі
прыгнёту, які трывае больш за 250 год. Асабліва зацятае
змаганьне шугае ў Індыі апошнім часам (у Бэнгаліі яно
найзаўзяцейшае). Адлюстраваць крыўду прыгнечаных,
порсткія вогнішчы рэвалюцыйнага пажару і меў на ўвазе аўтар.
Пададзеная вынятка – кавалак другое часткі твору “Бэнгалія”.

### *НАДЛОМАНЫ КРЫК СУЗАРЫТЫ*

Нахапіўся от вечар ды шорхне самота,
Пазалатваны змрокам адчаю сьляды.
У паветры дайходзіць абскубаны лотаць.
І кабета ідзе з гладышамі вады.

Ӯсе дашчэнту павеці надзей параскрыты,
І развагу дратуе блуканьняў суток.
Можа лепей было-б, каб цяпер Сузарыта
Не кранала хадою состояны змрок.

А калі-б спадцішка дзе і бразнулі косьці,
Дык заенчыла-б ноч, увабраўшы жуду.
Выбіванка трывогі заўсёды замосьціць
Праварыны[2] згурашчаных[3], збэшчаных дум.

Пэўна матчына сэрца зайшлося-б дазваньня,
Атрусаючы ўсьцяж спадзяваньняў ірдзень.
Павыросталі-б дзіды жуды на майдане
Абязьвечаных кроз, зругаваных надзей.

Але жах неўспадзеўкі ўядаецца ў вочы,
Галавою шпурляе ў нязрушаны мур...
Мітусьня у крыві сваё крыльле намочыць,
Покуль прыдзе спакой утаймованых бур.

Як падсечаны клён, як страла бліскавіцы,
Як пранізаны сконам апошні усхліп,
Звар’яваўшыся маці зрынаецца ніцам
На змарагды крыві, што на бруку засхлі.

Апярэшчаны крык устрасае паветра,
Б’ецца водгульле дзіка аб сьцены, слупы.
Гладышы й цішыня пашчапаны упэтрах[4],
Ды глытае ваду раскатурханы пыл.

Пакрамсаныя рукі ўзьнімаюць гарліва
Падаткой галавы аскабалак і цень.
Ператрушчанай музыкай крохкіх узьвіваў
Адгукаецца жмук абыякіх касьцей.

(З аднэй пары вачэй прагавітым пажарам
Вугалёў на падпалку напэўна было-б.)
Груганы, пралятаючы, струджана мараць,
Як застроміць дзюбы пад суцішаны лоб.

Калывалася ноч... Анідзе супакою
Ня было цішыні, валачылася ўсьцяж.
Перасыпаўшы вуліцы чорнай лускою,
Альбіёнцы прышлі па апошні касьцяк.

Перамогаю гардыя матку шпурнулі...
Аказалася нема... (Гусьцела імгла.)
Узьнялася... На стыку абветраных вуліц
Аднаму яшчэ плюнуць у вочы змагла.

А тады зьняпрытомнеўшы ўпала ля плоту...
Мо' яшчэ і узьнімецца рукі крывіць...
У паветры дайходзіў абскубаны лотаць,
Перасыпаны пахам азглелай[5] крыві.

### АЗЫЗЛЫЯ ВЫЛЮДКІ ЗЕМНАЕ ГАЛЫ

Яшчэ не здаволіўся змрок сычанець,
І рухаў пазадкі у тле зелянцовым.
Руплівай трывогі прышоў рачанец[6] –
Аб сьцены вызвоньвае крохкае слова.

Паэта нырцуе ў разьвееены дым.
Прыцішаны лёкай стаіць за дзьвярыма.
У памяці стройна лiняюць сьляды,
Заносіць іх вецер павабнага грыму.

Міжвольна адноўлены подых рукі
Злажыў на сьцяне неадстоены вобраз.
Выблісквалі рысы – у словы укінь,
І нехта апруцее ў скрусе нядобрай.

Дрыжалі – прагліся ў рабрыны слаце
Ўсадзіць, увагнаць нязрушонае джала.
Паэта іх кінуў зьняважліва ў цень –
Лагода гула на дарозе яжджалай.

І тое, што ў дзёньніку думак было,
Што лезла працёпам[7] і ёгліла[8] сьціпла;
Той змрок нехлямяжы, што лопаў крылом
На вуліцы, зрошанай жахам ахрыплым;

І скурчаны вузел рабрынаў і рук
І шчыльных пакут – на згурашчаным твары –
Абскубіны мяса, скрываўлены брук –
Усё разышлося, што цемры агарак.

І от, каб *склізота крыві[9]* не ўракла
Уцехі і сну, і трызьні гуманістых,
Ляпіўся з трывожных падзей пераклад,
Ўганяліся жахі у колер іскрысты:

Лагоду ночы памяць туліць,
Пяшчота сьпіць на пальцах рук.
У мітусьні, на ўзьмежках вуліц
Яе дазваньня разьбяруць.
Тваіх вачэй і рухаў смагу
І сьцішны голас перасуг[10]
Цераз гады і звон увагі
Лірычных песень – *пранясу[11]*.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зьнікчэмелых думаў кавалкі шасьцяць,
Збуцьвелыя фарбы заўсёды зналогу[12]
Іх змажуць палівай, ды будзе касьцяк
І словы, і строфы, і болей нічога.

Ад іх цішыня не захоча дрантвець,
Галоступкам боль не пяройдзе у жылах.
Ззыбнецца адно галава у пітве
За тое, што крыўду драмаць улажыла[13].

І толькі ашчапкі[14] людзкой гнілаты
(Забросьнеў у тле закажанелы[15] розум)
Абляжуць вачмі і разьзявяць раты
Ды будуць шукаць павылушчваных крозаў.

На вілы шчарбатага сьмеху няраз
Яны уздымалі крыві палыханьне.
Расьцяўшы вар'яцкі узмах разьбяра,
Ад радасьці кісьлі, што больш ня устане...

Аблудныя цені ля чорных балясаў.
(Паэта сьлюнявіць асушкі[16] падзей.)

Пазначана месца на сьметніку часу
Ягонай рупоце і слоўнай нудзе.

Трывожнага-ж крыку ня зрэжа іржа,
Пакора сталецьцяў надзей ня ўлыгала.
Трухлявай рукою абмацаюць жах
Азызлыя вылюдкі земнае галы.

### *АШЧАПАК НОЧЫ*

**Даржагон.**

Небасхіл падышоў і лапоча туман у зьнямозе,
Ды стаяць караблі, што у сьвет не патрапілі высьці.
От ізноў устае адшчапёны, састоены позірк.
І ня чуе рука, што маруда патрушчыла высьціг[17].
Кожны здуманы крок расьцілаецца дбайна і падка.
Дрогкасьць пальцаў чужых абрабляе застромлены вочап[18].
Акяніцы брашчаць, што зярнята у сьпелым ападку.
У лётрагіі руху кавалак затокі сьвіргоча.
Ня туліся ка мне. Звадзянелым, атрупелым словам
Раскатурхаеш зноў цішыню. Сьпічакі яе соладка раняць.
Там ніколі ня быў. І цяпер ты мяне не заловіш.
Будзем слухаць удвух неспакою прыдушаны танец.
Ты прыгожа маўчыш... Наканована лёсам другое.
Гэтых хваль глыбіню перайходзіў няраз я істотай.
Валачыся. Ну-што-ж. Усяроўна сьвятла не пакроіш,
Хоць і будзеш смылец, падціраючы крокі употай.

**Кароту.**

Трэба выпіць хініну... Адразу нутро залагодзіць...
На дварэ ужо ноч і туман на дварэ нязрушоны.

**Даржагон.**

Адыдзі... Адыдзі... Мітусьня у балючай прыгодзе
Хай агорнецца тлом, але мне ня прыдумаеш скону.
Я цябе ня піхаў... Скамянелыя, збляклыя вочы...
У кішэню схаваў... Ад цябе іх ухопіць патрэба.
Са збанкамі вады?.. Але можа рука не карочай...

**Кароту.**

Гэты боскі напой абязьвечыць нялюдзкую змогу,
Ноч адыдзе у кут... І сьвятло акяніцамі бразьне.
Трэба выпіць, пано...

**Даржагон.**

Валачы... а-а-а... Няжывога...

На пачэрненых вуснах напісана крыўда выразна.
Але дзе галава?..
Адыдзі ці падайся наперад...
Зазванеце-ж мацней... Звар'ванае полымя роту.
Мітусьня як трава, што каханка нязвыклая шэрасьць.
Занясі ды укінь...
Аскабалкі узорных узьлётаў...
Прыхінайся да рук...
Глыбіня павылоўлена ўсюды...
Узьнімайся старчма...
У зацятасьці кволыя строі...
Абшкумачаны сьмех...

**Кароту.**

Павырасталі цені аблуды –
На высокую ноту дрыжачку ўдалося настроіць.
Папрасторнела ноч. Цемра зможаных сноў пашчыльнела.
Больш састоўпіцца ў ёй пацярухі людзкога адчаю.
Над краінаю ўсёй разгайданы, застромлены нелад.
Колькі хочаш дрыжы – наша крыўда і боль не зраджае!
Прадсьмяротным агнём ня шугне сашчыльнеласьць агіды,
Ня зьліняе ў вачах. Гадавалі яе нездарма.
Не на тое, каб дні, як ашчапак лакоткіх[19] акрыдаў[20]
Выпівалі жыўцом...

**Даржагон.**

А-я-яй-ма-а-а-а...

**Кароту.**

Анямей, дык нічога ня ўзрынеш.
Крычучы хоць зайдзіся – усе пазамыканы вушы.
Каб суняць хоць на дзень
Асьлюзьнелыя мацалы[21] сьмерці,
Не адна сваю гардасьць шпурляла дрыготка ў бяздоньне.
Не адна
з камяніц
наважалася цела абдзерці –
Кроў сыноўскую ўзьняць, прыплясканую 'мклівасьцю коняй.
Цішыня бамбукоў натавала глыбінныя ўсхліпы,
Абязьвечаны крык варушыў адранцьвелыя ралы[22].
Гэта ты,
Гэта ты,
Гэта-ж ты супакой іхны выпіў,
Не твая мо' рука да шмаціны усё абакрала?
А цяпер варушыся,
ўядайся ў жалеза
ды ёглі –

Дзікі танец зубоў
мне да раніцы хочацца слухаць...

**Даржагон.**

...От і гінеш... Мара?.. Здатынованы[23] водглас могліц.
Га?.. А крокі чые гэта леглі на дол, што абуха?..
Ты, Кароту, ня сьпіш?.. бо яны яшчэ вернуцца можа...
Паўкраіны было... пашчапаных упыл аскабалкаў.
Жэрдзем згаслых вачэй уядаўся здаволена кожан,
Спрасаваныя грудзі ў сьвятле калываліся палка...
Іншы раз так патрэбна, каб вочы запалі ў імглу,
Каб ускраем жыцьця перайшлі ўтаймаваныя крозы...
Але гэтае ночы спакойны і ўзважаны глум,
Як на дзіва быў тонкі і збольшага, нават, цьвярозы.
Ўсюды немач і страх – спадарожнікі хцівай навалы.
Як туман успадзе, іх штоночы красае хвароба.
Узапруцца заўжды...

**Кароту.**

Бяз увагі на час і завалы
Раз[ь]лягаюцца енкі у панскіх пакоях і вобак.

**Даржагон.**

Туманы... Туманы...
Без патрэбы сьцінаючы зубы,
Парастрачвалі моц.Ператрухлелі думак парэнчы.
Кожны стоены крок пачуваеш, што выстаўлен рубам,
Каб вяршыні сьцінаць і уцеху аблуднасьцю дрэнчыць[24].
Туманы... Туманы...
Паразгойдваны дбайныя ўзьлёты...
Азьвярэлае трасцы імкне адусюль галава.
Параструшваны косьці, разьвеены недзе употай...
Нас да самае сьмерці ня кінуць яны сьцігаваць[25].
Туманы... Туманы...
Высынаецца страх на карачках
Ды вандруе усьцяж...
Але што гэта бразгае нема?..

**Кароту.**

На дварэ лапатню[26] узьнімае на ногі дрыжачка,
Няўпынёных вятроў праплывае імкліва трырэма[27].
Устаюць бамбукі... Распраўляючы крохкія косьці,
Матляхаюцца ў бокі...
Зьвіняць на калох гладышы.
Ўжо нядоўга чакаць, покуль гоман прыстанак
замосьціць,
І сагнутыя плечы пацягнуць на бераг кашы.

**Даржагон.**

У лагодным сьвятле убярэ кіпцюры неспагада[28],
Але кожная ноч найрупней іх адновіць ізноў.
Сьцегачы[29] адусюль пазьбяруцца скіголіць і падаць,
Нехлямяжа паўзьці будуць думы бяз рук і бяз ног.
Парыпяць караблі, што пад бокам стаяць у затоцы,
Пазагружваны працай ды стосмі бэнгальскага шкла.
Нават гутаў агні не пазычаць вар'яцкае моцы,
Што у гэтай краіне, у пыле дарог аблягла.

**Кароту.**

Варта з палубы кінуць апошні Бэнгаліі позірк.
Пра жабрачку забыцца. Жыцьцё прастарнейшае гляне.

**Даржагон.**

Трапяткая навала наровіць спыніць у дарозе.
Перапалены нэрвы, і рана у сэрцы на ране.
Узьнімаліся-ж сьцежкі. Ніколі ня падалі крута.
Нязрушоная моц адлюстравана ў кожнай прыгодзе.
Праз каторы ўжо час пазавешаны спэктрамі гуты.
Рупна дзвынгае шкло. І штодня караблі адыходзяць.
І за гэтае ўсё чамяры[30] спарахнелай чароды
Атруцілі жыцьцё мне. Змарылі уцеху ў пагрозе.
Праз каторы ўжо час апантанага[31] лёкая подых
Каля гутаў плыве і дрыжыць мой палац у зьнямозе.
Рабаўніцкія рукі! Чужое уласнасьці прагнуць?..
У брытанскіх стральцоў не сьпятрэе ніколі адвага!
Улажылі... Ха-ха!.. Захлынуліся, зьмераўшы багну.
Дамагліся свайго!..

**Кароту.**

Ня было аніводнае сагі,
Ня было і бананаў, і нават нізваньня індыга...
Падайходзілі дзеці... І маткі шчапалі галовы...
Ня было анічога... Па хлеб...
*Нехта нема заскрыгаў...*
*Храбусьценьне агню...*

**Даржагон.**

А-я-яй... Упалілі... Стрымоўвай...

**Кароту.**

На разьятраных хвалях густыя атрушыны бляску.
Захлынаецца гута, на дол апаўзаючы квола.
Гэта помсты вястун неспакойна зубамі заляскаў,
Гэта з бруку паўстаў Сузарыты надломаны голас.

**Даржагон.**

Сузарыты надло...

**Кароту.**

*Сузарыты надломаны голас.*

Сашчыльнелы які! Узгадованы болем пакуты.
Разьвінаецца ўсьцяж... Усхадзіліся цені наўкола.
У сьмяротнай агоніі звоняць прыдушана путы.
Памінулі сталецьці. Хацелі нявольнікаў духу?..
Але трасцу! Ня ўцялі. Цяпер-жа канайце у шале!
Адгукаецца Лёндан. Нядоля шчапаецца глуха.
Уздымайма агні, каб ніколі яны не згасалі!

## *НЕЛАД*

Надвячоркамі кліча гады адзінота.
Засынае ў гнязьдзе задаволены шэршань.
Разьвінаецца боль. Папялее балота.
Надвячоркамі пішуць паэты вершы.

Паабапал надзей асталёўвацца можна,
Калі толькі сьляды не сякуць і ня страшаць.
Але мусім сьпяшаць на падворак вастрожны –
Там якраз пачынаецца шаст мурашак.

Сашчыльнее трывожны навокала вэрлах,
Цішыню скалане і рупліва паточыць.
Ўтаймаваньне цяглiц аблягло і памерла,
Адзічэла засоўгалі, стыгнуць вочы.

Узьнімаецца ніжай разважная згуба.
Шабуршыць і паўзе з паразьзяўленых шчылін.
Сузарыта ўсьцішае дрыготкія зубы
(Іх дагэтуль даволі ужо лушчылі).

Бязупынна люструе чаканьне падлога,
Адбывае хвіліны уздрыгваньнем важкім...
Шкумацьцё зругаванага цела людзкога
Разгайданай хадою трасуць мурашкі.

Агаляюцца жахі заструпелых ранаў,
Адраджаецца кроў, што учора шчыльнела.
На падлозе, ля сьцен, у вачах звар’яваных
Мітусіцца халодны, зацяты нелад.

Засячэце-ж хутчэй... (Сузарыта галосіць.)
Тра-та-та-тра-та-та-та... (Высьпеўвае варта.)
Занядбалыя пары паляць ачосьсе
Нехлямяжай пакоры. Дужэе ўпартасьць.

Закажанее голас, няспрытна[32] закружыць
І абсунецца боль. І тады на скалы
Асыпаецца ноч, як сасьпелая ружа,
Захлынаецца смутны усхліп шакалаў.

## НАРОДЖАНЫ ГОЛАС

Не раструшаць увагі кемнай
Вучыла ноч. Пасхлі[33] вагні.
Паўзуць сьляды і ўзмах ярэмны –
Зьнібелы енк да рук прыгні.

На шорх ускінь трывогі посьцень[34].
Дрыготкіх пальцаў гук сатні.
Аблудных сноў разьвеяць косьці
Вучыла ноч. Пасхлі вагні.

Калі успалі крокі ніцам –
Не забіраць-жа іх назад!
Узмахам нэрваў трэ' жывіцца,
Дарог акрайкі уразаць.

Не адцінай сьлядоў ад мэты –
Няхай трапечацца ў крыві.
На шлях ніхто ня кідаў кветак –
Дарма іх зіркам не лаві!

Пакінуць там тугу ў аблозе,
Дзе зельле хціва узрасло.
Гадуюць рупна мужны позірк
І сьпічакі зацятых слоў.

А хто абмацаў добра змогу
Ды калываецца наўзьдзіў –
Не затарноўвай лепш дарогі –
Ўдваіх з сяброўкаю сыдзі.

Паворсіш[35] стройнасьць неспакою
І атаймовак[36] знойдзеш мо'.
Усякі добры недабоек
Якраз вяртаўся так дамоў.

Ўпіваўшы хрумст “жалезнай ночы”,
Дрыжачку ўцехі песьціў Глан[37].
Прайсьці нам трэ’ іржу латочын[38],
Дзе ўсюды сьцішнасьць залягла.

Скрозь бамбукі рыпяць трывожна
І, пэўна, вока дзе цьвірчыць.
Ўзрываць на-поверх трэба, можна
Падзей разгойданых карчы.

Калі-ж наважыць хто учваліць[39]
Няўпынных думак трапны гон.
Шпурні слатой з узьнёслых паляў
Усякай нэндзы наўздагон.

І от, як будзе хціві вораг
Сквілець[40], упяўшы вочы ўніз,
Яго прылашчы так, каб шорах
Ані узрухнуў цішыні.

Набраклы подых неспагады
Каму удасца уламаць?
Дарма ўзгадоўвае прынаду
Заўзяты Ганьдзі Махатма[41].

Гадамі здолеў атрухлявець
Маны узорнае касьнік[42]...
Жадункі скурчанай паставы
Варушаць пошчак храбусьні.

Сьпяваюць шыбіны шантанаў,
Люструюць струджана і ў час
Узьнёслы гоман занядбаных,
Што ўсьцяж вучыліся маўчаць.

За аскабалкі кроз і костак,
За спрыт ярма вякоў спакон
Зьдзірайце гідкія наросты,
На ногі дбайны неспакой!

*[1932]*

*Тэкст публікуецца паводле машынапісу з асабістага архіва Галіны САМКО з захаваннем правапісу арыгінала.*

*Падрыхтоўка да друку і каментары Віктара ЖЫБУЛЯ.*

[1] *Парыі* – прадстаўнікі касты “недатыкальных” на поўдні Індыі; найбольш бяспраўная і дыскрымінаваная група насельніцтва.
[2] *Праварына* (абл.) – 1) стойла, перагародка ў хляве; 2) праход у плоце, у які йдзе жывёла з поля, адкуль выязджаюць.
[3] *Згурашчаны* (абл.) – скамечаны.
[4] *Упэтрах* (абл.) – ушчэнт.
[5] *Азглелы* – халодны, застылы.
[6] *Рачанец* – тут: пара́, часіна.
[7] *Працёпам* (абл.) – гуртам.
[8] *Ёгліць* (абл.) – енчыць, стагнаць.
[9] Тут і далей курсіўныя вылучэнні – аўтарскія, пазначаныя ў машынапісе хвалістымі лініямі.
[10] *Перасугі* – пустыя размовы, перасуды.
[11] На палях каля гэтага фрагмента – пазнака алоўкам Л. Бэндэ: *“Дубоўку”*.
[12] *Зналогу* (абл.) – з жарсці, з кепскай звычкі.
[13] Побач на палях – пазнака алоўкам Л. Бэндэ: *“Сапраўды поэт і пролетары”*.
[14] *Ашчапак* (абл.) – трэска, шчэпка.
[15] *Закажанелы* (разм.) – зачахлы, змарнелы.
[16] *Асушкі* – сухія рэшткі.
[17] *Высьціг* – прасцяг, прастор.
[18] *Вочап* – шост.
[19] *Лакоткі* – той, хто мае вялікія локці.
[20] *Акрыды* (грэц. ακρίδες – жамяра, насякомыя) – саранча.
[21] *Мацалы* – шчупальцы.
[22] *Рала* – адгаліненне ствала дрэва; тоўсты сук.
[23] *Здатынованы* (польскі. zdetonowany) – 1) узарваны; 2) разгублены.
[24] *Дрэнчыць* (абл.) – не даваць спакою, турбаваць.
[25] *Сьцігаваць* (абл.) – даганяць, пераследаваць.
[26] *Лапатня* – балбатня, плёткі.
[27] *Трырэма* (лац. triremis) – старажытнарымскі ваенны карабель з трыма ярусамі вёслаў.
[28] Аўтарам закрэслены і выпраўлены пачатковы варыянт радка: *“У лагодным сьвятле абляцяць сьпічакі неспагады”*.
[29] *Сьцегачы* (разм.) – валацугі, прыблуды.
[30] *Чамяра* – чамярыца, атрутная лілея.
[31] У пачатковым варыянце – *“азьвярэлага”*.
[32] У першым варыянце – *“нягегла”*.
[33] *Пасхнуць* – пасохнуць. Тут – у значэнні “патухнуць”.
[34] *Посьцень* – прывід, здань.
[35] *Паварсіць* – зрабіць калючым, шурпатым.
[36] *Атаймовак* – супакой.
[37] *Глан* – імаверна, адзін з персанажаў незахаванай часткі паэмы “Бенгалія”.
[38] *Латочына* – нізкае, часта забалочанае месца, лагчына.
[39] *Учваліць* – зацкаваць.
[40] *Сквілець* – вішчаць, скавытаць.
[41] *Гандзі* Махатма (1869 – 1948) – індыйскі грамадскі і палітычны дзеяч, адзін з кіраўнікоў і ідэолаг руху за незалежнасць Індыі ад Вялікабрытаніі. Распрацаваў сат’яграху – тактыку негвалтоўнай барацьбы за незалежнасць у дзвюх формах: несупрацоўніцтва і грамадзянскага непадпарадкавання.
[42] *Касьнік* – стужка ў касе.

Таццяна Алешка



...узаемны ўплыў культур – гістарычная рэальнасць...

# “Матылькі словаў”, або “На кітайскай кажы”

***Вобразы Кітая ў сучаснай беларускай паэзіі***

Беларусь размешчана на скрыжаванні цывілізацый, на мяжы паміж Захадам і Усходам, таму яна заўсёды адчувала ўплыў як суседніх культур, так і аддаленых, адаптавала іх да сваіх умоў і сінтэзавала нешта новае. Сёння беларуская літаратура напоўнена «мноствам міфаў, вобразаў, метафараў, алюзіяў не толькі з хрысціянскай ці паганскай, але і з іншых рэлігіяў, скажам, – будызму» [1, 259], заходняй і ўсходняй філасофіі і розных літаратур свету.

Кітайская мастацкая літаратура стала перакладацца на беларускую мову ў пачатку XX стагоддзя. Першыя пераклады публікаваліся ў газеце «Наша ніва» ў 1910 годзе[1]. Сярод першых

[1] «Даос з гор Лао» і «Гульня мячом у падводным царстве» – са старажытнакітайскай кнігі Пу Сунліна «Тысяча апавяданняў». Пераклад быў зроблены вядомым рускім савецкім філолагам-кітаістам В.М. Аляксеевым пры ўдзеле рэдактара-выдаўца «Нашай нівы» А. Уласава [15].

айчынных перакладчыкаў кітайскай паэзіі на беларускую мову – В. Дубоўка. Але павышэнне цікавасці да Кітая і кітайскай літаратуры звязана з утварэннем Кітайскай Народнай Рэспублікі ў 1949 годзе. Ужо ў 1950-60 гады шмат беларускіх пісьменнікаў пачынаюць актыўна перакладаць кітайскую паэзію: М. Танк, М. Аўрамчык, С. Дзяргай. Пазней да іх далучаюцца Р. Барадулін, М. Мятліцкі, Н. Гальпяровіч, І. Бабкоў, А. Хадановіч, В. Гапеева, Р. Малахоўскі, і інш.

У 2012 годзе выйшла анталогія «Пад крыламі Дракона: сто паэтаў Кітая»[1]. У 2014 – кніга «Стагоддзе на знаёмства», дзе былі прадстаўлены пераклады на беларускую мову вялікага корпусу тэкстаў з кітайскай мастацкай літаратуры. У абодва выданні ўвайшлі паэтычныя і празаічныя творы розных часоў. Але самы маштабны праект – серыя «Светлыя знакі: паэты Кітая» (заснавана ў 2014 годзе), у рэдакцыйную раду якой увайшлі прадстаўнікі як з беларускага, так і з кітайскага боку. Праект падтрымлівае Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя. На дадзены момант ужо выйшлі дзесяць кніг, якія прэзэнтуюць творчасць кітайскіх паэтаў розных эпох з VII стагоддзя да цяперашняга часу – зборнікі Ван Вэя, Лі Бо, Ду Фу, Ай Ціна, Лі Хэ, Лі Цінчжаа, Ван Гачжэня, Мэн Хааржаня, Сюй Чжымо, Вань Ідо. У кнігах пададзены і пераклады, створаныя ў мінулыя гады вядомымі беларускімі паэтамі па падрадкоўніках (Р. Барадулін, Я. Янішчыц, М. Мятліцкі), і новыя працы маладых перакладчыкаў, зробленыя непасрэдна з кітайскай мовы.

Апроч перакладніцкай працы беларускія паэты даволі актыўна звяртаюцца да тэмы Кітая і кітайскай традыцыі, што знаходзіць адбітак у самых розных праяўленнях – ад наяўнасці ў паэтычных тэкстах простага згадвання рэалій кітайскага жыцця, культуры і яе сімвалаў да выбудоўвання ўласнага паэтычнага свету з улікам класічнай кітайскай паэзіі і філасофіі.

Агульнае поле прысутнасці папулярных сімвалаў Кітая фарміруецца з тапонімаў, уласных імёнаў і дастаткова разнастайных адсылак з больш ці менш шырокім кантэкстам. Напрыклад: Кітай (Р. Барадулін, Дз. Строцаў, М. Мартысевіч, К. Самігуліна, Ю. Ільюшчанка), Пекін, Янцзы (М. Мартысевіч), Тыбет (А. Хадановіч, Т. Скарынкіна), Хуанхэ, Шаўковы шлях (В. Шніп), Харбінскі базар, Ханчжоў (Р. Барадулін), Ду Фу (Р. Барадулін, С. Прылуцкі), Лі Бо (Р. Барадулін, І. Бабкоў, А. Хадановіч, С. Прылуцкі, Т. Скарынкіна), Лао Цзы, Ву-Данг (І. Бабкоў), Гуньсунь Лун, (Дз. Дзмітрыеў), ян – інь (Дз. Дзмітрыеў, А. Івашчанка), дзэн (С. Прылуцкі), «китайская кухня», «китайская звёздочка», «китайский плед», «бумажные змеи» (Т. Скарынкіна), Буда, «старая пагада», «папяровы кітайскі дракон», «кітайскія матылі» (А. Хадановіч), «кітайскі тэрмас», «кітайскія краўчыхі» (В. Морт), «усходні каляндар» (У. Арлоў), «кітайскі фразеалагізм» (В. Гапеева), «мудрыя кітайцы» (А. Сыс) і інш.

Часам кітайскія рэаліі і імёны выносяцца ў загалоўкі вершаў: «Варажу на Вялікай Кітайскай сцяне», «Захапляюся вялікай пагадай дзікіх гусей» (Р. Барадулін), «Китаянки в супермаркете», «Тибет на Советской», «Натуральная ветка Ли Бо под фонарным столбом» (Т. Скарынкіна), «Мысленный эксперимент “Белая лошадь Гуньсунь Луна”» (Дз. Дзмітрыеў). Ёсць шэраг вершаў, прысвечаных кітайскім паэтам і перакладчыкам: «Гао Ману» (Р. Барадулін), «Лі Бо», «Чатыры вершы Ван Вэю» (І. Бабкоў), «Смакую віно, якое любіў Ду Фу» (Р. Барадулін).

Разнастайнасць наяўнасці кітайскай эмблематыкі прасціраецца ад сферы «іншага» да часткі полікультурнай прасторы сучаснага свету. Даволі часта ў паэтычных творах беларускіх аўтараў прыгадваецца кітайская мова як нешта цяжкаспасцігальнае, невядомае, незразумелае:

---

[1] Усе пераклады былі зроблены М. Мятліцкім.

Я стаю пры тваім акенцы
і пяю табе сэрэнаду
ты ў акне ў празрыстай сукенцы
мне гаворыш *мальчык ня нада*

я ж чаканю рым дубальтовы
й не пайду да ранку дамоў
на ўсіх мовах пяяць гатовы
(ты ня ведаеш гэтых моў)

па-японску як такубоку
па-кітайску як сам лі бо
я кахаю цябе глыбока
ты прымі гэту альбу альбо....

(А. Хадановіч «Альба альбарутэніка») [35, 52]

Кітайская мова можа служыць і складнікам неверагоднай рэальнасці сноў, як у вершы У. Арлова «Фаўна сноў»:

...драўляныя статуі сьвятых апосталаў Пятра і Паўла,
якія гавораць на дзесяці мовах
(у тым ліку і па-кітайску)
у багатай віле з кандыцыянерамі
і тэрасаю над самым морам,
зь якой можна назіраць, як,
чапляючыся за выступы скалаў
і
раз-пораз абрываючыся ў ваду,
узахапы караскаюцца ўгору
дзясяткі два айчынных паэтаў...

(У. Арлоў «Фаўна сноў») [2, 36]

Верш У. Гарачкі «Наказ Гіла Нілевіча Толіку», пабудаваны ў форме магчымага звароту патрыярха беларускай літаратуры Ніла Гілевіча да маладога паэта-авангардыста з наказам берагчы мову, уяўляе сабой іранічнае абыгрыванне значнай для нацыі праблемы мовы, і тут кітайская выступае не толькі як нешта далёкае і чужое, але цалкам як антыпод моўнай ментальнасці беларуса:

– Беражы, Толік, мову,
Беражы, тваю маць,
Маці родную!
– Берагу, Гілнілевіч,
Берагу:
Дрэнна, бывала, зробіцца –
Воўкам завыю,
На сцены драпаюся,
А родную – берагу.
– На кітайскай кажы,
Вуснамі расейскую пагань,
А родную – беражы,
На чорны дзень хавай,
Як апошні грош,
Вош ядроная! [8, 4]

Звяртаючыся да праблемы нацыянальных адрозненняў і асаблівасцяў менталітэту, А. Хадановіч у вершы «Вайна і мір» таксама апелюе да тэмы Кітая, парадыруючы пэўныя стэрэатыпы мыслення. Сюжэт верша будуецца на выпадковай сустрэчы беларуса і француза ў Бельгіі, прычым апазнавальным знакам сустрэчы служыць руская культура:

«...Мяне завуць П'ер. Як Бязухава».
«А мяне Андрэй. Як Балконскага».
Рэшту ночы памятаю ня вельмі.
«Трапісты»! – раз-пораз паўтараў ён. –
Найлепшае ў Брусэлі піва – гэта «Трапісты»!
Хадзем, пакажу адно месца,
плаціць граф Талстой».
«Дык ты не з Расіі?
Зь Беларусі? Яшчэ лепей!
Я там з жонкай пазнаёміўся».
«Я таксама».
«Але мая – японка, уяві. Вучыліся разам расійскай,
а навучыліся: яна французскай, а я японскай.
Бальзак і маленькая японка, ведаеш кіно?
Беларусы, – кажа яна, – гэта такія расійцы,
толькі са знакам якасьці».
«Кітаянка», – паправіў я.
«Хто? Мая жонка?»
«Я кажу, Бальзак і маленькая кітаянка.
Кітайцы – гэта такія японцы,
толькі са знакам колькасьці» [36, 40-41].

Звяртае на сябе ўвагу недакладная назва фільма[1] як метафара асаблівасцяў стаўлення вялікіх народаў да малых, якая раскрываецца потым у бліскучых афарыстычных выразах пра ўмоўнасць і значнасць як агульнасці, гэтак і адрозненняў.

Дз. Строцаў у вершы «Планета болельщиков» звяртаецца да праблемы супярэчнасцяў «между людьми разных наций и рас, идеологий и верований» [31]. Скарыстоўваючы прыём паўтору, ён гіпербалізуе комплекс нацыянальнай перавагі, уласцівы пэўнай частцы грамадства ў розных краінах, незалежна ад іх велічыні. Абыгрываючы спартовую тэрміналогію, паэт прылічвае сябе да «заўзятараў» усіх клубаў (Еўропа, Ізраіль, Расія, Беларусь, Грузія, Амерыка, Кітай), сцвярджаючы тым самым духоўную агульнасць чалавецтва і імкнучыся да аб'яднання, а не размежавання людзей.

У цэлым у сучаснай беларускай паэзіі Кітай неаднойчы выступае як выява іншасвету, што робіцца неабходным кампанентам усведамлення нацыянальнага. Так, у вершы В. Шніпа «Баляда пра Кітай» актуалізуецца тэма ізаляванасці, замкнёнасці кітайскай культуры, якая праяўляецца толькі наборам агульнавядомых прыкмет: Хуанхэ, Шаўковы шлях, Кітайская сцяна, кітайскі мандарын, кітайскі чай і г.д. Праз вобраз іншай краіны гаворыцца і аб праблемах роднай краіны, якая, спрабуючы выбудоўваць сваю монакультуру ў сітуацыі мультыкультуралізму, аказваецца падобнай да Кітая часоў Вялікай сцяны:

Бо мы тут прыдумалі Кітай
І на кухні п'ем кітайскі чай,
І, будуючы з цытат сьцяну,
Мы вядзём сусьветную вайну,
У якой ня выжыве й Кітай,
Толькі застанецца папугай,
Жоўты, як кітайскі мандарын,
І паўрускі, быццам бы Харбін...
Мы сабе прыдумалі Кітай...
Хочаш – будзь тут з намі,
Хочаш – уцякай! [37]

---

[1] У арыгінале фільм называецца "The Little Chinese Seamstress", што перакладаецца як «Бальзак і краўчыха-кітаяначка».

Фінал верша нагадвае вядомую дзіцячую лічылку: «Опа, опа, Америка, Европа, Индия, Китай, а ну-ка, вылетай!», і сам верш пабудаваны накшталт лічылкі з пералічальным шэрагам прыкмет і ўмоў і з фіналам на выбыванне – магчымасць выбару пры яго адсутнасці.

Апроч цалкам сур’ёзнага стаўлення да культурнай спадчыны Кітая, ёсць у беларускай паэзіі і іранічныя містыфікацыі, пабудаваныя на матэрыяле, што мае непасрэднае дачыненне да гэтай краіны. Так, верш С. Прылуцкага «Перапіска паміж Ду Фу, Лі Бо, Басё і Імператарам», што ўваходзіць у зборнік «Герой эпохі стабільнасьці», імітуе ліставанне, пераклад якога, згодна заўвазе, зроблены ўпершыню «са старакітайскай і стараяпонскай» самім паэтам. І для дакладнасці зазначана: «(паводле дакумантаў Дзяржаўнага архіву КНР і Нацыянальнага архіву Японіі)» [21, 126]. Атрыбутыка навуковай публікацыі была выяўлена яшчэ ярчэй, калі Прылуцкі ўпершыню апублікаваў верш у сацыяльнай сетцы пад загалоўкам «З дакладу “Беларусь-Японія-Кітай: што вы робіце са мной?” (канферэнцыя “China in Time-2013”, Пекін)».

Але ліставанне ўяўляе сабою іранічную карціну хутчэй сапраўднасці, чым мінулых стагоддзяў. У адрозненне, напрыклад, ад «Писем династии Минь» І. Бродскага тут няма спроб стылізацыі, бо мова зусім сучасная, больш за тое, скарыстаны жаргонныя словы і ненарматыўная лексіка. Хоць, безумоўна, вобразы вядомых паэтаў не зусім абстрактныя, а маюць пэўныя біяграфічныя адсылкі. Напрыклад, указаны рэальныя гады жыцця кожнага, прыгадваецца факт сапраўднага сяброўства паміж Ду Фу і Лі Бо, схільнасць першага да канфуцыянства, а другога да даасізму, імкненне першага да карыснай дзяржаўнай службы, а другога да свабоды, да ўхілення ад рэгламентаванага жыцця феадальнай дзяржавы. Але ў «ліставанні» якраз Ду Фу прапануе вольныя адхіленні ад прынятага парадку:

А давай з табой замуцім бізнэс –
прыватную пераправу:
ты будзеш вазіць чэлаў
з усходняга на заходні бераг,
а я забясьпечу мазёвы тэндэр?

Вядома ж, тут на розум адразу прыходзіць паралель з родным горадам Прылуцкага – Брэстам, які знаходзіцца на мяжы з Польшчай, і мяжа гэтая праходзіць па рацэ Заходні Буг. Апроч таго, многія жыхары Брэста зарабляюць на куплі-продажы розных тавараў, перасякаючы мяжу паміж краінамі па некалькі разоў на дзень.

У «ліставанні» Лі Бо адказвае ў сваім духу – вольна і эпатажна, пры гэтым цалкам разумна папярэджваючы пра немагчымасць ніякіх арганізаваных ініцыятыў у таталітарнай дзяржаве:

Ой, ня трэба: адна жабка
ўжо скокнула ў ставок –
хавалі цэлай правінцыяй.

Паколькі жаба ў кантэксце ўсходняй паэзіі перш за ўсё асацыюецца з імем японскага паэта Басё і яго вядомым тэкстам «Стары ставок», то і адгукаецца на гэты ліст Басё. Яго рэпліка ў ліставанні таксама прывязана да пэўных асаблівасцяў яго вершавання і ўнёску ў развіццё паэзіі:

Кінь мяне цытаваць, дзядзька:
не люблю я гэтых вашых модных фіньцюлек:
у мяне тут дождж ябошыць,
сакура пахне так што – ух!,
аблокі плывуць як ненармальныя... [21, 126]

У цэлым усё «ліставанне» выбудавана з выкарыстаннем рэдукаванай этыкі дзэн, а таксама гумару ў апісанні розных з'яў навакольнага свету. Імёны і рэаліі кітайскай і японскай паэзіі і рэчаіснасці знаходзяць прамыя адпаведнасці ў XXI стагоддзі, разгортваючыся як агульная карціна сучаснага жыцця, але не ў Паднябеснай, а ў Беларусі. Нездарма чацвёрты ўдзельнік ліставання – Імператар – адзначаны вечнымі гадамі жыцця: (∞ – ∞). Ён увасабляе ўладу, што існуе заўсёды і ўсюды. Але ёсць тут і канкрэтныя адсылкі да краіны, з якой злучана біяграфія Прылуцкага, і якія без цяжкасці счытваюцца беларусамі і любым іншым чытачом, які арыентуецца ў сучасных рэаліях беларускай рэчаіснасці («чоткія туманы», «балоты на Палесьсі», «бацькоўскія рысавыя палі»).

Апроч таго, у вершы ёсць яшчэ адзін герой – кітайскі паэт Сунь Шы (1980–2011), рэпліка якога завяршае тэкст твора і папярэджваецца рэмаркай («Бонус: сучасны паэтычны каментар, напісаны на каробцы, дзе захоўваецца перапіска»), якая зводзіць на нішто ўсе высілкі паэтаў папярэдніх пакаленняў і рознабакова адлюстроўвае сучасную сітуацыю ў краіне і ў сусвеце ў цэлым: 1) сучасны малады паэт не жыве ў сваёй краіне; 2) яго менш за ўсё цікавяць праблемы культуры, калі ёсць мноства іншых даступных забавак; 3) спадчына класічнай паэзіі (ці нацыянальны метанаратыў) зусім не актуальная для сучаснай моладзі. Сунь Шы – паўнапраўны ўдзельнік ліставання, бо таксама адышоў ужо ў свет іншы.

Вобраз сусвету, створаны ў вершы Прылуцкага, у цэлым сумны і безнадзейны і ўяўляе сабою варыянт характэрнага для паэта метавобраза таталітарнай дзяржавы. Прылуцкі – паэт не рамантычны, хутчэй змрочны, брутальны, у яго свеце законам з'яўляецца адчужанасць чалавека, яго раз'яднанасць з варожай рэальнасцю, з другімі людзьмі, што выявілася часткова і ў гэтым вершы.

Вобраз Кітая ў беларускай паэзіі прысутнічае і ў традыцыйнам кантэксце – як частка сусветнай цывілізацыі, значны складнік сучаснага свету, што мае кропкі судакранання з іншымі культурамі. Так, напрыклад, у Р. Барадуліна ёсць цыкл вершаў-травелогаў «Вcovering Варажу на Вялікай кітайскай сцяне» (1990), які ўваходзіць у «Паэму-падарожніцу» і прысвечаны Кітаю. Безумоўна, гэта рэакцыі турыста, але вельмі асабістыя, індывідуальныя. Традыцыйныя прыкметы падарожных нататак – уражанні, выкліканыя вядомымі архітэктурнымі збудаваннямі («Захапляюся вялікай пагадай дзікіх гусей», «Гледзячы на Кітайскую сцяну»), іншай гарадской прасторай («Жывы фантанчык ля Харбінскага базару»), прыродай («Жаўталіст майго развітання»), звычаямі («Смакую віно, якое любіў Ду Фу», «Грэшны, я шкадую вераб'я») – заўсёды суаднесены з уласным жыццём, нацыянальным светапоглядам, роднай краінай, што адкрывае магчымасці для больш глыбокага разумення прасторы і часу, лёсу чалавека.

Вялікая пагада дзікіх гусей.
Ці гэта прымоўкла званіца?
З тугі ўпалыней,
Як гара, палысей,
Вяртайся сюды павініцца
За свой недавер да нябёс,
За грахі.
Пачуюць твой шэпт утрапёны.
Сем ярусаў
Аж да крылатай страхі,
Злых духаў прагоняць драконы.

(«Захапляюся вялікай пагадай дзікіх гусей») [6, 348]

Тут трэба сказаць, што Барадулін быў добра знаёмы з кітайскай паэзіяй, перакладаў вершы Лі Бо, Ду Фу, Ван Вэя. Крытыка адзначала асаблівую блізкасць Барадуліну паэтычнай творчасці Ван Вэя, «з яго лірычна-медытатыўным

асэнсаваннем акаляючага асяроддзя, якое выклікае асацыяцыі з непарушнай гармоніяй паміж духам прыроды і духам чалавека» [9, 185]. А ў 2007 годзе выйшаў зборнік «Гуканне паэзіі Усходу. Пазыкі. Пераклады Рыгора Барадуліна», у які ўвайшлі пераклады паэзіі не толькі Кітая, але і Японіі, Карэі, В'етнама.

Асобна трэба адзначыць назву зборніка «Гуканне паэзіі Усходу», якая мае трывалую асацыятыўную сувязь з даўнім беларускім звычаем – «гуканнем вясны», адным з самых жыццярадасных і аптымістычных народных святаў, што ў кантэксце зборніка перакладаў паэзіі Усходу, якую Барадулін лічыў першапаэзіяй, мае метафарычны сэнс. Звяртае на сябе ўвагу і падзагаловак зборніка – «Пазыкі» (то бок – запазычанні) – што, безумоўна, ставіць гэтыя пераклады ў шэраг самастойных твораў Барадуліна, навеяных усходняй традыцыяй, спадчынных ёй, дзе вершы старажытных вялікіх паэтаў – «мера, пускай недостижимая, твоего собственного умения, твоего личного опыта, образец для неустанных подражаний» [32, 44], ці ўспрынятая ад Канфуцыя ідэя «не создания, а пересоздания» [32, 45]. І нават «афармленьне кнігі ўскосна намякае на яе характар: усходнія элемэнты праз прызму беларускага іх асэнсаваньня» [7]. У гэты ж шэраг укладаецца і эпіграф да «Паэмы-падарожніцы», які нагадвае аб знакамітай прыпавесці пра Чжуан-цзы і матылька:

Цішыня —
Маркотная астрожніца
Хоча ў гаману ды ў мітусню.
«Толькі дома я сябе прысню», —
Шэпча мне паэма-падарожніца [6, 311].

Звяртаючыся да іншай культурнай рэальнасці, Барадулін найчасцей асэнсоўвае яе дыялектычна, суадносячы нацыянальнае і агульначалавечае. Пра гэта і верш, які не ўваходзіць у вышэйназваны цыкл, але таксама выбудаваны на аснове звароту да Кітая і яго штодзённай рэальнасці.

Пра ўніверсаліі, што аб'ядноўваюць розныя нацыянальныя сусветы, піша і А. Хадановіч у вершы «Вольны муляр»: «Я буду будаваць сабе кватэру, / З буслам на даху й Будам на сцяне» [35, 27]. Але, што больш істотна, кітайскія культурныя знакі ўваходзяць нават у сістэму самавызначэння, у біяграфічныя звесткі беларускіх паэтаў:

Прыйшоў на сьвет
у год Зьмяі
паводле ўсходняга календара
і ў год сьмерці Сталіна
паводле календара савецкага,
пад знакам Дзевы,
у радзільні
насупраць Сафійскага сабору
у Полацку...
(У. Арлоў «Спроба завершанага жыццяпісу») [2, 3]

Ігар Бабкоў – метафізічны паэт, галоўным тэматычным стрыжнем творчасці якога з'яўляецца філасофія быцця, – вызначае нават сваю ідэнтычнасць з улікам цікавасці да кітайскай літаратуры:

«Што такое *маё Я* — я ня ведаю. Але той *вобраз мяне*, за прысутнасьцю якога ў культуры я б назіраў з асалодай, – гэта крыху звар'яцелы будыст з глыбокай цікавасьцю да Лі Бо, Чарана, Гайдэгера ды Тавяньскага» [4, 95].

Творчасць Бабкова – «гэта, бадай, першы выпадак, калі беларускі паэт цалкам абапіраецца не на расейскую, з фрагментамі беларускай, а на заходнееўрапейскую паэтычную традыцыю», якая «арганічна і плённа спалучаецца з паэтычнай

традыцыяй Усходу» [1, 266]. Бабкоў стварае свой індывідуальны паэтычны свет, уключаючы ў яго характэрнае для старажытнакітайскай літаратуры светаўспрыманне ў тых яго варыянтах, якія былі ўвасоблены ў класічных помніках («Лао Цзы», «Дао дэ цзын», паэзія Лі Бо і інш.).

Кітайская тэма ў творчасці Бабкова – гэта і пераклады, і прысвячэнні кітайскім паэтам, і цытаты, і матывы, што адсылаюць да кітайскай літаратуры і філасофіі. Як прыгадвае сам пісьменнік, публікацыі яго пачыналіся менавіта з кітайскіх перакладаў: «Першае, што я надрукаваў увогуле – пераклады Лі Бо, са старакітайскай» [39]. У другой палове 1980-х ён пачаў вучыць кітайскую мову, што было ў цэлым характэрна для прадстаўнікоў неафіцыйнай культуры: «Збіраліся нелегальна, у дзіцячым садочку» [39].

Прысутнасць эстэтыкі і філасофіі Усходу выяўляецца ў творчасці Бабкова як непасрэдна, так і ў падтэксце. Прамыя цытаты з усходняй класікі суседнічаюць з уласнымі развагамі ў стылі даоскай мудрасці. Адзін з паэтычных зборнікаў Бабкова названы радком з верша, прысвечанага Лі Бо: «Засынаць, прачынацца, слухаць галасы рыб».

П’яны і далёкі, ён блукае па небе,
Кідае маланкі, гуляе з аблокамі, запальвае ліхтары
Мудрасці. Слухае галасы рыб,
Сыпявае, танчыць, разьвінвае
Восені косы

(«П’яны і далёкі, ён блукае па небе...») [4, 24]

У гэтай назве прысутнічае як адсыланне да біяграфічнай легенды пра Лі Бо, патанулага ў рацэ, гэтак і да пастулатаў даоскіх трактатаў пра ўзаемасувязі жыцця – рэальнасці – сну. Эмацыйная стрыманасць, сузіральнасць, сама танальнасць і вобразнасць вершаў Бабкова збліжаюць іх з усходняй паэзіяй («Скажы тыя словы...», «Чаму страдаўнія паэты...», «Жыццё апляло нас...», «Па-за вокнамі дождж пляце павуціньне сну...»). Тут прысутнічаюць такія паэтычныя метафары, як «поўня», «хрызантэмы», «лотаці», «матылькі», «адзінокі човен», «дзікія гусі»; рэаліі, што адсылаюць да кітайскай традыцыі: «Шосты патрыярх», «Краіна Чыстай зямлі». Вершы, якія маюць непасрэднае дачыненне да Кітая, аб’яднаны ў цыкл «Далёкае святло з Усходу» (зб. «Герой вайны за празрыстасьць»).

Бабкоў «удачно передает запечатленное в китайской поэзии безусловное приятие потока жизни с его единством вечного и преходящего» [18]. Множныя інфінітывы ствараюць «буддийское настроение отрешенности от мира» [12], «сообщают всей коллизии не единичный, а всеобщий – в рамках заданной темы – смысл» [12]:

...Сядзець ля вакна, думаць, глядзець на аблокі
Заняцца каліграфіяй, гартаць соньнікі, паліць файку
Быць пустым, цёплым – бяз мэты – недасяжна далёкім
Аднойчы апасьці долу, з восеньскім лісцем

(«За фіранкамі сноў непрытомная, пустая эпоха...») [4, 9]

Нават паэзію Бабкоў вызначае праз кітайскую філасофію, скарыстоўваючы прыпавесць пра матылька Чжуан-цзы:

«Застаюцца матылькі словаў, што прысьніліся калісьці аднаму вельмі старому кітайцу і цяпер порхаюць са сну ў сон, ад эпохі да эпохі.

Адважыцца, пайсьці на дно часу, патрапіць у гэтае мейсца, у гэты сон – і вось ты ўжо ідзеш па дарозе, і матылькі словаў сядаюць табе на веі, дакранаюцца ... да душы, да вуснаў.

Бязважка, бязлітасна – і пяшчотна.
Тут, сярод аблокаў» [4, 81].

Дарэчы, менавіта гэтыя матылькі – найбольш запатрабаваны і ёмісты вобраз, што сустракаецца не аднойчы ў беларускай паэзіі.

Адзінства філасофіі і паэзіі, тэма жыцця-сну, што прысутнічае і ў вершах, і ў прозе Бабкова[1], па сутнасці, з'яўляецца лейтматывам яго творчасці. Калі ўжо казаць пра Чжуан-цзы, то Бабкоў прызнаецца, што гэта яго ўлюбёны персанаж, які «правёў сваё жыццё, бадзяючыся ў бязмежжы. Уласна кажучы, так я і жыву» [39]. Герой паэзіі і прозы Бабкова – сапраўды *homo vagans*, чалавек які вандруе, калі мець на ўвазе і рэальныя падарожжы, і метафізічныя[2].

У сваёй кнізе эсэ «Каралеўства Беларусь. Вытлумачэнні ру[і]наў» Бабкоў у цэлым пазначае беларускі нацыянальны вопыт як «этыку памежжа», заснаваную на прынцыпах транскультурнасці, поліцэнтрызму, рухомасці. Для тлумачэння сваёй ідэі ён прыводзіць прыклад з даасізму, дзе цэнтральны панятак «ня Дао, пра якое мы ня можам сказаць нічога пэўнага, а Тай Цы (Тай Чы) – Вялікая мяжа. І ўся дааская мудрасьць – мудрасьць існаваньня ў памежжы, мудрасьць прысутнасьці ў дынамічнай падзеі разьмежаваньня, сустрэчы і пераходу Інь і Ян, Свайго і Чужога» [3, 111], г.зн., успрыманне памежжа як пэўнай цэльнасці.

Інтарэс да выкарыстання кітайскіх вобразаў і матываў фармаваўся амаль паралельна з паэтычнымі эксперыментамі ў вобласці вершаваных формаў, бо «Восток всегда был не только привлекательной темой, но и одним из источников обновления художественной формы» [20]. Многія беларускія паэты звяртаюцца як да агульных прынцыпаў усходняга вершаскладання, гэтак і да традыцыйных жанраў усходняй паэзіі, у прыватнасці, мініяцюр (у тым ліку танкі, хайку)[3], адаптуючы іх да ўласных творчых задач.

Паэтычныя мініяцюры лічацца «источником лиричности и художественности в китайской поэзии» [34], з'яўляюцца адным з яе «связующих сквозных элементов» [34]. У сучаснай беларускай паэзіі таксама даволі распаўсюджаны вершы-мініяцюры, дзе абмежаванасць формы вядзе да лаканічнасці і афарыстычнасці выказвання, а думка можа быць выяўлена апасродкавана, сэнс не вычэрпвацца напісаным.

Снежнае неба:
ляціць аднекуль
некуды чорнай
адтулінаю крумкач [23].

(А. Разанаў)

Або:

Змрок, як цень распяты кажана,
Засаромеўся абнылакрылы.
Густа дождж шуміць, як збажына [5, 488].

(Р. Барадулін)

---

1 «Адам Клакоцкі і ягоныя цені» (2001), «Хвілінка. Тры гісторыі» (2014), «Хвілінка. Другая кніга» (2017).

2 У рамане «Хвілінка. Тры гісторыі» (2014) галоўны герой чытае класічны кітайскі раман «Падарожжа на Захад», другі герой перакладае Дао дэ цзын на старабеларускую мову, а трэці – старадаўніх кітайскіх паэтаў на сучасную беларускую мову.

3 Анталогія «Круглы год. Хоку беларускіх паэтаў» (Мн., 1996) была падрыхтавана ў 1986, але з прычыны адсутнасці выдаўца ўбачыла свет толькі ў 1996 годзе.

Магчыма, гэта наўпрост і не злучана з уплывам кітайскай традыцыі, але «сама ориентация на мир природы и его созерцание неизбежно вызывает ассоциации с поэзией Востока» [20]. З іншага боку, падобныя вершы цалкам і ў традыцыі беларускай нацыянальнай паэзіі, з яе павышанай частотнасцю звароту да вобразаў прыроды, якая, улучаючы чалавека ў свой калазварот, напаўняе яго жыццё сімваламі-вобразамі, што надаюць значнасць яго штодзённаму жыццю.

Вынікам творчых пошукаў, сугучных усходняй традыцыі, стала нараджэнне новых вершаваных формаў, напрыклад, «ахвярынкі» і «ясачкі» Р. Барадуліна, ці «квантэмы» і «пункціры» А. Разанава.

Квантэмы – вершы-медытацыі, у аснове якіх «імпульс, квант паэтычнай энергіі» (Я. Гарадніцкі). Пры іх стварэнні «задейнічаны найперш інтуітыўна-сугестыўны складнік» [14, 65]. «Форма <...> тут у нейкім сэнсе абумоўлівае змест» [14, 66]. У квантэмах няма складнасці, прычынна-выніковай сувязі, паміж сказамі адсутнічаюць знакі прыпынку, а таксама межы паміж лагічна завершанымі часткамі тэксту.

прадбачыць сон  
час іншыцца  
ўначы  
ў насення вочы [24]

Пункціры – таксама мініяцюры, якія складаюцца найчасцей з 3-8 вершаваных радкоў і напоўнены асацыятыўным падтэкстам, арыентаваны на быццёвую праблематыку. Паводле прызнання самога аўтара, пункціры – гэта «назіранне, думка, вобраз – тое, што заўважылася вакол сябе ў рэчаіснасці. Што пастукалася ў тваю душу, у свядомасць, што блізка падступілася» [25, 7], г. зн. тое, што з'яўляецца своеасаблівым знакам гэтай рэальнасці.

У Разанава ёсць кніга, якая завецца «Дождж: возера ў акупунктуры: пункціры», дзе сама назва, апроч адсылкі да базавага панятку традыцыйнай кітайскай медыцыны, кропкаваму ўздзеянню іголкамі на жыццёвую энергію цы, з'яўляецца і адной з яскравых характарыстык гэтых вершаваных формаў, якія вылучаюцца «перарывістастасьцю, дыскрэтнасьцю» [16] і максімальнай сэнсавай насычанасцю кожнага элемента верша, аж да гуку. Як заўважыла Г. Кісліцына, пункціры «так і хочацца назваць "акупункцірамі"» [16].

Кропка і штрых:  
іглічка  
трымае кроплю [23].

Жанр пункціраў – адзін з самых улюбёных у Разанава, паэт звяртаецца да яго найчасцей, а даследчыкі шмат пішуць пра ўплыў паэзіі Усходу на яго творчасць, маючы на ўвазе і тое, што менавіта Разанаў пераклаў на беларускую мову творы Басё. Але «разанаўскія пункціры – гэта, хутчэй, "анты-хоку", "хоку навыварат", бо сам паэт выступае сёньня супраць кананізацыі мэтрыкі» [16]. Вось як сам Разанаў каментуе свой аўтарскі жанр: «Пункціры ўзнікалі не ад знаёмства з японскімі хоку, з персідскімі бейтамі ці з індыйскімі гатхамі. Так, я быў знаёмы з гэтымі формамі ўсходняй паэзіі. Але пункціры з імі не супадалі, яны ўваходзілі з імі ў дыялог, прасілі, каб я дапамог ім знайсці іхняе непаўторнае месца» [Цыт. па 14].

Калі ж казаць пра пераразовы, то яны, перадусім, выяўляюцца ў стане сузіральнасці, які можна «можна суаднесці з усходнім прынцыпам У-Вэй – "ня-дзеяння" <...>, калі ўсе праявы быцця прымаюцца такімі, якія яны ёсць, без гвалтоўнага ўмяшальніцтва» [14] ці «у прыналежнасці да вялікай таямніцы ўзаемадзеяння мікракосмаса індывідуальнасці і макракосмаса быцця» [38]:

Сяджу дома —
не падарожнічаю, не вандрую.
Падарожнікі апавядаюць
пра свае ўражанні і назіранні —
назіраю адно за імі [23].

А. Разанаў – прадстаўнік «інтэлектуальна-метафізічнай плыні ў беларускай літаратуры, ён імкнецца асэнсаваць “каардынаты быцця”, месца чалавека ў Сусвеце і Сусвету ў чалавеку» [19]. Еўрапейскі кантэкст «спалучаецца ў пісьменніка з усходняй філасофіяй, знітоўваецца з гістарычнымі алюзіямі і традыцыйным беларускім поглядам на свет» [10].

Яшчэ адной эксперыментальнай формай, злучанай с усходняй традыцыяй, з'яўляецца верш-медытацыя Дзмітрыя Строцава «Лета – ре к а мешки гладкие...». Ён прысвечаны «Ло Бимину, китайцу» і напісаны якраз у адной з формаў маўленчай медытацыі – «расплавленная речь», як заве яе сам аўтар.

*Ло Бимину, китайцу*

Лета – ре к а мешки гладкие в летние воды летят
сладкая тля на ли с т е бли тра в ы водок гладких утят
дымное маре в о круг ни д у ш и стый сияет цветок
дышит во с н е ударяет ве с л о во уносит поток [33, 35]

Верш прысвечаны рэальнаму чалавеку, але гэта зусім не кітаец. Гэта Мікола Раманоўскі, унук Кузьмы Чорнага, паліглот, які валодае і кітайскай мовай. «В детстве, в советское время, он ходил на тайные курсы китайского языка и <...> получил кличку “китаец”. Язык выучил, иногда в компании читает на память и по-китайски»[1].

Верш уяуляе сабою мініяцюру-сузіранне, індывідуалізаваную рацыянальнасць, але цікавы ён, перадусім, прыёмам «фонетической и графичесакой контаминации» [29], перацяканнем слоў адно ў адно, зменай іх межаў. Ствараецца як бы падабенства даўжыні гукаў кітайскай мовы, яе тонаў. То бок, гэта адмысловае перайманне гукамі другой мовы ці пераклад гукавога ўспрымання іншай, незнаёмай мовы. Сам Строцаў так пракаментаваў гэты верш: «Что-то китайское я в этом чувствую, но языка не знаю...»[2].

Магчымым водгаласам кітайскай паэтыкі «можно считать и длинные заглавия стихотворений, в которых описываются обстоятельства их сочинения, и близкие им по функциям эпиграфы-предуведомления» [20]. Гэтыя доўгія апавядальныя назвы амаль заўсёды напісаны ад першай асобы, напрыклад, у вершах Ду Фу: «Запісаў свае думкі падчас вандравання ўночы» ці: «Веснавым днём ўспамінаю Лі Бо». У беларускай паэзіі такія загалоўкі сустракаюцца даволі часта ў Т. Скарынкінай: «Иногда что-нибудь записываешь но совсем не об этом думаешь», «Денег нет и нужно звонить хозяину квартиры чтобы позволил отсрочить арендную плату». То бок, як і ў кітайскай паэзіі, «заглавие стихотворения является одновременно и его структурным элементом, и самостоятельным текстом», оно многофункционально, так как может выражать «авторскую интенцию и конденсировать в себе содержание произведения» [34], а можа быць «множеством ложных указаний, отсылок, деталей, которые кажутся подлинными, но к истинной подлинности отношения не имеют» [32, 49-50].

---

[1] З асабістага ліставання з Дз. Строцавым.
[2] З асабістага ліставання з Дз. Строцавым.

В ГУЛКИХ ЗАЛАХ ДИНОЗАВРОВ ГНУТЫЕ КОНСТРУКЦИИ
ВОСКОВЫЕ КОММУНИСТЫ ОТКРЫВАЮТ СЪЕЗД
МЫ СБЕГАЕМ ИЗ МУЗЕЯ НА СВОБОДУ УЛИЦЫ
МИРУ МЕРТВЫХ МЕСТА НЕТ
Зло
музеев
отвратимо [30, 89]

Яшчэ адной асблівасцю, што збліжае беларускую паэзію с усходняй традыцыяй, з'яўляецца графіка вершаў такіх аўтараў, як, напрыклад, Дзмітрый Дзмітрыеў. Яго кніга «Ліра спіралі» выканана ў чорна-белай гаме і кожная старонка падзелена на чорную і белую часткі, як інь і ян – этапы зыходнага космагенэзу ва ўяўленні кітайскай філасофіі. Колеравы лаканізм падтрыманы і мінімалістычнасцю тэкстаў (амбіграмы, гетэраграмы, транспаліты і інш.).

я –
ян

сьню
ню

інь сьні! [11, 43]

Гэты верш, як і ўсе астатнія ў кнізе, мае своеасаблівы каментар-дэшыфраванне ўнізе старонкі. На чорнай частцы тлумачэнне да белай /.../- я (+н) – ян /.../ - сьню – (- сь) ню - /.../ - і – н – ь – с – ь – н – і - /.../ [11, 43], якое накіроўвае чытача да разумення сэнсавай гульні, якая можа мець некалькі прачытанняў, дзякуючы «максымальна прадуктыўнаму выкарыстанньню фактуры слова» [13]. Можна ўспомніць тут і яшчэ пра адну асаблівасць кітайскай паэзіі, дзе «отдельная строка и стихотворение в целом по сей день остаются предметом разнообразных, часто противоречивых интерпретаций, многие из которых, закрепившись в комментаторской традиции благодаря авторитету того или иного толкователя, служат путеводной нитью при чтении старинной китайской поэзии как для носителей языка, так и для иностранных исследователей и переводчиков» [12].

Ёсць у кнізе і рукапісныя творы, што належаць да візуальна-камбінаторнай паэзіі, выкананне якіх часта нагадвае каліграфічнае кітайскае пісьмо, у якім слова спрадвечна звязана з малюнкам. Амбіграмы Дзмітрыева, выкананыя надзвычай выразна, чытаюцца як ліставертні Дз. Аваліяні, які, як лічыць Б. Калымагін, «явно учитывал китайскую каллиграфию при создании своих листовертней» [17].

Кажучы пра візуальныя практыкі, якія ўлучаюць адсылкі да Усходу, нельга не ўспомніць і калектыўны арт-праект К. Самігулінай і Ю. Ільюшчанка «Асемическое письмо»[1].

І хоць у анонсе да выставы Самігуліна кажа аб тым, што аўтараў «более всего интересует практика визуальной (конкретной) поэзии и поэзии русского и европейского авангарда, т.к. именно эти течения являются «отправными точками» в возникновении такого постлитературного явления, как асемическое письмо» [26], але, прасочваючы вытокі дадзенай з'явы, яна ж у сваім артыкуле піша і аб іерагліфічнай пісьменнасці, аб тым, што еўрапейскі авангард пачатку XX стагоддзя, які спарадзіў тэрмін «асемічнае пісьмо», звяртаецца «к опыту Востока в попытке примирения «механического» человека с некими космическими началами» [27].

Безумоўна, папярэднікі асемічнага пісьма знаходзяцца ў «ранних культурных

[1] 4-5 кастрычніка 2012 года ў МДУ ім. А.А. Куляшова (г. Магілёў) прайшла першая ў Беларусі выстава асемічнага пісьма, арганізаваная К. Самігулінай і Ю. Ільюшчанка.

пластах. Первыми из манускриптов, близких по своей идее к безъязыковому выражению мысли, стали памятники каллиграфической письменности, созданные примерно в 750-х гг. н.э. в Китае мастером каллиграфии Чжан Сюем (Безумным Чжаном), который открыл и использовал совершенно новую по тем временам технику – сочетание традиционной каллиграфии с «даосским» (т.е., по сути, безумным) откровением» [26].

Зварот мастакоў-асемістаў да іерагліфічнай пісьменнасці, да піктаграм, да дзіцячага «прымітывісцкага» пісьма невыпадковы, бо «эти формы письма наиболее приближены к доязыковой стадии мышления человека» і вядуць да новага спосабу «передачи эмоций: посредством «фактуры» асемического произведения» [27]. Так, напрыклад, у рабоце «Асемические письмена на спиле сосны» здзейснена спроба ўзнаўлення прамовы, «доавилонского языка», шляхам аб'яднання «в пиктограммах несуществующей письменности черт некоторых древних (шумерского, финикийского, арамейского, хазарского, ведийского, древнекитайского, египетского и др.) языков» [28].

Узаемны ўплыў культур – гістарычная рэальнасць. Сёння ж, «когда на наших глазах складывается единая мировая цивилизация, оно превратилось в осознанную потребность, <...> стало испытанием жизненности любой культуры» [18]. Для беларускіх пісьменнікаў, у сувязі з цяперашняй сітуацыяй у айчыннай літаратуры, «іншае – неабходны кампанент быцця і фактар самасвядомасці нацыянальнага» [22, 37]. У той жа час кожны з аўтараў выбірае ў шырокай прасторы сусветнай культуры і тое, што найболей сугучна яго ўспрыманню свету, тое, што перагукаецца з яго мастацкай сістэмай. І Кітай з яго літаратурай і філасофіяй займае тут значнае месца, уваходзячы ў склад беларускай паэзіі, пашыраючы яе ўласны кантэкст і выводзячы ў прастору сусветнай культуры.

Літаратура:

1. Акудовіч В. Уводзіны ў новую літаратурную сітуацыю. //Акудовіч В. Разбурыць Парыж. – Мн., 2004.
2. Арлоў У. Паром празь Ля-Манш. – Мн., 2006.
3. Бабкоў І. Каралеўства Беларусь. Вытлумачэнне ру[і]наў. – Мн., 2005.
4. Бабкоў І. Засынаць, прачынацца, слухаць галасы рыб: вершы. – Мн., 2009.
5. Барадулін Р. Ксты. – Мн., 2006.
6. Барадулін Р. Збор твораў. Т.3. – Мн., 2009.
7. Ганна Янкута пра краіны Усходу ў беларускай літаратуры // https://www.svaboda.org/a/24208157.html
8. Гарачка У. Багі і героі. – Мн., 2009.
9. Гаспадыніч П. Калі сакура цвіце ў Беларусі... // Полымя. 2007. № 7. – С. 185-186.
10. Дакукін А.Д. Канцэпцыя беларускага шляху паводле Алеся Разанава // Спадчына І.Я. Навуменкі і актуальныя праблемы літаратуразнаўства. Гомель, 2016 // http://elibrary.kubg.edu.ua/17943/8/G_Shovkoplyas_SN_2016_IF_.pdf
11. Дзмітрыеў Дз. Ліра спіралі. – Мн., 2013.
12. Жолковский А.К., Смирнов И.С. Русское инфинитивное письмо и китайская классическая поэзия // http://www-bcf.usc.edu/~alik/rus/ess/bib156.htm
13. Жыбуль В. Паслямова // Дзмітрыеў Дз. Ліра спіралі. – Мн., 2013.
14. Івашчанка А. Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй. – Мн., 2008. // file: http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=14935
15. Кабржыцкая Т.В. Ля вытокаў літаратурнага ўзаемазацікаўлення (першыя крокі кітайскай украіністыкі і Тарас Шаўчэнка, першыя ўкраінскія і беларускія пераклады кітайскай літаратуры) // Белорусско-китайский культурный диалог: история, современное состояние, перспективы: сб. научн. ст. Минск, 2014. – С. 32-36.
16. Кісьліцына Г. Кропка і штрых // https://www.svaboda.org/a/759727.html
17. Колымагин Б. Китайские мотивы в поэзии андеграунда // НЛО. 2015. №135. // http://magazines.russ.ru/nlo/2015/5/20k.html

18. Малявин В. Китайские импровизации Паунда // Восток—Запад. Исследования. Переводы. Публикации. М., 1982. // http://daolao.ru/Confucius/Pound/pound_ch.htm
19. Мельнікава А.М. Беларуская літаратура XX ст. у еўрапейскім кантэксце. – Гомель, 2007.
20. Орлицкий Ю. Ориентир – ориенталия (Отголоски классических восточных поэтик в современной русской поэзии и малой прозе) // НЛО. 1999. №39. // http://magazines.russ.ru/nlo/1999/39/orlicky-pr.html
21. Прылуцкі С. Герой эпохі стабільнасьці. – Мн., 2013.
22. Разанаў А. Невядомая велічыня: гутаркі, артыкулы, згадкі. – Мн., 2017.
23. Разанаў А. Дождж: возера ў акупунктуры: пункціры. – Мн., 2007.
24. Разанаў А. Вастрыё стралы: Версэты, паэтычныя мініяцюры. – Мн., 1988.
25. А Разанаў А.С. Жыта і васілёк // Літаратура і мастацтва. 1997. 17.01. – С. 5–12.
26. Самигулина Е. Асемическое письмо как постлитературное явление // http://tae-ateh.livejournal.com/45269.html
27. Самигулина Е. Асемическое письмо как интернациональный феномен искусства // http://azbukaedd.wixsite.com/eksakaka/single-post/2014/03/04
28. А Самигулина Е. Асемические письмена на спиле сосны //http://www.antipodes.org.au/concept_sphere_08.html
29. Светашева Т. Йгровые приемы в раннем творчестве Д. Строцева (Сборник «38») // Русскоязычная литература Беларуси. – Мн., 2010. – С. 106–112.
30. Скарынкина Т. Португальские трехстишия. – New York, 2014.
31. Скоропанова И.С. «Минская школа» на рубеже XX-XXI вв. // Семинар «Литературная критика на современном этапе: социокультурная функция». Гродно. 25-26 февраля 2016 года. // http://www.pisateli.by/2015/skoropanova.htm
32. Смирнов И.С. Китайская поэзия: в исследованиях, заметках, переводах, толкованиях. – М., 2014.
33. Строцев Д. Бутылки света. – М., 2009.
34. Тугулова О.Д. Истоки жанра миниатюрного стихотворения 微型诗 и его теоретико-литературное осмысление // Вестн. Бурятского гос. ун-та. 2013. №8. – С. 48-52.
35. Хадановіч А. Дэжа вю: перавыбранае. – Мн., 2013.
36. Хадановіч А. Цягнік Чыкага – Токіё. – Мн., 2016.
37. Шніп В. Выратаванне атрутай. – Маладэчна, 2003. //http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=17339
38. Штэйнер І.Ф. Уводзіны ў невымоўнае: філасофія паэзіі А. Разанава. – Мн., 2013.
39. Як я стаў інтэлектуалам: Ігар Бабкоў. Лятучы ўніверсытэт. 2014. 05.09. Ч. 2. // http://fly-uni.org/sobytiya/yak-ya-sta%D1%9E-intelektualam-igar-babko%D1%9E-chastka-2/

Ігар Запрудскі



…няхай «багрымаўскае» пытанне
зойме ганаровае месца побач
з гамераўскім і шэкспіраўскім…

# Асобаснае літаратуразнаўства і «багрымаўскае» пытанне

*Не да магутнасці жалеза і золата Любоў,*
*не для раскашавання пыхі, не для трыўмфальнага*
*крыку на ўвесь свет: «Я! Я! Я!»...*

**Эліза Ажэшка**

Для характарыстыкі нашага часу падыходзіць азначэнне – сінтэтычны (два, тры, чатыры... у адным). У сеціве побач з абсалютнай ідэяй і законамі дыялектыкі Гегеля прапануюцца бясплатныя ўрокі медытацыі, самагонныя дыстылятары са зніжкай 10 адсоткаў, надвор'е ў Мінскай вобласці, падказка «Як знайсці Бога» і безліч менш прывабнага. Таму мы жывём у цікавы час. Мяне такі агрэсіўны інфармацыйны вінегрэт ужо не раздражняе, бо займае толькі гегелеўскі закон адмаўлення адмаўлення. У падручніках па філасофіі гэты закон падвойнага адмаўлення ілюструецца на прыкладзе коласа злакаў. Колас узнікае толькі пасля гібелі зярняці, гэта значыць, што колас адмаўляе зерне. Праз нейкі час у коласе з'яўляюцца новыя

зярняты, а сам ён гіне. Таму адмаўленне зярняці нарадзіла колас, а адмаўленне коласа стала прычынай з'яўлення новых зярнят.

Гэты ўніверсальны закон дзейнічае ў гістарыяграфіі беларускай літаратуры.

Апублікаваныя ў першай чвэрці XX стагоддзя фундаментальныя тамы «Беларусаў» Яўхіма Карскага, у якіх разглядалася і шматвекавая гісторыя прыгожага пісьменства, прасякнутыя «заходнерусісцкім духам». Затым Максім Гарэцкі, абапіраючыся на іх, выдаў у 1920-х гадах канцэптуальна іншую, «нацыяцэнтрысцкую», «Гісторыю беларускае літаратуры». Пры гэтым ён прызнаў выключную важкасць і значнасць працы, зробленай папярэднікам. Потым надышлі 1930–40-я гг., так званыя бэндэўска-кучараўскія. У беларускай навуцы запанавалі палітызаваныя, вульгарна сацыялагічныя ацэнкі. У выніку даробак М. Гарэцкага паспрабавалі выкрасліць і нават сцвярджалі, што яго ідэі не павіннны быць вернуты. Так, Лукаш Бэндэ пісаў у 1948 годзе: «Яры нацыяналіст М. Гарэцкі задоўга яшчэ да Ларчанкі таксама сцвярджаў, што ў Багушэвіча не было нацыяналізму. З пункту гледжання Гарэцкага, нават антысемітызм не з'яўляецца нацыяналізмам <...>. Але нашто спатрэбілася савецкаму крытыку паўтараць нацдэмаўскія зады? А такая тэндэнцыя ў Ларчанкі відавочна. Яна праяўляецца і там, дзе ён празмерна ўзвышае Багушэвіча і неабгрунтавана ставіць яго "ў адзін рад з перадавымі людзьмі рускай і заходне-еўрапейскай рэвалюцыйнай дэмакратыі XIX века". Дарэчы, Ларчанка і тут неарыгінальны. Ён толькі на свой лад перафразіраваў тое, што пісаў Гарэцкі. А апошні сцвярджаў, што Багушэвіч займае адно з першых месц у сусветнай паэзіі. Другі нацыяналіст ставіў Багушэвіча нават вышэй за Някрасава. <...> Савецкаму чытачу непатрэбны гэтыя нацыяналістычныя гіпербалы» [1]. Такім чынам, ужо ў пасляваенны перыяд ідэі фізічна знішчанага М. Гарэцкага спрабавалі рэанімаваць, хоць і без называння імя іх генератара. І ўсё ж пакаленне Барысенкі-Ларчанкі спакваля адмовіла ваяўнічасць папярэднікаў-вульгарызатараў. Далей літаратуразнаўцы-шасцідзясятнікі паступова і не заўсёды рашуча адмаўляліся ад падыходаў перакананых «сталіністаў». У выніку выдадзеныя ў 50–80-я гады XX стагоддзя гісторыі айчыннай літаратуры, з аднаго боку, арыентаваліся на ідэалагізаваныя класава-партыйна-пралетарскія ацэнкі, бо былі пазбаўлены ўсяго «нацыяналістычнага». З другога боку, нягледзячы на рытуальныя эківокі ў адрас Леніна і Горкага, у цэлым яны грунтаваліся на канцэпцыі, прапанаванай рэпрэсаваным «ярым нацыяналістам» М. Гарэцкім. Тым не менш да пачатку 1990-х гадоў ён толькі часткова быў рэабілітаваны як празаік, але не як гісторык літаратуры. Гэты беглы агляд генератыўных супярэчнасцей-адмаўленняў пацвярджае, што гегелеўскі закон падвойнага адмаўлення мае ўніверсальны характар.

Таму натуральна, што ў незалежнай Беларусі няўхільна ідзе працэс пераацэнкі здабыткаў савецкага літаратуразнаўства, у тым ліку ў галіне тэксталогіі. На гэтым шляху ў дачыненні літаратуры XIX стагоддзя маюць месца праявы *нігілісцкага* (ад лац. *nihil* – нішто, нічога) характару. Так, Мікола Хаўстовіч канстатуе: «Адсутнасць у першыя пасляваенныя гады беларускае тэксталагічнае навукі схіліла публікатараў да выкарыстання тых прынцыпаў, якія дыктавала ідэалогія, цэнзура і "ўзоры" Л. Бэндэ. Публікацыйная практыка была народжаная Сістэмай, заахвочвалася і ўхвалялася Сістэмай. І, на жаль, мала хто з даследчыкаў мог дазволіць сабе адступіцца ад прынцыпаў, якія ўсталявала Сістэма» [14, с. 10]. Гэтая ацэнка публіцыстычная, нават метафарычная. Але ці карэктная яна, ці мае што агульнае з навуковай стрыманасцю?

Тагачасныя тэкстолагі ў БССР займаліся падрыхтоўкай і выданнем у перакладзе на беларускую мову твораў Сталіна, Леніна і пачынальнікаў марксізму. Такая дзейнасць адпаведным чынам фінансавалася. Навуковае ж выданне помнікаў пісьменнасці XIX стагоддзя не было прыярытэтнай задачай. Таму і Міхась Ларчанка, і Любоў Фіглоўская, і Васіль Барысенка, і нават згаданы Лукаш Бэндэ нешта, і нямала, зрабілі ў складаных умовах сталіншчыны. Якраз у той час быў апублікаваны

не толькі шэраг невядомых твораў беларускай літаратуры XIX стагоддзя, але і архіўныя матэрыялы, звязаныя з фактамі біяграфій тагачасных пісьменнікаў. Упэўнены, што непрымальна выказваць брутальнае меркаванне, што Бэндэ быў «заахвочаны магчымасцю атрымання ганарараў» [14, с. 10]. Можна падумаць, што сучасныя даследчыкі праседжваюць у архівах і рыхтуюць публікацыі толькі па прычыне чыстай і ўзвышанай любові да навукі.

Якраз у 40–50-я гады XX стагоддзя закладаўся той крыніцазнаўчы падмурак, які дазволіў глядзець на беларускую літаратуру XIX стагоддзя як на з'яву заканамерную, а не як на ланцуг выпадковых эпізодаў. Адпаведна ў 1940-м і 1950-м гадах пабачыў свет падрыхтаваны Інстытутам мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР зборнік тэкстаў «Беларуская літаратура XIX стагоддзя». Пазнейшым даследчыкам 60–80-х гадоў Ісідару Басу, Сцяпану Александровічу, Адаму Мальдзісу, Генадзю Кісялёву, Уладзіміру Мархелю і іншым гэта дазволіла паспяхова выпрацаваць цэласнае ўяўленне пра асаблівасці літаратурнага працэсу ў Беларусі. Яно не было пазбаўлена бяздоказных і адцягненых разважанняў пра ролю ў культурнай эвалюцыі беларусаў з'яднання з рускім народам і камуністычнай партыі. Адмаўляючы спрошчанае і памылковае, адштурхоўваючыся ад канкрэтнага матэрыялу, апублікаванага папярэднікамі, гісторыкі літаратуры прадоўжылі прадуктыўную працу, сталі праяўляць большую гнуткасць мыслення, выходзіць на канцэптуальны ўзровень асэнсавання літаратурнага працэсу, выкарыстоўваючы веды з тэорыі літаратуры, сталі па-новаму тлумачыць яе сувязь з грамадскім жыццём. Пачала звяртацца ўвага на структуру мастацкага твора, літаратурныя жанры, кірункі і стылі, ролю традыцыі і наватарства, а таксама нават на нацыянальную спецыфіку прыгожага пісьменства. Сістэма сістэмаю, але літаратуразнаўства развівалася, хоць трывалай школы навуковай падрыхтоўкі публікацыі тэкстаў XIX стагоддзя створана не было. І ў гэтым трэба пагадзіцца з М. Хаўстовічам.

Так сталася яшчэ і таму, што ў адносінах да перыяду фарміравання літаратурнай мовы неадаптаванае ўзнаўленне тэкстаў доўгі час лічылася больш цікавым для моваведаў, чым для літаратуразнаўцаў. Аднак М. Хаўстовіч з вышыні сённяшняга дня зусім нетактоўна робіць закіды ў адрас Генадзя Кісялёва. Маўляў, ён, рыхтуючы «Пачынальнікаў» (1977), тэксты «транслітараваў ...з лацінкі на грамадзянскі шрыфт, а з-за гэтага часам траціліся іх надзвычай істотныя асаблівасці» [14, с. 12]. Ці шмат паспалітых беларусаў у сярэдзіне 1970-х гадоў магло ўспрымаць лацінскую графіку? Адзінкі. Калі б Г. Кісялёў не транслітараваў змешчаныя тэксты, то ягоны зборнік проста не мог быць разлічаны на шырокую аўдыторыю – «усіх, хто цікавіцца літаратурай і культурай Беларусі». Будучыня паказала, што роля гэтай кнігі гісторыка-літаратурных матэрыялаў у нашым літаратуразнаўстве і культурным поступе нацыі – унікальная!

Аўтар гэтых радкоў апублікаваў у «Беларускім гістарычным аглядзе» анатацыйны водгук на першыя тры тамы выдаваных М. Хаўстовічам «Даследаванняў і матэрыялаў: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў» (Warszawa, 2014–2017) [8]. Эмацыянальная рэакцыя варшаўскага калегі на мае заўвагі ўразіла. Свае ацэнкі ўкладальнік надрукаваў у чацвёртым томе надзіва аператыўна: «...У тэксце г. зв. "рэцэнзіі" сутнаснай з'яўляецца толькі думка, паўтораная тройчы – пры "аналізе" кожнага тома выдання, пра "прадузятасць" і "саркастычнасць" аўтара ў адносінах да папярэднікаў. Усё іншае ў "рэцэнзіі" – адно пералік таго, што ёсць у выданні, ды цалкам непатрэбны тут "рэестар" даробку аўтара» [14, с. 11]. Як бачым, М. Хаўстовіч разгневаны і сам наважваецца вызначаць, што ў рэцэнзіі на яго выданні патрэбна, а што не. Таму адразу папярэджу, што гэтым разам агляднага «аналізу» надрукаваных у чацвёртым томе «Даследаванняў...» (Warszawa, 2018) матэрыялаў не будзе. Увага заакцэнтуецца пераважна на тым, што пацвердзіць слушнасць маіх ранейшых высноваў «пра "прадузятасць" і "саркастычнасць" аўтара ў адносінах да папярэднікаў» і сучасным стане «багрымаўскага» пытання.

Хаўстовічавы «паважлівыя» адносіны да Творцы «Пачынальнікаў» ужо былі праілюстраваны. Укладальнік «Даследаванняў...» мае немалы вопыт вядзення каляэдыцыйнай палемікі. Назавём ягоную «гучную» дыскусію з пецярбургскім перакладчыкам «Шляхціца Завальні» на рускую мову Дзмітрыем Вінаходавым, які выказаў свой, адрозны ад хаўстовічаўскага, погляд на творчасць Яна Баршчэўскага. У тым ліку і ў адносінах да палемікі паміж «баршчэўсказнаўцамі» Аксана Бязлепкіна слушна заўважыла: «...Відавочнай бачыцца няплённасць дыскусіі: паколькі кожны бок адстойвае не столькі сваю тэарэтычную пазіцыю, колькі абараняе ўласныя інтарэсы...» [4]. Увогуле, М. Хаўстовіч не вызначаецца асаблівай схільнасцю цырымоніцца. Можна прыгадаць ягоныя жорсткія ацэнкі дзейнасці Кастуся Цвіркі як перакладчыка і выдаўца.

Кожны том «Даследаванняў...» адкрываецца не «Прадмовай», да якой ёсць акрэсленыя кампазіцыйна-змястоўныя патрабаванні, а «Замест прадмовы», што, трэба думаць, вызваляе аўтара ад любой рэгламентацыі. М. Хаўстовіч даводзіць, што надрукаваны В. Скалабанам у зборніку «Шляхам гадоў» (1990) з захаваннем арфаграфічных асаблівасцяў арыгіналу тэкст паэмы «Тарас на Парнасе», які паходзіць з «Рукапісаў А. Рыпінскага», а прыведзены ў дысертацыі В. Мачульскага «Даследаванні па гісторыі беларускай літаратуры», – «гэта не навуковая публікацыя твора» [14, с. 11]. Аднак гэты тэкст з дысертацыі пасля страты рукапісаў сёння лічыцца першакрыніцай. Затое рэканструяваную на яе аснове і адаптаваную да нормаў сучаснага правапісу публікацыю тэксту паэмы, падрыхтаваную Юрасём Пацюпам [5], калега, які назваў мяне сваім апанентам, адносіць да надрукаваных «у адпаведнасці з прынцыпамі навуковай публікацыі» [14, с. 12–13]. Вось такая суб'ектыўная выбарачнасць, якую хай бы навуковец патлумачыў рацыянальна і прадэманстраваў сілу ўласнай логікі. Бо пачынаеш думаць пра казуістыку ці гіпнатычны магнетызм дзеяння закона падвойнага адмаўлення: першакрыніца адмаўляецца «ненавуковай» публікацыяй, якая, у сваю чаргу, адмаўляецца наступнай «навуковай», грунтаванай на папярэдняй.

Пішучы «Замест прадмовы», М. Хаўстовіч у значнай ступені абапіраўся на каштоўную публікацыю Антона Адамовіча «Да пабудовы навуковае гісторыі беларускай літаратуры» (1963), змешчаную ў мюнхенскіх «Запісах» Беларускага інстытута навукі і мастацтва[1]. У тэксце падаюцца асобныя спасылкі на гэтае выданне, аднак мае месца і пераказванне зместу. Пры гэтым, без супастаўлення з крыніцай, зусім не зразумела, ідэі належаць самому М. Хаўстовічу ці запазычаны з публікацыі папярэдніка. Вось такая практыка. Напісаны ў часы так званай халоднай вайны артыкул А. Адамовіча, натуральна, вызначаецца негатыўным стаўленнем даследчыка-эмігранта да здабыткаў беларускага савецкага літаратуразнаўства. Рэфератыўна пераказваючы змест гэтай публікацыі, М. Хаўстовіч, на маю думку, некрытычна пераймаў і яе адмаўляльны пафас. А. Адамовіч на аснове ўласных успамінаў прывёў важныя звесткі пра лёс трэцяга паэтычнага зборніка Ф. Багушэвіча. У сувязі з гэтым укладальнік «Даследаванняў...» у дужках заўважае: «[Не зусім зразумела: чаму Генадзь Кісялёў (1931–2008), маючы такое красамоўнае выказванне А. Адамовіча адносна лёсу *Скрыпачкі беларускай* Ф. Багушэвіча, даволі невыразна асвятляе пытанне гісторыі дадзенага рукапісу]» [14, с. 9]. Мне ж, напрыклад, цалкам зразумела нежаданне аўтара манаграфіі «Ад Чачота да Багушэвіча» пашыраць матэрыял, які нейкім чынам «кампраметаваў» бы вобраз бацькі нацыянальнага адраджэння.

Цяпер непасрэдна звернемся да згаданых «прадузятасці» і «саркастычнасці». І ў чацвёртым томе «Даследаванняў...» укладальнік паслядоўна прытрымліваецца ранейшых прынцыпаў. Для ілюстрацыі дастаткова звярнуцца да адносна невялікай

[1] У самім выданні – Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва.

структурнай часткі, якая атрымала назву «Вершаваныя творы Ігнацы Яцкоўскага». Калі вы падумаеце, што ў ім сапраўды будзе ісці гаворка пра вершаваныя творы аўтара «Аповесці з майго часу, альбо Літоўскіх прыгодаў», то памыліцеся. Тут на сямі старонках прадстаўлена своеасаблівая галерэя сямі «апанентаў-крыўдзіцеляў» як самога І. Яцкоўскага, так і М. Хаўстовіча.

**Першы** – нейкі невядомы сучаснік пісьменніка, які на асобніку яго паэмы алоўкам пакінуў надпіс, «адмаўляючы аўтару *права* (курсіў мой, павінна быць *у праве*. – *І.З.*) называцца паэтам» [14, с. 103]. М. Хаўстовіч лічыць прычынай такой суровай ацэнкі тагачасную творчую нясталасць І. Яцкоўскага і адметным чынам спрабуе апраўдаць вершапісца: «А вось праз нейкі дзясятак гадоў у даробку І. Яцкоўскага мелася ўжо блізу тысячы вершаваных радкоў, 864 з якіх былі надрукаваны (361 – ананімна), і ён працягваў складаць вершы ледзь не да канца свайго жыцця» [14, с. 103]. Міжволі прыходзіць думка: каб жа ж толькі колькасцю радкоў вызначаўся талент. Даследчык жа адзначае рэгіянальны ліцвінска-навагрудскі патрыятызм творцы, яго палкае жаданне аднаўлення Рэчы Паспалітай, бачыць найбольш станоўчае ў тэндэнцыйнасці «Аповесці з майго часу, альбо Літоўскіх прыгодаў» і рэзюміруе: «Залічваючы І. Яцкоўскага ў *почат* (курсіў мой, па-беларуску *шэраг*. – *І.З.*) польскамоўных літаратараў Беларусі XIX стагоддзя, мы тым самым прызнаём ягоныя заслугі перад беларускаю культураю» [14, с. 103]. Аднак, ушаноўваючы пісьменніка, даследчык застаецца ў гордай адзіноце і з сумам прызнаецца: «На жаль, сёння не заўважаецца цікавасці беларускіх даследчыкаў да асобы і творчасці І. Яцкоўскага. Здавалася б, ужо сам факт, што ў кнізе пісьменніка надрукаваны адметны беларускамоўны верш, павінен быў скіраваць навукоўцаў да грунтоўнага вывучэння ягонае спадчыны. Аднак так не сталася» [14, с. 103–104].

М. Хаўстовіч расчараваны, што на ягоныя публікацыі 2006–2010 гадоў са штудыямі і доказамі дачыненняў «эмігранта з Навагрудчыны да мастацкай літаратуры» [14, с. 104] мала звярнулі ўвагу, у тым ліку аўтар гэтых радкоў. А ён **другі** неразумнік, які яшчэ ў сярэдзіне 1990-х гадоў прапанаваў уласную версію атрыбуцыі верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» і дагэтуль не пераканаўся ў няслушнасці сваёй гіпотэзы пра аўтарства Юльяна Ляскоўскага[2]. Мне даўно стала зразумела, што ў «Аповесці з майго часу, альбо Літоўскіх прыгодах» мы маем справу з літаратурным творам, у якім прэвалюе не столькі мастацкі вымысел, колькі домысел. Аўтар ідзе па шляху дамыслівання ці дадумвання цалкам магчымых падзей, адпаведным чынам абагульняе факты рэчаіснасці, выяўляе сваю творчую пазіцыю, раскрывае ўласны погляд на жыццёвыя рэаліі. Пры гэтым яго мала турбуе, што, выкарыстоўваючы мастацкія прыёмы ў абранай форме ўспамінаў, ён істотна скажае падзеі адлюстраванай рэальнасці.

На маю думку, пры жыцці І. Яцкоўскі не асабліва адзначыўся сваёй празмернай сціпласцю, далікатнасцю і адсутнасцю славалюбства. М. Хаўстовіч працяглы час вывучае яго біяграфію і цяпер нарэшце ў чацвёртым томе «Даследаванняў...» наважыўся апублікаваць вядомую частку яго паэтычнай спадчыны. Сённяшняе знаёмства з ёю, як і ранейшае, не выклікала эйфарыі ад дакранання да вернутых «шэдэўраў». Нягледзячы на ўсе аргументы М. Хаўстовіча, мне не выпадае пагадзіцца з празмерна катэгарычным яго меркаваннем: «Дваццаць дзевяць радкоў вядомага беларускамоўнага верша (маецца на ўвазе «Зайграй, зайграй, хлопча малы...». – *І.З.*) у ідэйна-стылістычных і нават лексічных адносінах цалкам адпавядаюць паэтыцы польскамоўных твораў І. Яцкоўскага» [14, с. 148]. Чытачам прапануецца досыць трывіяльнае вершаскладанне. Ці не таму даследчык раз-пораз дэманструе

[2] З маёй версіяй атрыбуцыі верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» можна пазнаёміцца тут: http://elib.bsu.by/handle/123456789/13480.

празмерна гіпертрафіраванае ўласнае самалюбства? За доказамі такой высновы далёка хадзіць не трэба.

Наступным (**трэцім**) аб'ектам для незадавальнення і з'едлівай крытыкі (на мяжы з прыстойнасцю) становіцца доктар філалагічных навук Жанна Некрашэвіч-Кароткая. Яна прымусіла М. Хаўстовіча здзіўляцца сваёй даследчай невідушчасцю, недаверам да дакументаў эпохі, дзіўнасцю меркаванняў і дылетантызмам. Сабе ўкладальнік чарговага тома «Даследаванняў...» дазваляе паіранізаваць, але для яго апанентаў гэта, трэба думаць, недапушчальна. Ж. Некрашэвіч-Кароткая мае такія агучаныя вялікія грахі: «ніколі не вывучала літаратурны працэс на Беларусі ў ХІХ стагоддзі» [14, с. 104], называе сваіх апанентаў, а паводле Хаўстовіча, мабыць, гэта, абразліва, – «вучоны», не ведае «архіўны пыл», наіўна пакладаецца на правільнасць даўно апублікаванага перакладу і іншыя. «Колішняя памылка Язэпа Янушкевіча ўвяла ў зман Ж. Некрашэвіч-Кароткую, якая стварыла недарэчную і дзіўную тэорыю-абгрунтаванне...» [14, с. 106], – піша М. Хаўстовіч, «тактоўна» даючы ацэнку адразу абоім навукоўцам.

Што датычыцца першага «граху», то гэта проста няпраўда. Ж. Некрашэвіч-Кароткая не толькі пераклала на беларускую мову аповесць Вайніслава Савіча-Заблоцкага «Полацкая шляхта», але і мае каля 20 навуковых і вучэбна-метадычных публікацый (ёсць і на нямецкай мове), у якіх асэнсоўваюцца факты літаратурнага працэсу ХІХ стагоддзя. Гэтаму прысвечаны тры раздзелы з дзесяці ў яе вучэбным дапаможніку «Шматмоўная літаратура Беларусі ў кантэксце актуальных літаратуразнаўчых канцэпцый» (2015), у бібліяграфічным спісе якога фігуруе пяць хаўстовічаўскіх публікацый, што сведчыць аб непавярхоўным знаёмстве даследчыцы з даробкам укладальніка «Даследаванняў...». Калі ж сыходзіць з тэзіса, што той, хто не працаваў у архівах, не можа лічыцца даследчыкам літаратурнага працэсу на Беларусі ў ХІХ стагоддзі (а такая ўстаноўка назіраецца ў М. Хаўстовіча), то побач з Ж. Некрашэвіч-Кароткай трэба будзе назваць імёны Алега Лойкі, Івана Навуменкі, Алеся Яскевіча і многіх іншых.

Набор практыкаваных М. Хаўстовічам прыёмаў, каб прынізіць, зняважыць або нават абразіць апанента ва ўяўнай навуковай спрэчцы, досыць небагаты. «Сёння абараняць міф пра першага сялянскага паэта, на нашу думку, ужо недаравальна» [14, с. 107] – так маніфестуе сваю пазіцыю даследчык. Звяртаю ўвагу не столькі на тое, што адстойваецца, колькі – як гэта робіцца (*недаравальны, які нельга дараваць, прабачыць*).

Услед за спадарыняй **чацвёртым** пад агонь крытыкі патрапляе баранавіцкі краязнаўца Міхась Маліноўскі. Пра ягоныя публікацыі М. Хаўстовіч зазначае: «Але тая манера выкладання сваіх, звычайна без аргументаў, *домыслаў і фантазій* (курсіў мой, павінна быць *з домысламі і фантазіямі. – І.З.)*, хоць не пазбаўленых часам рацыянальнага (як ні дзіўна!) зярняці, не дазваляе ўключаць напісанае ім у навуковы дыскурс» [14, с. 106]. Чытаеш – і вачам не верыш, М. Маліноўскі – ды без домыслаў і фантазій. Усё ж не толькі апублікаваныя тэксты асядуць у бібліятэках, але і ўсё напісанае самім публікатарам стане здабыткам спецыялістаў і грамадскасці. Пасля выхаду кнігі правадзейнага члена геаграфічнага таварыства М. Маліноўскага «Павел Іосіфавіч Багрым (Паўлюк Багрым). Легенды, праўда, загадкі» (Баранавічы, 2006. – 128 с.) мне на філалагічным факультэце БДУ прапанавалі напісаць на яе рэцэнзію. Пазнаёміўшыся з тэкстам, я палічыў сябе не вартым такога гонару. А М. Хаўстовіч з ахвотай пагадзіўся.

У канцы таго ж 2006 года пры фінансавай падтрымцы Польскага Інстытута ў Мінску пабачыла свет кніга М. Хаўстовіча «Айчына здалёку і зблізку: Ігнацы Яцкоўскі і Аляксандар Рыпінскі», рэцэнзентамі якой сталі Міхась Тычына і Язэп Янушкевіч. Ва ўступе аўтар падкрэсліў: «А вось кнігі Г. Кісялёва пра класікаў ХІХ ст., аўтараў паэм "Энеіда навыварат" і "Тарас на Парнасе", цяжка назваць працамі пра

В. Равінскага і К. Вераніцына, бо іх літаратурная дзейнасць выглядае мізэрнай на фоне велічнасці твораў, якія ім прыпісваюцца» [13, с. 3][3]. І гэтая адпаведным чынам сфармуляваная думка, канечне ж, нарадзілася ў выніку вялікай павагі М. Хаўстовіча да плёну шматгадовай тытанічнай працы папярэдніка. Думаю, што варшаўскаму апаненту не даюць спакою слава і прызнанне выдатнага вучонага. Можна меркаваць, якія эмоцыі на старасці гадоў выклікала ў Г. Кісялёва такая бегма кінутая заўвага-ацэнка. «Дадзеная кніга ўзнікла з патрэбы яшчэ раз з вышыні дасягненняў сённяшняга дня перагледзець атрыбуцыю надзвычай дасканалага ў мастацкіх адносінах чулліва-сентыментальнага верша “Зайграй, зайграй, хлопча малы...”, які ўжо амаль стагоддзе стала звязваецца з імем 16-гадовага крашынскага падлетка Паўлюка (Паўла) Багрыма» [13, с. 3–4], – працягвае М. Хаўстовіч. Выхад «Айчыны здалёку і зблізку...» паслужыў штуршком для рэдукцыі маіх сімпатый да аўтара па прычыне ступені карэктнасці, з якою ён абапіраўся і выкарыстоўваў (паўтараў-пераказваў) мае напрацоўкі і высновы. Прызнаюся, што ў 2007 годзе без асаблівага імпэту спрабаваў пісаць пра слабыя месцы Хаўстовічавае гіпотэзы аўтарства верша. Але тыя накіды не былі даведзены да лагічнага завяршэння, а затым проста згубіліся ў кампутарных нетрах. І цяпер не шкадую, бо ўпэўнены, што гэта было да лепшага: тое, што хацеў сказаць тады, будзе сказана іншым даследчыкам, хоць і на дзевяць гадоў пазней.

У 2008 годзе ў «Дзеяслове» з’явілася рэцэнзія Васіля Дубейкі «Дык хто ж фантазёр? Па старонках адной кнігі», прысвечаная гіпотэзам і легендам М. Маліноўскага. У ёй пісалася: «Новая легенда першая: верш “Зайграй, зайграй хлопча малы” напісаў Ігнат Яцкоўскі. “На мой (М. Маліноўскага. – *І.З.*) погляд, верш “Зайграй, зайграй, хлопча малы...” напісаў не вядомы для нас міфалагічны Багрым, а сам аўтар кнігі “Аповесць майго часу, ці Літоўскія прыгоды” І. Яцкоўскі”... Рабіць выснову аб аўтарстве верша на падставе аднаго толькі факту, што гэты верш быў надрукаваны І. Яцкоўскім у ягонай кнізе – сама меней, на наш погляд, наўмыснае спрашчэньне існуючай літаратуразнаўчай праблемы. Калі аўтар адважыўся выступіць з альтэрнатыўнай гіпотэзай, то ў яе падмацаваньне патрэбна было б да драбніцаў вывучыць біяграфію І. Яцкоўскага, даць аргументаваную ацэнку яго літаратурнай спадчыны, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на літаратуразнаўчую экспертызу вершаванай яе часткі, бо, як гэта добра вядома, пасьля вяртаньня ў 1857 г. з выгнаньня ён супрацоўнічаў у беларускім польскамоўным друку, пісаў карэспандэнцыі і, што асабліва важна, вершы. Можа, і сапраўды былы навагрудскі адвакат зьяўляецца аўтарам верша “Зайграй, зайграй, хлопча малы...”, але вашае, Міхась, даруйце фамільярнасьць, аргументацыі для зробленай гучнай заявы замала» [7, с. 309]. Такім чынам, В. Дубейка, які не згадваецца ў «Даследаваннях...», лагічна акрэсліў пункты праграмы вывучэння жыццяпісу і творчасці пісьменніка, якую ў той час М. Хаўстовіч ужо ў многім рэалізаваў.

Чарговым **пятым** «крыўдзіцелем» стаў сам найкампетэнтнейшы Генадзь Кісялёў. З-за неверагоднай выкрывальніцкай актыўнасці М. Маліноўскага, які пісьмова звяртаўся ў многія ўстановы з патрабаваннем «развянчаць» Багрыма, укладальнік «Пачынальнікаў» быў змушаны даваць навуковую экспертызу кнізе «Павел Іосіфавіч Багрым (Паўлюк Багрым). Легенды, праўда, загадкі». Паважаны даследчык прыйшоў да высновы, што прапанаваная на экспертызу кніга «можа выкарыстоўвацца ў якасці яскравага прыкладу, як не павінна праводзіцца гісторыка-

---

[3] Лічу дарэчным прывесці выказванне Ганны Кісліцынай, якая адносіць згаданыя М. Хаўстовічам кнігі да жанру «літаратуразнаўчых расследаванняў»: «Для мяне загадка, чаму, напрыклад, кніжка “Жылі-былі класікі” Генадзя Кісялёва не бестсэлер. Вельмі яе люблю і не раз перачытвала». На што Ціхан Чарнякевіч адказаў: «У яе няма суседзяў. Няма чатырох паліц такіх жа кніг, да якіх падыходзіць пакупнік. Калі б яны былі, то і з Кісялёвым усё было б выдатна» [Дзеяслоў. – 2015. – № 4 (77). – С. 283].

літаратурнае даследаванне» [9, с. 49]. Вынікі навуковай экспертызы датаваны 7 лютага 2007 г., а 19 мая таго ж года Г. Кісялёў выказаў свае адносіны да версіі Маліноўскага-Хаўстовіча ў інтэрв'ю Беларускай праграме Польскага радыё. На пытанне пра аўтарства І. Яцкоўскага ён адказаў: «Ёсць такая вэрсія. Але гэта толькі меркаваньне, яшчэ далёкае да таго, каб мы яго прызналі» [14, с. 107]. І гэта пры тым, як сведчыць М. Хаўстовіч, што Г. Кісялёў быў знаёмы з ягонымі «публікацыямі на тэму *атрыбуцыі аўтарства* (курсіў мой, тут плеаназм – ужыванне блізказначнага непатрэбнага слова. – *І.З.*) верша *Заграй, заграй, хлопчэ малы...*» [14, с. 107].

З нагоды майго звароту да матэрыялаў з архіва даследчыка, апублікаваных яго дачкою Ліяй Кісялёвай, хачу звярнуць увагу на некаторыя пункты анкеты. Генадзь Васільевіч на пастаўленыя пытанні адказаў так: «4. Якія чалавечыя заганы не церпіце? *Пыхлівасць. Хлуслівасць. Скважнасць*» [9, с. 52]; «35. Ці прыслухоўваецеся Вы да чыёй думкі, прымаючы рашэнне? *Вельмі прыслухоўваюся, але важныя рашэнні прымаю сам*» [9, с. 54]. І мне вельмі сімпатычная такая пазіцыя.

На вокладках усіх чатырох тамоў «Даследаванняў і матэрыялаў...» пазначана імя – Мікола Хаўстовіч. На вокладках абодвух выданняў «Пачынальнікаў» (1977, 2003) імя Генадзя Кісялёва адсутнічае. І «Даследаванні...», і «Пачынальнікі» ў аднолькавай ступені належаць да групы крыніцазнаўчых выданняў, г. зн. дакументальных навуковых выданняў, якія змяшчаюць публікацыі помнікаў культуры і гістарычных дакументаў, што прайшлі тэксталагічную апрацоўку, маюць каментары, уступныя артыкулы, дапаможныя ўказальнікі і іншыя элементы навукова-даведачнага апарату. Чаму ж у першым выпадку імя ўказана, а ў другім – не? Генадзь Кісялёў не цярпеў *пыхлівасці*, бо быў па-навуковаму вельмі сціплым чалавекам.

У адрозненне ад Ж. Некрашэвіч-Кароткай Язэпа Янушкевіча ніяк не ўпікнеш у тым, што ён не ведае архіўны пыл і літаратурны працэс XIX стагоддзя. Тым не менш ён стаў **шостым** з тых, хто выклікаў пачуццё Хаўстовічавага незадавальнення, бо заплюшчыў вочы і «працягвае адстойваць даўні сацыялістычна-савецкі міф» пра аўтарства П. Багрыма. «Самае прыкрае тое, – піша М. Хаўстовіч пра матэрыялы брашуры, прысвечанай 200-годдзю Паўлюка Багрыма «А ў маскалях трудна жыці...» (Ракаў, 2012), – што Я. Янушкевіч стаў на шлях абразлівага трактавання апанентаў (відавочна, запазычыўшы прыёмы баранавіцкага краязнаўца)» [14, с. 107]. М. Хаўстовіч бачыць злую волю ў тым, што Я. Янушкевіч, валодаючы фотакопіямі чатырох дакументаў пра сям'ю П. Багрыма, дасланых у 1988 годзе ў Акадэмію Навук Беларусі ксяндзом Каралем Жураўскім, да сённяшняга дня перашкаджае іх навуковай публікацыі. Бо ў «“кнізе-буклеце” (sic!) (лацінскае слова, якое выкарыстоўваецца для таго, каб паказаць, што папярэдняя дэфініцыя няправільная; тлумачэнне маё. – *І. З.*) *“А ў маскалях трудна жыці...”* ...падае фотакопіі К. Жураўскага, але змяншаючы іх так <...>, каб немагчыма было прачытаць» [14, с. 107]. Вось такі факт свядомага «шкодніцтва» выкрывае аўтар тэксту «Вершаваныя творы Ігнацы Яцкоўскага», праўда, дзякуй, што ў падрадковай зносцы. Упэўнены, што і М. Хаўстовіч, і Я. Янушкевіч з'яўляюцца патрыётамі Беларусі, але кожны з іх жадае жыць добра і разумее любоў да радзімы і яе культуры па-свойму... І гэта нармальна. Анамальна ж тое, што наўрад ці яны ўжо паразумеюцца паміж сабой, бо нападкі першага на другога, па-мойму, выкліканы тым, што ў асобе ракаўскага беспрацоўнага даследчыка варшаўскі прафесар бачыць аднаго з рэальных канкурэнтаў у практычнай публікатарскай і каментатарскай дзейнасці.

Нарэшце, нязгода з гіпотэзай Маліноўскага-Хаўстовіча была агучана Генадзем Праневічам у артыкуле «“Пан Тадэвуш” Адама Міцкевіча і “Аповесць з майго часу, альбо Літоўскія прыгоды” Ігната Яцкоўскага» (Тэрмапілы. 2016. № 20). Двойчы назваўшы высновы апанента гіпатэтычнымі, М. Хаўстовіч прыводзіць такі аргумент брэсцкага даследчыка: «Не мог паэт сярэдняй рукі, якім быў І. Яцкоўскі, праз 20 гадоў пасля падзеі (а з верша выразна відаць, што напісаны ён падлеткам,

непасрэдным сведкам трагедыі, а не пажылым, сталым чалавекам, якім быў на тую пару І. Яцкоўскі) раптам напісаць геніяльны твор» [14, с. 107]. Спецыяльна цытую па выданні «Даследаванняў...», бо ў самім тэксце публікацыі Г. Праневіча ёсць куды больш канкрэтныя, негіпатэтычныя меркаванні. Напрыклад: «Ці быў аўтарам верша сам І. Яцкоўскі, як пра гэта гаворыць М. Хаўстовіч? Наўрад ці. Аргументаў, якія прыводзіць аўтар у сваёй працы (памер верша, лексічнае сугучча выразу "Hdziez ja biedny abiarnusia?" у творах І. Яцкоўскага), яўна недастаткова, каб прыпісаць славуты твор наваградскаму адвакату, як гэта робіць даследчык <...>. Ва ўсім астатнім – ніякіх слядоў ва ўсёй творчасці І. Яцкоўскага. Ды і па мастацкім узроўні не адзін верш І. Яцкоўскага нельга паставіць поруч з вершам "Зайграй, зайграй хлопча малы..."» [12, с. 253]. Перад намі выразна акрэсленая пазіцыя прафесіянала, з якою, зразумела, М. Хаўстовіч не згодны, таму для ілюстрацыі сутнасных аргументаў Г. Праневіча ён не прыводзіць вылучаную мной цытату, а абірае іншую – «гіпатэтычную». У цэлым жа ў выдатным артыкуле Г. Праневіча ўкладальнік «Даследаванняў...» пераважна і цалкам галаслоўна ўгледзеў кансерватызм мыслення і нежаданне аўтара адмовіцца ад сваіх ранейшых меркаванняў: «...Нам бачыцца спроба рэанімаваць даўні міф пра П. Багрыма, і абараніць уласную публікацыю пра крашынскага паэта, надрукаваную яшчэ ў 1994 г.» [14, с. 108]. Вось вам прыклад вычарпальнай і выкрывальнай хаўстовічаўскай характарыстыкі працы **сёмага** апанента.

**Ці не задужа іх многа пры поўнай адсутнасці апалагетаў?**

Калі вакол толькі апаненты, то варта задумацца: «А можа сам вінаваты?»

Такім чынам, у раздзеле «Вершаваныя творы І. Яцкоўскага» мы чакалі прафесійнага філалагічнага даследавання або характарыстыкі той тысячы паэтычных радкоў, пра якія абвясціў аўтар. Аднак узамен было прапанавана публіцыстычнае каментаванне і суб'ектыўны роздум «з нагоды» шляхоў рэцэпцыі версіі аўтарства верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» у ацэнках асобных беларускіх даследчыкаў. Сутнасць заяўленага ў назве матэрыялу – занядбана. М. Хаўстовіч не здолеў ні паказаць, ні аргументавана даказаць наяўнасць у вершаванай спадчыне І. Яцкоўскага паэтычнага майстэрства. Таму я змушаны канстатаваць неадпаведнасць назвы змешчанаму ў тэксце матэрыялу. У ім не назіраецца ні імкнення да аб'ектыўнасці, ні доказнасці, ні дакладнасці выказвання думкі (у наяўнасці стылёвыя, граматычныя і маўленчыя памылкі). А без гэтых кампанентаў цяжка весці гаворку пра сапраўдную НАВУКОВАСЦЬ. Каб не быць галаслоўным, мною былі праілюстраваны, аргументаваны і абгрунтаваны зробленыя не вельмі суцяшальныя для аўтара высновы, якія, аднак, не перакрэсліваюць станоўчае ў публікатарскай дзейнасці М. Хаўстовіча, якая, шчыра жадаю, каб адпавядала высокім эдыцыйным патрабаванням.

Сакраментальна паўтараю, што чацвёрты том «Даследаванняў і матэрыялаў: Літаратура Беларусі канца XVIII–XIX стагоддзя», падрыхтаваны М. Хаўстовічам, змяшчае багаты эмпірычны матэрыял, закліканы дапамагчы асэнсаванню складанай і мнагамернай карціны літаратурнага працэсу азначанага перыяду...

Разгледжаныя тэксты М. Хаўстовіча пераконваюць, што нярэдка не толькі крытыка, але і тое, што ўбіраецца ў строі літаратуразнаўства не ў меншай ступені, чым сама літаратура, суб'ектыўныя і, бясспрэчна, у значна большай меры набліжаныя да пэўных датклівых і нават канфліктных культурных феноменаў.

Архіўныя аналы амаль бязмежныя. Але ж гэта не азначае, што ўсё з таго, нават відавочна тандэтнае, што там ёсць, трэба імкнуцца апублікаваць. Часам М. Хаўстовіч абсалютызуе значэнне ўвядзення любых тэкстаў у навуковы ўжытак (асабліва праявілася ў другім томе «Даследаванняў...», які мае падзагаловак «Творы невядомых аўтараў»). Неперспектыўна паўставаць супраць натуральнага адбору, калі лепшыя мастацкія творы апублікаваны, а нявартыя пільнай увагі пыляцца ў архівах. Урэшце, не любы опус павінен быць надрукаваны. У наш час назіраецца своеасаблівая

публікацыйная ліхаманка, але ні Валер Булгакаў, ні Аляксандр Фядута ў «куслівым каментаванні», па-мойму, заўважаны не былі. Як і ўсякая ліхаманка, публікатарская – хаатычная. Можа, настаў час надрукаваць іншым разам хоць штосьці згодна з навуковымі прынцыпамі?.. Каб заслужыць высокае званне ЭДЫТАР.

* * *

Мне хочацца па магчымасці пазбягаць адназначных і катэгарычных сцвярджэнняў, а таксама, каб сваю выснову, і незалежную, зрабілі самі чытачы.

* * *

Выдаўшы ў 2010 годзе асобнай кнігай пераклад на беларускую мову «Аповесці з майго часу, альбо Літоўскія прыгоды» [17] І. Яцкоўскага, М. Хаўстовіч на многае спадзяваўся. Свайму пасляслоўю ён даў назву «Нялёгкая дарога дадому», сугучную апошняй знакавай быкаўскай кнізе ўспамінаў «Доўгая дарога дадому» (2003). Пасляслоўе аўтар закончыў рытарычным пытаннем: «А колькі яшчэ часу трэба, каб пацвердзіць аўтарства І. Яцкоўскага верша “Заграй, заграй, хлопчэ малы”?» [15, с. 290]. М. Хаўстовіч выдатна разумеў і рабіў стаўку на тое, што прызнанне наваградскага адваката аўтарам беларускага верша кардынальна зменіць статус пісьменніка ў гісторыі нацыянальнай літаратуры: ён са сціплага публікатара верша ператворыцца ў таленавітага, калі не геніяльнага, беларускага Паэта, вобразна, з брыдкага качаняці ў высакароднага лебедзя. Аўтаматычна павінна змяніцца і стаўленне да ягонай «Аповесці з майго часу...». З шараговага празаічнага твора, які мае не столькі мастацкую, колькі гістарычную каштоўнасць і напісаны малавядомым аўтарам, ён павінен пераўвасобіцца ў цікавую меладраматычную аповесць, створаную таленавітым беларускім Паэтам. І функцыю чароўнай пунсовай кветачкі выканае беларускі верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...». Як можна здагадацца, ён змешчаны ў чацвёртым томе «Даследаванняў і матэрыялаў...» сярод паэтычных твораў І. Яцкоўскага – добра, што з пазнакай (?).

Як укладальнік і аўтар каментароў да трэцяга тома «Літаратура першай паловы XIX стагоддзя» (2012) «Залатой калекцыі беларускай літаратуры» М. Хаўстовіч дазволіў сабе шэраг выразна суб’ектыўных навацый. Паэма «Энеіда навыварат» была надрукавана з пазнакай «Невядомы аўтар», хоць у школьнай праграме, усіх хрэстаматыях і анталогіях яна даўно фігуруе як твор Вікенція Равінскага. Такую атрыбуцыю яшчэ ў пачатку XX стагоддзя падтрымаў Яўхім Карскі, затым яна была абгрунтавана і пацверджана ў манаграфіях Г. Кісялёва і атрымала прызнанне ў беларускай навуцы. Так, у каторы ўжо раз, дэманструецца павага да прызнаных высноваў папярэдніка. У «Гістарычнай даведцы» М. Хаўстовіч сцвярджае: «... Сумнеўна, што яе аўтар В. Равінскі: спіс, які паходзіць з дому Равінскіх (г. зв. “смаленская рэдакцыя”), нягледзячы на яго лепшую захаванасць у параўнанні са спісамі братоў Мыслоўскіх (“віцебская рэдакцыя”) яўна не аўтарскі. Асабліва, улічваючы гіпотэзу пра адычную страфу “Энеіды навыварат”» [10, с. 1059]. На маю думку, развітая М. Хаўстовічам гіпотэза пра тое, што паэма напісана адычнай страфою, не дае дастатковых падстаў, каб зноў пераводзіць «Энеіду...» у катэгорыю ананімных твораў. Верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» як асобны мастацкі твор, хай сабе нават «невядомага аўтара», у трэцім томе «Залатой калекцыі...» надрукаваны не быў. Тэкст яго змешчаны ў «Аповесці з майго часу...» І. Яцкоўскага, якая ўпершыню была надрукавана ў Лондане ў 1854 годзе, а таму не належыць да «Літаратуры першай паловы XIX стагоддзя». Тое ж можна сказаць і пра ананімную «Гутарку Данілы са Сцяпанам», якая не магла быць напісана раней за 1857 год, але, па волі М. Хаўстовіча, была апублікавана ў трэцім томе. Яго аб’ём склаў абсалютна нязручныя для чытачоў 1086 старонак. На жаль, навуковы рэдактар тома Сяргей

Гаранін, бадай, не змог запярэчыць такой валюнтарысцкай публікатарскай практыцы, а перакладчык «Аповесці з майго часу...» навязаў уласныя гіпотэзы атрыбуцыі твораў чытачам.

Ці былі яны падтрыманы навуковай супольнасцю?

У 2013 годзе ў выдавецтве «Беларуская навука» пабачыў свет фаліянт «Беларуская літаратура ХІХ стагоддзя: анталогія». Укладальнікамі сталі Кастусь Цвірка, Іван Шпакоўскі, Канстанцін Антановіч, а навуковым рэдактарам выступіў Адам Мальдзіс. У ёй быў апублікаваны ўрывак з «Аповесці з майго часу...» І. Яцкоўскага ў перакладзе М. Хаўстовіча, але без тэксту верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...». Укладальнікі пракаментавалі такую акалічнасць: «Верш прадстаўлены ў дадзенай анталогіі ў творчасці П. Багрыма» [2, с. 439], а К. Цвірка ў біяграфічнай даведцы канстатаваў: «Тым не менш сёння існуюць меркаванні, што аўтарам верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» не з'яўляецца Паўлюк Багрым» [2, с. 497]. Таксама і паэма «Энеіда навыварат» змешчана ў анталогіі як твор Вікенція Равінскага.

У 2015 годзе ў Чарнігаве пабачыла свет эсэізаваная манаграфія доктара філалагічных навук Аляксея Ненадаўца «Паўлюк Багрым: "Зайграй, зайграй, хлопча малы..."». Наклад выдання склаў 100 асобнікаў, таму нават у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі пазнаёміцца з ёю няма магчымасці. Зразумела, што, пішучы пра жыццё крашынскага каваля, аўтар не мог не закрануць і пытанне атрыбуцыі верша «Зайграй, зайграй хлопча малы...»: «...Нельга пакуль што пагадзіцца і з перакананнямі некаторых з даследчыкаў, быццам бы верш "Зайграй, зайграй хлопча малы..." напісаны не Паўлюком Багрымам, а некім іншым, у каго б і "бацька кіямі забіты", падчас расправы з бунтаўшчыкамі, і многія іншыя падрабязнасці твора супадалі б з біяграфічнымі звесткамі каго-небудзь з удзельнікаў (дапускаюць, што такім аўтарам мог быць К. Камінскі). Вучоныя таксама падкрэсліваюць і факт поўнай адсутнасці дакументальных пацвярджэнняў адносна аўтарства гэтага твора з боку П. Багрыма (А. Лойка). Аднак, пакуль што іхнія высновы не ідуць далей гіпотэз і не пацверджаны пераканаўчымі доказамі, што не дае нам падстаў сцвярджаць, нібыта славуты верш напісаны кім-небудзь іншым, а не Паўлюком Багрымам. Былі б дакументальныя звесткі, архіўныя матэрыялы, якія б гэта поўнасцю раскрывалі, тады і любую іншую версію можна было б прапаноўваць, аналізаваць, прадбачыць, а на інтуіцыі ў такой надзвычай заблытанай справе далёка не пойдзеш» [11, с. 25]. З многімі назіраннямі А. Ненадаўца, асабліва з тымі, што датычаць аналізу верша і ўплыву на яго фальклорнай паэтыкі, можна не пагаджацца. Аднак аўтар чарнігаўскага выдання, безумоўна, меў рацыю, калі сцвярджаў: «Эмоцыі, у дадзеным выпадку, слабыя дарадчыкі, якія б маглі нешта значна перайначыць» [11, с. 25]. Думаю, што тут меўся на ўвазе згаданы М. Маліноўскі, але да такой парады варта было б прыслухацца і М. Хаўстовічу.

У 2017 годзе ў выдавецтве «Беларуская навука» пабачыла свет кніга нарысаў і эсэ Кастуся Цвіркі «Зорка філаматаў». У нарысе «Тайны крашынскага парку» аўтар дзеліцца сваімі меркаваннямі-роздумамі: «Калі я знаёміўся з дакументальнымі матэрыяламі пра Паўлюка Багрыма, у галаву лезла адна "крамольная" думка: а можа, гэта не ён аўтар верша "Зайграй, зайграй, хлопча малы...", можа, яго не "ўспомніў" праз дзясяткі гадоў, а напісаў сам Ігнат Яцкоўскі? Наваградскі ж адвакат — не толькі аўтар мемуараў, але і вершаў на польскай мове. Паспрабаваць што-небудзь напісаць па-беларуску яго мог схіліць беларускі і польскі паэт Аляксандр Рыпінскі, гэтакі ж выгнаннік, з якім ён разам стварыў у Лондане незалежную друкарню. Тым больш што і ў жыцці яго, паўстанца, былі вялікія ўзрушэнні, сугучныя таму вершу. Але я адразу адкінуў гэтую версію: галоўнае, не было ніякай прычыны ў Яцкоўскага публікаваць у дакументальных нататках такую няпраўду. У карысць аўтарства Паўлюка Багрыма трэба аднесці і яго вялікую цікавасць да вершаваных твораў і, што асабліва важна, да беларускіх» [16, с. 229]. Вось такая паслядоўная пазіцыя.

Нарэшце, нядаўна ў гісторыка-літаратурным нарысе вядучых навуковых супрацоўнікаў Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы акадэміка Уладзіміра Гніламёдава і Міколы Мікуліча «Літаратура. Гісторыя. Свядомасць» (2017) у рэчышчы гаворкі пра П. Багрыма і пра верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» быў змешчаны наступны падрадковы каментар: «Апошнім часам не сціхаюць спрэчкі адносна аўтарства гэтага верша. Некаторыя (М. Маліноўскі і інш.) даказваюць, што яго напісаў не П. Багрым, а нехта іншы. Пытанне застаецца адкрытым» [6, с. 129].

Такім чынам, аўтарытэтныя ў навуковым асяроддзі спецыялісты не прынялі атрыбуцыйныя гіпотэзы М. Хаўстовіча.

Вядомы савецкі крыніцазнаўца Мікалай Бельчыкаў пісаў: «Вывучэнне гісторыі ... выдання павінна выявіць, як яно было задумана, на якога чытача было разлічана, як праходзіла цэнзуру, кім і калі зроблены выняткі ў тэксце, які ўдзел бралі ў выданні сябры аўтара ці хто-небудзь з сучаснікаў» [3, с. 198]. У дачыненні «Аповесці з майго часу...» І. Яцкоўскага многія з гэтых пытанняў дагэтуль нявырашаны. Так, мы зусім мала ведаем пра рэальную творчую гісторыю беларускага верша, маем адзінкавыя і толькі ўскосныя звесткі пра ўдзел сучаснікаў у падрыхтоўцы першага лонданскага выдання 1854 года. Таму, натуральна, і назіраецца відавочная асцярожнасць у справе прыпісвання аўтарства верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» наваградскаму адвакату.

Акрамя XXIX раздзела, празаічны твор І. Яцкоўскага доўгія дзесяцігоддзі быў па-за прафесійнай увагай даследчыкаў і, па вялікім рахунку, беларуская літаратура ад гэтага не шмат страціла. «Аповесць з майго часу...» была шараговым творам для сярэдзіны XIX стагоддзя, і яе значэнне ў тагачасным літаратурным працэсе з сённяшняй часавай дыстанцыі ўяўляецца мізэрным. Яна не знайшла ў сучаснікаў чытацкага поспеху, які найчасцей абумоўліваецца мастацкімі вартасцямі твораў. Невыпадкова, у падрадковай зносцы М. Хаўстовіч «сарамліва» сведчыць, што другое «выданне 1858 г. можна было набыць і ў 1867 і ў 1874 гг.» [14, с. 160]. Гэта азначае, што і праз 16 гадоў тыраж «Аповесці...» І. Яцкоўскага не быў рэалізаваны. Дарэчы, кнігу з перакладам на беларускую мову «Аповесці з майго часу...» (2010) І. Яцкоўскага дагэтуль можна набыць, прынамсі, у «Акадэмкнізе».

А вось XXIX раздзел, ці нават толькі беларускі верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» з яго, для літаратурнага працэсу, падкрэслю, наступнага XX стагоддзя з'яўляецца падзеяй значнай. Ці не таму як своеасаблівы рэфрэн-заклінанне ў чацвёртым томе «Даследаванняў...» неаднойчы паўтараецца думка: «А найбольш верагодны аўтар твора – Ігнацы Яцкоўскі» [14, с. 160]. Здаецца, у гэтым выяўляецца няўпэўненасць даследчыка, які ўжо хоча верыць у сваю праўду, а не пакладацца на факты. Акрамя гіпатэтычных дапушчэнняў фактычных доказаў аўтарства І. Яцкоўскага варшаўскі прафесар так і не падаў. М. Хаўстовіч дазваляе сабе дапускаць «домыслы», у наяўнасці якіх любіць папракаць іншых. Параўноўваючы першае (1854) і другое (1858) выданні «Аповесці...» ён піша: «Але ёсць адно адрозненне, якое варта нашае ўвагі. У выданне 1858 г. аўтар (відавочна, аўтар) унёс адну надзвычай цікавую праўку. Так бы мовіць, удакладніў месца дзеяння ў вершы *Заграй, заграй...*: змяніў Karszyn (Korszyn) на Kraszyn (Kroszyn). Цікава, што ў празаічным тэксце ў выданні 1854 г. І. Яцкоўскі паўсюль піша Kroszyn (ужыта дзесяць разоў...– падрадковая зноска М. Х.), а вось у вершы чамусьці з'яўляецца «й Karszynie» (двойчы) і «w Korszynie». Чаму І. Яцкоўскі спачатку напісаў *Каршын*, а пасля замяніў яго на *Крашын*, застаецца загадкаю. Ці быў гэта просты недагляд наборшчыка?» [14, с. 161]. Вядома, што тым наборшчыкам быў Аляксандр Рыпінскі, таму нескладана «дамысліць» і ўскласці на яго віну ў такой істотнай памылцы. Але ж гэтае адрозненне сапраўды мае прынцыповае значэнне. Яно можа сведчыць і аб тым, што, у адрозненне ад празаічнага тэксту «Аповесці...», І. Яцкоўскі не з'яўляўся аўтарам верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...». А ім была іншая асоба, якая не ведала ні Крашына, ні яго жыхароў, ні падзей, што там адбыліся.

Зрэшты, без дапушчэнняў-гіпотэз цяжка ўявіць гуманітарную навуку. Найгорш, канечне, калі ў выданні, якое прэтэндуе на навуковасць, аўтар на розных старонках, у залежнасці ад бягучай задачы, змяшчае супярэчлівыя выказванні. Мяркуйце самі: «Той, хто прачытаў твор цалкам, пагодзіцца са сцвярджэннем, што кніга І. Яцкоўскага – гэта аповесць, а не ўспаміны» [14, с. 147]. А ніжэй сустракаем: «І мы мусім верыць І. Яцкоўскаму, бо ягоны тэкст – успаміны. Бо ён валодаў незвычайнаю памяццю. Бо ён, верым мы, дакладны ў дэталях» [14, с. 161]. Як бачым, укладальнік «Даследаванняў...» раптам зноў прапануе пакладацца не на факты, а на веру. Чаму ж тады М. Хаўстовіч не верыць у галоўнае – у сведчанне самога І. Яцкоўскага, што ён не з'яўляецца аўтарам верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...»? Чаму паслядоўна ігнаруе волю аўтара «Аповесці...» і інфармацыю, якая ад яго сыходзіла? Вось у чым парадокс.

Наконт паэтычнага майстэрства І. Яцкоўскага варшаўскі прафесар даводзіць: «Верш *Do zmarły moich przyjaciół* («Да маіх памерлых сяброў» – І. З.) – адзін з самых удалых твораў І. Яцкоўскага. На нашу думку, у ідэйна-мастацкіх адносінах ён найбліжэйшы да хрэстаматыйнага беларускамоўнага верша» [14, с. 166–167]. Гэты напісаны ў 1863 годзе верш не быў надрукаваны, як не трапіў на старонкі часопіса «Kłosy» («Каласы») верш І. Яцкоўскага «Pożegnanie roku 1871» («Развітанне з 1871 годам»). Рэдакцыя не палічыла яго вартым публікацыі, пра што каротка паведаміла аўтару ў пераліку імёнаў карэспандэнтаў, чые творы не будуць надрукаваны. Рэпутацыя названага часопіса не дазваляе сумнявацца ў прафесійнай кампетэнтнасці супрацоўнікаў ягонай рэдакцыі. Такім чынам, мы ў чарговы раз сутыкаемся з паказальным фактам: сучаснікі, скажам мякка, сціпла ацэньвалі паэтычныя здольнасці наваградскага адваката. Але «Апошні (?) верш І. Яцкоўскага» (М. Хаўстовіч) прыцягнуў маю ўвагу па іншых прычынах. Ён адлюстраваў кансерватыўны, яўна недэмакратычны светапогляд аўтара. Лірычны герой гэтага верша не толькі наракае на будаўніцтва чыгункі і дрэнна ўзыйшоўшае збожжа, але і жаліцца на прычыны сваіх няўдач у гаспадарцы – «Bowiem robotnik był trudny i drogi» («Таму што рабочы (парабак?) быў цяжкі (незгаворлівы?) і дарагі») [14, с. 172]. Аднак асабліва паказальная ягоная скарга – «A tutaj wygod wymagają sługi» («А тут выгодаў вымагаюць слугі») [14, с. 172]. Слугі, канечне ж, павінны змірыцца са сваёй доляй і нічога не вымагаць. Лірычны герой толькі за сабою, а не за імі, прызнае права на пачуццё ўласнага гонару і адстойванне сваіх інтарэсаў. Такая светапоглядная пазіцыя прынцыпова супярэчыць свабодалюбіваму і пратэстнаму пафасу верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...». Пры атрыбуцыі спрэчнага твора неабходна выкарыстоўваць не толькі біяграфічны і стылістычны метады, але і ідэалагічны ці ідэйна-тэматычны. Вядома, што ў эміграцыі І. Яцкоўскі паслядоўна быў на баку кансерватыўнай партыі А. Чартарыйскага, прыхільнікі якой выступалі супраць любых сацыяльных пераўтварэнняў у грамадстве. І ў канцы 1871 ці ў пачатку 1872 года, часе напісання «Развітання...», ён, відавочна, стаяў на тых жа пазіцыях, што не карэлюе з антыпанскім ідэйным зместам беларускага верша. А ў гэтым плане фігура І. Яцкоўскага найменш стасуецца да характарыстыкі «найбольш верагодны аўтар твора» [14, с. 160].

Такім чынам, гучнай кананізацыі імя наноўвернутага пісьменніка Ігната Яцкоўскага не адбылося. Нягледзячы на ўсе намаганні М. Хаўстовіча, творчы даробак І. Яцкоўскага так і не стаў заўважнай часткай у нацыянальнай культурнай спадчыне, у якой дагэтуль з'яўляюцца значнымі постаць Паўлюка Багрыма і міфалагізаваныя перыпетыі яго жыцця. Шырокае святкаванне ў краіне 200-годдзя П. Багрыма таму пацвярджэнне. Як і сумныя вынікі апантаных намаганняў М. Маліноўскага па дыскрэдытацыі крашынскага каваля, дзякуючы чаму верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» выдалілі са школьнай праграмы. Цікава было б ведаць імёны чыноўнікаў ад адукацыі, якія пайшлі на такі крок.

Калі глядзець на сённяшні стан рэчаў у «багрымаўскім» пытанні, то трэба прызнаць, што для айчыннай культурнай міфалогіі кананізаваны драматычны вобраз сялянскага

паэта і каваля Багрыма значна больш сімпатычны, чым нейкі кансерватыўны шляхціц-эмігрант з сумнеўнай знешнасцю і графаманскімі схільнасцямі. Фігура Паўлюка Багрыма з'яўляецца прадуктам дыскурсу савецкай культурнай прасторы. У дадатак яна даўно «іканаграфавалася» ў формах папулярнага мастацтва – дзясяткі вершаў, карціны, скульптуры, драматычныя, празаічныя і публіцыстычныя творы. І нядрэнна было б за дрэвамі бачыць лес, а за архіўнымі матэрыяламі, рознымі артэфактамі і атрыбуцыйнымі гіпотэзамі іх вялікасці Літаратуру і Мастацтва. Ва ўсякім разе, Багрым для нас візуалізуецца ў выкаванай жырандолі, а візуалізаваць Юльяна Ляскоўскага ў «Беларускім бандурысце», ці Ігната Яцкоўскага ў «Аповесці з майго часу...» наўрад ці атрымаецца. У такой сітуацыі ў масавай свядомасці проста не павінна назірацца жаданне шукаць ісціну.

Мы жывём у постсекулярным свеце, насельнікам якога трэба абразы для пакланення. І цяпер я думаю, што, відаць, лепш залічыць пытанне атрыбуцыі верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» да катэгорыі «вечных». Няхай «багрымаўскае» пытанне зойме ганаровае месца побач з гамераўскім і шэкспіраўскім.

Літаратура:

1. *Апанасовіч, Л.* [Бэндэ Л.] Невуцтва і абарона нацыяналізма / Л. Апанасовіч // Літаратура і мастацтва. – 1948. – 31 студз. – С. 3.

2. Беларуская літаратура XIX стагоддзя: анталогія / уклад. : К. А. Цвірка, І. С. Шпакоўскі, К. У. Антановіч, навук. рэд. А. В. Мальдзіс. – Мінск : Беларус. навука, 2013. – 862 с.

3. *Бельчиков, Н. Ф.* Литературное источниковедение / Николай Бельчиков. – М. : Изд. «Наука», 1983. – 272 с.

4. *Бязлепкіна,* А.П. Літаратурныя дыскусіі мяжы XX–XXI стст. у СМІ і інтэрнэце: нацыянальная спецыфіка / А.П.Бязлепкіна [Электронны рэсурс].– Рэжым доступу: http://elib.bsu.by/bitstream/123456789/4273/1/pages%2060-63%20.pdf. – Дата доступу: 6.07.2018.

5. *Вераніцын, К.* Тарас на Парнасе : паэмы / К. Вераніцын, уклад. з тэкст. падрыхт. і камент. Ю. Пацюпы, прадм. Я. Янушкевіча. – Мінск : Маст. літ., 2009. – 79 с.

6. *Гніламедаў, У. В.* Літаратура. Гісторыя. Свядомасць : гісторыка-літаратурны нарыс / Уладзімір Гніламедаў, Мікола Мікуліч. – Мінск : Беларуская навука, 2017. – 387 с.

7. *Дубейка, В.* Дык хто ж фантазёр? Па старонках адной кнігі / В. Дубейка // Дзеяслоў. – 2008. – № 6 (37). – С. 308–316.

8. *Запрудскі І.* [Рэцэнзія] / І. Запрудскі // Беларускі гістарычны агляд. – 2017. – Том 24. – Сшыткі 1–2 (46–47). – С. 300–304. – Рэц. на кн.: Хаўстовіч, Мікола. Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX ст. Т. 1–3. Warszawa, 2014–2017.

9. *Кісялёва, Л.* З архіва Генадзя Кісялёва / Лія Кісялёва // Пачуць як лёсу валяцца муры: Памяці Генадзя Кісялёва. – Мінск, 2009. – С. 46–54.

10. Літаратура першай паловы XIX стагоддзя / уклад. і камент. М. В. Хаўстовіча ; навук. рэд. С. Л. Гаранін. – Мінск : Маст. літ., 2012. – 1086 с.

11. *Ненадавец, А. М.* Паўлюк Багрым: «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» / Аляксей Ненадавец. – Чарнігаў : Всесвіт, 2015. – 56 с.

12. *Праневіч, Г.* "Пан Тадэвуш" Адама Міцкевіча і "Аповесць з майго часу, альбо Літоўскія прыгоды" Ігната Яцкоўскага / Генадзь Праневіч // Тэрмапілы: Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс. – 2016. – №. 20. – С. 251–267.

13. *Хаўстовіч, М.* Айчына здалёку і зблізку: Ігнацы Яцкоўскі і Аляксандар Рыпінскі / М. Хаўстовіч. – Мінск, 2006. – 280 с.

14. *Хаўстовіч, М.* Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі канца XVIII–XIX стагоддзя. Том чацвёрты / Мікола Хаўстовіч. – Warszawa: Katedra Białorutenistyki Uniwersytetu Warszawskiego, 2018. – 319 с.

15. *Хаўстовіч, М.* Нялёгкая дарога дадому / Мікола Хаўстовіч // Яцкоўскі, І. Аповесць з майго часу, альбо Літоўскія прыгоды. – Warszawa, 2010. – С. 213–290.

16. *Цвірка, К. А.* Зорка філаматаў : нарысы, эсэ / Кастусь Цвірка. – Мінск : Беларуская навука, 2017. – 548 с.

17. *Яцкоўскі, І.* Аповесць з майго часу, альбо Літоўскія прыгоды / Ігнацы Яцкоўскі. – Warszawa, 2010. – 290 с.

Янка Запруднік



...Не толькі час
уплывае на людзей,
але і людзі –
творцы часу...

# Верыў у неўміручасць Бацькаўшчыны

## *Мае спатканні з Барысом Сачанкам*

З Барысом (а не Барысам) Сачанкам маё першае спатканне адбылося завочна ў Злучаных Штатах у самым канцы 1957 года. Я працаваў тады ў Нью-Ёрку карэспандэнтам мюнхенскай Беларускай рэдакцыі радыёстанцыі "Вызваленне" (пазнейшая "Свабода"). Пісаў рэпартажы пра амерыканскія справы, пра беларускае эміграцыйнае жыццё. Цікавіўся, безумоўна, падзеямі на Бацькаўшчыне, каментаваў іх у радыёгутарках.

Атрымаўшы свежы нумар газеты "Літаратура і мастацтва" за 14 снежня 1957 года, адразу ж зацікавіўся там вялікім артыкулам студэнта аддзялення журналістыкі БДУ Барыса Сачанкі з праграмным загалоўкам – "Шанаваць родную мову". Тэма роднай мовы ў перадачах Беларускай рэдакцыі "Вызвалення/Свабоды" была, дый застаецца, адной з цэнтральных. Русіфікацыйны наступ на беларушчыну ў 1957 годзе быў ужо ў поўным гарце, і выступленне студэнта Сачанкі прагучала не толькі своечасова, але й смела. Свой артыкул пра недарэчнасці, якія тварыліся ў рэспубліцы ("Куды б ты ні паступаў... беларускай мовы і літара-

туры здаваць не трэба... усе справы вядуцца толькі на рускай мове”) Сачанка скончыў рэкамендацыяй: “Каб наша беларуская мова ўвайшла ў паўсядзённы быт усіх слаёў насельніцтва, думаецца, што першым практычным крокам да гэтага павінна быць увядзенне выкладання ва ўсіх навучальных установах рэспублікі на беларускай мове”.



*Янка ЗАПРУДНІК, Галіна ПРЫМА, Барыс САЧАНКА.*
*Фота Дзмітрыя ЛУПАЧА.*

Шмат пазней ужо, калі мы з Барысом пабачыліся ўпершыню, у 1991 годзе, ён казаў мне – і яму верыў – што гэны артыкул даваўся яму ў знакі праз усе наступныя дзесяцігоддзі. Хоць, праўда, і не перашкодзіў дайсці да адказных пасадаў.

Далейшыя спатканні з Сачанкам, таксама завочныя, расцягнуліся на 1960-1980-я гады. Імя ягонае часта траплялася на старонках літаратурных часопісаў, газеты “ЛіМ”, якія прыходзілі ў бібліятэку Радыё Свабода ў Нью-Ёрку. Мастацкіх твораў Барыса Сачанкі я чытаў няшмат, пра іх меркаваў больш паводле радыёгутарак Станіслава Станкевіча, які, жывучы ў Нью-Ёрку, быў пазаштатным супрацоўнікам “Свабода”. Станкевіч даваў пазітыўную ацэнку Сачанкавым творам. Прыкладам, у радыёгутарцы пра аповесць 1966 года “Апошнія і першыя” ён казаў: “Сіла мастацкае экспрэсіі аповесці галоўна ў тым, што аўтар, перадаючы духовы боль малога Ясіка (герой твору) з воддалі дваццацігадовай даўнасці ды пераплятаючы сваю споведзь собскім роздумам над трагедыяй усяго беларускага народу, нідзе і ў нічым не парушыў жыццёвае праўды” (перадача 11 лютага 1967 г.).

Затое Сачанкавай публіцыстыкай я цікавіўся даволі блізка. Бо й сам ёю займаўся. Уражанне пра ягоныя зацікаўленні і перакананні заставалася асветленае першым знаёмствам з ім праз артыкул у ”ЛіМе” ў абарону роднай мовы. У публіцыстыцы найлепш, бадай, выявілася ягонае апантанае зацікаўленне беларускай культурнай спадчынай, якую пакалечыла і прыдушыла – пісьменнік гэта балюча адчуваў – бальшавіцкая догма. Барыс Сачанка спрабаваў прыбудаваць неяк да палітычнай сістэмы, у якой давялося круціцца, сваю беларускую справу, што ляжала яму на сэрцы. Ён ішоў менш-больш – іншага выхаду не бачыў – слядамі беларускіх нацыянал-камуністаў 1920-х гадоў, трагічная доля якіх вярэдзіла яму душу, трывожыла ягонае сумленне. Пра іх ён даволі рана ў сваёй даследніцкай працы пачаў думаць і пісаць. У артыкуле на тэму “Якой павінна быць крытыка?” Сачанка даволі празрыста і смела асудзіў “тую крытычную мітульгу, што заўсёды вілася і ўецца каля літаратуры” (“Маладосць”, №10, 1971). Тады ўжо ён разумеў выратавальную ролю гістарычнай памяці, ажыўленню якое прысвяціў апошнія гады свайго жыцця. Згадаўшы гады зняслаўлення ”крытычнай мітульгой” (чытай: партыйнымі крытыкамі, тагачаснымі лукашэнкаўцамі) класікаў беларускае літаратуры, “наш сённяшні нацыянальны гонар”, Сачанка сцвярджаў: ”трэба помніць старое, каб не паўтараць памылак”. І тут жа выяўляў крэда свайго прынцыповага актывізму ў падыходзе да жыцця: “Не толькі час уплывае на людзей, але і людзі – творцы часу”. Барыс Сачанка імкнуўся быць “творцам

часу”. Асцярожна, каб не трапіць у няміласць вартаўнікоў афіцыйнай догмы, ён трымаўся сваіх перакананняў. Гэта зырка выявілася ў ягоных “Думках уроссып”, выдрукаваных у “ЛіМе” ў 1983 годзе, лейтматывам якіх была настойлівасць на праўдзе ды неабходнасць гістарычнай памяці.

Можа таму, што яму давялося ў часе нямецкае акупацыі Беларусі трапіць у якасці “остарбайтэра” ў Нямеччыну, у Барыса заўсёды было моцнае зацікаўленне жыццём беларускай эміграцыі. З часам ён пачаў спецыялізавацца на гэтай тэме. Ягоны партыйны статус даваў яму доступ да некаторых спецфондаў. Дый сам ён, быўшы вялікім кнігалюбам, меў сёе-тое з беларускіх замежных публікацыяў. Эміграцыйная тэматыка знайшла месца і ў ягонай белетрыстыцы. Тут у нас з Барысом адбылася свайго роду дыстанцыйная перастрэлка вакол пытання пра характар беларускай эміграцыі. Нагоды да спрэчак былі розныя. Гэтак, прыкладам, у жнівеньскім нумары “Маладосці” за 1984 год было змешчана ягонае апавяданне “Сцяпан Сцяпанавіч Замошка”. Сачанкаў Замошка быў эмігрантам у Амерыцы перад тым як вярнуцца ў Савецкі Саюз, дзе з ім і пазнаёміўся аўтар апавядання. Замошкавы выказванні пра эміграцыю былі вытрыманыя, зразумела, у духу часу – трэба было асуджаць палітычную дзейнасць эмігрантаў. Але аўтар мусіў расказаць сёе-тое і з амерыканскага жыцця, у якім ён, пэўна ж, не быў абазнаны. Замошка ў Сачанкі крытыкаваў беларускае культурнае жыццё ў Амерыцы: “Нельга назваць культураю тыя гурткі мастацкай самадзейнасці, – казаў ён, – дзе танцуюць беларускія танцы і пяюць беларускія песні, часта пад сцягам чужой краіны і тымі, хто нават гаварыць па-свойму ўжо не ўмее”. Гэта дало мне нагоду ў адной з радыёгутарак пагаварыць пра культурную дзейнасць беларусаў у Злучаных Штатах ды нагадаць майму апаненту, што дзецям з мяшаных беларуска-амерыканскіх сем’яў, якія танцуюць беларускія танцы, можна дараваць няведанне беларускае мовы, але куды горш выглядае, калі ў Амерыку прыязджаюць прадстаўнікі культуры з Беларусі і не ўмеюць гаварыць па-беларуску.

Сачанкава зацікаўленне эміграцыяй, даволі рызыкоўнае на свой час, незважаючы на пэўную тэндэнцыйнасць ацэнак, што былі абумоўленыя і палітычнай кан’юнктурай, і асабістай неасведамленасцю, ладна паспрыяла сучаснай лепшай азнаёмленасці беларускага грамадства на Бацькаўшчыне не толькі з самой эміграцыяй, але й з тымі духовымі, дакументальнымі, мастацкімі ды навуковымі вартасцямі, якія эміграцыя перахавала і стварыла.

Улетку 1988 года двое маіх блізкіх нью-ёркскіх сяброў, нябожчык Коля Заморскі і прафесар Томас Бэрд, быўшы на Беласточчыне на нейкай беларускай культурнай падзеі, ці не на Купаллі, пазнаёміліся там з групай пісьменнікаў з Беларусі, сярод якіх быў і Барыс Сачанка. Абодва вярнуліся ягонымі шчырымі прыяцелямі, пабачыўшы ў ім самаахвярнага патрыёта і адраджэнца.

Коля трымаў кантакт з Барысом, выслаў яму пасылку, тэлефанаваў, прасіў прыслаць кнігі. Барыс адказаў лістом, датаваным 22 верасня 1988 года. “Жыву я па-ранейшаму, – пісаў, – шмат працую. Вынікі мае працы зможаш убачыць на старонках нашых часопісаў. Час сёння спрыяе праўдзе і справядлівасці”. Адпісаць на ліст Коля ўжо не змог, злёг цяжка хворы ў шпіталі. Папрасіў мяне паслаць Барысу ліст ад ягонага імя. Я напісаў, але падпісвацца Запруднікам пабаяўся, не быў пэўны, ці не пашкодзіць Сачанку кантакт з “бебурнацам”, падпісаў Паўлам Янкоўскім.

Першае вочнае спатканне з Барысом адбылося ў Менску ў 1991 годзе ў часе майго побыту ў Беларусі пасля 47-гадовага чакання на магчымасць вярнуцца так, каб не ставіць сваякоў пад пагрозу з боку ўлады. Насталі часы, калі агульным назоўнікам сталася беларускасць, а не партыйная прыналежнасць ці ідэалагічныя погляды. Сустрэліся мы з Барысом як старыя знаёмыя, заклапочаныя тымі

самымі праблемамі выжывання нацыянальнае дзяржаўнасці, культуры, роднае мовы. Барыс шчыраваў на выдавецкай ніве. Ягоная палітычная біяграфія дала яму шанец узначаліць энцыклапедычнае выдавецтва, а руплівасць пра адраджэнне, працавітасць і арганізацыйныя здольнасці далі ў суме багаты выдавецкі плён у форме фундаментальных (хоць часамі і крытыкаваных за недахопы) выданняў.

Ад 1991 году ў нас былі штогоднія спатканні. Бываў я ў ягонай запоўненай кнігамі хаце з гасцінным застоллем, у ягоным кабінеце, перапоўненым выдавецкімі планамі і спехам паспець зрабіць як мага больш... З удзячнасцю прыняў ягоную прапанову ў 1993 годзе выступіць з гутаркай перад рэдактарамі ачольванага ім выдавецтва.

Падзеі і палітычныя змены 1994 года Барыс успрыняў з вялікай трывогай за тую справу, якой самааддана служыў. Баяўся найгоршага. І хто ведае, як гэта паўплывала на стан ягонага здароўя.

Мог яшчэ зрабіць шмат чаго карыснага. Але пражытага часу не змарнаваў. Наадварот. Плён ягонай творчай і арганізацыйна-выдавецкай працы стаіць сёння як помнік Барысу-Кніжніку. Тамы выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя”, што з’явіліся на свет ягонымі стараннямі – гэта багатая крыніца ведаў, да якой будуць прыходзіць беларусы розных пакаленняў і розных перакананняў, каб даведацца пра скарбы свае зямлі і народу, пачарпнуць з іх веру ў неўміручасць Бацькаўшчыны.

Валянцін Акудовіч



…у чужой мове

няма твайго імя…

# Літаратурны інстытут

## *З новай кнігі “Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)”*

### Катухі, скляпенні і тыднёвік “Культура”

Першае маё дзесяцігоддзе па вяртанні ў Мінск з фармальнага боку выглядала моцна бязладным ды і ўвогуле нейкім недарэчным. Ад маскоўскага інстытута ў мяне быў афіцыйны ліст у Саюз пісьменнікаў Беларусі з просьбай дапамагчы з пошукам літаратурнай працы, хаця акрамя мулкасці мне з той паперчыны ніякай карысці не было, адно лішнія мітрэнгі.

Смешная атрымалася сітуацыя. Я вяртаўся ў Мінск, каб дзекольвек хутчэй уладкавацца вартаўніком і пісаць, пісаць, пісаць літаратуру, але не адважваўся пра гэта сказаць тагачаснаму старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Івану Шамякіну. Са свайго боку, Іван Пятровіч не адважваўся прызнацца, што літаратурнай працы для мяне няма і не прадбачыцца, – бо гэта ж не абы-хто, а *сама* Масква прасіла за беларуса.

*Працяг. Пачатак у №95.*

Так колькі месяцаў мы "дурылі адзін аднаму галаву" (я з пачуццём пякельнага сораму перад знакамітым пісьменнікам), пакуль малодшы брат не ўладкаваў мяне інструктарам па турызме ў Дом піянераў. З таго моманту я спыніў свае візіты да самага чалавечага з усіх нашых Народных пісьменнікаў, а з пісьменніцкага сакратарыята мне ніхто так ніколі і не патэлефанаваў. Ну і дзякаваць Богу.

Калі казаць агулам, дык алгарытм таго дзесяцігоддзя выглядаў наступным чынам: летам я звальняўся з чарговай працы і выпраўляўся ў горы (на той час ужо быў майстрам спорту СССР па спартовым турызме), а па восені шукаў сабе іншую вартаўнічую каморку.

Дарэчы, на тых вузкіх лаўках у брудных катухах мне няблага спалася, а пісаць літаратуру, як меркаваў раней – дык зусім не пісалася. Нейкі час гэта моцна дакучала. Хаця і не вельмі доўга. Рэч у тым, што напрыканцы вучобы я вырашыў: калі вярнуся ў Мінск вартаваць сваю адзіноту, дык перачытаю на працы ўсю беларускую літаратуру: менавіта так – усю!

Цяпер ужо нават не памятаю, скуль тое жаданне з'явілася. Бадай, мне проста аднойчы зрабілася няёмка, што, няблага засвоіўшы еўрапейскую і сусветную літаратуры, я амаль не ведаю сваю.

***

Я нарадзіўся і трохі асталеў у памежным з Польшчай мястэчку Свіслач. Праз усе гады майго дзяцінства там размаўлялі на беларуска-польска-руска-габрэйскай трасянцы. Прынамсі, так яно выглядала навонкі. Толькі насамрэч у Свіслачы тады размаўлялі выключна па-беларуску. Бо мова – гэта не словы, мова перадусім – тая ментальная структура, якая па-свойму ўпарадкоўвае і задзіночвае словы ў адметны праект быцця...

Карацей, структура мовы, на якой трымалася свіслацкая трасянка, была цалкам беларускай. Хаця агрэсіўная русіфікацыя, як шашаль, ужо распачынала яе падточваць – з ускраінаў да самай сарцавіны. Таму я нават не заўважыў, *як* стаў размаўляць па-руску, калі праз год пасля школы апынуўся на Мінскім маторным заводзе (дзе агулам адпрацаваў сем год). І мне не да галавы было пісаць па-беларуску тэксты для турысцкіх песняў і першыя вандроўныя нарысы, якія некалькі разоў друкавала, – о то было гонару! – самая папулярная тады ў Беларусі газета «Знамя юности».

Пяць год у Маскве завершылі маю русіфікацыю. Праўда, калі мы бралі добрую чарку, дык расійскіх сяброў раз-пораз дзівілі незнаёмыя ім выразы, што з глыбіняў маёй падсвядомасці самахоць праслізгвалі ў п'янкую гаману. (Цяпер усё да смешнага наадварот. За той жа добрай чаркай з мяне, як чарцяняты з пекла, раз-пораз выскокваюць выдаленыя ў падсвядомае рускія словы.)

Дарэчы, прыдуманае ў Расіі чытанне беларускай літаратуры ў службовых катухах было нядоўгім, бо раптам са мной нешта здарылася, і я захлынуўся ўласна беларускім словам. Далей мяне ўжо мала цікавілі героі і персанажы, сюжэты і фабулы, драматургія і мараль – засталася адно мова. Кожнае са словаў я смакаваў паасобку, як першую кроплю бярозавіку, а ўсе разам піў нагбом, не раўнуючы ўсмерць асмяглы, які ўжо і не чакаў сустрэць студню.

Для мяне стыхія беларускай мовы сталася падобнай да лавіны. Яна ляжала маўклівая і непарушна – але адно да таго маманту, пакуль яе не скрануў.

Я ашалеў. Сноўдаўся самнамбулай, як упершыню закаханы падлетак. Зрэшты, чаму як? Я і быў закаханы ў *матчыну* мову. (Відаць, такім дзіўным чынам сублімаваўся і выявіўся ў мяне "комплекс Эдыпа", якога, засвоіўшы Фрэйда, ніяк не мог знайсці ў сабе адносна роднай маці.) Я без стомы прамаўляў найбольш сакавітыя слоўкі ды выслоўі – і ўголас, і сам сабе, – і з гэтага ў мяне нават пачалі

пабольваць тыя цягліцы твару, што варушаць вуснамі, бо яны былі змушаныя тэрмінова перавучвацца расцягваць і скарачаць сябе па-беларуску.

Хаця, як вядома, насамрэч мова месціцца не на языку і нават не ў галаве, а ў спратах падсвядомага. У каторы раз у гэтым пераканаўся, калі, наноў збеларушчаны, атрос ад пылу і пагартаў свае апавяданні ды аповесці, напісаныя яшчэ рускай мовай. Навонкі тыя пісанкі мелі, здаецца, усё, што патрэбна мастацкаму твору, толькі цяпер мне ўжо было добра бачна: яны як фанера – штучна склееныя, шурпатыя і плоскія. Яны не дыхалі, і ў іх не было глыбіні. Бо пісаліся мовай, якую засвоіла мая галава, але якой не было ў маім падсвядомым. Руская мова не мела сабе апірышча ў маёй генетычнай спадчыне, у глыбіні тых стагоддзяў, якія пералічылі на рахунак мае продкі. І таму ёю можна было толькі называць, але нельга было называцца.

У чужой мове няма твайго імя...

Кожны з нас, хто сам сябе вучыў беларускай мове, быў паклікаsuccinct да навукі з нейкіх апрычоных матывацыяў. І ніхто за іншага не скажа, чаму ён гэтак зрабіў і што з сваёй навукі мае. Асабіста я з яе прыдбаў сабе лёс (да гэтага меў адно долю). І не толькі таму, што лёс кожнага літаратара перадусім знітаваны з мовай. А найперш таму, што толькі праз *мову* змог пачуць, куды хіліць мяне лёс.

***

У другой палове згаданага дзесяцігоддзя я ўжо меў некалькі важкіх артыкулаў у рускамоўным часопісе “Нёман” і першыя публікацыі ў беларускамоўных перыёдыках. Хаця як і раней працаваў ці то вартаўніком, ці ў розных скляпеннях турыстычных арганізацый. Гэта мяне яшчэ не моцна турбавала, аднак усё часцей пачаў заўважаць за сабой, што раз-пораз узнікае жаданне нечага іншага. А менавіта, выпраўляцца на працу ў адпрасаванай кашулі з гальштукам і сядаць у светлым кабінеце за чысты стол з тэлефонам, дзе мяне чакаюць рукапісы таленавіты аўтараў.

– А пра маладую сакратарку не марылася? – абавязкова жартавалі сябры, калі я распавядаў каму з іх аб сваіх трызненнях.

У адказ я загадкава пасміхаўся. Бо, відаць, нарэшце выспеў дзеля зусім іншага, ужо ўласна прафесійнага кантэксту (літаратар паводле дыплома). І толькі гэта дамінавала, а не нешта іншае.

Што праўда, доўгі час мая інтэнцыя патрапіць у той кантэкст ніяк не спраўджвалася. Не дапамаглі пратэкцыі ні Міхася Стральцова, ні Янкі Брыля. Толькі неяк на вочы патрапіла інфармацыя пра новы тыднёвік “Культура” з галоўным рэдактарам Вольгай Іпатавай, дзе яшчэ патрабаваліся супрацоўнікі. Я адразу патэлефанаваў адзінаму на той час сябру сярод вядомых літаратараў Леаніду Дранько-Майсюку.

– Не хвалюйся, заўтра пайду да Іпатавай, – сказаў Леанід.

– Слухай, можа, нагадай, што ў спартзале літінстытута мы з ёй часам гулялі ў пінг-понг. Дарэчы, я заўсёды прайграваў.

– Ты што, Валянцін! – заўсёды інтэлігентны Леанід нечакана ўзвысіў голас. – Ніколі, чуеш, ніколі не кажы ёй пра гэта. Яна ж такой зрабілася матронай, што не толькі з ракеткай, а і з вяслом у руцэ не падымецца на п’едэстал...

Магчыма, абачлівы і мудры Леанід меў рацыю, бо неўзабаве мяне залічылі ў штат рэдакцыі. Хаця, мяркую, загалоўным усё-такі быў той пафас, з якім я казаў рэдактарцы пра адказную ролю газеты “Культура” ў нацыянальным адраджэнні краіны.

На той час мне было ўжо трохі за сорак. Як толькі што казаў, апошнія некалькі гадоў факт маёй адсутнасці там, дзе ўжо даўно мусіў быць, пачынаў пакрысе трывожыць. І тады я суцяшаў сябе самаробным афарызмам: маўляў, глыбокая рэчка цячэ паволі. А трохі пазней зразумеў: не мае значэння, калі ты прыходзіш

– рана ці позна, істотна іншае – аб’явіцца ў свой час, не з пустымі рукамі і там, дзе цябе чакаюць.

У тыднёвіку “Культура” ўсё гэта склалася адно да аднаго. Цяпер ужо быў мой час, абярэмя наробку ў руках да барады, і тут мяне чакалі. У літаральным сэнсе. Стваральнікі канцэпцыі тыднёвіка прыдумалі палосную (на ўсю старонку) рубрыку “Эліта”, дзе меркавалася друкаваць пераклады тэкстаў вялікіх філосафаў з усяго свету, геніяў мастацтва ды літаратуры і таму падобных. А вось рэдактара, які мог бы пацягнуць гэтую ношку, знайсці ніяк не маглі.

***

Але перад тым як канчаткова перарушыць з васьмідзясятых гадоў у дзевяностыя (з адной цывілізацыі ў зусім іншую), я адчуваю патрэбу запыніцца яшчэ на некалькіх эпізодах з ранейшай пары.

З Леанідам Дранько-Майсюком мы пазнаёміліся на іспытах у Літаратурным інстытуце. Абодва паступілі, толькі ніякага сяброўства тады ў нас не склалася. Усяго што рытуальна прамаўлялі колькі словаў пры выпадковых сустрэчах. Да таго ж Леаніда праз год забралі ў войска і ён скончыў вучыцца пазней за мяне. А як прыехаў у Мінск, дык адразу сярод ночы пагрукаў у маю аднапакаёўку.

Я да гэтага жыў адзін, а цяпер мы сталі жыць удвох, бо Леаніду трэба было пэўны час недзеператрываць, каб потым атабарыцца ў горадзе настала. Так мы і пасябравалі.

Мне карціць хоць трохі распавесці як мы раз-пораз вячэралі бульбай з کількай, рагаталі над радкамі графаманаў, якія ён прыносіў з выдавецкай працы ды шмат пра што яшчэ. Аднак гэта будзе ўжо іншы жанр. Хіба да месца заўважу, што мы абодва любілі творчасць Янкі Брыля і Міхася Стральцова. Мацней за каго з іншых тагачасных пісьменнікаў...

Праз нейкі час Леанід з’ехаў, а сяброўства засталося. Прамінуў, можа, год ці болей, як ён патэлефанаваў з навіной:

– Слухай, Валянцін, я распавядаў пра цябе Стральцову, і ён пажадаў пазнаёміцца. Выбірай які дзень, і давай сходзім...

Я збянтэжыўся. Стральцоў для мяне ўжо даўно быў сакральнай фігурай. А ў мяне нічога няма, акрамя літінстытуцкага дыплома.

Да гэтай пары я ўдзячны Леаніду за ягоную ўчэпістасць, паколькі мы ўсё-ткі пайшлі разам у рэдакцыю часопіса “Нёман”, дзе Міхась Стральцоў загадваў аддзелам літаратурнай крытыкі.

Я не магу назваць Стральцова сваім Настаўнікам, паколькі тут было штосьці іншае, бадай, нават нешта містычнае. Калі праз колькі гадоў пасля знаёмства ён памёр, я адчуў такі боль і тугу, быццам гэта быў мой бацька (хай родны бацька даруе мне гэтую эмоцыю). Яшчэ доўгі час мяне не аднойчы скаланала на вуліцы, калі здалёк бачыўся нехта, падобны да Міхася Стральцова.

А тая першая сустрэча заканцавалася прапановай.

Мы дапалілі па апошняй цыгарэце ўжо на ганку рэдакцыі, і тады Міхась Лявонавіч запрапанаваў:

– Паспрабуй напісаць пра Брыля.

– Каб які юбілей ці свята якое, – засумняваўся я.

І ў той жа момант пачуў:

– Брыль – гэта заўсёды свята.

***

Неяк неўпрыкмет я стаўся для “Нёмана” што называецца *сваім аўтарам*. І гэта для мяне было надзвычай важна. Бо толькі цяпер нарэшце запэўніўся, што канкрэтна магу быць запатрабаваным як літаратар. Толькі самым істотным было

іншае: мае тэксты ўхваляе Міхась Стральцоў! Больш за тое, ён любіў са мной – не шкадуючы часу – сумоўнічаць, калі я прыносіў яму гатовы матэрыял. А як мяне доўга не было, то мог і патэлефанаваць Леаніду Дранько-Майсюку ды запытацца: нешта Валянціна ўсё няма? Можа, я яго чым пакрыўдзіў?

Яшчэ чаго – *пакрыўдзіў!* Я ж проста не гатовы быў адважыцца без дай прычыны нават на хвіліну зазірнуць у яго пракураны кабінет.

На тую пару сярод беларускіх літаратараў хіба толькі Міхася Стральцова і Алеся Адамовіча можна было залічыць да інтэлектуалаў. І хаця Алесь Адамовіч праз сваю маскоўскую публіцыстыку стаўся вядомым на ўвесь Саюз, мысліўна Міхась Стральцоў быў значна глыбейшым за яго. У сваіх бясконцых *перагаворах* еўрапейскай, расійскай і айчыннай гуманістыкі мы з ім не маглі спыніцца. Чамусьці запомнілася, што пад нашу рэфлексію патрапілі нават літаратурныя тэорыі Плеханава і Луначарскага, а потым і камуністычная публіцыстыка Андрэя Платонава. Думаю, што хутчэй з гэтых сумоўяў, а не з маіх друкаванак, ён пасля самага вялікага майго тэкста “Судьбы войны, судьбы мира” сказаў:

– Валянцін, у гэтым артыкуле думак болей, чым іншы літаратурны крытык за жыццё выкажа... – і адразу выняў з шуфляды ўжо загадзя падпісаную апошнюю кніжку “Пячатка майстра” (зборнік літаратурна-крытычных эсэ і артыкулаў).

Мне нешта муляе, неяк яно і няёмка, але я ўсё ж такі не стрымаюся і працытую той подпіс: “*Валянціну Акудовічу з любоўю і даўняй павагай, з верай у ягоную “зорку”.* Міхась Стральцоў”.

Зусім не праз пахвалу Міхася Лявонавіча, а ў звязку з названым вышэй артыкулам я мушу трохі пра тую пісанку распавесці, бо потым было цікава.

Дзесяцігоддзі мяняліся дзесяцігоддзямі, а беларуская літаратура ад часоў апошняй вайны працягвала “ваяваць”. Між іншым, не толькі літаратура; нездарма кінастудыю “Беларусьфільм” ва ўсім Саюзе называлі “Партызанфільм”... Але па-за асобнымі рэплікамі ніхто не наважваўся разгарнуць крытычную рэфлексію, каб спытаць: можа, ужо час спыніцца?

А я наважыўся. Акрамя ўсяго іншага, напэўна, яшчэ і таму, што не быў прылучаны да літарацкага асяроддзя, якое і прадукавала гэтыя бясконцыя бабахі і маратказееўскую гэроіку. Аналітыка маіх крэмзаў, як мне ўяўлялася, была спакойнай і ўзважанай. Разам з тым, нязмушана азіраючы беларускую ваенную прозу ў кантэксце еўрапейскай (ад Грымельсгаўзена да Барбюса, Рэмарка і Хэмінгуэя), я гэтаксама вольна абыходзіўся з Быкавым, Алексіевіч, Адамовічам. Апошняга нават досыць з’едліва папікнуў за яго гіпертрафаваную ўхвалу ім самім прыдуманага жанра – “рамана-араторыі”. Паводле аўтара выглядала, што калі ўспаміны тых, хто выжыў у спаленых вёсках, скаланаюць нас мацней, чым “Ад” Дантэ, то гэтыя аповеды не менш геніяльныя за тэрцыны “Боскай камедыі”...

Дык вось, праз колькі месяцаў пасля “нёманскай” публікацыі ў маскоўскай “Литературной газете” Алесь Адамовіч абрынуўся на гіцля Акудовіча з усёй палкасцю свайго не абы-якога публіцыстычнага таленту. Расклаў на дзве вялізныя газетныя паласы і сцябаў, сцябаў, сцябаў!

Не ведаю чаму, толькі мне з таго сцёбу нават не засвярбела. Хутчэй, я адчуваў гонар: гэта ж не абы-дзе і не абы-хто так жарсна прагне цябе зняславіць.

Між іншым, праміне недзе гадоў дзесяць, і беларускі ПЭН-цэнтр узнагародзіць мяне прэміяй імя Алеся Адамовіча, а сама ўзнагарода будзе за подпісам Васіля Быкава.

І так яно часам здараецца ў літарацкім жыцці.

***

Значна пазней, для нумара часопіса “Крыніца”, прысвечанага Міхасю Стральцову, я напісаў эсэ. У мяне нават няма сумневу, што яго трэба вярнуць сюды, у мае ўспаміны.

## *Вусціш быцця*

Увесь ён – нязбыўны сум з непазбежнасці сыходу ў невараць.

Мы ўсе рушым туды, але да пэўнай пары лішне з гэтага не смуткуем. А ён ці не ад пачатку ўзяў занадта блізка да сэрца неадпрэчнасць смерці — і тым жыў. І таму так жыў, як жыў, а ўсё, што акрэсліваў словам, было словам пра сыход.

Раней я думаў, што ягоная засяроджанасць на паўсюднай прысутнасці небыцця ў быцці паходзіць з хранічнай любові да жыцця. Але гэта не так. Жыццё ён, што праўда, моцна любіў, аднак не больш прагна, чым нехта іншы. А вось *адчуваў* яго — з усімі пахамі, фарбамі, гукамі, — як мала хто яшчэ. З гэтай фатальна абвостранай чуйнасці жыцця і вынікала такое ж вострае пачуццё непазбежнасці страты ўсяго, што ёсць *пад гэтым небам сінім і любімым*. Адсюль нязбыўны сум і нават у спякоту падняты каўнер, якім ён атуляў сябе ад стыні нябыту за спінай, адсюль і віно, як марная вымога сагрэць заўсёды восеньскае сэрца, адсюль і сцішаны дакор, вымаўлены на паваротцы ў вечную засень: *мой свеце ясны...*

Кажуць, ён не абмінаў жанчынаў. Магчыма, што так яно і было насамрэч, хаця самі па сабе жанчыны яго не моцна вабілі. Ён толькі персаніфікаваў жыццё з той ці іншай жанчынай і такім чынам заляцаўся да жыцця *ў вечнай празе зліцца з ім*. Хаця чым тужэй загортваўся ў каханне, тым больш тужліва ападаў на сэрца сум. Бадай, з гэтага амаль адчайнага суму ён мог здагадацца, што чалавек спярша губляе сябе ў жанчыне, а ўжо потым — сам у сабе... Толькі, відаць, не здагадаўся, хоць сэрцам адчуваў небяспеку і таму доўга не трываў жанчыну побач, хаваўся ад адной за другую, ці сыходзіў ад усіх да сяброў і віна.

Чуллівы і пяшчотны, ён шукаў у сяброўстве абароны і прытулку, а разам з тым непадманнага духоўнага хаўрусу, інтэлектуальнай лучвы, урэшце — высакароднага чыну.

Толькі шчыры мужчынскі звяз таксама не яднаў з жыццём. Яднала хіба віно, але калі яго не хапала, хаўрус з жыццём перапыняўся яшчэ вялікшай тугой...

А яшчэ было — слова...

Аднойчы я падумаў, што слова было сэнсам ягонага жыцця.

Але потым я ўжо так ніколі не думаў. Бо слова яму было адно спосабам немагчымасці жыць жыццём.

Падобна, што ён нарадзіўся не жыць, а толькі выглядаць смерць – у восеньскай смузе, у ціўканні сініцы, у смаленні вепрука. Крэмзанне паперы прозай ці вершамі было ўсяго абаронай ад нябыту. І ці не таму ён кангеніяльны свайму пакліканню найперш там, дзе ў яго адрэфлексавана развітанне, расстанне, кананне; там, дзе памірае маладым Максім Багдановіч; там, дзе канае дзед Міхалка; там, дзе ў "Смаленні вепрука" распушчаюцца ўсе сэнсы быцця.

Дух смерці лунае над гэтым геніяльным эсэ, заспеленым пахамі, фарбамі і гукамі нежытва: "Ідуць ужо халады, бяруцца прымаразкі — падаюць інеем сырыя туманы. Чарсцвее зямля, і цёмным, ільсняна халодным зяленівам б'е ў вочы парадзелая пры дарозе трава. Ужо выпетрала зябліва, пасівела ў гародчыках і пазванчэла бадыллё, і панішчымніла паветра".

У "Смаленьні вепрука" ён перажыў свой метафізічны сыход. Тут невараць урэшце запанавала ўсюды і найперш у ім самім. Ён сам быў вепруком і тым хто забівае вепрука, ён сам з сябе склаў ахвярнае вогнішча і сам быў тым ахвярным дымам, што завершыў яшчэ адзін кругазварот быцця.

З тым дымам ён і адышоў у нябёсы, *а душа ўзяла і засталася*, затрымалася на нейкі час і вярэдзіць маю душу ягоным сумам па немагчымасці інакш пазбегнуць смерці, як толькі памерці.

***

Я быў далёка ад Мінска, калі хавалі Міхася Стральцова на Чыжоўскіх могілках. Таму на бліжэйшыя Дзяды дамовіўся з Леанідам, каб ён быў маім Вергіліем у вусцішных пошуках пекла Міхася Лявонавіча. Але мы так блытана і стомлена шукалі тое месца, што калі знайшлі, то сілаў засталося адно дзеля сцярожкага ўслухоўвання ў глыбіні моўчы.

Зусім інакш было, калі аднойчы без дай прычыны Леанід прапанаваў наведаць магілу Кузьмы Чорнага на Даўгабродскай. Сярод нашых улюбёнцаў Чорны быў побач з Брылём і Стральцовым, адно што Леанід найбольш шанаваў раман "Сястра", а я – "Млечны шлях" (нясконччаны). Той прыгодзе Леанід прысвяціць цэлы раздзел у маім любімым мега-эсэ "Стомленасць Парыжам". І я не магу стрымацца, каб не пацешыць сябе (і, можа, яшчэ кагосьці) эпізодам з маладосці, агучаным словамі рамантычнай паэзіі.

*"Я музычна развітаўся з А. і гэтак жа паспрабую развітацца са сваім першым сябрам па Дому Герцэна, – далікатным паэтам, які сказаў пра А.: "...зайздрошчу гэтай жанчыне".*

*Я, вядома, не спытаў, чаму ён зайздросціць, бо адразу адчуў, што ягоная зайздрасць – ажурная загадка, эолавая чарацінка, якою дакранаюцца да еўрапейскай Ліліт і памагаюць разблытваць плеціва семантыкі, каб жанчыну-абстракцыю ператварыць у жанчыну-сястру. (...)*

*"...зайздрошчу гэтай жанчыне", – сказаў пра А. мой сябар, першы садоўнік беларускага альпінарыя, ахоўнік таго нязвыклага саду, у якім растуць лазурытныя кветкі для цудоўных капрызніц.*

*У Заходнім Берліне я бачыў скульптурны партрэт найцудоўнай егіпецкай капрызніцы, якая злавала на Тутмеса, што забыўся стварыць для яе лазурытныя кветкі. І вось памылка забыўлівага Тутмеса выпраўлена, у беларускім альпінарыі выраслі гэтыя кветкі.*

*Зрэшты, мой сябар і сам – апостал забыўлівасці. Ён з тых непрактычных філосафаў, якім заўсёды трэба напамінаць, што яны яшчэ і паэты, што яны ажурна дакраналіся да еўрапейскай Ліліт, а таксама, зусім не ведаючы аб тым, выправілі памылку старажытнага скульптара. Праз неверагодную сваю забыўлівасць мой сябра сцвярджае, што нарадзіўся ў 1950 годзе. Аднак будзе бліжэй да праўды, калі пашпартны год ягонага нараджэння чытаць у адваротным парадку лічбаў.*

*Мы йшлі на Даўгабродскую і ў адным з падземных пераходаў купілі аранжавыя гваздзікі. Я падумаў: не толькі дзеля зручнасці музыканты, жабракі і гандляры займаюць у падземных пераходах месца каля сцяны. Дзеля бяспекі таксама. Калі бетонная столя пад аўтамабільным ці нейкім іншым баластам праломіцца, то асноўны яе цяжар абрынецца на сярэдзіну тунеля – якраз туды, дзе звычайна знаходзяцца тыя, хто слухае музыку, падае міласціну і купляе кветкі.*

*Мы прыйшлі на вайсковыя могілкі, на магілу аўтара "Сястры", ведаючы, што над ёю звісае шыпшынавы абруч узвышэнскага Менска. Немагчыма пазбавіцца правінцыйнага холаду, не абдзёршы аб гэты абруч свае далоні, як і немагчыма перад Парыжам па-сапраўднаму развітацца з сябрам, не змёўшы з дарагой магілы чырвоны пластмасавы цюльпан".*

P.S.

Подпісы Леаніда, якія ён рабіў для мяне (зразумела, і не толькі для мяне) паўзверх падборак публікацый сваіх вершаў у часопісах, часам былі не менш удалымі за ўласна вершы. Над паэмкай, прысвечанай Марку Шагалу (часопіс "Беларусь"), ён надпісаў:

"Дружа, Валянцін:
*І шарм Шагалава малюнка,*
*І вершаў гэтых пекната*

*У параўнанні з пацалункам,*
*Сказаць па шчырасці,*
*Лухта*".

***

Эпохі, як і паэзія, не перакладаюцца. Яны потым заўсёды толькі інтэрпрэтуюцца. Таму калі я проста нагадваю пра падзеі той пары, дык разумею, што ў такой візіі яны нічога не кажуць пра люстрацыю часу як такую. Прыкладам, тая ж рубрыка "Эліта". Уявіце сабе, Міністэрства культуры нейкі час не было пэўным, ці слушна ў выданні, скіраваным на "шырокія масы", вылучаць нейкі адмысловы, чужы працоўнаму люду элітны кантэнт. А калі неўзабаве ў двух нумарах запар быў надрукаваны тэкст маладога Фрыдрыха Ніцшэ "Паходжанне трагедыі з духу музыкі", міністэрства літаральна запанікавала. Як такое можа быць, другі пасля Гітлера фашыст на старонках *a priori* мілажальнага да ўсяго чалавецтва выдання...

Цяпер нават немагчыма патлумачыць, як ненавісна розніліся савецкія часы з тымі, што пачаліся з 1991 года (трохі раней). І на пераправе паміж эпохамі за кожную, самую дробную змену ў гэтай розніцы, камусьці трэба было высільвацца, а то і змагацца – не раўнуючы як за ўласнае жыццё.

Таму аніяк не выпадае абмінаць тую пару апакаліптычнага ператрусу, калі з парэшткаў камуністычнай ідэалогіі пачало вылузвацца нешта a priori іншае. Бо без гэтага застануцца незразумелымі ўвесь сэнс і ўся каштоўнасць таго дыскурса, дзела славы якога і распачалася гэтая пісаніна.

Зразумела, у кожнага з нас акрамя агульных былі і ўласныя рахункі з савецкім таталітарызмам. На перадапошнім курсе інстытута мне таемна прынеслі на ноч да ранку прачытаць "Так казаў Заратустра" на тоненькіх паперках упаасобку. Літаральна за хвіліну да ранішняга стуку ў дзверы, я напісаў у нататніку адно кароткі сказ "Ніцшэ – геній". Хаця з клічнікаў пасля гэтага сказу нагарадзіў цэлы плот.

Тады я не даў бы веры нават афінскаму аракулу, калі б ён запэўніў, што праз нейкія год дзесяць сам буду друкаваць тэксты гэтага *вырадка* ў яшчэ амаль савецкім тыднёвіку. Але гаворка тут зусім не пра Ніцшэ як такога. Ад нас увогуле былі ўтоеныя багацейшыя бібліятэкі сучаснай філасофіі (не кажучы пра паліталогію, сацыялогію і г.д.). Аднойчы падумалася, каб СССР усё яшчэ заставаўся тым самым палітычным траглодзітам, я б, верагодна, і па сёння не знаўся ні з Шпенглерам, ні з Гайдэгерам, ні з Вітгенштайнам, ні з Леві-Стросам, ні з Гадамерам, ні з Артэга-й-Гасэтам, ні з Фуко, ні з Бартам, ні з Дэлёзам, ні з Слатэрдайкам, ні з яшчэ тузінам аўтараў, без інтэлектуальнага наробку якіх ужо даўно не ўяўляю сябе ў самім сабе...

Каб на тым свеце кожнаму, хто ладзіў нам духовую вівісекцыю цэлую эпоху, было балюча да веку!

Зрэшты, хаця гэты мой праклён у эмацыйнай праекцыі зразумелы, але гістарычна зусім не слушны, бо такія апакаліптычныя падзеі, як СССР, ёсць нечым зусім іншым і значна большым за тое, у чым можна вінаваціць кожнага чалавека паасобку.

***

Час, як вядома, ляціць імкліва. Прамарудзіш азірнуцца, і ад былога ўжо нават акрайчыка не відно. Таму на ўсялякі выпадак нагадаю, што радыкальны зрух у савецкім таталітарызме пачаўся з "гарбачоўскай перабудовы" (1985 г.), калі малады генсек прыдумаў вярнуць сацыялізму чалавечы твар. Але гэта – што з гіганцкай плацінай. Як толькі нехта паспрабуе зрабіць у ёй невялікую адтуліну, дык неўпрыкмет плынь праробіць там дарогу для ўсёй назапашанай энергіі

ракі, і неўзабаве ад плаціны застануцца адно кавалкі бетону па берагах. Канец васьмідзясятых ужо засведчыў пачатак гэтага вялікага бурапення.

Хай палітолагі кажуць што сабе хочуць, толькі для мяне ў Беларусі тое сталася заўважным праз стварэнне (1987 г.) маладзёвай літаратурнай суполкі “Тутэйшыя”. Між іншым, пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі.

Кароткая, але надзвычай яркая гісторыя аб’яднання маладых літаратараў, якое, здаецца, з прапановы Сяргея Дубаўца атрымала назву “Тутэйшыя”, не мела ні пэўнага пачатку, ні пэўнага канца. Больш за тое, нават арганізатары і лідэры аб’яднання (Алесь Бяляцкі, Сяргей Дубавец, Адам Глобус, Анатоль Сыс) разыходзяцца ў вызначэнні датаў, падзеяў і ўдзельнікаў, што засведчылі сябе чальцамі руху.

*“Была суполка Алеся Бяляцкага, была зусім іншая суполка, якую стварыў Сяргей Дубавец. I калі мы пачалі аб’ядноўвацца — са спрэчкамі, са скандаламі — былі ўтвораныя тыя “Тутэйшыя”, якіх усе ведаюць”,* — сцвярджае Адам Глобус. (Ад сябе, у якасці рэплікі, дадам: яны не толькі спрачаліся... Глобус мне сам распавядаў, як да крыві біўся з Сысом...)

Хаця аб’яднанне структурна было аморфным, не акрэсленым у задачах і мэтах, аднак пры гэтым надзвычай актуальным у факце сваёй наяўнасці. Таму яно вельмі хутка займела шырокі розгалас і набыло вялікую папулярнасць. Бадай, з усяго гэтага склалася ўстойлівай формула — *пакаленне* “Тутэйшых”. I гэтая формула падаецца досыць дакладнай, бо роля літаратурнага аб’яднання “Тутэйшыя” была не столькі ў тым, што яно фармальна задзіночыла пэўную колькасць маладых літаратараў, колькі ў тым, што выявіла памкненні і жаданні цэлага літаратурнага пакалення і нават шырэй, — прагу бальшыні тагачаснага грамадства да радыкальных пераменаў.

Зрэшты, “Тутэйшыя” і не былі ўласна літарацкім згуртаваннем, у ім шмат заставалася ад “Майстроўні” і “Талакі” з іх культам нацыянальнай Беларусі, які дамінаваў над усімі канкрэтнымі формамі выяўлення гэтага культу. Таму не мастацкія артэфакты, а менавіта грамадска-палітычныя акцыі “Тутэйшых” перадусім набылі шырокі розгалас, выклікалі цікавасць і павагу шырокай публікі як на айчыне, так і ў замежных сродках мас-медыя.

Няма чаго і казаць, улада на ўсё гэта звярнула ўвагу і, не марудзячы, распрацавала захады дзеля разбурэння ўвогуле так і не сабраных у адно цэлае “Тутэйшых”. Спехам быў арганізаваны прыём у “члены” Саюза беларускіх пісьменнікаў Адама Глобуса, Анатоля Сыса, Максіма Клімковіча, што, натуральна, унесла дадатны разлад і ў да таго не лішне трывалую супольнасць. Хаця, пэўна, найбольш істотным у непрыкметным сыходзе “Тутэйшых” з вялікай публічнай сцэны было тое, што на гэтай сцэне з’явіліся новыя і больш яркія героі — шматлікія грамадскія аб’яднанні ды палітычныя партыі. Найперш – Беларускі Народны Фронт...

Але наастачу “Тутэйшыя” яшчэ паспелі грымнуць дзвярыма, ды так, што ўся краіна скаланулася. Натуральна, я маю на ўвазе арганізацыю святкавання “Дзядоў” у 1988 годзе.

Да гэтай падзеі мы неўзабаве вярнемся, а пра нашых герояў яшчэ толькі скажу, што яны неўпрыкмет разышліся рознымі шляхамі і кожны ў свой бок, пакінуўшы па сабе міф пра “Тутэйшых”. Шчыра кажучы, яны і пры “жыцці” суполкі былі нічым яшчэ, акрамя як міфам, якога прагнула і праз гэтую сваю прагу само стварала раптам вызваленае ад доўгага таталітарнага калапсу беларускае грамадства.

***

Я да таго міфа не меў ніякага дачынення, паколькі, як і раней, заставаўся самнасам у вартаўніцкіх катухах ці турысцкіх скляпеннях. Хаця з цікавасцю чытаў усё, што ўжо трохі дэмакратызаваная прэса пісала пра гэтых хлопцаў.

Між іншым, *душою* я таксама быў з імі і адразу б далучыўся дзейна, толькі ніхто не клікаў, а самому было сорамна напрошвацца. Таму калі мне патэлефанаваў Леанід Дранько-Майсюк і прапанаваў сустрэцца каля брамы Маскоўскіх могілак, дык я ўмомант пагадзіўся.

“Тутэйшыя” ужо неаднойчы (і годам раней) ладзілі святкаванне “Дзядоў”, пэўна, таму Мінгарсавет задаволіў іх заяўку на ўшанаванне продкаў сярод помнікаў Маскоўскіх могілак. Як моцна ён пра гэта неўзабаве пашкадуе! Бо за прамінулы год палітычная сітуацыя ў СССР радыкальна змянілася. Забастоўкі, мітынгі, стыхійныя пратэсты ды розныя іншыя забурэнні не спыняючыся скаланалі неабсяжныя прасторы камуністычнай імперыі. А прыбалты ўжо нават паспелі стварыць “Народныя франты”.

Відаць, за некалькі дзён да падзеі ўлады зразумелі, што на гэты раз збярэцца не звыклы хаўрус з некалькіх дзясяткаў нацыянальна заангажаваных маладзёнаў, а, пафасна кажучы, народ, і пачалі праз радыё, тэлевізію ды газеты запалохваць людзей.

Менавіта ў той дзень упершыню “паводле тэхнічных прычынаў” зачынілі метро (Маскоўскае). Магчыма, некага гэта і прыпалохала, але калі я выйшаў на праспект з сутарэнняў, дык абапал яго па ходніках шчыльным цугам цягнуліся і цягнуліся людзі. І, дзіва дзіўнае, спрэс чуліся беларускія словы...

Браму на могілкі наўмысна зачынілі. Шыхты міліцыянтаў і амапаўцаў з усіх бакоў сціскалі натоўп будучых “нацыяналістаў”, каб людзі падушылі самі сябе. Было па-сапраўднаму страшна і карцела як-небудзь уцячы адсюль. Ад страху ды ненавісці народ выенчваў кагадзе дадзенае Алесем Адамовічам азначэнне Беларусі: Ван-дэ-я, Ван-дэ-я! (Зрэдзьчас гучала і больш зразумелае для ўсіх беларусаў: “Фа-шыс-ты, фа-шыс-ты!..) І тут скразняком пранеслася: цішэй, цішэй, Пазняк гаворыць... Тады я і папрасіў Леаніда Дранько-Майсюка залезці яму на плечы, каб пабачыць чалавека, які, толькі што вырваўшыся з міліцэйскага палону, не ўцёк дахаты, а дабрахоць вярнуўся ў самую гушчыню скрай небяспечных яму падзеяў...

У нейкі момант народ усё-ткі прарваў шчыльную аблогу раз’ятраных супрацівам праваахоўнікаў парадку. Пакуль мы з сябрам азіраліся на волі, ушчыльную прабег падлетак і паведаміў шэптам: “Ідзем на Курапаты”.

Калона недзе з тысячы чалавек выцягнулася па прасёлку ўзбоч кальцавой дарогі, а на самой кальцавой сінхронна і роўнавяліка рухалася калона з машынаў, дзе былі і закратаваныя вязніцы на колах, і “вадамёты”, і аўтобусы, бітма набітыя міліцыянтамі, амапаўцамі, вайскоўцамі.

Досыць хутка кіраўніцтва карнай аперацыяй канчаткова пераканалася, што людзі ідуць да Курапатаў. Тады механізаваная калона набрала хуткасць ды знікла, каб перагарадзіць дарогу “нефармалам” (пакуль яшчэ гэтак называлі будучых “бэнээфаўцаў” і нацыяналістаў) на падыходзе да месца схарону ахвяраў сталінскага тэрору... І тут Пазняк, акрамя мужнасці, прадэманстраваў і не абы-якія якасці стратэга. На першай выспе ён запыніў людзей, папрасіў сабрацца гуртам, апусціцца на кукішкі, каб было добра відаць выступоўцаў, і годна правесці мітынг.

Чырвонае сонца хілілася долу. З чыстага сіняга неба зрэдзьчас зляталі сняжынкі. Стаяла напятая цішыня. Свет знерухомеў, і ў гэтым нерухомым свеце на голай выспе прыселая сціжма людзей слухала Пазняка, які ўзвышаўся над усімі, як помнік самому сабе.

Мы быццам вярнуліся ў біблейную пару, – падумалася мне. – І гэта не Пазняк, а прарок Майсей заклікае народ Ізраіля пабрацца з мужнасцю...

Але хутка мне ўжо было не да біблейных аналогій, бо раптам здалёк пачуўся мерны тупат. Я азірнуўся – зверху на нас рухалася чорная сцяна (суцэльны чорны акрас карнікаў быў ад святла нізкага сонца насупраць). І тады мной апанавала

відушча: у адначассе я зразумеў, што пакуль мы не раструшчым гэтую чорную сцяну ў друз і пыл, датуль не мецьмем людскага жыцця.

Сцяна наблізілася ўшчыльную і пачала ссоўваць народ з выспы. Пазняк заклікаў да спакою, аднак шмат хто запанікаваў і кінуўся бегчы ў бок падлеску наўзбоч кальцавой дарогі.

Яшчэ ніхто не дабег туды, як з кустоўя выскачылі вайскоўцы (і калі яны паспелі там схавацца?!) ды пачалі біць і валіць уцекачоў на падмерзлую глебу (жанчынаў таксама – на маіх вачах)...

Потым, калі супраціў уладам выявіцца сістэмна і ўцякаць ад амапаўскіх дубінак станецца гэтаксама звыкла, як хавацца ад залевы, той уласны страх і тое захапленне мужнасцю іншых будуць падавацца трохі наіўнымі... Але тое будзе потым, калі шмат чаго перайначыцца і ў самім часе, і ў кожным з нас.

***

Атрымаўшы месца ў “Культуры”, я, дарослы мужык, не ведаў, як управіцца са сваім шчасцем. Відаць, залішне доўга заставаўся там, дзе мне не трэба было так доўга заставацца. Але не толькі... Тут маімі паплечнікамі па працы сталіся Кіркегар, Ніцшэ, Шпенглер, Ясперс, Эка, Гумілёў (старэйшы), Мамардашвілі... Трохі пазней было вырашана, што не добра пакідаць абок увагі беларускіх герояў. Тоесную рубрыку назваў: “Суплёт ідэяў”. Надалей яна праз тыдзень чаргавалася з “Элітай”, а я тым самым пашырыў кола сваіх памагатых выбітнымі асобамі з айчыннага кантэксту: Волан, Лышчынскі, Абдзіраловіч (Канчэўскі), Крукоўскі, Конан...

Між іншым, у “нагрузку”, як тады казалі, мне было даручана весці невялічкую рубрыку “Галерэя”. Гэта значыць, дзеля кожнага нумара я быў вінен прэзентаваць адну карціну сучаснага мастака і да таго ж мусіў напісаць пра яе невялічкае эсэ.

Вось дзе было страху! Я, лічы, ніколі не наведваў мастацкія галерэі і нават не чытаў рэцэнзіі мастацтвазнаўцаў. Шчыра прызнаўся пра сваё невуцтва галоўнаму рэдактару, каб мне змянілі гэтую павіннасць на на якую іншую. Вольга Іпатава паглядзела на мяне здзіўлена і, пасміхнуўшыся, сказала: “Яшчэ чаго прыдумалі. Як заманецца, так і пішыце”. Гэткім смешным чынам я зрабіўся яшчэ і мастацтвазнаўцам.

Згаданы анекдот не мае ніякага дачынення адносна той справы, якую тут спрабую агараць. Але паколькі ён ужо вытыркнуўся, то я пераніцую сюды адзін з тых як бы мастацтвазнаўчых эсэйчыкаў (паводле карціны “Прарок” Гаўрылы Вашчанкі). Да таго ж ён, здаецца, карэлюецца з агульным месіджам кнігі.

*“Ісус, хай выбачаюць мне вернікі, не быў вялікім інтэлектуалам. Адсюль яго нелюбоў да фарысеяў і кніжнікаў. Зрэшты, моца пракракаў не ў адукаванасці і магуце розуму, бо ісціну яны спазнаюць сэрцам, а выказваюць зацятасцю... Таму ўкрыжаваны Ісус яшчэ мог лямантаваць: “Ілі, Ілі! Лема савахвані?” (“Божа мой! Божа мой! Чаму ты мяне пакінуў?”)*

*Прарок мастака Вашчанкі – маўчыць. Яму няма да каго звяртацца ні з дакорам, ні з надзеяй. Ён a priori інтэлектуал, таму сам усё ведае: і тое, што было, і тое, што не адбудзецца. З гэтага ў ягоных вачах такі невымоўны адчай.*

*Ён запаліў агонь змагання. Полымя шугае па ўсім абшары, рудое, як закарэлая кроў, полымя. Нарэшце тое мёртвае, што ён клікаў рушыць, знішчанае. І вось настаў момант, калі трэба весці людзей ад пякельнага агню некуды яшчэ.*

*А весці няма куды. Бо ён наперакор ведае няздзейсненыя прароцтвы ўсіх тысячагоддзяў і з гэтага пакутліва ўсведамляе, што ані на зямлі, ані на нябёсах няма той абетаванай будучыні, да якой кіравалі яго папярэднікі.*

*Туга. Роспач. Адчай.*

*Божа мой! Божа мой! Чаму ты яго пакінуў?”*

***

Газета “Культура” пабачыла свет напрыканцы 1991 года. Толькі яе з’яўленне не сталася падзеяй у беларускай культуры. Разам з тым нават сам факт таго, што дзяржаўнае выданне ад свайго пачатку было радыкальна адраджэнскім, безумоўна, мела вялізнае значэнне – прынамсі для тысяч і тысяч работнікаў, якія працавалі ў гэтай сферы. Але найперш дзеля функцыянераў самага рознага маштабу, ад якіх тады найперш і залежаў лёс беларушчыны.

А вось ужо сапраўднай падзеяй беларускай культуры зрабіўся тыднёвік “Наша Ніва”, які распачаўся ў тым жа 1991 годзе, адно трохі раней. Хаця фармальна Сяргей Дубавец толькі аднавіў славутую “Нашу Ніву” Аляксандра Уласава, распачатую яшчэ ў далёкім 1906 годзе, але насамрэч гэта было цалкам іншае выданне. Супермадэрновае, з арыгінальнай вёрсткай, нязвыклай разбіўкай на абзацы, нечаканымі назвамі рубрык... Зрэшты, усе мастацкія ды тэхнічныя інавацыі не пералічыць. Ды і няма ў гэтым патрэбы, паколькі галоўная навіна была ў тым пра *што* і *як* пісалі аўтары тыднёвіка. А яны пісалі *праўду*, якой мы тады не ведалі, і пісалі мовай, якой мы яшчэ не чулі. Хіба адзін я з артыкулам “Камунізм без берагоў” не патрапляў у гэтае інавацыйнае сугучча. Што і не дзіва...

Я накідаў свой з’едліва-крытычны тэкст для часопіса “Нёман”, абсалютна ясна ўсведамляючы, што яго там не надрукуюць. Дык чаго тады час марнаваў? А халера яго ведае. Такое са мной здаралася. Скажам, трохі раней на прапанову маскоўскай “Литературной газеты” распавесці пра гісторыю Беларусі і яе актуальную сучаснасць я такога ім нагаварыў... Згадаў усе войны нашых продкаў з маскоўцамі, спаленыя вёскі і пабураныя гарады, тысячы захопленых у палон і вывезеных у Масковію адмысловых рамеснікаў... А наконт сучаснасці прыдумаў, што цяпер мы толькі і марым пра Беларусь ад Балтыцкага мора да Урала. Не трэба быць асабліва відушчым, каб здагадацца, што прачытаўшы адно некалькі старонак майго рукапісу, у рэдакцыі “Литературной газеты” толькі і сказалі: “Сволочь, ёп. т. м.”.

Натуральна, у “Нёмане” сказалі інакш, але гэтаксама чакана: маўляў, яшчэ не наспеў час дзеля такіх тэкстаў. Ясны пень, сказалі не падумаўшы, бо час, прынамсі тэмпаральны, у кожнага розны. Навідавоку быў прыклад Сяргея Дубаўца, які тады працаваў у аддзеле крытыкі “Нёмана” і акрамя прафесійных абавязкаў рыхтаваў першы нумар “Нашай Нівы”. Ён там і перахапіў маё творыва ды ўласнаруч пераклаў тэкст з рускай мовы на беларускую (авохці мне, – тарашкевіцай).

***

Да гэтай пары ганаруся, што нечакана знайшоў сябе ў сціжме аўтараў першага нумара “Нашай Нівы”, а як прыгадаю той выпадак на людзях, дык з вясёлым прысмехам яшчэ заакцэнтую – зважайце, пераклаў мой артыкул *сам* Дубавец.

Асабіста для мяне (ды, пэўна, і не для мяне аднаго) у першай палове дзевяностых фігура Сяргея Дубаўца была сувымернай з фігурай Зянона Пазняка, а “Наша Ніва” – з Беларускім Народным Фронтам. Зразумела, гэта былі абсалютна рознамаштабныя падзеі. Зянон Пазняк з нацыянальным рухам раскатурхаў усё беларускае грамадства, у той час як “Наша Ніва” Сяргея Дубаўца мела наклад у нейкія 5-7 тысяч асобнікаў.

Дык скуль тады сувымернасць?

У аўтарскай анатацыі да свайго артыкула “Героі й ахвяры” Сяргей Дубавец кажа: “Пачынаючы тэму мінулай вайны, я сапраўды пачынаю. Не працягваю...”

Дык вось, праз “Нашу Ніву” для чуйнага чытача ўсё сапраўднае толькі пачыналася – тут, на гэтых старонках. А тое, што было раней, яно, канечне, было, толькі цяпер выглядала нейкім іншым, не зусім сапраўдным, ці што? А мо і непатрэбным увогуле.

Згадваецца біблейнае: *Свет яшчэ толькі пачынаўся...* І што магло быць важнейшым?

Гэтак па-першае. А па-другое , ці амаль не кожны з таго дзясятка тысяч чытачоў праз задзіночанне вакол "Нашай Нівы" адчуў сябе далучаным ужо менавіта да *беларускай* нацыянальнай эліты. І не з тых шматлікіх тысяч, што БНФ раз-пораз выводзіў на шэсці ды мітынгі, а з аўтараў і чытачоў "Нашай Нівы" паўстане магутная і трывалая прага тоеснай самой сабе беларускай культуры. З гэтай жыццядайнай прагі і сфармуецца тое, што мы пазней станем называць *незалежнай* культурай Беларусі.

*Незалежная* культура Беларусі – унікальны феномен. Насуперак уладам у яе прасторы былі створаныя шматлікія адукацыйныя, навуковыя, аналітычныя ды іншыя інстытуцыі, якія плённа працуюць ужо шмат год. Сюды ж далучым шэраг газет, часопісаў, альманахаў, выдавецтваў, асветніцкіх, літаратурных, інтэлектуальных ды іншых суполак, адно пералік якіх зойме невядома колькі месца.

Менавіта тут упершыню паўстала і досыць ярка сябе праявіла беларускае нацыянальнае мысленне ўжо менавіта як мысленне.

Вельмі адметнай падзеяй станецца даафармленне (пераафармленне) нацыянальнай гістарыяграфіі, якая канцэптуальна перайначыла ўяўленне беларусаў пра іх уласнае мінулае.

Тут, і толькі тут, сфармавалася новая беларуская літаратура, і сутнасна, і якасна рашуча адрозная ад той, што была раней. Адным з магчыма і нечаканых вынікаў гэтага пераруху стаўся выбух (без перабольшвання) перакладніцкай літаратуры.

Асобна трэба сказаць пра рок-музыку, якая ў дзевяностыя гады для абуджэння нацыянальнай свядомасці беларусаў магла б адыграць не меншую ролю, чым у сваю пару оперы Вагнера для нацыянальнай свядомасці немцаў. Магла б, каб гэтага не спалохалася ўлада.

Перад тым, як на пэўны час развітацца з Сяргеем Дубаўцом і ягоным праектам, я мушу – менавіта так, – звярнуць увагу яшчэ на адзін тэкст з першага нумара, які ў перспектыве майго ўласнага кону апынуўся падставовым. А менавіта, на эсэ Ігара Бабкова "Сон, які сніўся нікому". Калі я яго прачытаў, то канчаткова запэўніўся ў сваёй веры, што высокая (метафізічная) філасофія беларускай мовай магчымая, і магчымая як беларуская філасофія. З узгляду на значнасць гэтай падзеі для мяне асабіста, хацеў бы прылучыць сюды фрагмент таго тэксту.

*"Залатыя часы паганскае, народнае культуры – XIX стагодзьдзе.*

*Гэта часы, калі душа народа нібы прарастае ў "высокую" культуру, нараджае такія зьявы, як Міцкевіч, Чачот, Баршчэўскі... Каб зразумець, што такое паганская культура, варта ўявіць сабе ўвесь комплекс беларускага фальклору, прасьпяванага адначасова, як магутная касьмічная сімфонія, як гімн мікра й макракосмасу. Уявім сабе ўсе казкі, расказаныя ўсімі бабулямі праз усе часы, усе паданьні і легенды, усе рытуалы й галашэнні... Калі ўявіш сабе ўсю веліч гэтае сымфоніі, беларуская гісторыя бачыцца як сон, што сьніўся нікому.*

*Зрэшты, ён сапраўды сьніўся нікому.*

*Мусім прызнаць, што беларусы захаваліся як нацыя менавіта таму, што ва ўсе часы польска-расейскага гістарычнага беспрасьвецьця жылі не ў гісторыі – у Космасе.*

*Сёньня мы знаходзім сябе ў індустрыяльнай цывілізацыі, у сэкулярызаваным, суб'ектывісцка-касмапалітычным асяродзьдзі сучаснага горада. Мы ня верым у вонкавасьць, але ж і ўнутры сябе не пачуваемся гаспадарамі. Недзе за даляглядам – Бог, ці то "памёр", ці то "на рамоньце". Перад вачыма – культура. І адзінае, што мы можам сказаць сабе ў суцяшэньне:*

*ЯНЫ СЬПЯВАЛІ – МЫ СЛУХАЕМ".*

Я не ведаў, хто такі Ігар Бабкоў, і тым болей не мог ведаць, што неўзабаве пазнаёміўшыся, мы адразу вырашым: далей нам ніяк нельга без уласнай філасофіі. Ну ніяк...

***

Ды што там сваёй, у нас ніякай філасофіі не было. Таму эсэ пра Сёрэна Кіркегара для тыднёвіка "Культура" я заманіфеставаў наступным пасажам:

"Леў Шастоў пачынае сваю кнігу пра Кіркегара ("Киркегард") наступнымі словамі: "Кіркегард прайшоў паўз Расію".

Прачытаў і з болем, які межаваў з адчаем, падумаў: "Паўз Беларусь прайшлі ўсе, пачынаючы ад Парменіда і канцуючы Дэлёзам (ці хто каму тут больш даспадобы...) Усе, колькі іх было філосафаў ад веку ішлі, ідуць, і, здаецца, будуць ісці паўз, паўз, паўз... Трохі суцяшае хіба тое, што калі меркаваць паводле досведу Кіркегара, дык у справе асэнсавання існага страх і адчай могуць стацца нават больш прыдатнымі за інфантыльны аптымізм і прагматычную разважлівасць...".

Тут трэба ўдакладніць: калі я прамовіў "ад веку", дык у гэтым кантэксце меў на ўвазе кароткі век ужо нацыянальна асэнсаванай Беларусі. Бо ў даўнія стагоддзі мысленне на прасторы, цяпер пазначанай дзяржаўнымі межамі Рэспублікі Беларусь, разгортвалася адпаведна агульнаеўрапейскіх тэндэнцый. Але метадалагічна яго, бадай, заўсёды будзе досыць няпроста залічваць да ўласна беларускага: ці то з прычыны іншамоўнасці, ці то з прычыны адслоненасці ад Беларусі як яшчэ не выяўленага суб'екта еўрапейскай гісторыі...

Разам з тым, фармуючы гісторыю беларускага мыслення, мы, безумоўна, не пакінем тыя ранейшыя здабыткі па-за нашай увагай, паколькі і ў Вялікім Княстве Літоўскім, і ў Рэчы Паспалітай, гэтаксама як і ў тадышняй Цэнтральнай Еўропе, філасофія дамінавала не толькі ў сістэме адукацыі, але арганізоўвала і рэгламентавала ўсю мысledзейнасць грамадства. Таму зусім натуральна, што ў рэканструкцыі гісторыі філасофіі мы не прамінем увагай спадчыну Сымона Буднага, Францішка Скарыны, Васіля Цяпінскага, Саламона Рысінскага, Андрэя Волана, Казіміра Лышчынскага, наробак Віленскай філасофскай школы і Полацкай езуіцкай Акадэміі. Хаця рэальна пачаткі ўжо апрычона беларускага мыслення нам даводзіцца звязваць з Францішкам Багушэвічам, з "нашаніўскім" перыядам беларускай гісторыі, з тагачаснай літаратурай, публіцыстыкай, светапоглядными рэфлексіямі...

А як паводле гамбургскага рахунку, дык уся беларуская філасофія XX стагоддзя пачалася і скончыла неверагодным эсэ Ігната Абдзіраловіча (Ігната Канчэўскага) "Адвечным шляхам" (1921 г.).

Што праўда, калісьці раней пасля "Адвечнага шляху" я заўсёды згадваў эсэ "Гэтак пераможаш!.." Уладзіміра Самойлы (1924 г.) На жаль, з цягам часу на яго пачалі забывацца – і я ў тым ліку. Можа, і дарэмна.

***

Аднойчы дзеля забавы прыдумалася містычная філасафемка пра Кон. Цалкам вераемна, што гэтая прыдумка здарылася недзе пасля года працы ў "Культуры", калі ўжо надрукаваў тут ладнае бярэмя тэкстаў вялікіх філосафаў і колькі сваіх эсэ. Тады, на першым юбілейным застоллі Вольга Іпатава, адзначаючы поспехі калектыву, сярод іншага сказала: "Глядзіце, Валянцін прыйшоў да нас інструктарам па турызме, а цяпер ён ужо вядомы беларускі культуролаг".

Я паступаў вучыцца ў самыя розныя інстытуцыі 11 разоў. Першым быў Серпухаўскі тэхнікум электрасувязі, куды падлеткам паехаў з дзядзькам аж пад Маскву пасля восьмага класа. Потым чатыры разы паступаў у мінскі Політэхнічны інстытут (на дзённае і завочнае аддзяленні). Затым два разы ў Тэхналагічны

інстытут. Яшчэ два разы ў БДУ (між іншым, на “філасофію” таксама). Перадапошні раз, відаць, можна было б абмінуць увагай, бо ў інстытут Сельскай механізацыі (ці як ён там называўся?) я падаў дакументы адно таму, што без якога падману мяне тым разам з працы не адпускалі ў горы... Карацей, куды б 10 разоў ні прасіўся вучыцца, мяне ўсюды не пускалі.

А між тым з пары падлеткавай свядомасці я ўжо марыў адно пра Літаратурны інстытут у Маскве. Не, няпраўда, нават марыць пра такое падлетку з заходнебеларускага мястэчка было немагчыма. Я толькі захоплена думаў: скуль паходзяць такія неверагодныя хлопцы і дзяўчаты, што іх прымаюць у інстытут, дзе вучаць на пісьменнікаў? А ў дваццаць пяць год праз нейкі вясёлы адчай (нікуды не ўзялі, а ў літінстытут – смеху варта) даслаў на конкурс невялікую аповесць. Калі праз нейкі час атрымаў запрашэнне на іспыты – трохі абамлеў. Нават не хацеў ехаць, так баяўся, ды ўсё ж такі выправіўся... І адразу ўзялі.

Тут ужо можна было б пераказаць тую філасафемку, аднак лепей яшчэ трошкі патрывайце.

Я ўжо пісаў, што доўгі час пасля Масквы шукаў адно вартаўніцкія каморкі, а як закарцела літаратурнай працы, дык паўтарылася тое, што было з інстытутамі: у Скарынаўскі цэнтр не ўзялі, у “Нёман” не ўзялі, у “ЛіМ” не ўзялі... Ды што тут шмат пералічваць – усюды “не ўзялі”, пакуль не з’явілася “Культура”.

Вось пасля гэтай вызначальнай падзеі і прыдумалася (весела), што ў кожнага чалавека акрамя ўніверсальнага Лёсу ёсць яшчэ персанальны Кон. Гэта ён аберагае цябе ад самага горшага. Калі табе, скажам, на рэйках трамвай адрэзаў адну нагу, дык моцна не скавычы, а будзь яшчэ ўдзячны свайму Кону, бо без яго дапамогі ты застаўся б зусім без ног, а можа нават і без галавы.

Пасля таго, як я ўсё гэта прыдумаў, дык зразумеў, што нішто іншае, а менавіта Кон бярог мяне ад усіх інстытутаў ды ўніверсітэтаў імперыі, пакуль не наспеў мой час ехаць у Маскву. Бо каб я паступіў вучыцца куды-небудзь раней, прыкладам, у Політэхнічны, то з маёй фенаменальнай нікчэмнасцю, што да матэматыкі і падобных дысцыплінаў, я б пяць год слязьмі ўмываўся штодня, але атрымаў бы непатрэбны мне дыплом інжынера, каб мае неадукаваныя бацькі (лепшыя ў свеце бацькі!) светла заплакалі ад радасці і цяпер ужо напэўна далі веры, што не дарэмна пражылі жыццё.

Тое ж і з літаратурнай працай. Няўжо вы думаеце, што слынны Міхась Стральцоў, а тым болей народны пісьменнік Янка Брыль насамрэч не маглі ўладкаваць хлопца з маскоўскай адукацыяй у той жа “Нёман” ці ў “ЛіМ”? Недарэчна нават спрачацца. Відавочна, гэта мой Кон неўпрыкмет касаваў усе іх высілкі, бо наперад ведаў, што ўжо рыхтуецца выданне з філасофскім кантэнтам, дзе я змагу рэалізаваць усё тое метафізічнае натхненне, што назапашвалася ўва мне дзясяткі год.

Напэўна, гэта ўжо было б занадта, каб я выказаў меркаванне, што Кон паспрыяў і таму, каб мяне ўвосень 1992 г. адпусцілі з газеты ў Полацак на канферэнцыю Полацкай езуіцкай акадэміі. Яно як быццам сапраўды занадта, толькі хто яго ведае, калі зірнуць уздоўж перспектывы далёка наперад... Бо менавіта там мы перастрэліся з Ігарам Бабковым – здаецца, на ўсё жыццё.

Вось што ён сам напісаў пра тую падзею:

*“Мне дакладна не патрэбны вучні, я не настаўнік у класічным сэнсе. Мне патрэбныя тыя, хто ідзе поруч. Сувандроўнікі. Каб не адчуваць сябе самотным у краявідзе.*

*У гэтым сэнсе мне пашэнціла. Ужо больш за дваццаць год у мяне ёсць ідэальны суразмоўца і сувандроўнік – Акудовіч. У нас вельмі розныя тэмпераменты і розныя жанры. Ён скончыў літінстытут і ішоў ад літаратуры ў мысленне, у філасофію. А я наадварот, ад філасофіі ў літаратуру. І мы сустрэліся на пайдарозе. Да таго ж амаль сінхронна вярнуліся ў беларускую культуру, адкрылі яе для сябе.*

*Пазнаёміліся ў Полацку на канферэнцыі, на самым пачатку 90-х. Раней толькі чулі адзін пра аднаго. А тут ішлі па дарозе на секцыю і вырашылі, што трэба стварыць беларускую філасофію. А пра што была канферэнцыя, ужо й не памятаю".*

***

Я таксама не памятаю, пра што была тая канферэнцыя, але пакуль шпацыравалі з Ігарам паўз восеньскі сквер да канферэнцыйнай залы, дык ужо паспелі суладна пагадзіцца, што Беларусь без філасофіі, як шлюбная ноч без нявесты. (Такое прасцецка-дурнотнае параўнанне ганарысты Ігар *a priori* прыдумаць не мог, а паколькі яно памятаецца да гэтай пары, дык што тут спрачацца пра аўтарства?) Больш таго, яшчэ да пачатку паседжання мы ўжо вызначыліся, з чаго нам трэба пачынаць. Метафарычна кажучы, каб выгадаваць сад з залатымі яблыкамі метафізікі, трэба было спачатку высекчы сярод нерушы ляда. Пераказваючы простымі словамі – стварыць філасофскі часопіс. Натуральна, беларускі і беларускай мовай.

Па абедзе мы дамовіліся, што, вярнуўшыся ў Мінск, адразу сустрэнемся ў кавярні "Хвілінка", каб сам-насам абгаварыць наш праект як у падставовых канцэптах, гэтак і ў апрычоных дэталях. Не забыліся нагадаць адзін аднаму, што да кавы кожны мусіў прынесці свой варыянт назвы часопіса, сваю канцэпцыю і да таго падобнае.

Раней я ніколі не хадзіў у кавярні, каб піць там каву. Дый увогуле ніколі не хадзіў туды адзін, а толькі з сябрамі, калі побач не было зручнага месца выпіць разам чарку-другую гарэліцы. Ігар – зусім іншае. Ён нават у нядзелю пакідаў на нейкую гадзіну сям'ю і ехаў у "Хвілінку", дзе, паводле ягоных словаў, была лепшая ў Мінску кава. У одуме смакаваў там гэтую гаркату і, прымружыўшы вочы, услухоўваўся сам у сябе, чакаючы, калі загучыць той тон, у якім толькі і могуць аб'явіцца самыя істотныя словы.

На сустрэчы Ігар прапанаваў назваць часопіс "Фрагменты", а я – "Тэксты". Як ні дзіўна, ён аддаў перавагу майму, цалкам постмадэрнаму, варыянту, хаця мне больш падабалася яго назва... Натуральна, я ўжо амаль нічога не памятаю з таго, што і як мы тады абмяркоўвалі, раз-пораз прызначаючы сустрэчы ў "Хвілінцы". Толькі, ясная рэч, вельмі хутка паперад усяго выйшла праблема рэсурсаў. Дзе іх набрацца, каб высекчы тое ляда? Відавочна, нашых разумоўных здольнасцяў тут не хапала. Патрэбен быў яшчэ нехта трэці ў дапамогу.

– Дзіўна гучыць праблема трэцяга за кавай, – толькі паспеў прамовіць, як Ігар запытаўся:

– Алесь Разанаў?

– Алесь Разанаў! – умомант пагадзіўся я.

Буйнейшая мысліўная фігура ў тагачаснай беларускай прасторы. Ну што тут яшчэ думаць...

Алесь Разанаў таксама пагадзіўся адразу. І гэта была ласка Кону. Вялікі паэт бясспрэчным аўтарытэтам ідэальнага класіка надаваў нашай досыць авантурнай ідэі магчымасць сапраўднасці. Хаця што да менеджэрскіх здольнасцяў, то Алесь Разанаў, пэўна, і сам не ведаў: ёсць яны ў яго ці няма? У нябёсах такім рэчам не вучаць, а ён адтуль не вылазіў.

Таму на аўдыенцыю да Лявона Баршчэўскага, дэпутата і сябра камісіі Вярхоўнага Савета па культуры (ці адукацыі – халера іх там запомніш), мы з Ігарам выправіліся ўдвух. Не кажучы пра Алеся Разанава, сп. Лявон дыстанцыйна нас таксама ўжо ведаў. Адразу далікатна пахваліўся, што дыплом пісаў паводле "Логіка-філасофскага трактата" Людвіка Вітгенштайна.

Гаворка была прыязнай, з салідарным разуменнем актуальнай патрэбы філасофскага часопіса для Беларусі

На заканчэнне сустрэчы сп. Лявон сказаў:

– Хлопцы, да мяне штодня хто толькі не ходзіць. Але вам я даю веры.

Далей былі яшчэ словы пра магчымую дапамогу, толькі ўсё гэта не спатрэбілася, бо неўзабаве здарыўся цуд...

Аднак перад гэтым трошкі словаў пра Лявона Барчэўскага, і зусім не таму, што потым мы прысябраваліся і я яго па сёння моцна паважаю ды люблю.

На пачатку апошняга беларускага Адраджэння Лявон Баршчэўскі быў інтэлектуальным сімвалам нацыянал-дэмакратычнага руху. Першы намеснік Пазняка, разумнік паводле азначэння, паліглот, які на розных узроўнях ведаў невядома колькі моваў, стваральнік цэлага шэрагу слоўнікаў і перакладаў кніг мастацкай прозы... Дарэчы, меў выдатны голас і яго нават запрашалі ў Оперны тэатр.

Далей чамусьці згадаўся найперш такі выпадак. Калі з пільнай патрэбы запытаў Лявона, як найболей карэктна перакласці з дацкай на беларускую прозвішча *Kierkegaard* (тады пісаў пра любімага філосафа эсэ), то не адразу, а праз некалі хвілінаў глыбокага роздуму лабастай галавы, атрымаў адказ: Кіркегар. Так цяпер мы і называем дацкага Сакрата, а не выбіраючы з некалькіх рускіх варыянтаў – Киркегор, Киркегард і г.д.

Мала з кім так хараша было ехаць цягніком у замежжа, як з Лявонам. Трохі падвесяліўшы сябе, мы распачыналі дзіўную гульню. Я называў еўрапейскую краіну, а ён спяваў на яе мове песню. І колькі б тых краінаў я не згадваў, аўтэнтычных песняў у Лявона заўсёды хапала – з каптуром...

***

Як кажуць, хоць забі – не памятаю, з чаго і калі непасрэдна распачаўся вышэйпамянёны цуд. Натуральна, Вольга Іпатава і яе намесніца Людміла Крушынская ведалі, што мы з Бабковым ды Разанавым прыдумляем філасофскі часопіс. Рыхтуючы “Эліту” і “Суплёт ідэй”, я не толькі распавядаў ім пра нашыя справы, але і наперад дзячыў за тое, што мне *культураўскі* досвед моцна спатрэбіцца ўжо ў непасрэднай працы з часопісам.

Але пакуль справа з нашым праектам марудзілася і марудзілася, нейк паклікалі мяне мае начальніцы ды літаральна агаломшылі прапановай: маўляў, а чаму б, Валянцін, не стварыць нам “Філасофскі часопіс”, як дадатак да штотыднёвіка “Культура”?!

Прапанова была неверагодная, тым болей, што ўсе нашыя ўласныя ідэі паранейшаму выглядалі досыць сумніўна.

– Фантастыка, – усклікнуў я. – Толькі што хлопцы скажуць?

А што хлопцы маглі сказаць, яны не горш за мяне разумелі: гэта пакуль адзіны рэальны варыянт.

– Дык з чаго пачынаць? – запытаўся я на наступны дзень у рэдакцыі.

– Сядайце за стол, – сказалі шаноўныя кіраўніцы, – і пішыце ліст старшыні Савета Міністраў Кебічу.

Ну ні фіга сабе! Дзе я, а дзе той Кебіч?! І што з маім досведам вартаўніцкіх катухоў ды турысцкіх сутарэнняў можна напісаць такому важнаму чалавеку?

– Напішыце, – сказала Вольга Міхайлаўна, – што незалежная Беларусь без філасофіі...

Тут яна на нейкую хвіліну задумалася, а з мяне што тое чарцяня з табакеркі выскачыла:

– Як шлюбная ноч без нявесты...

Вольга Міхайлаўна зірнула такімі вачыма, што ў мяне мову заняло. (Хаця маладзейшая Людміла Аляксееўна неўпрыкмет пасміхнулася.)

Карацей, пасля грунтоўнага інструктажу мне сказалі:

– А ўвогуле, Валянцін, за што змагаецеся ў сваіх артыкулах ды эсэ, тое і напішыце, толькі каб не зашмат.

Я пісаў ліст Кебічу два дні, потым яго рэдагавалі Іпатава з Крушынскай, потым чыталі стыль-рэдактар і карэктары, потым павезлі міністру культуры, потым прывезлі назад...

– Ужо будзем адсылаць Кебічу? – я ўсцешыўся.

– Навошта адсылаць? – здзівілася Вольга Міхайлаўна. – Надрукуем у газеце. Толькі спачатку вам трэба будзе сабраць пад гэтым лістом колькі дзясяткаў подпісаў, бо гэта ж не мы будзем прасіць Вячаслава Францавіча, а ўвесь гонар нацыі будзе прасіць за філасофскі часопіс.

– Дык як тут мне ўправіцца? Я ж толькі са склепа вылез і нікога з гонару нацыі асабіста не ведаю. Адно, хіба, Разанава...

– Талакой дапаможам, – запэўніла Вольга Міхайлаўна.

– На раз управімся, – падбадзёрыла Людміла Аляксееўна.

І ўправіліся. Ужо недзе праз дзён дзесяць (22 лютага 1993 г.) зварот быў надрукаваны ў газеце.

АДКРЫТЫ ЛІСТ
ДА СТАРШЫНІ САВЕТА МІНІСТРАЎ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
КЕБІЧА ВЯЧАСЛАВА ФРАНЦАВІЧА

Шаноўны Вячаслаў Францавіч!

Філасофія, культуралогія, эстэтыка – неад’емныя складнікі кожнай нацыянальнай культуры. Да таго ж яны – яе вышэйшыя праявы і адначасна формы наступнага развою. Таму мы звяртаемся да Вас з гэтым лістом у надзеі, што справа фармавання нацыянальнай філасофіі, якая стаіць перад нашай маладой дзяржавай, атрымае разуменне і падтрымку.

Апошнія 70 год, нягледзячы на наяўнасць шматлікіх газет, часопісаў, выдавецтваў, акадэмічных установаў, філасофія, культуралогія, эстэтыка па сутнасці былі пазбаўленыя магчымасці прысутнічаць у нацыянальнай культуры. Перыядычныя выданні амаль не друкавалі сучасных культуролагаў і эстэтыкаў, выдавецтвы абміналі ўвагай класіку сусветнай і еўрапейскай філасофіі, а ў акадэмічных установах навучалі дыялектычнаму матэрыялізму ў звязку з марксізмам-ленінізмам і гэткім навучаннем вытручвалі апошнія парасткі нацыянальнага досведу і нязмушанага мыслення.

Так не павінна быць, і так далей, спадзяемся, не будзе. У шэрагу розных праяў відавочна акрэсліваецца тэндэнцыя да заглыбленага пранікнення ў сутнасць рэчаў і з’яў, усё часцей сустракаюцца прыклады, якія сведчаць аб памкненні творчага духу нацыі да паўнавартаснага ўсведамлення сябе ў Сусвеце і Сусвету ў сабе. Але каб гэты працэс набыў незваротны рух, каб метафізічная творчасць трывала ўвайшла ў сферу нашай духоўнай дзейнасці, неабходна падтрымаць яе на шляхах станаўлення. І найперш неабходна стварыць адпаведны кантэкст для тых літаратурных і культурасофскіх тэкстаў, што пакуль вымушаныя шукаць выпадковага прытулку ў традыцыйных выданнях ці ўвогуле не могуць знайсці свайго друкара. У практычным плане гэта азначае, што трэба распачаць літаратурна-філасофскі часопіс, на падставе якога можна было б актуалізаваць нацыянальны досвед сэнсатворнай духоўнай дзейнасці і гэтым спрыяць вылучэнню з універсальнага зместу нацыянальнай філасофіі і культуралогіі.

Зважаючы на тое, што газета “Культура” – адзінае на Беларусі выданне, якое з першага свайго нумара паслядоўна і мэтанакіравана працуе ў гэтым накірунку (штотыднёвыя філасофскія старонкі “Эліта” і “Суплёт ідэй”), падаецца мэтазгодным

менавіта пры ёй стварыць літаратурна-філасофскі дадатак у форме часопіса. І хаця адзін часопіс, натуральна, не вырашыць усёй праблемы фармавання нацыянальнай філасофіі, гэты першы крок пажадана зрабіць не марудзячы, бо ўмовы для яго выспелі і патрэба ў ім відавочная.

А пад лістом былі подпісы двух народных паэтаў Беларусі (Гілевіча і Барадуліна), трох народных мастакоў Беларусі (Шаранговіча, Кашкурэвіча, Шчамялёва), адной народнай артысткі Беларусі (Стэфаніі Станюты), аднаго народнага артыста СССР (Мікалая Яроменкі), двух членаў-карэспандэнтаў (Падлужнага і Бандарчыка), чатырох дактароў філасофскіх і філалагічных навук (Конана, Крукоўскага, Булыкі, Фядосіка), двух намеснікаў старшыняў камісій Вярхоўнага Савета (Вярцінскага і Трусава), аднаго галоўнага рэдактара часопіса (Някляева), аднаго паэта (Разанава), аднаго перакладчыка (Сёмухі), аднаго мастацтвазнаўцы (Крэпака)...

Каманда рэдакцыі так захапілася паляваннем за подпісамі, што мы падрыхтавалі яшчэ дзясятак падпісантаў, толькі галоўны рэдактар спыніў рэдакцыйны шал:

– Хопіць яму (меўся на ўвазе Кебіч) і гэтага, – рашуча сказала яна.

Сапраўды, мела рацыю.

***

Дзіўныя былі часы, неверагодныя. Цяжка нават даць веры, што мы так хутка забыліся на тое тэктанічнае ўзрушэнне, якое цягам амаль дзесяцігоддзя (ад сярэдзіны васьмідзясятых да сярэдзіны дзевяностых) трымала дзень пры дні ў напятым стане сотні мільёнаў людзей еўразійскага кантынента (а ягонае рэха ўвесь гэты час хадуном хадзіла па ўсёй зямной кулі).

Нарадзіцца варта было адно дзеля таго, каб уласным сэрцам пражыць тую эпоху “буры і націску”, калі пад напорам новай веды і новай волі да ўлады бурыліся дзяржаўныя муры і межы, іначыліся ды паўставалі не існуючыя раней краіны і ў кожнай асобна ўзятай галаве буяла свая рэвалюцыя...

Нарадзіцца варта было адно дзеля таго, каб перажыць тую вялікую Эмоцыю, пасля якой ты аднойчы прачнуўся ў тым самым сваім жыцці, але ўжо зусім іншым чалавекам і ў цалкам іншым свеце...

У тыя гады мне самахоць не аднойчы згадваліся радкі любімага паэта маладосці (Цютчава):

Блажен, кто посетил сей мир
В его минуты роковые!
Его призвали всеблагие
Как собеседника на пир.

Гэта было і пра мяне таксама.

Беларусь прагаласіла незалежнасць 25 жніўня 1991 года, але што рабіць з гэтай незалежнасцю, беларусы не ўяўлялі ці ўяўлялі хутчэй рамантычна, а не палітычна. Прыкладам таму БНФ – самая моцная і дзейная на той момант палітычная сіла, якая прапаноўвала будаваць нацыянальную (хутчэй нацыяналістычную) дзяржаву. Нейкі час гэтая ідэя мела досыць шырокую падтрымку, прынамсі сярод найболыш актыўнай часткі грамадства. Разам з тым, ніякай пэўнасці пакуль не было ні сярод бальшыні насельніцтва, ні сярод бальшыні чынавенства. Апошнім было найгорай, бо ім трэба было штодня прымаць канкрэтныя рашэнні, а як тут здагадаешся: на чыю карысць прымаць?

Можа, Расія з камуністамі вернецца, можа, нацыяналісты захопяць уладу, можа, яшчэ якая халера здарыцца? Таму дзе атрымлівалася, дык на ўсялякі выпадак

дагаджалі ўсім. Відаць, не без гэтага Савет міністраў нязвыкла хутка адгукнуўся на арганізаваны намі зварот.

А можа, і дарэмна так нядобра думаць пра чыноўнікаў агулам. Філасофія тады яшчэ была ў вялікай пашане ва ўсіх адукаваных людзей. А ва ўрадзе, напэўна, ужо было даволі функцыянераў, якія адказна клапаціліся пра лёс маладой дзяржавы і яе ўласнай культуры.

***

Трохі пра рэдактарскую працу і *свой першы* тэкст...

Неяк я доўга завіхаўся ля ганарлівага аўтара, каб выцыганіць патрэбны матэрыял. Калі той сышоў з рэдакцыі, Людміла Крушынская з'едліва заўважыла:

– Вы б перад ім яшчэ подбегам дзверы расчынілі.

– Што там дзверы? Я мог бы пабегчы да яго і вымыць падлогу ў кватэры, каб толькі ён гэты тэкст нам адшкадаваў.

– Ды што вы кажаце, Валянцін! А дзе прафесійны гонар? Дзе павага да сваёй працы? – уз'юшылася Людміла Крушынская.

– Сорам вочы не выесць. А ганарыцца давайце не сабой, а той справай, якую мы з вамі робім, – нечакана для сябе эмацыйна выгукнуў у адказ.

Паколькі ў мяне заўсёды было (і застаецца) моцнае пачуццё піетэту да іерархіі як такой, то гэтае публічнае абурэнне словамі намесніка рэдактара сведчаць, што яны зрушылі ўва мне нешта надзвычай істотнае.

Магчыма, гэтаму і цяжка даць веры, толькі для мяне чужыя тэксты (кнігі) заўсёды былі больш важныя за ўласныя. Дзе б я ні працаваў рэдактарам, я не кранаў з шуфляды свайго рукапісу, пакуль заставаўся не падрыхтаваным да друку хоць адзін тэкст *майго* аўтара. Тое ж самае і з кнігамі...

Рэдактарская праца марудная, складаная і не вельмі ўдзячная. Але, як казалі мае продкі: лёс на кані не аб'едзеш. Відаць, так было мне наканавана, а Кону трэба даваць веры (гэта ўжо я казаў). Тады, магчыма, аднойчы табе пашанцуе прачытаць пра сябе наступнае:

*"Каб я мела вялікую ўладу, я сабрала б па зернюку на нашым беларускім архіпелагу ўсіх рэдактараў (акрамя Гіля Мікалая Сымонавіча – ён сам валодае гэтым уменнем) – і абавязкова прымусіла наведваць час ад часу светлую навучэльню, у якой бы панаваў Акудовіч: як трэба прымаць звычайнага аўтара, як яму можна дапамагчы, накіраваць глыбей да самога сябе – усё гэта тактоўна, прыхільна. Нацыя не згубіла б аніводнага свайго слова, аніводнага пісьменніцкага лёсу. Я ж размаўляла з Валянцінам Акудовічам толькі па тэлефоне. Калі ўжо праца над маім апавяданнем была скончана, я яшчэ доўга прыручана чакала званка, як чакаюць вады ў пустэльні, успрыняўшы ягоную павагу неяк надта асабіста. А ён здымае капялюш перад кожным усмаглым творцам".*

Гэты ўзнёслы спіч Марыі Вайцяшонак тыднёвік "ЛіМ" надрукаваў 11 снежня 1998 г., толькі і па сёння мы са сп. Марыяй ні разу не перастрэліся. Нават дзіўна, як такое магло стацца? Відаць, пра гэта ведае толькі мой Кон, а ў яго не запытаешся. Хаця я па-ранейшаму лічу Марыю Вайцяшонак адным з самых яркіх і таленавітых беларускіх празаікаў нашага часу, якая няведама чаму апынулася ў засені і крытычных рэфлексій, і шырокай публічнай увагі...

Разам з тым, наколькі б я ні быў аддany рэдактарскаму пакліканню, уласныя тэксты таксама пісаліся. Прынамсі, зрэдзьчас. Далей згадаю адзін з іх, бо ён неўпрыкмет адмовіў усё тое, што ў мяне хоць дзе друкавалася раней. Тут я маю на ўвазе маскоўскія часопіс "Знамя" і альманах "Подвиг", мінскія выданні "Нёман", "Беларусь", "ЛіМ" "Культура" і нават той жа тэкст у "Нашай Ніве".

Інакш кажучы, пасля эсэ "Эгаізм", надрукаванага ў "ЛіМе" вясной 1992 г., усё

маё былое крэмзанне паперы як карова языком злізала. Знікла дазвання. Гэта значыць, што насамрэч толькі ў 42 гады я надрукаваў *свой першы* тэкст.

***

Пэўна, у мяне не атрымаецца коратка і выразна патлумачыць, што са мной тады напраўду адбылося. Ну але ж хоць як... Перадусім, нарэшце мова апаланіла мяне наўсцяж і пратачыла наскрозь. Цяпер мы гуляліся з мовай, як рака з рыбай ці як рыба з ракой. У гэтым стане мне лёгка і глыбока *дыхалася,* таму я мог без перапынку плысці скрозь туманы і нябёсы аж за боскі небакрай. Як доўга я чакаў, каб маім домам сталася ўсё Быццё разам. І вось збылося! Далей, пра што б я ні казаў, я не мог не запакоўваць гэтае "*што*" ў фундаментальную анталогію Быцця. І Беларусь найперш...

Дарэчы, гэтае перастварэнне здарылася сярод ночы ў рэдакцыі "Культуры", дзе была мая чарга вартаваць першыя рэдакцыйныя кампутары (неверагодная каштоўнасць на той час). Апоўначы зусім з нічога нейкі дзіўны жар ахапіў нутро (лоб заставаўся халодным) і да ранку я напісаў большую частку эсэ, першая назва якога была: "Мой бог – Этнас".

Пачыналася яно з наступных словаў:

*"Мне кажуць (сёння я чую гэта з усіх бакоў), што* ***Я*** *– найвялікшая каштоўнасць. Большая за дзяржаву, нацыю, рэлігію і, магчыма, нават самога пана Бога.*

*Не ведаю, можа які іншы чалавек і з'яўляецца такой значнай цацай, толькі не я. Я не бачу асаблівай цаны ў нейкай колькасці арганікі, выдзеленай з агульнага кантэксту "жывога рэчыва" даўно набытымі нагавіцамі і зацыраваным швэдрам.*

*Я – гэта семдзесят кіло костак, тлушчу, цягліц і вадкасці чырвонага колеру, змешчаных у колькі там метраў бляклай скуры. Дадайце сюды трошкі нерваў, дватры хаценні, некалькі запазычаных думак... Вось і ўсё. Гэтым амаль і вычэрпваецца тое, што мы называем чалавекам. А мне і згэтуль і адтуль: ты цэнтр сусвету, апірышча быцця і, зусім верагодна, ягоны сэнс.*

*Я торгаю вуха, ушчыкваю клуб і, як той андэрсанаўскі хлопчык, толькі не весела, а з сумам, пярэчу: "Чалавек голы".*

*Я ганарлівы, як засцянковы шляхцюк, але гэта ўжо занадта. Што я, сябе не ведаю? З якой такой ласкі – найвялікшая каштоўнасць, за што такая пашана?*

*Магчыма, іншых гэта і не цікавіць, а мяне дык надта: як раб божы стаўся самакаштоўнай цацай? Калі чалавек сам-насам спрычыніўся да сэнсу быцця і якім чынам знітаваў з сабой гэты сэнс?"*

Не бачу патрэбы далей працягваць... Тым болей, што названы тэкст важны для мяне як пачатак ужо іншага мыслення і пісьма, а не сам паводле самога сябе. Заакцэнтую яшчэ адно два моманты з таго эсэ. Першы:

*"Я – голы чалавек на скразняках часу, і калі нешта шукаць у звязку з маёй асобай, то гэта не я сам, а мой этнас ува мне.*

*Я – гэта колькі там тысяч год і колькі там соцен каленаў майго роду, і ўся мая каштоўнасць – гэта каштоўнасць скарбонкі, у якую ссыпаны скарб, набыты нястомнай працай продкаў цягам невядома якога часу. І калі прыходжу да высновы, што я ўсяго толькі месцішча, дзе мой этнас працягвае існаванне з усімі сваімі тысячагоддзямі і каленамі, то амаль міжволі вымаўляю: мой бог – мой Этнас".*

І другі момант, які тлумачыць, чаму я не даю веры юда-хрысціянскаму Богу:

*"Справа тут да смешнага простая – я не веру ў Яго існаванне. Я не магу даць веры існаванню Бога, якога здолеў перамагчы эгаізм чалавека. Калі не Бог, а чалавек найвялікшая каштоўнасць, калі семдзесят кіло гуманістычна заклапочанай арганікі крочыць наперадзе, а духоўная ідэя валачэцца за яе спінай, як цень на зыходзе дня, то мяне немагчыма пераканаць, што гэты даўжэзны цень ёсць прычына мяне, а не наадварот. Ён мяне толькі палохае, калі я часам азіраюся".*

Васіль Дранько-Майсюк



...баяцца трэба не вонкавых ворагаў,
а сваіх таварышаў...

# Зміцер Жылуновіч і яго крыўда

## *Ці варта верыць Максіму Гарэцкаму і Уладзіміру Дубоўку?*

Ён і сапраўды быў вельмі крыўдлівы.

Лічыў, што яго не цэняць.

Па-дзіцячы востра перажываў, калі чытаў пра сябе эпіграмы, пародыі, не пераносіў нават самай лёгкай крытыкі.

Калі ўзначальваў Дзяржвыдавецтва БССР, мог аднаго пісьменніка надрукаваць праз тыдзень, а другога (напрыклад, Уладзіміра Дубоўку) унесці ў "чорны спіс".

У шматлікіх газетных і часопісных артыкулах быў шчодры на маляўнічае выяўленне сваіх «крыўдзіцеляў».

Напрыклад, яго вельмі абразіў бацька беларускага адраджэння і анёл-ахоўнік маладога Янкі Купалы Вацлаў Іваноўскі.

Жылуновіч згадваў, як наймаўся ў 1909 г. парабкам да Іваноўскага. Колькі чыста падлеткавай злапамятнасці ў гэтых радках: «Да прыходу цягніка з маёнтку прыехалі дзве падводы – адна панская каламажка на спружынах, запрэжаная ў пару добрых стаенных коней, а другая – просты аднаконны дваровы нарадзік. Тройца [псеўданім Іваноўскага – *В. Д.-М.*] з жонкаю

ўсеўся ў першы, мяне-ж, зразумела, даручыў фурману другое /.../. Заехаўшы /.../, накіраваў мяне ў парабкаўскую кватэрку, а сам, спатканы роднымі, пайшоў у пакоі. «Вы пачакайце крыху, зараз прыдуць і дадуць вам есці», – суцешыў ён мяне з ганку пакояў /.../ Мінула гадзіна часу – мінула больш – я ўсё чакаў, маючы справу з мухамі. Раптам у пакоях Іваноўскіх зайграла музыка. Пачуліся тэнаровыя заспевы. Музыка і песні стройнаю мелодыяй выліваліся ў адчыненыя вокны пакояў. Ад іх нясло панскім задавальненнем, бяспекаю і асалодаю жыцця. /.../ на мяне-ж... музыка нагнала злосць і роспач. Я ня мог яе слухаць спакойна, тут-жа ўзмоцнена пачаўшы думаць, як быць. Было ясна, што дзядзька Тройца пра мяне забыў /.../ Што аставалася рабіць? Чакаць? Чаго? У момант перада мною вызначылася выразная рашучасць – кінуць Лябёдку і дзядзьку Тройцу /.../ З карзінкаю за плячыма я выйшаў з двара фальварку і пад зыкі музыкі пайшоў на станцыю» (Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2008).

Напачатку 20-х гг. Зміцер Жылуновіч крыўдзіўся на старэйшае пакаленне пісьменнікаў, бо яны сваімі творамі не падтрымалі Кастрычніцкую рэвалюцыю: «Для беларускіх пісьменьнікаў незразумелым было тое гэраічнае, першае сьвядомае змаганьне працоўных грамадаў за сваю Сацыялістычную радзіму, Беларусь. Кроў і ахвяру тых беларускіх сялян і рабочых, чые мукі раней натхнялі беларускіх парнасцаў, цяпер ня кратaлі зьдзеравянелых сэрцаў запуджаных песьняроў. Яны або маўчалі, або ўпотайку, як шашаль у дзераве, рыпелі тонамі будзённых днёў, тонамі васеньніх скрыпак, тонамі нуды, безнадзейнасьці» (Беларускі Парнас у новай вопратцы (Абегла-крытычны нарыс). // Полымя №2, 1923).

Але ж, разам з тым, акрамя «парнасцаў», што рыпелі, бы той «шашаль», яго, пралетарскага пісьменніка, абуралі і «працоўныя грамады Менска», з якімі не мог знайсці агульную мову: «Усе на падбор яны былі несьвядомымі, малапісьменнымі, распуснымі. Зьмест іх гутарак не выходзіў з вузкага кола абгавору плянаў выпівак і залётаў за дзяўчатамі. Здарэньні, якія вынікалі з гэтага, смакаваліся, выклікалі рогат, рашучасьць на працяг у далейшым. Мяне дзівіла, каб у Менску можна было стрэць гэтак адсталых у сьвядомасьці і разьвіцьці рабочых...» (Цішка Гартны. «Дваццаць гадоў назад» (Успаміны зь мінулага). // Полымя №5, 1929).

Безумоўна, былі прэтэнзіі ў Жылуновіча і да паэтаў «маладнякоўцаў», якія прыйшлі на ўсё гатовае і не хацелі выкарыстоўваць тыя вялікія магчымасці, якія ім шчодра дала савецкая ўлада: «Савецкая ўлада /.../ адчыніла шырокі шлях да культурнай творчасьці, неасяжныя магчымасьці перад кожным /.../ Не патураць на гэта, глядзець у гэты бок з нядбайствам – праступак у адносінах да сябе, да свайго і разам да агульнага дабрабыту. Да шкоды, сярод беларускіх маладых пісьменьнікаў наглядаецца гэта ў вельмі выразнай форме. Прычын гэтаму многа. Найважнейшая з іх – гэта параўнаўчая лёгкасьць, з якой можна з'явіцца ў сьвет. Усякая друкаваная рэч, зразумела, надае яе аўтару гордасьці, задзёру і самалюбства /.../, самаўпэўненасьць /.../. Праца над самаадукацыяй адпіхаецца навамодным пісьменьнікам далей ад сябе, і ён застаецца на ўсё жыцьцё з тым, з чым пачаў пісаць» (Зьміцер Жылуновіч. Купчастыя руні. Крытычны нарыс пра П. Труса і А. Моркаўку // Полымя №2, 1926).

Сярод беларускіх маладых паэтаў 20-х асабістым ворагам лічыў Уладзіміра Мікалаевіча Дубоўку, які ў сваёй паэме «І пурпуровых ветразей узвівы» так «пахуліганску» апісаў героя нашага артыкула:

Вось ідзе адкрыты чэрап,
ён мазгі нясе ў партфелі.
Свае іклы злосна шчэрыць,
каб яму «асанну» пелі...

Паводле Уладзіміра Дубоўкі, гэтая варажнеча пачалася наступным чынам: «Рускія паэты запрасілі беларусаў выступіць у іхным клубе, фактычна – першы раз за ўвесь час [другая палова 1922]. Здавалася б, самым разумным было б арганізаваць прыезд у Маскву Я. Купалы, Я. Коласа, М. Чарота /.../ Прыехаў жа адзін Ц. Гартны. /.../ Нейкім гнусавым, замагільным голасам ён робіць «даклад» аб беларускай літаратуры. Вялікае месца вылучае сабе. /.../ абвяшчае: – Цяпер я пачытаю вам свае творы... Цяжка ўявіць сабе, што гэта было за чытанне. /.../ І тут раптам, абсалютна нечакана для мяне, Ц. Гартны гаворыць: «Зараз пачытае свае вершы пачынаючы паэта Уладзімер Дубоўка» /.../ Добра, што я ведаў нямала сваіх твораў на памяць. /.../ Я чытаў гучна, выразна, так, як было прынята ў Маскве. /.../ узнялася хваля воплескаў. Я прачытаў другі верш /.../ Аўдыторыя заапладзіравала яшчэ гучней. Пачуліся галасы: «Дубоўка! Давай яшчэ!» /.../ Пасля вечара /.../ Ц. Гартны з вялікай злосцю сказаў: „Г...о! Абракадабра нейкая! Яны, дурні, нічога не зразумелі, вось і апладзіруюць!» (Уладзімір Дубоўка: Ён і пра яго. 2017).

Але, наколькі б такі нечаканы поспех Дубоўкі не закрануў самалюбства героя нашага артыкула, можа ўсумніцца, што Жылуновіч пачаў адчуваць да маладога паэта такую ўжо «вялікую злосць».

Бо роўна праз год Зміцер Хведаравіч (пра што вымушаны быў згадаць і той жа Уладзімір Мікалаевіч) піша «самую першую рэцэнзію на мой [Дубоўкі] першы зборнік «Строма» і надрукаваў яе ў «Полымі», рэдактарам якога быў доўгі час» (Уладзімір Дубоўка. Сустрэчы. / Успаміны пра Цішку Гартнага. 1984). А свой зборнік «Трэскі на хвалях», паводле Дубоўкі, «ён падарыў /.../ з надпісам: «Уладзіку Дубоўку – маладому песняру – здольнаму і шчыраму беларусу-таварышу ад Цішкі Гартнага. Менск, 13/Х.24» (там жа).

А што «шчыры беларус-таварыш»?

Ён у адказ называе свайго шляхетнага рэцэнзента «грубым, малакультурным, сябелюбівым». І калі ў рэцэнзіі на «Строму» Жылуновіч пісаў, што «верш Уладзімера Дубоўкі, апроч музычнасьці, варожыць яшчэ й сваёю сочнасьцю, багацьцем прыгожых вобразаў, нібы зложаных з рознамульнага галёну (бісер)» (Ц.Г. Уладзімер Дубоўка. *Строма.*// Полымя 1923, №3-4), дык яго малады калега адназначна называе рыфмаваныя творы Жылуновіча «няўмелымі, шурпатымі».

«Мае радкі шурпатыя?» – мог справядліва здзівіцца наш герой. А што тады можна сказаць пра Дубоўкавы «пэрлы»?

Нашы крозы, наша хваравітасьць
і, часінай, дробныя сусьціргі, –
ці раўня з якім цыанамідам
будуць там, дзе плуг заменіць ціглі?

А як звычайны чытач зможа патлумачыць радок з паэмы «Там, дзе кіпарысы»: «Хто дайлідзіць духу трыкліні?»

Калі ж казаць пра выступленні самога Дубоўкі, то вось як дастаткова бязлітасна пісаў пра гэта Алесь Дудар: «Як толькі яго аб'явілі, уся заля, асабліва дзяўчаты, аж заходзілася, плешчучы. Ён устаў і аказаўся высачэзным хлопцам з грубымі рысамі твару. Балянсуючы і размахіваючы рукамі, ён пачаў чытаць нараспеў. Не выгаворваў літары «р» і таму ўсю сваю ўвагу накіроўваў на мелёдычнасьць дэклямацыі. На яго твары лунала пагардліва-гіронічная ўсьмешка. Да яго падыходзілі, нешта яму гаварылі, а ён толькі пагардліва махаў рукамі...» (Алесь Дудар. Вецер з усходу. // Полымя. 1928. № 4.)

Але, безумоўна, найбольш крыўдным для героя нашага артыкула было тое, што ні Дубоўка, ні яго атачэнне зусім не цанілі тое, што менавіта дзякуючы Змітру Жылуновічу была створана першая беларуская савецкая дзяржава ССРБ.

Яны забыліся, што ў артыкуле «Як жа зь Беларусьсю?» (Дзяньніца №38, 19 лістапада 1918) Жылуновіч меў смеласць папракнуць Сталіна (які на той час быў камісарам у справах нацыянальнасцяў) за няўвагу да Беларусі: «Весь час, са дню расейскай рэвалюцыі, беларускае пытаньне нядбайна прапушчаецца між пальцаў. Нашы таварышы, трымаючыя ўладу, павінны кінуць сваю нядбаласьць да цэлага народу і ясна паставіць пытаньне аб долі Беларусі».

Менавіта гэты артыкул паспрыяў утварэнню беларускай дзяржавы на чале са Змітром Жылуновічам.

Замест пашаны і добрай памяці Жылуновіч мог прачытаць паэму Дубоўкі «Урачыстая дата», дзе стваральнік беларускай савецкай дзяржавы быў здзекліва выведзены ў вобразе «зайкі»:

Прышоў і зайка, просіць пайку.
Якую пайку? – Сам ня знае!
Ня то ён войкаў, гэты зайка.
калі была пара ліхая.
Ня то ён бегаў у алешнік
І тым рэспубліку уславіў.
Адно вядома – што канешне
павінна мейсца быць на лаве.
Яго вазілі, даглядалі,
зрабіўся тлусьценькім наш зайка.
І вось прарокуе у далі,
узяўшы ў рукі сваю пайку. —
«Усё што зроблена ў краіне,
свой ад мяне вядзе рыштунак.
І як памру – за мною хлыне
на той сьвет мне у падарунак»...

Акрамя падобных нападаў Жылуновіч засмучаўся таксама, што ўвогуле дата 1 студзеня (калі была створана Беларуская Савецкая Рэспубліка) пачала забывацца нават і на дзяржаўным узроўні. Пра што з непакоем пісаў напачатку 20-х.: «...апошнія гады ў гісторыі [беларускага народу] прынясьлі яму адно вялікае надзвычайнае здарэньне, якое палажыла нязгладныя сьляды ў яго жыцьці і якое дало новы кірунак яго разьвіцьцю. Гэта здарэньне — абвяшчэньне Вольнай Незалежнай Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. Яно адбылося першага студзеня новага стылю 1919 году, даўшы краю дзяржаўныя формы жыцьця, а з няведанага, спагарджанага народу — зрабіўшы пэўнага гаспадара свае краіны. І таму першага студзеня павінна /.../ быць сьвятам Беларускай рэспублікі. Тры мінулых гады прайшлі зусім незаўважна к гэтаму дню. Зь бегам часу ён адыходзіць усё далей і далей ад нас. /.../ Гэта можна казаць аб нашых бязуважных адносінах да тых гістарычных дзей, якіх мы былі сучасьнікамі і якія зьвязаны з нашым лёсам. Гэта гатова сьведчыць аб нашым раўнадушшы да нашай гісторыі — а знача і да нас саміх...» (З. Жылуновіч. 1 студзеня мусіць быць сьвятам // Савецкая Беларусь». 1922, № 251, 12 лістапада).

Крыўды і несправядлівасці маглі прыносіць нават тыя газеты з часопісамі, што ставіліся да Жылуновіча з вонкавай паважлівасцю.

Ну, які можа быць, да прыкладу, творча-святочны настрой, калі чытаеш зацемку, дзе чэшскія крытыкі лічаць аўтарам першага беларускага рамана... Міхася Зарэцкага: «Сокі цаліны» [эпапея Цішкі Гартнага. — *В.Д.-М.*] павінны былі б зьявіцца першым беларускім раманам. /.../ Аднак ён застаецца няскончаным — і гонар напісаньня першага беларускага раману выпаў на долю Міхася Зарэцкага («Сьцежкі-дарожкі» /.../). Зарэцкі здабыў сабе /.../ пачэснае месца». («Новая беларуская літаратура». Перадрук з артыкулу чэскага выданьня Prager presse. 1927, № 346, 17-га сьнежня. // Літаратурны дадатак да газэты «Савецкая Беларусь» 1928, № 2. 15-га лютага).

Так, безумоўна, крыўдлівасць Жылуновіча многім кідалася ў вочы.

Калі яна ім апаноўвала, то ён станавіўся па-дзіцячы безабаронны.

Менавіта гэта меў на ўвазе былы «ўзвышанец» і апанент Максім Лужанін, калі пісаў: «На сягонняшніх уяўленнях пра Цішку Гартнага ёсць не дужа прыемны налёт, які пакінулі групавыя адносіны ў літаратуры 20-х гадоў. Маладнякоўцы, абвясціўшы паход «у рожкі са старымі» /.../ вымушаны былі неўзабаве схіліць свае слабенькія рожкі перад Купалам, які як быццам не заўважыў дзёрзкіх нападаў, перад Коласам, які аплявушыў, і даволі адчувальна, задзірак. Бядуля ўратаваўся ад нападаў, уступіўшы ў «Маладняк», тую арганізацыю, якая нападала на яго, а Цішка Гартны адбіваўся, удала і няўдала, і яму трапляла найбольш з усіх бакоў. Калі з «Маладняка» выйшла «Узвышша», Цішка Гартны не быў прыхільнікам гэтай падзеі і сустрэў яшчэ адно кола асоб, што не саромелася ў выстаўленні рожкаў» (Максім Лужанін. Крыху пра Ц. Гартнага. / Успаміны пра Цішку Гартнага. 1984).

Ён вельмі хацеў быць папулярным, значным, любімым, усімі паважаным. І, вядома, цалкам заслугоўваў, каб да яго ставіліся падобным чынам. Але, як тады, так і сёння – аматары беларускай літаратуры з большай ахвотай чыталі і чытаюць свабодалюбіва-іранічную паэзію неаднаразова згаданага тут Уладзіміра Дубоўкі альбо Тодара Кляшторнага, Валерыя Маракова і Язэпа Пушчы. Захапляюцца нервовым эратызмам прозы Міхася Зарэцкага. Фанацеюць ад эстэцкай творчасці ранняга Кузьмы Чорнага і Уладзіміра Хадыкі... Многія сённяшнія літаратуразнаўцы салідарныя з «узвышаўскім» крытыкам К. Кундзішам, які па-пракурорску безапеляцыйна пісаў: «Ня толькі выдатнага, але нават хоць-бы колькі-небудзь прыкметнага месца ў беларускай літаратуры ён [Зміцер Жылуновіч – *В. Д.-М.*] не займаў і не займае. Выцерабіцца на буйны літаратурны шлях у сілу свайго нязначнага таленту ён ня здолеў, тым больш ня здолеў ён стаць на ровень з такімі поэтамі, як Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч. У адносінах да хору гэтых трох выдатных поэтаў Ц. Гартнаму даводзілася быць толькі падпявалам, толькі быць падгалоскам з вельмі слабенькаю поэтычнаю тэхнікаю ды вельмі вузенькім кругавідам» (Sine ira et studio (Агляд поэзіі Цішкі Гартнага) // Узвышша, 1927, № 3).

Некаторыя сучасныя даследчыкі беларускай літаратуры захоўваюць такі ж самы скепсіс у адносінах да Змітра Жылуновіча.

Дзмітрый Давідоўскі, напрыклад, пры любой згадцы пра аўтара «Сокаў цаліны» любіць цытаваць вядомую эпіграму 20-х гадоў, прысвечаную нашаму герою:

Сядзіць дзядзя лысы
ля дзяржаўнай місы.
Капялюш берлінскі,
а характар свінскі.

Віктар Жыбуль не можа дараваць гэтаму «дзядзю», што ён ідэалагічна і эстэтычна не прымаў авангардных плыняў беларускай паэзіі.

Але ці сапраўды Зміцер Жылуновіч меў ужо такі «свінскі характар», а ў творчасці з'яўляўся ўсяго толькі «падпявалам»?

Як вядома, калі пачнеш вывучаць глыбей, то любая з'ява не выглядае такой ужо банальна-аднамернай.

Зміцер Жылуновіч умеў натхняць.

Напрыклад, геній экзатычна-прыгодніцкіх фантазій Янка Маўр знайшоў сваю творчую адметнасць дзякуючы спрыянню менавіта Жылуновіча: «...Мяне паклікаў у выдавецтва Цішка Гартны і кажа, што беларусы ня маюць свайго Майн Рыда і што мне трэба напісаць прыгодніцкую кніжку. «Як жа яе напісаць?» — пытаюся. «А ты паглядзі ўважліва карту», — гаворыць Гартны. Прыйшоў я дамоў. Вось жа задача: глянь карту паўшар'яў і вывудзі што-небудзь прыгодніцкае. Узяўся я за

астравы, на якіх бываў Міклуха Маклай. Пачаў капацца, варушыцца — і зьявілася аповесьць «У краіне райскай птушкі» (Аляксей Гардзіцкі. Жартам і сур'ёзна. // Маладосць, 1970, № 11).

У маладосці ярка складзеным вершам-экспромтам падымаў настрой любой сумнай кампаніі: «Прыходзячы на вячоркі, Цішка Гартны заўсёды ўмеў падняць настрой моладзі. Зойдзе, напрыклад, у хату, а там сумуюць. Ён адразу сачыніць верш. Глядзіш – і ўсе ўсміхаюцца» (Юлія Чарнушэвіч. Нашы вячоркі. / Успаміны пра Цішку Гартнага. 1984).

Любіў з неназаляльнай разнастайнасцю дапамагаць студэнтам, землякам, проста гасцям: «...то пакладзе наведвальніку грошы ў кішэню паліто, то купіць што-небудзь яго дзецям. Старэйшыя пісьменнікі дасюль згадваюць, як шчодра плаціў /.../ ганарар пачынаючым аўтарам, будучы дырэктарам Дзяржвыдавецтва. Рабіў ён і такое: дапаможа ўладкавацца на працу або вучобу і доўга потым сочыць за справамі свайго «хрэсніка» (Галіна Жылуновіч. Мой бацька. / Успаміны пра Цішку Гартнага. 1984).

Паводле Заіра Азгура, умеў без ценю дыдактыкі неназаляльна адукоўваць, узбагачаць ведамі свайго юнага суразмоўцу: «...Зміцер Хведаравіч незаўважна ўводзіў мяне, маладога мастака, у кола інтарэсаў, якімі жыла тады ўся наша творчая інтэлігенцыя. Энергетыка Савецкай Беларусі і друкарская справа, распрацоўка тарфяных залежаў і ліквідацыя непісьменнасці вясковага насельніцтва, значэнне Акадэміі навук БССР /.../ – усё гэта закранаўся ім у гаворках неяк неўзаметку» (Заір Азгур. Такім я памоню Цішку Гартнага. / Успаміны пра Цішку Гартнага. 1984).

А што ў творчасці?

Ці можна, скажам, паверыць Максіму Гарэцкаму, што проза Жылуновіча, яго апавяданні і раманы маюць вялікія заганы, бо: «...іхняя расьцягненасьць, цяжкі стыль, няправільныя беларускія звароты мовы і агульная панурасьць тону — робяць свайму чытаньніку немалую пакуту»? А хіба медытатыўная проза ранняга Кузьмы Чорнага не вызначалася «агульнай панурасцю» (асабліва апавяданне «Парфір Кіяцкі») і «расьцягненасьцю» (раманы «Сястра» і «Зямля»)? Хіба многія творы гэтак любімых Гарэцкім «узвышаўцаў» не вызначаліся «цяжкім стылем» і не рабілі масаваму чытачу «немалую пакуту»?

Паглядзім, як пачынае Зміцер Жылуновіч сваю эпапею «Сокі цаліны»: «Ужо зусім звечарэла, калі Зося прывяла з пашы каня... На вуліцы было цемнавата, але жыццё і не думала заміраць: на прызбах там і сям сядзелі мужчыны і бабы, ведучы рэзвую гутарку, у якой часта прабіваўся вясёлы і бясклапотны смех, жарты і выгукі. Сярэдзінай вуліцы доўгім цугам пляліся з пашы худыя, дробныя і панурыя кароўкі; хутка мчаліся мізэрныя, тонкія, замораныя свінні; збіўшыся гуртам і спалохана азіраючыся, падскаквалі галабокія стрыжаныя авечкі. Вуліца курэла ад пылу. Рык кароў, рохканне свіней і мэканне авечак і тут жа несціханны крык дзяцей, якія не лепш як авечкі, таўкліся па вуліцы, запыленыя і мурзатыя, ганяючыся адно за другім – усё гэта яскрава сведчыла аб рэзвым, віруючым жыцці ў закінутым у глуш мястэчку Сілцах».

Перад намі не проста традыцыйна-пабытовы пачатак сялянскага рамана (такіх было тысячы ў нашай літаратуры), як можа падацца на першы погляд. Уважлівы чытач, які не бярэ на легкаважную веру ўсё тое, што піша строгі крытык Максім Гарэцкі, чытач, адкрыты для нечаканых і разам з тым эмацыйна-праўдзівых эстэтычных паралеляў, убачыць, зразумее, адчуе, што пачатак «Сокаў цаліны» мае выразна опернае гучанне.

Вядомы факт, што Зміцер Жылуновіч вельмі любіў оперу. У Мінску, Берліне, Парыжы стараўся не прапускаць ніводнай прэм'еры, а калі пісаў сваю эпапею, то ставіў пласцінку з запісам оперы «Галька» Станіслава Манюшкі. Здзіўляе музычна-рытмічная, настраёвая еднасць працытаванай намі «ўверцюры» Жылуновіча і

самага пачатку «Гальці», калі ўсё пачынаецца з мернай, нават крыху гультаявата-стомленай няспешнасцю, а затым нарастаюць гукі, самыя розныя нервова-імпэтныя зыкі, паскараецца рух і пачынаецца само дзеянне.

Жылуновіч, калі пісаў «Сокі цаліны», то быў першым сярод беларускіх творцаў, хто мысліў менавіта як оперны кампазітар. На жаль, ні тагачасная, ні сённяшняя крытыка не звярнулі ўвагі на гэтую адметнасць.

Але не толькі опера мела эстэтычны ўплыў на пісьменніка.

Калі ён падарожнічаў разам з Міхасём Чаротам і Міхасём Зарэцкім у 1928 годзе па Заходняй Еўропе, то быў у захапленні ад жарсных прадстаўленняў Фалі-Бержэр: «...эстэтычны бок, надворны выгляд даведзены да віртуёзнасьці. Пры гэтым, у дадатак да багатай раскошнай маляўнічасьці, у кожным прыстаўленьні-рэўю маецца надзвычайна многа дынамікі. Несупынны рух сотняў удзельнікаў спэктаклю, выключна дзяўчат, падабраных і збоку адмысловага здароўя, і з боку дасканалай эстэтычнасьці фігуры, частая перамена вопратак і вобразаў самога прыстаўленьня, надаюць уражаньне несупыннага цёку, міганьня, трапятаньня ўсяе сцэны. Ніводзін спэктакль ня вольны ад эротычнага налёту. Наадварот, эротызмам у згушчаным выглядзе прасякнуты ўсе часьцінкі прыстаўленьня, /.../ адзеньне гірлс, зусім адкрытыя жэсты і сказы, асобныя сцэнкі, малюнкі заслонаў і дэкарацый /.../ Пастаноўка Фалібэржэ-рэўю зрабіла вялікае ўражаньне» (З. Жылуновіч. Па чатырох краінах. Рэўю // «Савецкая Беларусь», 1928, № 15, 18 студзеня). А чатыры гады да гэтага ён складае поўны харэаграфічнай разняволенасці верш «Каля бору сонца ходзіць», які паводле сваёй лёгкасці не саступае танцавальным цудам Фалі-Бержэр.

У адным з вершаў Жылуновіча («Каля бору сонца ходзіць») чаруюць сваімі танцамі «Німфы-ведзьмы, феі-панны», якія жарсна клічуць «На гулянку, на вяселле!.. /.../ Ў вербалозах, ў пухкім моху / Завіліся карагоды; / Вадзянік адставіў лёху / У крыніцы спадысподу. / Вір віруе / І шнуруе / Градкай лёгкай, / Лентай вохкай / Грэбень хваль. / Плецень-валь / Дымкай шарай / Туліць твары / Фей-русалак, / Што ў прагалак / Між кустамі над крыніцай / Распусцілі бросні-косы; / З хітрай мінаю глядзіцца / У іх лясун доўгавалосы».

Чытаеш гэты – не, нават не верш, а дзівосны сцэнар для новага нечуванага танца, і ўяўляеш, што дзесьці недалёка «за кадрам», хаваюцца Эдгар Дэга разам з Анры дэ Тулуз-Латрэкам, якія, натхніўшыся ўбачаным, самазабыццёва ствараюць свае жывапісныя шэдэўры.

А вось, калі ласка, іншы верш, чыя лаканічна-рэзкая музычнасць надае яму еднасці з экспрэсіўна-імпэтнай джазавай музыкай: «Як ідзе – / Шнур кладзе / Лёгкае хады. / Роўны стан / Увабран / Стужкаю ўсягды. / Свежы жар / Крые твар – / Свеціцца пагляд. / Валасы / Ў дзве касы / Спушчаны назад. / Паглядзіць – / Адарыць, / Сэрца ўскалыхне. / Падысці / Ў пачуцці / Да яе кожны мкне. / /.../ Хто маляр / Яе чар, / Строю, пекнаты? / Край з вякоў / Ніў, лясоў, / Беларусь – то ты!» (верш «Беларуска», *Капыль, 16.06.1923*).

Я нездарма згадаў пра джаз.

Калі велічная манументальнасць опернага мастацтва настройвала Змітра Жылуновіча на стварэнне адпаведнай у сваёй эстэтычнай магутнасці бязмежна-раманнай прозы, то гарэзлівы канкан і джазавая музыка спрыяла з'яўленню паэзіі.

Дарэчы, Жылуновіч быў ці не першы беларускі пісьменнік, які з нястрыманым захапленнем пісаў пра «музыку чорных», і самі гэтыя ягоныя артыкулы, дзякуючы сваёй вялікай энергетыцы радасці і шчасця, зараз успрымаюцца цудоўнай мастацкай самадастатковай прозай: «А сама музыка? На першы раз прывыкламу да камернай музыкі вуху робіцца незразумелым і як быццам-бы хаосным, безмэлёдыйным разухабісты, урачыстуючы экспансіўны гул джаз-банда. Дзесяткі рэзкіх (якія пачаста пераходзяць у сочныя нежныя), зыкаў, што адбіваюць галасы і шолах тропічнага лесу, плескат мора, шэлест тросьніку паўдзённа-амэрыканскіх стэпаў

– зьмяняюцца камбінаваным сугалосьсем гаммы жывёльных зыкаў. Іх пераймае неабмежны бушуючы сьвіст ветру. І ўсё гэта як быццам бы наэлiктрызавана, ляціць, імчыцца ў нейкай завірусе, у шалелым палёце. Слухач хутка захапляецца тэмпам і багацьцём музыкі, міжвольна паддаецца настрою і цалкам плыве па яе хвалях. Дысгарманічнасьць гіне і паўстаюць, сапраўды, цікавыя, заварожаныя аккорды нячуваных, адкульсьці вылоўленых і нанізаных у маніста дзіўнай мэлёдыі і тонаў, піскаў, гукаў, струнаў. Скрыпка, флейта, віоленчэль і інш. што прамілгалася ў ваччу – здаюцца нечым мізэрным, сумлівым і ў кожным разе не адказаваючым тэмпу сучаснага жыцьця, яго поўнасьці, набрынянасьці кветавым пахам, сонцам, раздольлем. І вось у моры гэтых зыкаў, якія зусім не бязмоцны перад тым, каб перадаць Лоэнгрына – пагоджана з імі ідуць балетныя ды акрабатычныя нумары чорных артыстых. /.../ І ня дзіва, што посьпех неграў – надзвычайны. /.../ Значныя воплескі праводзяць кожны нумар джаз-банда» (Цішка Гартны. Мастацтва чорных. // «Савецкая Беларусь», 1926, № 103, нядзеля, 9-га мая).

Пад вечар у Жылуновіча звычайна наступае супакойна-баладны настрой, поўны лагоднага сузірання і амаль будысцкай няспешнасці, які мы назіраем у вершы «Адвячоркам»:

Люблю сачыць, як дзень пагодлівы канае,
І шэрасьць лёгкая над горадам шумлівым
Памерна ў вуліцы глыбокія спадае,
А над мурамі вісьне дымам сівым.

/.../
Драты, што сеткамі крыжуюць вулкі, пляцы, –
Губляюць ніткі доўгія ў прысыценных ценях,
І пэнт нядаўны цяжкай творчай дзённай працы
Прымоўкне, стуліцца ў каменных цесных сценах...
/.../

*1924 г.*

Як гэтая паэзія перагукваецца з такой жа дзівоснай паэзіяй, але напісанай у прозе (апавяданне «Сьцены») Кузьмы Чорнага: «Перад змрокам ціхі і густы туман лёг над горадам. Глуха гулі ў ім вячэрнія вуліцы, і сьвет ад белых лямп падаў на вільготны камень. У гэты час дню пералом у бязупыннай клапатлівасці сутак; пачынаюцца новыя выяўленьні людзкіх патрэб і жаданьняў... /.../ Яшчэ рана. Не астыгла яшчэ пара ў чыгунных трубах, і толькі кагадзе прыціхла жалеза. Дым зьмяшаўся з туманам і растаў. І туман вее прасторамі...» (Узвышша 1927, № 1).

Уявіце, дзесьці ў Менску 20-х сядзяць сабе ў розных кавярнях Зміцер Жылуновіч і Кузьма Чорны. Вонкава два ідэйныя ворагі, якія быццам бы знаходзяцца на ідэалагічна розных пазіцыях, друкуюцца ў варожых адзін аднаму часопісах і разам з тым *аднолькава тонка*, *аднолькава музычна* адчуваюць гэты заўсёдна гіпнатычны пераход дня ў вечар, і ў гэты момант эмоцыі і настрой заслужанага пралетарскага пісьменніка і далёкага ад патрэб простага народа ўпадніцкага празаіка-“ўзвышаўца” утвараюць адно, гарманічнае непарушнае цэлае, пра што, аднак, ні Зміцер Жылуновіч, ні Кузьма Чорны, як вядома, не здагадваюцца.

Сучаснікі не заўважалі ў творчасці героя нашага артыкула яго незвычайную музычнасць, тонкае эстэцтва, лёгкасць і нават прытоеную эротыку.

Дзіцячае самалюбства пісьменніка, яго не заўсёды карэктныя (але бліскуча напісаныя і драматургічна-вострыя) артыкулы, накіраваныя супраць літаратараў суполак «Узвышша», «Маладняк», супраць Кнорына і беларускага тэатра, непрыкрытае жаданне падабацца і празмернае імкненне ўсюды, дзе магчыма, друкаваць сваё, яго рыфмаваныя дрындушкі, прысвечаныя рэвалюцыі, хавалі ад большасці сапраўднага Жылуновіча, які паводле сваёй творчай адметнасці не саступаў у таленце найлепшым прадстаўнікам таварыства «Узвышша».

Для многіх з нас Зміцер Жылуновіч занадта «рэвалюцыйны», «пафасна-ідэалагізаваны», «хваласпеўна-сацрэалістычны». Гэтае меркаванне можа змяніцца пасля прачытання  яго незвычайнага ў сваёй выразнай антысавецкасці змесце апавядання «Больш за ўсіх» (1923). Там расказваецца пра вясковага актывіста-бальшавіка Піліпа, чыя фанатычная адданасць ідэям рэвалюцыі прывяла да смерці бацькі (герой адправіў яго ў абоз, і бацька памёр у дарозе ад тыфусу), падкасіла здароўе маці, якую хворую, з болямі ў жываце, Піліп кідае сярод ночы, бо партыя даручыла яму новае заданне.

Страшнымі гучаць словы нямоглай адзінокай маці: «Хай бы ты, сынок, хоць часіну аддаў для мяне... /.../ А табе, як чужому, няма ні мацеры, ні дому. Гэта ж трэба так моцна ўесціся ў сваё бальшавіцтва. То ж свет мо не бачыў такіх шчырых і заўзятых служакаў, як ты. Няўжо табе трэба больш, як усім. Няўжо цябе царом зробяць, калі ты так будзеш старацца...»

З-за прывідных ідэй і бяздумнага служэння партыі, якая нічым не дапамагла сям'і Піліпа, па-сутнасці гіне яго сям'я, маральна гіне ён сам. Жах татальнага фанатызму, які незаўважна для мужнага, фізічна моцнага героя ператварае яго ў бязвольнага раба, паводле Змітра Жылуновіча з'яўляецца горшым ворагам, чым умоўныя белапалякі ці кайзераўскія немцы. Тое, пра што пазней з усёй экзістэнцыйнай выразнасцю пісаў Васіль Быкаў (і зрабіў асновай уласнай творчасці), упершыню так яўна і смела прагучала не ў свабодалюбівага Дубоўкі і яго ліберальна настроеных сяброў, а ў пралетарскага, партыйнага пісьменніка, палітыка і чыноўніка Змітра Жылуновіча – баяцца трэба не вонкавых ворагаў, а сваіх таварышаў, уласнай празмернай адданасці роднай партыі, якая прывядзе цябе, кажучы словамі Якуба Коласа, «у тупік», дзе «ні ценю спогадзі жывой», а пануе адно толькі маральны і фізічны нябыт.

Калі ў 1937 годзе Змітра Жылуновіча катавалі ў сталінскай турме, рабілі з яго вар'ята, ці ўспамінаў ён гэтае сваё такое страшнае і прарочае апавяданне?

У пачатку артыкула я з пэўнай доляй іроніі пісаў, што Жылуновіч быў вельмі крыўдлівы, бо лічыў, што яго не цэняць належным чынам. Цяпер, прачытаўшы многае з яго сапраўды незвычайнай паэзіі, прозы, публіцыстыкі, можна прызнаць – ён меў права на сваю крыўду.

Бо па-сапраўднаму пісьменнік Зміцер Жылуновіч не быў прачытаны ні пры сваім жыцці, ні цяпер.

Сучаснікі і нашчадкі, рэагуючы на вонкавае, ленаваліся заглыбіцца ў яго дзівоснае мастацтва, даваючы прадузятым крытычным выказванням Максіма Гарэцкага ці Уладзіміра Дубоўкі.

Беларусы вельмі паслухмяныя.

Яны вераць крытыкам, асабліва калі тыя каго-небудзь лаюць.

Ці варта заставацца такімі ж даверлівымі?

Леанід Галубовіч



…адкуль жа да гэтай пары бяруцца ў гэтых, здавалася б, дарэшты высушаных балотах беларускія паэты?..

# Прачнуцца дома

## *Развагі пра творчасць і новы зборнік вершаў Усевалада Сцебуракі*

***Усевалад Сцебурака. Сны дарог. – Мінск: Медысонт, 2017. – 64 с.***

*Калі ж паэтам хочаш быць,*
*у скронь пацалаваным*
*духам,*
*дык, Божа, збаў цябе забыць,*
*чыя ў вачах Купалы скруха.*

**Анатоль СЫС**

Калі пішаш пра сучасную паэзію, спрабуючы абстрагавацца ад ужо звычнай прагматычнай надзённасці, адчуваеш, што паступова губляеш усталяваныя грамадскія і сацыяльныя арыенціры і апынаешся ў свеце вобразнай экзотыкі. Тая экзотыка можа быць і традыцыйна-замшэлым мастацкім артэфактам, і *нана*прасунутай стылістычнай формай пісьма ці мыслення, і пафігісцкім сцёбам альбо правакацыяй, і – свят-свят! – адкрыццём, якому здзіўляецца і сам аўтар... Апошняе, на жаль, вялікая рэдкасць і нечаканасць, як для паэта, так і для




чытача. У гэтым плане – паэтычнага мастацкага здарэння і азарэння – сёння ў нашай літаратуры адназначна дамінуе жаночая паэзія (тут, як ні круці, а нейкім бокам дарэчныя да гэтай праявы і прыспелыя ў грамадстве выклікі фемінізму). Што праўда, найчасцей яна адстароненая ад надзённасці, аморфная, уся заглыбленая ўнутр, змайстраваная на медытацыях уласных пачуццяў ці на адцягнутых асацыяцыях набытага досведу і спасылках да ўласных перажыванняў на ўздыме непрадказальнага лёсу... Падкрэслю, гэта на мой суб'ектыўны погляд.

Але, як бы да таго не ставіцца, трэба прызнаць, што грузны воз літаратурнага працэсу цягнуць усё ж нястомна-працавітыя і дужа-нязломныя валы (магчыма, адсюль і *літаратурны вал*, у лепшым выпадку – творчы даробак і вершаваны плён). Тым, хто хоць якім чынам звязаны з мастацкай літаратурай, вядома, што ёсць паэты, якія *ствараюць* уласны вобразны свет, і тыя, што па-мастацку *адлюстроўваюць* гэты – зямны сярмяжны. Словам, ёсць тыя, што ўздымаюцца ў паднябессе, сягаюць, скажам так, да вышэйшых сфер мастацкага ўзрушэння, але, даў Бог, застаюцца і аўтары, што ахоўваюць і бароняць наш суровы зямны прытул. Па ўсім відаць, што Усевалад Сцебурака, вершаваная кніжка якога "Сны дарог" мною тут рэцэнзуецца, якраз з гэтых – найбольш укарэненых, надзейных і верных...

Ім сьніцца тая далячынь,
зь якой ў адмену ўсіх законаў,
без тлумачэньняў і прычын
нас цягне да сваіх загонаў

у шлях астатні – на спачын...

З-пад капытоў, з-пад ног і колаў
бягуць шляхі праз лёс і кон.
Вякоў спакон,
часоў здавён,
пад сонцам і мігценьнем зораў.

Наўрад ці падлягае аспрэчванню даўняя тэза, што ў сваёй большасці беларускія паэты – песімісты-самотнікі альбо, насуперак усяму, – нацыянальна зацятыя рытарычныя патрыёты, на скрайні выпадак, – мысляры-думаннікі ды лірыкі чыстай красы наастатку... Маладзейшая плынь сёння больш схільная да еўрапейскіх каштоўнасцяў, шукае сваю паэтычную адметнасць у розных *пост-ізмах* і вельмі рэдка адстойвае класічны традыцыйны канон. Пры чытанні новага зборніка У. Сцебуракі мяне не пакідала думка, што гэты паэт абраў не абходныя ці супрацьлеглыя шляхі ў пошуках мастацкай праўды жыцця, а сонечна-адценены *гасцінец* да сэрца Бацькаўшчыны. Як вычуваецца ў працэсе чытання, аўтар – па сваёй натуры і стылі пісьма – аптыміст, з іранічным стаўленнем да надзённага быцця, але, часам, праяўляе сябе як нечаканы і адметны лірык. Ён цвяроза і ўпэўнена стаіць на сваёй зямлі, адчувае пад сабой яе трывалую глебу, наследаваную ад нашых класікаў. Я сказаў бы, гэта беларус, творца нацыянальна свядомы і непапраўны.

"Нешта ня так" – гэта код ідэнтычнасьці.
"Хто там ідзе?" – наш нязьменны пароль.
Ўрэшце – нязначныя акалічнасьці
ды невымоўны фантомны боль.

Аднак вернемся да пачатку пакуль яшчэ не надта доўгага паэтычнага шляху У. Сцебуракі. Найбольш цэльным у мастацкім і чыста паэтычным вызначэнні для мяне з'яўляецца яго першы зборнік вершаў ("Крушня", 2007). Тут яшчэ ўсё маладое, чыстае, бязгрэшнае, наіўнае, сентыментальнае, пар*ы*ўнае... Ад яго сыходзіць давер і таямнічасць:

Як зерне ў Боскае сяўбе,
мы дзе расцём, дзе нікнем долу.
І кожны піша без дазволу
Евангеліе ад сябе...

І хоць наступная кніжка – "Бег па самаадчуванні" (2013) – не зрабіла такога цэльнага ўражання, але, прынамсі, захапіла разнастайнасцю стылістыкі, навізной формы, пошукамі літаратурнага накірунку і пэўнай тэматыкі... У згаданым выданні ёсць і выбраныя вершы (лепшыя на думку аўтара) з папярэдняга зборніка. Дарэчы, у рэцэнзаваны (трэці па ліку зборнік) увайшлі асобныя вершы з кніжкі "Бег па самаадчуванні". І гэта лепш, чым пладзіць чарговыя шараговыя публікацыі, як тое практыкуюць шмат якія нашыя аўтары. Сама кніжка ("Сны дарог", 2017) да таго ж выдадзена ў палепшаным, падарункавым варыянце, вельмі зграбная, з густам аформленая, амаль кішэннага, зручнага для чытання фармату, ды і па аб'ёме і змесце сваім сціслая і вартасная, без аднастайна-нудотнай рыфмаванай лішніцы. Выдрукавана тарашкевіцай. Адным словам, годнае выданне. Даволі адметнае ў сучаснай выдавецкай практыцы ("Медысонт"). Успомнілася з папярэдняга зборніка:

Я цьвёрда стаўлю мяккі знак
ва ўсіх належных словах!
Бяз знаку гэта аніяк
мая не можа мова!
..........................................
Баронім "Ё", кароцім "Ў",
трасянку робім моваю.
Звычайную
            маю
                  тваю
мы робім адмысловаю!"

Агулам, як чалавек, які сочыць за творчасцю паэта, магу сказаць сучаснай лексікай, што голас і стыль паэта *стабілізаваліся,* сталі раўнейшымі, больш пэўнымі, але і шмат у чым прадказальнымі. Мабыць, для самой паэзіі такі творчы стан не надта спадобны. Але ў практычнасці, майстравітасці, адладжанасці пісьма і стылю ці, як кажуць, набітасці рукі, гэта неабходная і прыдатная рэч для літаратурнай творчасці. Бо перш чым лётаць, трэба ўзгадаваць крылы.

І, гледзячы на постаць – і ў фізічным і ў духоўным плане – Усевалада Сцебуракі, усякія сумненні ў гатовасці яго да творчых узвышэнняў і ўзрушэнняў нейк адразу адпадаюць. Па ўсім, новы зборнік выявіў творчы патэнцыял паэта менавіта ў цяперашнім канкрэтным часе, што, здавалася б, для паэзіі не так істотна, а, можа, і ў чымсьці заганна, бо, як ведаем, яна (паэзія) рэч *бясч**а**савая* – у лепшых сваіх узорах прыналежная да панятку вечнага.

Дагарае ў каміне агонь
і маўклівы кастрычніцкі ранак
у халодную хукне далонь,
ад лісьця адмятаючы ганак.

Заўважна, што бальшыня вершаў зборніка пісаліся ў пэўныя надрыўныя моманты жыцця аўтара. Некаторыя з іх, трэба прызнаць, выпадковыя, як

выпадковая кожная неардынарная з'ява. Ёсць спробы паэтычнай арыгінальнасці, як удалыя, так і не вельмі. Вось, да прыкладу, аднастрофнік, які можна аднесці і да каламбурнасці:

Рыба пачынае з галавы.
Рыбу пачынае з галавы КОТ.
Раб пачынаецца з галавы.
Раба пачынае з галавы КАТ.

Лёгкія іранічныя, у нечым сцёбныя (а падчас фельетонныя) вершы У. Сцебуракі часцей за ўсё выкрываюць сучаснае карыкатурнае жыццё беларусаў і постсавецкія характэрныя вобразы электаральных насельнікаў краіны. Пэўна, такія тэксты падсвядома *разлічаныя* яшчэ і на іх публічную дэкламацыю ў часе літаратурных сустрэч ды на канкрэтную моладзевую тусоўку ("Байка, пачутая ля дому "пад шпілем", "Ў апошняй зямной сваёй хаце...", "Ёсьць навукаў у сьвеце нямала...", "НГ-рэквіем", "Гарадскі эцюд", "Фэйсбукавае", "У хлопчыка Толіка дзед быў таксістам...", "Маніфест", "Ня стала паэтаў..."). Але і тут трэба адзначыць адмысловы гумар і сарказм паэта, улічваючы, што ён, да таго ж, валодае дарэчным сучасным слэнгам, фальклорнымі народнымі выразамі і выслоўямі ("Вазьму і памру!"). Ды ўсё ж найчасцей лепшыя вершы паэта вызначаюць такія характэрныя рысы, як натуральнасць, настраёвасць, пачуццёвая эмацыянальнасць, імпульсіўнасць, ідэйная скіраванасць і роздумнасць, што, безумоўна, немагчыма без унутранай аўтарскай шчырасці і адпрыроднай сумленнасці. У. Сцебурака можа і ўмее выказаць праўду і не толькі мастацкую. Тое сцвярджае і яго нацыянальна-гістарычная памяць, калі пачуцці ў вершах праяўляюцца не на пустым месцы, калі яны не галаслоўныя, а свядомасна-фундаментальныя і актуальна-дзейныя (верш "Рэха 1863"):

Нас не пакрыюць нашымі сьцягамі,
нас адпяюць ня нашы сьвятары.

І следам – пацверджанне вышэй сказанага сучасным матывам з верша "Вербніца":

Вось і зноўку яна –
невымоўная лёгкасьць,
беларуская прага
да забыцьця,
беспадстаўных надзей
незьлічоная колькасьць
й недажытых
пачаткаў жыцьця.

Агулам грамадзянская і нацыянальна-патрыятычная пазіцыя паэта пазначана вельмі выразна, асабліва ў вершах на гарачыя і актуальныя тэмы нашага часу, такія як намаганні Украіны да поўнага вызвольвання з-пад расійскай апекі ("Украіна 2014" і "Перадсьвяточнае"): *"Мне хочацца на сьнежаньскі Майдан!"*

І супрацьлеглыя пачуцці адносна цяперашняй імперскай палітыкі Расіі, што выявіліся ў вершы "Разумець Расею":

Суседку з усходу імкнуся асіліць –
гляджу на абрысы вялікай Расіі.
Хілюся над картай,
ваджу па ёй мышкай –
Расея як зона
і Крэмль над ёй вышкай!

Даволі значную частку зборніка займае патрыятычная лірыка. Маю на ўвазе любоў да малой бацькаўшчыны, да каранёў, да самой прыроды вясковага чалавека-беларуса (“Лясныя людзі...”). Аўтар вельмі дасціпна і трапна акрэслівае характэрныя рысы нацыянальнага менталітэту – хісткасць, няспраўджанасць, недаробленасць і недасказанасць свайго жыцця. А да ўсяго – няпэўнасць і няўпэўненасць наконт уласнага месца на зямлі, сваёй самасці ў гэтым свеце (верш “Калі мы сьпім на сваіх падушках...”). Аднак пры ўсім і найперш, для паэта – здаровы натуральны рытм жыцця, адносная супастаўнасць рэальных і мастацкіх вобразаў і праяўленняў. Чалавек імкнецца наперад, але не да канца *шляху*, а да змроенай *яго* пэўнасці. І той шлях і складаюць (уліваюцца ў яго) сонмы і сны дарог – як асобнага чалавека, так і ўсяго чалавецтва. Зборнік, дарэчы, мае два раздзелы (лепш будзе сказаць, дзве часткі аднаго *прасцягу*) – “Вуліцы сталіцы” і “Сцяжыны правінцыі”).

Ў дзяцінстве,
стаўшы на парог,
як чорт панёс,
як Бог бярог?
На цьвердзі і на хвалях мораў
ўсе нашы крокі –
сны дарог.

Чытаеш, і твае пачуцці суправаджаюць жывая экспрэсія, музыка, рытм... Без усякага сумнення, для мяне У. Сцебурака, як чалавек і паэт, вельмі цэльны і гарманічны, і ў сваёй прыроднай паставе, і ў сваіх духоўных і грамадзянскіх вызначэннях і дзеях. З яго творчай натуры нічога лішняга і празмернага не вытыркаецца, апроч, хіб*а*, “ў” кароткага пасля зычных і на пачатку радкоў... хоць у большасці выпадкаў і гэтай х*і*бы можна было пазбегнуць...

Зрэшты, не будзем крытычна ўзвышацца на дробязях, лепш раздумаемся, чаму Усевалад, будучы ў добрым узросце (м*а*е 37 – *небяспечных* для паэзіі – гадоў), а ён ужо пераймаецца пачуццём страты не толькі пэўных людзей, але і айчынных краявідаў і здаровага ладу грамадскага жыцця ўвогуле, як у вершы “Сьнежаньскае” (вядома, не без падтэксту):

Каб не нагналі па сьлядах
ні боль, ні страх.
Каб меў надзею чалавек,
як сыдзе сьнег.

Між іншым, добрая нагода заўважыць, што ў зборніку вельмі шмат вершаў менавіта снежна-зімовых. Чысціня, бель і марозна-шчымлівае паветра дораць аўтару (а ён – чытачам) непаўторныя хвіліны паэтычнага натхнення... І гэта вызначае стыль яго творчасці і жыцця.

Сонечны марозны ранак:
задубеў каменны ганак,
зьмерз на ветраніку цмок,
стынуць клямка і замок.
У ставочках лёг лядок,
ў гольлі дрэваў халадок.
Пасівелі дахі,
адляцелі птахі.
Ўклаўся шэрань на мурог –
лістапад стаў на парог.

Тут можна ўпамянуць і адну з галоўных удач паэта – лірыку чыстай красы. Адназначна, вершы з гэтага шэрагу адны з найлепшых у зборніку (“Туманы над

Вялейкай і Будславам...", "Жнівень", "Восень – бурштын і мёд...", "На лецішчы", "Дагарае ў каміне агонь..."). Да іх варта дадаць і вершы, прысвечаныя сабаку, якія займаюць не толькі ладную частку зборніка, але і спагадлівы абсяг душы самога паэта:

У сабачым брэху
трошкі ёсьць ад сьмеху,
трошкі ад самоты,
трошкі ад нуды.
Непадробна шчырае
прывітаньне рэху
і адбітку месяца
ў місачцы вады.

Любоў паэта да прыроды і жывёльнага свету характарызуе і самую яго душэўную і духоўна асветленую асобу. Як супрацьпастаўленне гэтаму, ёсць у зборніку і сучасныя матывы: чалавек у палоне новых тэхналогій, страта жывога натуральнага працэсу і запалоньванне людзей штучнай прасунутасцю... Балазе, паэт на гэтым не акцэнтуе чытацкую ўвагу. Таму хочацца адзначыць цудоўны пераклад з англійскай мовы балады "Дом, у якім гаспадарыць Джэк", а таксама цыкл рэфрэнных бардаўскіх матываў ("На захадзе ад Радашковічаў...", "Я вулкамі прайдуся па лісьці...", "Чыгуначны рок-н-рол").

На захадзе ад Радашковічаў –
мае крыжы і магілы.
На захадзе ад Радашковічаў –
за сьпінай мацнеюць крылы.
..............................................
На захадзе ад Радашковічаў –
мне больш зразумелыя людзі.
На захадзе ад Радашковічаў –
яшчэ можа што і будзе.

Напэўна, сённяшняя антынацыянальная ўлада і праімперская ўлада з усходняга боку нашай мяжы не могуць даўмецца, адкуль жа да гэтай пары бяруцца ў гэтых, здавалася б, дарэшты высушаных балотах беларускія паэты?! Ну не нараджаюць жа іх абязмоўленыя і ўсё яшчэ прасавецкія электаральныя жанчыны! Няйначай, бела-чырвоныя буслы прыносяць іх у капусныя грады! Зрэшты, многія з гэтых паэтаў маглі б апраўдацца такімі словамі Усевалада Сцебуракі:

Гэта можна і не заўважыць,
але мова ў табе прарастае,
камяком пад кадык падступае,
каб аднойчы
нарэшце
сказаць!

**Што** і **як** – іншая справа. Але не паціраўце рукі, таварышы, усё будзе сказана на карысць туташняга – спрадвечнага і крэўнага. Не без боскага промыслу, вядома...

# Колеры

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Свэн Нурдквіст. Мітусня ў агародзе / пер. са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 26). – 26 с.**

**Свэн Нурдквіст. Час пеўня / пер. са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 27). – 26 с.**




Героі Свэна Нурдквіста загаварылі па-беларуску дзякуючы феі-перакладчыцы Надзеі Кандрусевіч – і цяпер практычна ўсе вядомыя казкі пра дзядка і коціка даступныя на нашай мове.

У 1983 годзе Свэн Нурдквіст перамог у конкурсе выдавецтва "Opal" на лепшую праілюстраваную кнігу. У кнізе "Блінны торт" чытачы ўпершыню пазнаёміліся са старым, якога завуць Пэтсан, і яго коцікам Фіндусам, якія пазней сталі героямі цэлай серыі.

У кнізе "Час пеўня" маленькія чытачы даведаюцца гісторыю з'яўлення на падворку Пэтсана новага жыхара – пеўня Юсі, а таксама пра тое, чаму пеўні гучна кукарэкаюць і як наладзіць сяброўства паміж птушкамі і коцікам. Казка "Мітусня ў агародзе" распавядае пра тое, як стары Пэтсан і коцік Фіндус увесну вырашылі пасадзіць гародніну – бульбу і моркву, гарох і фасолю, а таксама... катлеткі (гэта была цудоўная ідэя коціка) – і што з гэтага ў выніку атрымалася.

**Ірына Ляшкевіч. Вас я чакала. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 107). – 124 с.**




У сваіх вершах Ірына Ляшкевіч фіксуе моманты прыгожага, праявы Боскага ў паўсядзённых вясковых выявах і сюжэтах. У побытавых, на першы погляд, сітуацыях, у штодзённых з'явах бачацца глыбіня пачуццяў і повязь лірычнай гераіні з універсумам прыроды, а таксама спробы зазірнуць у "залюстроўе" жыцця.

*Вас я чакала, пэўна, Вас...*
*Калі апошні промень згас*
*Малінавага дня.*
*А шаты неба нада мной*
*І вечар сіняю сцяной —*
*Найблізкая радня.*

*Вам я шаптала, пэўна, Вам*
*Кахання словы, а багам –*
*Малітвы ўдзячнасці.*
*Там сцежка вузкая ў траве,*
*І вэлюмам туман плыве,*
*Хвіліны шчаснасці...*

Сентыментальнасць, настальгія, рамантыка родных краявідаў, успаміны дзяцінства – многае з гэтага можа стаць блізкім любому чалавеку, які возьме ў рукі новую кнігу Ірыны Ляшкевіч. У гэтым зборніку ёсць тое, чаго ў сучасным, стоадсоткава аблічбаваным свеце не хапае: сонечныя промні, пахі кветак, шамаценне лістоты і траваў, свежае паветра, цурчэнне крынічнай вады, стрэхі драўляных хат, на якіх гняздуюць буслы. І гэта ўсё – проста, ясна, натуральна, гэта нашае роднае, сваё. І калі ў чытача няма магчымасці зараз жа кінуць усе гарадскія справы і выбрацца на прыроду, то ён можа атрымаць сваю порцыю добрых пачуццяў, адгарнуўшы старонкі зборніка «Вас я чакала».

**Пётра Мурзёнак. Колеры. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 188 с.**




Гэты паэтычны зборнік вядомага дзеяча беларускага замежжа ў Канадзе Пётры Мурзёнка – творчы плён аўтара за апошнія пяць гадоў. Зборнік складаецца ў асноўным з вершаў, створаных у Атаве (Канада), але асобныя раздзелы ўтрымліваюць таксама і падарожную паэзію з «іспанскага» і «дамініканскага» дзённікаў. Творца верыць, што прыгажосць у выглядзе паэзіі здольная выратаваць свет. Пасля выхаду «Колераў» кожны мае мажлівасць таксама ў гэтым пераканацца.

**Як укладалі «Спадчыну»: Да 135-годдзя ад нараджэння і 75-годдзя смерці Янкі Купалы / Уклад., падрыхтоўка тэкстаў, уступ. слова, агульнае рэдагаванне Наталлі Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча; камент. Наталлі Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 35). – 290 с.**




Гэтая кніга – трэцяя ў падсерыі «Спадчына: агледзіны» серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» ЗБС «Бацькаўшчына» – уяўляе з сябе заснаваны на ліставанні аповед пра тое, як у 1950-я гады на Захадзе рыхтаваўся збор выбранай паэзіі Янкі Купалы. Захаваная ў архіве БІНіМа і перададзеная ў БДАМЛМ карэспандэнцыя ўкладальніка Вітаўта Тумаша і выдаўца Станіслава Станкевіча расказвае пра час і людзей, а таксама пра тыя складанасці, якія мусілі пераадолець эмігранты, каб у 1955 годзе ў Мюнхене ўбачыла свет унікальнае выданне твораў класіка. Як адзначаюць укладальнікі, гэта першая беларуская кніга пра кнігу.

# Нашыя аўтары

**Акудовіч Валянцін** — філосаф, эсэіст. Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Код адсутнасці». Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра (Прэмія імя Алеся Адамовіча) (2001), літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2007), прэміі «Залатая літара» (2012). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Алешка Таццяна** – філолаг, літаратуразнаўца, крытык. Спецыяліст па рускай літаратуры XX ст., сучаснай рускай і беларускай паэзіі. Выкладае ў БДУ. Аўтарка манаграфіі «Творчество Беллы Ахмадулиной в контексте традиций русской поэзии», некалькіх навучальных дапаможнікаў па рускай літаратуры і шматлікіх артыкулаў па паэзіі XX-XXI ст., якія публікаваліся ў літаратурных і акадэмічных выданнях. Жыве ў Мінску.

**Астрэйка Сяргей** – паэт, перакладчык. Друкаваць вершы пачаў у 1928 годзе. З 1932 года – навуковы супрацоўнік Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва Беларускай акадэміі навук. У 1933 годзе быў арыштаваны органамі ДПУ БССР па справе «Беларускай Народнай Грамады» і сасланы ў г. Ірбіт Свярдлоўскай вобласці. У ссылцы зрабіў пераклад «Яўгенія Анегіна» А. Пушкіна (рукапіс не збярогся). 13 верасня 1937 года вынесены смяротны прысуд, на наступны дзень прысуд прыведзены ў выкананне. Нарадзіўся ў 1913 годзе ў вёсцы Каласоўшчына на Случчыне.

**Багдановіч Ірына** — паэтка, крытык, літаратуразнаўца, перакладчык. Аўтарка кніг вершаў «Чаравікі маленства», «Фрэскі», «Вялікдзень», «Сармацкі альбом», «Прыватныя рымляне», манаграфій «Янка Купала і рамантызм», «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння». Нарадзілася ў 1956 годзе ў Лідзе. Жыве ў Мінску.

**Бадзей Марыя** – паэтка. Выпускніца Беларускага калегіўма аддзялення «Філасофія і літаратура», Школы маладога пісьменніка. Нарадзілася ў 1997 годзе ў Ваўкавыску. Жыве ў Мінску.

**Бычкоўскі Алесь** – празаік. Аўтар кніг «Анамалія», «У пошуку шчасця». Нарадзіўся ў 1975 годзе ў горадзе Беразіно на Міншчыне, дзе і жыве.

**Гайлевіч Галіна (Ядвіга Самко)** – паэтка, перакладчыца. Аднакурсніца Э. Агняцвет, С. Шушкевіча, В. Маракова. Нарадзілася ў 1912 годзе ў Мінску. Памерла ў 1987 годзе.

**Галубовіч Леанід** — паэт, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2013). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гіль (Гілевіч) Мікола** — паэт, празаік, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг прозы і публіцыстыкі «Ранішнія сны», «Пуд жыта», «Ёсць на зямлі крыніца», «Тэлеграма з Кавалевіч», «Пасеянае – узыдзе», «Камандзіроўка ў Вішанькі», «Кім і Валерыя» і інш., кнігі вершаў «Неадступнасць». Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Васіль** – драматург, эсэіст. Творы друкаваліся ў газеце «Літаратурная Беларусь», часопісах «Дзеяслоў», «Тэксты», «Верасень». На сцэне Нацыянальнага драматычнага тэатра імя М. Горкага ідзе спектакль, пастаўлены па яго п'есе «Пясняр», прысвечаны У. Мулявіну. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Дубавец Сяргей** — празаік, крытык, публіцыст, выдавец. Аўтар кніг «Практыкаванні», «Дзённік прыватнага чалавека», «Русская книга», «Вострая Брама», «Вершы», «Як? Азбука паводзінаў», «Сіні карабель у блакітным моры плыве» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2015). Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мазыры. Жыве ў Мінску.

**Жаўняровіч Пятро** – паэт, перакладчык, даследчык тэорыі і практыкі рэдагавання. Аўтар манаграфіі «Публіцыстычны дыскурс Уладзіміра Караткевіча», «Даведніка па літаратурнай праўцы» і інш. Пераклаў на беларускую мову раман «Браты Карамазавы» Ф. Дастаеўскага, вершы А. Талстога, на рускую – раманы, аповесці і вершы У. Караткевіча. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Азярэц на Вілейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Жыбуль Віктар** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калі ў хаце дыверсант», «Рогі гор», «Прыкры крык», «Дыяфрагма», «Стапеліі», «Дзяцел і дупло» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2011). Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Запруднік Янка (Вільчыцкі Сяргей)** – гісторык, палітолаг, грамадскі дзеяч. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1947 годзе. Быў супрацоўнікам і рэдактарам шматлікіх выданняў беларускай эміграцыі. Аўтар дакументальнай аповесці «Дванаццатка». Сярод асноўных працаў – «Беларусь на гістарычных скрыжаваннях», «Гістарычны слоўнік Беларусі», «Палітычнае змаганне за Беларусь у царскіх Дзяржаўных думах (1906—1917 гг.)» і інш. Нарадзіўся ў 1926 годзе мястэчку Мір на Карэліччыне. Жыве ў Самерсэце (Нью-Джэрсі, ЗША).

**Запрудскі Ігар** – літаратуразнаўца, крытык. Аўтар кніг «Нарысы гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя», «Па дарозе на Парнас. Атрыбуцыйныя даследаванні і пытанні рэцэпцыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя», «Метафізіка беларускай літаратурнай крытыкі: артыкулы, нататкі, рэцэнзіі, водгукі», «Гісторыя беларускай літаратуры другой паловы XIX стагоддзя: асобы і творчыя лёсы». Нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Калініна на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Зізюк Міхась** – празаік. Аўтар кніг «Пропавшая свадьба», «Зелянее рунь», «Храм его души», «Оракулы междуречья», «Планктон». Нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Лучыцы на Петрыкаўшчыне. Жыве ў Навагрудку.

**Івашчанка Анатоль** — паэт, празаік, літаратуразнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Вершnick» і «Хай так», манаграфіі «Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй», кнігі прозы «Анаталогія». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Левановіч Леанід** – празаік. Аўтар кніг нарысаў «Гаспадар зямлі», «Зялёны трохкутнік», «Вяртанне ў радыяцыю», прозы «Мадонна з кветкаю», «Якар надзеі», «Шчыглы», «Дзікая ружа», «Сіняе лета», публіцыстыкі «Хлеб і мужнасць» і інш. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1999). Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Клеявічы на Магілёўшчыне. Жыве ў вёсцы Пятрылава на Вілейшчыне.

**Несцярэнка Юрась** – празаік, музыкант. Стваральнік гуртоў «White Night Blues» і «Nestary Band». Аўтар кнігі прозы «Звычайны шоу-бізнес», зборніка краязнаўчых нарысаў «Маё мястэчка ў часе і прасторы». Нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Прыбар на Быхаўшчыне. Жыве ў Бялынічах.

**Отчык Глеб** – мастак. З 1997 года ўдзельнічае ў міжнародных, рэспубліканскіх і рэгіянальных мастацкіх выстаў. Дыпламант шматлікіх міжнародных сімпозіўмаў і пленэраў. Творы знаходзяцца ў калекцыях гістарычных музееў Турава і Мазыра, Гомельскай абласной бібліятэкі, у прыватных калекцыях дзясятка краін. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

**Рублеўская Людміла** — паэтка, празаік, крытык, эсэістка. Аўтарка кніг паэзіі «Крокі па старых лесвіцах», «Адукацыя», «Замак месячнага сяйва», «З'яўленне інфанты», прозы «Старасвецкія міфы горада Б*», «Сэрца мармуровага анёла», «Пярсцёнак апошняга імператара», «Шыпшына для пані», «Сутарэнні Ромула», «Ночы на Плябанскіх млынах», «Дагератып» і інш. Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф» (2004), прэміі імя Ф. Багушэвіча (2011). Нарадзілася ў 1965 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Рэмбо Арцюр** — французскі паэт. Адзін з пачынальнікаў сімвалізму. Усе свае шэдэўры стварыў у 15-19 гадоў, потым кінуў пісаць. Яго творы на беларускую мову перакладалі Р. Барадулін, А. Мінкін, Я. Семяжон, М. Федзюковіч і інш. Нарадзіўся ў 1854 годзе ў Шарлевіле (Францыя). Памёр у 1891 годзе.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Нататкі таткі», «Цягнік Чыкага-Токіё» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2007), прэміі імя Карласа Шэрмана (2017). Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Чыгрын Сяргей** — паэт, перакладчык, журналіст, краязнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Шчырая Шчара», «Горад без цябе», «Камень Міндоўга» і інш., зборнікаў публіцыстыкі «Пакліканыя на родны парог», «Беларуская Беласточчына», «Тэатр у Слоніме». Аўтар шматлікіх артыкулаў з даследаваннямі жыццёвага і творчага шляху дзеячаў беларускай літаратуры, гісторыі і культуры. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

